# КАНФЕСІІ НА БЕЛАРУСІ

## (канец XVIII — XX ст.)

Навуковы рэдактар
доктар гістарычных навук
У. І. Навіцкі

Мінск ВП "Экаперспектыва" 1998

УДК 2 (476)„17/19"
ББК 86.3(4Беи)
К 19

Рэцэнзент:
Загадчык кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдат гістарычных навук П. А. Лойка

Аўтары:
В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава

**Канфесіі на Беларусі (к. XVIII — XX ст.)** /
К 19 В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава; Навук. рэд. У. І. Навіцкі. — Мн.: ВП "Экаперспектыва", 1998. — 340 с.

ISBN 985-6102-17-0.

Аналізуюцца змены ў канфесіянальным становішчы Беларусі з канца XVIII ст. да сённяшняга дня. На падставе багатага матэрыялу, прац рускіх, польскіх, беларускіх даследчыкаў, выдадзеных у XIX — XX стст., аўтары імкнуліся праўдзіва паказаць нялёгкі гістарычны шлях розных канфесій, іх узаемаадносіны, уплыў на стан грамадства.

Для навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, усіх, хто цікавіцца гісторыяй нашай Бацькаўшчыны.

**УДК 2 (476)„17/19"**
**ББК 86.3(4Беи)**

**ISBN 985-6102-17-0** 

# ПРАДМОВА

Ідэалагічныя догмы, што панавалі ў савецкім грамадстве ў адносінах да рэлігіі, абумовілі спрошчаны падыход да асвятлення канфесіянальнай гісторыі, яе ролі ў развіцці гістарычнага працэсу на Беларусі. Усё здавалася вельмі простым: паколькі рэлігія — гэта “опіум для народа”, царква магла адыгрываць толькі адмоўную ролю ў яго гісторыі. І толькі зараз мы пачынаем разумець, што і праваслаўная царква, і каталіцкі касцёл мелі вельмі вялікае значэнне ў гісторыі беларускага народа і што без вывучэння розных канфесій немагчыма намаляваць аб’ектыўную гістарычную карціну.

Канфесіянальная гісторыя Беларусі складаная і шматгранная. З X ст. на этнічна-беларускіх землях пачало распаўсюджвацца грэка-праваслаўнае хрысціянства, якое заставалася традыцыйнай рэлігіяй асноўнай масы беларускага насельніцтва на працягу некалькіх стагоддзяў. Праваслаўная царква ў пэўнай ступені была інтэгрыравана ў грамадска-палітычную структуру Вялікага княства Літоўскага, карысталася там прывілеямі і аказвала духоўны, сацыяльна-эканамічны і палітычны ўплыў на насельніцтва.

Час пранікнення каталіцтва на тэрыторыю Беларусі звычайна датуюць 1385 г. (Крэўская унія, абавязацельствы Ягайлы прыняць каталіцтва з усім народам княства Літоўскага). Як сцвярджаюць гісторыкі, гэтым падзеям папярэджваў этап з сярэдзіны XIII ст., калі разнастайныя сілы (Лівонскі ордэн, Рыжскае архіепіскапства, Польскае каралеўства) імкнуліся, праўда беспаспяхова, насадзіць каталіцтва ў Вялікім княстве Літоўскім. Адносіны паміж гэтымі дзвюма хрысціянскімі канфесіямі залежалі ад палітычных варункаў у той ці іншы час, адлюстроўвалі супрацьстаянне Усходу і Захаду, іх планы і прэтэнзіі на беларускіх землях.

Пераход тэрыторыі Беларусі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.), дзе пануючым веравызнаннем было каталіцтва, да Расіі, у якой вяршэнствавала праваслаўе, абвастрыў міжканфесіянальныя адносіны, што прывяло да ліквідацыі уніяцкай царквы ў 1839 г.

Канфесіянальная гісторыя Беларусі XIX ст. адлюстроўвала ўсе тыя супярэчнасці і праблемы, якія былі характэрныя для развіцця грамадства ў цэлым. Гэта быў час, калі адны канфесіі паступова страчвалі сваю магутнасць і ўплывовасць на жыхароў беларускіх губерняў, другія, наадварот, набіралі моц, трэція зыходзілі ў нябыт. Акрамя праваслаўнай, каталіцкай і уніяцкай канфесій на развіццё гістарычнага працэсу пэўны ўплыў аказвалі і тыя, што існавалі ў гэты час на Беларусі: стараверства, пратэстанцтва (евангеліка-рэфармацкая і евангеліка-лютэранская канфесіі), іслам, іудаізм.

Рэлігійная стракатасць насельніцтва Беларусі, варожыя адносіны паміж духавенствам розных канфесій давалі магчымасць уладам выкарыстоўваць сітуацыю ў сваіх мэтах. Барацьба паміж канфесіямі (галоўным чынам паміж каталіцкай і праваслаўнай), якая то затухала, то зноў абвастралася, ішла на працягу XIX — пачатку XX ст. І толькі падзеі 1905 — 1907 гг. крыху аслабілі яе. Што датычыць больш малалікіх канфесій, дык яны ў большасці сваёй імкнуліся быць убаку ад гэтай барацьбы, хаця цалкам адысці ад падзей не заўсёды ўдавалася.

Нягледзячы на мэтазгоднасць вывучэння канфесіянальнай гісторыі, такога падзелу ў гістарыяграфіі Беларусі савецкага перыяду не існавала. Зразумела, нельга сцвярджаць, што роля рэлігіі ў гістарычным жыцці Беларусі зусім не з'яўлялася аб'ектам даследавання гісторыкаў. І хаця спецыяльных работ па тэме было вельмі мала, не лічачы атэістычнай літаратуры, у некаторых працах па гісторыі Беларусі пытанні гісторыі канфесій не заўсёды ўдавалася абмінуць.

Значна больш увагі гісторыі царквы ўдзялялася гісторыкамі і краязнаўцамі ў дарэвалюцыйны час. І тут трэба мець на ўвазе, што не ўсе перыяды і не ўсе канфесіі станавіліся аб'ектамі даследаванняў ў роўнай ступені. І калі становішчу праваслаўнай царквы ў XIV — XVI стст. прысвечана даволі многа даследаванняў, то больш позняму перыяду, у прыватнасці 60-м гг. XIX — пачатку XX ст., — значна менш.

Абапіраючыся на фактаграфічны матэрыял, які змяшчаецца ў працах расійскіх, польскіх, беларускіх аўтараў, перыядычным друку, і крытычна яго ацэньваючы, вывучаючы архіўныя дакументы па праблеме, аўтары імкнуліся дасканала і па-магчымасці аб'ектыўна разгледзець канфесіянальную гісторыю Беларусі канца XVIII — XX стст.

Магчыма, аўтарам удалося не ўсё, але мы спадзяемся, што гэтае даследаванне дапаможа чытачу разабрацца ў лабірынце гістарычных падзей, скласці сваё ўражанне аб іх, заснаванае не на палітычных амбіцыях, а на канкрэтных гістарычных фактах.

# ГЛАВА 1

# ХРЫСЦІЯНСКІЯ КАНФЕСІІ ПАСЛЯ ДАЛУЧЭННЯ БЕЛАРУСІ ДА РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (1772 — 1860)

## 1.1. УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА І ПОЛАЦКІ САБОР 1839 г.

У канцы XVIII ст. на тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага пражывала, па падліках літоўскіх даследчыкаў, прыблізна 39 % уніятаў (ад агульнай колькасці насельніцтва), 38 % — каталікоў, 6,5 % — праваслаўных, 4 % — стараевераў, 1,6 % — пратэстантаў (лютэран і кальвіністаў) і інш. Канфесійнае становішча тэрыторыі характарызавалася змешанымі шлюбамі і ў сувязі з гэтым пераходамі з адной канфесіі ў другую. Самым шматканфесійным было беларускае насельніцтва. Сярод яго былі каталікі, уніяты, праваслаўныя, кальвіністы (або рэфарматы) і нават невялікая колькасць стараевераў. Багатая і сярэдняя частка шляхты была каталіцкай. Асноўная ж частка беларусаў (бедная засцянковая шляхта, мяшчане і сяляне) належала да уніяцкай канфесіі. Сярод сельскага насельніцтва уніятаў было каля 80 % [1. С. 60, 66].

У 1772 г., перад першым падзелам Рэчы Паспалітай, на яе тэрыторыі было восем уніяцкіх дыяцэзій (епархій). Уніяцкія цэрквы Вялікага княства Літоўскага ўваходзілі ў склад мітрапаліцкай Кіеўска-Віленскай, Пінскай і Полацкай дыяцэзій. У 1772 г. у Кіеўска-Віленскай дыяцэзіі было каля 1 804 388 прыхаджан і 2490 парафій (прыходаў); у Полацкай — адпаведна 765 154 і 598, Пінскай — 85 103 і 238 [2. Т. 19. С. 119].

На далучанай у 1772 г. да Расійскай імперыі тэрыторыі Беларусі царскі ўрад дазволіў дзейнасць усіх канфесій. Уніяцтва з'явілася новай для імперыі канфесіяй, аб якой расійскаму грамадству было мала што вядома. Уніяты, як і каталікі, былі падпарадкаваны Папе рымскаму, і таму царскі ўрад глядзеў на іх як на блізкія веравызнанні. Гэта было відаць з першых указаў, якімі Кацярына II жада-

ла падпарадкаваць сабе як каталіцкую, так і уніяцкую іерархію.

Ва ўказе ад 16 жніўня 1772 г. яна падкрэслівала, што вышэйшае і ніжэйшае духавенства ўсіх веравызнанняў павінна прынесці прысягу на вернасць імператрыцы. 24 верасня Полацкі уніяцкі архіепіскап Ясон Юноша Смагаржэўскі аб'явіў аб гэтым сваёй пастве. А папярэдне, 15 верасня, ён прысягнуў сам. 14 снежня 1772 г. Кацярына II пацвердзіла, што Смагаржэўскі застаецца Полацкім уніяцкім архіепіскапам, яму пакідаецца тое ж утрыманне, якое ён меў раней, і што "каталіцкая і уніяцкая цэрквы ў разважаннях іх веры пакідаюцца пры сваіх дагматах і правілах" [2. Т. 19. С. 688; 3. С. 953, 273]. Тым не менш уніяцкая царква пастаянна адчувала прысутнасць дзвюх іншых хрысціянскіх канфесій. З аднаго боку, значную падтрымку атрымала праваслаўе, пануючае веравызнанне ў Расійскай імперыі. У сувязі з гэтым Беларускі праваслаўны епіскап Георгій (Каніскі) ужо 9 кастрычніка 1772 г. паведамляў Св.Сіноду, што уніяцкія свяшчэннікі і цэлыя прыходы просяць прыняць іх у праваслаўе. За 1772 — 1775 гг. у яго сабралося 35 такіх прашэнняў. З другога — каталіцкі епіскап С.Богуш-Сестранцэвіч імкнуўся падпарадкаваць сабе уніятаў і перавесці ў каталіцтва базільян (манахаў адзінага уніяцкага ордэна). І гэта нягледзячы на тое, што 16 ліпеня 1774 г. быў адноўлены дэкрэт Папы Урбана VIII аб забароне уніятам пераходзіць у каталіцтва ў абласцях, якія адышлі ад Расіі [3. Т. 20. С. 123, 127, 201; 3. С. 311].

Полацкі уніяцкі архіепіскап Ясон Смагаржэўскі нядоўга заставаўся на сваёй пасадзе. Калі ён згадзіўся на прапанову караля Станіслава Аўгуста стаць мітрапалітам Рэчы Паспалітай, а яго ўладу над уніятамі прызнаў і ўрад Аўстра-Венгерскай імперыі, Кацярына II звольніла яго з пасады, загадаўшы пры гэтым не ўмешвацца ў духоўныя справы імперыі.

2 ліпеня 1780 г. быў выдадзены ўказ аб заснаванні кансісторыі для кіравання уніяцкімі цэрквамі ў Полацкім і Магілёўскім намесніцтвах. У яе склад увайшлі базільяне: правінцыял Беларускай базільянскай правінцыі Міляноўскі, ігумены кляштараў: Полацкага — Жаба, Пустынскага — Кірыят і Ануфрыеўскага — Лісоўскі, які ў 1785 г. стаў полацкім архіепіскапам [4. Т. 19. С.189, 203; 2. С. 953].

Пачаўся перавод уніятаў у праваслаўе. У 1781 г. Беларускі праваслаўны епіскап Георгій паведаміў аб далучэнні да праваслаўя звыш 85 тыс. прыхаджан. Папа рымскі напісаў Ка-

цярыне II пісьмо, у якім выступіў у абарону уніяцкай царквы на Беларусі. У пачатку лютага 1781 г. папскі нунцый у Варшаве атрымаў адказ Кацярыны II, з якога выцякала, што для таго, каб выратаваць унію, Папа рымскі павінен стаць паслухмяным выканаўцам волі расійскай імператрыцы [4. С. 205, 206, 213 — 215].

22 красавіка 1794 г. быў прыняты ўказ аб ліквідацыі ўсялякіх перашкод для вяртання уніятаў у праваслаўную веру. Да яго была дададзена пастарская грамата Мінскага, Ізяслаўскага і Браслаўскага праваслаўнага архіепіскапа Віктара (Садкоўскага) да уніятаў. У ім, як і ва ўказе ад 17 мая, Кацярына II падкрэслівала, каб ніхто з духоўных або свецкіх іх іншаверных "у самім вяртанні да праваслаўя перашкод рабіць не адважыўся" [2. Т. 23. С. 509 — 512].

Супраціўленне пераводу з уніяцтва ў праваслаўе аказвала не толькі уніяцкае духавенства, але і вернікі. У 1795 г. пачаліся хваляванні. У м. Любавічы Аршанскага павета адбыўся бунт [5. С. 24, 25]. У в. Нача (Барысаўскі павет) 23 чэрвеня 1795 г. прыехала камісія ў складзе прыстава Барысаўскай акругі І. Цісава, двух праваслаўных святароў і некалькіх жандармаў. Яны пачалі праводзіць агітацыю сярод уніяцкіх прыхаджан. Тыя падалі камісіі заяву аб сваім жаданні перайсці ў праваслаўе. Але святар А.Самовіч адмовіўся ад гэтага і працягваў адпраўляць службу ў засценку шляхціца Юроцкага, у гумне. Назначаны ў прыход праваслаўны святар Т. Міранові паскардзіўся барысаўскаму павятоваму страпчаму, і было пачата следства. Земскаму суду паведамілі, што прыхаджане не жадаюць пераходзіць у праваслаўе, пакуль да яго не будуць далучаны іншыя уніяцкія прыходы [6. С. 133, 135, 137 — 139, 148 — 149].

Уніяцкія святары, застаўшыся без храмаў, не аддавалі каштоўныя рэчы з іх. Некаторыя праводзілі службу ў каталіцкіх капліцах або ў сваіх былых царквах, нягледзячы на тое, што яны былі ўжо асвечаны праваслаўнымі святарамі. Так, напрыклад, адбывалася з прыняўшымі праваслаўе прыхаджанамі Забельшчынскай царквы, у якой уніяцкі святар К. Стратановіч працягваў весці службу. Беларускі генерал-губернатар П. Б. Пасек 3 красавіка 1795 г. загадаў Полацкаму і Магілёўскаму намесніцкім праўленням, каб уніяцкаму духавенству, якое засталося без прыходаў, было забаронена жыць у тых жа месцах. Склалася цяжкае становішча, бо уніяцкія святары былі цесна звязаны са сваімі прыходамі, якія часта пераходзілі па спадчыне. Таму

некаторыя з іх вымушаны былі змяняць сваю веру разам з прыхаджанамі.

Указам ад 6 верасня 1795 г. уніяцкаму духавенству, якое страціла свае прыходы, дазваляўся выезд за мяжу, а тым, хто заставаўся, выдзялялася пенсія ў памеры ад 50 да 100 руб. на ўтрыманне сям'і [5. С. 28, 29].

Але ў гэты час узмацніўся ўплыў каталіцкай царквы на уніятаў. У 1801 г., па справе аб пераходзе ў каталіцтва веліжскіх уніятаў, Пецярбургская рымска-каталіцкая духоўная калегія зацвердзіла рашэнне Магілёўскай каталіцкай кансісторыі, згодна з якім веліжскія прыхаджане, якія перайшлі з уніі, заставаліся ў каталіцтве. Старшыня рымска-каталіцкай духоўнай калегіі епіскап Я.Беніслаўскі 15 сакавіка 1801 г. унёс прапанову аб дазволе уніятам пераходзіць у каталіцтва. У 1802 г. паміж уніятамі былі распаўсюджаны чуткі аб нібыта найвышэйшым указе ад 16 лістапада 1801 г., сэнс якога быў наступны: або яны пераходзяць у каталіцтва, або будуць пераведзены ў праваслаўе. Па руках хадзіў ліст папскага нунцыя Літты, які быццам бы дазваляў уніятам пераходзіць у каталіцтва [5. С. 62, 68, 70].

У 1803 г. у Полацкай уніяцкай епархіі ў каталіцтва перайшло каля 100 тыс. прыхаджан. У сувязі з гэтым Аляксандр I 4 ліпеня ўказваў Беларускаму ваеннаму губернатару І.Міхельсону, што "тая ж самая цярпімасць, якая вымушала ўрад не датыкацца да пераканання сумлення ў справах веры, павінна была б паслужыць правілам духоўным каталіцкім уладам у паводзінах іх з уніятамі і забараніць ім усякае спакушэнне народа з уніі ў абрад рымска-каталіцкі. Калі вера пануючая не дазваляе сабе ніякіх прымусовых сродкаў, то... вера цярпімая не можа іх выкарыстоўваць" [7. Т. 1. С. 170; 8. С. 55]. Але пераходы працягваліся. Так, у пачатку XIX ст. па Дзісненскім і Вілейскім паветах Мінскай губерні ў каталіцтва перайшло каля 20 тыс. уніятаў. Па загадзе Сената ад 1810 г. яны павінны былі вярнуцца да уніі. Але справа гэта разглядалася на пасяджэнні рымска-каталіцкай калегіі толькі ў 1826 г. [9. С. 29, 30].

26 ліпеня 1806 г. былі зацверджаны сумесныя прапановы каталіцкага мітрапаліта С.Богуш-Сестранцэвіча і полацкага уніяцкага архіепіскапа І.Лісоўскага. Згодна з імі было вырашана вярнуць уніятаў, якія перайшлі ў каталіцтва, да уніі і не прымаць іх "у рымскі абрад ні пад якім выглядам". 25 кастрычніка 1807 г. былі зноў пацверджаны ўсе ўказы, якія зберагалі цэласнасць уніяцкай царквы. А 8 жніўня 1810 г.

быў выдадзены ўказ аб тэрміне даўнасці для тых, хто пакінуў уніяцтва. Сенат вызначыў яго з 1798 г. [10. С. 108, 109].

У сувязі з другім (1793 г.) і трэцім (1795 г.) падзеламі Рэчы Паспалітай павялічылася тэрыторыя і колькасць уніяцкіх вернікаў. Гэта выклікала змены ў царкоўнай структуры. Указам ад 28 красавіка 1798 г. уніяты Беларускай губерні засталіся ў Полацкім архіепіскапстве на чале з І. Лісоўскім. Для вернікаў Мінскай і Літоўскай губерняў было створана Брэсцкае епіскапства на чале з епіскапам А. Глаўнеўскім. Мітрапаліту Ф.Растоцкаму і пінскаму епіскапу У.Булгаку былі прадастаўлены пенсіі.

У 1807 г. у склад Брэсцкага епіскапства ўвайшлі 802 парафіі з 748 583 прыхаджанамі і 950 свяшчэннікамі. У ім было 45 мужчынскіх кляштараў з 349 манахамі і 5 жаночых з 64 манашкамі. У Полацкім архіепіскапстве — 445 парафій з 568 787 прыхаджанамі; 22 мужчынскія кляштары са 133 манахамі і 3 жаночыя з 30 манашкамі [11. С. 322, 324].

29 снежня 1800 г. царскім указам было загадана, каб каталіцкі дэпартамент юстыц-калегіі займаўся духоўнымі справамі не толькі каталікоў, але і уніятаў. У 1804 г. уніяцкае духавенства атрымала права на прадстаўніцтва сваіх членаў у калегіі. Для прысутнасці на яе пасяджэннях прызначаліся уніяцкі епіскап і тры асэсары. 16 ліпеня 1805 г. у калегіі было створана два дэпартаменты: рымска-каталіцкі і грэка-уніяцкі. 24 ліпеня 1806 г. Полацкі архіепіскап І.Лісоўскі быў прызначаны мітрапалітам грэка-уніяцкіх цэркваў у Расіі. Згодна з указам ад 20 ліпеня 1815 г. засядацелі рымска-каталіцкай калегіі, акрамя польскай мовы, павінны былі ведаць рускую [9. С. 33, 36].

У 1810 г. адбыліся далейшыя змены ў структуры уніяцкай царквы. Замест дзвюх былі створаны чатыры епархіі: мітрапаліцкая ў Вільне, архіепіскапская у Полацку, епіскапская ў Брэсце (епіскап знаходзіўся ў Жыровічах) і Луцкая ў Жыдзічыне. У склад Брэсцкай епархіі ўвайшлі Гродзенская губерня, частка Мінскай са Слуцкім, Пінскім, Мазырскім і Рэчыцкім паветамі і Беластоцкая вобласць. Астатнія паветы Мінскай, Віленскай і Курляндская губерні ўвайшлі ў склад Віленскай епархіі. У Вільні была заснавана кансісторыя з мітрапаліцкай рызніцай і архівамі [9. С. 52].

У 1813 г. па спаведных кнігах лічылася каля 1 млн 500 тыс. прыхаджан-уніятаў. З іх у Віленскай епархіі — да 291 тыс., Полацкай — звыш 540 тыс., Брэсцкай — 535 тыс. У складзе

чых кляштараў, у якіх знаходзіліся 694 манахі і 115 манашак. Даходы кляштараў складалі 95 тыс. руб. адных працэнтаў з капіталаў, змешчаных пад залог маёнткаў. Акрамя працэнтаў кляштары карысталіся харчамі з маёнткаў.

У канцы 1824 г. Брэсцкі капітул надрукаваў звесткі аб даходах манаскага і белага духавенства ў Брэсцкай епархіі. З іх вынікала, што ў епархіі на 25 кляштараў прыходзілася 166 манахаў. У іх уладанні было 42 880 дзес. зямлі з 3825 сялянамі мужчынскага полу. 539 цэрквам з 719 святаркамі і 1785 царкоўнаслужыцелямі належала 30 280 дзес. зямлі з 451 селянінам мужчынскага полу. На кожнага манаха прыходзілася па 259 дзес. зямлі, 137 сялян, 1500 руб. капіталу, 380 руб. даходу; на кожнага святара — 42 дзес. зямлі, 332 руб. капіталу, менш адной душы селяніна і 9 руб. серабром даходу. Такія суадносіны, вядома, выклікалі раскол унутры уніяцкай царквы, скаргі на базільян з боку белага духавенства [9. С. 125; 12. С. 71].

У кожнай базільянскай правінцыі былі духоўныя і свецкія школы. Духоўныя школы былі трох разрадаў: навіцыяты для юнакоў ад 14 гадоў, якія паступалі ў кляштары, і філасофскія і багаслоўскія студыі для далейшай адукацыі. Базільянскімі манахамі станавіліся людзі, як правіла, шляхецкага паходжання. Сынам жа уніяцкіх святароў доступ у кляштары практычна быў зачынены.

Згодна з палажэннем 1810 г. у кожнай базільянскай правінцыі былі свецкія, або павятовыя, школы, некаторыя з іх былі на ўзроўні гімназій. Амаль пры ўсіх кляштарах былі прыходскія школы.

У 1814 г. Віленскім універсітэтам была праведзена рэвізія прыходскіх і павятовых школ Мінскай губерні. Была адзначана вялікая колькасць пераходаў з уніі ў каталіцтва. Віленская уніяцкая кансісторыя паведамляла, што каталіцкія святары, у асноўным з Мінскай каталіцкай епархіі, з ведама епіскапа Дзядзеркі ў сваіх касцёлах спаведуюць, хрысцяць, заключаюць шлюбы, хаваюць не толькі каталікоў, але і уніятаў, забіраюць уніяцкія цэрквы, фундушы, запісаныя на іх, і, асвяціўшы, называюць касцёламі. Кансісторыя непакоілася, што калі гэта будзе працягвацца, то Мінская губерня застанецца без уніяцкіх цэркваў і прыходаў. У 1814 г. колькасць уніятаў, якія перайшлі да каталіцтва, склала ў епархіі 197 690 чал. Да каталікоў адышлі таксама 16 цэркваў з фундушамі, 9 святароў і 10 прыходаў без цэркваў [9. С. 69 — 71, 73 — 75, 80; 10. С. 23 — 25].

У 1822 г. князь А.Галіцын прапанаваў уніяцкаму дэпартаменту духоўнай калегіі скасаваць базільянскія кляштары, якія былі ў тых населеных пунктах, дзе жыхары перайшлі з уніі ў праваслаўе. У Беларускай базільянскай правінцыі пасля скасавання засталося 18 кляштараў, у Літоўскай – 12. Зачыненыя кляштары былі пераўтвораны ў прыходскія цэрквы. Уніяцкаму духавенству было перададзена каля 600 душ сялян і больш за 14 тыс. дзес. зямлі [9. С. 125; 14. С. 71].

4 сакавіка 1824 г. віцебскі, смаленскі і магілёўскі генерал-губернатар князь М. Хаванскі звярнуўся з пісьмом да уніяцкага мітрапаліта І. Булгака, у якім звяртаў увагу на неабходнасць узмацнення рэлігійнай прапаганды сярод уніяцкіх сялян, выхавання ў іх пакорнасці. Ён падкрэсліваў, што сяляне не маюць ніякага ўяўлення аб сваіх абавязках адносна памешчыкаў. Гэта, па думцы генерал-губернатара, было звязана з тым, што "ў некаторых месцах невуцтва сялян было такім вялікім, што яны не ведалі нават галоўных хрысціянскіх малітваў" [13. Ф. 823, воп. 3, спр. 1445, арк. 4].

Мікалай І лічыў неабходным узмацніць пазіцыі Расійскай імперыі ў заходніх губернях шляхам павелічэння колькасці праваслаўных за кошт скасавання уніяцкай царквы.

5 лістапада 1827 г. асэсар уніяцкага дэпартамента І. Сямашка напісаў запіску аб становішчы уніяцкай царквы. Яна была станоўча сустрэта ўрадавымі коламі. У ёй падкрэслівалася, што уніяцкае духавенства ў той час мала чым адрознівалася ад каталіцкага: насіла такое ж адзенне, служыла (з дазволу Папы рымскага) у адных і тых жа цэрквах. Замест старажытных грэчаскіх абрадаў была ўведзена большасць рымскіх. У многіх цэрквах не было іканастасаў, а былі арганы. У богаслужэнні выкарыстоўвалася славянская мова, але з неахвотай. Народ жа, на думку І.Сямашкі, вучылі важнейшым малітвам на польскай мове, на ёй жа гаварылі і казанні. Аўтар запіскі рабіў выснову, што ўжо не маецца ніякіх перашкод на шляху каталіцкага духавенства да схілення уніятаў у сваё веравызнанне [8. Т. 1. С. 582].

Праект далучэння уніятаў да праваслаўя быў складзены ў канцы 1827 г. і падпісаны міністрам народнай асветы і галоўным кіраўніком Дэпартамента замежных веравызнанняў А.Шышковым. Удзел у яго падрыхтоўцы прымалі намеснік А.Шышкова Р.І.Карташэўскі і асэсар уніяцкага дэпартамента І.Сямашка. Праект складаўся з дзвюх частак. У першай даваўся гістарыяграфічны агляд тых мер, якія прымаў урад, пачынаючы з Кацярыны ІІ, па далучэнні уніятаў да праваслаўя; у другой выказваліся думкі аб тым, што неаб-

ходна зрабіць у гэтым кірунку. Асноўная ідэя дакумента заключалася ў тым, каб адарваць уніятаў ад каталіцтва шляхам скасавання часткі базільянскіх кляштараў, стварэння асобнай ад каталіцкай грэка-уніяцкай калегіі, адкрыцця новых навучальных устаноў для падрыхтоўкі юнакоў у традыцыях праваслаўнай веры. Прадугледжвалася таксама ліквідаваць залежнасць уніяцкага духавенства ад памешчыкаў-каталікоў, якія, будучы кціtарамі, не толькі аказвалі матэрыяльную дапамогу царкве, але і ўплывалі на выбар кандыдатур свяшчэннаслужыцеляў у сваіх маёнтках [14. С. 621, 624, 628, 629; 15. С. 230].

Цяжка сказаць, на які тэрмін быў разлічаны гэты праект. Але ён пачаў выконвацца з прыняццем Указа ад 9 кастрычніка 1827 г., які забараніў прымаць у базільянскія кляштары людзей іншага абраду. Гэта тычылася галоўным чынам каталікоў. У канцы 20-х гг. у Беларускай і Літоўскай базільянскіх правінцыях амаль дзве трэці манахаў былі ахрышчаны па каталіцкім абрадзе [10. С. 36]. А калі ўлічваць шляхецкае паходжанне, добрую адукацыю, багатыя фундушы кляштараў, адсутнасць сем'яў, то атрымлівалася, што базільянскія манахі маглі аказваць большае супраціўленне справе скасавання уніі, чым белае уніяцкае духавенства. Гэтыя ж абставіны выклікалі раскол і ўнутры самой царквы, што аблягчала выкананне пастаўленай царскім урадам задачы.

22 красавіка 1828 г. было прынята рашэнне аб стварэнні, асобна ад каталіцкай, грэка-уніяцкай духоўнай калегіі і аб скасаванні чатырох уніяцкіх епархій. Замест іх былі ўтвораны Літоўская і Беларуская епархіі. Яны былі вялікія, расцягнутыя. Беларуская, напрыклад, — ад Курлянскай губерні да Херсонскай. Гэта прыводзіла да таго, што іх цэнтры знаходзіліся далёка ад ускраін, што, як адзначаў міністр унутраных спраў Д. Блудаў, прымушала уніяцкае духавенства пры неабходнасці звяртацца да праваслаўных архірэяў. А добрыя адносіны апошніх прыводзілі б уніяцкае духавенства да праваслаўя [16. С. 1, 24].

Урад звярнуў увагу і на адукацыю уніяцкага духавенства. У 20-я гг. XIX ст. кадры вышэйшага уніяцкага духавенства рыхтаваліся ў Галоўнай семінарыі ў Вільні (да 50 чал.), у Калегіі распаўсюджвання веры ў Рыме (4 чал.), свяшчэннікаў у семінарыях Полацка і Жыровіч; ніжэйшага духавенства пры Лаўрышоўскім кляштары. Урад пачаў пераўтварэнні ў сферы адукацыі. Забаранялася накіроўваць юнакоў у Рым і Вільню, навучэнцы з іх былі адазваны. Нягледзячы на рашэнне адчыніць грэка-уніяцкую акадэмію у Полацку, 25 лютага 1830 г. Грэка-

уніяцкая калегія прызнала, што адкрыццё яе практычна немагчыма з-за адсутнасці сродкаў, памяшканняў і навучэнцаў. Калегія хадайнічала перад св.Сінодам, і ёй дазволілі накіраваць некалькіх юнакоў у Пецярбургскую праваслаўную духоўную акадэмію [14. С. 601, 605, 608, 609, 620].

9 ліпеня 1830 г. указам Грэка-уніяцкай калегіі было загадана, каб у казаннях і навучэнні Закону Божаму духавенства карысталася мясцовым дыялектам, якім для беларусаў з'яўляўся беларускі.

Удзел базільянскіх манахаў у паўстанні 1830 — 1831 гг. прывёў да скасавання не толькі 2/3 кляштараў, але і да ўлады правінцыялаў ордэна. Урад дазволіў манахам скасаваных кляштараў, якія раней былі каталікамі, пераходзіць у каталіцтва. Да 1835 г. з ордэна адышло каля 200 базільян [17. С. 286].

Адной з мер па ўзмацненні праваслаўя на тэрыторыі Беларусі было адкрыццё ў 1833 г. трэцяй праваслаўнай епархіі — Полацкай. Супярэчлівыя характарыстыкі ў літаратуры даюцца дзейнасці яе епіскапа Смарагда (Крыжаноўскага), які на працягу 1833 — 1835 гг. далучыў да праваслаўя звыш 120 тыс. уніятаў [18. С. 125, 126]. Гэта выклікала не толькі яго сутычкі з уніяцкімі епіскапамі І. Сямашкам і В. Лужынскім, але і незадаволенасць яго дзейнасцю з боку ўрада.

Актыўная дзейнасць епіскапа Смарагда па далучэнні уніятаў да праваслаўя выклікала хваляванні веруючых уніятаў. У 1833 г. яны адбыліся ва ўсіх схільных да праваслаўя прыходах. На прымусовыя меры пры далучэнні скардзіліся, напрыклад, пласкоўскія і езырышчанскія сяляне. Свяшчэннаслужыцель далучанага Заборскага прыхода (Полацкі павет) А.Счансновіч не аддаваў ключы ад царквы. Калі клясціцкі уніяцкі дэкан А.Ніканові́ч прыбыў у Забор'е і пачаў перадаваць уніяцкую царкву праваслаўным, то сяляне, узбуджаныя Счансновічам, акружылі храм і вырвалі ў Ніканові́ча ключы з крыкамі: "Не жадаем веры ламаць". У Гарадзецкім павеце да таго часу адбываліся хваляванні далучаных да праваслаўя, пакуль іх былога свяшчэнніка Ф.Заблоцкага не выслалі, па загаду губернатара, у Полацк. У Беларускай уніяцкай епархіі аказалася 94 свяшчэннікі без месцаў [16. С. 103, 105].

У пачатку 30-х гг. дзейнасць царскага ўрада ў адносінах да уніятаў стала больш мэтанакіраванай. 8 снежня і 3 красавіка 1831 г. было загадана не прызначаць уніяцкіх свяшчэннікаў у рымска-каталіцкія касцёлы, і ім было забаронена адпраўляць у іх богаслужэнні.

7 лютага 1834 г. на Саборы уніяцкіх епіскапаў было вырашана ўвесці ў Беларускай і Літоўскай епархіях у карыстанне служэбнікі маскоўскага выдання 1831 г., малебныя спевы, евангеліе і інш., а таксама выдзеліць 5 тыс. руб. на ўсталяванне ў цэрквах іканастасаў. Архірэям было прадпісана, каб яны ўсімі сіламі клапаціліся аб аднаўленні праваслаўных абрадаў. Інструкцыя аб рашэннях Сабора была разаслана епіскапам і генерал-губернатарам [16. С. 118, 119, 121; 19. С. 45].

У канцы 1834 г. Літоўская і Беларуская уніяцкія кансісторыі атрымалі служэбнікі маскоўскага выдання. Іх распаўсюджванне ў абедзвюх епархіях выклікала пратэст з боку уніяцкага духавенства. 18 мая 1835 г. полацкі ваеннапавятовы начальнік падпалкоўнік Агатонаў паведамляў Віцебскаму губернатару Шрэдару, што "хаця уніяцкія цэрквы і атрымалі служэбнікі маскоўскага друку, але служаць і зараз... па кнігах ранейшага выдання віленскага і пачаяўскага друку". Пры правядзенні рэвізіі цэркваў Падзісненскай благачыннай акругі Полацкі епіскап Васілій (Лужынскі) ні у адной з іх не знайшоў маскоўскага служэбніка.

Справа ўсталявання іканастасаў, хаця і даволі марудна, але рухалася. Так, 18 снежня 1835 г. епіскап Васілій паведамляў у грэка-уніяцкую калегію, што на працягу 1834 — 1835 гг. былі ўстаноўлены іканастасы ў 77 цэрквах. Літоўскі епіскап Іосіф пісаў, што к лістападу 1835 г. яны былі ў 509 цэрквах епархіі [16. С. 213].

У маі 1835 г. быў заснаваны Сакрэтны камітэт, у склад якога ўвайшлі праваслаўныя іерархі: Наўгародскі мітрапаліт Серафім, Маскоўскі мітрапаліт Філарэт, Цвярскі архіепіскап Рыгор; уніяцкі мітрапаліт І. Булгак, генерал граф Талстой, князь Галіцын, обер-пракурор Св. Сінода С. Нячаеў, статссакратар С. Танееў. Камітэт папярэдне разгледзеў усе меры, якія былі прыняты па уніяцкіх справах. Міністр унутраных спраў Д. Блудаў, дакладаючы 8 снежня 1836 г. аб працы гэтага камітэта, адзначыў, што яго мэтай адносна уніятаў было "пературыць іх з паўпалякаў, рымскіх каталікоў у адданых сыноў нашай царквы і Расіі" [16. С. 174, 175; 13. Ф. 797, воп. 87, спр. 10, арк. 1].

Увесь 1835 г. працягваліся хваляванні уніяцкага насельніцтва. Толькі ў жніўні яны адбыліся ў 12 далучаных да праваслаўя прыходах Беларускай уніяцкай епархіі: Струньскім, Экіманскім, Юровічскім, Гарадзецкім, Лепельскім, Ушачскім і інш. Ва Ушачах для ўціхамірвання уніятаў была падрыхтавана артылерыя. Яшчэ ў снежні 1834 г. Беларуская уніяцкая кансісторыя атрымала праз святара Лавецка-

га прашэнне ўшачскіх сялян і накіравала яго мітрапаліту І. Булгаку. Той звярнуўся да міністра ўнутраных спраў з хадайніцтвам аб аказанні ўшачскім уніятам дапамогі "як у свабодным спавяданні іх веры, так і неадкладным звароце належаўшай ім па ўсіх правах прыходскай царквы". 19 сакавіка Булгак прадпісаў Беларускай уніяцкай кансісторыі "на будучы час не раней уступаць прыходы, як па засведчанні праз свайго члена або іншага якога-небудзь благанамернага настаяцеля". Гэтае прадпісанне мітрапаліта выклікала яшчэ большыя хваляванні ў епархіі. Беларускай кансісторыі была зроблена найвысачэйшая заўвага "быть впредь осмотрительнее в своих действиях" [8. Т. 1. С. 88, 94; 16. С. 148, 200].

30 снежня 1837 г. наглядальнік Полацкага праваслаўнага архірэйскага дома іераманах Валерыян паведамляў, што прыхаджане Ушачскай царквы Лепельскага павета, якія належалі графу Плятару і памешчыку Пышанскаму і былі далучаны да праваслаўя, не былі з 1834 г. на споведзі, што ў іх "немаўляткаў ахрышчваюць жанчыны, хворым дазваляюць паміраць без споведзі і памерлых хаваюць самі без святароў" [20. Ф. 2540, воп. 1, спр. 89, арк. 9].

Яшчэ з пачатку 1835 г. Полацкі епіскап Васілій пачаў лічыць асэсара Беларускай кансісторыі Іаана Ігнатовіча праціўнікам палітыкі ўрада адносна уніі. У канцы 1836 – пачатку 1837 г. у Ігнатовіча пачалі адбывацца тайныя сходы уніяцкіх святароў. Ён, а таксама рэктар полацкай семінарыі М. Шалепін, яе інспектар А. Томкавід і прафесар іераманах Канецкі па начах збіралі святароў, якія прыязджалі па справах у Полацк. На гэтых сходах яны заклікалі духоўных асоб абараняць унію і выступаць супраць яе скасавання і далучэння да праваслаўя. Ігнатовіч некалькі разоў выязджаў у Себежскі, Дрысенскі паветы. У чэрвені 1837 г. яго звольнілі з пасады і прызначылі святаром Галоўчыцкай царквы (Полацкі павет). А на себежскіх, лепельскіх і дрысенскіх святароў з іх дэканамі епіскап Васілій налажыў двухтыднёвую епітымію. Дэканы, акрамя таго, былі пазбаўлены сваіх пасад. Усім святарам епіскап паабяцаў, што калі яны не супакояцца, то для іх знойдзецца новая кара. 7 снежня 1837 г. міністр унутраных спраў Д.Блудаў пісаў віцебскаму, смаленскаму і магілёўскаму генерал-губернатару князю М.Хаванскаму, што гэтыя і іншыя прынятыя грамадзянскім і духоўным кіраўніцтвам меры "павінны палажыць канец хваляванням, якія ўзніклі ў невялікім кругу грэка-уніяцкіх асоб у Беларусі".

У пачатку 1837 г. Беларуская кансісторыя, па прапанове мітрапаліта І.Булгака, прадпісвала уніяцкаму духавенству паклапаціцца аб знішчэнні амбонаў і бакавых прастолаў. Пры гэтым дазвалялася пакінуць толькі тыя з амбонаў, якія былі добра ўсталяваны і лічыліся неабходнымі, і тыя з бакавых прастолаў, разбурэнне якіх стварала пагрозу для будынка. Указам Літоўскай кансісторыі ад 2 мая 1838 г. было загадана, каб арганы былі прададзены, а атрыманыя грошы накіраваны на патрэбы царквы. У некаторых цэрквах Беларускай епархіі яшчэ заставаліся арганы (Юхавіцкай Дрысенскага, Махіраўскай Полацкага паветаў, Талачынскай Магілёўскай губерні і інш.), але выкарыстоўваць іх было забаронена [16. С. 203 — 207; 21. С. 117; 24. Ф. 634, воп. 3, спр. 375, арк. 19].

1 студзеня 1837 г. грэка-уніяцкая калегія была выключана з нагляду міністра ўнутраных спраў і падпарадкавана обер-пракурору Св.Сінода. Літоўскаму уніяцкаму епіскапу Іосіфу было загадана правесці рэвізію Беларускай епархіі. Аб'ехаўшы многія прыходы епархіі, ён 31 мая 1837 г. даў Беларускай кансісторыі прадпісанні, каб у 6-месячны тэрмін іканастасы і прастолы былі зроблены ва ўсіх беларускіх цэрквах, а святароў, якія не выканаюць гэта, было загадана аддаваць пад суд і пазбаўляць прыходаў [16. С. 242, 243, 248].

23 лютага 1838 г. памёр мітрапаліт Іасафат Булгак. У апошнія гады яго становішча было даволі незразумелым. Ён быў старшынёй Грэка-уніяцкай калегіі, справамі якой ведаў епіскап І.Сямашка, архіепіскапам Беларускай уніяцкай епархіі, якой практычна кіраваў епіскап В.Лужынскі, працаўнікам уз'яднання, але ў той жа час і членам Сакрэтнага камітэта, мэтай якога было скасаванне уніі. Пасля яго смерці В.Лужынскі ўзначаліў Беларускую епархію, а І. Сямашка — Грэка-уніяцкую калегію.

Праваслаўным епіскапам Ісідорам (Нікольскім), які быў прызначаны ў Полацкую праваслаўную епархію замест архіепіскапа Смарагда, разам з уніяцкім архіепіскапам Васіліем (Лужынскі) былі дадзены распараджэнні, каб уніяцкія і праваслаўныя свяшчэннікі ў святочныя дні сустракаліся ў цэрквах для сумеснай службы. Праваслаўным свяшчэннікам было дазволена праводзіць ва уніяцкіх цэрквах богаслужэнні для сваіх прыхаджан. 13 сакавіка 1838 г. праваслаўнае духавенства на чале з благачынным Серабрэніцкім сабралася ў Нішчанскай уніяцкай царкве для літургіі. Уніяцкі свяшчэннік Сосна быў незадаволены дазволам праваслаўным свяшчэннікам весці службу ў яго царкве і таму выехаў у філіяльную Рыкаўскую царкву, пакінуўшы

ключ панамару. Памешчык Корсак распаўсюдзіў чуткі, што праваслаўныя свяшчэннікі прыдуць у царкву для таго, каб яе забраць і аддаць праваслаўным, што выклікала хваляванні уніяцкіх прыхаджан. 13 сакавіка яны сабраліся ў Нішчы, адабралі ў панамара ключы і адмовіліся адчыніць дзверы царквы. Па заявах некаторых з уніятаў, "праваслаўныя ўзялі сякеры, зламалі дзверы, а потым як праваслаўныя прыхаджане, так і духавенства здзекваліся над уніятамі". Вінаватыя былі пазбаўлены месцаў, а свяшчэннік Сосна накіраваны ў Вярбілаўскі базільянскі кляштар [16. С. 264 — 266; 20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 10706, арк. 1; спр. 10698, арк. 1, 3].

Для высвятлення становішча ва уніяцкіх епархіях у маі 1838 г. у заходнія губерні, па найвысачэйшым загадзе, быў накіраваны камергер, надворны саветнік В. Скрыпіцын. Ён наведваў цэркви, наглядаў за настроем духавенства, памешчыкаў і прыхаджан. Вярнуўшыся ў Пецярбург, у сваім дакладзе, які быў прадстаўлены обер-пракурору Св.Сінода, В.Скрыпіцын адзначаў, што ў Літоўскай і Беларускай уніяцкіх епархіях у 575 цэрквах зроблены іканастасы; богаслужэнне вялося даволі правільна; былі маскоўскія слу́жэбнікі амаль ва ўсіх цэрквах. Настрой духавенства быў наступны: яны ведалі, што іх продкі былі раней праваслаўнымі, адны гатовы выканаць загады ўрада і далі падпіскі (у Беларускай епархіі 158 чал. з 582 свяшчэннікаў і 14 з 98 манахаў, у Літоўскай — 718 з 927 свяшчэннікаў і 42 з 98 манахаў), іншыя былі абыякавыя да свайго сана і месца і выконвалі загады кіраўніцтва "за гнев, а не за совесть", трэція ненадзейныя. Сярод трэціх В. Скрыпіцын вылучыў пяць свяшчэннікаў: І. Ігнатовіча — свяшчэнніка з Галоўчынскай царквы Полацкага павета; А. Тамкаміда з Іказненскай царквы Дзісненскага павета; І. Малішэўскага з Зяленскай царквы таго ж павета; І. Тачынскага з Дварэцкай царквы Лепельскага павета і Мальчэўскага са Старабыхаўскай царквы Навабыхаўскага павета. Гэтых людзей Скрыпіцын рэкамендаваў обер-пракурору накіраваць у вялікарускія манастыры для вывучэння праваслаўнай абраднасці. Уніяцкіх прыхаджан ён падзяліў на благанадзейных (толькі уніяты Літоўскай епархіі — 633 прыходы), пакорлівых (усе паветы Мінскай губерні і амаль усе Віцебскай і Магілёўскай — 441 прыходы) і падазроных (паўночныя паветы Віцебскай губерні: Себежскі, Полацкі, Лепельскі і Дрысенскі; Дзісненскі Мінскай, Сенненскі, Мсціслаўскі Магілёўскай, Аўрычскі Валынскай і Радамысльскі Кіеўскай губерняў — 151 прыход).

Зрабіў апошнюю рэвізію і уніяцкі епіскап Васілій. На яго думку, значная частка епархіі была гатова да ўз'яднання. Але гэта, відаць, было не зусім дакладна. 16 верасня 1838 г. у с.Царкоўна Дрысенскага павета, дзе свяшчэннікам быў брат І. Ігнатовіча, адбыўся сход уніяцкага духавенства і народа. Раніцай браты Ігнатовічы і свяшчэннік Прыдруйскай царквы Г. Касецкі правялі святочную літургію, пасля якой І. Ігнатовіч звярнуўся з прамовай на польскай мове, у якой заклікаў сялян трымацца уніяцкай веры. Было падрыхтавана прашэнне да цара, якое падпісалі 111 свяшчэннікаў. Яны прасілі, каб іх пазбавілі цяперашняга духоўнага кіраўніцтва, дазволілі адкрыць друкарню і, калі унія будзе ўсё ж скасавана, перайсці ў каталіцтва. Следства праводзіў полацкі ваенна-палявы начальнік падпалкоўнік Агатонаў. І. Ігнатовіч і А. Тамкавід былі арыштаваны і асуджаны на высылку. З 31 снежня 1838 г. па 12 студзеня 1839 г. да адказнасці было прыцягнута 29 свяшчэннікаў, некаторыя з іх адпраўлены ў кляштары, частка пераведзена ў дзячкі [16. С. 274 — 277, 281, 291].

Каб пазбегнуць хваляванняў у заходніх губернях, прымаліся ўрадавыя меры. У лістападзе 1838 г. у пісьме з міністэрства ўнутраных спраў да Віленскага ваеннага губернатара адзначалася неабходнасць захоўваць асцярожнасць пры пераўтварэнні грэка-уніяцкай царквы і збліжэнні яе з праваслаўнай. Такое ж указанне атрымаў ад обер-пракурора Св.Сінода М. А. Пратасава і віцебскі, смаленскі і магілёўскі генерал-губернатар П. Дзякаў. Асабліва ўважліва было загадана наглядаць за Себежскім, Полацкім, Лепельскім, Дрысенскім, Мсціслаўскім і Сенненскім паветамі, бо яны заставаліся пад моцным уплывам каталіцкага духавенства і памешчыкаў-каталікоў. 22 і 26 снежня 1838 г. адбыліся пасяджэнні Сакрэтнага камітэта, на якіх прысутнічалі шэф жандараў А. Х. Бекендорф, міністр дзяржаўных маёмасцяў граф П. Д. Кісялёў, міністр унутраных спраў Д. Блудаў і обер-пракурор Св. Сінода М. А. Пратасаў. На першым пасяджэнні камітэт зацвердзіў наступныя прапановы: 1) грэка-уніяцкія епіскапы са старшым духавенствам складуць царкоўны саборны акт, у якім прызнаюць зноў сваё пачатковае адзінства з усходняй праваслаўнай царквой; 2) акт будзе падпісаны ўсімі, хто прысутнічаў пры яго складанні, а астатнія дадуць сваю пісьмовую згоду; 3) акт і водгукі будуць накіраваны імператару разам з прашэннем і ў той жа час будзе выдадзены найвысачэйшы ўказ аб падпарадкаванні грэка-уніяцкай калегіі не Сенату, а Св.Сіноду, і інш. На

другім пасяджэнні было вырашана ўвесці войскі ў заходнія губерні для таго, каб пазбегнуць хваляванняў пры ўз'яднанні уніятаў.

8 студзеня 1839 г. была зацверджана сакрэтная інструкцыя для генерал-губернатараў заходніх губерняў, у якой акрамя пытанняў, звязаных з далучэннем, генерал-губернатарам было загадана давесці да каталіцкіх епіскапаў і іх вышэйшага духавенства, што гэтыя меры тычацца толькі уніятаў, а не каталікоў [16. С. 297 —301; 22. С. 127; 23. С. 313; 20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 11002, арк. 6 — 8; спр. 11018, арк. 3].

У студзені 1839 г. у Віцебскую губерню быў накіраваны 29-ы казачы полк палкоўніка Карнеева. А 13 студзеня з Пецярбурга выехаў у Полацк камергер В.Скрыпіцын, які павінен быў наглядаць за станам уніяцкага духавенства. Прыехаўшы ў Полацк, ён пачаў разбор справы "ста адзінаццаці". Святчэннікаў, якія падпісалі прашэнне да цара, выклікалі ў Полацк. 24 студзеня ў Жыровічы да уніяцкага епіскапа Антонія (Зубко) з Пецярбурга прыбыў фельд'егер з падрыхтаваным актам аб уз'яднанні і пісьмом епіскапа І.Сямашкі. Антоній павінен быў сам падпісаць акт і перакапаць зрабіць гэта ўсё духоўнае кіраўніцтва епархіі, а потым прывезці яго ў Полацк. 3 лютага епіскап Іосіф прадпісаў Беларускай кансісторыі, каб святчэннікаў, якія не падпісалі прашэнне, выслалі ў кляштары.

12 лютага 1839 г. у Полацку ў прысутнасці уніяцкага вышэйшага духавенства быў падпісаны Саборны Акт з просьбай аб далучэнні уніяцкай царквы да праваслаўнай. Епіскап Іосіф забраў акт і паехаў у Пецярбург, а епіскапы Васілій і Антоній — у Віцебск, куды 12 сакавіка прыбыў 29-ы казачы полк. Казакоў размясцілі ў Сенненскім, Лепельскім, Полацкім, Дрысенскім і Себежскім паветах Віцебскай і ў некаторых паветах Мінскай губерні.

26 лютага 1839 г. епіскап Іосіф перадаў обер-пракурору Св.Сінода Пратасаву Саборны Акт. 1 сакавіка Акт паднеслі Мікалаю І, які перадаў яго на разгляд Св.Сіноду. Пастанова Св.Сінода "О принятии греко-униатской церкви в полное и совершенное общение святых православно-кафолических Восточныя церкви и в нераздельный состав церкви Всероссийской" была зацверджана Мікалаем І, які напісаў на ёй: "Благодарю Бога и принимаю". 17 сакавіка Сенатам быў выдадзены ўказ аб падпарадкаванні грэка-уніяцкай калегіі Св.Сіноду. 30 сакавіка пры поўным зборы Св. Сінода аб згодзе імператара было аб'яўлена епіскапу Іосіфу і выдадзена грамата да ўз'яднаных епіскапаў, духавенства і народа. Указ

быў пасланы ў епархіі, а 9 красавіка епіскап Васілій, пагаварыўшы з В.Скрыпіцыным, вырашыў аб'явіць яго вернікам і памінаць у богаслужэннях Св.Сінода замест Папы рымскага. "Усё гэта, — пісаў В.Скрыпіцын у Пецярбург, — не выклікала ніякага хвалявання або здзіўлення, народ па-ранейшаму старанна маліўся, рваўся да крыжа". 10 красавіка было атрымана пісьмо обер-пракурора М.Пратасава, які загадваў захоўваць найстражэйшую асцярожнаць у справах і загадах.

12 мая ў Віцебск прыбыў праваслаўны мітрапаліт Філарэт, а 14 мая ім і епіскапамі Ісідорам і Васіліем у Віцебскім Успенскім саборы былі праведзены святочныя богаслужэнні. 4 чэрвеня ў Полацку служыў епіскап Іосіф. Усе святочныя богаслужэнні прайшлі спакойна і не выклікалі сур'ёзных пратэстаў. Указам Св.Сінода ад 9 кастрычніка 1839 г. на былое уніяцкае духавенства распаўсюджваліся ўсе тыя пастановы, якія тычыліся і праваслаўнага духавенства [24. Ф. 605, воп. 1, спр. 3803, арк. 112].

Трэба адзначыць, што не ўсюды скасаванне уніі было ўспрынята спакойна. Дзе-нідзе адбываліся хваляванні. Супраціўленне некаторы час аказвалі базільянскія кляштары, асабліва віцебскія манашкі. Епіскап Васілій пісаў, што ён "ввиду упорства монахинь" лічыць за лепшае хутчэй скасаваць кляштар.

У 1840 г. пачалося размежаванне епархіі. Усяго ў Беларускай і Літоўскай уніяцкіх епархіях было далучана да праваслаўя больш за 1,5 млн уніятаў. Але станаўленне на іх месцы новых праваслаўных епархій праходзіла нялёгка. Як пісаў царкоўны гісторык Г.Шавельскі, "уз'яднаныя і старажытнаправаслаўныя цяпер знаходзіліся ў становішчы старых ворагаў, якіх толькі што прымусілі прымірыцца без моцнага жадання з іх боку" [16. С. 355, 360, 361, 378].

З першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. да Полацкага сабора 1839 г. уніяцкая царква прайшла вельмі цяжкі шлях. Яе з двух бакоў, калі са згоды царскага ўрада, а калі і не, цягнулі да сабе праваслаўе і каталіцтва. Унутраны раскол у царкве паміж белым духавенствам і манахамі базільянскага ордэна, удзел манахаў у паўстанні 1830 — 1831 гг. паскорыў вырашэнне яе лёсу царскім урадам, які спадзяваўся атрымаць у былых уніятаў падтрымку для правядзення русіфікацыі тэрыторыі. Беднае і слабаадукаванае уніяцкае духавенства, дробная шляхта і прыгонныя сяляне не маглі супрацьстаяць урадавай палітыцы і здрадзе вышэйшага духавенства.

## 1.2. АДНОСІНЫ ЦАРСКАГА ЎРАДА ДА КАТАЛІЦТВА

На тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага каталіцкія цэрквы і кляштары ўваходзілі ў склад Віленскай, Інфлянцкай, Жмудскай і Смаленскай дыяцэзій. К 1772 г. Віленская дыяцэзія складалася з 26 дэканатаў і 429 парафій з 621 касцёлам і капліцай; Інфлянцкая — з 30 парафій з 74 касцёламі; Смаленская — з 3 парафій з 6 касцёламі і капліцамі; Жмудская — з 10 дэканатаў і 100 парафій з 215 касцёламі і капліцамі. Колькасць каталіцкіх кляштараў па ваяводствах была наступнай: у Віленскім — 90 мужчынскіх і 10 жаночых, у Інфлянцкім — 16 мужчынскіх, у Троцкім — 34 мужчынскіх і 7 жаночых, у Брэст-Літоўскім — 37 і 4, у Віцебскім — 21 і 6, у Навагрудскім — 28 і 8, у Полацкім — 17 і 2, у Мсціслаўскім — 17 і 1, у Мінскім — 25 і 6, у Жмудскім — 17 і 3 адпаведна [25. С. 42, 68, 87, 95, 97].

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай да Расійскай імперыі адышлі каля 100 тыс. католікоў. Указам ад 14 снежня 1772 г. Кацярына II абвясціла аб передачы ў духоўнае кіраванне каталіцкаму епіскапу ўсіх рымска-каталіцкіх кляштараў і касцёлаў як на далучаных тэрыторыях, так і ў Расіі. Пскоўскі (у гэту губерню ў той час уваходзіла Полаччына) і магілёўскі губернатары павінны былі наглядаць, каб каталіцкія і уніяцкія епіскапы, канонікі, ксяндзы і іншыя духоўныя асобы не спакушалі праваслаўных да пераходу ў сваё веравызнанне. Гэтым жа ўказам загадвалася, каб папскія булы і распараджэнні былі абнародаваны каталіцкаму насельніцтву толькі пасля адабрэння імператрыцы [26. С. 199; 24 . С. 17; 2. Т. 19. С. 688, 689].

У 1773 г. была зацверджана Беларуская каталіцкая епархія з цэнтрам у Магілёве. Узначаліў яе епіскап С. Богуш-Сестранцэвіч. На ўтрыманне епіскапа і кансісторыі выдзялялася 10 тыс. руб. Маёнткі, якія належалі на далучанай тэрыторыі Віленскаму епіскапству, адыходзілі ў казну. У 1778 г. у Магілёве была адчынена каталіцкая семінарыя для 20 клірыкаў. У сувязі з гэтым усе кляштары былі абкладзены спецыяльным зборам, які ішоў на ўтрыманне клірыкаў [2. Т. 19. С. 846; 28. С. 10, 13; 29. С. 578 — 579].

17 студзеня 1782 г. быў выдадзены царскі ўказ аб заснаванні каталіцкага архіепіскапства ў Магілёве, які быў пацверджаны найвысачэйшай граматай ад 11 лістапада 1783 г., у якой гаварылася і аб заснаванні Магілёўскай каталіцкай кансісторыі [2. Т. 21. С. 338, 384, 1054].

Пры Магілёўскім архіепіскапскім касцёле быў зацверджаны капітул (сабор) у складзе 12 канонікаў. Архіепіскапу дазвалялася, нягледзячы на агульную забарону, прадастаўляць касцёлы духавенству, якое прыязджала з-за мяжы, але агаворвалася, што яны павінны папярэдне прыняць прысягу на падданства [2. Т. 21. С. 417, 1054; Т. 22. С. 58].

Пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння да Расійскай імперыі ў 1793 г. Міншчыны, а ў 1795 г. — Віленшчыны і Гродзеншчыны ўказам ад 6 верасня 1795 г. у Вільні была заснавана Інфлянская епархія на чале з епіскапам Я.Касакоўскім. На ўтрыманне яе кансісторыі выдзялялася 4 тыс. руб. Манаскія ордэны павінны былі залежаць не ад сваіх генералаў (якія жылі за межамі імперыі), а ад епархіяльных епіскапаў. 27 кастрычніка 1795 г. была зацверджана Пінская епархія на чале з епіскапам Цецішэўскім. У яе склад увайшлі Мінская і Віленская губерні [2. Т. 23. С. 763, 764].

Гэта далучэнне і тыя змены, якія адбываліся як у грамадстве, так і ў каталіцкай царкве, выклікалі пратэсты яе духавенства. Пад уплывам замежнай эміграцыі ў 1796 г. была створана тайная арганізацыя, так званая Віленская асацыяцыя. У Вільна прыбыў прыёр трынітарскага кляштара ў Берастэчку (Украіна) ксёндз А. Дамброўскі, які прывёз ад эмігранцкіх колаў розныя адозвы, лісты і дыпламатычныя ноты, якія тычыліся падрыхтоўкі паўстання. Ён стварыў у Вільна тайную арганізацыю, у склад якой увайшлі прыёр віленскіх дамініканаў ксёндз Ф.Цяцерскі, бенедыкцін ксёндз Зялкоўскі і інш. Ішла вярбоўка афіцэраў на службу ў замежныя легіёны і збіраліся сродкі для іх. Ксёндз А. Дамброўскі планаваў сабраць афіцэраў у м. Дзярэчыне і адтуль накіраваць іх за мяжу, але з-за неасцярожнасці члены арганізацыі былі арыштаваны і адпраўлены ў Пецярбург, дзе былі прадстаўлены на суд Сената. Іх пазбавілі шляхецтва, духоўнага сану, маёнткаў і адправілі ў Сібір на катаргу [30. С. 74, 82; 31. С. 202, 263, 264].

У 1798 г. зноў былі перагледжаны межы каталіцкіх епархій. Усяго па Расійскай імперыі іх было створана шэсць. Тры з іх — Магілёўская, Мінская і Віленская — ахоплівалі тэрыторыю Беларусі*. У 1804 г. у Магілёўскай епархіі было 159 парафій, 223 936 вернікаў, 78 ксяндзоў, 204 кляштары з 524

* Магілёўскае каталіцкае архіепіскапства акрамя касцёлаў і кляштараў Беларускай і Кіеўскай губерняў аб'ядноўвала і тыя касцёлы, якія да 1793 г. былі ў межах Расійскай імперыі.

манахамі і 44 манашкамі; у Мінскай — 86 парафій, 112 214 прыхаджан, 49 ксяндзоў, 156 кляштараў з 425 манахамі і 77 манашкамі; у Віленскай — 272 парафіі, 736 027 прыхаджан, 626 кляштараў з 1229 манахамі і 329 манашкамі [10. С. 13, 15, 16; 32. Ф. 3, спр. 1573, арк. 1].

Каталіцкая царква ў пачатку XIX ст. падпарадкоўвалася рымска-каталіцкай духоўнай калегіі. У 1801 г. у яе склад уваходзілі: старшыня — магілёўскі архіепіскап, два члены — адзін з епіскапаў і прэлат і 6 засядацеляў — па адным з епархіі. У 1804 г. у склад калегіі былі ўведзены епіскап і тры засядацелі уніяцкага веравызнання. У 1805 г. калегія была падзелена на два дэпартаменты: для рымска-каталіцкіх і уніяцкіх спраў.

Адносіны паміж трыма хрысціянскімі канфесіямі — каталіцкай, праваслаўнай і уніяцкай — былі даволі складанымі. Адной з прычын, што спараджалі такое становішча, былі пераходы вернікаў з адной канфесіі ў другую. У канцы XVIII — пачатку XIX ст. даволі часта адбываліся пераходы з уніяцтва ў каталіцкае веравызнанне. Урад Аляксандра I неаднаразова прымаў указы, якія забаранялі каталіцкаму духавенству далучаць уніятаў да каталіцтва (5 мая, 4 і 6 ліпеня, 20 і 27 жніўня 1803 г.; 26 ліпеня 1806 г.; 26 кастрычніка 1807 г. [28. С. 273; 27. С. 196].

Стварала праблемы і знаходжанне ў Расіі езуітаў. Яшчэ ў 1773 г. Папа Клімент XIV распусціў ордэн езуітаў, але яны заставаліся на далучанай да Расійскай імперыі тэрыторыі Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Гэтым Кацярына II жадала даказаць Ватыкану, што яна ніколі не дазволіць, каб у яе дзяржаве распараджаўся Папа. У 1786 г. у Полацкай езуіцкай калегіі налічвалася 79 чалавек, у 1817 г. — 111; у Магілёўскай — 12 і 18; у Мсціслаўскай — 14 і 16; у Аршанскай — 20 і 30; у Дзінабургскай — 21 (у 1786 г.); у Чачэрскай рэзгунцыі — 2 і 11 [33. С. 38; 10. С. 17; 24. Ф. 604, воп. 1, спр. 2497, арк. 20 — 24].

У 1812 г. Полацкая езуіцкая калегія была пераўтворана ў акадэмію езуіцкага ордэна. Ёй надаваліся правы, якімі карысталіся універсітэты. Былі адчынены тры факультэты: тэалагічны, філасофскі і філалагічны. Акадэміі былі падпарадкаваны 13 езуіцкіх вучылішчаў у Полацку, Пецярбургу, Віцебску, Магілёве, Оршы, Мсціслаўі, Чачэрску, Клімавічах, Рызе, Астрахані, Адэсе, Раманаве (на Валыні), Сараtаве. У акадэміі выдаваўся свой часопіс "Miesięcnik Polocki". На працягу 1818 — 1820 гг. выйшла 14 яго нумароў. Заснавальнікам часопіса быў філосаф В. Бучынскі, галоўным рэдактарам —

прафесар фізікі і доктар філасофіі Ю.Цытовіч [34. С. 20; 35. С. 166; 36. С. 198].

У 1815 г. езуіты былі высланы з Пецярбурга, ім быў забаронены ўезд і ў Маскву. А ў 1820 г. урадам было прынята рашэнне аб канчатковай высылцы езуітаў з Расіі. У віну ім паставілі тое, што яны далучалі да каталіцтва праваслаўных, іудзейскіх і уніяцкіх дзяцей і юнакоў, і тое, што вельмі цяжкім было становішча сялян, якія належалі ордэну [32. Ф. 43, спр. 3741, арк. 1].

Акрамя езуітаў адукацыяй моладзі займаліся і іншыя каталіцкія ордэны. Так, у пачатку XIX ст. на Беларусі трымалі школы: піары ў Лідзе, Шчучыне, Любяшове, Лужках; дамініканцы — у Гродне, Навагрудку, Забелах; канонікі рэгулярныя — у Слоніме, Лыскове; місіянеры, францысканцы — у Пінску і інш. [28. С. 288].

У 1814 г. было створана Расійскае біблейскае таварыства, якое ўзначаліў обер-пракурор Св.Сінода і міністр духоўных спраў і народнай асветы князь А.М.Галіцын, актыўны ўдзел у яго працы прыняў і каталіцкі мітрапаліт С.Богуш-Сестранцэвіч. Камітэт таварыства збіраў сродкі на выданне і распаўсюджванне Бібліі на тэрыторыі ўсёй імперыі. Была звернута ўвага на недахоп кніг на польскай мове, у сувязі з чым было вырашана друкаваць Новы запавет у перакладзе Я.Вуйка. Галоўны надзор за выданнем узяў на сябе С. Богуш-Сестранцэвіч. Гэта выклікала незадаволенасць Папы рымскага. 3 верасня 1816 г. з'явіўся зварот Папы Пія VII да каталікоў на імя С.Богуша-Сестранцэвіча: "Нас засмучае тваё акружное пасланне, у якім заахвочваецца пераклад Бібліі і яго распаўсюджванне ў народзе, ад гэтых спраў можна чакаць больш шкоды, чым карысці".

К канцу 1816 г. аддзяленні Расійскага біблейскага таварыства былі адчынены ў Магілёве, Віцебску, у 1817 г. — у Мінску, Гродне. Ад каталікоў віцэ-прэзідэнтамі былі абраны: у Магілёве намінат епархіі М.Маздзенеўскі, у Гродне — канонік Ф. Стругулеўскі. У Віцебскай губерні к 1882 г. было распаўсюджана 343, у Мінскай — 424, у Магілёўскай — 320 кніг Свяшчэннага Пісання. У 1826 г. па царскім указе таварыства было распушчана [37. С. 27, 28, 32, 37, 97; 29. С. 606, 607].

Незадаволенасць каталіцкага духавенства змяненнем свайго статуса ў сувязі з пераходам у новую дзяржаву не толькі прыводзіла да ўдзелу ў тайных таварыствах, але і садзейнічала таму, што частка яго прыняла ўдзел у вайне 1812 г. на баку Напалеона. Так, суффраган Курляндскі Касаўскі прымаў Напалеона ў Вільні, епіскап-каад'ютар Самагіцкі князь

I. Гедройц таксама перайшоў на бок французаў, за што ў 1813 г. быў сасланы ў Волагду, у 1814 г. вярнуўся на радзіму, а ў 1816 г. зноў атрымаў сваю епархію; мінскі епіскап Дзядзерка разам з французскім атрадам ездзіў па паветах Мінскай губерні і ўгаворваў уступаць у войска Напалеона (у 1816 г. быў адхілены ад кіравання епархіяй, накіраваны ў м. Алыка Валынскай губерні).

Каталіцкае духавенства і манаства прыняло актыўны ўдзел і ў паўстанні 1830 — 1831 гг. У касцёлах ксяндзы зачытвалі звароты і іншыя дакументы паўстанцаў, некаторыя з іх актыўна змагаліся ў паўстанцкіх атрадах. Так, піяры Лідскага кляштара Я.Багуцкі і А.Бенгневіч былі ў атрадах Д. Хлапоўскага і Т. Тышкевіча; ксёндз Навагрудскага фарнага касцёла К. Длускі — у атрадзе. Ю.Кашыца, потым Г.Дэмбінскага; бернардзінец віцебскага кляштара П.Есман разам са служыцелем Стэфановічам садзейнічалі забеспячэнню паўстанцаў зброяй; манах картузіянскага кляштара ў Бярозе Ф.Камінскі быў праваднікам аднаго з паўстанцкіх атрадаў. Пералік гэты можна працягваць і далей [28. С. 429; 9. С. 637 — 641; 38. С. 158 — 161; 24. Ф. 605, воп. 2, спр. 99, арк. 5].

У жніўні 1831 г. магілёўскі губернатар М.Мураўёў падаў Мікалаю I запіску "О ходе мятежа в губерниях от Польши возвращенных и заключения о причинах столь быстрого развития оного". Ён адзначаў, што каталіцкае духавенства было асноўным элементам мяцяжу і прапанаваў перавесці каталікоў з-пад улады Папы рымскага пад уладу імператара. На яго думку, "на якой бы мове ні размаўляў ксёндз, ён усё роўна будзе гаварыць аб вяршэнстве духоўнай улады над свецкай". Камітэт па справах заходніх губерняў 28 лістапада 1831 г. прадставіў Мікалаю I даклад па гэтай запісцы. Імператар згадзіўся з меркаваннем Мураўёва аб шкодзе, якая наносілася ў сувязі з выхаваннем моладзі каталіцкім духавенствам, але быў супраць прапановы перавесці каталікоў пад сваю юрысдыкцыю, не без падставы баючыся моцнага супраціўлення з боку веруючых, але згадзіўся з неабходнасцю скасаваць частку каталіцкіх кляштараў [22. С. 100, 102, 104; 20. Ф. 1287, воп. 1, спр. 5532,арк. 1221].

19 ліпеня 1832 г. быў прыняты ўказ аб скасаванні некаторых кляштараў. Кляштарам, якія павінны былі скасаваць у Віленскай і Мінскай епархіях, належала 13 098 душ сялян мужчынскага полу, 7278 чырвонцаў, 2500 талераў і 1 166 765 руб. срэбрам. Былі скасаваны кляштары: кармелітаў у Жалудку, бернардынцаў у Глуску, францысканцаў у Гальшанах

і Паставах, дамініканцаў у Заслаўі, Пскове, трынітараў у Крывічах, дамініканцаў у Друі і Дзярэчыне, місіянераў у Смілавічах, кармелітаў у Пінску і інш. Па Магілёўскім архіепіскапстве былі скасаваны 23 кляштары: дамініканцаў у Галоўчыне, Шклове, Княжыцах, Крычаве, Беліцы, Дудаковічах, Смалянах; кармелітаў у Княжыцах, Бялынічах, Чавусах; бернардынцаў у Рагачове, Мсціслаўі, Оршы, Мікуліне, трынітараў у Оршы і інш. Маёмасць скасаваных кляштараў перадавалі епархіяльнаму кіраўніцтву [20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 5931, арк. 27; Ф. 2001, воп. 1, спр. 147, арк. 673, 674].

Манахаў з зачыненых кляштараў накіроўвалі ў іншыя, і гэта хвалявала веруючых. Так, 11 кастрычніка 1832 г. міністр юстыцыі Д.Блудаў пісаў віцебскаму, магілёўскаму і смаленскаму генерал-губернатару князю М. Хаванскаму, што да яго дайшлі чуткі аб тым, што калі з зачыненага ў Віцебску кляштара адпраўлялі манахаў, то іх праводзіў не толькі просты народ, які вялікім натоўпам запоўніў мост на Дзвіне, але і дваране з сямействамі. Міністр загадваў, каб надалей не дапускалася такіх "торжественных сетований" [20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 6901, арк. 1, 2, 10, 13; спр. 6615, арк. 1].

Усяго ў 1832 г. у заходніх губернях было зачынена 199 кляштараў. Гэтая палітыка, хаця і не так інтэнсіўна, працягвалася і ў 40 — 50-я гг. У 1842 г. была абмежавана колькасць кляштараў і яны падзяліліся на штатныя і заштатныя. Першых было 50. Заштатныя кляштары зачыняліся, калі ў іх заставалася менш чым восем манахаў, а прыём новых не дапускаўся. Калі ж з'яўляліся вакансіі ў штатных кляштарах, то туды пераводзіліся манахі таго ж ордэна з заштатных. Як і раней, манахам забараняліся адносіны з замежнымі генераламі, але яны не падпарадкоўваліся і правінцыялам ордэнаў. З 1843 г. усе кляштары былі падпарадкаваны візітатару, прадстаўніку белага духавенства, якога выбірала епархіяльнае кіраўніцтва, а званне правінцыяла ордэна было скасавана. У 1845 г. былі зачынены кляштары гродзенскіх кармелітаў, навагрудскіх і слонімскіх дамініканцаў, слонімскіх латэранскіх канонікаў; у 1850 г. — ашмянскіх і дунілавіцкіх дамініканцаў, друйскіх бернардынцаў, слабадскіх і крупчыцкіх кармелітаў, слонімскіх бенедыктынак і мар'явітак, беліцкіх бернардынцаў; у 1852 г. — гродзенскіх бернардынцаў, а ў 1856 г. — драгічынскіх бенедыктынак і інш. [39. С. 20 — 22; 24. Ф. 694, воп. 1, спр. 2784, арк. 1, 2, 5, 6].

У сувязі з далучэннем уніяцкай царквы да праваслаўнай царскі ўрад баяўся абвастрэння адносін паміж канфесіямі.

Гэта было звязана з тым, што частка былых уніятаў не жадала пераходзіць у праваслаўе, а самавольна пераходзіла ў каталіцтва. Так, 31 снежня 1839 г. з дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў віцебскаму, смаленскаму і магілёўскаму генерал-губернатару князю Даўгарукаму паведамілі аб мерах па спыненні пераходу з праваслаўя ў каталіцтва. У ім гаварылася, што Мікалай I загадаў сабраць звесткі ад кіраўнікоў каталіцкіх епархій аб колькасці ксяндзоў, а таксама аб касцёлах і капліцах, якія былі прыпісаны да прыходаў, аб часе, калі там праводзіцца богаслужэнне, колькасці прыхаджан. Прыходскім ксяндзам не дазвалялася прымаць на споведзь вернікаў з іншых прыходаў, акрамя выпадкаў цяжкай хваробы. Грамадскае кіраўніцтва павінна было мець звесткі аб святах, асабліва тых, калі ў кляштарах і касцёлах збіралася шмат народу. Адказнасць за пераходы ўскладалася на настаяцеляў кляштараў і прыходскіх ксяндзоў. Памешчыкам і эканомам маёнткаў, каталікам па веравызнанні, ставілася ў абавязак, каб сяляне-праваслаўныя ў святочныя дні і ў нядзелю хадзілі ў праваслаўную царкву. Імператар пацвердзіў указы ад 14 ліпеня 1819 г. (аб будаўніцтве касцёлаў толькі ў тых месцах, дзе была дастатковая колькасць прыхаджан, не менш 400 душ мужчынскага полу), ад 8 кастрычніка 1831 г., згодна з якім у касцёлы і капліцы, пабудаваныя самавольна, не назначаліся ксяндзы, а іх прыпісвалі да прыходскіх касцёлаў, ад 10 чэрвеня 1830 г. і 11 ліпеня 1836 г., якімі забаранялася кляштарам і каталіцкаму духавенству трымаць праваслаўных “в услужении своем”, а таксама ўказы 1831, 1832 і 1835 гг., якія забаранялі каталіцкаму духавенству адлучацца са сваіх месцаў без дазволу епархіяльнага кіраўніцтва [20. Ф. 1287, воп. 1, спр. 11769, арк. 1, 2, 6, 7].

Каталіцкае духавенства імкнулася выкарыстаць любую магчымасць, каб не выконваць царскія ўказы. Так, па звестках Літоўскага праваслаўнага архіепіскапа Іосіфа (Сямашкі) у выпадках, калі праваслаўная кансісторыя звярталася ў каталіцкую па пытаннях, звязаных з дазволам на пераход некаторых людзей з каталіцтва ў праваслаўе, віленскі каталіцкі епіскап Е. Клангевіч нагадваў сваё прадпісанне святарам “не ўчыняць далей ніякіх духоўных адправаў асобам, якія далучыліся да праваслаўя, пры ўмовах, калі далучыліся добраахвотна”. З гэтых слоў праваслаўная кансісторыя зрабіла выснову, што падобная агаворка дае магчымасць ксяндзам, з аднаго боку, схіляць у каталіцтва далучыўшыхся да праваслаўя, з другога — наносіць крыўду

праваслаўнай царкве і ўраду, а таксама падставы думаць, што ў Расіі магчымы пераход у праваслаўе пад націскам. Каталіцкі епіскап з гэтай нагоды даў тлумачэнні. Ён адзначыў, што дадзеная ўмова за ўвесь час яго кіравання епархіяй ставілася ўсяго толькі два — тры разы і што ён нават у думках не імкнуўся зняважыць "достоинство господствующей религии" [29. Ф. 378, спр. 132, арк. 1 — 3].

Праўда, сярод каталіцкіх святароў былі і такія, хто ўсяляк выказваў свае станоўчыя адносіны да ўрада і праваслаўнай царквы. 10 і 30 ліпеня 1840 г. Мінскі праваслаўны епіскап Антоній (Зубко) паведамляў у сакрэтных пісьмах у Пецярбург, што некаторыя з каталіцкіх ксяндзоў да праваслаўнай царквы "расположены" і прыкладваў іх распіскі. Так, прэлат Мінскай каталіцкай кафедры І.Дамброўскі пісаў: "Я гатовы ў свой час, калі гэта запатрабуе ўрад, далучыцца да праваслаўнай грэка-расійскай царквы і садзейнічаць такому далучэнню іншых". Ксёндз І.Кністовіч з м.Гарадок таксама быў згодны далучыцца да праваслаўя [13. Ф. 797, воп. 87, спр. 25, арк. 4, 7].

Але часцей узнікалі справы іншага характару. У 1840 г. разглядалася справа "о противозаконных поступках забельских ксендзов доминикан" (Дрысенскі павет Віцебскай губерні). Заключалася яна ў тым, што частка сваднянскіх прыхаджан (былых уніятаў) не жадала пераходзіць у праваслаўе, а перайшла ў каталіцтва. На ўсе звароты праваслаўнага духавенства сваднянскія прыхаджане заяўлялі, што "вера наша ёсць толькі адна... і мы яе ніколі не пакінем" або што "вера ваша руская ўсё роўна як жыдоўская" і лічылі за грэх хадзіць у царкву. У тым, што склалася такое становішча, былі абвінавачаны дамініканцы Забельскага кляштара, а таксама мясцовыя ксяндзы і дваране. Так, у 1842 г. у пісьме да генерал-губернатара П.Дзякава Полацкі праваслаўны архіепіскап В.Лужынскі абвінаваціў краслаўскага ксяндза Гасцьмінскага і арандатара-двараніна І.Загорскага ў падбухторванні сялян да імкнення застацца ў каталіцтве. Ён паведамляў 6 чэрвеня 1853 г., што праваслаўнае духавенства Дрысенскага павета скардзіцца на мясцовых ксяндзоў, асабліва Асвейскага дэкана Ралевіча, за знявагу праваслаўнай царквы і прапаганду сярод насельніцтва каталіцтва. Наогул хваляванні насельніцтва ў сувязі з пераходамі адбываліся на працягу ўсіх 50-х гг. у Дрысенскім павеце.

Ксяндзам было забаронена прымаць да споведзі праваслаўных (былых уніятаў), а калі такое адбывалася, то іх маглі прыцягнуць да суда [40. Ф. 629, спр. 80, арк. 3, 22, 23; 13. Ф. 822,

воп. 2, спр. 9148, арк. 1; ф. 821, воп. 1, спр. 255, арк. 6; 20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 13273, арк. 1; спр. 17388, арк. 1; ф. 1416, воп. 1, спр. 697, арк. 1].

Матэрыяльнае становішча каталіцкага духавенства на Беларусі традыцыйна было лепшым, чым уніяцкага, а пазней праваслаўнага. Гэта было абумоўлена ў першую чаргу тым, што сярод іх прыхаджан было шмат заможнага шляхецтва, якое ахвяравала на карысць касцёлаў і кляштараў фундушы (землі, грошы і інш.). Царскі ўрад праводзіў палітыку нівеліравання матэрыяльнага становішча духавенства розных канфесій. Згодна з указам 1842 г. была праведзена секулярызацыя духоўных маёмасцяў у заходніх губернях. Каталіцкім касцёлам дазвалялася мець 33 дзес. зямлі, а кляштарам — 130 дзес.

Урад, прыняўшы ў сваё ведамства населеныя маёнткі, адлічыў у казну для рымска-каталіцкага духавенства частку пазыковых абавязацельстваў на такую суму, каб працэнтаў з яе хапала на яго ўтрыманне згодна са штатным раскладам. У 20-я гг. XIX ст. па ініцыятыве каталіцкага мітрапаліта С.Богуша-Сестранцэвіча быў пакладзены пачатак фарміраванню дадатковага капіталу. Менавіта ён звярнуў увагу рымска-каталіцкай духоўнай калегіі на тое, што многія касцёлы і кляштары маюць лішак даходаў, у той час як другім іх не хапае. Духоўная калегія прыняла рашэнне адлічваць па 3 тыс. руб. у год з усіх каталіцкіх епархій Расійскай імперыі. На гэты ж рахунак пералічваліся і ўсе даўгі касцёлам і кляштарам, сумы пасля скасавання кляштараў у 30-я гг. У выніку дадатковы капітал рымска-каталіцкай духоўнай калегіі на 1 студзеня 1842 г. складаў 1 595 309 руб.

Па законах Расійскай імперыі дапаможны капітал лічыўся недатыкальным і рымска-каталіцкая калегія, у распараджэнні якой ён знаходзіўся, мела права расходаваць толькі працэнты з яго. Але і на гэта патрабаваўся спецыяльны дазвол: на суму 900 руб. для выплат дапамог духоўным асобам і 10 тыс. руб. на пабудову або рамонт храмаў — міністра ўнутраных спраў; а на больш значныя сумы — цара [13. Ф. 821, воп. 150, спр. 1001, арк. 13 — 15].

Царскі ўрад імкнуўся рознымі мерамі абмежаваць уплыў каталіцкага духавенства на мясцовае насельніцтва. 28 красавіка 1844 г. рымска-каталіцкая калегія паведаміла аб загадзе імператара зачыніць усе друкарні, якія былі падпарадкаваны рымска-каталіцкаму духавенству. Для друкавання "богослужебных книг, римско-католической церковию установленных" у Пецярбургу была заснавана друкарня пад нагля-

дам каталіцкай калегіі. Але па сабраных звестках аказалася, што была ўсяго адна друкарня ў віленскім місіянерскім кляштары, заснаваная яшчэ ў 1798 г. епіскапам Я. Касакоўскім [24. Ф. 604, воп. 4, спр. 283, арк. 2; ф. 378, 1840 г. спр. 586, арк. 3.4].

Існавалі і розныя абмежаванні і цяжкасці, звязаныя з будаўніцтвам новых касцёлаў. Так, у 1843 г. дваранства Віцебскай губерні хадайнічала перад міністрам унутраных спраў аб дазволе пабудаваць касцёлы ў тых месцах губерні, дзе іх не было на адлегласці 50 — 100 вёрстаў (Лепель, Себеж, Дрыса, Полацкі, Гарадзецкі і Суражскі паветы). На гэта той адказаў віцебскаму, смаленскаму і магілёўскаму генерал-губернатару, што па існуючай у Расіі верацярпімасці будаванне цэркваў не забаронена, але існуе ўстаноўлены парадак, у адпаведнасці з якім адно толькі дваранства не можа выходзіць з просьбай аб будаванні касцёлаў, таму што апошнія з'яўляюцца патрэбнасцю не толькі для дваран, але і для прыхаджан [13. Ф. 821, воп. 150, спр. 802, арк. 12; ф. 821, воп. 125, спр. 823, арк. 1, 2; 20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 14631, арк. 2, 3].

У 1848 г. было забаронена ў касцёлах прамаўляць казанні на рускай мове. Мікалай I загадаў "забараніць прамаўленне казанняў на рускай мове, а гаварыць іх на ўсіх замежных мовах". Пасля паўстання 1830 — 1831 гг. была ўведзена цэнзура на казанні. У 1852 г. Камітэт міністраў зноў адзначыў, каб каталіцкае духавенства прамаўляла толькі тыя казанні, якія надрукаваны па згодзе з вышэйшым духоўным кіраўніцтвам [24. Ф. 604, воп. 1, спр. 12108, арк. 2].

Адукацыю рымска-каталіцкае духавенства атрымлівала ў духоўных семінарыях і акадэміі. 26 лістапада 1832 г. былі зацверджаны правілы прыёму ў рымска-каталіцкія семінарыі, 19 лістапада — іх штаты. Казённых выхаванцаў у Віленскай семінарыі магло быць 40 чал., у Мінскай — 55. 1 ліпеня 1833 г. была скасавана Віленская каталіцкая духоўная акадэмія [41. С. 241].

Па канкардату (дагавору) ад 27 ліпеня 1847 г., заключанаму з Папай рымскім, нагляд за выхаваннем, навукай, унутранай дысцыплінай у семінарыях быў ускладзены на епархіяльнае кіраўніцтва. Да 1843 г. Магілёўская епархія мела семінарыі ў Магілёве, Беластоку і Краслаўцы, але ў іх было мала выхаванцаў і таму яны былі аб'яднаны ў адну — у Магілёве. У кастрычніку 1843 г. было загадана аб'яднаць семінарыю ў Магілёве з Мінскай. У Мінскай каталіцкай семінарыі штогод навучалася ад 75 да 100 семінарыстаў, працавала 9 — 10 настаўнікаў. На яе ўтрыманне выдзялялася з

рымска-каталіцкай калегіі ў год 8627 руб. срэбрам. У 1858 г. Папа рымскі даручыў каталіцкаму мітрапаліту В.Жылінскаму заснаваць семінарыю ў Магілёве. Але міністэрства ўнутраных спраў адхіліла прапанову мітрапаліта, матывуючы гэта адсутнасцю ў Магілёве прыгодных будынкаў. У 1859 г. мітрапаліт хадайнічаў аб адкрыцці семінарыі ў Краслаўцы. Але ў сувязі з хваляваннямі 1857 і 1858 гг. у Дзярновічах, якія знаходзіліся паблізу, вырашэнне гэтай справы было адкладзена [42. С. 443; 13. Ф. 821, воп. 150, спр. 802, арк. 17 — 18; 24. Ф. 604, воп. 4, спр. 152, арк. 68, 72, 73].

Каталіцтва, якое было пануючым веравызнаннем Рэчы Паспалітай, з уваходжаннем яе ў склад Расійскай імперыі пачало лічыцца "цярпімым". Царскі ўрад не мог не лічыцца з магнатамі і памешчыкамі гэтай тэрыторыі, якія ў асноўным былі каталікамі, з каталіцкім духавенствам, якое пры сваіх кляштарах і касцёлах займалася выхаваннем моладзі. Адносіны ўрада з каталіцтвам складваліся па-рознаму. Значная частка ўказаў была накіравана на перапыненне непасрэдных адносін каталіцкага кіраўніцтва з Папай рымскім, адрыў манаскіх ордэнаў ад сваіх генералаў і інш. Абсалютысцкая манархія Расійскай імперыі не магла дазволіць падпарадкоўвацца нікому, акрамя імператара. Адносіны царскага ўрада з каталіцтвам былі то даволі спакойныя (як гэта было ў час праўлення Кацярыны II і Паўла I), то дрэнныя (пры Мікалаі I), што было выклікана ўдзелам каталіцкага духавенства ў паўстанні 1830 — 1831 гг. і самавольным пераходам часткі былых уніятаў у каталіцтва. Але трэба адзначыць, што на працягу 1772 — 1860 гг. каталіцкая канфесія на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў, нягледзячы на яе "цярпімае" становішча, заставалася самай багатай і ўплывовай.

## 1.3. ЗМЕНЫ Ў СТАНОВІШЧЫ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

У другой палове XVIII ст. на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай захавалася толькі адна праваслаўная епархія Беларуская з цэнтрам у Магілёве. Яшчэ па ўмовах трактата аб "вечным міры" (1686 г.), што быў заключаны паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай, праваслаўных епіскапаў у Рэчы Паспалітай назначаў Кіеўскі мітрапаліт, рускі падданы, а кароль толькі зацвярджаў іх. Гэта давала падставы Расійскай дзяржаве на працягу ўсяго XVIII ст. умешвацца ва

ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. А тая, у сваю чаргу, лічыла праваслаўных чужародным элементам. З 1755 г. Беларускую праваслаўную епархію, у якой налічвалася каля 130 цэркваў, узначальваў епіскап Георгій (Каніскі). У пісьме да архімандрыта Данскога епіскап Георгій пісаў, што сустракаўся з многімі праваслаўнымі свяшчэннікамі, якія ні на рускай, ні на польской мове пісаць не ўмелі. І некаторыя з іх не ведалі нават колькасці запаведзяў і таінстваў, а навошта патрэбен Хрыстос, аб тым і пытацца не было патрэбы [43. С. 335].

Колькасць праваслаўнага насельніцтва на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ў канцы XVIII ст. дасягала 250 тыс. чалавек [65. С. 66]. У Расійскай імперыі праваслаўе было пануючай канфесіяй і таму асноўным кірункам палітыкі царскага ўрада пасля далучэння тэрыторыі стала ўмацаванне ў ёй праваслаўя. Галоўным рэзервам для павелічэння праваслаўнай паствы было уніяцкае насельніцтва. Адразу пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. епіскап Георгій (Каніскі) звярнуўся да Кацярыны II з просьбай аб пераводзе уніятаў у праваслаўе. У ліпені 1780 г. быў дадзены дазвол назначаць праваслаўных свяшчэннікаў на вакантныя пасады ва уніяцкія цэрквы, калі гэтага жадалі прыхаджане.

Пачатак 80-х гг. азнаменаваўся шэрагам пераходаў уніятаў у праваслаўе. Так, па звестках, якія былі прадстаўлены епіскапам Георгіем (Каніскім) у Св.Сінод, у 1781 г. да праваслаўя далучылася 66 уніяцкіх цэркваў з 385 069 прыхаджанамі і 35 святарамі; у 1782 г. — 17 цэркваў з 17 824 прыхаджанамі; у 1783 г. — 12 цэркваў з 9680 прыхаджанамі. Пераходы адбываліся галоўным чынам у тых прыходах, дзе ўладальнікамі вёсак сталі рускія. Потым гэты працэс перапыніўся да 1795 г. [44. С. 2, 4, 5].

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) на далучаных тэрыторыях была створана Мінская, Ізяслаўская і Брацлаўская праваслаўная епархія. Узначаліў яе архіепіскап Віктар (Садкоўскі). У 1793 г. у гэтай вялікай па тэрыторыі епархіі было толькі 329 цэркваў. Але і на іх не хапала святароў. Па рэвізіі 1795 г. іх было толькі 160. Мала было дзячкоў і манахаў.

Як і ў Беларускай (Магілёўскай) епархіі, у Мінскай, Ізяслаўскай і Брацлаўскай епархіі была магчымасць павялічыць колькасць праваслаўных вернікаў за кошт уніятаў, тым больш што да архіепіскапа Віктара пачалі паступаць прашэнні ад уніятаў з просьбамі вярнуць іх да

праваслаўя. 22 красавіка 1794 г. Св.Сінод абмеркаваў гэтае пытанне. Архіепіскапу Віктару было даручана абнародаваць пастырскую грамату з заклікамі вярнуцца ў праваслаўе.

На пасяджэнні Св.Сінода была заслухана і прынята інструкцыя аб парадку далучэння. Згодна з ёй духоўная ўлада не магла дзейнічаць самастойна, а толькі па ўзгадненні са свецкай. Архіепіскап Віктар усе прашэнні, якія паступалі да яго, павінен быў накіроўваць да грамадзянскіх улад. Апошнія пасля праверкі зноў адсылалі іх да духоўных улад, каб не было фальсіфікацый. Пастырскія граматы, згодна з інструкцыяй, павінны былі абнародавацца шляхам чытання іх у праваслаўных цэрквах, а дзе іх не было — у месцах, вызначаных архіепіскапам. Усе звесткі аб далучаных прыходах і асобах павінны былі быць сканцэнтраваны ў генерал-губернатара, які ў сваю чаргу паведамляў іх уніяцкім архірэям, каб да далучанага уніяцкага духавенства і прыхаджан яны ніякай справы ўжо не мелі [5. С. 167 — 173].

Свае станоўчыя адносіны да гэтага пытання выказала і Кацярына II ў рэскрыпце да генерал-губернатара Ц.Туталміна. Разам з тым яна адзначала, што пераход павінен адбывацца павольна і каб уладальнікі і чыноўнікі рымска-каталіцкага веравызнання не чынілі ніякіх перашкод.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) тэрыторыя Мінскай, Ізяслаўскай і Брацлаўскай праваслаўнай епархіі значна павялічылася. Кацярына II прызначыла камісію для распрацоўкі мер па яе ўладкаванні. У склад камісіі ўвайшлі мітрапаліт Гаўрыіл, канцлер граф А.Безбародзька і генерал-губернатар Ц. Туталмін. Па праекце, распрацаваным камісіяй, з гэтай епархіі была вылучана адна самастойная епархія і адна вікарная. Кафедра епархіяльнага архірэя са Слуцка пераносілася ў Мінск. У праваслаўнае ведамства пераходзілі два мінскія базільянскія манастыры. Для 12 акруг было назначана 28 благачынных з ліку лепшых свяшчэннікаў Мінскай епархіі.

Мінскай духоўнай кансісторыі не хапала свяшчэннікаў і царкоўнай атрыбутыкі. Са Смаленскай епархіі было выклікана 60 свяшчэннікаў. Недахоп прывёў нават да некаторых адыходаў ад канонаў праваслаўнай царквы. Сярод былых уніяцкіх свяшчэннікаў былі ўдаўцы, якія ажаніліся ў другі раз з дазволу уніяцкага епіскапа. Праваслаўнаму ж свяшчэнніку дазвалялася ажаніцца толькі адзін раз. Некаторыя з далучаных свяшчэннікаў, якія заставаліся без месцаў і былі жанаты ў другі раз, звярнуліся ў епархію за ўладкаваннем. Св.Сінод

вырашыў прадастаўляць ім месцы [45. С. 234 — 236, 246, 247, 251, 252].

У Мінскай праваслаўнай епархіі ўскладніліся адносіны паміж праваслаўным і уніяцкім духавенствам. Апошняе пераконвала сваіх прыхаджан трымацца уніяцкай веры і распаўсюджвала чуткі, што справа далучэння ідзе не ад Кацярыны II, а ад архіепіскапа Віктара. Распаўсюджваліся таксама чуткі, што благачынныя — гэта "антыхрыставы апосталы", што хутка адбудзецца канец свету, што землі зноў адыйдуць да Польшчы. Благачынныя сустракалі недавер з боку народа. "Поспеха больш не маю, — пісаў благачынны Вілейскай акругі, — у іншых прыходах і цэрквах абывацелі ні пад якім відам далучацца да праваслаўя не жадаюць... Большая частка уніятаў змешана з каталікамі". У в.Саламарэчча, Мацкі Мінскага павета і суседніх вёсках благачынны пачуў ад прыхаджан наступныя выказванні: "У якой веры нарадзіліся, у той і памрэм; якую веру дзяды спавядалі — не ведаем, але сваю ламаць не будзем". У некаторых месцах сяляне адмаўляліся называць свае прозвішчы для запісу ў метрычныя кнігі.

Дзейнасць благачынных па далучэнні уніятаў выклікала супраціўленне і мясцовай шляхты. Пінскі благачынны Сушчынскі далучыў, згодна з паданым яму прашэннем, Пінскі уніяцкі прыход, асвяціў па праваслаўным абрадзе мясцовую царкву, якая калісьці была езуіцкім касцёлам. Шляхта Пінскай акругі падала губернатару і генерал-губернатару калектыўную скаргу, у якой патрабавала вярнуць касцёл каталікам або пабудаваць ім новы. У ходзе расследавання высветлілася, што пасля канфіскацыі езуіцкіх касцёлаў у Рэчы Паспалітай, у сувязі са скасаваннем ордэна, будынак быў куплены і стаў маёмасцю уніяцкай царквы [45. С. 255 — 257].

Цікавыя звесткі аб спробах пераводу уніятаў у Магілёўскай губерні пакінуў Г.Дабрынін, які ў 1795 г. працаваў у Магілёве губернскім страпчым. Для правядзення агітацыі яму дастаўся Сенненскі павет. "Усіх цэркваў уніяцкіх ва ўсім Сенненскім павеце 33, якія ўсе мы наведалі, каля ўсялякай царквы збіралі прыхаджан, абвешчаных праз земскага спраўніка, каб па прыездзе не траціць часу, пры кожнай царкве чыталі ім загады, прадпісанні, пыталі аб вольнай схільнасці іх да змянення веры, або, лепей сказаць, аднаго толькі перайменавання веры. Угаворвалі іх праз духоўнага дэпутата і не атрымалі ні адзінай душы, якая б пажадала

адысці ад уніяцкай і далучыцца да грэка-расійскай царквы" [46. С. 298].

Але справа далучэння ўсё ж ішла. У межах Мінскай губерні былі далучаны 34 прыходскія царквы, 8 прыпісных і 5 капліц з 3 свяшчэннікамі і каля 20 тыс. прыхаджан.

Разам з тым палітыка ўрада не заўсёды была паслядоўнай. Указ 6 верасня 1795 г. назначаў пажыццёвую пенсію тым уніяцкім свяшчэннікам, якія не перайшлі ў праваслаўе і заставаліся без прыходаў. Ён быў успрыняты народам як узнагарода духавенству, якое было верным уніі [45. С. 262, 263, 292].

Такім чынам, дзякуючы таму, што ў канцы XVIII ст. праводзілася палітыка па далучэнні уніятаў да праваслаўя, колькасць праваслаўных цэркваў, прыхаджан, свяшчэннікаў у беларускіх губернях павялічылася. Па звестках Беларускага (Магілёўскага) епіскапа Анастасія, яго епархія ў 1798 г. складалася з 385 цэркваў. У 1798 г. у епархіі былі заснаваны архімандрыі ў Магілёве, Полацку і Віцебску, а ў 1805 г. — у Оршы. На працягу 1795 — 1832 гг. у Магілёўскую (Беларускую) епархію ўваходзілі тэрыторыі Магілёўскай і Віцебскай губерняў. У 1803 г. у ёй было 380 прыходаў. У 1831 г. у епархіі налічвалася 365 061 праваслаўны [48. С. 1; 49. С. 1; 20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 593, арк. 27].

Межы ж Мінскай епархіі часта змяньваліся. Першапачаткова яны вызначаліся трыма губернямі — Мінскай, Ізяслаўскай і Брацлаўскай (Украіна). Але ў сувязі з тым, што не было праведзена дакладнае размежаванне епархій, архіепіскапу Віктару былі падпарадкаваны ўсе праваслаўныя цэрквы і манастыры, якія яшчэ да трэцяга падзелу заставаліся ў межах Рэчы Паспалітай. Пасля апошняга падзелу да Расіі былі далучаны землі, на якіх не было і дзесятка праваслаўных цэркваў. Але тэрытарыяльна межы епархіі значна павялічыліся і заставаліся вялікімі і пасля стварэння Брацлаўскай і Валынскай епархій. Па ведамасці 1793 г. у межах Мінскай, Брацлаўскай і Ізяслаўскай епархіі было 329 цэркваў, 22 мужчынскія і 4 жаночыя манастыры. Пасля стварэння новых епархій засталося 200 цэркваў. У Мінскую епархію увайшла тэрыторыя Міншчыны, Віленшчыны, Ковеншчыны і Гродзеншчыны.

У межах Мінскай губерні было шэсць духоўных праўленняў: Слуцкае, Петрыкаўскае, Мазырскае, Тураўскае, Давыдгарадокскае і Пінскае. Раён улады духоўнага праўлення абмяжоўваўся межамі пратапопій, у склад якіх уваходзіла розная колькасць цэркваў — ад 3 да 114, на чале якіх стаяў

пратапоп, якому падпарадкоўвалася мясцовае духавенства. Духоўная семінарыя была заснавана ў 1785 г., у 1794/95 навучальным годзе колькасць вучняў была 54 чал. Па ведамасці 1795 г. агульная колькасць духавенства ў епархіі была: протаіерэяў — 4, святчэннікаў — 185, дыяканаў — 3, дзячкоў — 11, панамароў — 80. У большасці гэта былі свяшчэннікі, якія не мелі належнай царкоўнай адукацыі. Жалаванне з казны яны не атрымлівалі, даходаў за трэбы было мала, таму ім прыходзілася займацца земляробчай працай, каб пракарміць сям'ю.

У далейшым межы Мінскай епархіі працягвалі мяняцца ў сувязі са зменамі межаў заходніх губерняў у гады праўлення Паўла І. Указам ад 4 жніўня 1799 г. было вырашана сумясціць межы ўсіх епархій з межамі губерняў. Мінская епархія была перайменавана ў Мінскую і Літоўскую. У яе склад былі залічаны новыя губерні: Літоўска-Віленская і Літоўска-Гродзенская, якія не мелі ніводнай праваслаўнай царквы на сваёй тэрыторыі. Колькасць прыходаў у епархіі была ў 1799 г. — 268, у 1810 — 273. Да 1807 г. праваслаўныя цэрквы былі заснаваны ва ўсіх павятовых гарадах толькі Мінскай губерні.

Прыходскія цэрквы спачатку утрымліваліся выключна на добраахвотныя ахвяраванні. У 1798 г. Св.Сінод загадаў мінскаму епіскапу Іову ўвесці ў сваёй епархіі продаж свечак на ўтрыманне цэркваў. Але гэта былі мізэрныя грошы. Буйныя ж прыватныя ахвяраванні на праваслаўную царкву сустракаліся рэдка [45. С. 297 — 299, 306, 307, 309, 313, 326 — 329, 397, 445, 447, 448, 454, 553].

Такімі ж беднымі, як праваслаўныя цэрквы, былі і праваслаўныя манастыры. Толькі некаторыя з іх жылі больш-менш у дастатку. Так, Дзятлавічскі манастыр атрымліваў у год 600 руб. даходаў і лічыўся самым багатым у Мінскай епархіі. Большая ж частка толькі зводзіла канцы з канцамі.

Праваслаўныя манастыры падзяляліся па штатным разліку на лаўры, кафедральныя, 1, 2, 3 класаў, заштатныя, прыпісныя і скасаваныя. Усяго ў 1795 г. на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў існаваў 1 манастыр 1 класа, 2 — 2 класа, 28 заштатных, 3 скасаваных. З 1797 г. манастыры 1 класа атрымлівалі ад дзяржавы 1753 руб. у год, 2 класа — 1095 руб., заштатныя грошай не атрымлівалі. Казна ім аказвала дапамогу 300 руб. у год. Норма манастырскіх уладанняў была 30 дзес. зямлі [45. С. 323; 66. С. 2, 4, 12, 13, 28].

11 студзеня 1798 г. Павел І зацвердзіў агульнае рашэнне Св. Сінода і Сената аб дазволе прыхаджанам карыстацца цар-

коўнай зямлёй, за што духавенства павінна было атрымліваць ад іх утрыманне (натурай або грашыма) ва ўстаноўленым аб'ёме. Выкананне гэтага ўказа было ўскладзена на кіраўнікоў губерняў. Справа была няпростай і выклікала непаразуменні. Памешчыкі забіралі сабе царкоўную зямлю, а духавенству давалі недастатковае ўтрыманне. У некаторых месцах прыхаджане выдзялялі людзей для апрацоўкі царкоўнай зямлі, але рабілася гэта несвоечасова. У выніку пытанне матэрыяльнага забеспячэння праваслаўных святароў так і не было вырашана. Таму ў 1801 г. рашэнне 11 студзеня 1798 г. было адменена. Духавенства, як і раней, павінна было само апрацоўваць царкоўную зямлю. Але гэта прывяло да новых сварак, таму што памешчыкі, якія забралі зямлю, узамен вярталі іншыя ўчасткі, дрэнныя і меншых памераў. Пачаліся доўгія судовыя цяжбы, бо ў большасці выпадкаў ніякіх дакументаў не было, а мясцовая адміністрацыя адстойвала інтарэсы памешчыкаў [48. С. 2, 5, 9, 10].

На пачатку XIX ст. галоўнай крыніцай матэрыяльнага забеспячэння праваслаўных свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў заставаліся царкоўныя надзелы пры цэрквах. У 1807 г. 273 цэрквам Мінскай епархіі належала зямлі 442,5 валокі, 890 моргаў, 462 дзес. і 243 прэнты, сенакоснай — 520,5 моргаў, на 8176 вазоў і на 600 коп. Мінімальны царкоўны зямельны надзел складаў 1/5 валокі, максімальны — 349 дзес. Землі гэтыя, як правіла, апрацоўвалі самі свяшчэннікі. Толькі пры некаторых з іх былі сяляне, якіх усяго па епархіі было 619 душ абодвух палоў. Указам ад 3 снежня 1798 г. царкоўныя дамы, якія не аддаваліся ў арэнду, былі вызвалены ад збору на ўтрыманне паліцыі [45. С. 459, 461].

Беднасць праваслаўных святароў і прыхаджан прывяла да таго, што ў пачатку XIX ст. колькасць праваслаўных цэркваў паменшылася. Гэта было звязана з пажарамі і адсутнасцю сродкаў на адбудаванне згарэлых будынкаў. Дзяржава дапамагала толькі ў выключных выпадках, як, напрыклад, пасля вайны 1812 г. Зменшылася і колькасць прыходаў, бо ў прыхаджан не было сродкаў на ўтрыманне святароў.

У пачатку 30-х гг. у Мінскай епархіі было больш за 230 тыс. прыхаджан. У гэты перыяд было мала выпадкаў далучэння да праваслаўя уніятаў або каталікоў. Напрыклад, у 1825 г. па Мінскай епархіі было далучана 14 чалавек, з іх 9 каталікоў і 1 уніят; у 1831 г. з 22 — 8 каталікоў і 8 уніятаў [45. С. 537, 539, 557, 558, 570].

3 красавіка 1833 г. была створана новая праваслаўная епархія — Полацкая, у складзе Віцебскай і Віленскай губер-

няў. Мінская ж засталася ў межах Мінскай і Гродзенскай губерняў і Беластоцкай вобласці. Ад Пскоўскай епархіі да яе адышла Курляндыя. У новых межах у Мінскую епархію у 1834 г. уваходзіла 277 цэркваў з 241 028 прыхаджанамі [45. С. 573].

У адноўленую Полацкую праваслаўную епархію быў назначаны епіскап Смарагд (Крыжаноўскі). Ён пачаў зноў праводзіць палітыку схілення не толькі уніятаў, але і каталікоў, да праваслаўя. У жніўні 1833 г. з Полацка ён выехаў у Віцебск, а потым пачаў аб'езд Віцебскай губерні і паведаміў Св.Сіноду аб далучэнні 3 тыс. чалавек з 3 цэрквамі. У Веліжскім павеце ён далучыў 700 каталікоў з касцёлам. "Гэта ўсё роўна, што з зубоў воўчых выхапленая, яшчэ жывая дабыча", — пісаў епіскап [19. Ф. 797, воп. 87, спр. 9, арк. 7, 27, 28, 44]. Становішча праваслаўных у Віленскай губерні ён характарызаваў у 1834 г. як "абсалютную бесцаркоўшчыну і беспапоўшчыну". Прыхаджане скардзіліся яму, што з-за празмернага аддалення цэркваў яны не мелі магчымасці выконваць свае абавязкі веруючых і таму вымушаны былі пераходзіць у каталіцтва або раскол [50. С. 429].

У выніку актыўнай дзейнасці епіскапа Смарагда ў Полацкай епархіі за 1833 г. было далучана з каталіцтва 790 чал., з уніяцтва — 29 460 з 22 цэрквамі і прыходамі; у 1834 г. з каталіцтва — 32, з уніяцтва — 20 990 з 16 цэрквамі; у 1835 г. з каталіцтва — 932 і з уніяцтва — 71 966 з 53 цэрквамі і 7 прыходамі [18. С. 125, 126].

Пасля канчатковага далучэння уніяцкай царквы да праваслаўнай у 1839 г. была створана новая Літоўская праваслаўная епархія. У 1840 г. у ёй адбыліся тэрытарыяльныя змены. Цэрквы Мінскай губерні, што належалі да былой уніяцкай Літоўскай епархіі, перайшлі да Мінскай праваслаўнай, а старажытнаправаслаўныя цэрквы апошняй, якія былі ў Гродзенскай губерні і Беластоцкай вобласці, — да Літоўскай праваслаўнай епархіі. Старажытнаправаслаўныя цэрквы Віленскай губерні з Полацкай епархіі перайшлі да Літоўскай. З 6 красавіка 1840 г. архіепіскапам Літоўскім і Віленскім і архімандрытам Троіцкага Віленскага манастыра стаў Іосіф (Сямашка). У 1842 г. была створана Ковенская губерня і зноў адбыліся тэрытарыяльныя змены. З таго часу ў склад Літоўскай праваслаўнай епархіі ўваходзілі тэрыторыі Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губерняў [51. С. 5, 6, 50 — 52; 24. Ф. 572, воп. 1, спр. 133, арк. 8; 52. Ф. 1, воп. 13, спр. 506, арк. 10].

Пасля 1839 г. духавенства Літоўскай праваслаўнай епархіі, за невялікім выключэннем, складалася з былых уніятаў.

Архіепіскап Іосіф адмоўна ставіўся да прыняцця ў епархію духавенства з іншых месцаў, асабліва з велікарускіх губерняў. Ён звяртаўся за дапамогай туды толькі ў выключных выпадках. Калі ў 1850 г. Св.Сінод звярнуў увагу на тое, што ў епархіі былі вакансіі, і прапанаваў архіепіскапу прысланць кандыдатаў з велікарускіх губерняў, той адмовіўся, сказаўшы, што гэтыя месцы будуць заняты выпускнікамі Літоўскай духоўнай семінарыі (былой уніяцкай, адчыненай у 1828 г.).

Большасць былога уніяцкага духавенства была слабаадукаванай. У справаздачы рэвізій цэркваў Літоўскай епархіі у 1850 г. гаварылася, што духавенства не займалася далейшай адукацыяй, не мела падручнікаў. Нават Біблію мелі толькі некаторыя святчэннікі. Дзеці свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў дрэнна ведалі малітвы на царкоўнаславянскай мове. Таму 6 сакавіка 1855 г. Літоўская кансісторыя выдала загад, каб усе свяшчэннікі епархіі на працягу года навучылі дзяцей малітвам на царкоўнаславянскай мове, а 30 лістапада 1857 г. загадала вучыць усіх прыхаджан малітвам на гэтай мове [51. С. 96, 97, 100, 101; 8. Т. 2. С. 345, 346].

У першыя гады пасля далучэння духавенства Літоўскай епархіі акрамя даходаў ад прыхаджан карысталася яшчэ былымі уніяцкімі даходамі з нерухомай маёмасці і капіталаў, а таксама зямлёй, дзесяцінай і ануатай, мела фундушных сялян для працы. Царскі урад вырашыў забраць у духавенства ўсіх канфесій заходніх губерняў маёнткі і сялян, а замест гэтага назначыць жалаванне. Мітрапаліт Іосіф (Сямашка) выказаўся супраць. Ён лічыў, што ў гэтым выпадку свяшчэннікі трапяць у залежнасць ад памешчыкаў-каталікоў. На яго думку, калі ўз'яднаныя манастыры застануцца без сваіх маёнткаў, то яны будуць абмежаваны ў сродках [8. Гл.1. С. 101]. Тым не менш 25 снежня 1841 г. выйшаў загад аб перадачы нерухомых населеных маёнткаў праваслаўных манастыроў і духавенства ў нагляд і кіраванне Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў.

Праваслаўнае духавенства выказала сваю незадаволенасць. Полацкі праваслаўны архіепіскап Васілій (Лужынскі) з гэтай нагоды адзначыў, што аб абяцаных надзелах кіраўнікі губерняў "і думаць не жадалі. Дзесяткі гадоў манастыры і архірэйскі дом заставаліся без оных". І гэта ў той час, калі каталіцкія кляштары і духавенства пасля перадачы сваіх маёнткаў атрымалі багатыя надзелы з тых жа маёнткаў [21. С. 189, 219, 220].

Загадам ад 20 ліпеня 1842 г. было ўведзена Палажэнне аб забеспячэнні праваслаўнага духавенства Заходняга края. Пры

ўвядзенні новых штатаў клас прыхода вызначаўся колькасцю прыхаджан. У прыходзе 1-га класа свяшчэннік атрымліваў па 180 руб. срэбрам у год, дыякан — 80, дзяк — 40, панамар — 32; а ў прыходзе 7 класа свяшчэннік — 100 руб., дыякан — 40. Акрамя таго, прычтам сельскіх прыходаў выдзялялася 33 дзес. зямлі.

Палажэнне 1842 г. выклікала непажаданыя адносіны паміж духавенствам і прыхаджанамі, якія павінны былі апрацоўваць зямлю свяшчэннікаў, будаваць для прычта дамы і цэрквы, дастаўляць паліва, чаго яны не рабілі, калі былі уніятамі. Св. Сінод прадпісаў епархіяльным архірэям, каб яны па меры ўвядзення Палажэння адмянялі ў сельскіх прыходах збіранне платы за самыя неабходныя адправы. Новае Палажэнне не палепшыла матэрыяльнае становішча праваслаўных свяшчэннікаў. У 1848 г. мітрапаліт Іосіф хадайнічаў аб назначэнні дадатковага жалавання для 19 прычтаў тых сельскіх цэркваў, прыхаджане якіх жылі паміж каталікамі і дзе свяшчэннікі аказаліся практычна незабяспечанымі. А ў 1859 г. ён жа хадайнічаў аб прыбаўцы жалавання свяшчэннікам 259 прыходаў [51. С. 176 — 179].

Даходы ад продажу свечак былі зусім мізэрныя. Гэта было звязана з тым, што ў уніятаў не было звычая ставіць свечы перад іконай. Таму і пасля далучэння ў многіх месцах Літоўскай епархіі працягвалі прытрымлівацца гэтай традыцыі. Так, у 1845 г. у Літоўскую духоўную кансісторыю было дастаўлена свечачнага збору са Свянцянскай благачыннай акругі 1 руб. 70 кап., ад Слонімскай — 1 руб. 98 кап., Скідзельскай — 1 руб. 20 кап., Вілейскай — 6 руб., Друйскай — 2 руб. 40 кап. і г.д.

Пасля далучэння уніятаў Св.Сінод прадпісаў духавенству заходніх губерняў чытаць у цэрквах у нядзелю або ў святочныя дні казанні на простай, агульназразумелай мове. Мелася на ўвазе для беларусаў мова беларуская. Для выканання прадпісання мітрапаліт Іосіф прапанаваў духавенству Літоўскай епархіі, каб менш вопытныя свяшчэннікі звярталіся за дапамогай да больш адукаваных. Але аказалася, што свяшчэннікі лепш ведалі польскую мову. Таксама дрэнна абстаялі справы і з царкоўнаславянскай мовай. Рэвізія цэркваў Літоўскай епархіі ў 1850 г. паказала, што нават многія царкоўнаслужыцелі не ведалі малітваў на царкоўнаславянскай мове. У 12 благачынных акругах у сем'ях свяшчэннікаў і царкоўнаслужыцеляў таксама не

ўсе ведалі малітвы на гэтай мове. Не мела поспеху і абучэнне прыхаджан гэтым малітвам [51. С. 445, 453, 456].

У 1842 г. Св.Сінод загадаў духавенству Літоўскай, Мінскай, Полацкай і Магілёўскай епархій пачаць вяртанне былых уніятаў у праваслаўе з каталіцтва. Гэта было звязана з тым, што пасля далучэння уніятаў да праваслаўнай царквы некаторая іх частка без дазволу царкоўных улад перайшла ў каталіцтва. Справа гэтая была даволі далікатная, аб чым неаднаразова папярэджваліся тыя, хто павінен быў яе выконваць. Ішла яна даволі марудна. У сакавіку 1853 г. дрысенскі благачынны протаіерэй Лапо змог вярнуць у праваслаўе толькі 49 чалавек з Забельскага, Свалнянскага і Асвейскага прыходаў. Калі ён паехаў зноў па прыходах, то звярнуўся да сялян з пытаннем, чаму яны адмаўляюцца пераходзіць у праваслаўе. Тыя адказалі, што іх затрымлівае ў каталіцтве іх памешчык-каталік Шадурскі.

Сяляне не жадалі пераходзіць у праваслаўе, нягледзячы на чуткі аб тым, што іх могуць выслаць у Сібір або адправіць у салдаты. У 1854 г. у сувязі з гэтым па Віцебскай губерні было праведзена сакрэтнае дазнанне. У ходзе яго высветлілася, што, нягледзячы на тое, што губерня ўжо даўно знаходзіцца ў складзе Расійскай імперыі, насельніцтва не перастала называць сябе палякамі, а праваслаўных — маскалямі. Памешчыкі ж размаўляюць або па-французску, або папольску [20. Ф. 26, воп. 1, спр. 125, арк. 31; спр. 128, арк. 1; ф. 2514, воп. 1. спр. 114, арк. 29].

Каб выправіць становішча і ўзмацніць праваслаўе ў беларуска-літоўскіх губернях, сенатар М.П.Шчарбінін унёс прапанову накіраваць туды праваслаўных місіянераў з унутраных губерняў Расіі. Мітрапаліт Іосіф выказаўся супраць гэтага. Ён пісаў: “Навошта гэта патрэбна? Для ўсілення праваслаўя, кажуць. Але гэта азначае няведанне ўз’яднаных. Няўжо яны прыйшлі ў праваслаўе з язычніцтва, магаметанства або з якой-небудзь ерасі... Забываюць і аб тым, што ўз’яднаныя складаюцца, галоўным чынам, з простага беларускага або мала-расійскага народа, які не разумее мову вучоных місіянераў. І яшчэ, ці можна дагэтуль рабіць розніцу паміж старажытнаправаслаўнымі і ўз’яднанымі свяшчэннікамі” [8. Т. 2. С. 633 — 635; 13. Ф. 1284, воп. 225, спр. 42, арк. 1].

Кіраўніцтва епархій змагалася з тым, каб былыя уніяцкія свяшчэннікі і ў праваслаўі не галілі бароды, не мелі жонак і дачок, якія трымаліся б каталіцкай веры. У сакавіку 1846 г. Мітрапаліт Іосіф пісаў у Св.Сінод аб тым, што шлюбы

уніяцкага духавенства з каталічкамі вельмі распаўсюджаны. Але ён забараніў іх задоўга да далучэння уніятаў да праваслаўнай царквы, і таму ў Літоўскай епархіі іх засталося мала. Але ў сувязі з далучэннем да епархіі цэркваў Дзісненскага і Вілейскага паветаў "з'явіліся шматлікія справы аб "совращенных в латинство" былых уніятах, якія паказвалі на жонак і дзяцей сваіх духоўных, якія былі каталікамі". Мітрапаліт адзначаў, што ў сувязі з тым, што некаторыя з жонак не пажадалі пераходзіць у праваслаўе, ён быў вымушаны перавесці двух свяшчэннікаў у другія прыходы.

Няпроста складваліся адносіны паміж старажытнаправаслаўным і ўз'яднаным духавенствам. Прычым апошняму не зусім давярала рускае кіраўніцтва губерняў. "Цяжка называцца ўз'яднаным, — пісаў мітрапаліт Іосіф, — я адчуваю гэта праз дзесяць гадоў. Калі да мяне адносіліся так невысакародна, нечыстасардэчна, то чаго чакаць беднаму простаму духавенству, якое знаходзіцца паміж рускімі стражытнаправаслаўнымі і палякамі-рымлянамі і не ведае, каго больш баяцца: прадузятасці і непрадбачлівасці першых ці падкупоў і варожасці апошніх" [8. Т. 2. С. 382].

Усё гэта спараджала адмоўныя адносіны прыхаджан, былых уніятаў, якія больш хіліліся да каталіцкага касцёла, чым да праваслаўнай царквы. Мінскі праваслаўны епіскап Міхаіл (Галубовіч) падчас агляду сваёй епархіі ў 1848 г. адзначаў, што яго найбольш уразіла невуцтва сельскіх прыхаджан у рэлігіі, дзе хрысціліся "па-польску" толькі старыя і ведалі штодзённыя малітвы. У 1860 г. у Мінскай епархіі было 535 праваслаўных прыходаў, з якіх 322 былі далучаны з уніяцтва ў 1839 г. Сучаснікі пісалі: "Даследуйце душу былога уніята і вы часцей знойдзеце ў ёй такія рысы, якія прама ўказваюць на поўны індэферэнтызм, на нейкую абыякавасць у справах веры. Спытайце, напрыклад, у былога уніята, якой ён веры: "а казённай, паночку", — адкажуць вам некаторыя, разумеючы пад гэтай назвай, вядома, веру праваслаўную; іншыя ж і цяпер яшчэ працягваюць даваць ёй уціхую назву схізмаціцкай" [42. С. 444].

Практычна тое ж пісаў віцебскі, магілёўскі і смаленскі генерал-губернатар П.Ігнацьеў у запісцы імператару ад 20 студзеня 1855 г. Ён адзначаў, што былое уніяцкае духавенства пры пераходзе ў праваслаўе "не змяніла былых звычаяў сваіх, з польскай мовай зберагле яны ўсе прадстаўленні сваіх настаўнікаў... Большая частка сялян не толькі не ведае ніводнай малітвы, але нават на пытанне: якой веры, адказвае:

новай веры, і пры далейшым тлумачэнні дабаўляе: раней былі польскай, а цяпер, здаецца, рускай" [21. С. 235, 236].

У нешматлікіх праваслаўнах манастырах жылі людзі розных саслоўяў і нацый. Так, у ведамасці віцебскага Маркава манастыра за 1808 г. запісана, што ігумен Захарый з духоўных, маларос; іераманах Фалалей з мяшчан, беларускай нацыі: іерадыякан Ілія з купцоў, польскай нацыі; архімандрыт Іосіф з дваран, малароскай нацыі і інш. Узрост манахаў і манашак у сярэднім вагаўся ад 40 да 70 гадоў, больш маладымі былі паслушнікі. Адукацыя манаства была невысокай. Як правіла, толькі настаяцелі заканчвалі вышэйшыя духоўныя ўстановы, манахі ж аб сваёй адукацыі звычайна пісалі: "навучаўся дома польскай і рускай мовам" [20. Ф. 2311, воп. 1, спр. 116, арк. 5].

З часу далучэння тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі практычна знікаўшае там праваслаўе стала пануючай рэлігіяй. Але, нягледзячы на павелічэнне колькасці вернікаў, якое адбылося ў асноўным за кошт скасавання уніяцкай царквы, яно не стала ўплывовым. Веруючымі ў асноўным былі прыгонныя сяляне, невялікая колькасць беднай шляхты і мяшчане. Памешчыкі-каталікі не клапаціліся аб уладкаванні праваслаўных цэркваў, адукацыі сваіх прыгонных-праваслаўных. Слабаадукаванае, маючае вялікія сем'і праваслаўнае духавенства не адыгрывала якой-небудзь значнай ролі ў грамадскім і палітычным жыцці.

## 1.4. НЕШМАТЛІКІЯ ХРЫСЦІЯНСКІЯ ВЕРАВЫЗНАННІ

Адной з нешматлікіх хрысціянскіх канфесій на Беларусі было пратэстанцтва, якое падзялялася на лютэранства і кальвінізм, або рэфармацтва. У другой палове XVIII ст. выказваліся думкі аб аб'яднанні гэтых двух кірункаў канфесіі. У 1768 г. на рэфармацкім Сінодзе ў Вільні была прапанавана ідэя іх уніі. Але яна не знайшла падтрымкі, бо акрамя канфесійных існавалі як саслоўныя, так і нацыянальныя адрозненні. Да лютэранства належала ў асноўным латышскае і нямецкае насельніцтва, якое складалася з сялян і мяшчан; да рэфармацкай — польскае і беларускае, у асноўным прадстаўнікі шляхецкага саслоўя [53. С. 59].

Па канстытуцыі Рэчы Паспалітай 1768 г., гарантаванай Кацярынай II, дысідэнтам абодвух евангелічных абрадаў было прадастаўлена свабоднае адпраўленне веры і дадзена

права засноўваць свае кансісторыі і сінадальныя сходы, рабіць царкоўныя візітацыі (праверкі) праз свецкіх і духоўных сеньёраў. На падставе гэтага пратэстанты Вялікага княства Літоўскага склалі асобны царкоўны статут, вядомы як дысідэнцкае права. Гэтае права ўсю ўрадавую, судовую і заканадаўчую ўладу ў царкве давала Генеральнаму Сіноду, на які збіраліся дэпутаты-пратэстанты. Сінод знаходзіўся ў Біржах (Літва) і займаўся царкоўнымі справамі праз кансісторыі, у склад якіх уваходзілі дэпутаты ад дваранства, духавенства і гарадскіх таварыстваў. Але дысідэнцкае царкоўнае права, надрукаванае ў Варшаве ў 1780 г., не было зацверджана ўрадам.

У 1797 г., пасля далучэння тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага да Расійскай імперыі, Біржанскі Сінод быў скасаваны. Указам ад 18 верасня 1805 г. Сенат загадаў літоўскаму ваеннаму губернатару графу Л. Л. Бенігсену разгледзець дысідэнцкае права і прадставіць свае меркаванні. Але справа гэта не была вырашана, пакуль у Пецярбургу не было заснавана Галоўнае ўпраўленне духоўных спраў замежных веравызнанняў. Віленская лютэранская кансісторыя не змагла прадставіць ва ўпраўленне звестак аб тым, ці было дысідэнцкае права дапушчана расійскім урадам, а калі было, то на якой падставе. У 1826 г. Сенат загадаў літоўскаму ваеннаму губернатару генералу А.М.Рымскаму-Корсакаву зноў выканаць указ ад 18 верасня 1805 г. У сваю чаргу той запатрабаваў звесткі ад віленскага грамадзянскага губернатара, які і прапанаваў заснаваць пры Віленскай евангелічнай царкве спецыяльны камітэт з тым, каб той выказаў свае меркаванні па дысідэнцкім праве. 22 мая 1828 г. у Пецярбургу быў заснаваны камітэт для стварэння праекта агульнага ўстава евангелічных цэркваў Расійскай імперыі і ўладкаванні евангелічных прыходаў.

Галоўны кіраўнік духоўных спраў замежных веравызнанняў палічыў, што дысідэнцкае права надае Генеральнаму Сіноду такія правы, "якія ў манархічнай дзяржаве могуць належаць толькі дзяржаўнай уладзе". Галоўнае ўпраўленне адзначала, што дысідэнцкае права было складзена як для лютэран, так і для рэфарматаў. Але евангеліцка-рэфармацкая царква мела свой Сінод, які збіраўся адзін або два разы ў год, а бягучымі справамі займалася калегія. Кіраванне ж лютэранскай царквы залежала ад заснаванай у Вільні лютэранскай кансісторыі, для якой Біржанскім Сінодам у 1785 г. быў складзены асобны статут. Згодна з ім кансісторыя складалася з дзевяці членаў: тры старшынствуючыя з два-

ран, тры — з духоўнага звання і тры — са свецкага. Яны павінны былі збірацца раз у год у Вільні і знаходзіцца пад рэвізіяй Сінода лютэранскіх таварыстваў Літвы. Сінод збіраўся два гады і зацвярджаў членаў Віленскай лютэранскай кансісторыі, якія выбіраліся ўсімі лютэранскімі прыходамі. Сінод таксама быў апошняй інстанцыяй, якая вырашала справы лютэранскіх вернікаў, якіх па розных абставінах магло незадаволіць рашэнне Віленскай кансісторыі.

Але ўжо ў пачатку XIX ст. склад Віленскай лютэранскай кансісторыі не адпавядаў усім гэтым правілам. Гэта было звязана з тым, што дваран-лютэран было мала, яны былі небагатымі і практычна не прымалі ўдзелу ў царкоўных справах. У склад кансісторыі замест дзевяці ўваходзілі толькі шэсць свецкіх і духоўных членаў, якія не належалі да дваранства і таму не маглі старшынстваваць. Пасля звальнення ў 1827 г. старшынствуючага члена барона Розена і смерці члена Віленскага магістрата кансісторыя не змагла знайсці ім замену. Між тым ёй падпарадкоўваліся 15 лютэранскіх прыходаў Мінскай, Віленскай, Гродзенскай губерняў і Беластоцкай вобласці з 20 тыс. прыхаджан. Пасля смерці свайго апошняга старшыні барона Сакена Віленская лютэранская кансісторыя звярнулася ў Пецярбург у Галоўнае ўпраўленне духоўных спраў замежных веравызнанняў з пытаннем, ці можа яна кіраваць Віленскай акругай у складзе трох членаў. Указам ад 24 чэрвеня 1830 г. было загадана скасаваць Віленскую лютэранскую кансісторыю і перадаць яе справы Курляндскай лютэранскай кансісторыі, да якой належалі лютэранскія цэрквы Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Адзначалася, што на яе пасяджэннях заўсёды павінен прысутнічаць віленскі лютэранскі пастар са званнем пробста. Разам з іншымі сям'ю пробстамі ён меў свой голас і атрымліваў за гэта жалаванне 100 талераў у год і грошы на дарогу ад Вільні да Мітавы, дзе адбываліся пасяджэнні Курляндскай кансісторыі [2. Т. 5. С. 553 — 656].

28 снежня 1832 г. быў зацверджаны статут евангеліцкалютэранскай царквы Расійскай імперыі. Гэта царква складалася з прыходаў, пробстскіх і кансістарыяльных акруг і Генеральнай кансісторыі. Асновай былі прыходскія абшчыны з пастарамі. Некалькі прыходаў складалі акругу на чале з пробстам, які выбіраўся пастарамі ўсёй акругі. Ён меў права збіраць Сінод з пастараў сваёй акругі. Сукупнасць пробстскіх акруг стварала кансістарыяльную акругу на чале з кансісторыяй і

супер-інтэндантам, або генерал-суперінтэндантам, якія былі духоўнымі асобамі.

Хаця лютэранскія цэрквы павінны былі падпарадкоўвацца Генеральнаму Сіноду, ён фактычна ні разу не збіраўся. Вышэйшым органам была Генеральная кансісторыя ў Пецярбургу. Яна складалася са свецкага прэзідэнта, духоўнага віцэ-прэзідэнта, двух свецкіх і двух духоўных членаў. Прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт назначаліся імператарам. Пры кансісторыі былі пракурор і канцлер. У першай палове XIX ст. у справаводстве карысталіся нямецкай мовай [41. С. 69; 13. Ф. 821, воп. 5, спр. 19, арк. 337, 340, 341, 343, 344].

Да лютэранскага насельніцтва беларуска-літоўскіх губерняў належалі латышы Віцебскай і Ковенскай губерняў і невялікая колькасць нямецкага насельніцтва. Лютэранскія кірхі былі ў Гродне, Мінску, Слуцку, Віцебску, Полацку, Магілёве. Лютэранскія пастары атрымлівалі ў год ад дзяржавы жалаванне: у Гродне — 450 руб., Мінску — 400, Магілёве — 114, Полацку — 400, Віцебску — 150 руб. Але згодна з указам ад 18 чэрвеня 1853 г. гэта жалаванне павінна было быць (пачынаючы з 1854 г.) выключана з дзяржаўных расходаў, і пастары атрымлівалі яго ад свайго духоўнага ведамства.

Лютэранскія кірхі былі беднымі, бо мелі невялікую колькасць прыхаджан, якія былі небагатымі. Так, Мінская кірха не мела ніякіх капіталаў. Пры ёй быў дом для пастара, які на сваё жалаванне (400 руб. срэбрам у год) павінен быў утрымліваць сям'ю, прыходскае вучылішча і прычэтнікаў. У 1840 г. полацкі лютэранскі пастар звярнуўся з просьбай да міністра ўнутраных спраў аб выдзяленні дапамогі ў суме 800 — 1000 руб., на рамонт старога будынка кірхі. 14 лютага 1843 г. міністр унутраных спраў паведаміў віцебскаму, магілёўскаму і смаленскаму генерал-губернатару, што ў сувязі з тым, што Полацкае евангелічнае таварыства складаецца толькі з часова пражываючых у Полацку пратэстантаў, ён не будзе хадайнічаць аб грашовай дапамозе [20. Ф. 295, воп. 1, спр. 447, арк. 6, 7; ф. 1297, воп. 1, спр. 12973, арк. 1, 8].

У справы лютэранскай царквы ўмешваліся і іншыя канфесіі, адбываліся, праўда нешматлікія, пераходы ў лютэранства. У асноўным гэта было звязана са змешанымі шлюбамі. У 1815 г. полацкі лютэранскі пастар Венцэль скардзіўся ў рымска-каталіцкую калегію ў Пецярбург на уніяцкіх святароў, якія, на яго думку, умешваліся ў справы лютэранскіх пастараў, хрысцілі, хавалі і заключалі шлюбы лютэранскіх прыхаджан. Указам рымска-каталіцкай калегіі ад 11

кастрычніка 1815 г. полацкаму уніяцкаму мітрапаліту І.Красоўскаму была загадана, каб белае і манаскае уніяцкае духавенства не смела "ўмешвацца ні ў якія духоўныя паслугі для асоб чужога веравызнання, пад спагнаннем у адваротным выпадку па ўсёй строгасці закону" [20. Ф. 2617, воп. 1, спр. 140, арк. 1].

Евангеліцка-рэфармацкая царква падпарадкоўвалася Літоўскаму евангеліцка-рэфармацкаму Сіноду (з 15 верасня 1840 г. ён быў перайменаваны ў Віленскі). На яго сходах, якія праходзілі раз у год, як правіла ў ліпені, збіраліся духоўныя і свецкія асобы з дваран-рэфарматаў. На працягу канца XVIII — першай паловы XIX ст. Сінод часцей за ўсё збіраўся ў Вільні. Паміж сходамі ўсе справы, акрамя судовых, вырашала Літоўская евангеліцка-рэфармацкая калегія ў Вільні. 24 чэрвеня 1831 г. быў зацверджаны штат Віленскай рэфармацкай калегіі з 17 асоб: свецкі прэзідэнт, віцэ-прэзідэнт духоўнага звання, тры духоўныя і тры свецкія куратары, генеральны сакратар, пратакаліст, рэгістратар, шэсць канцылярыстаў.

У пачатку XIX ст. евангеліцка-рэфармацкія зборы (храмы) беларуска-літоўскіх губерняў уваходзілі ў дыстрыкты (акругі): Занёманскі, Беларускі, Віленскі і Жмудскі. Дыстрыкты ўзначальвалі суперінтэнданты, галоўныя духоўныя кіраўнікі над міністрамі (пастарамі), якіх яны назначалі, наглядалі за паводзінамі духавенства і рэвізавалі зборы. Як і лютэранская, рэфармацкая царква падпарадкоўвалася Генеральнай евангеліцкай кансісторыі ў Пецярбургу. Справаводства ў рэфармацкай царкве ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. вялося ў асноўным на польскай мове [41. С. 269, 270; 56. С. 49; 57. С. 49, 50; 32. Ф. 40, спр. 833, арк. 13; спр. 1054, арк. 3, 8, 9; спр. 678, арк. 135 — 137].

Віленскі Сінод меў маёнткі і прыгонных, якія прыносілі яму даход. У сувязі з тым, што гэтыя маёнткі павінны былі пасля ўказа 1842 г. перайсці ў веданне Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў, Віленская калегія 30 красавіка 1845 г. звярнулася да міністра ўнутраных спраў Л.А.Пярова з прашэннем, у якім паведамляла, што калегія знаходзіцца ў цяжкім стане, бо не мае дастаткова сродкаў на ўтрыманне духавенства, богаўгодных устаноў і Слуцкай гімназіі [13. Ф. 821, воп. 5, спр. 612, арк. 3, 4].

Рэфармацкія вернікі былі ў асноўным дваранскага паходжання, але, як і лютэранскія кірхі, іх зборы (храмы) былі беднымі, а колькасць прыхаджан невялікай. Так, у 1842 г. ва ўсёй Гродзенскай губерні было 287 рэфарматаў. 7 лістапада

1779 г., па дакладзе беларускага генерал-губернатара графа З.Р.Чарнышова, было выдзелена жалаванне духавенству рэфармацкага веравызнання ў г. Копысе у памеры 400 руб. у год. У 1810 г. у копыскім зборы было ўсяго 88 прыхаджан. Да збора была прыпісана в.Валасовічы з сялянамі, якую аддавалі ў арэнду за 400 руб. У 1846 г. у Слуцкім зборы было 75 прыхаджан і ў Загальскім — 61 [41. С. 263; 26. Ф. 2001, воп. 1, спр. 18, арк. 6, 7; 52. Ф. 1, воп. 20, спр. 929, арк. 36; 32. Ф. 40, спр. 783, арк. 1 — 2].

Дзеці рэфармацкага дваранства праходзілі навучанне ў Кейданскай (зачынена ў 1824 г.) і Слуцкай гімназіях. Колькасць вучняў-пратэстантаў у апошняй у 1840 г. была 48 чал. (з 280 чал. агульнай колькасці), у 1850 г. — 55 (з 253), у 1860 г. — 58 чал.(з 411). 29 жніўня 1850 г. беларускі суперінтэндант Ванькоўскі на пасяджэнні Віленскай калегіі адзначыў, што забарона прымаць у Слуцкую гімназію вучняў падатнага стану пазбавіла многіх выхаванцаў-рэфарматаў магчымасці набыць неабходныя веды аб правілах сваёй веры. Ён прасіў калегію аб дазваленні прымаць такіх вучняў у першыя тры класы гімназіі, не дапускаючы іх у вышэйшыя.

Сінод у канцы XVIII — першай палове XIX ст. мог накіроўваць вучняў, якія закончылі гімназію, на вучобу за мяжу: у Берлінскі, Франкфурцкі, Марбургскі, Гельдзебергскі універсітэты ў Германіі, Лейдзенскі і Франекежскі — у Галандыі, Эдынбургскі — у Шатландыі. Да 1844 г. існавалі тры стыпендыі Сінода ў Кёнігсбергскім універсітэце ў Прусіі. Яны былі заснаваны яшчэ ў канцы XVII ст. Людвікай Каралінай, маркграфіняй Брандэнбургскай з князёў Радзівілаў і складалі 3 тыс. талераў, забяспечаных маёнткамі ў Прусіі [58. С. 9; 59. С. 8; 13. Ф. 821, воп. 1, спр. 1210, арк. 1, 2; 32. Ф. 40, спр. 624, арк. 55].

Пратэстанцкая канфесія ў беларуска-літоўскіх губернях была нешматлікай, не аказвала ўплыву на грамадскае і палітычнае жыццё тэрыторыі і таму не сутыкалася ні з якімі рэлігійнымі забаронамі з боку царскага ўрада.

Другой нешматлікай канфесіяй на Беларусі было старaверства, або раскольніцтва. Раскол у рускай праваслаўнай царкве ўзнік у другой палове XVII ст. Асноўную масу гэтага руху склалі сяляне і пасадскія людзі. Ён распаўся на дзве галоўныя часткі: папоўшчыну і беспапоўшчыну. Папоўцы выходзілі з тэзіса, што без свяшчэнніка няма хрысціянства, і прымалі да сябе беглых свяшчэннікаў праваслаўнай царквы. Беспапоўцы ж адмаўлялі не толькі царкоўную іерархію, але

і асноўныя хрысціянскія таінствы, у тым ліку і шлюб. Кожны напрамак даволі варожа ставіўся адзін да другога і сам распадаўся на шмат кірункаў.

Стараверы з'явіліся ў Вялікім княстве Літоўскім у канцы XVII ст., калі частка насельніцтва збегла з Масковіі і заснавала ва ўладаннях мазырскага ваяводы Халецкага калонію ў раёне м.Ветка. У 1722 г. каля яго было ўжо 23 стараверскія слабады, якія разрасліся ў буйны гандлёвы цэнтр, у якім сканцэнтраваўся гандаль паміж Левабярэжнай Украінай і Беларуссю. Насельніцтва калоніі дасягнула 40 тыс. чалавек. Рост яго колькасці адбываўся дзякуючы пастаяннаму прытоку эмігрантаў з Расіі, якіх прываблівала вольнае жыццё веткаўцаў.

Прапаганда старавернства, што ішла з Веткі пачынаючы з 20-х гг. XVIII ст., пачала турбаваць вярхушку праваслаўнай царквы Расійскай імперыі. У 1735 г. у Ветку была паслана карная экспедыцыя. Адбылася так званая першая "выгонка". Стараверскія малітоўныя дамы і скіты былі разбураны, і каля 14 тыс. чал. выселена, а ў 1764 г. адбылася другая "выгонка", пасля чаго Ветка ўжо назаўсёды перастала быць буйным цэнтрам стараверства [60. С. 299 – 301; 61. С. 15, 17, 23].

З пераходам земляў былога Вялікага княства Літоўскага да Расійскай імперыі на мясцовых старавераў былі распаўсюджаны ўказы, якія тычыліся старавераў унутраных губерняў. Яны нярэдка аказваліся супярэчлівымі. Так, калі ўказ ад 6 красавіка 1778 г. забараняў раскольнікам мець цэрквы, капліцы і званы пры іх, то ўказ ад 21 ліпеня 1788 г. дазваляў раскольнікам Беларускага, Малароскага і Екацерынаслаўскага намесніцтваў мець свае цэрквы і праводзіць у іх службу па старадрукаваных кнігах. Гэта ж пацвердзіў і ўказ ад 12 сакавіка 1798 г. [62. С. 6].

У сувязі з тым, што стараверы знаходзіліся ў падпарадкаванні Св.Сінода, неаднаразова ўзнікала пытанне аб іх далучэнні да праваслаўных епархій. У маі 1797 г. Лаўрэнцьеўскі, Чонскі скіты, а таксама мужчынскі і жаночы скіты Спасавай слабады былі далучаны да Екацерынаслаўскай праваслаўнай епархіі. А ў верасні 1798 г. веткаўскія стараверы падалі прашэнне Беларускаму праваслаўнаму епіскапу Афанасію (Братаноўскаму), у якім прасілі далучыць іх да Беларускай епархіі. Але пазней, пасля бунту, што адбыўся ў Ветцы ў кастрычніку 1798 г., веткаўскія стараверы адмовіліся ад свайго намеру. 7 сакавіка 1799 г. настаяцель Чонскага скіта Сяргей Юршаў прасіў перавесці яго скіт з

Наварасійскай у Беларускую праваслаўную епархію, што было яму дазволена [63. С. 3, 4 — 7].

У канцы XVIII ст. некаторая частка папоўцаў пайшла на пагадненне з праваслаўнай царквой, у выніку чаго ў 1800 г. было заснавана аднаверства. Яно прызнавала іерархію і дагматы праваслаўнай царквы. Св.Сінод накіроўваў у аднаверскія цэрквы сваіх святчэннікаў, якія вялі службу па старых абрадах і старадрукаваных кнігах. Але зберагалася стараверская сімволіка: васьміканцовы крыж, двухперсцевае знаменне. Стараверы таксама разлічвалі, што акрамя святчэннікаў у іх будзе і свой архірэй. Але праваслаўны мітрапаліт Платон не згадзіўся на гэта. Аднаверства разглядалася праваслаўнай царквой як сродак зближэння старавераў з праваслаўем. Згодна з правіламі ўладкавання стараверскіх (аднаверскіх) цэркваў, якія былі прыняты 27 кастрычніка 1800 г., было вырашана веруючых гэтай царквы называць злучэнцамі, або аднаверцамі [60. С. 309 — 311; 62. С. 15; 64. С. 29].

Стараверскія скіты жылі па сваіх законах і агульнаманастырскаму статуту не падпарадкоўваліся. Па візітацыі, што была праведзена ў 1802 г. у Беларускай праваслаўнай епархіі, вылучаліся наступныя стараверскія скіты: Лаўрэнцьеў (каля Гомеля), у якім манахаў і беглых было больш за 100 чал.; Іасафаў (каля Гомеля), таксама больш за 100 чал.; скіт каля в.Агародня, больш за 50 чал.; Пыханскі скіт з 20 чал.; Тырлоўскі скіт (каля Гомеля), да 40 чал.; жаночы скіт пры Спасавай слабадзе, больш за 50 чал.; скіт Чыстыя лужы, каля 10 чал.; Веткаўскі, да 100 чал.; хутар Абрамаўка (каля Веткі), да 40 чал. [63. С. 21 — 23].

У мэтах узмацнення кантролю за стараверамі ў 1805 г. былі ўведзены метрычныя кнігі для ўліку іх колькасці. Весці гэтыя кнігі было даручана земскай паліцыі, так як самі стараверы не жадалі гэтага рабіць.

У далейшым прымаліся і іншыя меры ў данным кірунку. 11 красавіка 1820 г. быў выдадзены ўказ аб наглядзе за раскольнікамі-беспапоўцамі. Акрамя таго, кіраўнікі губерняў атрымалі распараджэнні аб уладкаванні пашпартнага рэжыму сярод раскольнікаў, узмацненні нагляду за працаўладкаваннем, адносінамі з жанчынамі і г.д.

Правіламі ад 26 сакавіка 1822 г. папоўцам дазвалялася пакідаць для выканання абрадаў беглых праваслаўных святчэннікаў, калі яны да ўцёкаў не зрабілі крымінальных учынкаў. Пакідаліся тыя цэрквы і капліцы, якія ўжо існавалі, але забаранялася будаваць новыя. Для разгляду

спрэчных спраў 14 сакавіка 1825 г. быў заснаваны Сакрэтны дарадчы камітэт [62. С. 31, 32, 58, 68, 78].

Урад Мікалая І пачаў барацьбу як супраць беспапоўцаў, так і папоўцаў. Да гэтага часу беспапоўшчына ўжо выпрацавала самастойны культ. Яна абыходзілася як без малітоўных дамоў, так і без папоў. Папоўцы ж лічылі гэта "богомерзкой ересью" і не маглі абыходзіцца без папа, царквы і капліцы. Барацьба пачалася з 1826 г., калі былі зняты крыжы з усіх стараверскіх малітоўных будынкаў. Потым былі забаронены іх будаўніцтва і рамонт. Стараверскім папам забаранялася пераходзіць з павета ў павет. Яны вымушаны былі рабіць гэта патаемна, па начах. У 1832 г. былі адменены правілы 1822 г. адносна беглых праваслаўных папоў, якіх павінны былі вярнуць у распараджэнне епархіяльнага архірэя [60. С. 384, 385; 62. С. 92, 151, 174].

Стараверскія секты былі падзелены на некалькі груп. Указам ад 8 кастрычніка 1835 г. асабліва шкоднымі былі прызнаны секты духаборцаў, іканаборцаў, скапцоў і некаторыя іншыя. Гэта ж было пацверджана і ўказам ад 9 снежня 1842 г., згодна з якім да ліку самых шкодных сектаў адносіліся беспапоўцы, якія адмаўлялі шлюб і малітвы за цара; да ліку шкодных — беспапоўцы, якія прызнавалі шлюб і маліліся за цара. Папоўшчына ж адносілася да сектаў менш шкодных [62. С. 318, 319].

Указам ад 24 снежня 1835 г. за беглымі праваслаўнымі папамі быў устаноўлены сакрэтны нагляд. У сувязі з гэтым 17 лістапада 1837 г. магілёўскі грамадзянскі губернатар паведамляў віцебскаму, магілёўскаму і смаленскаму генерал-губернатару аб тым, што ў Беліцкім павеце ў Лаўрэнцьевым і Макар'еўскім стараверскіх манастырах з'явіліся беглыя іераманахі і, нягледзячы на ўказы, зноў былі пабудаваны дзве капліцы, трапезная, царква, а з Масквы быў прысланы вялікі звон. Беглыя іераманах Антоній і схімнік інак Цярэнцій злоўлены, а пабудаваныя і адноўленыя малітоўныя дамы знішчожаны, званы зняты. Акрамя таго, улады забралі косці інака Вікенція, да якога старавары ставіліся з асаблівай павагай.

27 красавіка 1840 г. з Міністэрства ўнутраных спраў паступіла распараджэнне віцебскаму, магілёўскаму і смаленскаму генерал-губернатару, каб з часоўні ў в. Гронава былі зняты званы, а з веруючых былі ўзяты падпіскі аб тым, што падобнае больш не адбудзецца [62. С. 144; 20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 10508, арк. 1].

У сувязі з прыняццем мер (указы ад 13 лютага 1837 г., 9 мая 1840 г., 5 красавіка 1845 г.) па аслабленні расколу

Св.Сінод наказваў праваслаўным епархіяльным архірэям, каб тыя выкарыстоўвалі кожны выпадак для набліжэння старавераў да праваслаўя [62. С. 353, 354].

Цікавыя нататкі аб адносінах паміж праваслаўнымі архірэямі і старавeрамі пакінуў полацкі праваслаўны архіепіскап Васілій (Лужынскі). Пры аб'ездзе сваёй епархіі ён сустракаўся са старaверамі, іх настаўнікамі, цікавіўся іх кнігамі, іконамі, імкнуўся з цягам часу схіліць іх у праваслаўе. За 1851 — 1852 гг. у аднаверства перайшло 5 тыс. старавераў і 6 настаўнікаў Віцебскай губерні. Былі пабудаваны каменная аднаверская царква ў Полацку, драўляная ў м.Краслаўка Дзінабургскага і ў с.Лютня Невельскага паветаў. У Віцебску каменная малельня была перароблена ў царкву. Усе цэрквы архіепіскап Васілій (Лужынскі) асвяціў па старадрукаваных кнігах і пасвяціў у свяшчэннікі і дыяканы асоб з ліку стараверскіх настаўнікаў. Яго палітыка выклікала незадаволенасць як з боку каталікоў, так і праваслаўных [21. С. 224 — 226].

Не ўсе праваслаўныя свяшчэннікі падтрымлівалі пазіцыю Лужынскага. У справаздачы па Віцебскай губерні за 1859 г. губернатар П.Клушын адзначаў, што праваслаўнае духавенства абыякава ставіцца да імкнення раскольнікаў далучыцца да праваслаўя. У сувязі з гэтым Св.Сінод запатрабаваў растлумачэння. Архіепіскап Васілій адказаў, што ніякага імкнення раскольнікаў да праваслаўнай веры ў епархіі не назіраецца. Яны не патрабуюць ні настаўнікаў, ні школ, нецярпіма адносяцца да ўсяго, што звязана з праваслаўнай царквой. Ён дадаў, што засядацелі з Сакрэтнага дарадчага камітэта ні разу не адзначылі, што праваслаўнае духавенства абыякава ставілася да справы схілення раскольнікаў у праваслаўе [21. С. 259].

Літоўская праваслаўная епархія позна звярнула ўвагу на старавераў, чые настаўнікі праводзілі прапаганду сярод праваслаўных, калі паблізу не было праваслаўных цэркваў. У 1839 г. свяшчэннік Шчаглоў паведамляў архірэю Ісідору (Нікольскаму), што ў Завілейскім павеце перайшло ў раскол 247 праваслаўных, з якіх яму ўдалося вярнуць толькі 57 чал. У 1840 г. свяшчэннік Лук'янаў скардзіўся на дзінабургскага раскольніка Акіндзінава, што ён спакушае народ у раскол. У 1852 г. віленскі генерал-губернатар Бібікаў патрабаваў узмацніць нагляд з боку праваслаўнага духавенства за старaверамі Літоўскай праваслаўнай епархіі. Гэта было звязана з тым, што ён атрымаў звесткі ад віцебскага, смаленскага і магілёўскага генерал-губернатара князя Галіцына і рыж-

скага ваеннага губернатара князя А.А.Суворова аб тым, што раскольнікі, якія жылі ў гэтых губернях, спасылаюцца на свабоду, якую ім прадаставілі ў Віленскай і Ковенскай губернях. Літоўскі праваслаўны мітрапаліт Іосіф з гэтым не згадзіўся і ў пісьме да обер-пракурора Св.Сінода заявіў, што ён знаходзіць дзеянні супраць раскольнікаў у Заходнім краі непажаданымі. На яго думку, праваслаўнае духавенства павінна лічыць рускіх старавераў сябрамі, а не ворагамі [51. С. 331 — 334].

Стараверскае насельніцтва ў Віленскай губерні пражывала: папоўцы — ў Дзісненскім і Віленскім, беспапоўцы — у Ашмянскім, Віленскім і Свянцянскім паветах, на 1851 г. іх налічвалася 13 556 чал., было 7 капліц; у Новааляксандраўскім павеце Ковенскай губерні пражывала 10 118 чал. беспапоўцаў і было 4 капліцы; у Мінскай губерні — 4191 чал. беспапоўцаў жылі ў Бабруйскім і Барысаўскім паветах і мелі 5 капліц; у Магілёўскай губерні папоўцы жылі ў Беліцкім, Сенненскім, Капысскім, Рагачоўскім паветах, беспапоўцы — у Рагачоўскім. Колькасць іх (на 1847 г.) складала 14 678 чал., мелася 2 мужчынскія і 2 жаночыя манастыры, 27 малітоўных дамоў і капліц. У Віцебскім, Суражскім, Невельскім, Лепельскім, Дрысенскім паветах і Дзінабургу пражывалі папоўцы; у Віцебскім, Невельскім, Себежскім, Люцынскім, Рэжыцкім — беспапоўцы. Іх колькасць складала 39 828 чал. з 35 малітоўнымі дамамі і капліцамі. Агульная колькасць стараверскага насельніцтва ў беларуска-літоўскіх губернях на пачатак 50-х гг. была 90 тыс. чал. [20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 6675, арк. 190, 191, 193, 207 — 208; 24. Ф. 378, воп. 859, спр. 2795, арк. 3 — 4, 9, 23 — 24, 32 — 33].

Усе справы па староверах сцякаліся ў сакрэтныя дарадчыя камітэты, што дзейнічалі ва ўсіх губернях, дзе пражывалі староверы. У некаторых выпадках яны ператвараліся ў судзілішчы. Між тым пры іх заснаванні планавалася, што яны ні ў якім выпадку не павінны выходзіць за межы абмеркавання стараверскіх спраў.

У красавіку 1853 г. быў створаны Асобы сакрэтны камітэт для перагляду існуючага заканаўства аб староверах. Быў распрацаваны шэраг наступных мер: паступовае скасаванне стараверскіх скітоў, манастыроў і інш.; забарона стараверскіх сходаў; абранне старавераў на пасады; адмаўленне ад узнагароджання і шэраг іншых абмежаванняў. У 1855 г. Асобы сакрэтны камітэт, як выканаўшы свае абавязкі, быў скасаваны [62. С. 207, 260, 315; 20. Ф. 129, воп. 1, спр. 11134, арк. 21 — 24].

Абмежавальныя меры ў адносінах да старавераў, якія распрацаваў сакрэтны камітэт, не былі новым кірункам у палітыцы ўрада. І раней царскі ўрад выдаваў час ад часу ўказы аб розных забаронах, якія тычыліся стараверау. Вось некаторыя з іх: забараняліся калакольны звон у капліцах (21 лістапада 1840 г.), збудаванне, перарабленне або аднаўленне малітоўных дамоў (13 кастрычніка 1842 г.), назва "старавеы" замянялася на "раскольнікі" (12 красавіка 1837 г.), забараняліся назва "свяшчэннік" для іх папоў (5 мая 1839 г.) і "цэрквы" для малітоўных дамоў (13 кастрычніка 1842 г.), запіс у цэх іканапісцаў (5 студзеня 1845 г.) [62. С. 207, 260, 315].

Да адніх указаў старавеы адносіліся даволі спакойна, другія выклікалі хваляванні, на якія ўрад вымушаны быў неяк рэагаваць. Так, напрыклад, у 1840 г. старавеы Спасавай слабады Беліцкага павета скардзіліся міністру ўнутраных спраў на чыноўніка па асобых даручэннях Дзямянкова. Яны паведамлялі, што па яго загадзе былі раскапаны магілы іх продкаў, пахаваных каля царквы, зняты званы, аб чым яны ўжо скардзіліся магілёўскаму грамадзянскаму губернатару, але не атрымалі адказу. Справа была даследавана. Віцебскі, смаленскі і магілёўскі генерал-губернатар палічыў, што яна не заслугоўвае ўвагі з боку ўрада. У сакавіку міністр унутраных спраў загадаў аб'явіць старавеам, што па існуючым палажэнні забаронена хаваць нябожчыкаў пры цэрквах і мець пры малітоўных дамах званы, пералітыя з праваслаўных. Але пры гэтым ён адзначыў, што Дзямянкову трэба было дзейнічаць больш асцярожна, спачатку ён павінен быў папярэдзіць кіраўніцтва [20. Ф. 1297, воп. 1, спр. 12312, арк. 3].

Існавалі і іншыя абмежаванні. Старавеы-купцы не маглі карыстацца правамі, дадзенымі гэтаму саслоўю. Калі ў 1852 г. беліцкі купец Рукупаў звярнуўся да ўлад з просьбай аб усынаўленні свайго пляменніка Седлярова, яму было ў гэтым адмоўлена. Пры гэтым падкрэслівалася, што яму будуць дараваны ўсе правы купцоў, калі ён і яго пляменнік далучацца да аднаверства або праваслаўя [62. С. 348, 466].

Калі было патрэбна, то ўлады ўспаміналі, што старавеоства паходзіць з праваслаўя. Так, 28 мая 1845 г. дэпартамент духоўных спраў і замежных веравызнанняў паведаміў віленскаму ваеннаму, гродзенскаму, мінскаму і ковенскаму генерал-губернатару, што Віленская рымска-каталіцкая кансісторыя жадае вярнуць са старавеоства дзвюх былых каталічак з іх дзяцьмі. Дэпартамент палічыў: паколькі старавеоства не з'яўляецца асобным веравызнаннем, а па

паходжанні належыць даануючай праваслаўнай царквы, то жанчыны павінны да яе і вярнуцца [24. Ф. 378, о/о 1845, спр. 70, арк. 1].

Стараверскае насельніцтва ў беларуска-літоўскіх губернях было, як правіла, рускім. Але час ад часу яно папаўнялася мясцовымі жыхарамі, беларусамі. Здараліся і рэдкія выпадкі пераходу ў яго яўрэяў. Так, у 1838 г. два яўрэі (мяшчане г.Беліца) прынялі хрышчэнне ў стараверскім Лаўрэнцьевым манастыры і атрымалі імёны Радзівон Філіпаў і Сямён Аўрамаў. Яны зрабілі гэта, таму што жадалі карыстацца правамі мяшчан-хрысціян. Але ўказам ад 5 ліпеня 1838 г. Мікалай I загадаў даручыць мясцоваму праваслаўнаму начальству ўгаварыць гэтых яўрэяў прыняць праваслаўе. А калі яны адмовяцца, то не прадастаўляць ім ніякіх ільгот, якімі карысталіся яўрэі, прыняўшыя праваслаўную веру [62. С. 24].

Царскі ўрад не лічыў стараверства асобнай канфесіяй. Аднаверства разглядалася як крок да праваслаўя. Адносіны паміж старaверамі беларуска-літоўскіх губерняў, мясцовымі ўладамі і кіраўніцтвам праваслаўнай царквы былі даволі спакойныя. Стараверскае насельніцтва жыло абасоблена і не выклікала, за рэдкімі выключэннямі, стычак. Але на яго распаўсюджваліся ўсе тыя рэпрэсіўныя ўказы царскага ўрада, якія тычыліся стараверaў унутраных губерняў Расійскай імперыі.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Kolbuk W.* Koscioly wshodnie na ziemiach dawnej Rzeczypospolitej. 1772 — 1914. Lublin, 1992.

2. Полное собрание законов Российской империи. СПб., 1831. Т. 5.

3. Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. 1701 — 1839. СПб., 1907. Т. 2.

4. *Коялович М.* История воссоединения западно-русских униатов старых времен. СПб., 1873.

5. *Горючко П.С.* Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. Киев, 1902.

6. Гіст.-археол. зб. Мн., 1927. № 1.

7. *Киприанович Г.Я.* Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве. Вильно, 1895.

8. Записки Иосифа Митрополита Литовского. СПб., 1883.

9. *Бобровский П.О.* Русская греко-униатская церковь в царствование Александра I. СПб., 1890.

10. Акты, издаваемые Виленской археологическою комиссею. Вильно, 1889. Т. 14.

11. Monumenta Ucrainae Historica. Roma, 1969. Т. 7.

12. *Бобровский П.О.* Противодействие базилианского ордена стремлению белого духовенства к реформам русской греко-униатской церкви.

13. Матэрыялы Рускага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу.

14. Вестник Европы. СПб., 1872. № 4.

15. Журнал Министерства народного просвещения. СПб., 1869. Т. 114.

16. *Шавельский Г.* Последнее воссоединение с православной церковью униатов Белорусской епархии (1833 — 1839 гг.). СПб., 1910.

17. Studia Teologiczna. Belastok, 1987 — 1988.

18. *Сапунов А.* Витебская старина. Витебск, 1888. Т. 5.

19. Сборник статей, изданных Святейшим Синодом по поводу пятидесятилетия (1839 — 1889) воссоединения с православной церковью западнорусских униатов. СПб., 1889.

20. Матэрыялы Нацыянальна-гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску.

21. Записки Василия Лужинского, архиепископа Полоцкого. Казань, 1885.

22. Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1979. Т. 4.

23. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Мн., 1940. Т. 2.

24. Матэрыялы Гістарычнага архіва Літвы.

25. *Litak S.* Kosciol lacinski w Rzeczypospolitel okolo 1772. Liblin, 1996.

26. *Loret M.* Kosciol katolicki a Katarzyna II. 1772 — 1784. Krakow; Warszawa, 1910.

27. *Kumor B.* Ustroj i organizacja kosciola Polskiego w okresie niewoli narodowej. 1772 — 1918. Krakow, 1980.

28. *Толстой Д.А.* Римский католицизм в России. СПб., 1876. Т. 2.

29. Наш радавод. Гродна. 1992. Кн. 4. Ч. 3.

30. *Miller A.* Pierwsza porozbiorowa konspiracja Litewska. Krakow, 1936.

31. *Kukuel M.* Proby powstanicze po trezecim rozbiorze. 1795 — 1797. Krakow; Warszawa, 1912.

32. Матэрыялы бібліятэкі Акадэміі навук Літвы.

33. *Блинова Т.Ю.* Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.

34. *Сапунов А.* Заметка о коллегии и академии иезуитов в Полоцке. Витебск, 1890.

35. Miesiecznik Polocki. Polock, 1818. N 1.

36. Из истории библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1972. Вып. 2.

37. *Пыпин А.Н.* Религиозные движения при Александре I. Пг., 1916.

38. *Dangel S.* Rok 1831 w Minszczyznie. Warszawa, 1925. T. 2.

39. *Wasilewski J.* Arcybiskupi i administratowie archidiecezji Mohilowskiej. Pinsk, 1930.

40. Матэрыялы Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу.

41. *Никотин И.А.* Столетний период (1772 — 1872) русского законодательства в воссоединенных от Польши губерниях и законодательство о евреях (1649 — 1876). Вильно, 1886. Т. 1.

42. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния / Сост. И.Зеленский. СПб., 1864. Ч. 2.

43. Могилевская старина. Ист.стат. описание. Могилев, 1906. Т. 1.

44.*Горючко П.* Материалы для истории воссоединения униатов в Белоруссии. 1780 — 1795. Могилев, 1903.

45. *Рункевич С.* История Минской архиепископии (1793 —1832 гг.). СПб., 1893.

46. *Добрынин Г.* Истинное повествование Гавриила Добрынина. СПб., 1878.

47. *Горючко П.* Материалы для истории церквей Могилевской епархии конца XVIII — начала XIX столетий. Могилев, 1902.

48. *Горючко П.С.* Материалы для истории церквей Белоруссии конца XVIII — начала XIX ст. Могилев, 1903.

49. *Горючко П.С.* Из истории управления Могилевской епархии конца XVIII — начала XIX ст. Могилев, 1903.

50. Русский архив. СПб., 1891. Кн. 8.

51. *Извеков Н.Д.* Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839 — 1889 гг. М., 1899.

52. Матэрыялы Нацыянальна-гістарычнага архіва Беларусі ў Гродна.

53. *Kosman M.* Litewska jednota ewangelicko-reformowana od polowy XVII w. do 1939 r. Opole, 1986.

54. Военно-статистическое обозрение Российской империи. Виленская губерния. СПб., 1848. Т. 9. Ч. 2.

55. Военно-статистическое обозрение Российской империи. Витебская губерния. СПб., 1852.

56. Spis synodow i sesji prowincjalnych jednoty Litewskiej. 1611 — 1913. Wilna, 1913.

57. *Lukaszewisz J.* Dzije kosciow wyznania Helwieckogo w Litwie. Poznan, 1843.

58. *Studnicki W.G.* Zarys historyczny wilenskiego kosciola ewangelicko-reformowanego i jego biblioteki. Wilno, 1932.

59. *Hulko-Laskowski P.* Wilenski kosciol ewangelicko-reformowany (1556 — 1936). Wilno, 1936.

60. *Никольский Н.М.* История русской церкви. Мн., 1990.

61. *Короткая Т.П.,Прокошина Е.С.,Чудникова А.А.* Старообрядчество в Белоруссии. Мн., 1992.

62. Собрание постановлений по части раскола. СПб., 1875.

63. *Горючко П.С.* Материалы для истории раскола старообрядчества в Могилевской губернии конца XVIII — начала XIX столетия. Могилев, 1902.

64. Сборник правительственных сведений о раскольниках/Сост. В.Кельсиев. 1860.

# ГЛАВА 2

# РУСІФІКАЦЫЯ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ І КАНФЕСІЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА (1861 — 1904)

## 2.1. ДУХАВЕНСТВА І ПАЎСТАННЕ 1863 г.

Вялікі ўплыў на змены ў канфесіянальным становішчы Беларусі аказала паўстанне, што адбылося на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Беларусі ў 1863 — 1864 гг. У першую чаргу гэта тычылася дзвюх асноўных хрысціянскіх канфесій, іх становішча і ўзаемаадносін — праваслаўя і каталіцтва. Паўстанне высвятліла і наглядна прадэманстравала варожасць і супярэчнасці, якія здаўна існавалі паміж імі, а зараз, у экстрэмальнай сітуацыі, успыхнулі з новай сілай.

У той ці іншай ступені паўстанне закранула ўсе слаі насельніцтва, якія адрозніваліся як па сваім сацыяльным становішчы, так і па веравызнанні. Далёка не апошнюю ролю ў ім адыграла духавенства, і не толькі сваім асабістым удзелам, але і ўплывам, які яно аказвала на вернікаў.

Што тычыцца каталіцкіх святчэннаслужыцеляў, то тут можна сцвярджаць адназначна: большая частка ксяндзоў і манахаў беларускіх губерняў удзельнічала ў паўстанні або спачувала паўстанцам. Ацэньваючы ролю, якую адыграла каталіцкае духавенства ў паўстанні 1863 г., некаторыя расійскія даследчыкі заяўлялі даволі катэгарычна, што яно было галоўнай ідэйнай сілай паўстання [1. С. 66]. Другія былі менш катэгарычныя, але сутнасць заставалася той жа: "Аб'ядно-

ўваючы ў сабе каталіцызм як сілу духоўную і паланізм як сілу палітычную, лаціна-польскае ксяндзоўства, не выступаючы наперад, змагло зрабіцца кіраўніком панства і … пастаяннай дзеючай асобай рэвалюцый" [2. С. 7].

Роля каталіцкага духавенства і сапраўды была вялікай, асабліва на стадыі падрыхтоўкі да паўстання, бо менавіта яму належала ўдыхнуць у шырокія масы каталіцкіх вернікаў ідэі незалежнасці і адраджэння былой славы і магутнасці Рэчы Паспалітай.

Праца гэтая пачалася ў беларускіх касцёлах у пачатку 60-х гг. і асабліва актывізавалася пасля падзей, што адбыліся ў Варшаве ў лютым 1862 г., або, як іх афіцыйна называлі расійскія чыноўнікі, "беспарадкаў у Варшаве". Тады, у час разгону дэманстрацыі, загінула некалькі чалавек. У касцёлах Беларусі служылі паніхіды па забітых у Варшаве, многія жыхары беларускіх губерняў насілі жалобнае адзенне са спецыяльнымі знакамі. Нашэнне жалобнага адзення па памерлых ці загінуўшых — справа звычайная. Але масавае выкарыстанне гэтага звычаю на пачатку 60-х гг. XIX ст. успрымалася як дэманстрацыя негатыўных адносін да расійскіх улад, жалоба па Айчыне — Рэчы Паспалітай, надзея на яе адраджэнне. Сучаснікі тых падзей сведчылі, што нашэнне сукенак з плярэзамі*, чорных капялюшаў з белымі пер'ямі спалучалася з рознымі эмблематычнымі ўпрыгажэннямі ў польскім патрыятычным стылі. Гэтыя ўпрыгажэнні складаліся з чорных ланцугоў з крыжамі, такіх жа завушніц, брошак, бранзалетаў, паясоў, гузікаў з выявамі пераломанага крыжа (успамін аб варшаўскай дэманстрацыі 8 красавіка, падчас якой у аднаго з удзельнікаў было зламана распяцце), белага арла, партрэтаў народных герояў. Мужчыны акрамя звычайных прыналежнасцяў жалобы і плярэзу насілі крэп на рукавах, капялюшы былі заменены на канфедэраткі і гарыбальдыйкі [3. С. 52].

Звесткі аб паніхідах і нашэнні жалобнага адзення паступалі з усіх куткоў Беларусі. Улады забаранялі нашэнне сімвалаў жалобы і іншых "рэвалюцыйных" адзнак. Але жадаемых вынікаў гэтыя забароны не прыносілі.

Не маглі справіцца ўлады і са спяваннем у касцёлах польскіх патрыятычных гімнаў, што асабліва раздражняла іх. Часцей за ўсё ў касцёлах Беларусі гучала "Божа, які Польшчу!..", "Яшчэ Польшча не загінула!.." і інш. Былі нават зроблены пераклады гімнаў на беларускую мову. Гімн "Божа, які Польшчу!.." быў надрукаваны лацінкай і ўключаў у сябе куплеты, прысвечаныя

* Плярэзы — жалобныя нашыўкі на рукавах або каўнеры.

барацьбе уніятаў Беларусі супраць пераводу іх у праваслаўе [3. С. 51].

24 кастрычніка 1861 г. мінскі губернатар у сваёй справаздачы да міністра ўнутраных спраў П.Валуева паведамляў: "Адчуваецца ўплыў апошніх варшаўскіх падзей. Спевы ў касцёлах паўтараюцца з шалёным фанатызмам да такой ступені, што моладзь патушыла святло ў касцёле мінскіх бенедыктынак, зневажала прыстава, які быў там у час службы. Знайсці вінаватых немагчыма" [4. С. 4].

Паліцэйскія меры, калі за адно толькі падазрэнне ва ўдзеле ў рэвалюцыйным руху і сьпяванні ў касцёлах патрыятычных гімнаў ксяндза маглі звольніць з працы або перавесці ў іншую парафію, прыводзілі да таго, што гімны час ад часу сціхалі, каб потым зноў загучаць з новай сілай.

Праваслаўнаму духавенству адводзілася адпаведная роля ў падзеях, якія ў хуткім часе чакаліся. Нельга было не лічыцца з яго прысутнасцю і ўплывам на праваслаўнае насельніцтва, колькасць якога на Беларусі ў выніку скасавання уніі ў 1839 г. значна павялічылася. Мусіць, жадаючы разбудзіць сярод праваслаўных святароў (з ліку былых уніятаў) успаміны аб мінулым і прыцягнуць іх на свой бок або прымусіць не ўмешвацца ў падзеі, рымска-каталіцкае духавенства Польшчы звярнулася ў 1862 г. да праваслаўнага духавенства Беларусі і Літвы з адозвай. "Надзвычайная эпоха настае для нас, палякаў, — гаварылася ў ёй. — Паўстаньце ад грахоў, апамятайцеся, вы народжаны вашымі маці палячкамі, якія вас выкармілі, праводзілі неспакойныя ночы над вамі, каб выхаваць з вас сыноў Айчыны і добранадзейных пастараў народа. Але ж вы як вучыце, якія прамаўляеце казанні?.. За мізэрныя царскія грошы вы прадалі душу "д'яблу", о бяда вам будзе, бяда!!! Не хвалюйце сельскіх жыхароў, мы вам загадваем, таму што ведаем аб вашых злых і тайных намерах; абыходзьцеся з народам разважліва, унушайце яму любоў да бліжняга, бо помста палякаў за св. веру страшэнная" [5. С. 47 — 48].

Гістарычныя падзеі пацвердзілі абгрунтаванасць адозвы рымска-каталіцкага духавенства: у ходзе паўстання адбылося нямала жорскіх расправаў з праваслаўнымі святарамі, якія ў той ці іншай форме выказалі сваю падтрымку расійскім уладам. Распраўляліся па-рознаму: святару Жытлінскай царквы Слонімскага павета Мікалаю Ступніцкаму паўстанцы пагалілі галаву і забралі прадуктовыя прыпасы. Нярэдка здаралася, што праваслаўных святароў прымушалі падпісваць ад імя непісьменных сялян розныя адозвы, прысутнічаць у

час прывядзення ксяндзамі да прысягі паўстанцкаму ўраду праваслаўнага насельніцтва, чытання маніфесту паўстанцкага ўрада на польскай мове і г.д. У цэрквах, духоўных семінарыях, дамах сяшчэннікаў з'яўляліся адозвы, маніфесты, пракламацыі. У адным з нумароў "Литовских епархиальных ведомостей" за 1863 г. быў надрукаваны адказ семінарыстаў на гэтыя адозвы. Вось што ў ім гаварылася: "Наша духавенства, слава Богу, не такое, якім яго лічаць здраднікі: яно вернае прысязе, мужна разрывае ўсе хітрыя сеці нячыстага, а некаторыя з яго членаў сваю адданасць цару, веры праваслаўнай і праваслаўнай рускай айчыне даказалі тым, што перанеслі ганьбу над іх свяшчэнным санам, цялесныя і духоўныя пакуты, і нават сваёй смерцю..."

І на самой справе, здараліся і забойствы святароў як з аднаго, так і з другога боку. У ноч з 22 на 23 мая 1863 г. быў забіты святар праваслаўнай царквы ў м.Сураж Гродзенскай губерні. Падзеі гэтыя былі так апісаны мясцовым благачынным: "Узброеныя мяцежнікі ў колькасці да 40 чалавек пасля апоўначы... акружылі хату свяшчэнніка Пракаповіча і з крыкам — "адчыняй" — пачалі стукаць у дзверы, айцец Пракаповіч, пачуўшы крык і шум натоўпу каля хаты і разумеючы, што задумана нешта кепскае, паспеў схавацца на гарышчы... Не паспелі адчыніць дзверы, як яны ўжо былі выламаны; сталі біць і ламаць шыбы". Калі айца Пракаповіча знайшлі, яго білі коллямі і дубінамі, потым застрэлілі і павесілі [6. С. 334, 335].

23 мая 1863 г. быў таксама забіты айцец Канапасевіч — святар у м.Багушэвічы Ігуменскага павета Мінскай губерні, 3 ліпеня — айцец Рапацкі, святар у с.Котры Пружанскага павета Гродзенскай губерні [6. С. 467].

Прадстаўнікі расійскага грамадства выказалі свае спачуванні праваслаўнаму духавенству Беларусі. 22 чэрвеня 1863 г. у газеце "День" быў надрукаваны зварот да беларускага праваслаўнага духавенства рэдакцыі газеты, якая ўзяла на сябе смеласць выступіць ад імя ўсяго расійскага грамадства. У ім гаварылася: "Мы вінаваты перад вамі; даруйце нам... Мы, Рускае грамадства, як быццам забыліся пра існаванне Беларусі; мы доўгі час не ведалі аб той глухой, невядомай барацьбе, якую вялі Беларусы за сваю народнасць і веру з магутнымі, моцнымі, хітрымі і багатымі, з усіх бакоў акружаючымі іх ворагамі — пальшчызнай і лацінствам. Якія высокія подзвігі здзейсніла ты, Беларускае духавенства, — беднае, прыгнечанае, не маючае ніякай падтрымкі грамадскай і дзяржаўнай — подзвігі доўгацярплівасці і пакутніцтва" [7. С. 53].

Адносіны паміж праваслаўным і каталіцкім духавенствам падчас паўстання абвастраліся дзеяннямі царскіх улад. Забойствы праваслаўных святароў былі рэакцыяй на фізічныя расправы над каталіцкімі святарамі. Першай ахвярай стаў вікарны ксёндз Ішора (Лідскі павет). Ваенны суд прыгаварыў яго да расстрэлу за чытанне маніфеста нацыянальнага ўрада ў студзені 1863 г. і заклік насельніцтва да паўстання. Пакаранне ксяндза Ішора адбылося 22 мая ў Вільні: “Ад дамініканскага кляштара, які быў пераўтвораны ў турму, пад канвоем яго павялі па вуліцах горада на Лукішскі плац і тут пакаралі прынародна, не здымаючы сана свяшчэннаслужыцеля” [8. С. 119].

24 мая быў расстраляны настаяцель Віварскага касцёла (Лідскі павет) ксёндз Земацкі — таксама за чытанне ў касцёле маніфеста. Не дапамагло яму і тое, што сведкі на судзе паказалі, што дакумент ён чытаў пад прымусам. Усяго на Беларусі і ў Літве было пакарана смерцю восем каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў (Ішора, Земацкі, Дайлід, Гаргас, Фалькоўскі, Нарэйка, Рачкоўскі, Мацкевіч), прычым кожны другі — толькі за чытанне маніфеста [9. Ф. 629, спр. 186, арк. 1, 12, 23, 38, 52].

У хуткім часе адданасць каталіцкага духавенства паўстанцкаму руху пахіснулася. Як толькі стала відавочным, што масавае паўстанне не ўдалося, вышэйшае каталіцкае духавенства звярнулася да насельніцтва каталіцкага веравызнання з заклікам скласці зброю і падпарадкавацца законнаму ўраду. 13 верасня 1863 г. Віленская рымска-каталіцкая кансісторыя вырашыла “зрабіць цыркулярнае распараджэнне на польскай мове па ўсёй епархіі аб прызванні народа да гарачых малітваў з чыстасардэчным раскайваннем і просьбай у Госпада Бога палажыць канец гэтым няшчасцям і ўсталявання міру…” [10. Ф. 604, воп. 5, спр. 331, арк. 7]. Складзеная адозва “Do rzymsko-katolickiego Duchowenstwa i Ludu wiernego po Dyecezyi Wilenskej” была даведзена праз дэканаў да ўсяго каталіцкага духавенства для зачытання яе з амбонаў у першую ж нядзелю або свята пасля атрымання дакумента.

Выканаўчы аддзел нацыянальнага ўрада ў спецыяльным звароце да духавенства выкрыў баязлівасць і здрадніцтва іх іерархаў. Але справа была зроблена: адступніцкая пазіцыя вышэйшага каталіцкага духавенства нанесла вялікую шкоду паўстанню ў Беларусі і Літве, асабліва ў тых мясцовасцях, дзе насельніцтва каталіцкага веравызнання складала значную частку.

Пасля падаўлення паўстання становішча каталіцкага касцёла на Беларусі значна пагоршылася. Удзел ксяндзоў і манахаў у паўстанні з'явіўся падставай для адміністрацыйных улад, каб прымяніць да іх прымусовыя меры, распачаць жорскі ўціск. Праз шмат гадоў пасля гэтых падзей магілёўскі архіепіскап, мітрапаліт усіх рымска-каталіцкіх цэркваў Расійскай імперыі граф Шэмбек дасць ім такую ацэнку: "Падзеі 1831 і 1863 гг. парушылі нармальнае цячэнне каталіцкага рэлігійнага жыцця, асабліва ў Паўночна-Заходнім краі. На змену закону прыйшлі адміністрацыйныя распараджэнні, абмежаванні і забаронныя меры, якія нярэдка суправаджаліся цяжкімі спагнаннямі і пакараннямі" [10. Ф. 697, воп. 2, спр. 360, арк. 5].

За ўдзел у паўстанні ў Беларусі і Літве акрамя васьмі пакараных смерцю 36 ксяндзоў былі сасланы на катаржныя работы, 6 — на пасяленне ў Сібір, 19 — у менш аддаленыя месцы Сібіры з пазбаўленнем асабістых правоў [11. С. 19]. Дзесяткі ксяндзоў былі сасланы ва ўнутраныя губерні Расіі, пазбаўлены сана або панеслі іншыя пакаранні.

Здавалася, што ўвесь адміністрацыйны і судовы апарат толькі тым і займаўся, што разгляданнем спраў паўстанцаў. У генерал-губернатара М.Мураўёва асабіста хапала часу на ўсіх, нават на тых, хто паспеў збегчы за мяжу. У 1865 г. ваенна-палявы суд завочна разгледзеў справу ксяндза Новамышскага касцёла Навагрудскага павета Бржэзінскага за ўдзел у паўстанні. Сам ксёндз ужо знаходзіўся ў Швейцарыі, а доказам яго віны служыла пісьмо, напісанае ім да рэктара Мінскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі. Рашэнне суда, накіраванае мінскаму губернатару, было мудрым. "Палявы суд, — адзначалася ў ім, — мае за гонар прадставіць вашаму правасхадзіцельству дзейнічаць паводле вашага меркавання" [12. Ф. 295, воп. 1, спр. 1771, арк. 4].

У той жа час тыя свяшчэннаслужыцелі, што актыўна садзейнічалі падаўленню паўстання, атрымалі ўзнагароды. 1 студзеня 1865 г. выйшаў царскі ўказ аб заснаванні спецыяльнага медаля "В память усмирения польского мятежа 1863 — 1864 годов". Медаль быў двух колераў: светлы — для вайскоўцаў, цёмны — для іншых асоб, у тым ліку і для асоб духоўнага ведамства ўсіх веравызнанняў [10. Ф. 604, воп. 5, спр. 464, арк. 2]. У цыркуляры ад 11 сакавіка 1865 г. даваліся тлумачэнні, хто з прадстаўнікоў духавенства і за што можа атрымаць гэтую ўзнагароду. У адносінах да праваслаўнага духавенства рэкамендавалася мець на ўвазе не толькі асабістыя заслугі, але і тое, што праваслаўныя святары падвяргаліся ўціску і ганенням з

боку паўстанцаў і, "знаходзячыся кожную хвіліну ў небяспецы пазбавіцца жыцця, неслі верную службу царкве і айчыне" [10. Ф. 604, воп. 5, спр. 464, арк. 3]. Што тычылася каталіцкага духавенства і наогул іншавернага — "удастайваць толькі актыўна дапамагаўшых падаўленню мяцяжу; адно толькі акуратнае выкананне сваіх службовых абавязкаў і непрыхільнасць да беспарадкаў не дае падставы для ўзнагароды".

З ліку праваслаўнага духавенства ўзнагароды атрымалі, зразумела, многія. Але адных медалёў для падтрымкі прэстыжу праваслаўнага духавенства, як і наогул праваслаўнай царквы на Беларусі, было недастаткова. Гэта добра разумеў тагачасны генерал-губернатар М.Мураўёў. У "Запісцы аб некаторых пытаннях па ўладкаванні Паўночна-Заходняга краю", падрыхтаванай ім на імя імператара ў маі 1864 г., адной з першых, найважнейшых мер адзначалася неабходнасць павялічыць жалаванне праваслаўнаму духавенству, бо без яго падтрымкі, лічыў Мураўёў, "нельга разлічваць на трывалае ўсталяванне рускай народнасці ў тым краі" [13. С. 44].

Царскі ўрад пагадзіўся матэрыяльна падтрымаць "надзейную народную сілу". Святарам было павялічана жалаванне да 400 руб. у год. А яшчэ раней, у канцы 1863 г., па просьбе таго ж Мураўёва з дзяржаўнага казначэйства былі выдзелены 42 тыс. руб. для аказання дапамогі тым духоўным асобам, якія пацярпелі ад паўстанцаў [2. С. 55]. У Літоўскай епархіі, напрыклад, дапамогу атрымалі 328 чал. Грошы былі размеркаваны наступным чынам: на Віленскую губерню было выдзелена 5400 руб., на Ковенскую — 1495, на Гродзенскую — 16 740 руб. [11. С. 197].

Што да каталіцкага духавенства, то, мяркуючы па архіўных крыніцах, да ўзнагароды прадстаўляліся галоўным чынам чыноўнікі духоўнага ведамства. Па Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі было прадстаўлена восем чалавек — сталаначальнік, архіварыус, сакратар і г.д. Як адзначалася ў прадстаўленні, "яны праяўлялі адданасць ураду ва ўсе часы, імкнуліся хутка выконваць адміністрацыйныя распараджэнні ў адносінах падаўлення мяцяжу". Значна большым быў той спіс, які Віленская рымска-каталіцкая духоўная кансісторыя прадставіла Віленскай следчай камісіі па палітычных справах. У гэты спіс увайшлі ксяндзы, дыяканы, семінарысты, што самавольна і невядома куды выехалі падчас паўстання, а таксама тыя, хто быў арыштаваны за антыўрадавыя дзеянні. Ён складаўся са 136 чалавек. Сярод іх былі настаяцель Васілішскага прыхода

Сырвінд, настаяцель Смаргонскага прыхода Залескі, вікарны таго ж Смаргонскага касцёла Пяткевіч і інш. [10. Ф. 604, воп. 5, спр. 399, арк. 1, 10, 12].

Найбольш распаўсюджаным відам пакарання каталіцкага духавенства была высылка ва ўнутраныя губерні Расіі. Там святчэннаслужыцелі знаходзіліся пад наглядам паліцыі да 1871 г. Толькі ў 1872 г. ім было дазволена займаць пасады ў парафіяльных касцёлах. Аднак пры гэтым усе губернатары атрымалі загад міністра ўнутраных спраў дапускаць ксяндзоў да сваіх пасад толькі з дазволу "міністра ўнутраных спраў і 3-га аддзялення Асаблівай Яго імператарскай Вялікасці Канцылярыі" з тым, "каб гэтыя асобы не вылучаліся настаяцелямі, а толькі вікарнымі, і знаходзіліся пад надзорам іх духоўнага начальства і сакрэтным наглядам паліцыі" [12. Ф. 295, воп. 1, спр. 1671, арк. 66].

Да рэпрэсіўных мер, што прымяняліся да каталіцкай царквы пасля паўстання 1863 г., адносілася і закрыццё касцёлаў і кляштараў. Усяго за 1864 — 1867 гг. па Віленскай і Гродзенскай губернях іх было скасавана 140 [15. С. 15 — 53]. У Ашмянскім дэканаце ў канцы 1866 г. дзейнічала толькі 9 касцёлаў, у той час як у 1864 г. іх налічвалася 17. У Гродзенскім дэканаце з 25 касцёлаў і капліц засталося 11, у Лідскім адпаведна 13 з 20, у Кобрынскім — 2 з 7, у Слонімскім — 5 з 33 і г.д. [10. Ф. 604, воп. 5, спр. 397, арк. 31 — 37; воп. 1, спр. 4839, арк. 21 — 23].

Скасаваныя касцёлы па большай частцы пераўтвараліся ў праваслаўныя цэрквы. Архівы сцвярджаюць, што працэс пераўтварэння рымска-каталіцкіх касцёлаў у праваслаўныя цэрквы ў розных месцах праходзіў па-рознаму: дзе ціха і непрыкметна, а дзе справы прымалі даволі-такі востры характар і завяршаліся толькі пасля ўмяшання генерал-губернатара. Да ліку такіх адносіцца, прынамсі, закрыццё касцёла ў м.Юравічы, што ў 20 вярстах ад Мазыра. Што з'явілася падставай для правядзення гэтай акцыі? Калі ў 1864 г. праваслаўны епіскап Мінскі і Бабруйскі давёў да ведама Мураўёва, што духавенства гэтага касцёла пастаянна ўмешваецца ў справы праваслаўных, апошні запатрабаваў звесткі аб касцёле і пазіцыі яго святчэннаслужыцеляў у паўстанні 1863 г., якія былі прадстаўлены ваенным начальнікам Мазырскага і Рэчыцкага паветаў. Яны змяшчалі наступнае: Юравіцкі касцёл быў пабудаваны езуітамі ў 1746 г. (па іншых крыніцах — у 1726 г.) і, згодна з легендай, перароблены з праваслаўнай царквы, ад якой засталася цудатворная ікона Божай Маці. Потым у якасці кляштара ён перайшоў да бернардынцаў.

У 1831 г. за ўдзел у паўстанні быў закрыты, але ў 1840 г. зноў вернуты каталікам. "Юрыдычных фактаў, — сцвярджаў ваенны начальнік, — аб прыняцці ксяндзамі ўдзелу ў мяцяжы хаця і няма, але чуткі застаўляюць сумнявацца ў іх палітычнай благанадзейнасці" [12. Ф. 43, воп. 1, спр. 88, арк. 3].

Мураўёву гэтых звестак было дастаткова, каб 11 лістапада накіраваць мінскаму губернатару прадпісанне аб неабходнасці хутчэй закрыць касцёл. Праўда, ён папярэдзіў, каб усё было праведзена ціха і благапрыстойна. Цудатворная ікона Божай Маці павінна была застацца ў праваслаўнай царкве.

Касцёл быў зачынены 27 лістапада 1864 г. Аб гэтых падзеях захаваліся ўспаміны тагачаснага вікарнага ксяндза Сенчыкоўскага (у далейшым ярага прыхільніка распалячвання касцёлаў). Вось як ён апісваў вышэйазначаныя падзеі: "У Юравічах я сустрэў роту салдат, якія на працягу чатырох гадзін сякерамі рубілі ў касцёле алтары, статуі 12 апосталаў і арган, які каштаваў 6 тыс. руб. Гэта ўзрушыла мяне да глыбіні душы... Рота салдат была пад камандаваннем ваеннага начальніка павета маёра Стэфановіча, ярага фанатыка-паляка. Але для таго, каб паказаць сваю адданасць Расіі, ён загадаў рубіць алтары.

... Пасля такога вандалізму і богазневажання ў прысутнасці маёй і каталікоў, — працягвае Сянчыкоўскі, — Стэфановіч звярнуўся да каталікоў са словамі: "Глядзіце, Ваш касцёл ужо праваслаўны, "Матка Боская" (цудатворная ікона Божай Маці) ужо прыняла праваслаўе. Таму і вы прымайце праваслаўе, а ўрад кожнаму прыняўшаму праваслаўе дасць узнагароду — па 30 руб.". Але тут выйшаў наперад 80-гадовы старац, пакланіўся і сказаў: "Ня хочам мяняць лепшую веру на горшую". — "Як на горшую?" — крыкнуў маёр Стэфановіч. Старац, нікольк не збянтэжыўшыся, адказаў: "А як жа, пане, не горшая, калі вы нават да нашай веры яшчэ 30 руб. у прыдачу даеце! Я, калі мяняю каня, дык заўсёды даю ўпрыдачу, калі мой конь горшы. І так усе робяць" [16. С. 10 — 11].

Але гэтым справа не скончылася. Каталіцкае духавенства не жадала губляць парафію ў добрым месцы. Мінскі рымска-каталіцкі епіскап Вайткевіч прадпісаў Рэчыцка-Мазырскаму дэкану пакінуць парафію, а парафіян (у іх лік уваходзілі жыхары м.Юравічы, в.Крыніцы, Града, Шарэйкі, Прудок, Тульгавічы, Канушкі, Радовічы, Багуслававічы і 11 фальваркаў — усяго 484 чал.) прыпісаць да капліцы, што знаходзілася тут жа, у Юравічах.

Распараджэнне рымска-каталіцкага епіскапа выклікала незадаволенасць мясцовых улад і праваслаўнага духавенства. У маі 1866 г. на імя мінскага губернатара паступіў рапарт ваеннага начальніка Мазырскага і Рэчыцкага паветаў. У ім адзначалася, што "існаванне парафіі ў Юравічах будзе мець дрэнны ўплыў на распаўсюджванне праваслаўя ў гэтым краі. Мястэчка Юравічы складае такі важны пункт у справе лацінскай прапаганды, што яе прадстаўнікі ўсімі сіламі імкнуцца ўтрымаць яго. Адабраць яго ў іх неабходна..." [12. Ф. 43, воп. 1, спр. 88, арк. 60].

Мінскі губернатар звярнуўся з лістом да генерал-губернатара, якім у той час быў К.П.Каўфман. Падрабязна расказаўшы аб усёй гэтай гісторыі, губернатар адзначыў, што, нягледзячы на закрыццё касцёла, парафія засталася. Ксяндзы вядуць прапаганду, сцвярджаючы, што цудатворная ікона першапачаткова з'явілася ў капліцы і што зараз сама боская сіла ўладкоўвае тут парафію. Каб пацвердзіць свае словы, ксяндзы хочуць паставіць у капліцы копію цудатворнай іконы і распаўсюдзіць чуткі ў народзе, што ікона, якую забралі ў веруючых, зноў вярнулася.

Адказ фон Каўфмана быў кароткі: рымска-каталіцкаму епархіяльнаму начальству прадпісвалася як мага хутчэй перавесці ксяндза ў другое месца, парафіян перамеркаваць па другіх касцёлах, маёмасць капліцы перадаць у бліжэйшы парафіяльны касцёл.

Яшчэ больш моцнаму ўціску падвяргаліся каталіцкія кляштары. Тут у Мураўёва ўжо быў назапашаны вопыт. Нездарма ж за паспяховае скасаванне рымска-каталіцкіх кляштараў у Гродзенскай губерні пасля паўстання 1831 г. ён атрымаў найвысачэйшую падзяку. У канцы 1864 г. Мураўёў разаслаў усім губернатарам сакрэтнае прадпісанне аб прадстаўленні яму неабходных звестак. "У сувязі з вельмі вострай неабходнасцю, — пісаў ён начальніку Магілёўскай губерні, — прашу Ваша Правасхадзіцельства сабраць самыя дакладныя звесткі і прадставіць мне ў хуткім часе: колькі налічваецца ў Вашай губерні рымска-каталіцкіх кляштараў, як мужчынскіх, так і жаночых, якія менавіта і колькі ў кожным з іх манахаў... Пры гэтым не забудзьце адзначыць, з якіх рымска-каталіцкіх кляштараў былі ўдзельнікі апошняга польскага мяцяжу, і наогул, якія з іх ліку найбольш неблаганадзейныя" [12. Ф. 2001, воп. 2, спр. 107, арк. 1].

Спробы епіскапа Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі растлумачыць адсутнасць манахаў падчас паўстання

тым, што ў сувязі з няхваткай белага духавенства яны мусілі знаходзіцца ў парафіях або ў адпачынках "па слабасці здароўя", не маглі задаволіць Мураўёва. У выніку ў Магілёўскай губерні не засталося ніводнага кляштара. І наогул да канца XIX ст. у беларускіх губернях было толькі два мужчынскія каталіцкія кляштары з 5 манахамі і тры жаночыя з 35 манашкамі. Агульная колькасць касцёлаў і капліц склала тут 466, колькасць каталіцкіх святароў — 505.

Падчас паўстання, што ўспыхнула на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Беларусі ў 1863 — 1864 гг., рабілася стаўка на тое, што ідэі уніяцтва яшчэ не згаслі ў душах былых уніятаў і іх святароў. Здавалася, што гэта павінна было прынесці станоўчыя вынікі, бо на пачатку 60-х гг. Літоўская праваслаўная епархія (у яе ўваходзілі Віленская, Гродзенская, Ковенская губерні) налічвала амаль 700 тыс. вернікаў, галоўным чынам былых уніятаў [17. С. 382]. У Мінскай епархіі з 535 праваслаўных прыходаў, што існавалі ў 1860 г., больш паловы (322) — былыя уніяцкія, далучаныя ў 1839 г.

Таму ў ліку шматлікіх адозваў, якія распаўсюджваліся сярод насельніцтва беларуска-літоўскіх губерняў напярэдадні і падчас паўстання, былі і такія, што звярталіся да былых уніятаў. Гэта і "Do duchowienstwa prawoslawnego wysnania" і "Polska i kosciol unicki", выдадзеная ў Парыжы; некалькі рукапісных адозваў "Былому уніяцкаму духавенству" і інш.

Адозвы каталіцкага духавенства непакоілі мясцовыя ўлады і праваслаўных іерархаў. Асабліва вялікую ўвагу надаваў гэтаму літоўскі мітрапаліт І.Сямашка. Думаецца, гэта нездарма. Каму, як не яму, былому уніяцкаму архірэю, які меў ад прыроды праніклівы розум і глыбокую назіральнасць, была зразумела пагроза, якую таілі ў сабе гэтыя адозвы. Каб нейтралізаваць іх уплыў на мясцовае праваслаўнае духавенства, якое ў сваю чаргу магло непажадана паўплываць на сваю паству, Сямашка склаў "асобае прадпісанне", якое было разаслана ўсім благачынным цэркваў і манастыроў Літоўскай епархіі.

Благачынныя павінны былі данесці змест прадпісання да кожнага праваслаўнага святара. У абавязкі святароў ставілася перасцерагаць сваю паству ад змовы з паўстанцамі і данасіць аб усім свайму кіраўніцтву і непасрэдна мітрапаліту, каб той мог своечасова прыняць меры. Мітрапаліт асабіста адклікаўся на кожнае праяўленне паўстанцкага настрою. Так, калі ў маі 1863 г. у Літоўскай духоўнай семінарыі была знойдзена пракламацыя народнага жонду, Сямашка наведаўся туды. Ён выступіў з прамовай перад семінарыстамі і прапа-

наваў ім даць адказ, сам жа ў гэты час чакаў на кватэры ў рэктара. Частка адказаў, напісаных у духу праваслаўя і рускай дзяржаўнасці, была надрукавана ў "Литовских епархиальных ведомостях".

Былыя уніяцкія вернікі, як і былыя уніяцкія святары, што сталі праваслаўнымі, не падтрымалі паўстання. Чаму? Што тычыцца духавенства, то, думаецца, тут паўплывала тое, што і ўлады, і ў першую чаргу вышэйшае праваслаўнае духавенства вельмі пільна сачылі за падзеямі, не прапускаючы ніводнага выпадку хістання ці слабасці. Калі два маладыя святары з Гродзенскай губерні — Бялевіч (с.Гавейнавічы) і Жаброўскі (с.Мілавіды) — пад прымусам падпісалі за непісьменных сялян прысягу народнаму жонду, на іх адразу ж было накладзена спагнанне. Адзіным "непатрыятычным учынкам" сярод духавенства Літоўскай епархіі, адзначалі сучаснікі падзей, быў учынак святара Нарачанскай царквы Скабалановіча. Ён і дзве яго дачкі, ахрышчаныя і выхаваныя ў каталіцтве, былі западозраны ў сувязях з паўстанцамі і забеспячэнні іх харчаваннем. Свяшчэннік быў змешчаны ў Гродзенскі манастыр, а яго дачок Мураўёў саслаў у Гомель.

Што да сялянскай масы, то тут трэба прыняць да ўвагі той індыферэнтызм, які быў характэрны для яе і на які звяртала ўвагу шмат сучаснікаў, пакінуўшых свае назіранні. Галоўнае ж, што адсоўвала рэлігійныя матывы ў дзеяннях сялян на другі план, было, відаць, тое, што іх думкі былі на той час больш заняты сваім эканамічным становішчам.

Такім чынам, галоўнымі дзеючымі асобамі ў паўстанні 1863 г. былі дзве хрысціянскія канфесіі — каталіцкая і праваслаўная, іх вернікі і свяшчэннаслужыцелі. Што ж тычылася іншых канфесій і іх духоўных асоб, як хрысціянскіх, так і нехрысціянскіх, то ў большасці сваёй яны імкнуліся не ўмешвацца ў вышэйазначаныя падзеі. Праўда, не ўсе і не заўсёды. Цікава, што стараверы, нягледзячы на іх здавалася б непрымірымыя адносіны з царскім урадам і афіцыйным праваслаўем, не прынялі бок паўстанцаў. Яны заставаліся вернымі "истинно русскому духу", а мабыць, сыграла сваю ролю і некаторае паслабленне, што было даравана ўрадам Аляксандра II у 1858 г.

Падчас паўстання ідэйныя кіраўнікі старавераў — старавіры Рагожскіх могілак і беспапоўцы Прэабражэнскай багадзельні — прыслалі цару "верноподданіческие адреса". Цар прыняў іх у Белай зале Зімняга палаца і сказаў: "Я рады бачыць вас і ўдзячны за спачуванне агульнай справе.

Мне хацелі вас ачарніць, але я гэтаму не паверыў і ўпэўнены, што вы — такія ж падданыя, як і ўсе іншыя. Вы — мае дзеці, а я — ваш бацька і малю Бога за вас так жа, як і за другіх" [18. С. 370].

"Клапатлівы бацька" дазволіў адчыніць шэраг стараверскіх малітоўных дамоў, што былі апячатаны. Напрыклад, 9 верасня 1863 г. выйшаў указ "О распечатании моленной в д.Кубличизна". Тэкст указа паведамляў: "... прымаючы ва ўвагу палітычныя падзеі і той удзел, які прымала ў іх раскольніцкае насельніцтва Заходніх губерняў, дазволіць распячатаць маленную у вёсцы Кублічызна, не прыдаючы гэтаму віду ўрадавай меры" [19. С. 599].

Іншых пазіцый прытрымліваліся яўрэйскае насельніцтва, што спавядала іудаізм, і іх духоўныя настаўнікі. Яшчэ падчас падзей у Варшаве ў 1861 г. варшаўскі рабін Беруш Майзель заклікаў да яднання з палякамі. Яўрэі горада на чале са сваімі рабінамі выходзілі на дэманстрацыі, вялі агітацыю сярод рабочых, перапраўлялі нелегальна зброю і г.д. Калі ў 1863 г. пачалося паўстанне ў Літве і Беларусі, паўстанцы, каб схіліць на свой бок яўрэйскае насельніцтва, выпусцілі праскламацыю на польскай і яўрэйскай мове. У ёй гаварылася: "Калі мы з дапамогай Усявышняга вызвалім краіну ад маскоўскай няволі, мы разам будзем радавацца міру. Вы і дзеці вашыя будзеце карыстацца ўсімі грамадзянскімі правамі, без абмежаванняў, бо народны ўрад не будзе запытваць аб веры і паходжанні, а толькі аб месцы нараджэння" [20. С. 220]. Гэта спакушала ў рады паўстанцаў яўрэйскую моладзь, прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Бывалі выпадкі, калі яўрэі распаўсюджвалі сярод сялян адозвы ксяндзоў, даносілі паўстанцам аб руху рускіх войскаў. Аднак гэта былі адзінкавыя выпадкі. У цэлым жа яўрэйскае насельніцтва не прымала ўдзелу ў паўстанні, а на Беларусі і ў Літве нават і не спачувала яму.

Што тычыцца мусульманскага насельніцтва і іх духоўных настаўнікаў, то яны захоўвалі сяброўскі нейтралітэт, пазбягаючы актыўных дзеянняў [21. С. 138].

Паўстанне закончылася паражэннем. Не ўдалося рэалізаваць мару, якая захоўвалася ў пэўнай часткі насельніцтва былой Рэчы Паспалітай з канца XVIII ст., — мару аб адраджэнні яе былой славы і моцы. Вынікам паўстання сталі вялікія змены ў канфесіянальнай палітыцы, якія тычыліся практычна ўсіх канфесій і асабліва каталіцтва і праваслаўя.

## 2.2. ПАЛІТЫКА РУСІФІКАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА ПРАЗ ПРАВАСЛАЎНУЮ ЦАРКВУ

Пасля таго як было падаўлена паўстанне 1863 г., палітыка царызму на беларускіх землях прыняла жорсткую накіраванасць на зацвярджэнне тут рускіх дзяржаўных асноў. Ажыццяўлялася яна пад сцягам "заходнерускага адраджэння". Не апошняя роля ў ажыццяўленні гэтай палітыкі адводзілася праваслаўнай царкве. Праваслаўе ў рускім грамадстве асэнсоўвалася як аснова рускай народнасці, галоўная артэрыя яе духоўнага развіцця. І менавіта праваслаўная царква, яе святары павінны былі пераканаць беларусаў у тым, што іх родная зямля спрадвеку — рускі край, а самі яны апалячаныя рускія, якіх зараз трэба вярнуць і да праваслаўнай царквы, і да рускай народнасці. Для гэтага яна мела шырокія магчымасці. Калі яшчэ на пачатку XIX ст. ішоў працэс завяршэння ўвядзення праваслаўнай царквы ў апарат кіраўніцтва, дык у канцы стагоддзя яна ўжо мела там даволі трывалыя пазіцыі. Клерыкалізацыя закранула ўсю унутраную палітыку самадзяржаўя. Праваслаўная царква аказвала вялікі ўплыў на ўсе бакі жыцця расійскага грамадства, з'яўляючыся апорай самадзяржаўя. Яе статус падтрымліваўся ■ дапамогай спецыяльных законаў.

Нягледзячы на тое, што царызм абвясціў роўнасць усіх веравызнанняў у Расіі, на справе атрымлівалася інакш. Пануючая роля належала праваслаўю, што было зацверджана ў заканадаўчых актах. Згодна са зборам законаў 1857 г. праваслаўнае веравызнанне прызнавалася першынствуючым і пануючым у Расійскай імперыі. За спакушэнне з праваслаўя ў іншае хрысціянскае веравызнанне законы жорстка каралі: пазбаўлялі ўсіх асобых правоў і прывілеяў, адпраўлялі ў ссылку ў Томскую ці Табольскую губерні; тых, хто не быў вызвалены ад цялесных пакаранняў, каралі розгамі і аддавалі ў арыштанцкія роты грамадзянскага ведамства тэрмінам на 1 — 2 гады. У выпадку прымянення насілля пры спакушэнні з праваслаўя віноўныя пазбаўляліся ўсіх правоў і маёмасці і высылаліся ў Сібір на пасяленне [22].

Не менш жорстка караліся і асобы, якія садзейнічалі спакушэнню праваслаўных праз казанні або сачыненні. У такіх выпадках прадугледжваліся наступныя меры. Калі гэта было ўпершыню, то вінаваты пазбаўляўся некаторых асобных правоў і прывілеяў і падвяргаўся зняволенню ва ўціхамірвальным

доме тэрмінам на 1 — 2 гады. У другі раз яго чакала зняволенне да 4 — 6 гадоў, у трэці — пазбаўленне ўсіх асабістых і па стане правоў і адпраўка ў ссылку ў Томскую ці Табольскую губернію з заключэннем на 1 — 2 гады. Тых, хто не быў вызвалены ад цялесных пакаранняў, каралі розгамі і аддавалі ў арыштанцкія роты на 2 — 4 гады. "Адна пануючая царква, — сцвярджаў закон, маючы на ўвазе царкву праваслаўную, — мае права ў межах дзяржавы пераконваць тых, хто не належыць да яе, да прыняцця яе веры" [23. С. 70]. Закон катэгарычна забараняў пераход з праваслаўнага веравызнання ў іншае: "Як народжаным у праваслаўнай веры, так і тым, хто перайшоў з іншай веры, забараняецца адступаць ад яе, прымаць іншую веру, нават і хрысціянскую".

Рабіліся захады, каб зацвердзіць пазіцыі праваслаўнай царквы не толькі заканадаўча. Па ўсёй Беларусі будаваліся і рамантаваліся праваслаўныя храмы, пераводзіліся з унутраных губерняў святары. Грошы, якія былі для гэтага патрэбны, выдзяляліся галоўным чынам з ліку кантрыбуцыі, сабранай са шляхты, што была звязана з паўстанцамі і лічылася польскай [24. С. 144]. Пад праваслаўныя цэрквы прыстасоўваліся зачыненыя пасля паўстання касцёлы. Аднак гэтага было мала, каб ажыццявіць шырокую праграму замацавання праваслаўя на беларускіх землях. У цыркуляры генерал-губернатара К. П. Каўфмана ад 27 снежня 1865 г. адзначалася, што ніякія сумы, выдзеленыя ўрадам на царкоўнае будаўніцтва, не могуць задаволіць, калі самі прыхаджане не будуць утрымліваць цэрквы на свае ахвяраванні. "Дзяржаўныя сродкі, — адзначалася ў цыркуляры, — не могуць распаўсюджвацца на ўсе выключна цэрквы Заходняга краю, а толькі на тыя з іх, што па прычыне малалюднасці і беднасці прыхаджан не могуць быць узведзены без знешняй дапамогі" [12. Ф. 43, Воп. 5. спр. 9, арк. 507].

Канфесіянальная палітыка царызму ў другой палове XIX ст. адносна беларускіх зямель садзейнічала таму, што колькасць праваслаўных вернікаў тут значна ўзрасла. За некалькі гадоў пасля падаўлення паўстання ў цэлым па Расійскай імперыі праваслаўнымі сталі больш за 80 тыс. каталікоў. Большая частка гэтых пераходаў прыходзілася на Літоўскую (Віленская, Гродзенская і Ковенская губерні) і Мінскую епархіі — адпаведна 30 і 37 тыс. чал. [25. С. 51]. Часам пераходзілі цэлымі сем'ямі або нават прыходамі. У м. Мікалаеўшчына (Мінская епархія) праваслаўе

прынялі ўсе прыхаджане рымска-каталіцкага веравызнання колькасцю 700 чал., не лічачы дзяцей. Тое ж самае адбылося і ў м. Беніцы і Валожыне Ашмянскага павета [26. С. 4].

Многія пераходзілі ў праваслаўе пад прымусам, у выніку шантажу і падману. Сяляне падавалі калектыўныя скаргі з просьбай вярнуць іх у каталіцкую веру. Былі і даволі моцныя хваляванні, якія вымушалі ўлады ўводзіць войскі, як адбылося гэта, напрыклад, у м.Ліпск Навагрудскага павета. І хаця царскім чыноўнікам вельмі хацелася перакласці ўсю віну за гэтыя хваляванні на каталіцкіх ксяндзоў і асобных "падбухторшчыкаў" з ліку сялян, было зразумела, што гэта — вынік канфесіянальнай палітыкі, ажыццяўлення яе прымусовымі мерамі. У 1867 г. чыноўнікі МУС, што рэвізавалі беларускія і літоўскія губерні, вымушаны былі адзначыць, што хваляванні сялян — гэта вынік таго, што "грамадзянская ўлада з дапамогай фізічнай сілы датыкнулася да рэлігійнай свабоды веравызнання" і зрабіла гэта сярэдневяковымі метадамі [24. С. 146].

Пераходам з каталіцтва ў праваслаўе ў многім садзейнічала і дараванне розных правоў, прывілей эканамічнага характару. У справаздачы обер-пракурору Св.Сінода за 1866 г. у сувязі з гэтым адзначалася: "Даванне іх (маюцца на ўвазе розныя правы і прывілеі. — *Аўт.*), умацаванне ў краі чыста рускага элемента і прыняцце іншых мер спрыяла аслабленню былога ўплыву на народ з боку пальшчызны і ксяндзоў" [26. С. 5]. Пераходзілі не толькі сяляне, але і прадстаўнікі іншых саслоўяў. У Літоўскай епархіі, напрыклад, у першыя пасля паўстання гады ў праваслаўе перайшлі князі Радзівіл і Любецкі, памешчыкі Лапацінскі, Бялінскі, Біспінг, шмат чыноўнікаў, чатыры ксяндзы і г.д. Асабліва шмат шуму нарабіў пераход з каталіцтва ў праваслаўе князя А.Друцкага-Любецкага. У друку шырока адзначалася, што ён — нашчадак заснавальніка луцкага брацтва, якое ставіла сваёй мэтай ўратаванне праваслаўных вернікаў ад каталіцызму і уні. У "Виленском вестнике" і іншых выданнях быў надрукаваны ліст А.Друцкага-Любецкага, у якім ён тлумачыў сваё рашэнне наступным чынам: "Ні страх, ні матэрыяльныя разлікі не мелі на мяне ніякага ўплыву... Углядаючыся ў палітычнае становішча, я бачу, з аднаго боку, магутную Расію, з мільённым брацкім народам і царом — пераўтваральнікам і сеяцелем дабра на сваёй зямлі, з другога боку — Польшчу, чужую нам, заходнерусам і ліцвінам, з сярэдневяковым каталіцызмам... Што нам дала Польшча? Гады непарадкаў,

галечу, анархію, занапад навук і забыццё нашай народнасці. Мова, вера, звычаі нашых продкаў — усё заменена паланізмам і каталіцызмам, якія не далі ні шчасця ў мінулым, ні залогу на лепшае ў будучым" [26. С. 102 — 103].

У верасні 1867 г. да архіепіскапа Мінскага і Бабруйскага звярнуўся ксёндз Дуброўскага прыхода (Мінская губерня) з просьбай прыняць яго ў праваслаўе разам з прыхаджанамі. У калектыўнай заяве адзначалася, што ў касцёле знойдзены дакументы аб тым, што касцёл гэты да 1806 г. быў уніяцкай царквой, а вернікі — грэка-каталіцкага веравызнання, якіх спакусілі ў лацінства. Прыхаджане выказвалі просьбу пакінуць прыходу ўсю маёмасць, а настаяцелем прызначыць ксяндза Вікенція Кошку. Просьба прыхаджан Дуброўскага касцёла была задаволена.

Прымусовыя пераходы, пераходы ў пошуках эканамічных або нейкіх іншых выгад хаця і мелі масавы характар, але не былі стабільнымі. Псіхалогія вернікаў, іх прыхільнасць да веры сваіх бацькоў заставалася ранейшай. Невыпадкова ў 1878 г. благачынным, святарам усіх цэркваў быў разасланы цыркуляр, у якім патрабавалася канфідэнцыяльна сабраць звесткі аб тых, хто прыняў праваслаўе ў 1863 — 1868 гг. Пытанні, на якія патрэбна было адказаць, былі рознабаковыя: як вернік хрысціцца, на якой мове творыць малітвы, ці часта наведвае царкву, як хавае нябожчыкаў і інш. Але і без цыркуляра было вядома, што многія з тых, хто перайшоў у 60-я гг. з каталіцтва ў праваслаўе, усё яшчэ захоўвалі каталіцкую абраднасць, бо былі з маленства прывучаны да яе. Захоўвалі яе і некаторыя былыя уніяты. У справаздачы обер-пракурора Св.Сінода за 1883 г. у адносінах да вернікаў Мінскай епархіі гаварылася: "Старыя, якія яшчэ памятаюць унію, моляцца ў большасці выпадкаў "па-польску", менш старанныя да царквы, наведваюць касцёлы, зрэдка адпраўляюцца з лацінянамі на багамолле ў Царства Польскае. Што тычыцца маладых, дык многія з іх ведаюць малітвы і па-славянску, і папольску" [7. С. 39].

На працягу 60 — 90-х гг. рост колькасці праваслаўнага насельніцтва ішоў даволі інтэнсіўна, хаця пераходы цэлымі прыходамі супыніліся. Ён перавышаў рост колькасці насельніцтва ўсіх іншых веравызнанняў, і ў першую чаргу каталікоў (табл. 2.1).

Нават калі браць пад увагу, што статыстычныя даныя, якія збіраліся афіцэрамі Генеральнага штаба ў пачатку 60-х гг. і былі пакладзены ў аснову "Атласа народонаселения

*Табліца 2.1.* **Прырост колькасці праваслаўных і каталікоў за 1864 — 1897 гг., тыс. чал.**

| Губерня | Праваслаўныя | | | Каталікі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1864 | 1897 | прырост, % | 1864 | 1897 | прырост, % |
| Віленская | 119,4 | 415,3 | 348,7 | 607,5 | 935,8 | 154,0 |
| Віцебская | 444,9 | 825,6 | 185,6 | 230,2 | 357,3 | 155,2 |
| Мінская | 716,4 | 1558,3 | 217,5 | 179,9 | 217,9 | 121,1 |
| Магілёўская | 738,3 | 1402,2 | 189,9 | 43,0 | 50,1 | 116,5 |
| Гродзенская | 483,4 | 913,3 | 188,9 | 273,1 | 386,5 | 141,5 |
| Усяго | 2502,1 | 5114,7 | 204,4 | 1333,7 | 1947,5 | 146,0 |

Западно-Русского края по исповеданиям", не былі такімі дакладнымі, як матэрыялы перапісу 1897 г., тэндэнцыя прасочваецца даволі выразна. Калі на пачатку 60-х гг. у цэлым у пяці губернях было 2502,1 тыс. праваслаўных і 1333,7 тыс. каталікоў (гэта значыць на аднаго каталіка прыходзілася амаль два праваслаўных), то к канцу XIX ст. суадносіны на карысць праваслаўных павялічыліся яшчэ больш. У 1897 г. у пяці губернях пражывала ўжо 5114,7 тыс. праваслаўных і 1947,6 тыс. каталікоў.

К канцу XIX ст. большая частка насельніцтва Беларусі была праваслаўнай. Згодна з перапісам 1897 г. колькасць праваслаўных і аднаверцаў складала 60 % ад агульнай колькасці насельніцтва пяці губерняў (па 35 беларускіх паветах гэтая лічба склала 4599,4 тыс. і 70,8 %) [27. С. 3, 4, 8, 17].

Такім чынам, колькасць праваслаўнага насельніцтва пераважала ва ўсіх губернях Расійскай імперыі, акрамя Віленскай, дзе перавагу па-ранейшаму захоўвалі каталікі (хаця па беларускіх паветах і нязначную — яны тут складалі 46,1 %).

Рост колькасці праваслаўнай паствы абумоўліваў адкрыццё новых прыходаў. І хаця ў цэлым па Расійскай імперыі згодна з законам ад 16 красавіка 1869 г. аб пераглядзе складу прыходаў і царкоўных прычтаў ішло змяншэнне колькасці прыходаў і скарачэнне штатаў прычтаў, на беларускія епархіі

гэты закон вялікага ўздзеяння не аказаў. І калі на пачатку 60-х гг. у чатырох праваслаўных епархіях (Літоўскай, Мінскай, Магілёўскай, Полацкай) дзейнічала 2826 цэркваў (прыходскіх і прыпісных), то ў пачатку 70-х — 3039, 80-х — 3211, 90-х — 3793 [25. С. 23, 24]. Што тычылася колькасці прыходаў, то ў 1890 г. іх было: у Магілёўскай епархіі — 487 з 1 218 200 вернікамі, у Полацкай — 324 з 760 500, у Мінскай — 540 з 1 261 600, у Літоўскай — 506 з 1 160 300 вернікамі. У той жа час у Магілёўскай епархіі ў адным прыходзе налічвалася 2501 чал., Полацкай — 2347, Мінскай — 2336, Літоўскай — 2293 чал. [25. С. 26]. Праўда, гэтыя сярэднія лічбы не азначалі, што ўсе прыходы былі больш-менш аднолькавымі. І хаця ў цэлым Літоўская епархія мела ў сярэднім найменшыя лічбы па колькасці прыхаджан на адзін прыход, тут сустракаліся вельмі шматлюдныя прыходы, што, зразумела, ускладняла работу свяшчэннікаў сярод паствы.

Рост колькасці праваслаўных вернікаў, храмаў, стварэнне новых прыходаў выклікалі неабходнасць павелічэння колькасці праваслаўных святароў. На працягу другой паловы XIX — пачатку XX ст. іх у беларускіх губернях станавілася ўсё больш. Напрыклад, калі ў 1877 г. у Магілёўскай епархіі налічвалася 567 свяшчэннаслужыцеляў (не ўлічваючы царкоўнаслужыцеляў), то ў 1892 г. іх было ўжо 590, а ў 1904 г. — 672 [28. Ф. 796, воп. 440, спр. 270, арк. 11, 59, 72].

У 1892 г. на Беларусі белага духавенства было: протаіерэяў — 104 (у Магілёўскай епархіі — 24, у Мінскай — 31, у Літоўскай — 26, у Полацкай — 21); свяшчэннікаў — 1924 (у Магілёўскай епархіі — 506, у Мінскай — 546, у Літоўскай — 538, у Полацкай — 334); протадыяканаў, дыяканаў, паддыяканаў — 234 (у Магілёўскай епархіі — 62, у Мінскай — 63, у Літоўскай — 38, у Полацкай — 71); псаломшчыкаў, прычэтнікаў, пеўчых, званароў, старажоў — 1991 (у Магілёўскай епархіі 529, у Мінскай — 552, у Літоўскай — 593, у Полацкай — 318) [28. Ф. 796, воп. 440, спр. 495, арк. 4; спр. 270, арк. 59; спр. 228, арк. 13].

Рыхтавалі праваслаўных святароў духоўныя семінарыі: Магілёўская (заснавана ў 1758 г.), Мінская (1793 г.), Віцебская (1806 г.), Літоўская (пераведзена ў 1845 г. з Жыровіч у Вільна). Для атрымання пачатковай адукацыі і падрыхтоўкі да паступлення ў духоўную семінарыю існаваў шэраг духоўных вучылішчаў (не лічачы жаночых): у Літоўскай епархіі — Віленскае духоўнае вучылішча; у Мінскай — Мінскае, Пінскае,

Слуцкае; у Магілёўскай — Магілёўскае, Мсціслаўскае, Гомельскае, Аршанскае; у Полацкай — Віцебскае і Полацкае; у Гродзенскай (утварылася ў 1900 г.) — Жыровіцкае духоўнае вучылішча [28. Ф. 802, воп. 16, спр. 153, арк. 2, 4, 34, 51, 52].

У 60-я гг. адбылася рэформа духоўных навучальных устаноў. Згодна з новым статутам, зацверджаным 14 мая 1867 г., галоўнай задачай духоўных семінарый была падрыхтоўка юнакоў для служэння праваслаўнай царкве. Паступіць у семінарыю маглі выхадцы з усіх саслоўяў праваслаўнага веравызнання. За 25 гадоў, што прайшлі пасля рэформы, духоўныя семінарыі Літоўскай, Магілёўскай, Мінскай, Полацкай епархій падрыхтавалі 17 698 чал., у тым ліку Літоўскай — 3492 чал., Мінскай — 4942, Магілёўскай — 4986, Полацкай — 4278 чал. Духоўныя вучылішчы за гэты ж час выпусцілі 37 038 чал., у тым ліку: у Літоўскай епархіі — 7302, Мінскай — 11 525, Магілёўскай — 11 922, Полацкай — 6289 чал. [25. С. 180 — 183]. Да канца XIX ст. практычна ўсе свяшчэннікі ў беларуска-літоўскіх епархіях мелі семінарскую падрыхтоўку. Так, калі ў 1877 г. у Магілёўскай епархіі з 477 свяшчэннікаў духоўныя семінарыі закончылі 456 (з іх 438 — багаслоўскі, 18 — філасофскі курс), то ў 1892 г. усе свяшчэннікі епархіі мелі адукацыйны ўзровень не ніжэй семінарскага [28. Ф. 796, воп. 440, спр. 270, арк. 10, 11, 59].

У другой палове XIX ст. далейшае развіццё атрымалі праваслаўныя жаночыя навучальныя ўстановы духоўнага ведамства. Яны падзяляліся на дзве катэгорыі: жаночыя вучылішчы духоўнага ведамства і епархіяльныя жаночыя вучылішчы. Першыя пачалі стварацца ў 1843 г., калі цар Мікалай Паўлавіч у якасці вопыту загадаў усталяваць на два гады ўзорнае трохкласнае вучылішча для дзяўчын духоўнага звання (Царскасельскае вучылішча). Менавіта з гэтага часу бярэ пачатак "асобная сістэма выхавання" дзяўчын духоўнага звання (маюцца на ўвазе асобы праваслаўнага веравызнання). Да гэтага пры жаночых манастырах існавалі спецыяльныя навучальныя (а хутчэй выхаваўчыя) установы. Яны не мелі ні спецыяльнай праграмы навучання, ні агульнай сістэмы выхавання.

На Беларусі жаночыя вучылішчы духоўнага ведамства пачалі ствараца ў 60-я гг., гэта значыць у тыя часы, калі тут актыўна праводзілася палітыка па зацвярджэнні народнай адукацыі як рускай і праваслаўнай. Адукацыі жанчын, будучых маці, удзялялася асаблівая ўвага. Вось што пісаў літоўскі мітрапаліт Іосіф у сувязі з адкрыццём у 1861 г. Віленскага вучылішча: "Спадзяюся, што яны (выпускніцы вучылішча)

будуць добрымі жонкамі і маці, якія патрэбны ў тутэйшым краі для рускіх праваслаўных святароў. Вельмі шкада, што мае намаганні ў гэтым накірунку не змаглі здзейсніцца па крайняй меры гадоў дзесяць таму назад" [25. С. 205].

Палітыка русіфікацыі, якая ўзмацнілася пасля паўстання 1863 г., у даным кірунку выявілася ў тым, што ў беларускіх губернях ствараецца ягшчэ некалькі такіх устаноў: у 1863 г. — у Магілёве, у 1864 г. — у Полацку і Мінску. Існавала (з 1860 г.) і вучылішча ў м. Парычы. Яно было арганізавана жонкай генерал-лейтэнанта М.Пушчына для дачок праваслаўнага духавенства. Усе гэтыя ўстановы называліся спачатку вучылішчамі для дзяўчын духоўнага звання. Але пасля таго, як у выніку рэформы духоўная адукацыя стала ўсесаслоўнай, яны былі ў 1874 г. перайменаваны ў жаночыя вучылішчы духоўнага ведамства.

Аб тым, якая вялікая ўвага надавалася выхаванню дачок праваслаўных свяшчэннікаў беларускіх губерняў, гаворыць той факт, што з 13 жаночых вучылішчаў духоўнага ведамства, якія існавалі ва ўсёй Расійскай імперыі, пяць былі на Беларусі. Кожны год у іх у сярэднім іх навучалася: у Полацкім — 113, у Парычскім — 105, у Віленскім — 87, у Магілёўскім — 85, у Мінскім — 80 вучаніц [25. С. 205]. У праграму навучання ўваходзілі: Закон Божы, царкоўныя спевы, свяшчэнная гісторыя, вучэнне аб богаслужэнні, руская і царкоўнаславянская мова, чытанне, арыфметыка, чыстапісанне, усеагульная гісторыя, руская гісторыя, геаграфія Расіі, усеагульная геаграфія, маляванне ўзораў для шыцця і рукадзелле. Вучэбны курс уключаў таксама выкладанне паняццяў аб фізічным выхаванні дзяцей, доглядзе за хворымі, лекавых раслінах. Для практычнага навучання вядзенню гаспадаркі пры вучылішчах меліся сад, дапаможная гаспадарка. Рэвізіі, што праводзіліся час ад часу, паказвалі, што справы ў многіх вучылішчах ішлі нядрэнна. Так, у 1872/73 вучэбным годзе аб рабоце Магілёўскага вучылішча дзяўчын духоўнага звання паведамлялася: "Пры выкладанні прадметаў настаўнікі галоўным чынам непакоіліся аб тым, каб выхаванкі з разуменнем засвойвалі матэрыял. Законавучыцель, выкладаючы катэхізіс, патрабаваў, каб вучаніцы сваімі словамі пераказвалі новы ўрок, і толькі калі быў перакананы, што яны зразумелі змест, дазваляў вучыць на памяць. Па гісторыі, акрамя пераказу, патрабавалі ведання храналагічных датаў, падзей. Рускую мову, арыфметыку выкладалі такім чынам: выконвалі практыкаванні, задачы, а потым самі выводзілі правілы. Па

геаграфіі патрабаваліся веданне карт, чарцяжоў" [28. Ф. 802, воп. 15, спр. 2, арк. 4].

Побач з жаночымі вучылішчамі духоўнага ведамства існавалі епархіяльныя жаночыя вучылішчы. Яны пачалі ствараецца яшчэ ў 40-я гг., але ў той час больш паходзілі на прыюты для сірот, чым на навучальныя ўстановы. У 1868 г. быў зацверджаны агульны статут з праграмай навучання для гэтых вучылішчаў. Статут указваў, што епархіяльныя вучылішчы ствараюцца для адукацыі дачок праваслаўнага духавенства (дазвалялася прымаць і з другіх саслоўяў пры ўмове ўнясення адпаведнай платы). Вучылішчы гэтыя падпарадкоўваліся Св.Сіноду, але існавалі на мясцовыя епархіяльныя сродкі і на добраахвотныя ахвяраванні ўстаноў і асоб. Непасрэднае кіраўніцтва вучылішчамі было ўскладзена на епархіяльныя вучылішчныя саветы.

Некаторыя змены ў кіраўніцтве вучылішчамі адбыліся ў 1882 г.: было ўстаноўлена, што ўсе служачыя, акрамя начальніцы, зацвярджаюцца на пасаду епархіяльным архірэем. Кандыдатаў на пасаду начальніцы зацвярджаў Св.Сінод па прадстаўленні епархіяльнага архірэя. У праграму навучання ўваходзілі агульнаадукацыйныя прадметы, а таксама рукадзелле і вядзенне хатняй гаспадаркі. Скончыўшыя вучылішчы атрымлівалі званне хатніх настаўнікаў па тых прадметах, па якіх мелі добрыя поспехі, без асобных іспытаў. Усяго ў Расійскай імперыі на пачатку 80-х гг. было створана 49 епархіяльных жаночых вучылішчаў, у тым ліку ў беларускіх епархіях — 2 (Віленска-Марыінскае ў Вільні і Спаса-Ефрасіннеўскае ў Полацку) [28. Ф. 802, воп. 16, спр. 153, арк. 4].

Высокі адукацыйны ўзровень праваслаўных святароў даваў падставу царскім уладам прыцягваць іх да настаўніцкай працы. Адразу ж пасля падаўлення паўстання 1863 г. урадам былі прыняты меры, каб паставіць народную адукацыю пад кантроль праваслаўя. Да гэтага, яшчэ на пачатку 60-х гг., у працэсе абмеркавання праекта статута агульнаадукацыйных навучальных устаноў і праекта агульнага плана стварэння народных вучылішчаў, выказваліся розныя думкі аб тым, якой павінна быць народная школа на Беларусі. Мясцовая шляхта лічыла, аб чым сведчаць шматлікія запіскі, якія дасылаліся ў той час у Міністэрства народнай асветы, што яна павінна быць, як і раней, польскай. Вось, напрыклад, як абгрунтоўвалася гэтая думка ў "Запісцы Мінскага губернскага прадвадзіцеля дваранства аб рэформе народнай адукацыі", паданай міністру народнай асветы 19 мая

1862 г.: "Што тычыцца мовы, то можна цвёрда сказаць, што мова, да якой дзіця прывыкла з маленства, на якой прамаўляе свае першыя малітвы незалежна ад веравызнання, якая выключна выкарыстоўваецца дома і ў грамадстве, менавіта гэтая мова павінна быць мовай для выкладання ў вучылішчах. Такой мовай для нашай губерні з'яўляецца польская. Яна нам пакінута папярэднімі правіцелямі, і хаця і была выведзена з вучэбных установ у 1834 г., але да гэтага часу заставалася жывой у жыцці нашым грамадскім" [5. С. 70 — 71].

Расійская грамадская думка ў большасці сваёй прытрымлівалася афіцыйнага кірунку, лічачы, што народная школа ў губернях так званага Паўночна-Заходняга краю павінна быць рускай. Некаторыя ўсё ж прызнавалі існаванне "мясцовага дыялекту, сялянскай мовы", якую павінны ведаць настаўнікі. Але пасля падаўлення паўстання аб гэтым ужо ніхто не разважаў. Для генерал-губернатара М.Мураўёва ўсё было дасканала проста: разам з чыста рускім нацыянальным характарам школе беларускіх губерняў трэба надаць характар праваслаўны. Надзеі ў гэтым плане ўскладаліся на праваслаўныя царкоўныя школы, што пачалі шырока распаўсюджвацца па ўсёй Расіі ячшэ ў 40-я гг., пасля таго як у 1839 г. выйшаў царскі ўказ, якім праваслаўнае духавенства запрашалася да стварэння царкоўных школ. У тым жа годзе Св.Сінодам былі выдадзены "Правила касательно первоначального обучения поселянских детей", якія давалі духавенству практычныя рэкамендацыі ў гэтай справе і сталі першымі правіламі царкоўна-прыходскіх школ.

На Беларусі праваслаўныя царкоўныя школы пачалі актыўна стварацца з канца 50-х гг. У 1857 г. І.Сямашка звярнуўся з распараджэннем да праваслаўных святароў, якім яны абавязваліся вучыць дзяцей сваіх прыхаджан малітвам і грамаце. Больш таго, каб прыходскія святары не адмаўляліся ад гэтых абавязкаў, іх прымушалі даваць адпаведныя распіскі [29. С. 9, 10]. Чаму спатрэбіліся такія захады? Відаць, таму, што вярхі праваслаўнага духавенства Беларусі непакоіла тое, што іх уплыў на сялянскія масы быў усё яшчэ недастатковы. Каталіцкае духавенства ўсё яшчэ мела вялікі ўплыў у краі. У 1857 г. было дазволена выкладаць польскую мову ў казённых, у 1858 г. — у прыватных навучальных установах. Мясцовая беларуская шляхта пачала актыўна ствараць невялікія школы для сялянства. Прыходскія вучылішчы і вучылішчы дзяржаўных маёмасцяў не адпавядалі тым намерам, якія на іх ускладаліся, ні сваёй колькасцю, ні зместам навучання. На

пачатак 60-х гг. у Віленскай навучальнай акрузе (уключала на той час Віленскую, Гродзенскую, Мінскую і Ковенскую губерні) налічвалася 96 прыходскіх вучылішчаў і 109 вучылішчаў палаты дзяржаўных маёмасцяў. "Але толькі школы, што адкрывала праваслаўнае духавенства, — лічылі царскія чыноўнікі, — давалі адукацыю ў руска-праваслаўным накірунку, ... вучылішчы прыходскія і палатскія з іх настаўнікамі, у значнай большасці палякамі, служылі мэтам хутчэй польскім, чым рускім, а вучылішчы, што адчынялі памешчыкі, ставілі мэтай выхаваць народ у накірунку, варожым праваслаўю і рускай народнасці" [30. С. 56]. Таму і надавалася такая вялікая роля стварэнню царкоўных школ на Беларусі. На пачатак 60-х гг. у 450 прыходах Літоўскай епархіі іх было 250. У Полацкай епархіі (па звестках епархіяльнага назіральніка) царкоўныя школы былі ва ўсіх прыходах. Праўда, былі гэтыя школы нешматлюдныя, не мелі правільнай пастаноўкі вучэбнага працэсу, былі бедна абсталяваны. Здаралася, што ў школе быў толькі адзін падручнік, які разрывалі на лісткі для чытання. Дзе-нідзе наогул не вучылі пісаць, бо не было сродкаў на набыццё паперы і чарніла. Свецкі друк змяшчаў артыкулы, у якіх выказваўся недавер педагагічным здольнасцям свяшчэннікаў і нават самому факту існавання царкоўных школ, а самі яны называліся "потемкинскими деревнями". У 1865 г. дырэкцыя народных вучылішчаў Магілёўскай губерні прызнала не адпавядаючай рэчаіснасці лічбу аб колькасці царкоўных школ, што дало епархіяльнае кіраўніцтва. Тагачаснаму епіскапу Яўсевію прыйшлося даваць тлумачэнні гэтаму факту. На яго думку, справа заключалася ў тым, што дырэкцыя народных вучылішчаў зыходзіла з колькасці школьных будынкаў. Але царкоўныя школы амаль не мелі спецыяльных памяшканняў. Дзяцей вучылі або ў дамах свяшчэннікаў, або ў каго-небудзь з сялян. Таму цяжка было кантраляваць не толькі вучэбны працэс, але і колькасць такіх школ.

Пачынаючы з 1864 г. колькасць царкоўных школ пачынае змяншацца. Гэта тлумачыцца тымі працэсамі, што адбываліся ў цэлым у расійскім грамадстве. Буржуазныя рэформы, распачатыя ў Расіі, закранулі ўсе бакі яе жыцця. У сістэме адукацыі адным з вынікау гэтых рэформаў было наданне ёй свецкага характару. К пачатку 80-х гг. царкоўныя школы захавалі даволі трывалыя пазіцыі толькі ў Магілёўскай епархіі. Тут дзейнічала 898 школ, у той час як у Мінскай епархіі — 184, Полацкай — 20. У Літоўскай епархіі (па да-

ных на 1883 г.) засталося толькі 14 царкоўных школ. Здарылася гэта не таму, што царскі ўрад жадаў адціснуць духавенства праваслаўнага веравызнання ад справы народнай адукацыі. Меркавалася аб'яднаць намаганні розных ведамстваў праз губернскія і павятовыя вучылішчныя саветы, якія павінны былі кіраваць усімі пачатковымі навучальнымі ўстановамі. У губернях гэтыя саветы ўзначальвалі епархіяльныя архірэі. Прадстаўнікі духавенства ў абавязковым парадку ўваходзілі ў склад павятовых вучылішчных саветаў. Меркавалася, што дзякуючы гэтаму справа народнай адукацыі будзе знаходзіцца пад кантролем праваслаўнага духавенства. Палажэнне аб народных вучылішчах прадугледжвала, што адукацыя і выхаванне народа будзе ажыццяўляцца ў кірунку, заснаваным на рэлігійных пачатках (арт. 1) і толькі пры непасрэдным удзеле духавенства ў якасці настаўнікаў (арт. 15, 16) і назіральнікаў за ўсімі народнымі школамі. Заставалася стабільнай палітыка царскага ўрада і ў беларускіх губернях: народная адукацыя тут можа развівацца толькі як руская і праваслаўная па сваім характары. "Адукацыя народа, — пісаў М.Мураўёў папячыцелю Віленскай вучэбнай акругі І.Карнілаву, — павінна садзейнічаць зацвярджэнню ў народзе праваслаўя, для гэтага ўсе польскія школы павінны падпарадкавацца непасрэдна праваслаўнаму духавенству і кожны прыходскі свяшчэннік павінен быць найбольш блізкім і пільным блюсціцелем правільнага ў данным накірунку навучання" [31. С. 78]. І такая палітыка праводзілася ў жыццё. У 1867 г. сярод настаўнікаў пачатковых школ Мінскай губерні было 102 святары, дыяканы і дзячкі, 65 семінарыстаў. А ўсяго ў пачатковых школах пяці губерняў выкладала 580 святароў, 93 дыяканы і прычэтнікі, 116 выхаванцаў духоўных семінарый [32. С. 51]. Але гэтага было яўна недастаткова. З цягам часу праваслаўныя святары, занятыя сваімі непасрэднымі абавязкамі, адыходзілі ўсё далей ад справы навучання вернікаў. Не ўнесла істотных змен і стаўка на семінарыстаў з унутраных расійскіх губерняў, якіх Мураўёў запрасіў у Беларусь.

Такім чынам народныя вучылішчы, якія прыйшлі на змену царкоўным школам, не змаглі ў поўнай меры спрыяць русіфікатарскай палітыцы царызму на беларускай зямлі. Недастаткова было надаць ім патрэбны змест шляхам увядзення адпаведных прадметаў навучання. Важна было і тое, хто іх даводзіў да розуму і сэрца вучняў. Выхаванцамі настаўніцкіх семінарый, адчыненых на Беларусі для

падрыхтоўкі настаўнікаў народных вучылішчаў, часцей за ўсё былі мясцовыя жыхары, якія вучылі любіць родную старонку, і далёка не заўсёды ідэі, якія яны неслі вучням, былі даспадобы ўладам.

З пачатку 80-х гг. пачынаюць адраджацца царкоўныя школы. Моцным штуршком да гэтага сталі новыя правілы для царкоўна-прыходскіх школ, зацверджаныя 13 чэрвеня 1884 г. За дзесяць гадоў пасля прыняцця новых правілаў колькасць школ павялічылася: у Літоўскай епархіі — амаль у 100 разоў (з 14 у 1883 г. да 1399 у 1893 г.), у Мінскай — у 7 (са 184 да 1316), у Магілёўскай — амаль у 2 разы (з 898 да 1582), у Полацкай — у 30 разоў (з 20 да 621) [25. С. 115].

Працэс адраджэння царкоўных школ у беларускіх губернях ішоў больш інтэнсіўна, чым ва ўсіх іншых губернях Расіі. Статыстычныя даныя сцвярджаюць, што ў 1893 г. усе епархіі, у склад якіх уваходзілі беларускія губерні, знаходзіліся ў ліку пяці першых па колькасці школ у разліку на 100 цэркваў. І яшчэ адна асаблівасць. Ва ўсіх епархіях, куды ўваходзілі беларускія губерні, сярод царкоўных школ значна пераважалі школы граматы. Так, у 1893 г. у Літоўскай епархіі налічвалася 1399 царкоўных школ, у тым ліку 139 царкоўна-прыходскіх і 1260 школ граматы; у Мінскай — 172 і 1144; Магілёўскай — 311 і 1271; Полацкай — 143 і 476 адпаведна [25. С. 21, 119].

Больш хуткі рост школ граматы ў параўнанні з царкоўна-прыходскімі школамі тлумачыцца беднасцю сялян беларускіх губерняў, адсутнасцю неабходных сродкаў на народную адукацыю ў вясковых святароў. Невялікія школы граматы, якія не патрабавалі ад сялян значных грашовых і іншых матэрыяльных затрат, успрымаліся імі лепш. Што да духавенства, то яно лічыла, што пры суцэльнай непісьменнасці беларускага сялянства ўсялякая школа, нават і не вельмі задавальняюча пастаўленая, ужо крок наперад.

Разважаючы аб ролі царкоўных школ у развіцці сістэмы народнай адукацыі Беларусі, нельга не ўспомніць ісціну, якую прапаведваў Ф.Бэкан, што чыстыя веды ёсць сіла, але, калі гэтая сіла паварочваецца на службу палітыцы, яна можа прынесці вялікае зло. Так атрымалася і з царкоўнымі школамі. Распаўсюджваючы пісьменнасць сярод беларускага сялянства, яны разам з тым былі паслухмянай зброяй у руках царскага ўрада пры правядзенні русіфікатарскай палітыкі.

Моцнай апорай праваслаўя заўсёды былі брацтвы, якія мелі шматвяковую гісторыю. Аднак у гады царавання Каця-

рыны II практычна спынілі сваю дзейнасць нават тыя, якія працягвалі існаваць у Рэчы Паспалітай нягледзячы на розныя палітыка-канфесіянальныя варункі. У другой палове XIX ст. было вырашана зноў звярнуцца да іх, каб і далей выкарыстоўваць у мэтах распаўсюджвання і замацавання праваслаўнай веры. Ідэя была высунута прыхільнікамі М.Мураўёва і атрымала яго падтрымку. У 1864 г. былі зацверджаны асноўныя правілы заснавання праваслаўных царкоўных брацтваў. У 1880 г. у Расійскай імперыі існавала 63 праваслаўныя брацтвы. У перыяд 80 — 90-х гг. узнікла яшчэ 76 [33. С. 155, 201]. Значная колькасць гэтых брацтваў знаходзілася на тэрыторыі Беларусі. Сярод іх царкоўнае брацтва ў імя Свяціцеля Мікалая і прападобнай княжны Ефрасінні ў Полацку. Брацтва было ўтворана ў 1867 г. У 1877 г., адзначаючы дзесяцігоддзе свайго існавання, братчыкі падводзілі вынікі сваёй дзейнасці. У склад брацтва ўваходзіла 123 члены (адзін ганаровы папячыцель брацтва, восемь членаў савета, дзевяць членаў-заснавальнікаў, 53 ганаровыя члены, 56 братчыкаў). За дзесяць гадоў было сабрана больш за 21 тыс. руб., на якія падрыхтавана 20 народных настаўнікаў, аказвалася дапамога жаночай бясплатнай школе ў Полацку, утрымлівалася багадзельня на 10 — 12 чал. Брацтва штогод аказвала дапамогу бедным вучням Полацкага духоўнага вучылішча, выплачвала стыпендыі семінарыстам Полацкай настаўніцкай семінарыі [34. С. 72, 117]. Дзейнічалі і іншыя брацтвы: віцебскае св.роўнаапостальнага князя Уладзіміра, магілёўскае богаяўленскае, віленскае Свята-Духава і інш. У справаздачы Св.Сінода за 1873 г. ім давалася наступная ацэнка: “Існуючыя ў заходніх епархіях брацтвы працягваюць з улікам сваіх сродкаў служыць справе праваслаўя, садзейнічаць добраўпарадкаванню праваслаўных храмаў, падтрымліваюць школы і вучэбна-выхаваўчыя ўстановы і аказваюць матэрыяльную дапамогу тым членам праваслаўнай царквы, якія маюць у гэтым патрэбу” [35. С. 35].

Аднак актыўнай дзейнасці сярод вернікаў брацтвы праводзіць не маглі па прычыне сваёй беднасці. Некаторым з іх аказвалася дапамога з боку імператрыцы і іншых членаў імператарскай сям'і, выдзяляліся сродкі Св.Сінодам. Напрыклад, у 1873 г. Св.Сінод вылучыў васьмі брацтвам заходніх губерняў у падтрымку школ па 250 руб. Полацкаму брацтву ў імя свяціцеля Мікалая і прападобнай Ефрасінні было выдзелена 450 руб. на ўтрыманне стыпендыянтаў у Полацкай настаўніцкай семінарыі. У 1877 г. гэтая сума была павялічана ўдвая.

У мэтах узмацнення ўплыву праваслаўя на неправаслаўнае насельніцтва ў беларускіх губернях ствараюцца місіянерскія таварыствы. Распачаўся гэты працэс адразу пасля прыняцця 21 лістапада 1869 г. статута праваслаўнага місіянерскага таварыства. Сваю задачу члены таварыства бачылі ў тым, каб "ні мячом і крывёю, ні страхам, пагрозамі і насіллем, а спосабам апостальскім, сілай навукі, сілай любві, сілай лагоднага слова і пераканання распаўсюджваць евангельскую навуку ў межах сваёй айчыны..." [36. С. 244] .

У епархіях пачалі стварацца аддзяленні місіянерскага таварыства, галоўнае ўпраўленне якога ў 1868 г. было перанесена з Санкт-Пецярбурга ў Маскву дзеля таго, каб яно знаходзілася пад кіраўніцтвам маскоўскага мітрапаліта Інакенція, які добра ведаў гэтую справу. Аддзяленні называліся камітэтамі місіянерскага таварыства. 15 сакавіка 1870 г. быў створаны Віцебскі камітэт місіянерскага таварыства, 11 мая — Мінскі [12. Ф. 295, воп. 1, спр. 146, арк. 1 — 3 ]. Дзейнасць членаў камітэта была слабай і звычайна зводзілася, як гэта адзначалася ў справаздачы Віцебскага камітэта за 1874 г., да ўнясення ім у казну патрабуемых трох рублёў. Грошы ішлі на пакрыццё канцылярскіх расходаў, выплату жалавання справаводу. Пры неабходнасці аказвалася грашовая падтрымка місіям у маштабе Расійскай імперыі. Напрыклад, у 1874 г. Віцебскі камітэт адправіў архімандрыту Уладзіміру, начальніку алтайскай місіі, 442 руб. 44 кап., што складала амаль 80 % усіх гадавых расходаў камітэта. Акрамя таго, галоўным у сваёй дзейнасці камітэты місіянерскіх таварыстваў лічылі працу сярод старавераў з мэтай схіліць іх да праваслаўя.

Гэтым жа мэтам — зацвярджэнню праваслаўных пазіцый у беларускіх губернях — служылі і праваслаўныя манастыры. У справаздачы обер-пракурора Св.Сінода за 1866 г. адзначалася: "У заходніх епархіях працягваецца паступовае развіццё чыста праваслаўных устаноў, якія павінны служыць рассаднікамі веры, набожнасці і рускіх асноў сярод тутэйшага праваслаўнага насельніцтва" [26. С. 9]. Словы гэтыя патрабуюць некаторага тлумачэння. Паступовае развіццё ішло не ў напрамку стварэння новых манастыроў. Наадварот, іх стала значна менш. Калі ў першай палове XIX ст. у беларускіх губернях было больш за 60 праваслаўных манастыроў, то на пачатак XX ст. іх засталося толькі 37. Прычым некаторыя з іх былі заснаваны або адноўлены ў другой палове XIX — пачатку XX ст. (Мінскі Спаса-Праабражэнскі жаночы, Бялыніцкі Раство-Багародзічны мужчынскі,

Няклюдаўскі Барысаглебскі мужчынскі, Мінскі Свята-Духаў мужчынскі, Ахорскі Спаса-Праабражэнскі, Чонскі Макар'еўскі жаночы, Драгічынская абшчына Краснастоцкага Раство-Багародзічнага манастыра і інш.). Затое ўзрасла колькасць манахаў і манашак. У канцы XIX — пачатку XX ст. зрэдку можна было сустрэць манастыр з некалькімі манахамі. Значная частка з іх налічвала ў сваім штаце 50 і больш чалавек. Манастыры садзейнічалі аднаўленню брацтваў, стварэнню брацкіх школ, вялі выдавецкую дзейнасць, адчынялі прыюты і багадзельні.

Такім чынам, у 60-я гг. XIX — пачатку XX ст. пазіцыі праваслаўнай царквы ў беларускіх губернях значна замацаваліся. Узрасла колькасць праваслаўных храмаў і прыхаджан, свяшчэннікаў, манахаў і іншых свяшчэннаслужыцеляў. Павялічыліся зацікаўленасць і матэрыяльная падтрымка з боку ўрада, які глядзеў на праваслаўную царкву як на сваю надзейную апору.

## 2.3. АДНОСІНЫ ЎРАДА ДА КАТАЛІЦТВА

У адрозненне ад праваслаўнай царквы, пазіцыі якой на працягу другой паловы XIX — пачатку XX ст. значна замацаваліся, каталіцкая працягвала страчваць свой былы ўплыў на Беларусі. Пасля падаўлення паўстання 1863 г. агульнарасійскія законы ў адносінах да каталіцкага духавенства былі дапоўнены шэрагам распараджэнняў мясцовых улад: аб забароне без згоды губернатара прызначаць ксяндзоў на вышэйшыя духоўныя пасады і законавучыцелямі (цыркуляры ад 19 і 23 студзеня 1865 г.), аб забароне заштатным ксяндзам адвольнага выканання богаслужэння і выканання хрысціянскіх абрадаў (цыркуляры ад 13 студзеня, 27 чэрвеня 1867 г.); аб забароне ставіць на палях і дарогах крыжы і вешаць абразы без дазволу грамадзянскага начальства (цыркуляры ад 8 ліпеня 1864 г. і 19 верасня 1867 г.); аб забароне карыстацца польскай мовай у афіцыйнай перапісцы, у дзяржаўных установах, грамадскіх месцах (цыркуляры ад 12 лютага, 24 сакавіка 1864 г., 9 чэрвеня 1868 г.); аб забароне распаўсюджвання польскай пісьменнасці і падручнікаў на польскай мове сярод праваслаўнага насельніцтва (цыркуляры ад 1 студзеня 1864 г., 24 жніўня 1866 г., 2 студзеня 1869 г.) [12. Ф. 295, воп. 1, спр. 1671, арк. 61, 62]. Гэтыя меры дапаўняліся, як ужо адзначалася, закрыццём касцёлаў і кляштараў і пераўтварэннем іх у праваслаўныя храмы, высылкай ксяндзоў, якія ўдзельнічалі ў паўстанні, і г.д.

Акрамя абмежаванняў адміністрацыйна-прымусовага характару супраць каталіцкай царквы выкарыстоўваліся і іншыя меры барацьбы. У мэтах паслаблення ўплыву каталіцкіх святчэннаслужыцеляў на беларускі народ быў распрацаваны план "распалячання касцёла". Сутнасць яго заключалася ў тым, каб увесці ў каталіцкіх касцёлах беларускіх губерняў рускую мову замест польскай у дадатковыя набажэнствы і казанні.

У рускім грамадстве разгарэліся спрэчкі: дазволіць беларусам і надалей карыстацца ў касцёлах польскай мовай ці ўвесці мову рускую (аб беларускай мове гаворкі на той час не было). Прыхільнікі абедзвюх канцэпцый імкнуліся абгрунтаваць свой пункт погляду. Тыя, хто лічыў, што касцёл павінен заставацца польскамоўным (сярод іх М.Каяловіч, І.Аксакаў, праўда, у далейшым апошні змяніў свае погляды), гаварылі: увядзенне ў касцёл рускай мовы механічна зробіць раўнапраўным становішча каталіцтва і палякаў з праваслаўнымі. А гэта зусім не будзе спрыяць праваслаўю і русізму ў краі. Прыхільнікі распалячання касцёла (М.Катkoў, П.Бацюшкаў і інш.) сцвярджалі: беларусы — гэта тыя ж рускія і іх трэба абараніць ад паланізацыі і паступова русіфікаваць, каб у хуткім часе схіліць у праваслаўе.

Абмеркаванне праблемы русіфікацыі каталіцкага касцёла выйшла на старонкі друку. І калі на працягу ўсяго 1866 г. М.Катkoў у "Московских ведомостях" энергічна выступаў у падтрымку гэтай ідэі, дык прафесар М.Каяловіч гэтак жа энергічна выступаў супраць. Праз дваццаць гадоў у "Церковном вестнике" Каяловіч так напіша аб гэтым: "Супраць ажыццяўлення гэтага ўзніклі сур'ёзныя перасцярогі, што ўся справа аб рускім лацінстве звядзецца да пытання аб грамадзянскіх правах лацінства, лацінскага духавенства і, галоўнае, апалячанай заходнерускай інтэлігенцыі, а для народа атрымаецца адна смута і ў лацінскім, і ў праваслаўным асяроддзі. Гэта выказвалася ўсімі рускімі старажыламі Вільні на чале з іх мітрапалітам Іосіфам, з якім я меў магчымасць гутарыць аб гэтым" [37. С. 71].

Што ж датычыцца адносін да гэтай ідэі тых, дзеля каго ўсё гэта нібыта рабілася — беларусаў, — то тут вельмі трапна сказаў у свой час ксёндз Адам Станкевіч у кнізе "Родная мова ў святынях": "Для народа было ўсё роўна: чужая мова польская, чужая і расійская, але да польскай ён ужо быў прывыкшы, ды і ўсё ўціcканае, крыўджанае, як заўсёды бывае, многа ў сабе мае маральнай сілы і красы" [38. С. 57].

У 1867 г. у Рымска-каталіцкую духоўную калегію быў накіраваны ўрадавы зварот з просьбай выказацца па пытанні ўвядзення ў касцёл рускай мовы. 7 чэрвеня 1868 г. Міністэрства ўнутраных спраў атрымала адказ. Меркаванні Калегіі заключаліся ў наступным: малітва за цара на рускай мове паўчыняцца не можа, а павінна адпраўляцца па-латыні ці па-польску па той прычыне, што ў рымска-каталіцкае веравызнанне жыхароў так званых заходнерускіх губерняў у якасці агульнанародных моў Папай рымскім дапушчаны польская, літоўская і латышская. Паколькі руская мова да гэтага ніколі ў рымска-каталіцкую царкву дапушчана не была, то і надалей дапускаць яе туды нельга без спецыяльнага адабрэння Папы.

У друку разгарнулася крытыка такога адказу. Сутнасць зводзілася да наступнага: адказ гэты фальсіфікуе гістарычныя факты і не грунтуецца на дакументах. Апаненты сцвярджалі, што аналіз папскіх бул і мясцовых саборных пастаноў паказвае: руская мова выкарыстоўвалася ў самім Рыме яшчэ ў 1595 г., а пастановы мясцовых сабораў (1604, 1607, 1628, 1744 гг.), зацверджаныя Папай, абавязвалі рымска-каталіцкае духавенства заходніх губерняў прамаўляць казанні і адпраўляць дадатковае набажэнства на мове роднай, зразумелай парафіянам і просталюдзінам [39. С. 52]. А паколькі для расійскага грамадства было "бясспрэчным" і "відавочным", што такой мовай для беларусаў з'яўляецца руская і ніякая іншая, дык і барацьба павінна весціся за "аднаўленне ў беларускіх касцёлах рускай мовы" [39. С. 54].

Пакуль ішлі тэарэтычныя спрэчкі, некаторыя ксяндзы, і ў першую чаргу ксёндз Сенчыкоўскі, пачалі ажыццяўляць свае ідэі на практыцы. Але перш чым перайсці да гэтага пытання, хацелася б адзначыць наступнае: погляды каталіцкіх ксяндзоў беларускіх касцёлаў былі рознымі. Зразумела, большасць з іх па-ранейшаму падтрымлівала сярод вернікаў "польскі дух". Некаторыя схіляліся ў расійскі бок, спадзяючыся атрымаць нейкія прывілеі ад улад. Але былі і такія (беларусы па паходжанні), хто і на той час памятаў аб роднай мове беларусаў. Так, у 1866 г. група ксяндзоў з Магілёўшчыны і Віцебшчыны, спасылаючыся на тое, што ў многіх касцёлах, дзе вернікамі з'яўляюцца беларусы, казанні прамаўляліся на беларускай мове, звярнуліся з просьбай дазволіць перат-лумачэнне павучэнняў Філіпецкага і Бялабржэцкага на беларускую мову. Просьба была адхілена. Праваслаўны епіскап Мінскі і Бабруйскі Міхаіл заўважыў у сувязі з гэтым, што

яшчэ з панскіх часоў у беларускую мову закралася шмат польскіх слоў і выразаў і таму няма ўпэўненасці, што ксяндзы будуць размаўляць па-беларуску, а не падтрымліваць польскую мову ў касцёле. "Для гэтага, — адзначаў ён у пісьме да обер-пракурора Св.Сінода, — я маю гістарычную падставу, а іменна езуітаў. Яны, пасяліўшыся тут, спачатку вывучалі простанародную мову і на ёй спакушалі праваслаўных" [40. С. 18].

У 1869 г. выйшаў "высачайшы" дазвол карыстацца ў касцёле рускай мовай. Царскі дазвол быў успрыняты, зразумела, як загад. Гістарычныя дакументы сведчаць: механізм увядзення рускай мовы ў касцёл быў прымусовы. Кіраўніцтву рымска-каталіцкіх епархій былі накіраваны лісты пад грыфам "сакрэтна". У іх прадпісвалася давесці (пад распіску) праз візітатараў змест царскага ўказа да кожнай парафіі. Разам з распіскамі ксяндзоў аб тым, што яны азнаёміліся з указам, у гістарычных дакументах захаваўся і спіс, які сведчыць, што меркавалася ўвесці рускую мову ва ўсе парафіі Віленскай епархіі, за выключэннем тых, дзе мясцовыя жыхары размаўлялі па-літоўску.

З выхадам царскага ўказа аб увядзенні ў касцёл рускай мовы Сенчыкоўскаму і яго прыхільнікам дзейнічаць стала лягчэй. Праўда, трэба адзначыць, што ксёндз Сенчыкоўскі быў незадаволены зместам указа, лічачы, што гэтая паўмера дасць ксяндзам пралазу, якую яны скарыстаюць у сваіх мэтах. А заключалася яна ў тым, што згодна з указам руская мова павінна была ўводзіцца ў тых прыходах, каталіцкае насельніцтва якіх лічыла сваёй роднай мовай "мову рускую, у тым ці іншым дыялекце". Сенчыкоўскі разумеў, што каталіцкаму духавенству няцяжка будзе пераканаць сваіх вернікаў, што іх роднай мовай з'яўляецца не руская, а польская. І сапраўды, у архівах Мінска, Вільнюса, Санкт-Пецярбурга захавалася шмат дакументаў таго часу — калектыўных прашэнняў прыхаджан-каталікоў, у якіх яны сцвярджалі, што іх роднай мовай з'яўляецца польская і што яны не могуць "выказваць свае пачуцці ў малітвах на рускай мове, на якой змест становіцца вельмі цяжкім і нават незразумелым" [12. Ф. 295, воп. 1, спр. 2290, арк. 42]. Само сабой, такія прашэнні з'яўляліся не без удзелу ксяндзоў, але не трэба адмахвацца і ад рэлігійных пачуццяў, настрою каталіцкага насельніцтва.

Па меры таго, як дзейнасць прыхільнікаў ідэі русіфікацыі касцёла станавілася больш актыўнай, расло і супрацьдзеянне з боку тых ксяндзоў, што не падтрымлівалі яе.

14 лютага 1870 г. Сенчыкоўскі становіцца ваенным капеланам па Мінскай губерні і накіроўваецца для споведзі і св. прычасця вайскоўцаў рымска-каталіцкага веравызнання. У Барысаве ён сустрэў першае сур'ёзнае процідзеянне: мясцовы настаяцель не пусціў яго ў касцёл. Справа скончылася тым, што барысаўскі настаяцель быў адхілены ад пасады і адпраўлены ў манастыр, а яго месца заняў Сенчыкоўскі. Гэты выпадак прымусіў каталіцкіх святароў спыніць адкрытае супраціўленне. А Сенчыкоўскі працягваў дзейнічаць. У Мінску пры касцёле Св.Троіцы ён адчыняе вучылішча арганістаў. На яго будаўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў вылучыла 21 953 руб. У вучылішчы 30 сялянскіх хлопчыкаў каталіцкага веравызнання навучаліся агульнаадукацыйным навукам і рускай мове, латыні і музыцы.

Дзейнасць Сенчыкоўскага і яго прыхільнікаў прынесла свае вынікі: ужо на пачатку 70-х гг. у 32 з 52 касцёлаў Мінскай губерні гучала руская мова [41. С. 153]. Але, як і ўсё прымусовае, гэтая акцыя мела часовы поспех. Ужо на пачатку 80-х гг. большая частка ксяндзоў адмовілася ўжываць рускую мову замест польскай. Вось што з гэтай нагоды пісалася ў 1882 г. у "Литовских епархиальных ведомостях": "Зараз з 32 касцёлаў засталося толькі два (Бабруйскі, што ў крэпасці, дзе настаяцелем ксёндз Сенчыкоўскі, і Цімкавіцкі ў Слуцкім павеце, настаяцель магістр багаслоўя Людвіг Кулакоўскі). З 45 ксяндзоў, што давалі падпіску аб богаслужэнні на рускай мове, толькі гэтыя двое яе і выконваюць. Зрэдку яшчэ 3 — 4 чалавекі (у прысутнасці афіцыйных асоб) служаць па-руску, астатнія — па-польску" [42. С. 71].

І гэта было зразумела, бо з самага пачатку большасць ксяндзоў згаджалася ўвесці рускую мову не па сваёй волі. Справа была не толькі ў польскім патрыятызме ксяндзоў, а і ў тым, што было вядома нямала здарэнняў фізічнай расправы над ксяндзамі, якія абвінавачваліся ў "маскальстве". Пагаршалася і матэрыяльнае становішча гэтых святароў, бо мясцовая шляхта адмаўлялася іх падтрымліваць. Трэба дадаць і тое, што 11 ліпеня 1877 г. быў выдадзены дэкрэт Кангрэгацыі інквізіцыі, які не адабраў увядзення рускай мовы ў дадатковае набажэнства. Не дапамагала і матэрыяльная падтрымка ўрада: вядома, што настаяцелям тых прыходаў, дзе набажэнства вялося на рускай мове, выдавалася дадатковае жалаванне. Напрыклад, у 1891 г. у Мінскай губерні на гэтыя мэты было выдзелена больш за 60 тыс. руб. Дадатковае жалаванне атрымалі дэкан Мінска і настаяцель Св.Троіцкага касцёла прэлат Макарэвіч, бабруйскі дэкан і

настаяцель бабруйскага касцёла Аляхновіч, барысаўскі дэкан Лукашэвіч, слуцкі дэкан Урачэнскі, ігуменскі дэкан Байчынскі, настаяцель ігуменскага касцёла Бертовіч, настаяцель уздзенскага касцёла Кушалеўскі, настаяцель капыльскага касцёла Герачынскі, настаяцель клецкага касцёла Юргевіч, капелан мінскага дабрачыннага таварыства канонік Гаўронскі і 14 арганістаў.

Чым далей, тым мацней рабіўся ўціск з боку рымска-каталіцкага кіраўніцтва на арганістаў і тых, хто ўжываў рускую мову ў дадатковым набажэнстве. Сенчыкоўскаму забаранілі ўваход у вучылішча арганістаў і нават не дазвалялі сустракацца са сваімі выхаванцамі, абвінаваціўшы яго ў гомасексуалізме. Неўзабаве вучылішча было наогул зачынена, а яго выхаванцы не маглі знайсці сабе месца для працы. У выніку склалася такое становішча, што на канец 90-х гг. з 47 парафіяльных касцёлаў Мінскай губерні 18 засталіся без настаяцеляў, кожны другі — без вікарнага.

Настойлівыя просьбы каталікоў, захады Рыма, незадаволенага такім становішчам, прывялі да пагаднення паміж Папай і расійскім царом. Яно было заключана ў красавіку 1897 г. Сутнасць пагаднення заключалася ў наступным: назначыць з захаваннем кананічных формаў на вакантныя пасады настаяцеляў, якія б адпраўлялі набажэнства на лацінскай мове.

Адной з мер, накіраваных на змяншэнне ўплыву каталіцкай царквы на масавае насельніцтва, было закрыццё школ пры касцёлах. Згубіўшы магчымасць займацца адукацыяй народа, каталіцкія ксяндзы забаранялі сваім вернікам адпраўляць дзяцей у царкоўна-прыходскія школы праваслаўнага духоўнага ведамства. У 1902 г. Віленскі рымска-каталіцкі епіскап звярнуўся да каталіцкага духавенства сваёй епархіі са спецыяльным цыркулярам, якім заклікаў духоўных асоб і вернікаў "словам і справай" абараняць святую веру ад царкоўна-прыходскіх школ і школ граматы. "Школы гэтыя, — адзначалася ў дакуменце, — варожыя каталіцкай веры, і па сваіх мэтах і праграмах выхоўваюць погляд на каталікоў як на ворагаў дзяржаўнасці". Тым не менш нейкая частка сялян-каталікоў аддавала сваіх дзяцей вучыцца ў праваслаўныя царкоўныя школы. Так, у 1894 г. у Мінскай губерні сярод вучняў царкоўна-прыходскіх школ і школ граматы дзеці каталікоў складалі 2,1 % [43. С. 57].

Канфесіянальная палітыка царскага ўрада, пераходы вернікаў з каталіцтва ў праваслаўе, якія назіраліся на працягу 60 — 90-х гг. XIX ст., садзейнічалі таму, што доля

каталікоў у агульнай колькасці насельніцтва змяншалася, нягледзячы на іх абсалютны рост. Гэты працэс назіраўся ва ўсіх беларускіх губернях. Так, на пачатку 60-х гг. у Віленскай губерні пражывала 607 459 чал. каталіцкага веравызнання, што складала 74,1 % ад агульнай колькасці насельніцтва. У Гродзенскай губерні гэтыя лічбы складалі 273 121 (30,5 %) чал., у Магілёўскай — 43 013 (4,66 %), у Віцебскай — 230 193 (29,1 %), у Мінскай — 179 398 (18,1 %) чал. У 1897 г. колькасць каталіцкіх вернікаў у Віленскай губерні павялічылася да 935 847 чал., але іх доля ў агульнай колькасці насельніцтва губерні знізілася да 58,8 % (па беларускіх паветах гэтыя лічбы адпаведна склалі 393,2 тыс. чал. і 46,1 %). У Віцебскай губерні пражывала 357 309 каталікоў, або 23,99 % ад агульнай колькасці насельніцтва (па беларускіх паветах — 65,9 тыс. чал., або 9,6 %); у Гродзенскай — 386 519 чал., або 24,1 % (па беларускіх паветах — 152,5 тыс. чал. і 13,6 %); у Мінскай — 217 959 чал., або 10,1 %, у Магілёўскай — 50 159 чал., або 2,9 %.

Такім чынам, колькасць каталіцкіх вернікаў пераважала ў канцы стагоддзя толькі ў Віленскай губерні цалкам. Што тычыцца асобных паветаў, то такая перавага захоўвалася не толькі ў гэтай губерні. У 1897 г. каталікі складалі большасць у Віленскай губерні: у Віленскім павеце — 65,5 %, у Лідскім — 62,5, у Ашмянскім — 56,7, у Свянцянскім — 78,0, у Трокскім — 83,8 %; у Віцебскай губерні: у Люцынскім павеце — 63,4 %, Рэжыцкім — 64,0 %; Гродзенскай губерні: у Сакольскім павеце — 69,3 % [27. С. 3, 4, 8, 9, 17, 18].

У канцы XIX — пачатку XX ст. на Беларусі існавалі Віленская рымска-каталіцкая епархія (аб'ядноўвала Віленскую і Гродзенскую губерні) і Магілёўская архіепархія (уваходзілі Мінская, Віцебская і Гродзенская губерні). Да 1869 г. існавала асобна Мінская рымска-каталіцкая епархія, якая потым была аб'яднана з Віленскай, а з 1883 г. касцёлы і кляштары Мінскай епархіі сталі падпарадкоўвацца непасрэдна Магілёўскай архіепархіі.

Усе рымска-каталіцкія епархіі Расійскай імперыі падзяляліся на тры класы. Магілёўская архіепархія належала да першага класа, Віленская епархія — да другога. Архіепіскап Магілёўскі знаходзіўся ў Пецярбургу. Ён узначальваў рымска-каталіцкую духоўную калегію і з'яўляўся мітрапалітам усіх рымска-каталіцкіх цэркваў Расійскай імперыі. Епархіі падзяляліся на дэканаты, якія ў свой час складаліся з парафій.

Падрыхтоўку каталіцкіх святароў вялі дзве рымска-каталіцкія духоўныя семінарыі: Магілёўская і Віленская.

Магілёўская, што лічылася архіепархіяльнай, знаходзілася ў Пецярбургу. Паступалі ў гэтыя навучальныя ўстановы людзі розных саслоўяў. Напрыклад, у 1881 г. у Магілёўскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю паступіла 17 чал., у тым ліку з сялян — 7, з дваран — 5, з чыноўнікаў — 3, з мяшчан — 1. Неаднародным быў і нацыянальны склад семінарыстаў, хаця як у адной, так і ў другой пераважалі выхаванцы польскай нацыянальнасці [28. Ф. 821, воп. 150, спр. 390, арк. 34].

## 2.4. СТАРАВЕРСТВА, ПРАТЭСТАНТЫЗМ

Старaверства ў другой палове XIX — пачатку XX ст. было прадстаўлена беспапоўцамі (федасееўскі, філіпонаўскі, паморскі толкі) і папоўцамі. Пражывала і невялікая колькасць беглапапоўцаў. Жылі яны ва ўсіх беларускіх губернях, акрамя Гродзенскай, прычым колькасць іх пастаянна павялічвалася. Так, калі на пачатак 60-х гг. у Віцебскай губерні пражываў 37 121 старавер, то к 1897 г. іх колькасць складала ўжо 83 022 чал. [27. С. 3, 4, 17, 18].

У Віцебскай губерні пражывалі папоўцы, што падпарадкоўваліся белакрыніцкай іерархіі (г.Віцебск), беспапоўцы федасееўскага толку (Віцебскі, Дзвінскі, Люцынскі, Полацкі, Рэжыцкі, Себежскі, Невельскі, Лепельскі паветы), беспапоўцы паморскага і старапаморскага толку (г.Віцебск, Дзвінскі, Полацкі паветы), невялікая колькасць беглапапоўцаў (Віцебскі павет). Па даных перапісу 1897 г., у колькасных адносінах найбольшая колькасць старавераў пражывала ў Рэжыцкім (31 561), Дзвінскім (25 956), Віцебскім (6622), Полацкім (5953), Невельскім (5290) паветах.

У Віленскай губерні пражывалі беспапоўцы федасееўскага і паморскага толку. Найбольшая іх колькасць назіралася ў Дзісненскім (9484), Свянцянскім (7974), Віленскім (4989), Трокскім (2051) паветах.

Большасць стараверaў Мінскай губерні належала да беспапоўскага федасееўскага толку. Пасяленні іх размяркоўваліся наступным чынам: у Бабруйскім павеце — 9116 чал., Барысаўскім — 3051, Ігуменскім — 995, Рэчыцкім — 251, Мінскім — 19, Мазырскім — 16 чал. Сярод гарадоў Мінскай губерні больш за ўсё стараверaў жыло ў Бабруйску — 595 чал., у Барысаве — 131 чал., у Рэчыцы — 83 чал., у Мазыры — 20 чал. У Навагрудскім, Пінскім, Слуцкім паветах, а таксама ў гарадах Мінску, Ігумене, Навагрудку, Пінску,

Слуцку, Докшыцах і Нясвіжы стараверау не было наогул [43. С. 40].

Галоўным месцам пражывання старавераў у Магілёўскай губерні быў Гомельскі павет. Яны належалі да папоўцаў белакрыніцкай іерархіі. Жылі тут і аднаверцы, беспапоўцы, невялікая колькасць беглапапоўцаў. У 1896 г. у губерні налічвалася 24 774 стараверы, 17 162 з іх (69, 3 %) — у Гомельскім павеце. Потым ішлі Сенненскі (4124), Рагачоўскі (1584), Магілёўскі (991), Аршанскі (334), Чавускі ( 217), Чэрыкаўскі (184), Быхаўскі (178) паветы. У Горацкім, Клімавіцкім, Мсціслаўскім паветах старавераў не было наогул [44. С. 29].

У адпаведнасці з колькасцю старавераў, што пражывалі на тэрыторыі той ці іншай губерні, дзейнічалі малітоўныя дамы, дзе стараверы чынілі свае рэлігійныя адправы. Найбольшая колькасць малітоўных дамоў знаходзілася ў Віцебскай (47), Віленскай (6), Мінскай (10), Магілёўскай (23) губернях [45].

Галоўным заняткам старавераў, што пражывалі ў беларускіх губернях, было земляробства. Сваёй зямлі яны за невялікім выключэннем не мелі, а бралі яе ў арэнду. 22 мая 1876 г. былі зацверджаны " Правила об устройстве единоверцев и старообрядцев, водворенных на владельческих землях в губерниях северо-западных и белорусских". У іх адзначалася, што ва ўладаннях, якія належаць уласнікам, гарадам або розным установам, дзе аднаверцы і стараверы пасяліліся да 17 чэрвеня 1863 г., участкі, якія яны займаюць, пакідаюцца ім у пастаянную бестэрміновую арэнду на тых жа ўмовах, на якіх яны карысталіся імі да гэтага часу. Іх стараверы маглі выкупаць [46. С. 572, 573].

У 1895 г. у Віленскім павеце пражывала 528 старавераў, 87 з якіх мелі сваю зямлю, а астатнія жылі на казённых. У Дзісненскім павеце з 7675 старавераў 4978 пражывала на ўласных і памешчыцкіх, 2697 — на казённых землях. Акрамя земляробства стараверы займаліся рознымі рамёствамі і гандлем [10. Ф. 388, воп. 1, спр. 1029, арк. 3, 7, 10].

Па звестках благачыннага, у 1867 г. у Бабруйскім павеце пражывала 3463 стараверы (усе належалі да беспапоўскага філіпонаўскага толку). Яны займаліся хлебаробствам "вельмі старанна, але былі небагатыя, жыцця цвярозага, працавітага, арэндную суму і дзяржаўныя павіннасці выплачвалі" [12. Ф. 295, воп. 1, спр. 1916, арк. 3, 4, 41]. З другіх паветаў таксама паведамлялі аб працавітасці, руплівасці старавераў. Так, Дзісненскі павятовы ісправнік у 1896 г. паведамляў аб стара-

верах, што пражывалі на тэрыторыі павета: "Эканамічнае становішча раскольнікаў, якія займаюцца галоўным чынам земляробствам, у многіх адносінах лепшае, чым у тутэйшых сялян, бо ў большасці выпадкаў маюць добрыя ўчасткі зямлі на правах бестэрміновай арэнды і па надзелу казны і больш правільна адносяцца да земляробства. Тыя ж з іх, хто не мае зямлі, больш прадпрымальныя, чым мясцовае насельніцтва, у розных промыслах і рамёслах, у сувязі з чым іх эканамічнае становішча лепшае, чым у беззямельных мясцовых сялян" [12. Ф. 388, воп. 1, спр. 1116, арк. 1072].

У 60 — 70-я гг. адбываліся даволі вялікія змены ў расійскім заканадаўстве ў адносінах да старавераў. 27 чэрвеня 1863 г. выйшаў указ "О дозволении раскольникам особо вредных сект нанимать за себя в рекруты людей, не принадлежавших к их секте", 4 лістапада 1863 г. — "Об изменении порядка увещевания совратившихся из веры православной в раскол". У 1864 г. у "высочайше одобренном заключении Особого комитета по раскольничьим делам" прыхільнікам так званых "менш шкодных" сект была даравана палёгка ў адносінах як грамадзянскіх правоў, так і выканання духоўных адпраў. Дазвалялася ствараць школы граматы, а таксама адпраўляць дзяцей у агульныя навучальныя ўстановы без абавязковага вывучэння Закона Божага. Акрамя таго, старавеpы атрымалі права чыніць грамадскую малітву, выконваць адправы і богаслужэнні па іх абрадах, як у дамах, так і ў спецыяльных малітоўных будынках і на могілках, пры умове, каб не было публічнага спакуслівага для праваслаўных уплыву (меліся на ўвазе крыжовыя хады, песнапенні на вуліцах і плошчах, нашэнне царкоўнага і манаскага адзення і г.д.). Акрамя таго, было вырашана не праследаваць і не ўціскаць тых, хто выконваў духоўныя адправы ў старавераў, але і не дапускаць у далейшым пераходаў да папоўцаў свяшчэннікаў праваслаўнай царквы.

2 красавіка 1874 г. быў выдадзены ўказ, а 19 красавіка 1874 г. зацверджаны "Правілы аб метрычным запісу шлюбаў, нараджэння і смерці раскольнікаў". У іх адзначалася: "Шлюбы раскольнікаў набываюць у грамадзянскіх адносінах, праз пісанне ў адпаведныя для гэтага асобныя кнігі, сілу і вынікі законнага шлюбу" [19. С. 675]. Устанаўлівалася наступная працэдура запісання шлюбу ў метрычную кнігу. Спачатку старавер, які жадаў зарэгістраваць свой шлюб, павінен быў падаць пісьмовае або вуснае паведамленне ў паліцэйскую ці валасную ўправу, на падставе чаго складалася спецыяльная

аб'ява, якая павінна была выстаўляцца на людным месцы на сем дзён, каб усе жадаючыя маглі заявіць, ці не маецца якой-небудзь перашкоды для шлюбу. Праз сем дзён заявіцель атрымліваў пасведчанне аб тым, што аб'ява зроблена і ніякіх заяў ад ґрамадзян не паступала (а калі паступалі, то ўказваецца аб чым). Для запісу шлюбу будучыя муж і жонка павінны былі з'явіцца асабіста (у гарадах і паветах — у мясцовыя паліцэйскія ўправы, у сталіцах — да ўчастковых прыставаў), кожны з двума "сведкамі для пацвярджэння імі, што шлюб, аб якім заяўляецца паліцыі, не належыць да ліку незаконных" [19. С. 676].

3 мая 1883 г. быў прыняты ўказ "О даровании раскольникам некоторых гражданских прав и по отправлению духовных треб". Гэты указ, як і папярэдні, не заўсёды выконваўся старaверамі. У цыркуляры МУС ад 1900 г. у сувязі з гэтым адзначалася, што стараверы, якія належаць да аўстрыйскага свяшчэнства, не падпарадкоўваюцца ўказу, іх духоўнае кіраўніцтва "прысвойвае сабе не належачае ім духоўнае званне, а некаторыя — сан і дзеянні, якія прадстаўляюцца выключна вышэйшым іерархам праваслаўнай царквы" [47. С. 209. 210].

Увогуле 60 — 70-я гг. у Расійскай імперыі характарызаваліся масавымі пераходамі з праваслаўя ў раскол: "Рэформа 861 г., — адзначае гісторык М. М. Нікольскі, — разарвала фармальную сувязь паміж сялянамі і памешчыкам і развязала селяніну рукі. Паток, што доўгі час штучна стрымліваўся, пакаціўся са страшэннай сілай, прыводзячы ў жах назіральнікаў расколу" [48. С. 401]. Афіцыйная статыстыка сведчыць, што ў сярэдзіне 60-х гг. у Сімбірскай губерні ў раскол перайшло больш за 25 тыс. чал.; у 1867 г. раскольнікамі стала палова жыхароў г.Пятроўска Саратаўскай губерні. У той жа год у раскол перайшло 3 тыс. жыхароў с.Багародскае Гарбатаўскага павета Ніжагародскай губерні. Тысячамі пераходзілі ў раскол сяляне Цвярской губерні.

У так званых паўночна-заходніх губернях Расійскай імперыі гэты працэс не назіраўся, перш за ўсё, відаць, таму, што раскол заўжды і ўсюды меў велікарускі характар. Таму тыя характэрныя працэсы, што мелі месца ў Цэнтральнай Расіі, не заўсёды праяўляліся ў іншых частках імперыі, дзе канфесіянальнае развіццё адбывалася зусім па іншых канонах. На Беларусі для такіх масавых з'яў не было і сацыяльнай базы, бо мясцовае сялянства ў пераважнай большасці складалася з беларусаў, для якіх погляды старавераў па многіх

пытаннях былі і псіхалагічна і сацыяльна далёкімі. Тут назіраліся адваротныя тэндэнцыі — рух старавераў да праваслаўя. Асабліва гэта было характэрна для Віленскай і Ковенскай губерняў, дзе быў вельмі моцны ўплыў архімандрыта Паўла, па сутнасці духоўнага настаўніка беспапоўцаў паморскага толку. Ён асабіста прыязджаў да іх для настаўлення ці дзейнічаў праз настаўнікаў (М.Ціхамірава, В.Дарэндава і інш.).

Далучэнне архімандрыта Паўла да праваслаўя выклікала сярод мясцовых старавераў рух да стварэння аднаверскіх прыходаў. Але мітрапаліт літоўскі Іосіф забараніў ім гэта і загадаў пераходзіць у праваслаўе і ствараць праваслаўныя прыходы. Калі на чале Літоўскай епархіі стаў Макарый, стараверы зноў пачалі хадайнічаць аб адкрыцці аднаверскіх прыходаў. Макарый пагадзіўся. У епархію з місіяй прыбыў айцец Павел — на той час настаяцель Нікольскага аднаверскага манастыра ў Маскве. Місіянерская дзейнасць Паўла была паспяховай. У выніку многія стараверы Віленскай і Ковенскай губерняў выказалі жаданне далучыцца да праваслаўнай царквы на правах аднаверства. Св.Сінод дазволіў стварыць некалькі аднаверскіх прыходаў і вылучыў грошы на іх утрыманне.

Далучэнне старавераў да праваслаўнай царквы на правах аднаверства працягвалася і ў 80 — 90-я гг. Прыкладам можа служыць Віленская губерня. Даволі інтэнсіўна адбываўся гэты працэс і ў Віцебскай губерні. Па звестках Св.Сінода, у 1892 г. у Полацкай праваслаўнай епархіі дзейнічала восем прыходскіх аднаверскіх цэркваў [28. Ф. 796, воп. 440, спр. 495, арк. 3].

Што тычыцца адносін старавераў да праваслаўных свяшчэннікаў і наогул да праваслаўнага насельніцтва, то ў другой палове XIX — пачатку XX ст. яны былі на большасці тэрыторыі добразычлівымі. На гэта звяртаў увагу ў справаздачы Літоўскай епархіі за 1889 г. архіепіскап Алексій. Ён сцвярджаў, што праваслаўнае духавенства рэдка імкнулася ўплываць на старавераў, прымала іх дзяцей у школы і наогул адносілася да іх спагадліва. Стараверы адказвалі тым жа. Праўда, больш цеснаму збліжэнню паміж старaверамі і тутэйшым насельніцтвам, адзначаў Алексій, перашкаджала іх "рэлігійная дзікасць і распушчанасць". Мясцовыя жыхары глядзелі на старавераў як на небяспечных суседзяў, якія не паважаюць уласніцкія правы. Прычыну такіх адносін архіепіскап бачыў у неразуменні мясцовым духавенствам старавераў.



4 Зак. 899

Але так было не ўсюды. Калі з Бабруйскага, Віленскага паветаў, г.Вільні і іншых месцаў паведамлялі, што стараверы асобай варожасці да праваслаўя не праяўлялі, то з Дзісненскага павета ішлі зусім іншыя звесткі. Стараверы, якія тут пражывалі, належалі да беспапоўскай секты федасееўскага толку. У павеце было дзевяць малельняў. У 1895 г. місіянер Літоўскай епархіі свяшчэннік Дз.Губін паведамляў, што "раскольнікі гэтага павета адрозніваюцца асаблівай варожасцю да праваслаўнай царквы. Такіх дзёрзкіх і кашчунскіх слоў аб Св.Таінствах праваслаўнай царквы з боку тых, хто называў сябе носьбітамі старой веры, як у Кублішчанскай малельні, нідзе ў другім месцы не даводзілася чуць" [10. Ф. 388, воп. 1, спр. 1029, арк. 2].

Па-рознаму складваліся адносіны старавераў і мясцовага праваслаўнага насельніцтва і ў Віцебскай губерні. Калі ў Віцебскім і Дзінабургскім паветах гэтыя адносіны былі памяркоўнымі, то ў Рэжыцкім, Люцынскім, Себежскім, Невельскім стараверы пазбягалі ўсялякіх зносін з праваслаўнымі. Стараверы Рэжыцкага павета наогул лічылі зносіны з праваслаўнымі незамалімым грахом і нават знішчалі тыя рэчы, якія пабывалі ў руках праваслаўнага [49. С. 50].

Стараверы галоўнага цэнтра расколу Магілёўскай губерні — Гомельскага павета, — як і наогул усе папоўцы, больш цярпіма адносіліся да праваслаўных. "Мясцовыя раскольнікі, — адзначалася ў "Обзоре Могилевской губернии за 1882 год" — стойка трымаюцца сваіх веравызнанняў, але не адрозніваюцца асобым фанатызмам і ў адносінах сваіх да праваслаўных не праяўляюць ніякай варожасці, у апошні час заўважаецца, што раскольнікі пачынаюць наведваць праваслаўныя храмы, а дзяцей сваіх аддаюць для навучання ў народныя вучылішчы, нават у Гомельскую прагімназію" [50. С. 17].

Наведвалі агульнаадукацыйныя школы дзеці старавераў і ў іншых губернях. Па звестках за 1903 г., якія збіраліся для Міністэрства ўнутраных спраў, ні ў адным павеце Віцебскай губерні не было спецыяльных школ для старавераў; яны вучыліся ў агульнаадукацыйных школах. Праўда, не ўсюды гэта рабілася з ахвотай. Так, па звестках з Рэжыцкага, Себежскага, Дзвінскага паветаў, дзеці раскольнікаў "ахвотна паступаюць у агульныя школы і колькасць вучняў павялічваецца". З Віцебска, Полацка і адпаведных паветаў, а таксама з Лепельскага павета паведамлялася, што дзеці старавераў таксама наведвалі школы, але мала, і павелічэння іх колькасці не назіралася.

Такім чынам, становішча старавераў у другой палове XIX — пачатку XX ст. змянілася. Законы 1864, 1874, 1883 гг., іншыя пастановы хаця і не далі ім поўнай рэлігійнай свабоды, аднак прадаставілі магчымасць для нармальнага жыцця і ажыццяўлення сваіх рэлігійных адпраў.

Другой нешматлікай хрысціянскай канфесіяй было пратэстанцтва. Пратэстанцкая канфесія падзялялася на евангеліцка-лютэранскую і евангеліцка-рэфармацкую (або кальвінісцкую).

На пачатку 60-х гг. у пяці губернях Беларусі пражывала 19 951 чал., якія адносіліся да пратэстанцкай канфесіі. Яны жылі ва ўсіх губернях, але размяркоўваліся нераўнамерна. Найбольшая колькасць пратэстантаў (практычна адных лютэран) пражывала ў Віцебскай губерні — 12 420 чал. (або 1,57 % ад агульнай колькасці насельніцтва). Затым ідзе Гродзенская губерня — 5 500 чал. (0,6 %), Віленская — 891 (0,1 %), Мінская — 684 (0,07 %), Магілёўская — 456 чал. (0,05 %). На працягу другой паловы XIX ст. колькасць пратэстантаў ва ўсіх беларускіх губернях павялічылася, але па-ранейшаму першае месца займала Віцебская губерня. Згодна з перапісам 1897 г. тут пражывала 46 654 пратэстантаў (3,1 % ад агульнай колькасці насельніцтва). Найбольш іх было ў Дзвінскім павеце — 22 542 (9,5 %), Люцынскім — 12 253 (9,5 %), Веліжскім — 3401 (1,9 %), Рэжыцкім — 2685 (1,98 %), Віленскім — 1631 (1,6 %), Полацкім — 1623 (1,1 %).

У адміністрацыйна-іерархічнай структуры евангеліцка-рэфармацкая і евангеліцка-лютэранская цэрквы мелі шмат агульнага, але былі і невялікія адрозненні. У аснове царкоўнага ўладкавання рэфармацкай царквы ляжалі пастараты (прыходы). Яны ў сваю чаргу аб'ядноўваліся ў дыстрыкты (акругі). У першай палове XIX ст. на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў існавалі акругі: Беларуская, Віленская, Занёманская (пазней Гродзенская), Жмудская. У 1873 г. Беларуская акруга была аб'яднана з Гродзенскай пад назвай Беларускай. Кіраванне ёю было даручана супер-інтэнданту У.Мандзелеўскаму, які да гэтага ўзначальваў Гродзенскую акругу. У 1886 г. у сувязі з адначасовай смерцю супер-інтэнданта У.Мандзелеўскага і віцэ-суперінтэнданта Кавельмахера Беларуская акруга часова далучаецца да Віленскай. Гэты "часовы" стан захоўваўся да пачатку XX ст.

Усе бягучыя справы рэфармацкай царквы вырашала Віленская евангеліцка-рэфармацкая калегія. Вышэйшым

органам з'яўляўся Віленскі евангеліка-рэфармацкі Сінод. У другой палове XIX — пачатку XX ст. яго пасяджэнні адбываліся толькі ў Вільні. На іх разглядаліся розныя пытанні: аб матэрыяльным стане духавенства, назначэнні на пасады, адміністрацыйна-іерархічнай структуры і г.д.

Па дадзеных Віленскай евангеліцка-рэфармацкай калегіі, у 1865 г. у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай губернях было 17 цэркваў і 821 прыхаджанін. Па губернях гэтыя лічбы размяркоўваліся наступным чынам: у Віленскай губерні — адна царква і 209 прыхаджан, у Гродзенскай — 5 і 211, у Мінскай — 10 і 353, Магілёўскай — 1 і 68 адпаведна. У Віленскай губерні існавала толькі адна галоўная (або прыходская) царква, што знаходзілася ў Вільні. У Гродзенскай губерні іх было пяць: тры галоўныя (Расна Брэсцкага, Непакойчыцы Кобрынскага, Ізабеліна Ваўкавыскага паветаў), адна прыпісная (Заблудава Брэсцкага павета) і адзін малітоўны дом. У Мінскай губерні было чатыры галоўныя царквы (Слуцк, Капыль Слуцкага, Койданава Мінскага, Асташына Навагрудскага паветаў), тры прыпісныя (в.Сямёнавічы і Пціч Ігуменскага, Загальск Бабруйскага паветаў) і тры малітоўныя дамы. Адна галоўная царква існавала ў Магілёўскай губерні (Копысь) [9. Ф. 821, воп. 5, спр. 16, арк. 5]. На пачатку XX ст. становішча некалькі змянілася. Што тычыцца Віленскай і Магілёўскай губерняў, то там, як і раней, заставалася па адной рэфармацкай царкве. А вось у Гродзенскай і Мінскай іх стала менш. У 1905 г. у Гродзенскай губерні дзейнічала тры царквы (дзве галоўныя — у Ізабеліна і Непакойчыцах і адна прыпісная — у Расне). У Мінскай губерні дзве галоўныя (у Слуцку і Койданаве), дзве прыпісныя (у Асташыне і Сямёнавічах) і адзін малітоўны дом (у в.Кукавічы Слуцкага павета) [51. Арк. 2 — 4].

Іерархічная лесвіца рэфармацкага пасвячонага духавенства выглядала наступным чынам: генерал-суперінтэндант, суперінтэндант, віцэ-суперінтэндант, пастар, ад'юнкт-пастар, дыякан, лектар. На Беларусі колькасць рэфармацкага духавенства была зусім мізэрнай. Так, у 1863 г. на ўсе чатыры губерні (акрамя Віцебскай) іх было 11 чал. У Віленскай губерні — адзін генерал-суперінтэндант (узначальваў Віленскі евангеліка-рэфармацкі Сінод) і два пастары, у Гродзенскай — адзін суперінтэндант (узначальваў Гродзенскі дыстрыкт), адзін віцэ-суперінтэндант, у Мінскай — адзін суперінтэндант (узначальваў Беларускі дыстрыкт), адзін віцэ-супер-інтэндант, два пастары, адзін лектар; у Магілёўскай — адзін лектар. У 1905 г. у гэтых чатырох гу-

бернях было толькі чатыры прадстаўнікі рэфармацкага духавенства (два ў Віленскай губерні — суперінтэндант і віцэ-суперінтэндант і па адным пастары ў Гродзенскай і Мінскай губернях) [51. Арк. 2, 3].

Аснову царкоўнага ўладкавання лютэран таксама складаў прыход. У яго ўваходзілі прыходская абшчына і пастар. Прыходскія абшчыны па сваіх правах былі неаднароднымі. У адных прыходах абшчына была самастойнай адзінкай, яе дзейнасцю кіравалі выбарныя органы — агульны сход і царкоўны савет (або калегія, канвент). У другіх абшчыну прадстаўлялі патрон і землеўладальнікі. Пастар павінен быў адпавядаць наступным умовам:

быць падданым той краіны, дзе знаходзіўся прыход (замежныя жыхары дапускаліся з дазволу Міністэрства ўнутраных спраў і па прыняцці прысягі на рускае падданства);

мець багаслоўскую адукацыю (пастарамі былі галоўным чынам выпускнікі факультэтаў багаслоўскіх навук Дэрптскага і Гельсінгфорскага універсітэтаў);

мець узрост не менш 25 гадоў;

належаць да свабоднага саслоўя.

Парадак прызначэння пастараў у розных прыходах быў розны і вызначаўся асобымі правіламі прыходаў або прыватнымі асобамі, што прадстаўлялі прыход. У абавязкі пастара ўваходзіла: выкананне ўсіх царкоўных адпраў, назіранне за рэлігійнай адукацыяй моладзі, вядзенне метрычных і статыстычных ведамасцей, удзел у кіраванні царкоўнай маёмасцю прыхода. Пастар карыстаўся правамі асабістага дваранства, па царкоўных справах падвяргаўся царкоўнаму суду, карыстаўся тымі ж прывілеямі ў судовых адносінах, што і праваслаўныя святары.

Некалькі прыходаў у сукупнасці ўтваралі пробстскія акругі, якія знаходзіліся пад наглядам духоўнага саноўніка — пробста. Ён падпарадкоўваўся непасрэдна мясцовай духоўнай кансісторыі, з'яўляўся начальнікам пастараў сваёй акругі, пасрэднікам паміж генерал-інтэндантам і акругай, праводзіў візітацыю цэркваў, з'яўляўся суддзёй у такіх справах, якія маглі скончыцца прымірэннем, без парушэння царкоўных правіл. Для вырашэння царкоўных і гаспадарчых спраў акругі пробст меў права збіраць Сінод пастараў.

Сукупнасць пробстскіх акруг утварала кансістарыяльную акругу, вышэйшым органам якой была кансісторыя. Кансісторыя складалася з прэзідэнта (свецкая асоба), віцэ-

прэзідэнта і засядацеляў. Выбары прэзідэнта ў розных кансістарыяльных акругах праводзіліся па-рознаму. Напрыклад, у Курляндскай, якой падпарадкоўваліся лютэранскія цэрквы беларускіх губерняў, яго выбіралі мясцовыя дваране, лютэране па веравызнанні. Віцэ-прэзідэнт — гэта вышэйшы духоўны саноўнік кансісторыі, які выбіраўся мясцовымі дваранамі. Ён меў сан генерал-суперінтэнданта (у іншых кансістарыяльных акругах — суперінтэнданта, але правы і ў іх былі аднолькавыя). Віцэ-прэзідэнт кансісторыі кіраваў і назіраў за ўсімі духоўнымі справамі ў акрузе, вёў спісы духоўных асоб, атэставаў іх, праводзіў візітацыю цэркваў, разбіраў спрэчкі паміж пастарамі. Ён меў пачэсныя знакі — залаты крыж на грудзях і асабістую пячатку, а таксама тытул.

У 1868 г. былі ўнесены "некоторые изменения в правила Евангелическо-лютеранских и Виленского Реформаторского приходов". Змены заключаліся ў наступным: ініцыятары Віленскага рэфармацкага Сінода павінны былі загадзя паведамляць Галоўнаму начальніку края аб месцы і часе сваіх сходаў, нягледзячы на тое, што гэта і не прадугледжвалася законамі Расійскай імперыі. Што тычылася евангеліцка-лютэранскіх Сінодаў у кансістарыяльных акругах, то яны праз Галоўнага начальніка края павінны былі дастаўляць у Міністэрства ўнутраных спраў копіі пратаколаў пасяджэнняў [28. Ф. 821, воп. 5, спр. 46, арк. 15].

Вышэйшае кіраўніцтва евангеліцка-лютэранскай царквы знаходзілася ў Генеральнай кансісторыі, якая складалася з прэзідэнта (свецкая асоба), віцэ-прэзідэнта (духоўная асоба), двух свецкіх і двух духоўных членаў. Прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт назначаліся царом. Па законах лютэранскай царквы павінен быў існаваць Генеральны Сінод, але на працягу другой паловы XIX — пачатку XX ст. ён не збіраўся ні разу. Вышэйшы дзяржаўны надзор як над лютэранскай, так і над рэфармацкай царквой ажыццяўляла Міністэрства ўнутраных спраў, у прыватнасці Дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў [28. Ф. 821, воп. 1, спр. 18, арк. 346].

На пачатку 60-х гг. XIX ст. у Расійскай імперыі існавала ўсяго восем лютэранскіх духоўных кансістарыяльных акруг. Усе пяць губерняў (Віленская, Віцебская, Магілёўская, Мінская, Гродзенская) уваходзілі ў Курляндскую кансістарыяльную акругу. Згодна са справаздачай аб стане евангеліцка-лютэранскай царквы за 1864 г. у гэтых пяці губернях дзейнічала 27 лютэранскіх цэркваў, у тым ліку галоўных — сем, прычэтных (прыпісных) — восем, гаспітальных і дамавых — адна,

малітоўных дамоў — 11. Па губернях яны размяркоўваліся наступным чынам: у Віцебскай губерні — дзевяць (адна галоўная, пяць прычэтных, тры малітоўныя дамы), у Магілёўскай — адна галоўная, у Мінскай — дзве (галоўная і прычэтная), у Віленскай — тры (галоўная, прычэтная, дамавая), у Гродзенскай — 12 (тры галоўныя, адна прычэтная, восем малітоўных дамоў) [28. Ф. 821, воп. 5, спр. 18, арк. 16].

У склад іерархічнай лесвіцы пасвячонага лютэранскага духавенства ўваходзілі: генерал-суперінтэндант (або суперінтэндант), пробст, обер-пастар, пастар, віцэ-пастар, кан'юнкт-пастар, дыякан. У 1864 г. ва ўсіх пяці губернях налічвалася 11 духоўных асоб лютэранскага веравызнання (дзевяць пастараў і два кан'юнкт-пастары). У Віцебскай губерні іх было чатыры, у Магілёўскай — адзін, у Мінскай — адзін, у Віленскай — два, у Гродзенскай — тры. Колькасць лютэранскага духавенства ў XIX — пачатку XX ст. заставалася прыкладна на гэтым узроўні, хаця колькасць цэркваў к канцу стагоддзя некалькі павялічылася — іх стала 30 (у Віцебскай губерні — 11, у Магілёўскай — тры, у Мінскай — адна , у Віленскай — тры, у Гродзенскай — 12).

Адносіны пратэстантаў з адміністрацыйнымі ўладамі і праваслаўнай царквой былі звычайна памяркоўнымі. Па прычыне іх малалікасці царскія ўлады вялікіх перашкод ім не чынілі, але пры магчымасці імкнуліся стрымліваць рост колькасці вернікаў і культавых устаноў. У справаздачы обер-пракурора Св. Сінода за 1883 г. адзначалася: "Лютэране, што належаць галоўным чынам да службовага і купецкага саслоўя, не выказваюць фанатызму ў адносінах да праваслаўнай царквы, але і не спачуваюць ёй. Епархіяльнае кіраўніцтва прымае меры па абмежаванні праваслаўнага насельніцтва ад іншаверцаў [26. С. 39].

Да такіх мер адносілася забарона будаваць новыя культавыя ўстановы. Так, у 1902 г. евангеліцка-лютэранская Генеральная кансісторыя ўзбудзіла хадайніцтва аб дазволе царкоўнаму савету Дзвінскага прыхода прыняць ахвяраваны ўласнікам м.Прэль Гулькевічам участак зямлі (960 кв.саж.), каб пабудаваць там на сродкі веруючых новы малітоўны дом. Згодна з законам Расійскай імперыі пабудова культавых будынкаў замежных хрысціянскіх веравызнанняў магла здзяйсняцца толькі пры згодзе праваслаўнага епархіяльнага кіраўніцтва. У дадзеным выпадку такой згоды не было. Перапіска паміж Віцебскім губернатарам, МУС і Дэпартаментам духоўных спраў замежных веравызнанняў паказвае, як чыноўнікі і праваслаўныя іерархі ўсяляк шукалі неаб-

ходныя абгрунтаванні, каб адхіліць хадайніцтва [12. Ф. 1430, воп. 1, спр. 53484, арк. 1 — 4].

Пасля паўстання 1863 г. хваля русіфікацыі, што захліснула беларускія губерні, зачапіла і евангеліцка-рэфармацкую царкву. Улады прапанавалі ўвесці рускую мову ў богаслужэнне там, дзе яно вялося па-польску. Гэтае пытанне абмяркоўвалася ў 1869 г. на пасяджэнні Віленскага евангеліцка-рэфармацкага Сінода, які выказаўся супраць. Абгрунтоўваючы сваё адмоўнае рашэнне, Сінод указаў на наступныя прычыны, якія не дазвалялі пайсці на ўвядзенне рускай мовы:

па-першае, пастары евангеліцка-рэфармацкай царквы не валодаюць рускай мовай у такой ступені, каб весці на ёй богаслужэнне;

па-другое, прыхаджане евангеліцка-рэфармацкай царквы польскага, самагіцкага, нямецкага і іншага паходжання або зусім не разумеюць рускую мову, або разумеюць яе толькі на бытавым узроўні і таму “не маглі б з карысцю для душы слухаць казанні на рускай мове”;

па-трэцяе, няма ніякіх матэрыялаў для богаслужэння на рускай мове (перакладу Свяшчэннага пісання, псалмаў, гімнаў, малітваў, літургічнага трэбніка), якія былі б ухвалены евангеліцка-рэфармацкай царквой.

Гэтых пазіцый пастары евангеліцка-рэфармацкай царквы прытрымліваліся і ў далейшыя гады. Калі ў 1873 г. ад іх патрабавалі пісьмовыя даведкі па пытанні ўвядзення рускай мовы ў богаслужэнне, яны, спасылаючыся на рашэнні Сінода 1869 г., зноў выказалі тыя ж меркаванні і прычыны. Так, у Гродзенскай губерні на той час меліся два евангеліцка-рэфармацкія прыходы — Расненскі (Брэсцкі павет) і Ізабелінскі (Ваўкавыскі павет). У першым богаслужэнне вялося на нямецкай мове, у другім — на польскай. Пастары абодвух прыходаў катэгарычна выказаліся супраць увядзення ў богаслужэнне рускай мовы.

Мова, на якой вялося богаслужэнне ў евангеліцка-рэфармацкай царкве, адпавядала нацыянальнаму складу яе прыхаджан. Так, у Мінскай і Магілёўскай губернях прыхаджанамі былі немцы, адпаведна царкоўнай мовай нямецкая. Тое ж самае назіралася ў Гродзенскім і Беластоцкім прыходах Гродзенскай губерні. А вось што тычылася прыхода Нейдорф-Нейброва, то прыхаджане хаця і былі немцамі па паходжанні, але згубілі сваю мову, таму казанні і навучанне ў школах вяліся на польскай мове. Сярод лютэран Віленскай губерні былі немцы і невялікая колькасць палякаў. Богаслужэнне і навучанне ў школах вяліся на нямецкай мове, але выкладаліся

і мовы руская і польская. Больш стракатым быў малюнак у Віцебскай губерні, дзе сярод лютэран акрамя немцаў была значная колькасць латышоў. Так, у Віцебскім і Дзінабургскім прыходах, дзе большасць вернікаў складалі немцы, царкоўнай мовай была нямецкая, у Крэйбургскім — латышская, бо тут большасць вернікаў складалі латышы. Цікавая карціна назіралася ў Полацкім прыходзе. Тут на пачатку XX ст. сярод прыхаджан было 300 немцаў і 900 латышоў. Але, нягледзячы на тое, што латышы мелі колькасную перавагу, вялікую ролю ў прыходзе адыгрывалі немцы. Па-першае, яны былі заснавальнікамі прыхода, уладальнікамі ўсіх царкоўных будынкаў і штогод ахвяравалі прыходу грошы. Ахвяраванні латышскіх вернікаў, нягледзячы на іх большасць, складалі толькі трэць усёй неабходнай сумы, астатнюю частку давалі нямецкія. У Полацку богаслужэнне вялося на нямецкай і латышскай мовах (па чарзе), у маёнтку Вацлававе (Лепельскі павет) — на латышскай [12. Ф. 1430, воп. 1, спр. 47850, арк. 5].

У другой палове XIX ст. узнікае некалькі плыняў пратэстанцкага сектанцтва. У канцы 70-х гг. у Гомельскім павеце былі выяўлены прыхільнікі штундызму, які быў занесены сюды з паўднёвых раёнаў, куды жыхары павета адпраўляліся на заробкі. Штундысты называлі сябе сектантамі "новорожденного русского братства", верылі ў Ісуса Хрыста і толькі яму аднаму пакланяліся, пастоў не прытрымліваліся, у святочныя дні збіраліся ў прыватных дамах для спявання псалмоў і чытання Евангелля [52. С. 37]. У 80-я гг. штундысты з'явіліся ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губерні і ў іншых месцах, а ў 1888 г. — ў Віцебскай губерні. Але прынятыя меры (тры паслядоўнікі штундызму былі пазбаўлены маёмасці і сасланы ў Закаўказзе, два адпраўлены ў турму) спынілі яго распаўсюджванне. У 1894 г. штундызм быў аб'яўлены ў Расійскай імперыі па-за законам, бо, як указвалася ў палажэнні Камітэта міністраў, "штундысты... прапаведуюць сацыялістычныя прынцыпы... агульную роўнасць, раздзел маёмасці... іх вучэнне падрывае асновы праваслаўнай веры" [53. С. 659].

Пасля пастановы штундысцкі рух пайшоў на спад. У Магілёўскай губерні, напрыклад, перайшлі ў праваслаўе 52 штундысты [54. С. 31]. З цягам часу штундызм практычна перастае існаваць, зліўшыся з баптызмам.

У гэты час на Беларусі атрымалі распаўсюджванне некалькі плыняў пратэстанцкага сектанцтва: баптызм, евангелічнае хрысціянства, пяцідзесятніцтва, адвентызм сё-

мага дня, іегавізм і інш. У канцы XIX — пачатку XX ст. найбольш паслядоўнікаў меў баптызм. Заснавальнікам секты баптыстаў лічыцца Фама Мюнцэр, вучань Лютэра, які жыў у першай палове XVI ст. Назва секты паходзіць ад лацінскага слова "baptismus", г.зн. хрышчэнне. Мюнцэр вучыў, што хрышчэнне дзяцей несапраўднае, бо сапраўднасць св.таінстваў знаходзіцца ў залежнасці ад веры ў іх, і таму дарослых трэба перахрышчваць. Яго вучэнне заснавана на веры ў тысячагадовае Царства Боскае на зямлі. У ім павінен панаваць мір, не будзе ніякай прыватнай уласнасці, "грешного брака", які замяніць "свободная безбрачная любовь". Не патрэбна будзе ніякая ўлада.

Нягледзячы на ганенні, колькасць паслядоўнікаў Мюнцэра расла і пранікала ва ўсе краіны. У Польшчы першыя баптысты з'явіліся ў 1861 г. у Адамаве, у беларуска-літоўскіх губернях — пазней, спачатку ў Коўне, а потым у Вільні і Гродне.

Даследчык распаўсюджвання баптызму ў дарэвалюцыйны час А.Мілавідаў адзначаў, што баптызм у беларуска-літоўскіх губернях — нямецкага паходжання. У беларускіх губернях ён звычайна распаўсюджваўся сярод нямецкіх каланістаў і латышоў. Часцей за ўсё баптыстамі станавіліся лютэране. Але сярод паслядоўнікаў баптызму былі людзі і іншых нацыянальнасцяў і веравызнанняў, нават, як адзначаў Мілавідаў, "еврейский элемент", хаця і сустракаецца ён як "единичные и случайные явления" [55. С. 7].

Па сацыяльным складзе баптысты таксама не былі аднароднымі. Найбольш распаўсюджаным гэтае веравучэнне было сярод сялян, у меншай ступені — сярод гарадскога мяшчанства. Шырокай была і геаграфія распаўсюджвання баптызму. У большай ці меншай колькасці баптысты пражывалі ва ўсіх беларускіх губернях.

У Віцебскай губерні на пачатку XX ст. баптысты пражывалі ў Дзвінскім (136 чал.), Люцынскім (53 чал.), Дрысенскім (1 сям'я) паветах. Усе яны латышы, раней былі лютэранамі. Баптысты Дзвінска і Люцынскага павета мелі малітоўныя дамы, якія размяшчаліся ў наёмных памяшканнях. Баптысты Дзвінскага павета наведвалі малітоўны дом у г.Якабштаце Курляндскай губерні, дзе богаслужэнне вялося на латышскай мове. У Магілёўскай губерні цэнтрам распаўсюджвання баптызму стала Гомельшчына. Тут, у с.Уць, была заснавана абшчына, першымі прасвітарамі якой сталі Каненкаў, Раўзонкаў, Капанкоў, Кірушчанка. У 1879 г. місіянерамі з южных губерняў была заснавана абшчына ў в.Усохі. У Мінскай

губерні баптысты пражывалі на хутары Хаткі Рэчыцкага павета, у Слуцкім і Пінскім паветах, пазней з'явілася абшчына ў Мінску[53. С. 663].

Шляхі распаўсюджвання баптызму, як і іншых цячэнняў пратэстанцкага сектанцтва, былі рознымі: місіянерская дзейнасць прыезджых прапаведнікаў, адыходніцтва, міграцыі сялян з адной губерні ў другую. Сваю ролю адыгрываў і пастаянны прыток нямецкіх рамеснікаў з Усходняй Прусіі ў Коўна.

Метады евангелізацыі мясцовага насельніцтва таксама былі разнастайныя: публічныя сходы ў тэатрах і шынках, распаўсюджванне танных кніг і брашур, адкрыццё нядзельных школ для дзяцей, правядзенне для іх розных мерапрыемстваў з раздачай падарункаў, дабрачынная дзейнасць і г.д.

Царскі ўрад быў занепакоены распаўсюджваннем баптысцкага вучэння. У сувязі з гэтым у 1879 г. быў выдадзены Сенацкі ўказ, які рэгуляваў дзейнасць баптысцкіх абшчын. Да ўказа дадаваліся часовыя правілы аб вядзенні метрычных запісаў шлюбаў, нараджэння і смерці баптыстаў. Гэтыя запісы павінны былі весці мясцовыя грамадзянскія ўлады.

Крыху пазней, чым штундызм і баптызм, на Беларусі з'яўляецца евангелічнае хрысціянства. У 1882 г. паслядоўнікі гэтага вучэння былі выяўлены ў г.Чачэрску Гомельскага павета. Да іх належала княгіня Чарткова. У маёнтку яе бацькі, які знаходзіўся ў Чачэрску, праходзілі евангельскія сходы. Абшчына атрымлівала дапамогу з Пецярбурга [53. С. 663].

Што тычылася адвентысцкага веравучэння, то яно з'яўляецца на тэрыторыі Расійскай імперыі ў канцы XIX ст. Першае ўпамінанне аб ім адносіцца да 1897 г., калі обер-пракурор Св.Сінода паведаміў аб з'яўленні прыхільнікаў гэтага вучэння ў Валынскай губерні. На Беларусі яны з'яўляюцца пазней. Распаўсюджванне секты адвентыстаў сёмага дня, як, зрэшты, і іншых, атрымліваюць пасля ўказа 17 красавіка 1905 г. аб верацярпімасці.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Брянцев П.Д.* Польский мятеж 1863 г. Вильно, 1892.

2. *Миловидов А.Н.* Заслуги графа М.Н.Муравьева для православной церкви в Северо-Западном крае. Харьков, 1900.

3. *Касмылёў В.* Польская эмблематыка ў грамадска-палітычным руху на Беларусі ў пачатку 60-х гадоў XIX ст. // Беларус.гіст. часопіс. 1993. № 3.

4. Bojownvicy kaplani za sprawe kosciola i ojczyzny w latach 1861 — 1915. Sandomerz, 1936.

5. Виленский временник. Вильно. 1913. Кн. 4.

6. Литовские епархиальные ведомости за 1863 год. Вильно, 1864.

7. Литовские епархиальные ведомости за 1886 год. Вильно, 1887.

8. *Лясковский А.И.* Литва и Белоруссия в восстании 1863 г. Берлин, 1939.

9. Матэрыялы аддзела рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург).

10. Матэрыялы гістарычнага архіва Літвы.

11. Голас часу. Лондан. 1992. № 2.

12. Матэрыялы Нацыянальна-гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску.

13. Из бумаг графа М.Н.Муравьева. СПб., 1898.

14. *Извеков Н.Д.* Исторический очерк состояния Православной церкви в Литовской епархии за время с 1839 по 1889 гг. М., 1899.

15. *Wazynski A.* Litwa pod wzglendem przesladowania w niej rzymsko-katolockiego kosciota. Poznan, 1891.

16. Минская старина/Труды Минского церковного историко-археологического комитета. Вильно, 1911. Вып. 3. Ч. 1.

17. *Киприанович Г.Я.* Жизнь Иосифа Семашки, митрополита Литовского и Виленского и воссоединение западно-русских униатов с православною церковью в 1839 г. Вильно, 1893.

18. Русское православие: вехи истории. М., 1989.

19. Собрание постановлений по части раскола. СПб., 1875.

20. *Кандель Ф.* Очерки времен ■ событий из истории российских евреев. Иерусалим, 1990.

21. *Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993.

22. Сб.Зак. Улож. наказ. Т. 15. Ст. 205.

23. Св.зак. Изд. 1890 г. Т. 14.

24. *Самбук С.М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1970.

25. Отечественная церковь по статистическим данным с 1840 — 1841 по 1890 — 1891 гг. СПб., 1897.

26. Литовские епархиальные ведомости за 1868 год. Вильно, 1868.

27. Наличное население обоего пола по уездам и городам, с указанием преобладающих вероисповеданий и главнейших сословий. 1905.

28. Матэрыялы Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу.

29. *Корчинский И.* Очерк истории церковного школьного дела в Гродненской губернии в XIX ст. Гродно, 1903.

30. *Белецкий А.В.* Краткий исторический обзор деятельности управления Виленского учебного округа с 1803 по 1869 г. Вильно, 1903.

31. *Миловидов А.* Деятельность графа М.Н.Муравьева по народному просвещению в Северо-Западном крае. Харьков, 1900.

32. Известия Академии педагогических наук РСФСР. 1964. Вып. 131.

33. *Рункевич С.Г.* Русская церковь в XIX в. СПб., 1901.

34. Полоцкие епархиальные ведомости за 1878 год. Полоцк, 1879.

35. Литовские епархиальные ведомости за 1875 год. Вильно, 1875.

36. Полоцкие епархиальные ведомости за 1875 год. Полоцк, 1876.

37. *Владимиров А.П.* История располячения западнорусского костела. М., 1896.

38. *Stankiewicz Ad.* Rodnaja mowa u swiatyniach. Wilna, 1929.

39. Вестник Западной России. 1869. Т. 1. Кн. 1.

40. *Миловидов А.И.* Распоряжения и переписка графа М.Н.Муравьева относительно римско-католического духовенства ■ Северо-Западном крае. Вильно, 1910.

41. *Киприанович Г.Я.* Исторический очерк православия, католичества ■ унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до нашего времени. Вильно, 1895.

42. Литовские епархиальные ведомости за 1882 год. Вильно, 1883.

43. Обзор Минской губернии за 1894. Мн., 1895.

44. Обзор Могилевской губернии за 1896. Могилев, 1897.

45. Перапісныя лісты 1897 г.; Матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, ф. 1430, воп. 1, спр. 46324.

46. Полоцкие епархиальные ведомости за 1876 год. Полоцк, 1877.

47. Литовские епархиальные ведомости за 1900 год. Вильно, 1901.

48. *Никольский Н.М.* История Русской церкви. Мн., 1990.

49. Обзор Витебской губернии за 1888 год. Витебск, 1889.

50. Обзор Могилевской губернии за 1888 год. Могилев, 1889.

51. Матэрыялы аддзела рукапісаў бібліятэкі АН Літвы.

52. Обзор Могилевской губернии за 1879 год. Могилев, 1880.
53. Наш радавод. Гродна, 1993. Кн. 4. Ч. 3.
54. Обзор Могилевской губернии за 1894 год. Могилев, 1895.
55. *Миловидов А.И.* Современное штундо-баптистское движение в Северо-Западном крае. Вильно, 1910.

# ГЛАВА 3

# КАНФЕСІІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ (1905 — 1917)

## 3.1. УКАЗ АБ ВЕРАЦЯРПІМАСЦІ І ЗМЕНЫ Ў СТАНЕ ХРЫСЦІЯНСКІХ КАНФЕСІЙ

17 красавіка 1905 г. быў прыняты "Именной Высочайший Указ Правительствующему Сенату", які атрымаў шырокую вядомасць як указ аб верацярпімасці. Гэтай акцыяй царскі ўрад, хацеў ён таго ці не, прызнаваў, што да гэтага часу такой верацярпімасці ў дзяржаве не было. Што ж канкрэтна змянілася як у заканадаўчых актах, так і ў самой канфесіянальнай палітыцы пасля прыняцця ўказа?

Указ не пахіснуў пазіцый праваслаўнай царквы. Як і раней, дзяржаўныя законы пакідалі за ёю права "первенствующей и господствующей". Праваслаўная царква ў якасці пануючай карысталася правам "публичной проповеди", з якога выцякала "неприкосновенность для прозелитизма". Заканадаўча гэта было зацверджана ў артыкуле 4 статута духоўных спраў іншаземных веравызнанняў (1896. Т. 11. Ч. 1). У ім гаварылася: "У межах дзяржавы адна пануючая Праваслаўная царква мае права пераконваць паслядоўнікаў іншых хрысціянскіх веравызнанняў і іншаверцаў да прыняцця яе вучэння аб веры". Гэта права захавалася і пасля ўказа 1905 г. Каб пацвердзіць, што гэта так, звернемся да дакументаў Камітэта міністраў, якія суправаджалі ўказ 17 красавіка. У іх адзначаецца: "Нязменна захоўваюцца і на будучы час тыя перавагі, што прыдаюць Праваслаўнай царкве значнасць пануючай — прыналежнасць да яе Гасудара Імператара, свабода прыцягвання паслядоўнікаў і атрыманне грошай на задавальнне сваіх патрэб з агульнадзяржаўных даходаў" [1.

С. 451]. Законы, што былі выдадзены ў 1906 г., пацвердзілі вяршынства і пануючую ролю праваслаўнай царквы і абазначылі межы верацярпімасці, зафіксаваныя ў статутах духоўных спраў іншаземных веравызнанняў. Варты ўвагі факт: Дзяржаўная Дума першага склікання, распрацаваўшы Закон аб свабодзе веры, вырашыла папярэдне пазнаёміцца з думкай Св. Сінода аб ім. Гэты Закон не быў прыняты ў сувязі з роспускам Думы, але было прызнана, што заканадаўчыя органы і надалей, перш чым прымаць законы ў даным кірунку, павінны ведаць і ўлічваць адносіны да іх з боку Св.Сінода.

Такім чынам, галоўны стрыжань канфесіянальнай палітыкі — захаванне пануючай ролі праваслаўнай царквы — быў пакінуты і надалей. Ні ўказ аб верацярпімасці 17 красавіка 1905 г., ні Маніфест 17 кастрычніка 1905 г., ні шэраг наступных заканадаўчых актаў не мелі на мэце абмежаваць правы праваслаўнай царквы. І законы і палажэнні, накіраваныя на ліквідацыю абмежаванняў і істотных правоў іншаверных і іншаземных веравызнанняў, не павінны былі абмяжоўваць існуючыя правы праваслаўнай царквы.

Праваслаўныя вернікі па-ранейшаму захоўвалі перавагу ў параўнанні з іншымі веравызнаннямі. Павялічылася і колькасць праваслаўных храмаў. У 1912 г. у Гродзенскай епархіі было 7 сабораў, 349 прыходскіх цэркваў, 112 прыпісных, 132 цэрквы на могілках, 2 дамавыя, 6 манастырскіх і 42 капліцы; у Літоўскай епархіі — 5 сабораў, 200 прыходскіх цэркваў, 65 прыпісных, 103 цэрквы на могілках, 26 дамавых, 58 капліц; у Мінскай — 9 сабораў, 547 прыходскіх цэркваў, 394 прыпісныя, 251 царква на могілках, 19 дамавых, 101 капліца; у Магілёўскай — 7 сабораў, 534 прыходскія цэрквы, 125 прыпісных, 98 цэркваў на могілках, 34 капліцы; у Полацкай — 13 сабораў, 291 прыходская царква, 85 прыпісных, 104 цэрквы на могілках, 21 дамавая, 235 капліц [2. С. 188].

Змены, якія адбываліся ў становішчы іншаверных і іншаземных веравызнанняў, ішлі ў наступных кірунках. У першую чаргу гэта пераходы з аднаго веравызнання ў другое, а дакладней — "отпадение от православия". Нагадаем, што раней закон забараняў пераход з праваслаўнага веравызнання ў іншае. Зараз жа, ў імянным указе ад 17 красавіка 1905 г., імператар Мікалай II абвясціў: "Прызнаць, што адпадзенне ад праваслаўнай веры ў другое хрысціянскае веравызнанне або веравучэнне не будзе падвяргацца ганенню, не

павінна выклікаць якіх-небудзь нявыгадных у адносінах асабістых або грамадзянскіх правоў вынікаў, прычым адпаўшая ад праваслаўя асоба, калі яна дасцігла паўналецця, належыць да таго веравызнання або веравучэння, якое яна сама абрала". Пакаранне, якое накладвалася за пераход з праваслаўнага ў іншае веравызнанне, і ўсе існаваўшыя да гэтага часу грамадзянскія абмежаванні адмяняліся [З. Ф. 694, воп. 1, спр. 2836, арк. 160].

У хуткім часе пасля абнародавання ўказа з розных месцаў Расійскай імперыі "с неокрепшим еще в православии населением" (сюды ўлады адносілі былыя уніяцкія мясцовасці, усходнія ўскраіны, населеныя мусульманамі, тэрыторыі, населеныя латышскім насельніцтвам, і г.д.) пачалі паступаць масавыя заявы аб прылічэнні да іншага веравызнання. Што тычылася Віленскай, Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, Гродзенскай губерняў, то тут адбываліся пераходы галоўным чынам з праваслаўя ў каталіцтва, а ў раёнах Віцебскай губерні, населеных латышамі, — у лютэранства. Задаволіць гэтыя заявы на практыцы аказалася даволі цяжкай справай: указ ад 17 красавіка не ўтрымліваў указання адносна механізму пераходаў. Каб запоўніць гэты прагал, рымска-каталіцкія епіскапы зрабілі распараджэнне падпарадкаванаму ім рымска-каталіцкаму духавенству аб парадку прыняцця ў каталіцкую веру тых, хто вырашыў адысці ад праваслаўя. Аб аператыўнасці рымска-каталіцкага духавенства сведчыць той факт, што цыркуляр Віленскага епіскапа па азначаным пытанні быў выдадзены 21 красавіка 1905 г., гэта значыць праз чатыры дні пасля выдання ўказа аб верацярпімасці [З. Ф. 607, воп. 1, спр. 76, арк. 20, 2].

Улады абвясцілі гэтае распараджэнне незаконным, спаслаўшыся на тое, што даныя пытанні — пытанні дзяржаўнай улады. У сувязі з такой сітуацыяй 18 жніўня 1905 г. было выдадзена цыркулярнае распараджэнне (з часовымі правіламі) МУС аб пераходзе з праваслаўнага веравызнання ў іншае. У снежні таго ж года Св. Сінод, кіруючыся даным цыркулярам, выдае ўказ "О порядке перехода православных лиц в инославные и иноверные исповедания". Указ быў даведзены да праваслаўных епіскапаў з прыпіскай аб тым, каб яны азнаёмілі з правіламі пераходаў падпарадкаванае ім духавенства і зрабілі са свайго боку распараджэнні аб "пераконванні на працягу ўказанага тэрміну асобаў, што заявілі аб сваім жаданні адпасці ад праваслаўя, застацца вернымі святой праваслаўнай царкве" [З. Ф. 607, воп. 1, спр. 76, арк. 16].

У чым заключаліся правілы пераходаў? Асоба, якая пажадала перайсці з праваслаўя ў іншае хрысціянскае веравызнанне, павінна была звярнуцца з заявай да губернатара. Губернатар, давёўшы да ведама праваслаўнае епархіяльнае кіраўніцтва, на працягу месячнага тэрміну накіроўваў заяву на разгляд мясцоваму інаслаўнаму духоўнаму начальству, апошняе апавяшчала губернатара, а той праваслаўнае начальства аб тым, што вернік прыняты ў другое веравызнанне. На гэты раз рымска-каталіцкае духавенства не праявіла неабходнай аператыўнасці. На працягу некалькіх гадоў каталіцкія свяшчэннаслужыцелі ўсё яшчэ імкнуліся кіравацца не цыркулярам МУС ад 18 жніўня 1905 г., а цыркулярамі сваіх епіскапаў. У сувязі з гэтым Віленскі рымска-каталіцкі епіскап К.Міхалькевіч мусіў прыняць 22 снежня 1908 г. спецыяльны цыркуляр, якім растлумачваў свайму духавенству, што "для аднолькавага парадку дзеянняў і з мэтай пазбегнуць непажаданых непаразуменняў" неабходна кіравацца цыркулярам і часовымі правіламі МУС ад 18 жніўня 1905 г. [3. Ф. 607, воп. 1, спр. 76, арк. 2].

Цыркуляр МУС ад 18 жніўня 1905 г. агаворваў і ўмовы пераходу або вяртання ў праваслаўнае веравызнанне. У сувязі з гэтым адзначалася: "Адносна прыняцця праваслаўя або вяртання да праваслаўнай царквы зразумела, што пануючай у дзяржаве царкве належыць неад'емнае права ўсімі законнымі сродкамі садзейнічаць пераходу ў праваслаўе і аказваць духоўны ўплыў на тых, хто перайшоў або збіраецца перайсці, каб утрымаць іх у былой веры і вярнуцца ў праваслаўе". Мясцовыя ўлады павінны былі ўсімі сродкамі аказваць праваслаўнаму духавенству падтрымку ў даным кірунку.

За 1905 — 1907 гг., па даных обер-пракурора Св.Сінода, з праваслаўя ў каталіцтва ў цэлым па Расійскай імперыі перайшлі больш за 170 тыс. чал., 10 тыс. праваслаўных вернікаў сталі пратэстантамі. Больш частымі сталі пераходы ў стараверства і сектанцтва [4. С. 398].

Значную частку пераходаў складалі пераходы ў беларуска-літоўскіх губернях. Так, па звестках упраўляючага Віленскай рымска-каталіцкай епархіі, колькасць тых, хто за 1905 — 1909 гг. перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва па епархіі, склала 62 тыс. [3. Ф. 694, воп. 1, спр. 2954, арк. 110]. У Віцебскай губерні за 1905 — 1908 гг. у каталіцтва перайшло каля 4 тыс. праваслаўных, 230 сталі лютэранамі. Асабліва адметным у гэтым кірунку быў Дрысенскі павет на Віцебшчыне. Тут каталікамі сталі 2393 чал., што складала 62,7 % ад усіх пе-

райшоўшых па губерні [5. Спр. 54191, арк. 29]. Гэта выклікала неспакой з боку ўлад. На справаздачы віцебскага губернатара за 1908 г. у адпаведным месцы рукой імператара было напісана: "Звяртаю сур'ёзную ўвагу на гэтую дрэнную і недапусцімую з'яву". Праваслаўнае епархіяльнае начальства правяло аналіз прычын пераходаў у каталіцкую веру. Галоўныя з іх праваслаўныя іерархі бачылі ў "падсвядомым імкненні да каталіцтва былых уніятаў дзеля грамагучнага аргана, лёгкіх пастоў і магчымасці заключаць шлюбы сярод блізкіх родзічаў" [5. Спр. 54191, арк. 29].

У сакавіку 1909 г. у праваслаўныя епархіі заходніх губерняў паступіў сакрэтны ўказ імператара. У ім гаварылася аб неспакоі ў сувязі з тым, што пераходы з праваслаўя ў каталіцтва ўсё яшчэ працягваюцца і што праваслаўнае духавенства павінна ўзмацніць сваю дзейнасць у напрамку зацвярджэння прыхаджан у праваслаўнай веры. "Час, які мы перажываем, — адзначалася ў дакуменце, — гэта час даволі моцнага ціску на праваслаўную веру і царкву з боку рымска-каталіцкай царквы і патрабуе ад нас асаблівай апостальскай руплівасці, пастаяннай пастырскай дзейнасці і пільнасці" [3. Ф. 607, воп. 1, спр. 76, арк. 17].

Што тычылася пераходаў з аднаго іншаземнага веравызнання ў другое, то сюды ўказ ад 17 красавіка 1905 г. перамен не ўносіў. Механізм гэтых пераходаў грунтаваўся на тых законах, якія дзейнічалі да гэтага часу.

Важным пытаннем пры фарміраванні канфесіянальнай палітыкі, рэгуляванні ўзаемаадносін паміж рознымі канфесіямі з'яўляецца пытанне аб змешаных шлюбах. Пры яго вырашэнні ўказ ад 17 красавіка і маніфест 17 кастрычніка 1905 г., як і раней, захоўвалі перавагу праваслаўнай царквы і рэгулюючую ролю дзяржавы. Згодна з гэтымі дакументамі змешаныя шлюбы (калі адзін з уступаючых у шлюб быў праваслаўным) павінны былі адбывацца па праваслаўным абрадзе. Дзеці, што нарадзіліся ад такога шлюбу, павінны былі быць ахрышчаны і выхаваны па правілах праваслаўнай царквы. У выпадку, калі той з бацькоў, што быў праваслаўным, пераходзіў у каталіцтва, то і дзеці да 14 гадоў маглі быць пераведзены ў каталіцтва.

Пасля прыняцця гэтых дакументаў пачалі паступаць хадайніцтвы ад адышоўшых ад праваслаўя асоб аб прызнанні законнымі іх шлюбаў, заключаных да ўказа ад 17 красавіка не па праваслаўным абрадзе, і нарадзіўшыхся ад гэтага шлюбу дзяцей. Зразумела, што выканаўчыя органы, у якія паступалі падобныя заявы, не маглі прымаць станоўчага ра-

шэння, бо законы недвухсэнсава сцвярджалі, што шлюбы, заключаныя па абрадах і правілах інаслаўных і іншаземных веравызнанняў (калі адзін з бакоў афіцыйна лічыўся праваслаўным), лічыліся несапраўднымі, а дзеці, што нарадзіліся ад гэтага шлюбу, — пазашлюбнымі. Тым не менш, каб папярэдзіць незадавальненне і бражэнне сярод насельніцтва, асабліва на тых тэрыторыях, дзе ў выніку рэлігійнай стракатасці такія шлюбы былі даволі частымі, Міністэрства ўнутраных спраў прыняло рашэнне распрацаваць часовыя правілы для узаконьвання шлюбаў, што былі заключаны па абрадах інаслаўных і іншаверных веравызнанняў асобамі, якія лічыліся праваслаўнымі да выдання Найвысачэйшага ўказа 17 красавіка 1905 г., і нарадзіўшыхся ад гэтых шлюбаў дзяцей [6. С. 851]. Сутнасць гэтых правілаў у тым, каб прызнаваць сапраўднымі падобныя шлюбы з моманту заключэння, калі пры іх заключэнні захоўваліся ўсе патрабаванні грамадзянскага закону і кананічныя правілы тых веравызнанняў, да якіх у сапраўднасці належалі асобы, што ўступілі ў шлюб. Пры гэтым, калі шлюб быў запісаны духоўнымі асобамі ў прыходскія (метрычныя) кнігі, нягледзячы на тое, што яны не мелі права гэтага рабіць, факт шлюбу павінен лічыцца бяспрэчным. У выпадку ж, калі шлюб не быў запісаны ў прыходскую кнігу, пытанне павінна было разглядацца ў судовым парадку. Пасля разгляду правілаў Саветам міністраў яны паступілі да імператара, які 31 снежня 1907 г. ухваліў дадзены дакумент.

У лютым 1907 г. Савет міністраў, які ўзначальваў у той час П.Сталыпін, зноў разгледзеў законапраекты, што тычыліся свабоды сумлення. Адзін з іх адносіўся да сямейнага права, а дакладней — да змешаных шлюбаў. Галоўным палажэннем законапраекта аб сямейным праве было тое, што МУС прапанавала, каб у шлюбах праваслаўных з неправаслаўнымі веравызнанне дзяцей вызначалася пагадненнем бацькоў і толькі пры адсутнасці такога пагаднення дзеці прылічваліся да праваслаўнага веравызнання. Прапанова выклікала спрэчкі. Тыя, хто адстойваў існаваўшае да гэтага часу палажэнне, прыводзілі наступныя довады. Па-першае, яны баяліся, што прадастаўленне бацькам права выбару веравызнання іх дзіцяці будзе правакаваць асоб неправаслаўнага веравызнання схіляць іх у свой бок, чаго асабліва можна чакаць ад духавенства неправаслаўных веравызнанняў, "амаль усюды лепш адукаванага і больш спрытнага, чым праваслаўнае" [1. С. 455].

Па-другое, праводзілася думка аб тым, што калі надаць бацькам такія правы, то гэта будзе толькі сеяць у сям'і

рознагалоссі, падобныя тым, якія адбываюцца ў Заходняй Еўропе і асабліва ў Германіі. Гаварылася аб неабходнасці ўлічваць псіхалогію вернікаў, якія ўжо прывыклі да таго, што калі ў сям'і адзін з бацькоў праваслаўны, то і дзеці павінны выхоўвацца ў праваслаўнай веры. І нарэшце, веравызнанне другой асобы, лічылі апаненты законапраекта, "ніколі не павінна вызначацца самавольна іншымі асобамі, нават і бацькамі, а павінна вызначацца толькі воляй дзяржавы, гэта значыць законамі" [1. С. 455].

Гэты законапраект, як і многія іншыя "вероисповедные законы" сталыпінскага Кабінета міністраў, сустрэў супраціўленне з боку праваслаўных іерархаў. Пасля роспуска ІІ Думы ўсе яны перакачавалі ў ІІІ Думу, але пасля забойства П.Сталыпіна аб іх прыняцці ўжо не думалі, паміж вярхушкай праваслаўнай царквы і ўрадам устанавілася згода.

Пытанне аб змешаных шлюбах непакоіла і рымска-каталіцкую царкву. У 1907 г. Дэпартамент духоўных спраў дазволіў разаслаць усім рымска-каталіцкім епіскапам папскі дэкрэт пад назвай "Ne temere". Гэты акт не быў затрыманы дэпартаментам па прычыне, што з'яўляўся важным у кананічных адносінах дакументам. Разам з тым ён утрымліваў палажэнні, якія не супадалі з законапалажэннямі Расійскай імперыі, а іменна: прызнанне несапраўднымі шлюбаў каталікоў з асобамі праваслаўнымі або іншага веравызнання, дапушчэнне шлюбаў, не дазволеных грамадзянскімі законамі, і г.д. Дэпартамент духоўных спраў спадзяваўся, што існаванне дакладных заканадаўчых установак па ўсіх дадзеных пытаннях не будзе правакаваць каталіцкае духавенства на парушэнне законаў. Аднак гэтыя надзеі не спраўдзіліся. Каталіцкае духавенства час ад часу парушала закон, спасылаючыся пры гэтым на дэкрэт "Ne temere". Таму ў кастрычніку 1910 г. кіраўнікам рымска-каталіцкіх епархій было разаслана спецыяльнае "отношение" міністра ўнутраных спраў, у якім адзначалася, што ў выпадку парушэння рымска-каталіцкімі духоўнымі асобамі дзеючых законаў спасылкі на дэкрэт "Ne temere" не будуць прымацца да ўвагі [3. Ф. 604, воп. 1, спр. 5217, арк. 34].

Да ліку праблем, што вельмі непакоілі рымска-каталіцкае духавенства, адносілася і праблема касцёлабудавання. Мы ўжо ведаем з папярэдніх раздзелаў, што пасля паўстання 1863 г. гэтая справа прыйшла ў заняпад. Па даных польскіх даследчыкаў, за 1860 — 1905 гг. уладамі было ліквідавана 146 парафіяльных і 52 філіяльныя касцёлы, 240 капліц. Значная частка рымска-каталіцкіх культавых устаноў (205) была пе-

раўтворана ў праваслаўныя [7. С. 87]. Савет міністраў царскай Расіі прыводзіў такія лічбы: пачынаючы з 30-х гг. XIX ст. па распараджэнні ўрада закрыта 240 рымска-каталіцкіх цэркваў у заходніх губернях і больш за 30 — у Царстве Польскім. Большая частка скасаваных цэркваў паступіла разам з зямельнымі надзеламі ў распараджэнне праваслаўнага духоўнага ведамства, некаторыя з іх прыстасаваны пад казённыя ўстановы, прададзены або пустуюць [1. С. 375]. Згодна з цыркулярам генерал-губернатара М.Мураўёва будаўніцтва філіяльных касцёлаў у заходніх губернях, а таксама алтароў, капліц, іх рамонт і перабудова не дапускаліся без дазволу Галоўнага начальніка краю. У 1896 г. "Высочайшим повелением" гэты цыркуляр быў адменены, аднак засталіся іншыя абмежаванні ў даным кірунку. У выніку такой палітыкі на тэрыторыі пяці губерняў каталіцкія храмы практычна не ўзводзіліся. Так, у Віленскай рымска-каталіцкай епархіі пачынаючы з 60-х гг. і да моманту прыняцця ўказа аб верацярпімасці былі адноўлены філіяльны касцёл у Васількава (замест скасаванага ў 1867 г.), парафіяльныя касцёлы ў в.Свянцяны і ў с.Крыпна замест драўлянага пабудаваны каменны касцёл. Не было ўзведзена ніводнай касцёльнай пабудовы ў тых месцах, дзе іх раней не было [3. Ф. 694, воп. 1, спр. 2737, арк. 65].

17 красавіка 1905 г. каталікі атрымалі дазвол пры неабходнасці і наяўнасці сродкаў будаваць свае храмы ва ўсіх месцах Расійскай імперыі. Для гэтага ставіліся тры ўмовы: дазвол каталіцкага духоўнага начальства, наяўнасць неабходных для будаўніцтва сродкаў і выкананне тэхнічных патрабаванняў будаўнічага статута. Аднак мясцовымі грамадзянскімі ўладамі гэтыя правілы выконваліся толькі на працягу трох с паловай гадоў. 4 лютага 1909 г. было выдадзена распараджэнне генерал-губернатара К. Крышвіцкага, якое грунтавалася на цыркуляры МУС ад 28 лістапада 1908 г. і ўтрымлівала ўдакладненні і змены ў справе касцёлабудавання. Вярталіся абмежаванні, адмененыя не толькі ўказам ад 17 красавіка 1905 г., але і "Высочайшим повелением" 1896 г. "Што тычыцца рамонту прыходскіх і філіяльных рымска-каталіцкіх цэркваў, — сцвярджалася ў дакуменце 1896 г., — і пабудаваных новых замест абвятшаўшых або разбураных у выніку няшчаснага выпадку, то такія, паводле Найвысачэйшага ўказа 10 ліпеня 1896 г., маглі праводзіцца без удзелу грамадзянскай улады з дазволу духоўнага начальства". Зараз усё зноў было падпарадкавана "папярэдняму

дазволу грамадзянскіх улад". Такім чынам, ужо праз тры з паловай гады пункт 13 указа аб верацярпімасці стаў тлумачыцца зусім па-іншаму і заходнія губерні зноў вярнуліся да мураўеўскага цыркуляра [З. Ф. 694, воп. 1, спр. 2737, арк. 65].

Каталіцкія свяшчэннаслужыцелі не заўсёды выконвалі распараджэнне Крышвіцкага і час ад часу распачыналі збор ахвяраванняў на аднаўленне або будаўніцтва храма, не звяртаючыся за дазволам да грамадзянскіх улад. У такіх выпадках грамадзянскія ўлады, калі да іх даходзілі звесткі аб падобных дзеяннях каталіцкага духавенства, аб'яўлялі іх незаконнымі. Так здарылася, напрыклад, з дазволам, які дала Віленская рымска-каталіцкая кансісторыя на збор ахвяраванняў на будаўніцтва каменнага касцёла ў в.Хожава Вілейскага павета Віленскай губерні замест скасаванага ў 1867 г.

Такія адносіны да касцёлабудавання знаходзяць сваё адлюстраванне ў статыстычных даных, што тычацца адкрыцця новых парафій, збудавання (або аднаўлення) філіяльных касцёлаў. Так, у Віленскай рымска-каталіцкай епархіі за 1906 — 1914 гг. пачало дзейнічаць пяць новых парафій, тры філіі і адна парафія з філіяй (з іх сем — у Віленскай губерні, дзве — у Гродзенскай). Прычым толькі адна парафія ўтварылася пасля 1910 г., усе астатнія — у першыя пяць гадоў пасля выхаду ўказа. Усяго на гэты час у епархіі налічвалася 281 каталіцкая парафія (179 — у Віленскай, 102 — у Гродзенскай губерні) з 1 392 710 вернікамі (975 318 — у Віленскай, 417 392 — у Гродзенскай епархіі).

Адным з важнейшых пунктаў указа аб верацярпімасці быў пункт 14, які абвяшчаў: "Прызнаць, што ва ўсіх вучэбных установах у выпадку выкладання ў іх Закона Божага іншаслаўных хрысціянскіх веравызнанняў ён павінен выкладацца на прыроднай мове вучняў, прычым выкладаць павінны духоўныя асобы адпаведнага веравызнання і толькі пры іх адсутнасці свецкія настаўнікі такога ж веравызнання" [З. Ф. 694, воп. 1, спр. 2836, арк. 1560].

22 красавіка 1905 г. Віленскі рымска-каталіцкі епіскап Э.Роп звярнуўся да дэканаў сваёй епархіі і выкладчыкаў Закона Божага вучэбных устаноў, каб тыя "пры аднаўленні заняткаў пасля Вялікадня звярнуліся да вучняў на прыроднай мове іх і растлумачылі, што на аснове Найвысачэйша падараванай міласці яны маюць права адказваць на сваёй мове і вывучаць Закон Божы" [З. Ф. 694, воп. 1, спр. 2811, арк. 30].

Папячыцель Віленскай навучальнай акругі, не пагадзіўшыся з епіскапам Ропам, накіраваў яму ліст, у якім прасіў адмяніць сваё распараджэнне. Ён матываваў гэта тым, што ад Міністэрства народнай асветы яшчэ не паступала ніякіх распараджэнняў па даным пытанні і не вырашана для кожнага з вучняў-каталікоў, якую мову ягоная сям'я лічыць сваёй роднай: польскую, літоўскую, беларускую і г.д.

Такім чынам, паўстала пытанне: якую мову і на якой падставе лічыць для каталіцкіх вернікаў беларускіх губерняў роднай? Большасць рымска-каталіцкага духавенства, як заўсёды, калі не паступала канкрэтных распараджэнняў улад, вырашала гэтае пытанне па-свойму: роднай мовай для каталіцкіх вернікаў можа быць толькі польская. Менавіта так успрынялі яны і распараджэнне прэлата Дзенісевіча. 25 жніўня 1905 г. упраўляючы Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіяй звярнуўся ва ўсе навучальныя ўстановы Магілёўскай архіепархіі. Ён адзначыў, што пры выкананні пункта 14 Найвысачэйшага ўказа ад 17 красавіка 1905 г., які дазволіў вучням-каталікам ва ўсіх вучэбных установах вывучаць Закон Божы на іх роднай мове, неабходна кіравацца наступнымі ўказаннямі: мовай вучняў пры выкладанні Закона Божага павінна лічыцца мова, на якой яны чытаюць свае штодзённыя малітвы. Выкладчыку Закона Божага неабходна гэта высветліць шляхам апытання вучняў.

Парасткі польскасці, якія падаграваліся каталіцкім духавенствам, аказаліся жывучымі сярод каталіцкага насельніцтва Беларусі. Польская мова пачала настойліва адваёўваць сваё былое становішча ў навучальных установах. Каб мець магчымасць аказваць уплыў на гэты працэс, урад 22 лютага 1906 г. прыняў Часовыя правілы выкладання Закона Божага. Пункт 2 гэтых правілаў сцвярджаў: "Выкладанне Закона Божага іншаслаўных веравызнанняў робіцца на роднай мове вучняў, якая вызначаецца пісьмовай заявай бацькоў або апекуноў" [3. Ф. 694, воп. 1, спр. 2811, арк. 163]. Але і гэта не дапамагло. У навучальныя ўстановы пасыпаліся лісты ад каталікоў з просьбай выкладаць іх дзецям Закон Божы па-польску. Адно з такіх прашэнняў паступіла ад сялян Косаўскай воласці Слонімскага павета Гродзенскай губерні. У звароце да кіраўніцтва Віленскай рымска-каталіцкай епархіі яны прасілі, каб у Косаўскім народным вучылішчы выкладанне Закона Божага для вучняў-каталікоў вялося на польскай мове. Папячыцель Віленскай вучэбнай акругі на хадайніцтва ўпраўляючага Віленскай

рымска-каталіцкай епархіі адказаў наступным чынам: "Хадайніцтва сялян... не лічу магчымым задаволіць, бо па звестках, сабраных па гэтай справе, усе вучні дадзенага вучылішча належаць да беларусаў і на польскай мове не размаўляюць. З 24 асоб, што падпісалі прашэнне ад 8 лютага 1910 г., толькі 11 чалавек — бацькі або родныя вучняў Косаўскага вучылішча, астатнія 13 чалавек — асобы, не маючыя дачынення да іх і не зацікаўленыя ў гэтай справе, і, відаць, падпісалі прашэнне пад уплывам кагонебудзь" [3. Ф. 694, воп. 1, спр. 2811, арк. 158].

Падобных заявак у розныя інстанцыі паступала ад беларусаў-каталікоў, асабліва заходніх губерняў, даволі шмат. Аб чым яны сведчаць? Відаць, галоўным чынам аб тым, што каталіцкае духавенства ўсё яшчэ аказвала даволі моцны ўплыў на мясцовае насельніцтва, нягледзячы на ўсе намаганні царскага ўрада ў папярэднія дзесяцігоддзі аслабіць яго. Сведчыла гэта і аб тым, што нацыянальная самасвядомасць сялян-беларусаў была не на належным узроўні. Праўда, даную з'яву нельга лічыць такой простай і адназначнай. Як і раней (маюцца на ўвазе ў 60 — 90-я гг. XIX ст.), беларускі сялянін каталіцкага веравызнання аказваўся перад выбарам польскай або рускай мовы. Прызнанне сябе беларусам амаль аўтаматычна вяло да рашэння выкладаць Закон Божы на рускай мове, на што недвухсэнсава ўказвалі лісты чыноўнікаў Віленскай вучэбнай акругі, кіруючых органаў вучэбных устаноў. Вось адзін з іх — ліст, што быў накіраваны ўпраўляючаму Віленскай рымска-каталіцкай епархіяй ад папячыцельскага савета гродзенскага рамеснага вучылішча ў кастрычніку 1912 г. У ім гаварылася: "Як відаць з асабістых заяў бацькоў вучняў Гродзенскага Аляксандраўскага рамеснага вучылішча, ...нацыянальнасць вучняў-каталікоў, што выхоўваюцца ў вучылішчы, паказана беларускай, і толькі ў чатырох выпадках польскай або літоўскай. Таму і Закон Божы, згодна з законам ад 17 красавіка 1905 г., павінен выкладацца на рускай мове" [3. Ф. 694, воп. 1, спр. 2811, арк. 207].

Такім чынам, склалася сітуацыя, якая была асабліва характэрнай для заходніх беларускіх губерняў: каталіцкія ксяндзы ў большасці сваёй роднай мовай беларусаў адназначна лічылі польскую, рускія чыноўнікі, таксама адназначна, — рускую. Такая канфрантацыя прывяла да таго, што, па звестках Міністэрства народнай адукацыі, у 1912 г. у 46 вучылішчах Гродзенскай губерні Закон Божы вучням рымска-каталіцкага веравызнання не выкладаўся зусім.

27 кастрычніка 1912 г. Міністэрства народнай асветы выдала цыркуляр, які ўносіў змены ў часовыя правілы выкладання Закона Божага вучням іншаслаўных веравызнанняў. Змены гэтыя рабіліся ў кірунку надання большых правоў кіраўніцтву вучэбных устаноў з мэтай паменшыць уплыў прапольскі настроенага каталіцкага духавенства. Што ж канкрэтна гаварылася ў цыркуляры? Права вызначаць прыродную мову вучняў-каталікоў надавалася кіраўнікам навучальных устаноў "на падставе ўсіх фактычных дадзеных, што меліся па гэтым прадмеце". У выпадку, калі ўзнікалі якія-небудзь складанасці пры вызначэнні выкладання Закона Божага, іх вырашалі інспектар і дырэктар народнага вучылішча або папячыцель вучэбай акругі. У дадатку да цыркуляра адзначалася: "Калі асоба, якая выкладае Закон Божы іншаслаўнага веравызнання ў навучальнай установе, не валодае прыроднай мовай вучняў (напрыклад, літоўскай, латышскай і інш.), то выкладанне гэтага прадмета павінна весціся на дзяржаўнай мове" [3. Ф. 694, спр. 2811, арк. 226]. Як бачым, пры пераліку прыродных моў беларуская не называлася. Ці мелася яна на ўвазе пад словамі "іншыя", таксама цяжка сказаць. Ва ўсялякім разе зразумела адно — і Міністэрства народнай асветы сваім распараджэннем, і чыноўнікі вучэбнай акругі аддавалі перавагу рускай мове.

Пасля абнародавання ўказа аб верацярпімасці каталіцкае духавенства прыклала намаганні і да таго, каб вярнуць згубленае ў справе навучання і выхавання моладзі іншым шляхам. Да рымска-каталіцкіх епіскапаў пачалі паступаць лісты ад парафіяльных каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў з просьбай дазволіць ім адкрыць парафіяльныя школы. На ўсе хадайніцтва епіскапаў генерал-губернатар адказваў адмовай, спасылаючыся на тое, што ўказ ад 17 красавіка 1905 г. не ўтрымлівае распараджэнняў аб наданні настаяцелям касцёлаў права адкрываць для парафіян рымска-каталіцкага веравызнання пачатковыя школы. Такім чынам, працягвалі дзейнічаць тыя законапалажэнні аб адкрыцці прыватных школ, што дзейнічалі да гэтага. Нагадаем гэтыя палажэнні. Права адкрыцця прыватнага вучылішча надавалася прыродным рускім або прыняўшым рускае падданства, з дазволу вучэбнага начальства, якое павінна спачатку пераканацца ў благанадзейнасці асобы. Згодна з Найвысачэйшым указам ад 10 снежня 1892 г. усе вучылішчы, якія на той час яшчэ існавалі пры рымска-каталіцкіх касцёлах, былі перададзены ў ведамства Міністэрства народнай адукацыі на агульных падставах. 3 красавіка 1892 г. для дзевяці заходніх губерняў

былі прыняты часовыя правілы "О взысканиях за тайное обучение". Прыняцце рашэння Савета міністраў аб адмене гэтых правілаў (8 жніўня 1906 г.) практычна не змяніла сітуацыю ў дадзеным кірунку. Так, у 1909 г. у Дэпартамент агульных спраў МУС паступіў запрос ад мінскага губернатара, у якім гаварылася, што на яго імя прыйшло шмат хадайніцтваў ад настаяцеляў рымска-каталіцкіх касцёлаў і каталіцкіх вернікаў з просьбай дазволіць навучаць дзяцей каталікоў польскай грамаце для таго, каб яны маглі вывучаць дагматы веры. Адказ быў наступны: "Законамі аб навучальных установах, што тычацца ўсіх тыпаў выкладання, як школьнага, так і па-за школьнага, такога віду не прадугледжана і таму не павінна дазваляцца на практыцы" [5. Спр. 47756, арк. 1]. Далей адзначалася, што стварэнне такіх школ не адпавядае нацыянальнай палітыцы ўрада ў заходніх губернях. Існуе тлумачэнне МУС ад 19 мая 1907 г. аб тым, што адкрыццё там польскіх школ не дазваляецца.

Указам ад 17 красавіка 1905 г. стараверам і сектантам, "отпавшим от православия", забяспечвалася свабода веравызнання. Спецыяльны ўказ, што быў прыняты 17 кастрычніка 1906 г., вызначаў парадак утварэння абшчыны, правы іх членаў і кіраўнікоў. Сутнасць гэтых дакументаў заключалася ў наступным. Стараверам і сектантам, якія не належалі да сектаў "варварскіх або тых, вучэнне якіх звязана з дзеяннямі, забароненымі крымінальнымі законамі", прадастаўлялася магчымасць свабоднага веравызнання і ўтварэння рэлігійных абшчын. Для гэтага патрэбна было звярнуцца з калектыўнай заявай аб рэгістрацыі ў губернскае праўленне. Заява павінна была ўтрымліваць назву стараверскага толку або секты, мясцовасці, на якую будзе распаўсюджвацца яе дзейнасць, месцазнаходжанне малітоўнага дома. Абшчына павінна была кіравацца агульным сходам членаў секты, якім споўніўся 21 год. Агульны сход выбіраў савет. Правы і абавязкі агульных сходаў і саветаў залежалі ад таго, ці мела абшчына характар юрыдычнай асобы, гэта значыць правы мець і распараджацца нерухомай маёмасцю і капіталамі. У маленькіх абшчынах, якія не карысталіся такімі правамі, агульны сход акрамя выбараў духоўных асоб разглядаў рахункі, а савет назіраў за правіламі вядзення метрычных кніг. У тых абшчынах, якія мелі правы юрыдычнай асобы, поле дзейнасці і сходаў і саветаў было больш шырокім. У абавязкі схода ўваходзіла распараджэнне нерухомасцю, устанаўленне збораў з членаў абшчыны і г.д. Адпаведна больш шырокай была і дзейнасць саветаў.

Было вызначана і палажэнне духоўных асоб абшчыны. Згодна з указам ад 17 красавіка 1905 г. яны называліся настаяцелямі або настаўнікамі. Настаўнікі не маглі выбірацца з ліку непісьменных або асоб, якім не споўнілася 25 гадоў, якія прыцягваліся да судовай адказнасці і былі прызнаны віноўнымі, выключаны з таварыстваў і дваранскіх сходаў па прыгаворах тых саслоўяў, да якіх яны належалі. Факт выбрання духоўнай асобы даводзіўся да ведама губернскага праўлення, дзе яна ўносілася ў спецыяльныя рэестры. Гэтая асоба выключалася з мяшчанскага або сялянскага таварыства, калі яна належала да гэтага саслоўя, і вызвалялася ад ваеннай службы.

Што тычылася малітоўных дамоў стараveраў, то пункт 12 указа аб верацярпімасці адзначаў: “Распячатаць усе малітоўныя дамы, закрытыя як у адміністрацыйным парадку, не выключаючы выпадкаў, калі запячатанне праходзіла як праз Камітэт міністраў па Найвысачэйшаму рашэнню, так і па суду, акрамя тых малельняў, якія былі зачынены ў сувязі з невыкананнем будаўнічага статуту”. Адначасова ўсім губернатарам быў накіраваны сакрэтны цыркуляр, у якім адзначалася, што адкрыццё гэтых малітоўных дамоў павінна праводзіцца без урачыстасцяў, “внешних оказательств”, якія маглі б спакусіць праваслаўных [5. Спр. 46983, арк. 2].

Правы, якія даваліся старaверам у кірунку свабоды веравызнання, выклікалі незадавальненне праваслаўных іерархаў. Яны асцерагаліся, што значна большая самастойнасць стараверскіх абшчын у вядзенні сваіх спраў і распараджэнні сродкамі ў параўнанні з праваслаўнымі прыходамі будзе стымуляваць масавыя пераходы праваслаўных у старaверства. Праўда, да заходніх губерняў, дзе сацыяльная база для распаўсюджвання старaверства, якое мела, як правіла, велікарускі характар, была не вельмі значнай, гэтая перасцярога тычылася мала, што і пацвердзілася ў далейшым. Напрыклад, у Віцебскай губерні, дзе пражывала даволі шмат беспапоўцаў федасееўскага і паморскага толкаў, пераходаў з праваслаўя ў старaверства амаль што не назіралася. У адпаведнасці з указам ад 17 кастрычніка 1906 г. у губерні было зарэгістравана 69 стараверскіх абшчын з колькасцю членау у іх 66 024 чал. Колькасць зарэгістраваных настаяцеляў і настаўнікаў складала 33 чал., незарэгістраваных духоўных асоб — 47, малітоўных дамоў — 82. Старaверы ўтрымлівалі дзве школы і тры багадзельні [5. Спр. 48280, арк. 230, 231].

Пасля ўказа аб верацярпімасці стараверы пачалі ствараць брацтвы. Яны ставілі на мэце "... аб'яднанне стараверaў... у мэтах абароны рускіх нацыянальных інтарэсаў". Да ліку сваіх непасрэдных задач брацтвы адносілі: развіццё нацыянальнай самасвядомасці і пад'ём духоўнасці з дапамогай друку, народных чытанняў, стварэння бібліятэк і школ для старавераў. Сюды ўваходзілі таксама клопаты аб паляпшэнні іх эканамічнага становішча (стварэнне багадзельняў, танных сталовых, начлежак і г.д.) [5. Спр. 48421, арк. 14].

Што тычылася пратэстанцкай канфесіі, то пасля ўказа аб верацярпімасці асобых змен у яе становішчы не адбылося. Нават палажэнні, што адносіліся да сектантаў, мелі на ўвазе толькі сектантаў, адпаўшых ад праваслаўя. А пратэстанцкае сектанцтва і не ўпаміналася ў дакуменце. Гэта выклікала незадаволенасць з боку праваслаўных іерархаў, якія неаднаразова адзначалі, што, зыходзячы з такога становішча, можа здацца, што ўрад клапоціцца аб сектантах, адпаўшых ад праваслаўя, што абмяжоўвае правы пануючай царквы. У той жа час, не прымаючы ніякіх указанняў адносна пратэстанцкіх і каталіцкіх сектантаў, улады тым самым праяўляюць сваю заклапочанасць аб цэласнасці гэтых канфесій. Таму было прынята рашэнне звярнуцца да дадзенага пытання асобна.

Указ аб верацярпімасці не прынёс жаданага спакою ў рэлігійнае жыццё беларуска-літоўскіх губерняў. Пераходы насельніцтва з праваслаўя ў іншыя канфесіі, галоўным чынам у каталіцкую, абвастралі ўзаемаадносіны паміж праваслаўным і каталіцкім духавенствам, якое ў сваю чаргу сеяла гэтую нецярпімасць сярод вернікаў.

## 3.2. НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АСПЕКТЫ Ў ДЗЕЙНАСЦІ ХРЫСЦІЯНСКАГА ДУХАВЕНСТВА

У пачатку XX ст. рух за беларускае нацыянальнае адраджэнне, які выспяваў на працягу ўсяго XIX ст., набывае даволі масавы характар. Яго мэтай з'яўляецца самасцвярджэнне беларусаў як самастойнай нацыі ў межах этнічнага рассялення, прызнанне факта яе існавання іншымі народамі і дзяржавамі, а разам з тым і права беларусаў на "пачэсны пасад паміж народамі", нацыянальную дзяржаўнасць [10.С.15]. Для дасягнення пастаўленай мэты трэба было вырашыць шэраг вельмі складаных задач. Адна з іх — пераадольванне адмоў-

нага ўплыву на фарміраванне і развіццё беларускай нацыі канфесіянальнага расколу этнасу на праваслаўных і каталікоў. Раскол гэты шырока выкарыстоўваўся праваслаўным духавенствам у мэтах русіфікацыі, каталіцкім — паланізацыі беларусаў.

XIX ст. стала пераломным у жыцці гэтых дзвюх канфесій на Беларусі, што абумоўлена зменамі ў палітычным жыцці. У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. Каталіцтву, якое займала пануючае становішча ў Рэчы Паспалітай, прыйшлося ўступіць месца праваслаўю. Але гэта не азначала, што каталіцкае духавенства адышло ў бок. Яно працягвала праяўляць даволі высокую актыўнасць у барацьбе за ўплыў на беларускае насельніцтва. Гэтая дзейнасць, як правіла, разглядалася ў расійскай гістарыяграфіі толькі як паланізатарская. Такі погляд працягваў панаваць і ў савецкі час. Не будзем і мы адмаўляць відавочнае. Роля каталіцкага касцёла на Беларусі і сапраўды заключалася ў тым, каб падтрымаць польскі уплыў, "польскі дух" сярод беларускага насельніцтва. Ідэя аднаўлення былой славы і магутнасці Рэчы Паспалітай ніколі не згасала сярод каталіцкага духавенства. Час ад часу яна прыводзіла да актыўных дзеянняў. Да іх першых праяў можна аднесці адмаўленні, праўда адзінкавыя, ад прысягі на вернасць рускай царыцы пасля далучэння да Расіі. Да формаў барацьбы за аднаўленне Рэчы Паспалітай адносіліся і тайныя таварыствы. Адно з іх — Віленская асацыяцыя — дзейнічала ў Вільні з вясны 1796 г. да верасня — кастрычніка 1797 г. Сярод кіраўнікоў асацыяцыі знаходзіліся ксяндзы Зюлкоўскі і Ф.Цяцерскі. Аб намерах членаў таварыства сведчыць распрацаваны імі "Акт Віленскага паўстання", датаваны 27 студзеня 1797 г., які заклікаў да барацьбы за аднаўленне Рэчы Паспалітай. У ім, у прыватнасці, гаварылася: "Не было моманту, калі б мы, стогнучы пад чужым цяжарам няволі, не думалі аб вяртанні правоў свабоды і вольнасці, якія нададзены кожнаму чалавеку ад яго нараджэння" [11. С. 243].

Віленская асацыяцыя мела свае адгалінаванні ў Брэсце, Кобрыне, Гародні, Мінску і іншых месцах. У стварэнні Мінскай асацыяцыі, сведчаць даследчыкі, актыўны ўдзел прымаў ксёндз Ф.Цяцерскі. Праіснавала Віленская асацыяцыя нядоўга і да актыўных дзеянняў не перайшла. На допыце адзін з актыўных членаў асацыяцыі С.Цяцерскі заявіў: "Наша мэта — аднаўленне Рэчы Паспалітай, галоў-

най асновай якой павінна быць Канстытуцыя 3 мая" [12. С. 89]. Арыштаваныя члены асацыяцыі прадсталі перад судом і былі абвінавачаны ў "арганізацыі асацыяцый, змове на паўстанне, парушэнні прысягі". Заступіўся за іх толькі сенатар Г.Дзяржавін. У сувязі з гэтым ён пісаў у сваіх "Запісках": "Чаму так строга абвінавачваюцца няшчасныя, што яны мелі паміж сабой размовы аб выратаванні ад нашага ўладання сваёй айчыны, ці можна было б іх абвінавачваць у здрадзе па тых жа самых законах, па якіх павінны былі абвінавачвацца ў падобных выпадках прыродныя падданыя... няхай яны думаюць і гавораць аб выратаванні сваёй айчыны, як жадаюць, абы толькі да саміх дзеянняў не пераходзілі" [13.С. 424, 425]. Члены арганізацыі былі асуджаны, пазбаўлены шляхецкага гонару, маёнткаў, духоўныя асобы — сану і адпраўлены ў Сібір на катаргу.

Ідэя аднаўлення Рэчы Паспалітай зноў яскрава зайграла, калі ў 1812 г. Напалеон распачаў вайну супраць Расіі. Французскі імператар і яго военачальнікі падаграваЛі ідэю палякаў і прапольскі настроенай часткі насельніцтва беларуска-літоўскіх губерняў, каб выкарыстаць сітуацыю ў сваіх мэтах. Уступіўшы 26 чэрвеня ў Мінск, маршал Даву ласкава прыняў прадстаўнікоў горада і заверыў іх ад імя Напалеона ў тым, што "яго непераможная армія прыйшла для вяртання палякам айчыны і яе незлічоныя атрады або пакрыюць гэтую зямлю сваімі трупамі, або вернуць палякам айчыну ва ўсім яе аб'ёме" [14. С. 7]. 28 чэрвеня адбылося ўрачыстае набажэнства ў касцёле, на якім прысутнічаў маршал Даву і ўвесь генералітэт. Урачыстыя сустрэчы французскіх войскаў арганізоўваліся каталіцкім духавенствам і прадстаўнікамі павятовых гарадоў Мінскай губерні. Але надзеі на аднаўленне Рэчы Паспалітай з дапамогай французскай зброі не апраўдаліся.

Царскі ўрад памілаваў тых, хто сустракаў французаў "хлебам-соллю", пакінуўшы іх на сваіх пасадах. Але і памяркоўнасць царскіх улад не змагла згасіць ідэю аб адраджэнні дзяржаўнасці, якая вылілася амаль праз два дзесяцігоддзі ў паўстанне супраць існуючага ладу. І зноў у першых радах паўстанцаў ішло каталіцкае духавенства. Яго ўдзел у паўстанні праяўляўся па-рознаму: ад учынення ўрачыстых набажэнстваў і заклікаў далучацца да паўстанцаў да непасрэдных актыўных дзеянняў у паўстанцкіх атрадах. Так, настаяцель Радашковіцкага касцёла ксёндз Паразінскі заклікаў сваіх прыхаджан дапамагаць паўстанцам фуражом і харчаваннем. Вікарны таго

ж касцёла ксёндз Вайткевіч удзельнічаў у нападзенні паўстанцкага атрада на пошту, раздаваў зброю. У цэлым па Мінскай губерні ў паўстанні 1831 г. удзельнічалі 38 прадстаўнікоў каталіцкага духавенства [15. С. 160, 161].

Пасля падаўлення паўстання царскі ўрад распачаў рэпрэсіўныя меры. Асабліва адчувальнымі яны былі ў адносінах да каталіцкіх кляштараў, бо падчас паўстання яны станавіліся кіруючымі цэнтрамі. У выніку ў 1832 г. на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў былі скасаваны 194 каталіцкія кляштары [8. Ф. 821, воп. 150, спр. 89, арк. 3]. Прымаліся і іншыя меры, накіраваныя на абмежаванне ўплыву рымска-каталіцкага духавенства на мясцовае насельніцтва. Напрыклад, у сувязі з тым, што падчас паўстання ксяндзы выкарыстоўвалі казанні для агітацыі за ўдзел у паўстанні, выказваючыся супраць расійскіх улад, было ўведзена цэнзарства казанняў. Прамаўляць іх можна было толькі па спецыяльных кіраўніцтвах вядомых польскіх прапаведнікаў Белабрэжскага і Філіпецкага. Свае ж асабістыя тэксты ксяндзы павінны былі прадстаўляць цэнзарам. Цэнзары назначаліся штогод па два чалавекі на кожны дэканат, іх прозвішчы друкаваліся ў царкоўных каляндарах (рубрыцэлях). Праўда, трэба адзначыць, што к канцу 50 — пачатку 60-х гг. большасць абмежаванняў ужо перастала выконвацца. І таму няма нічога дзіўнага ў тым, што і ў наступным вызваленчым паўстанні, якое адбылося ў 1863 г., каталіцкае духавенства зноў прыняло самы актыўны ўдзел.

Але дзейнасць каталіцкіх святчэннаслужыцеляў была не такой аднароднай, як гэта падавалася ў расійскай гістарыяграфіі і савецкай атэістычнай літаратуры. Мы ўжо ведаем з папярэдніх глаў, што сярод іх былі тыя, хто дапамагаў уладам праводзіць русіфікацыю касцёла, і тыя, беларусы па паходжанні, хто не жадаў адрачыся ад сваёй роднай, нібыта не існуючай мовы. Праўда, іх было вельмі мала.

Асэнсаваны рух беларускага нацыянальнага адраджэння сярод каталіцкага духавенства датуецца пачаткам XX ст. Але ён зараджаўся і выспяваў у складаных абставінах XIX ст. Адзін з актыўных дзеячаў беларускага нацыянальнага руху ксёндз Адам Станкевіч бачыць яго вытокі яшчэ ў першай палове XIX ст. А першым яго дзеячам, праўда "падсвядомым", лічыць ксяндза Магнушэўскага. "У ім былі астаткі таго хрысціянства, якое яшчэ не было спольшчаным і якое яшчэ дазваляла яму бачыць праўду ў беларускім

народзе" [16. С. 4]. Гэта, на думку Станкевіча, галоўнае, што прывяло ксяндза Магнушэўскага на ніву беларускага адраджэння. Клапоцячыся аб асвеце беларускіх дзяцей, Магнушэўскі адкрыў для іх школу. Менавіта тут і вучыўся беларускі сялянскі паэт Паўлюк Багрым.

Да ліку першых дзеячаў беларускага адраджэння А.Станкевіч адносіць і уніяцкага святара М.Баброўскага. Гэта вельмі цікавы факт, які сведчыць аб імкненні Станкевіча разглядаць праблему не з пункту гледжання палітычных, вузкагрупавых пазіцый, а бачыць яе вачыма беларуса. Здавалася б, што староўчага мог знайсці каталіцкі ксёндз у дзейнасці уніяцкага святара, які "шмат папрацаваў над справай уз'яднання уніятаў". Аказваецца, мог. Як сцвярджае Станкевіч, прафесар Віленскага універсітэта Баброўскі пад канец жыцця (памёр у 1848 г.) атрымаў прыход у Шэрашаве і гаварыў казанні заўсёды па-беларуску.

На пачатку XX ст. беларускі нацыянальны рух прымае свядомы характар. І сам гэты рух, і тое, што ў ім прынялі ўдзел даволі шырокія колы грамадства, сведчыць аб тым, што ні спаланізаваць, ні русіфікаваць цалкам беларускі народ не ўдалося. Родная мова працягвала жыць у сялянскім асяроддзі, нягледзячы на ўсе намаганні выцiснуць яе адтуль. Жыла яна ў нейкай ступені і ў касцёле: "Праз увесь XIX пераломны для Беларусі век мова беларуская зберагла сабе хоць дужа скромнае месца, каб у наступным веку XX здабыць сабе ў тым жа касцёле месца больш пачэснае, а прынамсі, каб ужо свядома і адкрыта выступіць на арэну змагання за сваё жыццё, за свае слушныя, святыя справы ў святыні" [16. С. 4]. І калі ў XIX ст. беларуская мова (асабліва ў касцёлах заходніх беларускіх губерняў) чулася зусім зрэдку, дык на пачатку XX ст. гэта становіцца ўжо больш звыклай справай. У адным з нумароў "Гомана" за 1918 г. сустракаем успаміны, датаваныя 1908 — 1909 гг. аб тым, як вяліся казанні па-беларуску ў Гродзенскім павеце. "Ад першых слоў казання, — успамінае нехта Р., — мы ўсе чыста здзівіліся: ксёндз прамаўляў народу па-беларуску. Гэта было для нас такой навіной, што толькі другі сказ прамоўцы пераканаў нас, што чуем добра". Гэта быў ксёндз Я.Бурба.

Цікава, што цэнтрам, дзе сярод каталіцкага духавенства зараджаўся і выспяваў рух за беларускае адраджэнне, стаў Пецярбург. Гэта тлумачыцца тым, што менавіта тут, у Пецярбургскай духоўнай акадэміі і Духоўнай каталіцкай семінарыі, рыхтаваліся галоўным чынам кадры для касцёлаў беларускіх губерняў. Імёны верных сыноў касцёла і беларускага народа

малавядомыя, і гэта невыпадкова. Іх лёс не цікавіў ні польскіх, ні расійскіх даследчыкаў. Што ж тычылася беларускіх гісторыкаў савецкага часу, то іх адносіны да гісторыі царквы да апошняга часу былі адмоўнымі, дакладней кажучы, яна не існавала ў іх уяўленні наогул.

Вось толькі некалькі імёнаў ксяндзоў, якія шмат працавалі на ніве беларускага адраджэння.

Біскуп С.Дзенісевіч нарадзіўся на Магілёўшчыне, скончыў Мінскую духоўную семінарыю, потым духоўную акадэмію у Пецярбургу. Як ксёндз працаваў у многіх месцах Беларусі. У 1905 — 1908 гг. — прэлат і адміністратар Магілёўскай архідыяцэзіі. У 1906 г. Дзянісевіч выдаў на беларускай мове "Elementarz dla dobrych dzietok katolikou" са сваімі каментарыямі. Да піянераў як рэлігійнага, так і наогул народнага беларускага адраджэння адносіцца ксёндз Ф.Будзька. Яшчэ ў час вучобы ў Пецярбургскай духоўнай семінарыі ён спрабаваў тлумачыць польскія рэлігійныя кніжкі па-беларуску. Менавіта за сваю адданасць роднай мове нейкі час не мог атрымаць сан ксяндза, нягледзячы на тое, што скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію. І толькі дзякуючы дапамозе з боку Дзенісевіча гэтае пытанне вырашылася станоўча. У 1917 г. ксёндз Будзька купіў невялікі фальварак каля Полацка, дзе пабудаваў капліцу. Ён марыў стварыць тут самастойную беларускую парафію.

Вялікія заслугі у справе беларускага адраджэння мае ксёндз А.Астрамовіч. Яго вершы пад псеўданімам Андрэй Зязюля можна было сустрэць у выданнях "Наша ніва", "Беларус", "Вольная Беларусь", "Крыніца".

Паступова дзейнасць асобных ксяндзоў беларусаў прывяла іх да згуртавання. У 1917 г. у Мінску адбыўся з'езд каталіцкага беларускага духавенства. На ім прысутнічала 30 ксяндзоў. На з'ездзе абмяркоўваліся наступныя пытанні: беларускі рух і яго адносіны да жыцця касцёльнага і да працы каталіцкай (дакл. ксёндз А.Станкевіч), палітычна-народная дзейнасць каталіцкага духавенства ў Беларусі (дакл. ксёндз В.Гадлеўскі), аб асветніцкай дзейнасці (дакл. ксёндз Ф.Абрантовіч) і інш.

Імкненне беларусаў-каталікоў аб'яднаць свае намаганні ў складаны для Беларусі час прывяло да стварэння арганізацыі "Хрысціянская дэмакратычная злучанасць" (ХДЗ). З моманту свайго стварэння і да канца 1918 г. яна дзейнічала ў Пецярбургу, пазней у Мінску і іншых месцах. Выдаваўся штотыднёвік "Крыніца". На яго старонках шмат увагі ўдзялялася гісторыі беларускага народа, яго традыцыям, мове. Амаль праз кожны



5 Зак. 899

нумар праходзіла думка аб тым, што беларуская мова павінна заняць належнае месца ў касцёле. "Усюды, па ўсім свеце, дзе толькі тлумачаць людзям Хрыстову навуку, — пісаў у 1919 г. ксёндз М.Краскоўскі, — робяць гэта на той мове, на якой гэтыя людзі гавораць і якую разумеюць... Адна толькі Беларусь выпала з-пад сусветнага права і сыны яе мусяць у касцёле замест Бога хваліць — прыглядацца і дзівіцца, як ксёндз па-польску трашчыць навуку..." [17].

Нацыянальны аспект дзейнасці праваслаўнага духавенства на першы погляд здаецца на дзіва простым: паколькі праваслаўная царква становіцца часткай дзяржаўнага апарата, то яна павінна праводзіць дзяржаўную палітыку, гэта значыць палітыку русіфікацыі. Але не будзем такімі катэгарычнымі. І адзначаючы, якую вялікую ролю адыгрывала праваслаўная царква і яе святары ў гэтай далёка не пачэснай справе, больш уважліва і пільна прыгледземся да іх дзеянняў. Мы не станем гаварыць аб вялікай ролі праваслаўных святароў як асветнікаў у другой палове XIX — пачатку XX ст., бо цяжка правесці тую мяжу, дзе станоўчая роля ў павышэнні пісьменнасці селяніна-беларуса пераходзіла ў адмоўную — выхаванне беларускай моладзі ў расійскім духу, што адмоўна адбівалася на яе нацыянальнай самасвядомасці. Але абысці краязнаўчую дзейнасць праваслаўнага духавенства і наогул выхаванцаў праваслаўнай царквы нельга.

Асаблівае месца сярод краязнаўцаў Віцебшчыны займае выхаванец Пецярбургскай праваслаўнай духоўнай акадэміі Д.Даўгяла (1868 — 1942). З'яўляючыся членам Віцебскага епархіяльнага царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча, ён шмат зрабіў у справе збірання і вывучэння дакументаў па гісторыі царквы, напісаў шэраг цікавых прац [18].

Шмат цікавых звестак па гісторыі праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла Гродзеншчыны ўтрымліваюць працы Я.Арлоўскага, сына вясковага святара. Пасля заканчэння Літоўскай духоўнай семінарыі ён стаў святаром, а атрымаўшы вышэйшую адукацыю ў Пецярбургскім гісторыка-філалагічным інстытуце, выкладаў грэчаскую мову і гісторыю ў Гродзенскай гімназіі. Але ён не пераставаў цікавіцца рэлігійным жыццём, з'яўляўся членам Гродзенскага Сафійскага праваслаўнага брацтва, пісаў працы па гісторыі Гродзеншчыны, у тым ліку і па канфесіянальнай гісторыі краю [19.].

Сярод імён святароў, што прысвячалі шмат часу краязнаўчай дзейнасці, можна згадаць імёны магілёўскага свяш-

чэннаслужыцеля Ф.Жудро [20], протаіерэя Гродзенскай епархіі І. Карчынскага [21], брэсцкага святара Л.Паеўскага [22]. Асабліва шмат прац пакінуў П. Гаручка [23].

Творы выхаванцаў праваслаўнай царквы, ідэі, закладзеныя ў іх, аказвалі ўплыў на грамадскасць Беларусі, выхоўваючы галоўным чынам у духу праваслаўя і пакорлівасці існуючаму ладу. Але разам з тым нельга не заўважаць і другі бок гэтага ўплыву — вялізны краязнаўчы матэрыял, што ўтрымліваўся ў гэтых сачыненнях. Нягледзячы на тэндэнцыйнасць падачы, ён не мог не садзейнічаць вывучэнню гісторыі і культуры краю, паказваў яго самабытнасць, традыцыі, звычаі. Гэтыя сачыненні прадстаўляюць цікавасць і сёння, бо шмат матэрыялаў, гістарычных звестак, пададзеных у гэтых працах, зараз або згублены назаўсёды, або знаходзяцца ў архівах па-за межамі Беларусі і амаль што недаступныя для сучасных беларускіх даследчыкаў.

Пазней, ужо напярэдадні і ў час рэвалюцыйных падзей 1917 г., праваслаўнае духавенства, дакладней нейкая яго частка, далучылася да беларускага нацыянальнага руху з цэнтрам у Маскве. Тут згуртаваліся высланыя ў свой час праваслаўныя святары з Гродзеншчыны і Віленшчыны, дзейнасць якіх не ўпісвалася ў палітыку русіфікацыі. Праведзены летам 1917 г. з'езд праваслаўных святароў беларусаў прыняў рэзалюцыі ў нацыянальным духу. Сярод удзельнікаў з'езду — протаіерэі Кульчыцкі і Карчынскі, святары Рэпнін, Усакоўскі і інш. [24. С. 7]. Далучылася праваслаўнае духавенства і да "Хрысціянскай дэмакратычнай злучанасці", якая прыняла агульнахрысціянскі характар.

Евангеліцка-рэфармацкая царква на Беларусі падтрымлівала ў большасці сваёй польскі нацыянальны рух. Богаслужэнне ў рэфармацкіх цэрквах, што размяшчаліся на тэрыторыі, заселенай галоўным чынам беларусамі, вялося на польскай мове. Так, у Віленскім прыходзе ў богаслужэнні выкарыстоўвалася нямецкая і польская, у Ізабелінскім — галоўным чынам польская і толькі часткова нямецкая мова. У той час у Ковенскай губерні богаслужэбнымі мовамі былі мовы мясцовага насельніцтва — літоўская і латышская.

На польскай мове вялося і навучанне дзяцей у школах, што да канца XIX ст. існавалі пры рэфармацкіх цэрквах, а таксама ў Слуцкай евангеліцка-рэфармацкай гімназіі. Гэтая гімназія была заснавана яшчэ ў 1617 г. князем Янушам Радзівілам. На працягу 250 гадоў гімназія была польскай, але пасля паўстання 1863 г. у ёй адбыліся кардынальныя

перамены. Выкліканы яны былі тым, што ў паўстанні прынялі ўдзел амаль усе навучэнцы старэйшых класаў гімназіі. За 1863 — 1864 гг. з яе было выключана 280 вучняў, што складала 62 % іх агульнай колькасці. Не абмінулі рэпрэсіі і выкладчыкаў. Частка з іх за падтрымку паўстанцаў была саслана ў Сібір, а гімназія перададзена ў ведамства Міністэрства народнай адукацыі. Пачалася русіфікацыя навучальнага працэсу.

Пасля ўказа аб верацярпімасці Віленскі евангеліцка-рэфармацкі Сінод узбудзіў хадайніцтва аб дазволе адчыніць пад сваім кантролем пры рэфармацкіх цэрквах царкоўныя вучылішчы з выкладаннем у іх на мове богаслужэння гэтых цэркваў. Для беларускіх губерняў гэта азначала на мове польскай. Пры гэтым рабілася спасылка на сам указ аб верацярпімасці, а таксама на думку, што знайшла сваё адлюстраванне ў "Журнале Комитета Министров" ад 18 чэрвеня 1905 г., аб тым, што нельга рабіць са школы "средство искусственного проведения обрусения начал". Аднак віленскі генерал-губернатар, да якога звярнуўся міністр унутраных спраў, меў на гэта свой погляд. У адказе міністру ён напісаў: "Открытие при условиях полного введения богослужебного языка в обиходе канторов реформатских школ с преподаванием на польском языке в Виленской и Гродненской губерниях, преимущественно заселенных белорусами, весьма могло бы превратиться в общую польскую школу, в которой обучались бы дети низших классов белорусского и литовского населения". Далей, пагаджаючыся з думкай Камітэта міністраў, што нельга выкарыстоўваць школу для русіфікацыі, ён піша: "Я находил бы, однако, необходимость в отношении Северо-Западного края не упускать из виду того важного обстоятельства, что население здесь исключительно русское и литовское, что поляки составляют в крае весьма малую по численности группу, сильную лишь своим положением экономическим и прошлым" [8. Ф. 821, воп. 5, спр. 418, арк. 113, 114].

Што тычыцца Слуцкай гімназіі, дык яна працягвала знаходзіцца ў ведамстве Міністэрства народнай адукацыі. Віленскі евангеліцка-рэфармацкі Сінод, як і раней, меў у ёй сваіх алюмнаў (стыпендыятаў), колькасць якіх была невялікай. Штогод Сінод пасылаў у гімназію 8 — 10 чал. На пачатку XX ст. амаль палову гімназістаў складалі палякі, астатнія былі беларусы. Зрэдку сустракаліся рускія, але гэта былі адзінкавыя выпадкі. Як і раней, гімназісты актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім руху. У канцы XIX ст.

яны стваралі нелегальныя гурткі, выступалі супраць русіфікацыі навучальнага працэсу, а ў пачатку XX ст. прынялі актыўны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905 — 1907 гг. У час першай сусветнай вайны гімназія была эвакуіравана ў Пензу, а ў 1916 г. вярнулася ў Слуцк і працягвала сваю дзейнасць [9. Спр. 217, арк. 10, 11].

Такім чынам, у XIX — пачатку XX ст. у барацьбе за ідэйны ўплыў на беларусаў удзельнічалі галоўным чынам дзве рэлігійныя сілы, кожная з якіх мела свае мэты. Каталіцкія святчэннаслужыцелі, што за невялікім выключэннем былі польскага паходжання, працягвалі выношваць свае палітычныя ідэі — адрадзіць былую Рэч Паспалітую, у якой каталіцтва было пануючым. Святы крыж і апостальскі амбон яны выкарыстоўвалі як для распаўсюджвання каталіцызму на беларускіх землях, так і для падтрымкі паланізацыі. Але рабіць гэта ім станавілася ўсё цяжэй, бо пануючай рэлігіяй у Расійскай імперыі, у тым ліку і на беларускіх землях, было праваслаўе, а рымска-каталіцкая канфесія стала толькі цярпімай. У сваю чаргу руская праваслаўная царква была галоўнай зброяй Расійскай імперыі ў ажыццяўленні на беларускіх землях русіфікатарскіх мэт. Разам з тым, нягледзячы на неспрыяльныя палітычныя ўмовы для развіцця беларускай нацыі, сярод духавенства (спачатку каталіцкага, а потым і праваслаўнага) пачынае зараджацца беларуская нацыянальная ідэя, якая паступова атрымлівае даволі моцнае развіццё.

## ЛІТАРАТУРА


1. Особые журналы Совета Министров царской России. 1907. М., 1984. Ч. 2.

2. *Kolbuk W.* Koscioly wshodnie na ziemiach dawnej Rzeczypospolitej 1772 — 1914. Lublin, 1992.

3. Матэрыялы гістарычнага архіва Літвы.

4. Русское православие: вехи истории. М., 1989.

5. Матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску.

6. Особые журналы Совета Министров царской России. 1906. М., 1982. Ч. 5.

7. Odrodzienie kosciota katolickiego w bylym ZSRR. Lublin, 1993.

8. Матэрыялы Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу.

9. Матэрыялы аддзела рукапісаў бібліятэкі АН Літвы.

10. *Біч М.* Беларускае адраджэнне ў XIX — пачатку XX ст. Мн., 1993.

11. *Пуле де М.* Станислав-Август Понятовский в Гродно и Литве в 1794 — 1797 годах. СПб., 1881.

12. *Таляронак С.В.* Тайныя таварыствы ў Літве і на Беларусі ў канцы XVIII ст.: Віленская асацыяцыя. 1796 — 1797 гг. //Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер.грамад. навук. 1992. № 5 — 6.

13. Записки Гавриила Романовича Державина. 1743 — 1812. М., 1860.

14. *Краснянский В.Г.* Минский департамент Великого княжества Литовского (эпизод из истории войны 1812 г.). СПб., 1904.

15. *Dangel S.* Rok 1831 w Minszczyznie. Warszawa, 1925.

16. *Stankievic Ad.* Bielaruski chriscjanski ruch (Histrarycny narys). Vilna, 1939.

17. Крыніца. 1919. № 4.

18. *Довгялло Д.И.* Полоцкая епархия к 1903 году. Витебск, 1903; *Ён жа.* Могилевская старина. Черейский монастырь. Историко-археологический очерк. Могилев, 1900; *Довгялло Д.И., Никифоровский Н.Я.* Описание предметов древности, поступивших в Витебское епархиальное церковно-археологическое древнехранилище на ноябрь 1897 года. Витебск, 1897. Вып. 1.

19. *Орловский Е.Ф.* Судьбы православия в связи с историей латинства и унии в Гродненской губернии в XIX столетии (1794 — 1990). Гродно, 1903; *Ён жа.* Св.Сергий Радонежский и его время: Ист. очерк. Гродно, 1892.

20. *Жудро Ф.А.* Архиерейский дом в Могилеве, 1892; *Ён жа.* Богоявленский братский монастырь в г.Могилеве. Ист.очерк. Могилев, 1899; *Ён жа.* К истории единоверия в Могилевской епархии. Могилев, 1906; *Ён жа.* История Могилевского Богоявленского братства. Могилев, 1890.

21. *Корчинский И.В.* Краткий исторический очерк православия в пределах нынешней Гродненской губернии в житие св. преподобного мученика Афанасия (Филипповича). Гродно, 1903; *Ён жа.* Очерк истории церковно-школьного дела в Гродненской губернии XIX столетия. Гродно, 1903.

22. *Паевский Д.С.* Историческая судьба и значение западно-русских братств. Гродно, 1897; *Ён жа.* Лжемученик Иосафат Кунцевич (Униатский Полоцкий архиепископ). Гродно, 1895.

23. *Горючко П.С.* К истории Могилевского Иосифского собора (Новые арх. материалы). Могилев, 1902; *Ён жа.* Материалы для биографии архиепископа Георгия Конисского, завещание владыки, кончина и по-

гребение его, оставшееся по нем наследство. Могилев, 1902; *Ён жа*. Материалы для истории раскола старообрядчества в Могилевской губернии конца XVIII — начала XIX столетия. Могилев, 1902.

24. Усходняя Беларусь: Стат. гіст. матэрыялы. Мн., 1918.

# ГЛАВА 4

# НЕХРЫСЦІЯНСКІЯ КАНФЕСІІ НА БЕЛАРУСІ (1772 — 1917)

## 4.1. ІУДАІЗМ

З далучэннем Беларусі і Літвы да Расійскай імперыі іудаізм стаў новай канфесіяй на яе тэрыторыі. Адносіны да яе былі цесна звязаны з адносінамі да яўрэйскага народа, асноўная частка якога пражывала ў гарадах і мястэчках. У канцы XVIII ст. на тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага пражывала каля 385 тыс. яўрэяў [1. С. 297].Магчыма, гэтая лічба некалькі завышана, бо згодна з іншымі крыніцамі ў 1818 г. іх было каля 280 тыс., у 1851 г. — каля 230 тыс. [2. С. 410; 3. С. 163]. Разбежкі пры падліках насельніцтва звязаны з недасканалай статыстыкай і з тым, што з мэтай ухілення ад падаткаў яўрэйскія кагалы ўтойвалі колькасць насельніцтва, нягледзячы на тое, што з пачатку XIX ст. рабіны пачалі весці метрычныя кнігі.

Іудзеі складалі даволі значную ў колькасных адносінах групу. На пачатку 60-х гг. XIX ст. у цэлым па пяці губернях яны займалі трэцяе месца ў канфесіянальнай структуры насельніцтва, а ў Магілёўскай — другое. К канцу 80-х гг. да Магілёўскай губерні далучылася Мінская. Калі на пачатку 60-х гг. у пяці губернях пражывала 463 217 іудзеяў, то згодна з перапісам 1897 г. — 1 209 815. Па губернях гэтая лічба размяркоўвалася наступным чынам: у Віленскай губерні — 204 686 чал., што складала 12,86 % ад агульнай колькасці насельніцтва; у Віцебскай — 176 629 (11,79 %); у Гродзенскай — 280 489 (17,49 %); у Мінскай — 345 015 (16,1 %); у Магілёўскай — 203 946 чал. (12,1 %) [4; 5. С. 3, 4, 9, 17, 18].

У другой палове XVIII ст. рэлігійнае жыццё яўрэйскага грамадства не было застылым і аднародным. Побач з артадаксаль-

ным іудаізмам сярод абшчын распаўсюджваўся хасідызм (ад хасід — набожны, вучэнне набожнасці). Гэтае вучэнне асабліва падтрымлівала бяднейшая частка яўрэйскіх абшчын. У хасідаў цадзік (прапаведнік) станавіўся духоўным кіраўніком абшчыны. Ён даваў веруючым практычныя саветы, цікавіўся ўсімі дробязямі іх жыцця. Людзі прыходзілі да яго па суботах і святах. У час сумесных трапез цадзік выкладаў сваё вучэнне. Адным з прадстаўнікоў хасідызму на Беларусі быў рабін Шнеўр-Залман бен Барух (Залман Баруховіч, ці Залман Шнеерсон, 1747 — 1812). Ён надаў хасідызму больш рацыяналістычны характар, а хасідскаму вучэнню — элементы рабінізму [6. С. 41 — 47].

На чале артадаксальнага іудаізму стаяў знакаміты вучоны-талмудыст І. Віленскі (1720 — 1797), вядомы ў народзе пад імем Гаон, што ў перакладзе азначае "геній". Ён карыстаўся выключным аўтарытэтам на Беларусі і ў Літве. Гаон Ілія вучыў, што іудзеям патрэбна грунтоўна вывучаць Біблію, у якой знаходзяцца іх карані. Неабходна адмовіцца ад традыцыйнай сістэмы школьнай адукацыі і ўвесці вывучэнне Бібліі, талмудысцкай пісьменнасці і яўрэйскай мовы, а таксама вывучаць медыцыну, астраномію і матэматыку, бо без іх немагчыма зразумець некаторыя пытанні ў Бібліі і Талмудзе. Уведзены ім метад аналізу тэкстаў пры вывучэнні Талмуда быў распаўсюджаны ў іешывах Літвы і Беларусі. Пасля смерці Гаона яго вучань Хаім Валожынскі заснаваў у Валожыне "вялікую іешыву", дзе практыкаваўся новы метад.

Прыхільнікаў артадаксальнага іудаізму непакоіла распаўсюджванне хасідызму, у якім яны бачылі небяспечны для іудаізму раскол на секты. "Хасидизм, — пісаў Х.Валожынскі, — основывает все на религиозном чувстве, но чувство непостоянно и при перемене настроения человека может совершить деяние, противное еврейскому закону; раввинизм же основывает религию на твердой базе закона и обряда, который не подлежит контролю чувства или разума, а должен исполняться слепо, как военная дисциплина" [6. С. 41 — 47].

На баку артадоксаў стаялі багатыя купцы, якія аказвалі ім матэрыяльную падтрымку. Так, у Шклове жыў багаты мецэнат І. Цэйтлін. Ён нажыў вялікі капітал на пастаўках для арміі фельдмаршала Р. Пацёмкіна ў час турэцкай кампаніі. Купіўшы сабе маёнтак каля Шклова, І.Цэйтлін стварыў прыют для вучоных-талмудыстаў. Многія з іх былі даволі адукаванымі людзьмі. Так, шклоўскі талмудыст Б.Шкловер, або Шык, вывучаў у Лондане і Берліне медыцыну і матэматыку. Вярнуўшыся на радзіму, ён надрукаваў на яўрэйскай мове "Элементы Эўкліда"

(1780 г.), падручнік па трыганаметрыі (1793 г.), а таксама стварыў у Шклове хімічную лабараторыю.

Праціўнікі хасідызму міснагды пачалі барацьбу супраць сектанцтва. У 1772 г. віленскі рабінат абвясціў херэм (пракляцце) Іліі Гаона хасідам. У Шклове і Магілёве адбыліся антыхасідскія з'езды рабінаў. Шнеўр-Залман быў завочна асуджаны. У некаторых гарадах адбыліся пагромы хасідскіх дамоў. У 1794 г. мінскі кагал зачыніў малельню хасідаў. У Вільні хасіды вымушаны былі перайсці на нелегальнае становішча. Толькі ў прадмесці Пінска Карліне ў хасідаў існавала моцная групоўка, былі свае цадзікі і дзейнічалі сінагогі. Таму на Беларусі хасідаў у той час называлі "карлінамі".

Вясной 1796 г. у Вільні адбылося пасяджэнне рабінаў і прадстаўнікоў кагалаў, якое заклікала на барацьбу з хасідамі. У звароце да мінскіх яўрэяў Гаон пісаў: "Если они (хасиды) издеваются (над Законом), то сокрушите им голову". Пасля гэтага звароту мінскі кагал разаслаў па губерні цыркуляр, у якім заклікаў змагацца з хасідскім рухам: "Пусть не щадит никто своего брата, ни своего сына, пусть скажет отцу и матери — я вас не знаю. Не жалейте никого... Каждый уездный кагал должен отдавать приказания в этом смысле окрестным общинам".

У 1789 г. у Пецярбург прыйшоў данос, які зыходзіў ад віленскіх праціўнікаў хасідаў. У даносе рабін Шнеўр-Залман і яго прыхільнікі называліся палітычнымі злачынцамі, шкоднымі для дзяржавы. Шнеўр-Залман і сем хасідаў былі арыштаваны і адпраўлены ў лістападзе 1798 г. у Пецярбург. Многіх хасідаў заключылі ў мясцовыя турмы. Глава хасідаў паўстаў перад Тайнай экспедыцыяй. Павел I не знайшоў у паводзінах хасідаў нічога шкоднага для дзяржавы і загадаў вызваліць усіх зняволеных. Але за імі быў устаноўлены нагляд паліцыі.

Крыху палепшыла становішча хасідаў Палажэнне 1804 г. У ім адзначалася, што хасіды маюць права будаваць свае сінагогі і выбіраць сваіх рабінаў. Але кагал у кожным горадзе павінен быў быць толькі адзін.

Прыхільнікі традыцыйнага рэлігійнага жыцця іудзеяў змагаліся не толькі з хасідызмам, але і з так званым "мендэльсонаўскім рухам" Госкалах. Яго заснавальнікам быў М.Мендэльсон з Берліна. Гэта быў своеасаблівы яўрэйскі варыянт еўрапейскага "асветніцтва". Але яўрэйства Беларусі і Літвы адмаўляла спрэчкі аб рэлігійных рэформах [7. С. 62, 64 — 67, 72, 74 — 76; 8. С. 37, 302, 304, 308, 309].

У 1806 г. ва ўсе краіны Еўропы быў разасланы маніфест Напалеона аб скліканні "великого Синедриона" (сходу мудрацоў у Іерусаліме). Гэта занепакоіла ўрады Прусіі, Аўстрыі і Расіі, якія дапускалі думку, што перад пачаткам вайны яўрэяў, якія жылі ў месцах чакаемых баявых дзеянняў, гэтым маніфестам можна было перацягнуць на свой бок. Міністр унутраных спраў Расійскай імперыі Качубей прадпісаў начальнікам заходніх губерняў сачыць за тым, каб не было ніякіх адносін паміж рускімі і французскімі яўрэямі. У цыркуляры да генерал-губернатараў рэкамендавалася даводзіць да ведама яўрэяў, што парыжскі Сінедрыён імкнецца да змянення іудзейскай рэлігіі. У той жа час Св.Сінод распаўсюджваў сярод праваслаўнага духавенства свой цыркуляр, у якім адзначалася, што Напалеон — вораг царквы і сябар яўрэяў.

Глава беларускіх хасідаў З.Шнеерсон выказаў свае адносіны да закліку Напалеона ў такім прароцтве: "Если победит Бонапарт, богатство евреев увеличится и положение их поднимется, но зато отдалится сердце их от отца нашего небесного; если же победит наш царь Александр, сердца еврейские приблизятся к отцу нашему небесному, хотя увеличится бедность Израиля и положение его унизится". І яўрэйскае насельніцтва ў час вайны 1812 г. падтрымала рускае войска [9. С. 25, 26; 8. С. 288, 293].

Пасля смерці Залмана Шнеерсона сярод хасідаў Беларусі адбыўся раскол. Адна частка выбрала рабінам яго вучня Аарона, які пасяліўся ў м.Стараселле, другая — яго сына Берка, які жыў у м.Любавічы. Тым часам нагляд за хасідамі з боку паліцыі працягваўся. Так, 4 студзеня 1840 г. віленскі ваенны губернатар загадаў гродзенскаму грамадзянскаму губернатару "распорядиться о проведении через благонадежного чиновника секретным образом аккуратнейшего изыскания и открытия означенной секты, всех покушений ея и принадлежащих к оной лицах уведомляя меня" [10. Ф. 821, воп. 8, спр. 300. арк. 19, 22, 25 адв., 26, 26 адв.; 11. Ф. 1, воп. 20, спр. 344, арк. 1, 1 адв.].

У сярэдзіне XIX ст. сярод яўрэяў беларуска-літоўскіх губерняў з'явіўся новы рэлігійны кірунак — мусар, што ў перакладзе з іўрыта азначае "мараль". Мусар павінен быў паставіць перашкоду казённай і свецкай асвеце, ён аберагаў трыдыцыйныя ўстоі яўрэйскага жыцця, асновы іудаізму. Прапаведаваў гэтае вучэнне рабін І.Ліпкін, больш вядомы як І.Салантэр. Малітоўныя дамы мусарнікаў былі адчынены заўсёды і для ўсіх [9. С. 191].

Жыццё яўрэйскага народа рэгламентавалася ўрадам. Традыцыйна яўрэйскія абшчыны групаваліся вакол сваіх рабінаў. Па "Палажэнні аб яўрэях" 1804 г. яны павінны былі зацвярджацца губернатарам. Акрамя таго, з 1812 г. рабін павінен быў ведаць адну з трох моў — рускую, польскую або нямецкую. Новыя папраўкі ўнесла "Палажэнне аб яўрэях" 1835 г., якое пашырыла абавязкі рабінаў. Зараз іх задачай былоназіраць не толькі за рэлігійным жыццём, але і "направлять евреев к соблюдению нравственных обязанностей, к повиновению общин государственным законам и установлениям властей".

Рабін выконваў абрады абразання, шлюбу, пахавання, даваў імя нованароджаным, вёў метрычныя кнігі. За выкананне абрадаў ён атрымліваў узнагароджанне згодна з пагадненнем, заключаным з яўрэйскім малітоўным грамадствам, якое кіравала справамі сваёй сінагогі або малітоўнай школы і духоўнымі патрэбамі прыхаджан, выбірала духоўнае праўленне. У склад праўлення ўваходзілі рабін і тры члены: вучоны (ён тлумачыў абрады веры), стараста (габай) і казначэй. Пасаду вучонага, па жаданні грамадства, можна было сумяшчаць з пасадай рабіна. Новую сінагогу або малітоўную школу яўрэйскае грамадства магло адчыніць з дазволу губернатара. Малітоўныя школы адчыняліся, калі налічвалася 30 і больш яўрэйскіх дамоў, а калі больш 80 — сінагогі [12. Т. 11. С. 391; 13. С. 230 — 232; 19. С. 215, 226, 626, 627].

У 1840 г. царскі ўрад вырашыў зацвердзіць пасаду яўрэйскіх губернскіх рабінаў, якіх павінны былі рыхтаваць рабінскія вучылішчы. У 1847 г. такія вучылішчы былі адчынены ў Вільні і Жытоміры. Але яўрэйскае грамадства не жадала выбіраць рабінамі выпускнікоў гэтых вучылішчаў, лічачы іх недасведчанымі ў яўрэйскіх навуках. Не выконваўся і закон 1857 г., згодна з якім яўрэйскія грамадствы павінны былі выбіраць рабінаў з тых асоб, якія скончылі курс у рабінскіх вучылішчах, у казённых яўрэйскіх вучылішчах 2-га разраду або мелі атэстат аб заканчэнні сярэдніх ці вышэйшых навучальных установ агульнага тыпу. Пасля скасавання рабінскіх вучылішчаў іх месца занялі яўрэйскія настаўніцкія інстытуты. Але праблема заставалася. Яўрэйскія абшчыны згодна з рашэннем улад выбіралі так званых "казённых" рабінаў, але бачылі ў іх толькі чыноўнікаў, якія вялі акты грамадзянскага стану. Разам з імі выбіралі і духоўных рабінаў, якіх і лічылі сваімі сапраўднымі духоўнымі кіраўнікамі.

З пункту гледжання расійскага заканадаўства гэтыя рабіны не мелі правоў і таму яўрэйскія грамадствы неаднаразова ставілі перад уладамі пытанне аб іх легалізацыі. Пытанне гэтае было вырашана часткова: у склад духоўных праўленняў малітоўных абшчын было дазволена ўключыць так званых "вучоных", гэта значыць тлумачальнікаў веры і рэлігійных пытанняў [12. С. 226, 259].

Рэлігійная сістэма адукацыі яўрэяў зберагалася нязменнай з даўніх часоў. Па традыцыі ўсе без выключэння хлопчыкі ішлі ў хедэры, якія існавалі ў кожным мястэчку. За навучанне бацькі плацілі меламеду ўстаноўленую суму, за бедных плаціў кагал. У хедэрах вучняў вучылі Талмуду. З 13 гадоў лепшыя з іх працягвалі вучобу ў іешывах, навучанне ў якіх было бясплатным, за кошт грамадскіх сродкаў. Вучні жылі ў малітоўных дамах, сталаваліся па чарзе ў мясцовых жыхароў і вывучалі Тору. Наогул, вывучэнне Торы было важнейшым абавязкам іудзеяў, які адыгрываў значную ролю ў іх жыцці. Звычайнай з'явай было тое, што калі жонкі займаліся гандлем, то мужчыны бавілі час у сінагогах. Рабін Давід з Навагрудка ўспамінаў, што яго бацька пасля жаніцьбы шмат гадоў праводзіў у клецкай сінагоге і прыходзіў дамоў толькі па суботах [9. С. 46].

Аўтарытэт вучоных быў вельмі высокім, іешывы былі перапоўнены, а іх лепшых вучняў запрашалі на рабінскія пасады ў многія гарады Еўропы. "Богатство, физические преимущества и талант всякого рода в Литве, — пісаў сучаснік, — хотя и ценятся народом, не могут однако сравниться в его глазах с достоинством хорошего талмудиста. Талмудист первым будет претендовать на всякие должности и почетные места в общине. Когда он приходит в какое-либо собрание, то все встают перед ним и ему отводится первое место. Богатый купец, арендатор или промышленник, у которого есть дочь, употребляет всевозможные усилия, чтобы обрести зятя — хорошего талмудиста, тот может быть безобразен, болен и невежествен во всех других делах — все-таки ему дадут преимущество перед всеми другими женихами" [9. С. 46].

У 1840 г. быў створаны "Комитет для определения мер преобразования евреев" на чале з міністрам дзяржаўных маёмасцяў графам Д. Кісялёвым, які прапанаваў рэформу, згодна з якой неабходна было заснаваць школы "в духе, противоположном нынешнему талмудическому учению", скасаваць кагалы, падпарадкаваць яўрэяў агульнаму кіраванню, увесці інстытут губернскіх рабінаў, якія б атрымлівалі грошы ад

казны, забараніць нашэнне традыцыйнай вопраткі, даць яўрэям магчымасць вярнуцца да земляробства. Але поўнасцю гэтая рэформа не была здзейснена.

Каб супрацьстаяць рэлігійнай адукацыі яўрэяў, у 1843 г. быў створаны Рабінскі камітэт пры Міністэрстве народнай асветы. У яго склад увайшлі галава артадоксаў рабін І.Валожынскі і прадстаўнік хасідаў рабін М.Любавічскі (Шнеерсон), банкіры Гальперын і Штэрн. Камітэтам была афіцыйна ўхвалена школьная свецкая праграма для яўрэяў. З 1847 г. пачалі адчыняцца казённыя яўрэйскія вучылішчы. Так, у 1860 г. у Мінскай губерні іх налічвалася шэсць са 103 вучнямі [9. С. 115, 189; 7. С. 218, 222, 229, 250; 13. С. 433, 437].

Але, як і раней, у другой палове XIX ст. рэлігійныя навучальныя ўстановы займалі вядучае месца. У 1894 г. у Мінскай губерні, напрыклад, выхаванцы хедэраў складалі 66,3 %, у Гродзенскай — 64 % ад усіх дзяцей школьнага ўзросту [14. С. 77]. У канцы XIX ст. у Мінскай губерні яўрэі маглі атрымаць адукацыю ў прыватным рэальным вучылішчы, двух прыватных жаночых прагімназіях, 13 казённых, 33 прыватных пачатковых вучылішчах, 977 хедэрах, шасці талмуд-торах, трох грамадскіх і шасці прафесійных школах. Прыкладна такая ж карціна назіралася і ў іншых беларускіх губернях [14. С. 157].

Яшчэ з часоў сярэднявечча з Еўропы пераходзілі ў Рэч Паспалітую, а адтуль у Расійскую імперыю рытуальныя наветы — абвінавачванні яўрэяў у выкарыстанні хрысціянскай крыві. Відаць, менавіта яны выклікалі антысемітызм з боку хрысціянскага насельніцтва. У канцы XVIII — першай палове XIX ст. на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў неаднаразова разглядаліся справы па так званых "рытуальных забойствах". У 1799 г. у Сенненскім павеце Магілёўскай губерні каля яўрэйскай карчмы знайшлі труп жанчыны. У яе забойстве былі абвінавачаны чатыры яўрэі. Вясной 1816 г. каля Гродна знайшлі забітую дзяўчынку. І па горадзе пайшлі чуткі, што яна "кончила жизнь от рук жидовских". Справай занялася следчая камісія. Вынікі следства былі накіраваны ў Пецярбург, дзе іх палічылі недарэчнымі, а справу загадалі перапыніць.

17 сакавіка 1817 г. Аляксандрам І было загадана, каб "впредь евреи не были обвиняемы в умерщвлении христианских детей без всяких улик, по единому предрассудку, что якобы они имеют нужду в христианской крови".

З 1823 па 1835 г. цягнулася Веліжская справа, па якой было прыцягнута да следства 40 чал., у 1853 г. разглядалася

Саратаўская справа, якая ў некаторай ступені тычыліся любавіцкіх хасідаў. У сувязі з гэтымі справамі 20 снежня 1855 г. пры Міністэрстве ўнутраных спраў была створана спецыяльная камісія "по вопросу об употреблении евреями христианской крови с религиозной целью". Яна займалася вывучэннем старажытных яўрэйскіх рукапісаў. Камісія, членамі якой былі прафесары Левісан і Хвольсан, протаіерэі Паўскі і Сідонскі, старшынёй — член савета Міністэрства ўнутраных спраў Гірс, прыйшла да высновы, што ў старажытных кнігах няма нічога, што магло б сведчыць аб выкарыстанні яўрэямі хрысціянскай крыві ў абрадах [17. С. 5; 6. С. 95, 97; 7. С. 137, 145; 11. Ф. 821, воп. 8, спр. 296, арк. 10; спр. 300, арк. 157].

Дзеля заахвочвання пераходаў іудзеяў у хрысціянства царскі ўрад праводзіў сярод яўрэйскага насельніцтва шэраг мерапрыемстваў. У 1817 г. было заснавана "Таварыства ізраільскіх хрысціян". Праводзілі місіянерскую дзейнасць і члены Расійскага біблейскага таварыства. У 1820 г. яно пачало працу над перакладам Новага Запавету на старажытнаяўрэйскую мову. У мясцовыя аддзяленні таварыства адпраўляліся Бібліі на гэтай жа мове і лонданскія выданні Новага Запавету на ідыш. Яўрэйскае грамадства палічыла за лепшае не праціўіцца волі вярхоў. Так, віцебскія яўрэі закупілі першую партыю дасланых кніг Новага Запавету, мінскія ўнеслі ў фонд біблейскага таварыства 153 руб. 40 кап. [14. С. 66, 67].

На працягу першай паловы XIX ст. адбываліся пераходы з іудаізму ў хрысціянства. Яны адбываліся як добраахвотна, так і гвалтоўна. У першую чаргу хрысціянскія канфесіі звярталі ўвагу на яўрэйскіх дзяцей. Так, у 1801 г. з рымска-каталіцкай духоўнай калегіі ў Пецярбургу паступіў у Магілёўскую каталіцкую духоўную консісторыю указ. Ён быў звязаны з тым, што студэнты Мсціслаўскай езуіцкай калегіі забралі ў езуіцкі кляштар яўрэйскіх хлопчыкаў Іосіля і Янкеля супраць волі іх бацькоў. І, як было напісана ва ўказе, "под нелепым предлогом, якобы те малолетние сами собою избрали католическую веру". Калегія вырашыла, што гэты "поступок не только несообразный ни с общими правилами христианской веры насилия нетерпящей, ни с государственными законами всякий подговор и обольщение строго наказуемый" [16. Ф. 1781, воп. 3, спр. 51, арк. 3].

У 1834 г. бабруйскія мяшчане скардзіліся ў земскі суд, што 18 верасня яўрэйскі хлопчык, сын мяшчанкі Леі Гінзбург, быў ахрышчаны памешчыкам Асецкім ва уніяцкую веру без згоды маці [16. Ф. 295, воп. 1, спр. 698, арк. 1].

Добраахвотныя пераходы былі звязаны з нежаданнем ісці ў рэкруты, з мэтай атрымаць некаторыя льготы і г.д. Адбываліся і такія рэдкія выпадкі, калі пераходзілі з хрысціянства ў іудаізм. Так, 25 чэрвеня 1818 г. магілёўскі грамадзянскі губернатар паведаміў міністру духоўных спраў і народнай асветы князю А.Галіцыну, што ў м.Лёзна жыве яўрэйка Двора Абрамава 23 гадоў. Раней яна была каталічкай, пражывала ў м.Шаўлі і звалася Людавікай Кастовіч. Пры допросе яна паказала, што змяніць веру яе ўгаварылі смаргонская яўрэйка Раха і яе муж Ілля. Князь А.Галіцын палічыў, што "совращенных надо подвергать не столько строгости законов, сколько церковному покаянию". І жанчына была адпраўлена ў каталіцкі кляштар. Што ж тычылася "совратителей, — пісаў міністр, — то они гораздо более виновны, и потому и заслуживают строгое наказание, законами положенное" [10. Ф. 1282, воп. 2, спр. 280, арк. 1, 3].

Урад не абмяжоўваў пераходы з іудаізму ў хрысціянства, але забараняў пераходы з хрысціянства ў іудаізм. Некаторая частка так званых "выкрестов" імкнулася вярнуцца назад, хаця за такія спробы іх маглі прыцягнуць да суда. У такіх выпадках яўрэйскія абшчыны дапамагалі ім, забяспечвалі замежнымі пашпартамі [10. Ф. 821, воп. 150, спр. 801, арк. 1].

Палітыка русіфікацыі беларускага краю, што актыўна пачала праводзіцца пасля паўстання 1863 — 1864 гг., наклала свой адбітак і на яўрэйскае насельніцтва. Забаранялася насіць яўрэйскае адзенне, "пейсы хасідаў". У яўрэйскіх навучальных установах уводзілася абавязковае вывучэнне рускай мовы. Нягледзячы на насцярожаныя адносіны да гэтага з боку меламедаў і трымальнікаў хедэраў, цяга яўрэйскага насельніцтва да ўспрыняцця мовы і культуры Расіі была вялікай. Яўрэйскія абшчыны стваралі школы рускай граматы, арганізоўвалі прыватнае вывучэнне рускай мовы для дзяцей. Час ад часу гучалі казанні на рускай мове і ў сінагогах.

Галоўная змена, якая адбылася ў яўрэйскай адукацыі, гэта тое, што яна ўсё больш стала набываць свецкі характар. Яўрэйская моладзь імкнулася вучыцца ў гімназіях і універсітэтах, адыходзіла ад рэлігіі сваіх продкаў. У 1872 г. у Вільні быў створаны гурток моладзі, у якім адмаўлялі яўрэйскую "рэгрэсіўную" рэлігію, "архаічную" мову і нацыянальнасць і заклікалі да барацьбы за "агульначалавечыя ідэалы і справядлівасць" (заснавальнік гуртка А. Зундалевіч). "Усе мы, хто жыве ў Расіі, — пісаў адзін з членаў гуртка А.Ліберман, — рускія. Аб'яднаемся супраць во-

рагаў у імя равенства і брацтва". Свае ідэі гурткоўцы збіраліся "несці ў народ", але былі арыштаваны. Некаторым удалося ўцячы за мяжу [9. С. 244].

Яўрэйскія пагромы, якія пракаціліся па імперыі ў пачатку 80-х гг., прымусілі многіх змяніць свае погляды. І хаця ў той час пагромная хваля не дакацілася да Беларусі, яўрэйскае насельніцтва шэрага беларускіх гарадоў і мястэчак пацярпела ад пажараў. Гэтыя падзеі паўплывалі на тое, што нават тыя, хто яшчэ ўчора горача выступаў за брацтва народаў, пачалі пісаць і гаварыць аб тым, што "трэба заставацца яўрэем".

Хаця ў другой палове XIX — пачатку XX ст. вострых рознагалоссяў па межканфесіянальных пытаннях ужо не было (маюцца на ўвазе ўзаемаадносіны паміж іудзеямі і хрысціянамі), аднак гэтая праблема яшчэ заставалася. Тым больш што мясцовыя ўлады прытрымліваліся думкі, што яўрэйства — гэта "дзяржава ў дзяржаве", шкодная і небяспечная як для Расіі, так і для ўсяго хрысціянскага свету. Менавіта гэтая думка праходзіла праз "Книгу Кагала", выдадзеную у 1869 г. (потым адбылося яшчэ некалькі яе выданняў) Віленскай навучальнай акругай. Кніга была складзена хрышчоным яўрэем з Мінска Я.Брафманам і ўяўляла сабой шэраг актаў (з каментарыямі) Мінскага кагалу канца XVIII — пачатку XIX ст. [9. С. 241; 19. С. 200].

У 1897 г. была створана сусветная арганізацыя сіяністаў. Сваёй мэтай яна ставіла заснаваць у Палесціне — на радзіме продкаў, сімвалам якой абвяшчалася гара Сіён, — яўрэйскую дзяржаву. Распаўсюдзіліся ідэі сіянізму і сярод яўрэяў, што жылі на тэрыторыі Беларусі. Ужо ў 1898 г., па звестках дэпартамента паліцыі, толькі ў Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях налічвалася 54, а ў 1900 г. — 92 сіянісцкія гурткі. У 1902 г. у Мінску адбыўся Усерасійскі з'езд сіяністаў. У той час урад у адносінах да сіянісцкага руху займаў пазіцыю чакання і разлічваў на тое, што ён будзе садзейнічаць змяншэнню ў Расійскай імперыі колькасці яўрэйскага насельніцтва. Але паступова ідэі чыстага сіянізму (Базэльская праграма) сталі адыходзіць на задні план, а на першы пачала ставіцца праграма непасрэднай працы на месцах "в стране изгнания". Гэта мяняла адносіны ўрада да сіяністаў, тым больш што ўрадавыя колы пераконваліся, што абяцаны "массовый исход" яўрэяў не адбываецца, а сам сіянізм дужэе і набывае новыя кірункі і цячэнні. Таму 24 чэрвеня 1903 г. быў падпісаны сакрэтны цыркуляр, які забараняў ўсялякую дзейнасць сіяністаў, не скіраваную на тэрміновы выезд яўрэяў з Расіі, а

1 чэрвеня 1907 г. указам Сената арганізацыі сіяністаў наогул былі забаронены.

У гады першай сусветнай вайны многія традыцыйныя цэнтры яўрэйскай духоўнай культуры былі разбураны. Сярод бежанцаў, што хваляй хлынулі на ўсход, было нямала яўрэяў. Вайна прымусіла царскі ўрад у жніўні 1915 г. часова адмяніць рысу аседласці. Яўрэйскае насельніцтва з заходніх абласцей усталёўвалася на новых месцах, галоўным чынам у гарадах Цэнтральнай і Усходняй Беларусі. Сюды ж эвакуіраваліся і многія духоўныя ўстановы, каб распачаць дзейнасць на новым месцы і ў новых гістарычных абставінах.

## 4.2. МУСУЛЬМАНСТВА

У 1793 і 1795 гг. у склад Расійскай імперыі ўвайшлі Міншчына, Віленшчына і Гродзеншчына, на тэрыторыі якіх пражывала нешматлікае мусульманскае насельніцтва — татары. У 1794 г. Кацярына II абяцала, “не толькі пакінуць іх у свабодзе выконваць свае богаслужэнні і пры ўсім тым, што ў Літве яны маюць, але і забяспечыць іх стан” [18. С. 21].

Адносна колькасці татар, што пражывалі на Беларусі, у гістарыяграфіі няма адзінства. Розныя даследчыкі называюць розныя лічбы. Так, польскі гісторык Т.Корзан лічыў, што на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага у другой палове XVIII ст. пражывала каля 50 тыс. татар-мусульман. Сустракаюцца лічбы 30 і 40 тыс. Польскі даследчык Е.Сабчак прывёў лічбу 21,5 тыс. Усе яны, на наш погляд, значна перабольшаныя. Рэвізія 1795 г. адзначыла, што ў Слонімскай і Віленскай губернях татарскае насельніцтва складала 2332 чал. Гэтыя лічбы больш стасуюцца з лічбай 3152 (колькасць татар, якія пражывалі на тэрыторыі заходніх губерняў ў 1855 г., па звестках міністра ўнутраных спраў).

Праўда, неабходна ўлічваць тое, што ў пачатку XIX ст. невялікая колькасць мусульман з заходніх губерняў эмігрыравала ў Хоцін (Турцыя). Іх эміграцыя была звязана з чуткамі, што царскі ўрад мае намер перавесці татар у праваслаўную веру. Невялікая эміграцыя была і ў 60-я гг. Так, напрыклад, у 1868 г. са Слоніма ў Турцыю выехала 16 сямей, але з-за няведання мовы, звычаяў частка іх вярнулася назад [19. С. 228 — 230; 1. С. 64; 21. С. 29; 22. С.3; 21. С. 332; 22. С. 58; 23. С. 45; 24. С. 35].

Татары беларуска-літоўскіх губерняў спавядалі іслам суніцкага кірунку (па-арабску “суна” — звычай, сінонім

тэрміна “хадзіс” — паданне пра Мухамеда). Суніты лічаць законнымі спадкаемцамі Мухамеда трох халіфаў — Абу-Бекіра, Амара і Асмана — і таму прызнаюць толькі тыя паданні (суны), у якіх гаворыцца пра іх. Вучэнне сунітаў мае чатыры кірункі. Татары заходніх губерняў трымаліся вучэння Абу-Ханіфа (памёр у 767 г. н.э.) [25. С. 157].

У XVII — XVIII стст. мусульманскія абшчыны Рэчы Паспалітай былі самастойнымі. Пры неабходнасці вырашэння спрэчных пытанняў у рэлігійных справах яны звярталіся да муфтыя Атаманскай імперыі (Турцыя) або Крыма [26. С. 296].

У Расійскай імперыі пытанне аб падпарадкаванні мусульман заходніх губерняў вышэйшаму канфесіянальнаму органу ставілася некалькі разоў. У 1803 г. літоўскія татары адмовіліся падпарадкоўвацца арэнбургскаму муфтыю, спасылаючыся на асаблівасці свайго становішча ў выніку прывілеяў, якія былі ім дадзены каралямі Рэчы Паспалітай. Згодна з імі пытанне аб канфесіянальным падпарадкаванні наогул не ўзнімалася [27. С. 192].

Становішча змянілася ў 30-я гг., калі па палажэнні аб Таўрычаскім магаметанскім духоўным праўленні ад 23 снежня 1831 г. яму пачалі падпарадкоўвацца мусульмане заходніх губерняў. У яго склад уваходзілі муфтый (галава праўлення з ліку вышэйшага духавенства), кадзій-эскер (намеснік муфтыя) і павятовыя кадзіі. Мусульмане заходніх губерняў ніколі не мелі сваіх прадстаўнікоў у духоўным праўленні. Яны звярталіся туды выключна для зацвярджэння выпісак з метрычных кніг, па пытаннях, звязаных з асобамі кандыдатаў на пасаду мулы і яго памочнікаў, іншы раз па шлюбных справах.

У 1891 г. было пачата пераўтварэнне Таўрычаскага магаметанскага духоўнага праўлення. Меркавалася забраць татар заходніх губерняў з гэтага праўлення і падпарадкаваць іх мул агульнаму грамадзянскаму кіраванню. Але, разгледзеўшы гэтую справу, вырашылі пакінуць іх пад кіраўніцтвам праўлення [10. Ф. 821, воп. 8, спр. 686, арк. 95].

У канцы XVIII ст. мусульманская канфесія ў беларуска-літоўскіх губернях мела сетку мячэцяў. Вакол іх групаваліся татарскія абшчыны і пачалі фарміравацца мусульманскія прыходы. У Лідскім павеце дзейнічала Некрашунская мячэць, у Ашмянскім — Даўбуцішская, у Навагрудскім — Лоўчыцкая і Навагрудская, у Гродненскім — Багонінская і Крушнянская, у Брэсцкім — Студзянкоўская і г.д. З канца XVI ст. існавала мячэць у Мінску. Функцыі мусульманскай

абшчыны былі даволі простыя. Яна выконвала рэлігійныя і грамадскія адправы. Сход прыхаджан выбіраў патранат мячэці з ліку найбольш паважаных вернікаў. Яны клапаціліся аб усіх справах абшчыны, выбіралі мулу і мязіма (муэдзіна). У сувязі з тым, што ў мусульман гэтых губерняў не было вучылішчаў для навучання духавенства, гэтую пасаду займаў чалавек, які быў знаёмы з рэлігійнымі рытуаламі і абрадамі, умеў чытаць Каран.

У адрозненне ад хрысціянства ў ісламе няма пасрэднікаў паміж Богам і чалавекам. Адсутнічае і духавенства ў хрысціянскім разуменні, якое можа адпусціць грахі вернікам ад імя Бога. У выніку мусульманін сам павінен адказваць за свае грахі. Мула выконваў рэлігійныя і судовыя функцыі ў сваім прыходзе [27. С. 193; 30. С. 3].

Паводле указа ад 14 снежня 1837 г. выбранне мул і іншых мусульманскіх асоб па прыходах павінна было адбывацца па жаданні не менш 2/3 прыхаджан, якія лічыліся старэйшынамі сям'і. У выбарах не маглі ўдзельнічаць асобы, якія не належалі да прыхода, а таксама малодшыя члены сям'і (сыны, што жылі разам з бацькамі, самыя меншыя браты, пляменнікі і г.д.). Прыгавор грамадства аб выбранні мулы падпісваўся мясцовымі ўладамі, а затым прадстаўляўся ў Таўрычаскае духоўнае праўленне, якое звярталася за канчатковым зацвярджэннем да губернскага праўлення [16. Ф. 3211, воп. 1, спр. 80, арк. 2].

Духоўныя асобы Таўрычаскай магаметанскай акругі і мулы заходніх губерняў, пакуль знаходзіліся на пасадзе, былі вызвалены ад падаткаў і павіннасцяў. У заходніх губернях на працягу XIX ст. усе мулы былі з дваранскага саслоўя. Так, з Навагрудскай гарадской паліцыі 12 лютага 1849 г. паведамлялі ў Мінскае губернскае праўленне, што мула Навагрудка выбраны ад дваран і па паходжанні таксама дваранін [16. Ф. 299, воп. 1, спр. 3520, арк. 4].

Будаўніцтва і ўтрыманне мячэці было справай сходу прыхаджан. Мячэці будаваліся на землях (вакуфах), падараваных заможнымі прыхаджанамі, а грошы для будаўніцтва храма збіралі з мусульманскіх сямей.

На заходнія губерні быў распаўсюджаны ўказ ад 26 жніўня 1755 г., згодна з якім мусульманскі прыход павінен мець не менш чым 200 душ мужчынскага полу, толькі тады яму было дазволена будаваць новую мячэць. Прыхаджане павінны былі мець дастаткова сродкаў на будаўніцтва, а таксама на ўтрыманне духавенства. Згодна з указам ад 13 снежня 1817 г. мячэць павінна была будавацца сярод сялення, у месцы, якое з усіх бакоў было адчынена, і па плане, узгодненым з

грамадзянскімі ўладамі [27. С. 193; 10. Ф. 821, воп. 8, спр. 686, арк. 17; 16. Ф. 299, воп. 5, спр. 85, арк. 1].

Вясной 1809 г. татары-мусульмане, якія жылі ў м.Мір, звярнуліся да князя Дамяніка Радзівіла з просьбай выдзеліць зямлю і дазволіць пабудаваць мячэць. Князь выдзеліў ім зямлю ў м.Мір "на прадмесці Мінскім, на Татарскай вуліцы". Мячэць была пабудавана ў 1809 г. на сродкі сходу. У 1815 г. была пабудавана мячэць у Ляхавічах, у сярэдзіне XIX ст. — ва Уздзе і Смілавічах, у 1803 — 1804 гг. — у Слоніме (на 500 кв. саж. зямлі, атрыманай ад памешчыка Бажымоўскага). У 1846 г. у Слоніме жыло 170 мусульман. Да гэтага прыхода адносіліся мусульмане Ружан, Быцені, Дзярэчына, Косава. У 1816 г. быў створаны відзаўскі магаметанскі прыход, а ў 1857 г. у Відзах была ўзведзена драўляная мячэць. У 1868 г. гэты прыход налічваў 243 прахаджаніна [27. С. 194; 31. С. 18; 32. С. 43].

Крыніцы даходаў мячэцяў былі розныя. Так, татары Даўбуцішскага сходу павінны былі плаціць мячэці асобны налог, які ў 1802 г. увёў мула Якуб Лебедзь. Акрамя таго, на карысць мячэці збіраліся пасашковыя па два злотых ад кожнай працоўнай сахі. Мячэці плацілі пасашковыя 176 татарскіх сох. Даходы павялічваліся і за кошт спадчынных даравanняў. Так, у 1805 г. Ян Крычынскі даў муэдзіну Даўбуцішскай мячэці Якубу Радкевічу пісьмо, якім завяшчаў у вечнае карыстанне свае пабудовы, палі і агароды. У 1891 г. такое ж пісьмо на 0,5 дзес. зямлі даў мячэці ад сябе і свайго брата Эміяз Юшынскі. У 1889 г. Аміна Мурза-Мурзічова з Багдановічаў запісала на мячэць у Навагрудку каля 10 дзес. зямлі, а ў 1913 г. Бекір Шабановіч пакінуў мячэці ў Мураўшчызне частку сенажаці [31. С. 57; 23. С. 203].

Мячэці падзяляліся на саборныя і пяцічасовыя. Паводле тлумачэння Дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў "адрозненне гэта мела значэнне выключна ў духоўных адносінах". У саборных мячэцях адбываліся наогул усе службы, як штодзённыя, так і пятнічныя і святочныя. Пяцічасовыя ж мячэці атрымалі сваю назву ад таго, што мусульмане збіраліся ў іх для малітвы штодзённа пяць раз. Але ў іх не праводзіліся богаслужэнні па пятніцах і ў святочныя дні. У архітэктурных адносінах саборныя і пяцічасовыя мячэці адрозніваліся паміж сабой у асноўным толькі памерамі. У 1879 г. у Віленскай губерні меліся тры саборныя і тры пяцічасовыя мячэці з 2529 прыхаджанамі, у Мінскай — восем саборных з 3145 прыхаджанамі, у Гродзенскай — тры саборныя з 1652 прыхаджанамі [27. С. 195, 196].

Нягледзячы на тое, што частка татар-мусульман заходніх губерняў удзельнічала ў вайне 1812 г. на баку Напалеона, у паўстаннях 1830 і 1863 гг., адносіны да іх з боку ўрада былі даволі памяркоўнымі. Указам ад 25 чэрвеня 1840 г. дваранам-мусульманам гэтых губерняў было дазволена мець маёнткі, валодаць прыгоннымі сялянамі-хрысціянамі і трымаць іх для паслуг па найме. Ва ўсёй імперыі гэта было наогул забаронена дваранам-нехрысціянам [32. С. 494; 23. С. 48].

Нягледзячы на ўзмацненне палітыкі русіфікацыі ў беларуска-літоўскіх губернях пасля падаўлення паўстання 1863 г., царскі ўрад дазваляў мусульманам набываць зямлю, займаць розныя пасады, працаваць у паліцыі, а ў некаторых выпадках, з-за цвярозасці мусульман, ім аддавалі перавагу пры заняцці пасад і перад праваслаўнымі [23. С. 46, 47].

Дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў ў Пецярбургу, Таўрычаскае магаметанскае духоўнае праўленне, губернскія праўленні ў асноўным разглядалі справы, звязаныя з будаўніцтвам або рамонтам мячэцяў у беларуска-літоўскіх губернях, або скаргі прыхаджан-мусульман, якія былі не згодны з выбраннем таго ці іншага мулы, з дзейнасцю некаторых духоўных асоб. Справы расцягваліся на доўгі час, што было звязана не толькі з бюракратызмам чыноўнікаў, але і з вялікай адлегласцю паміж Пецярбургам, Крымам, Мінскам, Вільняй або Гродна.

Як і сярод іншых канфесій, адбываліся пераходы з мусульманства ў праваслаўе альбо ў каталіцтва, хаця гэта былі адзінкавыя выпадкі. Аднаверцы дрэнна ставіліся да тых, хто мяняў сваю веру. 27 кастрычніка 1852 г. віленскі ваенны губернатар і генерал-губернатар гродзенскі, мінскі і ковенскі звярнуўся да мінскага грамадзянскага губернатара, каб той прадставіў яму звесткі аб выпадках хрышчэння навагрудскімі дамініканцамі некалькіх татарак. Па звестках чыноўнікаў па асобых даручэннях, у Навагрудку ў 1844 — 1852 гг. у дамініканскім заштатным кляштары былі ахрышчаны некалькі татарак-мусульманак. Сярод іх — Ханіфа Кусцінская, Фацьма Алексановіч, Ханіфа Матарона, Фацьма Палтаржэцкая і Галька Лебедзева. Яны прынялі каталіцтва добраахвотна і з дазволу міністра ўнутраных спраў, аб чым навагрудскі дэкан Эйсмант прадставіў дакументы. У 1852 г. прасіў дазволу ў міністра ўнутраных спраў аб пераходзе з мусульманства ў

каталіцтва 27-гадовы калежскі регістратар Іосіф Давыдаў Абрагімовіч. Ён працаваў у Ваўкавыскім павятовым казначэйстве. Пасля атрымання дазволу ён быў ахрышчаны 17 студзеня 1854 г. [16. Ф. 295, воп. 1, спр. 1224, арк. 14, 5, 8; 11. Ф. 1, воп. 1, спр. 3046, арк. 1].

Згодна з перапісам 1897 г. у заходніх губернях налічвалася 13 877 мусульман. Невялікая іх колькасць з'явілася ў Віцебскай губерні. У 1912 г. іх там было 421 чал. (з іх у Віцебску — 61, у Веліжскім павеце — 3, у Дзвінску — 301, у Дзвінскім павеце — 27, у Полацку — 12, у Полацкім павеце — 10, у Рэжыцы — 7) [10. Ф. 821, воп. 8, спр. 1094, арк. 2; спр. 686, арк. 10; 1. Ф. 1430, воп. 1, спр. 48695, арк. 15, 24 адв.].

У сувязі з тым, што мулы знаходзіліся на ўтрыманні сваіх прыхаджан, некаторыя прыходы рабілі спробы дамовіцца з уладамі, каб іх духавенства атрымлівала грошы ад казны. Напрыклад, у ліпені 1882 г. гэта зрабілі прыхаджане Асмалоўскай саборнай мячэці. Сваю просьбу яны матывавалі тым, што ў войсках, якія былі раскватараваны на тэрыторыі павета, былі мусульмане з іншых губерняў. Яны звярталіся да мясцовага мулы па духоўных справах або выклікалі яго да сябе, што прыводзіла да непрадбачаных расходаў. Мінскае губернскае праўленне нагадала, што згодна з арт. 1200, т. 11 указаў Дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў будаванне мячэцяў дазваляецца толькі пры забеспячэнні ўтрымання іх і духавенства. Гэта забеспячэнне цалкам ляжала на прыхаджанах. Згодна з арт. 1198 і 1203 тых жа ўказаў Таўрычаскае магаметанскае духоўнае праўленне павінна было клапаціцца аб прыстойным утрыманні мячэцяў. Галоўным сродкам для гэтага служылі нерухомая маёмасць (вакуфы) і грашовыя капіталы, якія знаходзіліся ў падпарадкаванні праўлення [16. Ф. 299, воп. 2, спр. 8083, арк. 27, 24, 25].

25 мая 1881 г. прыхаджане Слонімскай мячэці звярнуліся да міністра ўнутраных спраў за грашовай дапамогай на адбудаванне пасля пажару будынка. У прашэнні яны пісалі, што "магаметанскае духавенства і мячэці ў Паўночна-Заходнім краі згодна з законам існуюць выключна на лепту прыхаджан, якія, будучы абкладзены зборам на хрысціянскае духавенства і цэрквы", не мелі дастаткова грошай. 21 сакавіка 1883 г. Дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў звярнуўся ў Таўрычаскае духоўнае праўленне, каб тое выдзеліла грошы за кошт вакуфаў і грашовых капіталаў, што і было зроблена.

Па просьбе гродзенскага губернатара ад 20 красавіка 1909 г. Міністэрства ўнутраных спраў дазволіла дваранам-мусульманам збіраць грошы на рамонт Крушнянскай мячэці (у прыходзе было 300 прыхаджан) [10. Ф. 821, воп. 8, спр. 686, арк. 1].

У некаторых выпадках з-за спрэчак паміж пры-хаджанамі доўга вырашаліся справы з выбраннем мул. У 1867 г. частка прыхаджан Уздзенскай мячэці была незадаволена абраным мулой М. А.Міськевічам. Але пасля праверкі скаргі ён быў зацверджаны. 16 лістапада 1881 г. частка прыхаджан Асмалоўскай мячэці (па колькасці спрэчных спраў прыход быў на першым месцы) паскардзілася, што абраны мулой А.І.Смольскі ненадзейных паводзін і таму не можа быць духоўнай асобай. У сувязі з гэтай скаргай слуцкі павятовы спраўнік пісаў губернатару, шо "Амурат Іосіф Смольскі пад судом і следствам не быў і не знаходзіўся, паводзін і маральных якасцяу добрых, спосабу жыцця акуратнага, адносна адданасці прастолу і закону даволі благанадзейны і мае ад роду больш 45 гадоў" [10. Ф. 821, воп. 8, спр. 86, арк. 134, 134 адв; 16. Ф. 290, воп. 2, спр. 6587, арк. 19; спр. 8073, арк. 2 адв., 4, 4 адв].

Але, нягледзячы на тое, што татары зберагліі сваю рэлігію, яны засвоілі, асабліва мусульманскае дваранства, польскую мову. Так, 10 лютага 1866 г. віцебскі губернатар генерал Вяроўкін адзначаў, што татары "зберaглі сваю рэлігію, засвоілі сабе мову, нравы і звычаі больш польскія, чым рускія, і таму не маем ніякай упэўненасці, што яны будуць садзейнічаць вынішчэнню паланізма, даволі шкоднага для таго кірунку, які ўрад абраў у адносінах будучага развіцця заходніх губерняў" [33.С. 54].

У 80-я гг. мусульманам было забаронена весці богаслужэнне і чытаць рэлігійныя кнігі на польскай мове. З гэтай нагоды віленскі, ковенскі і гродзенскі генерал-губернатар 27 снежня 1886 г. пісаў міністру ўнутраных спраў аб тым, што мула Слонімскай мячэці Багушэвіч у час Байрама пры правядзенні богаслужэння выкарыстоўваў польскую мову. Гэтыя звесткі былі праверaны і выявілася, што Багушэвіч усе малітвы на святкаванні Байрама гаварыў на польскай гутарковай мове і што "ўсе магаметане Паўночна-Заходняга краю настолькі засвоілі гэтую мову, што лічаць яе прыроднай мовай, што пацвярджае і распаўсюджванне ў асяроддзі магаметан Алкарана, перакладзенага на польскую мову... Я прызнаю немагчымым дапусціць на будучы час выкарыстанне імамамі пры богаслужэнні польскай мовы і зрабіў да выка-

нання гэтага неабходныя распараджэнні" [23. С. 49; 10. Ф. 821, воп. 8, спр. 686, арк. 94].

22 верасня 1903 г. віленскі, ковенскі і гродзенскі генерал-губернатар паведаміў у Міністэрства ўнутраных спраў аб тым, што "знойдзена ў с.Відзах тайнае навучанне (гэта значыць не зацверджанае мясцовымі ўладамі. — *Аўт.*) дзяцей-магаметан Закону Божаму і малітвам па Каране". Ён звярнуўся ў Віленскую навучальную акругу, каб высветліць, які існуе парадак адносна выдачы дазволу на права вучыць дзяцей-мусульман. Дэпартамент народнай асветы адказаў, што па дзеючым заканапалажэнні асобам магаметанскага веравызнання не выдаюцца пасведчанні на права навучання дзяцей закону іх веры [10. Ф. 821, воп. 8, спр. 86, арк. 134].

Паводле ісламу, кожны мусульманін павінен умець чытаць святыя кнігі Каран і Хамаіл. Калі бацькі не аддавалі сваіх дзяцей вучыцца, то гэта лічылася вялікім грахом. Дзяцей вучылі чытаць арабскія тэксты і пісаць арабскім алфавітам у школах пры мячэцях. Іх вучыў альбо мула, альбо яго памочнік мязім, альбо годжы (настаўнік). У мусульманскую школу дзеці ішлі з 6 — 8-гадовага ўзросту. Хадзіць у мячэць дазвалялася толькі пасля заканчэння курсу навучання ў годжыя. Вучылі ў асноўным мужчыны, але былі і жанчыны (гаджыні). Напрыклад, у Ляхавічах перад першай сусветнай вайной спасцігаць Каран дзецям дапамагала "баба Гасцілаўка", удава мулы Ібрагіма Якубоўскага. Карысталіся для навучання дзяцей і набажэнства як друкаванымі, так і напісанымі ад рукі малітоўнікамі. Засвойваць Каран дапамагаў так званы тэжвід — падручнік, дзе змяшчаліся ўказанні, як чытаць свяшчэнную кнігу. Тэкст яго быў напісаны на старажытнай турэцкай мове з тлумачэннямі на беларускай альбо польскай мове. Кнігай штодзённага ўжытку быў Хамаіл — збор малітваў на арабскай і старатурэцкай мове з тлумачэннямі рэлігійных абрадаў на беларускай альбо польскай мове. У рукапісных зборніках (кітабах) былі падрабязна апісаны абрады, рытуалы, а таксама асноўныя абавязкі мусульманіна. У іх пераважную большасць складалі тэксты польскія і беларускія, але былі і турэцкія, арабскія.

У 1803 г. у Вільні выйшла кніга Юсуфа Сабалеўскага "Ізлажэнне веры Мухамеда, альбо іслама. Узята з Карана і ўказанняў Прарока — хадзісаў". "Цяжка гаварыць пра тое, — пісаў аўтар, — што мы, нашы дзеці славім Бога незразумелай для нас мовай, не карыстаемся мовай, на якой ужо

некалькі стагоддзяў размаўлялі нашы бацькі і якая змалку прыемная нам і дарагая, і сумна нам, што нашыя пісьмовыя тэксты і розныя богаслужэнні схаваны ад нас у мове, якой мы не разумеем". У 1858 г. у перакладзе на польскую мову быў выдадзены Каран у двух тамах, падрыхтаваны Я.Т.Бучацкім. У 1897 г. па просьбе мусульман Заходняга краю, якія не ведалі арабскай і татарскай мовы, у Пецярбургу была надрукавана на рускай мове кніга "Шаратуль-иман. Заповеди ислама", у 1907 г. — Каран, які быў падрыхтаваны Г. Саблуковым і вытрымаў некалькі выданняў [27. С. 499, 500; 25. С. 174 — 176, 178, 180].

Як піша І.Гаспрынскі ў кнізе "Русское мусульманство" (СПб., 1881), татары заходніх губерняў з-за недахопу сродкаў не маюць мектэбаў і мадрасе. Але ў іх існуюць вандроўныя настаўнікі-ходжы, якія пераходзяць з адной мясцовасці ў другую, дзе трэба і дзе бацькі жадаюць навучаць дзяцей ісламу. Кожная сям'я татар мае неабходныя свяшчэнныя кнігі з перакладамі арабскага тэксту на польска-літоўскую мову. У кожнай хаце літоўскага мусульманіна можна заўважыць на сценах рамкі з прыгожа напісанымі і размаляванымі выслоўямі з Карана і вензелевымі імёнамі Алаха, прарока Мухамеда, імамаў Алі, Амара і інш. "Словам, — адзначае аўтар, — падарожжа па Літве пераканала мяне, што іслам амаль непераможны і што вераадступніцтва сярод літоўскіх татар — з'ява гэткая ж рэдкая, як, напрыклад, у Крыме" [34. С. 15].

У 1907 г. група татарскай моладзі з беларуска-літоўскіх губерняў стварыла нелегальны Акадэмічны гурток польскіх мусульман, члены якога з захапленнем узяліся за даследаванне татарскіх паселішчаў. Сярод яго арганізатараў быў Ляон Найман Мірза Крычынскі. Ён сабраў і выдаў "Bibliograficzne materialy do historii tatarow Polski, Litwy, Bialorusi i Ukrainy" (Пг., 1917).

У 1909 г. па ініцыятыве Альгерда Крычынскага ў Вільні ўзнікла асветніцкая суполка татар. Акрамя асветніцкай дзейнасці яе члены займаліся дапамогай бедным і ўбогім мусульманам, а ў час першай сусветнай вайны дапамагалі параненым салдатам-мусульманам, хавалі памерлых.

У час першай сусветнай вайны татары з беларуска-літоўскіх губерняў удзельнічалі ў стварэнні мусульманскіх воінскіх часцей. У сфарміраваным летам 1917 г. на Румынскім фронце 1-м мусульманскім корпусе яны складалі даволі значную частку. Узначальваў гэты корпус генерал Мацей Сулькоўскі [25. С. 140, 142; 33. С. 145, 146].

Дзякуючы ісламу татарскі народ пазбег асіміляцыі ў асяроддзі хрысціянскага насельніцтва. Добрыя ўзаемаадносіны татарскага народа з іншымі народамі ў беларуска-літоўскіх губернях, чаму нямала спрыялі працавітасць і высокая маральнасць мусульман, вялі да добрых адносін і да канфесіі наогул. А ў сувязі з тым, што канфесія была нешматлікай, царскі ўрад не рабіў рэлігійных абмежаванняў.

## ЛІТАРАТУРА


1. Alma Mater Vilnensis. L., 1951.

2. *Schiper I.* Dzieje Handlu zydowskiego na zitmiach Polskich. Warszawa, 1937.

3. *Stanislawski M.* Tsar Nicholas I and the jews. The Transfomation of jewish society in Russia. 1825 — 1855. Philadelphia, 1983.

4. Атлас народонаселения Западно-Русского края по исповеданиям. СПб., 1864.

5. Наличие населения обоего пола по уездам и городам с указанием преобладающих вероисповеданий и главнейших сословий. СПб., 1905.

6. *Кандель Ф.* Очерки времен и событий. Из истории российских евреев. Иерусалим, 1988. Ч. 1.

7. *Гессен Ю.* История евреев в России. СПб., 1914.

8. *Дубнов С. М.* Новейшая история еврейского народа. Рига, 1937. Т. 1.

9. *Кандель Ф.* Очерки времен и событий. Из истории российских евреев. Иерусалим, 1990. Ч. 2.

10. Матэрыялы Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу.

11. Матэрыялы Нацыянальна-гістарычнага архіва Беларусі ў Гродна.

12. Еврейская энциклопедия. СПб., Т. 3.

13. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния/ Сост. И.Зеленский. СПб., 1864. Ч. 2.

14. Беларусістыка. Мн., 1995.

15. Еврейская летопись. М., 1923. Сб. 1.

16. Матэрыялы Нацыянальна-гістарычнага архіва Беларусі.

17. *Гессен Ю.* История еврейского народа в России. М., 1923. Т. 2.

18. Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Вильно, 1900. Т. 31.

19. *Korzon T.* Wewnterzne dzieji Polski za Stanislawa Augusta (1764 — 1794). Krakow, 1882. T. 1.

20. *Sobczak J.* Polozenie prawne ludnosci tatarsskiej w Wielkim ksiestwie Litowskim. Warszawa; Poznan, 1984.

21. *Zitkowicz L.* Rzady Repninie na Litwie w 1794-7. Wilno, 1938.
22. Rocznik Tatarski. Zamosc, 1935. T. 2.
23. Rocznik Tatarski. Warszawa, 1938. T. 3.
24. *Мухлинский А.* Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПб., 1857.
25. *Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993.
26. *Tyszkiewcz J.* Tatarzy na Litwie i w Polsce. Warszawa, 1989.
27. Наш радавод. Гродна, 1992. Ч. 1.
28. Рамазан. Мн., 1994.
29. Ал-іслам. Мн., 1994. № 3.
30. Байрам. Мн., 1992. № 1.
31. Байрам. Мн., 1995. № 1.
32. *Рубинштейн С.Ф.* Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малоруссии за 240 лет с 1652 по 1892 г. Вильно, 1894.
33. *Kryczyncki L.* Tatarzy Litewscy w wojcku polskim w powstanni 1831 г. Warszawa, 1932.
34. Байрам. Мн., 1991. № 1.

# ГЛАВА 5

# ЗМЕНА КАНФЕСІЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ ДЗЯРЖАВЫ У 20 — 30-я гг. XX ст.

## 5.1. АДНОСІНЫ САВЕЦКАГА ЎРАДА ДА КАНФЕСІЙ. РАСПАЎСЮДЖВАННЕ АТЭІЗМУ

З прыходам да ўлады ў кастрычніку 1917 г. бальшавікоў становішча ўсіх канфесій у грамадстве карэнным чынам змянілася. Пачалася доўгая, палітая крывёю многіх пакаленняў святароў і вернікаў канфрантацыя дзяржавы і царквы. Такая палітыка была выклікана тым, што марксізм-ленінізм разглядаў барацьбу з рэлігіяй як адзін з напрамкаў класавай барацьбы пралетарыята з капіталам. “Рэлігія ёсць опіум для народа, — пісаў К.Маркс. — Ліквідаванне рэлігіі як ілюзорнага шчасця народа ёсць патрабаванне яго сапраўднага шчасця” [1. Т. 1. С. 415]. Будучы верным і стойкім марксістам, Уладзімір Ленін не пайшоў далей гэтых меркаванняў. Га-

лоўны вывад, зроблены правадыром пралетарыята ў адносінах да рэлігіі, заключаецца ў наступным: "Усе сучасныя рэлігіі і цэрквы, усе і ўсялякія рэлігійныя арганізацыі марксізм разглядае заўсёды як органы буржуазнай рэакцыі, служачыя абароне эксплуатацыі і адурманьванню рабочага класа" [2. Т. 17. С. 416].

Распрацоўваючы пытанні адносін бальшавікоў да рэлігіі ў рабоце "Сацыялізм і рэлігія", напісанай яшчэ ў студзені 1906 г., Ленін падкрэсліваў неабходнасць жорсткіх адносін да рэлігійных вераванняў. "...Мы заснавалі свой саюз, РСДРП, між іншым, — пісаў У.Ленін, — менавіта для такой барацьбы супраць усялякага рэлігійнага абдурэння рабочых" [2. Т. 12. С. 145].

Таму невыпадковай з'яўлялася пастаноўка ў праграме РКП(б), прынятай у сакавіку 1919 г. на VIII з'ездзе, задачы наступлення на рэлігійныя вераванні. Бальшавіцкая партыя не жадала весці дыялог з царквой у імя інтарэсаў народа, наладжвання грамадзянскага міру. "Ажыццяўленне планамернасці і свядомасці ва ўсёй грамадска-гаспадарчай дзейнасці мас, — адзначалася ў праграме, — пацягне за сабой поўнае адміранне рэлігійных забабонаў" [3. С. 83]. Разлік рабіўся на хуткае адміранне рэлігіі ў грамадстве шляхам "мэтанакіраванай сістэмы" выхавання і "рэвалюцыйнага ўздзеяння". Гэта стварала ўмовы для парушэння правоў чалавека на свабоду веравызнання, гвалтавання асобы.

Дзейнасць рэвалюцыйных улад пачалася з прыняцця спецыяльных заканадаўчых актаў па нацыяналізацыі царкоўных і манастырскіх зямель, са спынення фінансавання на ўтрыманне духавенства, храмаў і рэлігійныя цырымоніі. У студзені 1918 г. былі скасаваны дзяржаўныя ўстановы, якія займаліся справамі духавенства: Ведамства прыдворнага духавенства і Упраўленне духоўнага ведамства ў арміі. 23 студзеня 1918 г. СНК РСФСР прыняў дэкрэт "Аб аддзяленні царвы ад дзяржавы і школы ад царквы". Адпаведны дэкрэт, які захаваў асноўныя палажэнні заканадаўчага акта РСФСР, прыняў 11 студзеня 1922 г. СНК БССР [4]. Гэтыя акты акрэслівалі прававыя нормы ўзаемаадносін дзяржавы і царквы, пры якіх дзяржава не павінна была ўмешвацца ў дзейнасць рэлігійных арганізацый.

Але на справе праводзілася зусім іншая палітыка. Умяшанне ў канфесіянальныя справы стала нормай на працягу ўсіх гадоў існавання СССР. Гэта быў адміністрацыйна-ідэалагічны ўціск, накіраваны не на рэгуляванне рэлігійнага жыцця, аказанне дапамогі прадстаўнікам тых ці іншых

канфесій у вырашэнні ўзнікаўшых праблем, а на разбурэнне склаўшыхся традыцый, спыненне рэлігійнага жыцця, пабудову атэістычнага грамадства. Заканадаўча былі абвешчаны новыя прынцыпы сямейна-шлюбных адносін. Рэгістрацыя шлюбаў прызнавалася толькі ў органах савецкай улады. Так з дапамогай дзяржавы сямейны быт вызваляўся ад рэлігіі.

Дзейнасць усіх канфесій падвяргалася жорсткаму кантролю з боку адпаведных органаў. 8 мая 1918 г. пры Народным камісарыяце юстыцыі быў створаны VIII аддзел на чале з бліжэйшым паплечнікам Леніна П.Красікавым (1870 — 1939). Гэта быў ваяўнічы атэіст, які асабліва варожа адносіўся да рэлігійных арганізацый. Пад яго кіраўніцтвам аддзел праводзіў работу па разбурэнні структур усіх канфесій, распрацоўваў антырэлігійныя кампаніі, вяршыў лёс кожнага іерарха. За палітыку, скіраваную на разбурэнне царквы, гэтае падраздзяленне атрымала афіцыйную назву Ліквідацыйны аддзел Наркамюста. Прадстаўнікі патрыярха Ціхана (В.І.Белавін, 1863 — 1925) не раз інфармавалі Леніна аб праводзімай палітыцы, якая супярэчыла палажэнням дэкрэта аб аддзяленні царквы ад дзяржавы. У адказ дзейнасць аддзела станавілася яшчэ больш жорсткай. Аб гэтым сведчыла інструкцыя Наркамюста “Аб парадку правядзення ў жыццё дэкрэта “Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы”, распрацаваная ў жніўні 1918 г. [5. С. 45 — 50]. Гэта быў нарматыўны акт, які жорстка рэгуляваў дзейнасць рэлігійных арганізацый. За самыя невялікія парушэнні прадугледжвалася іх закрыццё.

Наступленнем на канфесіі, у тым ліку і на праваслаўную, азнаменаваліся першыя тыдні савецкай улады на Беларусі. Да пачатку першай сусветнай вайны на яе тэрыторыі налічваліся 2693 царквы, з іх у Мінскай губерні — 800, у Магілёўскай — 804, у Віцебскай — 425, у Гродзенскай — 544. Дзейнічалі 21 мужчынскі і 14 жаночых манастыроў [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 693, арк. 132]. Праваслаўная царква працягвала аказваць вялікі ўплыў на насельніцтва праз царкоўнапрыходскія школы. З 4000 школ, якія дзейнічалі на беларускай тэрыторыі ў той час, амаль палову складалі царкоўнапрыходскія. Працуючы на рускай мове, яны стваралі асяродак русіфікацыі беларусаў, якія ўступалі ў самастойнае жыццё. Такі характар насілі духоўныя семінарыі ў Мінску, Віцебску і Магілёве.

Блізкасць да фронту накладвала на дзейнасць бальшавіцкіх арганізацый адбітак асаблівай жорсткасці ў адносінах да спраў

рэлігійных установ. Аб гэтым сведчыў зварот ад 25 студзеня 1918 г. епіскапа Мінскага і Тураўскага Георгія (Ярашэўскага) да паствы епархіі з пасланнем, у якім паведамлялася, што з ведама камісараў Заходняй вобласці захоплены духоўная семінарыя і вучылішча, а пасля ад'езду беларускіх іерархаў у Маскву на Царкоўны сабор — таксама архірэйскі дом, дамы кафедральнага сабора, кансісторыя. "Такім чынам, захоплена тое, што складае багацце Мінскай царквы, т.е. усяго праваслаўнага веруючага народа Мінскай епархіі, — пісаў епіскап. — Гэтыя захопы, як і іншыя падобныя, канешне, зроблены ў імя народа і для народа, як тлумачаць захопнікі. Але, вазлюбленыя браты! Вы давалі дазвол на гэтыя захопы? У вас аб гэтым пыталі? Ды ці маглі вы, як верныя чады царквы, даваць дазвол на тое, каб ваш праваслаўны архірэй застаўся без свайго памяшкання і не меў дзе галаву прыкланіць? Каб свяшчэннікі кафедральнага сабора былі выкінуты са сваіх кватэр? Каб манастыры папалі ў рукі няверуючых людзей." [7. С. 1]. Епіскап заклікаў прыхаджан стаць на абарону святой веры і царквы, яе храмаў і манастыроў, свяшчэннаслужыцеляў.

Кампанія рабавання царквы набірала моц і ў іншых гарадах і вёсках Беларусі. Але разгарнуцца ў поўнай меры яна не паспела ў сувязі з тым, што ў лютым 1918 г. тэрыторыю Беларусі акупіравалі немцы. Пасля іх адступлення ўзведзены ў сан архіепіскапа Георгій выехаў у Варшаву. Мінскую епархію узначаліў епіскап Мельхісэдэк (М.Л.Паеўскі, 1878 — 1931).

Пасля падпісання Рыжскага дагавора значная частка Мінскай епархіі аказалася на тэрыторыі польскай дзяржавы і ў кананічнай юрысдыкцыі Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (ПАПЦ). У гэтых умовах паўстала неабходнасць перагляду кіравання праваслаўнай царквой на Беларусі. У ліпені 1922 г. па ініцыятыве Мельхісэдэка прайшоў з'езд духавенства Мінскай епархіі, які ў далейшым атрымаў назву Паместнага Сабора беларускай праваслаўнай царквы. Ён абвясціў аўтаномію беларускай царквы, якая на той час знаходзілася ў межах Мінскай епархіі. З'езд прыняў рашэнне аб увядзенні Мельхісэдэка ў сан мітрапаліта з тытулам "Мінскі і Беларускі". Было ўстаноўлена правіла, калі Мінскі архірэй з'яўляўся кіраўніком праваслаўнай царквы на Беларусі. Гэта традыцыя засталася да сённяшняга дня. Прынцыповае значэнне мела рашэнне аб утварэнні на тэрыторыі Беларусі чатырох епархій: Мінскай, Бабруйскай, Мазырскай і Слуцкай.

На падрыў эканамічных высноў царквы і ў той жа час паляпшэнне фінансавага становішча савецкай улады была скіравана кампанія канфіскацыі каштоўнасцяў, якая разгарнулася ў пачатку 1922 г. Праводзілася яна пад выглядам дапамогі галадаючым Паволжа. Аб сутнасці "дапамогі" распавядаў У. Ленін у пісьме В. Молатаву (Скрабіну) для членаў Палітбюро ЦК РКП(б) ад 19 сакавіка 1922 г. "Узяць у свае рукі фонд у некалькі соцен мільёнаў залатых рублёў (а можа быць, і ў некалькі мільярдаў), — пісаў ён, — мы павінны што б там ні было" [8. С. 191]. На думку кіраўніка ўрада, зрабіць гэта можна з поспехам толькі цяпер, бо "ніякі іншы момант, акрамя адчаяннага голаду, не дасць нам такога настрою шырокіх сялянскіх мас, які альбо забяспечваў нам спачуванне гэтых мас, альбо, па крайняй меры, нейтралізацыю гэтых мас у тым сэнсе, што перамога ў барацьбе з канфіскацыяй каштоўнасцяў застаецца безумоўна і канчаткова на нашым баку" [8. С. 191].

Рабаванне рэлігійных храмаў пачало ажыццяўляцца на аснове дэкрэта УЦВК "Аб парадку канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў, якія знаходзяцца ў карыстанні груп веруючых", інструкцыі УЦВК і Народнага камісарыята юстыцыі да дэкрэта ад 23 лютага 1922 г. Гаворка ішла аб забіранні з "царкоўнай маёмасці, перададзенай у карыстанне групай вернікаў усіх рэлігій, па вопісу і дагавору ўсіх каштоўных рэчаў з золата, срэбра і камянёў" [9].

Зыходзячы з указанняў Масквы, 1 сакавіка 1922 г. Прэзідыум ЦВК БССР стварыў спецыяльную камісію на чале са старшынёй ЦВК А.Чарвяковым (1892 — 1937). Нягледзячы на інструкцыі, якія дазвалялі канфіскаваць рэчы, не звязаныя з рэлігійнымі каштоўнасцямі, фактычна пачалося нічым не прыкрытае рабаванне праваслаўных храмаў. Канфіскоўвалі абрадавыя сасуды, крыжы, падсвечнікі, упрыгажэнні, іконы, кадзілы, іншыя духоўныя рэчы, нават тыя, якія закраналі інтарэсы самога культа.

Дэкрэт УЦВК, прыняты без згоды царкоўнай грамадскасці, выклікаў справядлівае незадавальненне вернікаў. У іх не было гарантыі, што канфіскаваныя сродкі пойдуць на закупку харчавання, дапамогу галадаючым. Тым больш што да гэтага часу штодня паступала дапамога харчаваннем і грашыма з многіх краін свету як ад прыватных асоб, так і ад розных арганізацый. Супраць дэкрэта выступіў патрыярх Ціхан. У звароце да праваслаўных ад 28 лютага ён заявіў: "Мы не можам адобрыць забіранне з храмаў, хаця і праз добраахвотнае ахвяраванне, асвячоных рэчаў, выкарыстанне

якіх не для набажэнскіх мэт забараняецца законамі Усяленскай царквы і караецца ёю як святатацтва — прыхаджанам адлучэннем ад яе, свяшчэннаслужыцелям — пазбаўленнем сана" [10. С. 75].

У многіх месцах вернікі выходзілі на абарону святынь, як гэта адбылося ў невялікім гарадку Шуі Іванаўскай губерні. Падзеі, што адбыліся там, сталі вядомы грамадскасці краіны і зводзіліся да наступнага. 15 сакавіка 1922 г. камісію па забіранні каштоўнасцяў на Саборнай плошчы сустрэў натоўп людзей, якія не дапускалі яе да працы. У прыехаўшую на дапамогу конную міліцыю паляцелі камяні і паленні. На калакольні сталі біць у набат. Хутка на месца здарэння прыбылі войскі. Спачатку яны зрабілі папераджальныя стрэлы ў паветра, што не ўздзейнічала на людзей, затым сталі страляць у натоўп. Былі забіты 4 і паранены 10 чалавек. 20 сакавіка Палітбюро ЦК РКП(б) разгледзела шуйскае здарэнне. Напярэдадні, 19 сакавіка, У. Ленін па-рэвалюцыйнаму жорстка і канкрэтна ставіць задачу даць бязлітасную бітву духавенству і падавіць яго супраціўленне з такой жорсткасцю, каб яно не забылася гэтага на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. "Чым большую колькасць прадстаўнікоў рэакцыйнага духавенства і рэакцыйнай буржуазіі ўдасца нам па гэтаму выпадку расстраляць, тым лепш, — рэзюміраваў У.Ленін. — Патрэбна менавіта зараз прывучыць гэту публіку так, каб на некалькі дзесяткаў гадоў ні аб ніякім супраціўленні яны на маглі і думаць" [8. С. 193]. Гэта быў заклік вынішчыць царкву як самастойную палітычную сілу і адначасова нанесці ўдар па іншадумстве ў краіне. Для выканання гэтай задачы Ленін прапанаваў актыўна выкарыстоўваць работнікаў Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ), Наркамата юстыцыі і рэвалюцыйных трыбуналаў.

Установкі Леніна праводзіліся ў жыццё. 8 мая 1922 г. па шуйскай справе Рэўтрыбунал прыгаварыў 11 чал. да вышэйшай меры пакарання, 4 — да 5 гадоў, 13 — да 3, 10 — да аднаго года пазбаўлення волі. Асуджаныя да расстрэлу звярнуліся з жалабай у Касацыйны аддзел Вярхоўнага трыбунала, які прыняў пастанову аб хадайніцтве перад УЦВК аб змякчэнні прыгавору. У выніку шасці асуджаным да вышэйшай меры пакарання прыгавор быў заменены на пяць гадоў пазбаўлення волі [8. С. 195]. У сувязі з тым, што канфіскацыя каштоўнасцяў рэлігійных храмаў усюды па губернях праходзіла з цяжкасцямі, на пасяджэнні Палітбюро ад 20 сакавіка было прынята рашэнне больш грунтоўна рыхтавацца да яе правя-

дзення. Таму рэкамендавалася некалькі адтэрмінаваць пачатак "раскулачвання" царквы, якое на беларускіх землях пачалося 26 красавіка. Арганізавана праходзіла кампанія рабавання храмаў у Віцебскай губерні. Тут было канфіскавана 10 пудоў 9 фунтаў 52 залатнікі 70 доляў срэбра, 1 фунт 93 залатнікі 10 доляў золата, 51 залатнік 81 доля каштоўнях камянёў, 725 руб. 25 кап. банкаўскага срэбра (мікалаеўскага), 207 руб. 55 кап. разменнай сярэбранай манеты, 985 руб. залатой манеты (мікалаеўскай), 75 свояў парчы, 16 пачак фальгі [13]. Члены камісій праяўлялі такую стараннасць, што нават забіралі рэчы, неабходныя для адпраўлення набажэнстваў. Аб гэтым сведчыць зварот настаяцеля Мікалаеўскага сабора г.Віцебска протаіерэя М.Акаловіча ад 5 мая 1922 г. Ён пісаў у камісію па канфіскацыі каштоўнасцяў: "Аказалася, што 1) з Кафедральнага сабора ў ліку сярэбраных каштоўнах рэчаў забраны 2 медныя лісты з малюнкамі. Гэта штампы для выканання адбіткаў антымінсаў, якія неабходны архірэю, і самі па сабе ніякай каштоўнасці не ўяўляюць; 2) у Кафедральным саборы пакінуты даразахавальніцы толькі на 2-х бакавых прастолах, а з галоўнага прастола даразахавальніца знята. Між тым па кананічных правілах праваслаўнай царквы даразахавальніца, як крыж і Евангелле, з'яўляюцца неабходнымі прыладамі кожнага прастола; 3) з 10 архірэйскіх панагій і столькіх жа архірэйскіх нагрудных крыжоў пакінуты камісіяй толькі адна старая неўжывальная панагія і адзін крыж без ланцужка, так што архірэю пры неабходнасці прыходзіцца адпраўляць набажэнства без архірэйскага крыжа і ўжываць звычайны іерэйскі крыж (...). У сувязі і вышэйпададзеным прашу камісію вярнуць у Кафедральны сабор 2 медныя лісты з відарысамі — штампы для выканання адбіткаў антымінсаў, адпусціць для архірэйскага набажэнства ў сабор сама меней адну добрую панагію, нагрудны архірэйскі крыж і адну даразахавальніцу" [11. С. 20]. З улікам просьбы былі вернуты толькі два медныя лісты і адна даразахавальніца.

"Татальнай рэвізіі" падвергліся праваслаўныя храмы Мінска. Толькі з 26 па 28 красавіка з васьмі цэркваў было канфіскавана: золата — адзін залатнік 28 долей; срэбра — 4 пуды 5 фунтаў 55 залатнікоў і 51 доля; брыльянтаў — 21 штука вагой 22 932 карата; жэмчугу — 12 залатнікоў [12; 13].

Атэістычныя варвары пайшлі нават на раскрыццё мошчаў Еўфрасінні Полацкай у Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры. Гэта адбылося 13 мая 1922 г. Усе каштоўнасці, у тым ліку сярэбраная рака вагой 40 пудоў, у якой ляжала святыня, былі

рэквізаваны. Пасля раскрыцця мошчы адправілі на атэістычную выставу ў Маскву, адтуль — у Віцебск, дзе дэманстравалі ў мясцовым краязнаўчым музеі.

Хутка пацвердзіліся сумненні вернікаў і духавенства аб выкарыстанні нарабаваных каштоўнасцяў не па прызначэнні. Замест дапамогі галадаючым яны паступалі ў дзяржаўныя сховішчы Аб гэтым сведчыла сакрэтнае прадпісанне УЦВК ад 28 красавіка 1922 г., накіраванае на месцы. "Каштоўнасці, адабраныя ў закрытых цэрквах, павінны ўлічвацца і накіроўвацца асобна ў асобнай графе, таму што яны паступаюць не ў ЦК Дапгал, — гаварылася ў дакуменце, — а павінны накіроўвацца ў дзяржаўны фонд і пры перасылцы гэтыя каштоўнасці трэба спакоўваць асобна з асобай адзнакай" [14. С. 51].

Ход канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў знаходзіўся пад кантролем вышэйшай партыйнай інстанцыі — Цэнтральнага Бюро КП(б)Б. 20 чэрвеня 1922 г. гэтае пытанне было разгледжана на яго пасяджэнні сумесна з прадстаўнікамі мясцовых партыйных арганізацый. Аб выкананні ленінскай устаноўкі "прывучыць" святароў сведчыў даклад з Мазыра: "Забіранне каштоўнасцяў прайшло гладка. У адной толькі воласці было супраціўленне на чале з папом. Поп прыгавораны да смяротной казні" [6. Ф. 4, воп. 21, спр. 474, арк. 40].

Вынішчэнне святароў адбывалася з дазволу дзяржаўнага кіраўніцтва рэспублікі. Ілюстрацыяй гэтаму з'яўляецца прыведзены вышэй прыклад. 23 красавіка 1922 г. на імя старшыні ЦВК БССР А.Чарвякова прыйшла тэлеграма, у якой паведамлялася, што ў Буйновіцкай воласці Мазырскага павета "пры адабранні царкоўных каштоўнасцяў узбуджаны святаром натоўп не дазваляе забіранне каштоўнасцяў. Камісія там чакае ўказанняў". Яны хутка з'явіліся і прадпісвалі: "Святара зараз жа арыштаваць і даставіць у Мінск для аддання пад суд..." [14. С. 51]. Аб далейшым яго лёсе чытачу вядома. На адзначаным пасяджэнні мясцовыя партыйныя кіраўнікі не жадалі раскрываць і паказваць свае варварскія аперацыі супраць духавенства. А яны вызначаліся жудаснымі вынікамі. У Бабруйскім павеце загінулі 22 служыцелі культу, у Мінскім — 49, у Магілёўскім — 61. Цяжка нават уявіць, што толькі ў 1922 г. у БССР быў расстраляны 201 прадстаўнік праваслаўнага духавенства [15. С. 51].

Праз абарваныя жыццё і кроў святароў, якія выступалі ў абарону святыняў ад рабавання, папаўнялася дзяржаўная

казна. Па даных, прадстаўленых міністрам фінансаў БССР Талунцісам, да 22 жніўня 1922 г. з храмаў Беларусі было адабрана: золата — 21 залатнік 28 доляў; срэбра — 30 пудоў 19 фунтаў 11 залатнікоў 5 доляў; брыльянтаў — 45 штук агульнай вагой 42 632 караты: жэмчугу — 12 залатнікоў; каштоўных камянёў — 52; медзі ў манетах — 33 фунты 27 залатнікоў 5 доляў [14. С. 51]. Па афіцыйных даных паступленні ў казну ад гэтай акцыі склалі 4 млн залатых рублёў. Няма ніякіх сумненняў у тым, што ўлады паказалі толькі частку вартасці канфіскаванага.

Наступленне бальшавікоў на рэлігійныя арганізацыі суправаджалася разгортваннем унутрыцаркоўнай барацьбы. Яна адлюстроўвала адносіны вышэйшых іерархаў да новага рэжыму. На гэтай глебе адбыўся раскол на "ціханаўцаў і абнаўленцаў". Патрыярх Ціхан з часткай іерархаў не падтрымалі "бязбожную ўладу", за што падвергліся рэпрэсіям. У сакавіку 1922 г. У.Ленін настойвае на тым, каб "усе сувязі гэтага дзеяча былі як мага падрабязней назіраемы і ўскрываемы... Абавязаць Дзяржынскага і Уншліхта асабіста рабіць аб гэтым даклад у Палітбюро кожны дзень" [8. С. 192]. Яго ўказанні садзейнічалі ўсталяванню жорсткага кантролю за дзеяннямі патрыярха. 6 мая 1922 г. Ціхан быў арыштаваны.

Сярод абнаўленцаў, якія падтрымлівалі бальшавіцкую ўладу, было тры асноўныя плыні. Яны не без "дапамогі" ДПУ вялі паміж сабой барацьбу за лідэрства. Гэта "жывая царква" на чале з протаіерэем У.Красніцкім (1880 — 1936), "Саюз суполак стараапостальскай царквы", якую ўзначальваў протаіерэй А.Увядзенскі (1888 — 1946), і "Саюз царкоўнага адраджэння" пад кіраўніцтвам епіскапа Антонія (А.А.Грануўскі, 1865 — 1927). Пакуль Ціхан, які знаходзіўся пад арыштам, чакаў вырашэння лёсу, аднаўленцы займаліся сваімі справамі. У красавіку — маі 1923 г. яны правялі Сабор. Асудзіўшы "контррэвалюцыйнае" духавенства і паслаўшы тэлеграму У.Леніну, абнаўленцы пазбавілі Ціхана сана патрыярха. На чале царквы быў пастаўлены Вышэйшы царкоўны савет (ВЦС) з 18 чал. Пасля гэтага 16 чэрвеня 1923 г. Ціхан быў вызвалены з-пад хатняга арышту.

Сабор выказаўся за пераход царквы на "новы" стыль календара, пабудову царкоўнага кіравання на калегіяльнай аснове. Скасоўваўся культ святых мошчаў, прывілеяваны стан манаства. Беламу духавенству дазвалялася займаць пасады епіскапаў, другі раз жаніцца. Але прыхільнікі Ціхана не ўспрымалі новаўвядзенні і заставаліся вернымі старым царкоўным канонам.

У 20-я гг. рух абнаўленцаў пачаў распаўсюджвацца на Беларусі, асабліва ў Магілёўскай епархіі. Тут 17 — 19 мая 1924 г. адбыўся Першы беларускі абласны царкоўны Сабор, які аб'яднаў абнаўленцаў на чале са Св.Сінодам і мітрапалітам Магілёўскім і Беларускім у Беларускую аўтаномную праваслаўную царкву (БАПЦ). У новае аб'яднанне ўвайшлі каля 500 прыходаў, што складала амаль палову ад іх агульнай колькасці. Мітрапалітам абралі былога епіскапа Віцебскага і Полацкага Серафіма, але ён хутка выехаў у Ніжні Ноўгарад. Таму рашэннем пленума Сінода ў жніўні 1924 г. абавязкі мітрапаліта стаў выконваць архіепіскап Таганрогскі Уладзімір. Такім чынам, на Беларусі дзейнічалі два мітрапаліты. Уладзімір прызваў Мельхісэдэка супрацоўнічаць з абнаўленцамі, але той адмовіўся ад прапановы і праводзіў ранейшую палітыку.

Абнаўленцы, падтрымліваемыя ўладамі, якія дабіваліся расколу царквы знутры, не карысталіся павагай у вернікаў, асабліва ў Мінску. Народ бачыў у іх агентаў бальшавіцкага рэжыму, аўтарытэт якога з кожным днём усё больш губляўся. Аб гэтым сведчаць абставіны прыбыцця ў 1923 г. у Мінск абнаўленчага епіскапа Сергія (Іванцова). Пасля адпраўлення некалькіх набажэнстваў у Свята-Пятро-Паўлаўскім кафедральным саборы вернікі больш не пусцілі яго ў сваю святыню, пасля чаго Сергій выехаў з Беларусі.

У выніку жорсткай антырэлігійнай палітыкі і агульнага крызісу абнаўленства Беларуская аўтаномная праваслаўная царква страчвала свае пазіцыі і ў снежні 1934 г. пастановай Св.Сінода праваслаўных цэркваў СССР была ліквідавана. Яе парафіі вярнуліся пад уладу Маскоўскай патрыярхіі [16. С. 641].

Мітрапаліт Мельхісэдэк не ішоў на кантакты з абнаўленцамі, праводзіў палітыку, накіраваную на беларусізацыю царквы. Як стала вядома зараз, 27 студзеня 1921 г. ўрад БНР накіраваў патрыярху Ціхану мемарандум, у якім прасіў зрабіць захады, каб:

1) ва ўсіх прыходах Беларусі прыходскія святары ў казаннях, катэхізацыі і наогул ва ўсім дадатковым набажэнстве карысталіся абавязкова беларускай мовай;

2) ва ўсіх беларускіх епархіях епіскапскія кафедры былі замешчаны епіскапамі-беларусамі, якія валодаюць беларускай мовай;

3) для беларускіх епархій былі выдадзены зборнікі, богаслужэбнікі, малітоўнікі і Новы Запавет на беларускай

мове, як гэта было зроблена яшчэ ў 1914 г. былым Св.Сінодам для Украіны.

Трэба адзначыць, што Ціхан з'яўляўся прыхільнікам ідэі ўзнаўлення сабарнасці праваслаўнай царквы, што прадугледжвала шырокую аўтаномію і самакіраванне ў прыходах, а таксама ўвядзенне нацыянальных моў у царкоўнае жыццё. Працуючы епіскапам Алеуцкім, а з 1905 па 1907 г. — архіепіскапам Нью-Йорка, ён дазволіў весці дадатковае набажэнства на англійскай мове, бо шмат хто з прыхаджан-амерыканцаў не разумеў па-руску. Надаючы асаблівую ўвагу паднятым у мемарандуме пытанням, Ціхан перадаў яго на абмеркаванне Св.Сінода і Вышэйшай царкоўнай рады. У пісьме на імя старшыні Рады Міністраў БНР патрыярх паведамляў, што пасля абмеркавання было пастаноўлена:

1) дазволіць прэасвяшчэнным беларускіх епархій (Літоўскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай, Полацкай і інш.) у выпадку паступлення ад большасці прыхаджан просьбаў аб ужыванні беларускай мовы ў так званым дадатковым богаслужэнні, у пропаведзях, катэхізацыі і інш. у тых храмах карыстацца беларускай мовай;

2) прапанаваць прэасвяшчэнным тых жа епархій прыступіць, калі акажацца магчымым, да выдання на беларускай мове пропаведзяў, богаслужэбнікаў і Новага Запавету.

Што датычыць пажадання ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі аб замяшчэнні беларускіх кафедраў у Беларусі асобамі, якія валодаюць беларускай мовай, то выканаць данае пажаданне не ўяўлялася магчымым, бо прыйшлося б змясціць некаторых епіскапаў, якія хоць і не валодалі беларускай мовай, але добрасумленна працавалі дзеля праваслаўнай справы ў Беларусі [17. С. 116, 117].

Пастанова была паслана ў беларускія епархіі, што выкарыстаў у сваёй дзейнасці Мельхісэдэк. Але з боку органаў ДПУ прымаюцца меры, каб пазбавіць яго магчымасці кіравання царквой. Для збору "кампрамату" пачаўся жорсткі кантроль за кожным крокам мітрапаліта. Сабраная інфармацыя штотыднёва перадавалася ў Маскву. Яна сведчыла аб тым, што Мельхісэдэк актыўна працаваў на ніве адраджэння рэлігійнага жыцця, рабіў першыя крокі на шляху беларусізацыі царквы. "Мясцовым рэакцыйным духавенствам на чале з Мельхісэдэкам прымаюцца ўсе меры да ўзмацнення свайго ўплыву на масы вернікаў шляхам арганізацыі звышштатных набажэнстваў, — паведамлялі работнікі ДПУ, — дзе распяваюцца перакладзеныя на беларускую мову цар-

коўныя песні і ўсялякімі абяцанкамі стараючца заахвоціць правінцыяльных папоў" [18. С. 40].

Каб не дапусціць удзелу Мельхісэдэка ў рэлігійным жыцці, улады абвінавачваюць яго ва ўтойванні каштоўнасцяў ў час праводзімай у 1922 г. кампаніі рабавання царквы. Мітрапаліту таксама інкрымінуюць агітацыю і прапаганду з мэтай звяржэння савецкай улады. Выдуманых абвінавачванняў было дастаткова для таго, каб у жніўні 1924 г. узбудзіць супраць яго крымінальную справу. Перад следчымі ставіцца задача "папрацаваць" так, каб кампрамату хапіла для абвяшчэння вышэйшай меры пакарання. Але знайсці ў дзеяннях Мельхісэдэка што-небудзь крымінальнае не ўдаецца. Таму "справа" накіроўваецца ў Маскву, адкуль дазваляюць не прымяняць "вышэйшую меру сацыяльнай абароны".

Тым часам 10 жніўня 1925 г. пачаўся судовы працэс, які працягваўся сем дзён. У абарону Мельхісэдэка і яго паплечнікаў дружна выступілі вернікі, грамадскасць сталіцы. Яны прысутнічалі ў зале пасяджэнняў суда, а тыя, каму не хапіла месца ў памяшканні, выказвалі сваю падтрымку, стоячы на вуліцы. У выніку немагчымасці абвінаваціць падсудных у інкрымінуемых ім "злачынствах" іх вымушаны былі апраўдаць. У лістападзе альбо ў пачатку снежня 1925 г. мітрапаліта выклікалі ў Маскву, і больш на Беларусь ён не вярнуўся. У сталіцы ён быў арыштаваны, а затым сасланы ў Краснаярск. Пасля падпісання дэкларацыі аб прызнанні Сергіеўскай царквы Мельхісэдэк атрымаў епіскапскую кафедру ў Краснаярску з тытулам архіепіскапа. У маі 1931 г. ён загадкава памёр у Маскве ў час падрыхтоўкі да правядзення службы [19. С. 262; 18. С. 43].

Пасля смерці 7 красавіка 1925 г. патрыярха Ціхана месцаахоўнікам патрыярхавага пасаду стаў адзін з яго бліжэйшых паплечнікаў мітрапаліт П. Круціцкі (П.Ф.Палянскі, 1862 — 1937). У снежні 1925 г. ён быў арыштаваны і сасланы ў Сібір, дзе, як зараз стала вядома, 10 кастрычніка 1937 г. абарвалася яго жыццё. Архірэйскі сабор РПЦ, які праходзіў у лютым 1997 г., прылічыў мітрапаліта Пятра да ліку свяшчэннамучанікаў . Раней, у 1988 г., быў кананізаваны патрыярх Ціхан.

У выніку ўнутрыцаркоўнай барацьбы намеснікам патрыярхавага месцаахоўніка стаў мітрапаліт Сергій (І.М.Старагародскі, 1867 — 1944), хаця ў спісе на гэту пасаду ён не значыўся. Хутка быў утвораны Сінод, прызнаны ўладамі. 29 ліпеня 1927 г. Сергій апублікаваў сваё пасланне аб змене царкоўнай

палітыкі і прызнанні савецкай улады. Нягледзячы на тое, што на ім стаялі подпісы яшчэ восьмі архірэяў, гэты дакумент атрымаў вядомасць як "Дэкларацыя мітрапаліта Сергія". Усе, каму дарагі інтарэсы Рускай царквы, адзначалася ў пасланні, абавязаны паказаць, што "мы, царкоўныя дзеячы, не з ворагамі нашай Савецкай дзяржавы... а з нашым народам і ўрадам" [10. С. 225]. Пасля апублікавання звароту на Беларусі знайшліся яго паслядоўнікі, якія атрымалі назву "сергіеўцы".

Ва ўмовах барацьбы паміж абнаўленцамі і сергіеўцамі з новай сілай паўстае ідэя ажыццяўлення аўтакефаліі, якая пасля 1922 г. не атрымала наступнага развіцця. Таму 9 — 10 жніўня ў Мінску прайшоў з'езд прадстаўнікоў Беларускай праваслаўнай епархіі, духавенства і міран пад старшынствам бабруйскага епіскапа Філарэта (Х.Раменскага). У ліпені 1922 г. ён удзельнічаў у абвяшчэнні аўтаноміі Беларускай праваслаўнай царквы. У сакавіку 1923 г. Філарэт быў узведзены ў сан архірэя. У той жа час адбылася хіратонія яшчэ двух протаіерэяў: Мікалая (Шамяцілы), які атрымаў прызначэнне ў Слуцк, і Іаана (Пашына), які адправіўся на жыхарства ў Петрыкаў з замацаваннем за ім кафедры ў Мазыры. Усе яны лічыліся вікарнымі Мінскай епархіі, але Філарэту, як бліжэйшаму да Мельхісэдэка епіскапу, належала першынство гонару.

З'езд абвясціў аб стварэнні самастойнай Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ). У яго адозве да вернікаў гаварылася: "Прайшло сумнае пяцігоддзе, на працягу якога пытанне Беларускай мітраполіі не толькі не пасунулася да пажаданага канца, але ўскладнілася рознымі абставінамі царкоўнага жыцця, пакуль нарэшце падзеі апошніх гадоў не прывялі беларускую царкву ў стан параліча. І тады жыццё зноў высунула тую ідэю аўтакефаліі, якую да гэтага часу падаўлялі царкоўныя веянні і плыні, нічога супольнага не маючыя з сапраўднымі інтарэсамі царквы. Беларускі з'езд, які толькі што закончыўся, увачавідкі паказаў, як глыбока гэта ідэя пранікла ў свядомасць епархіі і з якім аднадушшам яна была санкцыяніравана яго саборным розумам — з'ездам. Інакш не можа і быць. У тую пару, калі сувязі, якія раней злучалі царкоўную акругу з вышэйшым адміністрацыйным цэнтрам, ужо аджылі, калі гэтыя сувязі прыносяць ёй не карысць, а шкоду, гэтая акруга павінна шукаць апорнага пункту ў самой сабе, у свабоднай канцэнтрацыі сваіх жывых сіл, у арганізацыі свайго адміністрацыйнага ладу" [20. С. 40 — 41].

Кананічнае зацвярджэнне Беларускай аўтакефальнай царквы Сусветным патрыярхам не адбылося ў сувязі з тым, што з ім падтрымлівалі сувязі толькі абнаўленцы. Хаця гэта не спрыяла паляпшэнню яе дзейнасці, але тым не менш БАПЦ праіснавала ў рэспубліцы да 1937 г., калі ў ліпені ўсе святары-аўтакефалісты былі рэпрэсіраваны.

Нягледзячы на праводзімую ўладамі палітыку расколу, рэпрэсій святароў, ідэалагічнага ўціску, праваслаўная царква працягвала жыць. Абрабаваная, без маёмасці, не прызнаная законам, яна абвяргала марксісцкае вучэнне аб рэлігіі як аб класавай з'яве, абумоўленай эканамічнымі фактарамі. Таму ў канцы 20-х гг. сярод партыйна-ідэалагічнай эліты разгарнуліся спрэчкі аб далейшых адносінах да рэлігіі і царквы. Адны прызывалі весці барацьбу з "контррэвалюцыйнымі элементамі" на культурным фронце. Яркімі прадстаўнікамі гэтага кірунку з'яўляліся А.Рыкаў, М.Бухарын, А.Луначарскі і інш. Прыхільнікам "культурнай" барацьбы з рэлігіяй супрацьстаялі другія ідэолагі "ваяўнічага бязбожжа". Яны настойвалі на выкарыстанні бязлітасных метадаў, лічачы, што барацьба з рэлігіяй з'яўляецца адной з формаў класавай барацьбы. На такіх пазіцыях стаяў і сам І.Сталін. Таму гэты кірунак у канцы 20-х гг. узяў верх. Пачалася новая хваля канфрантацыі дзяржавы з царквой, якая працягвалася да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Гэта нанесла вялікую шкоду духоўнаму жыццю грамадства, непапраўныя людскія страты сярод свяшчэннаслужыцеляў, вернікаў, якія былі закатаваны ў гулагаўскіх засценках.

Непасрэдным повадам для наступу на царкву з'явіўся хлебанарыхтоўчы крызіс 1928 г. Надзвычайныя меры партыйна-ўрадавых структур выклікалі незадавальненне ў часткі сялянства, асабліва серадняцкай і заможнай, якая была найбольш блізкай да рэлігійных арганізацый. 13 красавіка 1928 г. на сходзе актыву маскоўскай партыйнай арганізацыі І.Сталін выступіў з дакладам "Аб работах Красавіцкага аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК". Ён правёў прамую аналогію з падзеямі 1921 г., калі духавенства "перашкаджала" канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў у карысць галадаючых. "Бацька народаў" заклікаў "звязаць шырокую масавую антырэлігійную кампанію з барацьбой за кроўныя інтарэсы народных мас і павесці яе такім чынам, каб яна, гэта кампанія, была зразумелай для мас, каб яна, гэта кампанія, была падтрымана масамі" [21. Т. 11. С. 50]. Крыху раней, у верасні 1927 г., у гутарцы з амерыканскай рабочай дэлегацыяй Сталін падкрэсліў немагчымасць партыі быць нейтральнай "у адносінах да рэакцый-

нага духавенства, якое атручвае сумленне працоўных мас" [21. Т. 10. С. 133].

Годам "вялікага пералому" становіцца 1929 год, калі канчаткова згортваецца НЭП, пачынаецца калектывізацыя. У грамадскую думку ўсё больш настойліва ўкараняецца "тэорыя" абвастрэння класавай барацьбы ў працэсе пабудовы сацыялізму. Прадстаўнікам царквы адводзіцца месца актыўнай контррэвалюцыйнай сілы, якая выступае супраць мерапрыемстваў дзяржавы. Сталін патрабуе ўзмацнення антырэлігійнай прапаганды. У палітычнай справаздачы ЦК XV з'езду УКП(б) ён заявіў: "У нас маецца яшчэ такі мінус, як аслабленне антырэлігійнай работы" [21. Т. 10. С. 324]. У сталінскім разуменні гэта азначала ўзмацненне эканамічнага ўціску, фізічнага тэрору, знішчэння як прадстаўнікоў духавенства, так і вернікаў.

Далейшы наступ дзяржавы на рэлігію, пералом у антырэлігійнай палітыцы азнаменавала пастанова ЦВК РСФСР "Аб рэлігійных аб'яднаннях", прынятая 8 красавіка 1929 г. На доўгія гады яна лягла ў аснову дзейнасці мясцовых савецкіх органаў па кантролі за рэлігійнымі арганізацыямі. Пастанова забараніла ўсялякую царкоўную дзейнасць па-за сценамі храмаў. Яна разглядалася як прапаганда, на якую мелі права толькі атэісты. Рэлігійным аб'яднанням забаранялася праводзіць спецыяльныя дзіцячыя, юнацкія, жаночыя, малітоўныя і іншыя сходы, ствараць групы для навучання рэлігіі. За межамі цэркваў дзейнасць духавенства абмяжоўвалася наведваннем хворых і паміраючых. На ўсе іншыя дзеянні патрабаваўся спецыяльны дазвол мясцовых Саветаў.

Нягледзячы на тое, што царква не атрымала права юрыдычнай асобы, усе рэлігійныя аб'яднанні на працягу года павінны былі прайсці рэгістрацыю. Мясцовым уладам давалася права адмаўляць у рэгістрацыі. У такім выпадку прыход закрываўся, а культавы будынак адбіраўся. Больш таго, мясцовыя органы мелі права кантраляваць склад "дваццатак", выключаць выбраных прыходам непажаданых асоб. Рэлігійным аб'яднанням забаранялася ўсялякая дабрачынная дзейнасць, нават у адносінах да свяшчэннаслужыцеляў і іх сем'яў, якія мелі патрэбу ў дапамозе.

Разам з драконаўскім заканадаўствам прымаліся меры эканамічнага ўдушэння рэлігійных абшчын. Яны разглядаліся як "даходныя" прыватныя прадпрыемствы і абкладваліся непамернымі падаткамі. Так, святар адной з цэркваў у Чэрвеньскім раёне быў абкладзены на суму ў 1972 руб., у той

час як яго даходы не перавышалі 50 руб. [6. Ф. 4, воп. 14, спр. 33, арк. 11].

Духавенства прымушалі падпісвацца на аблігацыі дзяржаўных пазык, здаваць грошы ў розныя фонды. У многіх выпадках нявыплата падатка або адказ ад той ці іншай падпіскі прыводзілі да арышту святароў і вернікаў, закрыцця прыходаў.

Пачатак 30-х гг. азнаменаваўся новай кампаніяй рабавання цэркваў. Яна пачалася канфіскацыяй званоў згодна з дырэктывай старшыні СНК СССР А.Рыкава ад 8 кастрычніка 1930 г. Улічваючы неабходнасць забеспячэння каляровымі металамі прамысловасці, электрабудаўніцтва і транспарту, прапаноўвалася ў кастрычніку — снежні 1930 г. і ў студзені — чэрвені 1931 г. атрымаць не менш 25 тыс. т лому, у тым ліку па РСФСР — не менш 20 тыс. т, па УССР — 4 і па БССР — не менш 1 тыс. т. У сувязі з пастунаўшымі з месцаў запатрабаваннямі 23 кастрычніка А.Рыкаў зрабіў тлумачэнне да ранейшай дырэктывы. "Я лічу залішнім выданне ў агульнасаюзным парадку спецыяльнага закона, — тлумачыў старшыня СНК, — і звярнуўся да старшынь СНК саюзных рэспублік з указаннем, каб яны далі неабходныя дырэктывы ведамствам, абл. (край) выканкамам і гарадскім саветам" [10. С. 286]. А.Рыкаў паставіў задачу як мага хутчэй ажыццявіць гэту задачу, таму што было вырашана выкарыстоўваць званы "для чаканкі мелкай разменнай манеты, якая да таго часу чаканілася з імпартнай медзі, не прыдаючы гэтаму палітычнага значэння і залішняй агалоскі" [10. С. 285].

Распачаўшы дэмантаж званоў, улады знішчалі апошнія каштоўнасці, якія засталіся ў храмах. Лом накіроўваўся на перапрацоўку на Маскоўскі электраліцейны завод. Гэта кампанія працягвалася да канчатковага спусташэння храмаў. Адзін з апошніх, вялікі звон Свята-Пятро-Паўлаўскага кафедральнага сабора ў сталіцы, быў зняты ў 1934 г. Зроблены напалову з срэбра, вагой 320 пудоў 16 фунтаў, ён быў дастаўлены ў Мінск са Слуцка ў 1870 г. Звон з'яўляўся падарункам слуцкіх князёў Свята-Троіцкаму Слуцкаму манастыру [22. С. 24]. Яго стваральнікі не маглі сабе ўявіць, што ў 30-я гг. XX ст. лёс наканаваў звону быць пераплаўленым у савецкіх мартэнах.

Па меры дэмантажу званоў на беларускіх абшарах сціхаў перазвон. Права на яго забарону прадастаўлялася выканаўчым камітэтам гарадскіх і раённых Саветаў. У большасці мясцін адмена перазвона і канфіскацыя званоў праходзіла

без супраціўлення вернікаў і духавенства. Гэта было характэрна, напрыклад, для Віцебска, дзе 30 чэрвеня 1933 г. мясцовыя ўлады забаранілі царкоўны перазвон у сувязі з тым, што ўжо ў той час прыхаджане і царкоўны актыў горада баяліся адкрыта асуджаць афіцыйную палітычную лінію. Больш таго, некаторыя служыцелі культу нават адзначалі ў гэтым станоўчыя моманты. Ва ўмовах эканамічнага ўдушэння не трэба было траціць грошы на ўтрыманне званароў [23. С. 15]. Вось чаму доўгія гады не цешыў слых вернікаў перазвон.

Пачатак калектывізацыі азнаменаваўся масавай хваляй рэпрэсій духавенства, галоўным чынам сельскіх святароў. У вёсцы пачалася вакханалія над вернікамі і царкоўнаслужыцелямі. Вось што паведамлялі пільныя чэкісты ў запісцы “Аб скажэннях, дапушчаных у царкоўных пытаннях па Беларусскай ССР”, накіраванай у партыйныя органы 12 красавіка 1930 г.: “У працэсе раскулачвання на месцах устаноўлены масавыя з’явы самачынных арыштаў прадстаўнікоў культа. Арышты праводзяцца ўсімі, каму ўгодна, — сельсаветамі, брыгадзірамі, асобнымі партыйцамі, камсамольцамі і г.д.” [6. Ф. 4, воп. 14, спр. 33, арк. 4]. З усёй рашучасцю “класаваму” ворагу даваўся бой. Многіх ссылалі ў Сібір, на Салаўкі, чым давалі хоць маленькі шанец выжыць. Прыгавораных да вышэйшай меры пакарання расстрэльвалі на месцы. Такі лёс напаткаў святара з в. Языль Старадарожскага раёна У.Хрышчановіча. Разам са святаром былі расстраляны псаломшчык В.Капачэня, староста Я.Палаўчэня, член царкоўнага савета С.Капачэня. Актыўныя прыхаджане С.Жук, Я. і Л.Палаўчэня, У.Насовіч, І.Корзун, В.Сасіноўская былі заключаны ў канцлагер. Такая трагічная гісторыя прыхода высвечвала жорсткасць адносін бальшавіцкай улады да простых людзей, “злачынствам” якіх з’яўлялася толькі вера ў Бога [24. С. 4].

Органы ДПУ БССР рабілі ўсё для таго, каб справамі пацвердзіць правільнасць сталінскага тэзіса аб абвастрэнні класавай барацьбы. Адзін за другім праходзяць гучныя працэсы. У 1930 г. “ствараецца” Саюз вызвалення Беларусі (СВБ), у 1933 — Беларускі нацыянальны цэнтр (БНЦ). Апошняму прыпісвалі мэту звяржэння савецкай улады шляхам узброенага паўстання пры ваеннай падтрымцы Польшчы. Па гэтай справе быў рэпрэсіраваны 161 чал.

На агульным фронце барацьбы з ворагамі савецкай улады без увагі чэкістаў не маглі застацца прадстаўнікі рэлігійных арганізацый. Для нагнятання “царкоўнай” істэрыі ў пачатку 30-х гг. органы ДПУ стварылі гучную справу пад назвай “Аб

контррэвалюцыйнай царкоўна-паўстанцкай арганізацыі ў Магілёўскім, Чавускім, Слуцкім, Віцебскім, Бешанковічскім і іншых раёнах БССР". На зашыфраванай чэкісцкай мове яна атрымала назву "Справа "Езуіт". Акрамя зрыву гаспадарча-палітычных кампаній "выкрытыя" арганізацыі абвінавачваліся ў падрыхтоўцы паўстання супраць улады вясной 1933 г. Па ёй праходзілі 79 чал., у тым ліку 5 епіскапаў, 48 святароў і дыяканаў, 12 іншых царкоўнікаў, 8 кулакоў, некалькі былых жандараў.

Роля стваральніка і кіраўніка слуцкай філіі царкоўна-паўстанцкай арганізацыі адводзілася мясцоваму епіскапу Мікалаю (Шамяціла). Ён абвінавачваўся ў актыўнай контррэвалюцыйнай агітацыі, расстрэле сумесна з белапалякамі камуністаў. Абвінавачванняў у свой адрас епіскап не прызнаваў, як і іншыя "сябры слуцкай філіі арганізацыі". Больш таго, калі падышла чарга падпісаць вынікі допыта, ён зрабіў заяву, занесеную ў пратакол: "Зараз цара і кулака няма. Але святароў савецкая ўлада ніколі не знішчыць. Калі адных арыштуюць, то знізу, з месцаў, будуць вырастаць новыя асобы духавенства... Наша цяперашняе жыццё безвыходнае, народ грабяць, расце злачыннасць. Таму прыйдзе час і савецкая ўлада звернецца за дапамогай да духавенства для рэлігійна-маральнага выхавання людзей. Веру нельга знічтожыць ніякай зброяй" [25].

Збыліся прароцкія словы епіскапа. Загубленым жыццём некалькіх пакаленняў святароў прыбліжаліся новыя адносіны да царквы. Але яму самому не ўдалося дажыць да такіх светлых часоў. 9 чэрвеня 1933 г. Шамяціла быў прыгавораны да васьмі гадоў лагераў, а праз сорак дзён ён памёр у шпіталі КДБ.

Палітыка рэпрэсій святароў і вернікаў суправаджалася закрыццём храмаў. Толькі на працягу 1930 г. па "просьбе насельніцтва" былі закрыты 573 царквы. Яны пераабсталёўваліся ў культурна-асветныя ўстановы, а пасля адпаведнай пастановы СНК БССР, прынятай у жніўні 1934 г., выкарыстоўваліся як склады, зернесховішчы. Вернікі не мірыліся з палітыкай руйнавання святыняў, выступалі ў іх абарону. У рэспубліцы на гэтай глебе назіраліся выпадкі сапраўдных бунтаў. Напрыклад, 12 сакавіка 1930 г. пасля арышту святара і царкоўнага старасты сакратар партячэйкі в. Сухарэвічы Лупалаўскага раёна Магілёўскай акругі разам з чатырма камсамольцамі прыйшлі ў мясцовую царкву здымаць іконы і рыхтаваць яе для пераабсталявання пад клуб. Хутка ў храм сабралася большая частка вяскоўцаў і запатрабавала пакінуць святыню.

Пакуль сакратар партячэйкі выклікаў міліцыю з раённага цэнтра, сярод вернікаў пачалася перастрэлка. Цяжка быў паранены ветэрынарны ўрач. Толькі пасля арышту 10 чал. удалося разагнаць натоўп [6. Ф. 4, воп. 14, спр. 33, арк. 9].

Выступленні вернікаў не маглі абараніць святыні. На 20 снежня 1936 г. у Беларусі была закрыта 1371 царква. Сярод дзейнічаўшых засталіся 74 храмы. Як бачна, да гэтага часу цалкам была парушана "сталінская" Канстытуцыя, 124 артыкул якой прадастаўляў права на свабоду веравызнання. Жудасную карціну ўяўлялі сабой многія гарады. Так, у Мінску з 20 цэркваў закрылі 15, у Віцебску з 17 — 16, у Магілёве з 18 — 15. Былі тут і свае рэкорды. У Шклоўскім раёне, дзе было 25 цэркваў, не засталося ні адной.

Акрамя закрыцця храмаў улады станавіліся на шлях вандалізму — іх разбурэння. З твару беларускай зямлі знікалі шэдэўры архітэктуры, рэлігійныя помнікі. Рабілася гэта з мэтай пазбавіць беларускі народ сваёй рэлігійна-нацыянальнай гісторыі, народных традыцый, выхаваць новыя пакаленні людзей-бязбожнікаў. Прыклад у гэтай агіднай справе падавала сталіца. У 1929 г. у Мінску разбурылі царкву пры вучылішчы сляпых, якая была ўзведзена ў 1909 г. з дапамогай мінскага ўрача І.Здановіча. На яе месцы пабудавалі Дом урада.

У 1925 г. закрываецца Свята-Пятро-Паўлаўскі кафедральны сабор, заснаваны ў 1613 г. У другой палове мая 1936 г. ён быў узарваны. Месца на Саборнай плошчы, дзе знаходзіўся храм (зараз плошча Свабоды), расчышчалі некалькі гадоў, каб зрабіць тут звярынец.

Улады не маглі змірыцца са становішчам, у якім апынуўся нядаўна пабудаваны Дом урада. З аднаго боку знаходзіўся касцёл св.Сымона і св. Алены, а з другога — праваслаўны Свята-Казанскі (прывакзальны) каменны храм. Трэба было выпраўляць становішча. Таму, каб не "псаваць" пейзаж, праз тыдзень пасля разбурэння кафедральнага сабора вырашылі сцерці з зямлі і гэты храм. Для выканання важнага спецыяльнага задання ў Мінск запрасілі будучага генерала П.Грыгарэнку, які ў 70-я гг. набыў шырокую вядомасць савецкага дысідэнта. У сярэдзіне 30-х гг. аб ім хадзіла слава як аб вядучым спецыялісце па падрыве храмаў. Зразумела, попыт на іх у той час у краіне быў вельмі вялікі. Паглядзець на вынікі працы прафесіянала прыйшлі першы сакратар ЦК КП(б)Б М.Гікала (1897 — 1938), старшыні СНК і ЦВК БССР М.Галадзед (1894 — 1937) і А.Чарвякоў, якія размясціліся на балконе Дома урада. Грыгарэнка не падвёў прысутных. Пасля выбуху, які прагрымеў раніцай, на месцы красаўца-храма

засталася гара развалін. Расчышчанае месца, дзе ўзвышаўся сабор, назвалі плошчай імя Мяснікова [22. С. 24].

У рэспубліцы праводзілася вялікая работа па разгортванні антырэлігійнай прапаганды. Па рашэнні ЦК КП(б)Б гэтыя пытанні былі ўключаны ў план вывучэння ў сетцы партыйнай і камсамольскай палітасветы. Не абыходзіў тэму барацьбы з "царкоўнай ідэалогіяй" рэспубліканскі і мясцовы друк, асабліва напярэдадні рэлігійных свят. Тады старонкі газет і часопісаў пачыналі стракацець такімі артыкуламі, як "Каму патрэбны вялікдзень?", "Паходжанне тройцы", "Паходжанне і класавая сутнасць каляд" і інш.

Састаўной часткай антырэлігійнай прапаганды з'яўлялася работа па ўкараненні новых савецкіх абрадаў, свят. Яна накіроўвалася на тое, каб адарваць насельніцтва ад царквы, рэлігійна-нацыянальных традыцый, якія складваліся вякамі. Мясцовыя ўлады пачалі з галоўнага — замест хрышчэнняў і вянчанняў сталі ўкараняць акцябрыны, чырвоныя вяселлі. Яны вельмі дасканала рыхтаваліся, але ператвараліся ў чарговае палітычнае мерапрыемства з прысутнасцю мясцовых партыйных і савецкіх кіраўнікоў, спяваннем "Інтэрнацыянала". У 1925 г. у БССР у сярэднім у месяц праходзіла 300 акцябрын, 80 чырвоных вяселляў [26. С. 70].

Такая запалітызаванасць новых актаў, адарванасць ад сямейных, народных традыцый, гістарычных каранёў не выклікала вялікай цікавасці ў насельніцтва, таму многія маладыя бацькі жадалі ахрысціць дзіця ў царкве. Сярод іх сустракаліся камсамольцы, камуністы, якія за адпраўленне рэлігійных абрадаў караліся выключэннем з партыі, камсамола. На такой жорсткай меры пакарання настойваў У.Ленін, аб чым сведчаць выказванні будучага правадыра Саюза ваяўнічых бязбожнікаў (СВБ) Е.Яраслаўскага (М.Губельман, 1878 — 1944). У 1921 г. ён накіраваў у газету "Правда" артыкул, у якім прапаноўваў строга караць камуністаў, якія адпраўлялі рэлігійныя абрады. Ва ўмовах разгортвання НЭПа, калі ў грамадстве ўсталёўваліся некаторыя дэмакратычныя свабоды, рэдакцыя засумнявалася ў правільнасці такой пастаноўкі пытання і вырашыла пазнаёміць са зместам артыкула Леніна. Прачытаўшы рукапіс, ён налажыў рэзалюцыю: "Друкаваць абавязкова. А такіх камуністаў гнаць вон з партыі" [27. С. 77].

У Беларусі гэтая ленінская ўстаноўка цвёрда выконвалася на працягу ўсіх гадоў знаходжання камуністаў на чале ўлады. З далёкіх 20-х гг. бярэ пачатак традыцыя выключэння з партыі абвінавачаных у правядзенні рэлігійных абрадаў. З

кожным годам дысцыпліна станавілася ўсё больш жорсткай, як і колькасць выключаных па гэтай прычыне з радоў УКП(б). Калі ў 1926 — 1927 гг. да адказнасці былі прыцягнуты 55 чал., з іх 31 выключаны з партыі, то ў 1928 г. гэтыя паказчыкі склалі адпаведна 108 і 74 чал. [28. С. 26].

Надзеі на размыванне не толькі рэлігійных, але і нацыянальных традыцый ускладаліся на новыя масавыя святы, якія распрацоўваліся партыйнымі ідэолагамі. Напрыклад, замест праваслаўнага свята Пакровы стаў укараняцца Дзень ураджая. Але новыя рытуалы, абрадавыя формы не прыжываліся ў народзе, таму што ў іх не выкарыстоўвалася багатая спадчына традыцыйнай абраднасці беларусаў, не захоўвалася культурная пераемнасць.

Ударнай сілай у сістэме глумлення над царквой з'яўлялася дзейнасць Саюза ваяўнічых бязбожнікаў (СВБ), разгорнутая ў краіне ў 1925 г. У Беларусі такая арганізацыя пачала ствараецца пазней, калі 30 сакавіка 1926 г. у адпаведнасці з пастановай сакратарыята ЦК КП(б)Б пачаў працаваць часовы орган — бюро па стварэнні таварыства [6. Ф. 4, воп. 7, спр. 101, арк. 251]. Калі на 1 студзеня 1930 г. у радах СВБ БССР налічвалася 42 200 чал., то ў 1932 г. іх колькасць дасягнула 217 тыс., якія аб'ядноўваліся ў 3 тыс. ячэек. У рады гэтай арганізацыі ўцягваліся піянеры і школьнікі ва ўзросце ад 14 гадоў. У 1932 г. налічвалася 102 тыс. юных бязбожнікаў [29. С. 204].

Палітыка фарсіраванай пабудовы сацыялістычнага грамадства накладвала адбітак на дзейнасць гэтай арганізацыі. З прыняццем другога пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі 5 мая 1932 г. СВБ СССР абвясціў сваю пяцігодку. У 118 пунктах праграмы намячаліся меры поўнага знішчэння рэлігіі на ўсіх абшарах краіны. На 1932 г. планавалася закрыццё застаўшыхся рэлігійных устаноў, у першую чаргу рыхтаваўшых кадры духавенства; на 1933 г. — ліквідацыя манастыроў, вынішчэнне абраднасці ў сямейным жыцці, забарона ўсялякіх рэлігійных публікацый, прапаганда атэізму праз кіно; на 1934 г. — дэпартацыя духоўных асоб, якія не адракліся ад святарства; на 1935 г. — пераўтварэнне культавых будынкаў у культурна-асветныя ўстановы; на 1936 г. — умацаванне заваяваных пазіцый у рэлігійнай барацьбе. На 1937 г. намячалася святкаванне перамогі канчатковага знішчэння ўсялякіх слядоў рэлігіі на ўсёй тэрыторыі СССР.

Аднак ваяўнічым бязбожнікам не ўдалося за кароткі тэрмін пераўтварыць абшары вялікай краіны ў рэлігійную "пустыню". Нягледзячы на руйнаванне храмаў, рэпрэсіі святароў,

моцны антырэлігійны ўціск, значную частку насельніцтва складалі веруючыя. Аб гэтым сведчыў праведзены 6 студзеня 1937 г. усесаюзны перапіс насельніцтва. Ён паказаў, што сярод насельніцтва ва ўзросце ад 16 гадоў веруючых налічвалася 57 %, альбо 56 млн чал. [30. С. 99 — 101]. Гэта з'явілася адной з прычын таго, што вынікі перапісу былі "рэпрэсіраваны", не надрукаваны. Больш таго, у крытычным становішчы апынулася сама арганізацыя СВБ СССР. Калі ў 1932 г. у яе радах налічвалася 5 млн сяброў, то ў 1937 г. — каля 2 млн. На грані развалу знаходзілася беларуская арганізацыя. У сярэдзіне 30-х гг. яе дзейнасць была парушана павальнымі арыштамі штатных работнікаў і актывістаў. З 27 членаў Цэнтральнага савета (ЦС) СВБ 26 было выведзена з яго складу, у тым ліку 9 як "ворагі" народа. З абвінавачваннем у шпіянажы быў арыштаваны і расстраляны сакратар ЦВК БССР, старшыня Цэнтральнага савета СВБ М.Ляўкоў. Ён праходзіў па справе выдуманай арганізацыі "Аб'яднанае антысавецкае падполле" (ААП). Такое становішча прывяло да распаду многіх пярвічных арганізацый. У 1937 г. СВБ налічваў каля 35 тыс. чал. [6. Ф. 4. воп. 3, спр. 433, арк. 96].

У кастрычніку 1937 г. ЦК КП (б)Б з мэтай карэннага пералому ў дзейнасці СВБ, актывізацыі антырэлігійнай прапаганды прыняў рашэнне аб стварэнні рэспубліканскага Аргбюро Саюза ваяўнічых бязбожнікаў. На яго ўскладаліся наступныя задачы: у двухмесячны тэрмін правесці перарэгістрацыю членаў і разгарнуць работу па ўцягненні новых, аднавіць распаўшыяся ячэйкі на месцах, правесці раённыя, гарадскія, акруговыя канферэнцыі і рэспубліканскі з'езд СВБ. Перад СНК БССР была пастаўлена задача пры разглядзе каштарыса СВБ на 1938 г. прадугледзець павелічэнне штатаў цэнтральнага апарату, утрыманне штатных сакратароў СВБ ва ўсіх акруговых, гарадскіх і раённых пагранічных цэнтрах, водпуск сродкаў на выдавецкую работу і на дзейнасць курсаў антырэлігійнікаў [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 433, арк. 101, 102].

28 кастрычніка 1938 г. бюро ЦК КП(б)Б, разгледзеўшы пытанне "Аб узмацненні антырэлігійнай прапаганды і агітацыі ў Беларусі", прыняло меры, накіраваныя на ўзмацненне дзейнасці Аргбюро ЦС СВБ БССР. Было прынята рашэнне накіраваць на пастаянную работу ў Цэнтральны савет не менш як 5 членаў партыі і ў якасці пазаштатных інструктараў 15 камсамольцаў. Для арганізацыі антырэлігійнай работы ў школах і дамах сацкультуры пры Наркамасветы і

аддзелах народнай адукацыі ўводзіліся пасады штатных інструктараў, метадыстаў-антырэлігійнікаў.

У сувязі з устаноўкамі ЦК КП(б)Б прайшла ўсебеларуская нарада культпрапаў райкамаў і гаркамаў КП(б)Б, якая абмеркавала пытанні ўзмацнення атэістычнага выхавання, аказання дапамогі арганізацыям СВБ. На працягу 1939 г. ва ўсіх раёнах адбыліся канферэнцыі, якія абралі раённыя саветы гэтай арганізацыі. На пачатак 1940 г. налічвалася 2857 ячэек, якія аб'ядноўвалі 90 913 чал. На працягу 1940 г. шэрагі арганізацый папоўнілі яшчэ больш за 12 тыс. чал. [31. С. 122, 123]. У сакавіку 1940 г. была створана лектарская група ЦС СВБ БССР у складзе 75 чал. Яна аб'яднала лепшыя інтэлектуальныя сілы з ліку вучоных, выкладчыкаў ВНУ. У яе ўвайшлі 3 акадэмікі, 7 прафесараў, 10 дацэнтаў, 30 выкладчыкаў, якія закончылі аспірантуру. Да канца года члены групы 803 разы выступілі перад насельніцтвам. Акрамя таго, толькі ва ўсходніх абласцях сіламі раённых і абласных саветаў СВБ было прачытана больш за 14 тыс. лекцый па атэістычнай тэматыцы.

Разгортванне антырэлігійнай прапаганды было немагчыма без наяўнасці адпаведных кадраў. Добра ўсведамляючы гэта, ЦК КП(б)Б у 1937 — пачатку 1941 г. узмацніў работу па падрыхтоўцы кадраў атэістаў шляхам правядзення семінараў і курсаў. У 1940 г. у Мінску двойчы былі арганізаваны месячныя курсы для гэтай катэгорыі ідэалагічнага актыву. Па 320-гадзіннай праграме прайшлі падрыхтоўку 103 слухачы. У тым жа годзе прэзідыум АН БССР стварыў групу па навуковым даследаванні праблем атэізму, куды ўвайшлі відныя вучоныя. Сярод іх былі акадэмікі С.Вальфсон (1844 — 1941), М.Нікольскі (1877 — 1959), Ц.Годнеў (1893 — 1982) і інш. [31. С. 124].

Разгортванне атэістычнай прапаганды суправаджалася ўзмацненнем новай хвалі рэпрэсій супраць святароў, якая пачалася ў 1937 г. Пад дыктоўку Масквы партыйныя ідэолагі разам з органамі НКУС стваралі вобраз новага ворага — "царкоўнікаў усіх колераў і адценняў", якія аб'ядноўваліся з "трацкістамі, бухарынцамі, іншымі дыверсантамі" і ажыццяўлялі свае контррэвалюцыйныя мэты. Аб узмацненні варожай дзейнасці служыцеляў культу канстатавалася ў пастанове бюро ЦК КП(б)Б "Аб становішчы антырэлігійнай прапаганды ў Беларусі", прынятай 7 кастрычніка 1937 г. [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 443, арк. 101, 102].

Прадстаўнікі духавенства абвінавачваліся ў тым, што "варожа" растлумачвалі Канстытуцыю, збіралі сродкі і подпісы

сярод насельніцтва для адкрыцця старых і нават будаўніцтва новых цэркваў, прымалі захады па развале калгасаў, узмацненні свайго ўплыву на моладзь.

Устаноўка на неабходнасць барацьбы з рэлігійнымі арганізацыямі, якая закладвалася ў пастанове ЦК КП(б)Б, садзейнічала актывізацыі работы органаў НКУС па "выкрыцці" шпіёнскіх арганізацый, у якіх удзельнічалі і прадстаўнікі духавенства. У ліпені — верасні 1937 г. з мэтай расправы над астатнімі дзеячамі БАПЦ фабрыкуецца справа "Беларуская аўтакефальная царква". Паводле версіі НКУС гэта "шпіёнска-паўстанцкая арганізацыя" пачала фарміравацца яшчэ ў 1918 г. у час акупацыі Мінска немцамі. Да арыштаў нібыта ў Асіповіцкім, Барысаўскім, Клічаўскім, Смілавіцкім, Чавускім раёнах дзейнічалі 13 контррэвалюцыйных груп. Усяго было арыштавана больш за 200 чал., у тым ліку 2 архіепіскапы, 30 святароў. Кіраўніком арганізацыі абвясцілі епіскапа Філарэта (Х.Раменскага). Яго блізкімі паплечнікамі нкусаўцы вызначылі 12 чал., сярод іх архіепіскапа Афанасія (Х.Вячорку), святароў Мінскай аўтакефальнай царквы Марыі Магдаліны С.Кульчыцкага, А.Кіркевіча, М.Рубановіча і рэгента П.Вяршынскага, святара Дзяржынскай царквы С.Садоўскага, дыяканаў Я.Бараноўскага, У.Лобача і інш. "Удзельнікаў" арганізацыі абвінавацілі ў "контррэвалюцыйнай агітацыі супраць калгасаў", у тым, што яны "па ўказаннях Раменскага праводзілі на практыцы унію з рымска-каталіцкай царквой, прыцягвалі да царквы антысавецкі актыў каталікоў". Рашэннем асобай тройкі НКУС БССР ад 25 кастрычніка 1937 г. да вышэйшай меры пакарання былі прыгавораны 11 кіраўнікоў арганізацыі. 1 лістапада таго ж года прыгавор быў прыведзены ў выкананне [32. Т. 1. С. 367].

У сакавіку 1938 г. была раскрыта "шпіёнска-паўстанцкая арганізацыя" пад кіраўніцтвам мітрапаліта П.Блінова. Па даных НКУС, яна мела контррэвалюцыйныя групы ў Аршанскім, Лепельскім, Магілёўскім, Мазырскім, Слуцкім і Талочынскім раёнах, у якіх прымалі ўдзел мясцовыя святары. Па інфармацыі наркама ўнутраных спраў А.Наседкіна, датаванай 26 чэрвеня 1938 г. і дасланай у ЦК КП(б)Б, толькі за 1937 г. і пяць месяцаў 1938 г. было асуджана 3247 служыцеляў культу, у тым ліку адзін мітрапаліт, 5 архіепіскапаў, 420 святароў і манахаў.

Такім чынам, вынікам канфрантацыйнай палітыкі супраць праваслаўнай царквы з'явілася тое, што да пачатку 40-х гг. ва ўсходняй частцы Беларусі гвалтоўна былі закрыты ўсе цэрквы.

Засталіся дзейнічаць толькі два храмы, дзе час ад часу праводзіліся набажэнствы [33. С. 140]. Але галоўнай стратай царквы сталі служыцелі культу. Каля 2000 духоўных асоб загінулі ў гулагаўскіх лагерах ці былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны на месцы [20. С. 42].

Уціск адчулі на сабе і суполкі стараверaў, тым больш што асобныя іх кіраўнікі варожа адносіліся да бальшавіцкай улады. Закрываліся іх цэрквы, малельныя дамы (в. Падлазчыкі Віцебскага раёна і інш.) [34. С. 36]. Але адміністрацыйныя меры былі малаэфектыўнымі, таму што стараверы назапасілі каштоўны вопыт выжывання ў час рэлігійных праследаванняў яшчэ з дарэвалюцыйных часоў.

Бальшавікі прадоўжылі традыцыі, закладзеныя царскім урадам, па правядзенні непрымірымай барацьбы з каталіцкай царквой. Пачаўся новы этап шматгадовай канфрантацыі з Ватыканам. Гэта было звязана з тым, што Папа Бенедыкт XV асудзіў Кастрычніцкую рэвалюцыю, а ў жніўні 1918 г. праз магілёўскага мітрапаліта Эдварда дэ Ропа звярнуўся да савецкага ўрада з хадайніцтвам аб лёсе царскай сям'і Раманавых. Папскі прастол выказаў сваю вялікую заклапочанасць праследаваннямі праваслаўнага духавенства і ў сувязі з гэтым 12 сакавіка 1919 г. выразіў свой пратэст У. Леніну [35. С. 35].

З вялікай незадаволенасцю Масква сустрэла мемарандум Папы ад 9 мая 1922 г., накіраваны Генуэзскай канферэнцыі. "У гістарычны час, калі абмяркоўваецца пытанне аб тым, каб ізноў дапусціць Расію ў сям'ю цывілізаваных народаў, — адзначалася ў ім, — Святы Прастол выражае пажаданне аб ахоўванні інтарэсаў рэлігіі, якая з'яўляецца асновай усялякай цывілізацыі" [36. С. 458]. Прапаноўвалася ўнесці ў пагадненне паміж дзяржавамі тры ўмовы, якія тычыліся рэлігійных пытанняў у Расіі. Гэта гарантыя поўнай свабоды сумлення ўсіх расійскіх грамадзян, як прыватнага, так і публічнага адпраўлення рэлігійных культаў, вяртанне рэлігійным абшчынам нерухомай маёмасці, якая належала ім да рэвалюцыі [36. С. 458 — 459].

Не садзейнічала паляпшэнню адносін бальшавікоў з Апостальскім Прастолам высылка ў 1924 г. з тэрыторыі СССР ватыканскай місіі дапамогі галадаючым у Расіі, якая прыступіла да працы ў 1922 г. У склаўшыхся ўмовах прапагандысцкая машына аблівала Ватыкан брудам, у ход ішлі інсінуацыі, хлусня, жорсткія выпады ў бок каталіцкіх іерархаў. Гэта адзначаў нават антырэлігійны друк: "Супраць каталіцкага клерыкалізму вядзецца больш жорсткае змаган-

не, чым супраць расійскай царквы таму, што каталіцкая арганізацыя мацнейшая, чым праваслаўная, і таму, што каталіцкая ідэалогія больш прынараўліваецца да агульных умоў жыцця" [37].

Партыйна-дзяржаўныя структуры БССР хвалявала тая акалічнасць, што ў пачатку 20-х гг. адраджэнцкі рух даволі глыбока пранік у каталіцкія ўстановы рэспублікі. Нягледзячы на розныя перашкоды, раслі рады беларускага каталіцкага духавенства. Гэта ў першую чаргу было звязана з жаданнем нацыянальна свядомай моладзі паступаць у духоўныя вучэбныя ўстановы. У 1914 г., напрыклад, у Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі налічвалася 70 беларусаў. Усе яны ўваходзілі ў гурток, які праводзіў актыўную работу па фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці будучых ксяндзоў. Падтрымліваў і накіроўваў дзейнасць гуртка прафесар Б.Эпімах-Шыпіла (1859 — 1934) [38. С. 28].

Актывізацыі беларускага каталіцкага руху садзейнічала стварэнне ў маі 1917 г. у Пецярбургу беларускай клерыкальнай партыі — Хрысціянскай дэмакратычнай злучанасці (ХДЗ), якая аб'ядноўвала невялікія гурткі беларускай інтэлігенцыі з настаўнікаў, слухачоў духоўнай акадэміі, клерыкалаў Мінска. 8 лістапада 1917 г. пад рэдакцыяй ксяндза Лук'яна Хвецкі стала выходзіць газета "Беларуская крыніца".

У 1917 г. у Мінску аднавілася дыяцэзія, зачыненая яшчэ ў 1869 г. 2 кастрычніка першым яе біскупам быў прызначаны магілёўскі канонік Ж.Лазінскі. Ён стараўся ўкараніць беларускую мову ў каталіцкае жыццё, паказваючы ў гэтым асабісты прыклад. Акрамя Мінскай на абшарах Беларусі працягвалі дзейнічаць Віленская і Магілёўская дыяцэзіі. У іх склад уваходзілі 456 парафій са 157 філіяламі і 162 капліцамі. Тут працавалі 917 ксяндзоў. Агульная колькасць вернікаў складала 2 млн 429 тыс. чал. [39. С. 246].

Палітыку беларусізацыі касцёла праводзіў магілёўскі мітрапаліт Эдвард дэ Роп. Мітрапалітальны пасад ахопліваў тэрыторыі Беларусі, Украіны без Галіцыі, Расіі без Саратаўскай дыяцэзіі, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі. У першым жа пастырскім лісце мітрапаліт падкрэсліваў неабходнасць ужывання беларускай мовы ў касцёлах. Ён сам пачаў вывучаць яе, ужо знаходзячыся ў сталым узросце. Лік парафій з беларускімі казаннямі ўзрастаў. Гэтаму садзейнічаў з'езд каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў, які

адбыўся 24 — 25 мая 1917 г. у Мінску. Ён выказаўся за беларусізацыю касцёла.

Важнай падзеяй у каталіцкім жыцці з'явілася адкрыццё 1 кастрычніка 1918 г. у Мінску Каталіцкай духоўнай семінарыі. Яе ўзначаліў ксёндз, доктар філасофіі, выкладчык Пецярбургскай семінарыі Ф.Абрантовіч (1884 — 1946). У лістападзе 1918 г. ён прыехаў з Пецярбурга ў Мінск, дзе ўзначаліў мінскую арганізацыю ХДЗ, у якую ўваходзіла больш за 500 членаў. Семінарыя налічвала 29 клерыкаў, з якіх 25 з'яўляліся беларусамі. Тут дбалі пра нацыянальнае адраджэнне, аб чым сведчыла стварэнне кафедры беларускай мовы. Кожную нядзелю многа вернікаў з Мінска і акругі збірала капліца, дзе Абрантовіч на беларускай мове адпраўляў святую Імшу, а хор спяваў беларускія царкоўныя песні. Набажэнствы, якія праводзіў прафесар, наведваў Янка Купала. Такія спрыяльныя ўмовы для каталіцкага жыцця склаліся ў сталіцы дзякуючы стварэнню семінарыі. Але яны існавалі нядоўга. Пад узрастаючым уціскам улад у 1920 г. семінарыя была пераведзена ў Навагрудак.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. група рэлігійных дзеячаў, асабліва Антон (1884 — 1946) і Іван (1881 — 1919) Луцкевічы, скіроўваюць намаганні на аднаўленне ў Беларусі грэка-каталіцкай царквы, сімпатыі да якой працягвалі жыць у народзе. Таму дзеячы беларускага адраджэнцкага руху з самага пачатку яго існавання ўключылі ў праграму сваёй дзейнасці пытанні адраджэння уніяцкай царквы. У календарах, якія выдавала рэдакцыя газеты "Наша Ніва", у раздзел свят былі ўведзены тры рубрыкі: для праваслаўных, каталікоў і уніятаў. У праграме Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай злучанасці, распрацаванай у 1917 г., падкрэслівалася, што "на Беларусі ХДЗ ставіць спецыяльнай мэтай зближаць усіх каталікоў і праваслаўных, аб'яднаць іх у адной веры з рознымі абрадамі" [38. С. 63].

Цэнтрам адраджэння уніяцкай царквы на ўсходніх абшарах Беларусі становіцца Магілёў, дзе з красавіка 1918 г. дэканам працуе Язэп Белагаловы. За актыўную дзейнасць на ніве рэлігійнага адраджэння ксёндз быў арыштаваны і 13 месяцаў знаходзіўся ў турме. Пасля выхаду на свабоду ён працягвае пачатую справу. 13 чэрвеня 1922 г. Белагаловы запрашае на свята Св.Антонія ў Магілёў усходнекаталіцкага расійскага экзарха Л.Фёдарава, нядаўна назначанага на гэтую пасаду мітрапалітам

А.Шаптыцкім. Айцец Леанід правёў два ўсходнекаталіцкія набажэнствы ў Магілёве і адно ў сельскай мясцовасці. Пасля службаў да яго падыходзілі вернікі з падзякай і просьбай прыехаць яшчэ раз. Экзарх паабяцаў гэта зрабіць не адкладваючы — у бліжэйшыя месяцы. Але намечаным планам не было дадзена ажыццявіцца. Наведаць у другі раз Магілёў ён не змог па прычыне арышту. Так была спынена работа па адраджэнні уніяцкага жыцця. Нягледзячы на палітыку руйнавання царквы, якая ўсё больш набірала моц, у 1923 г. апостальскі пасад па прапанове мітрапаліта А.Шаптыцкага афіцыйна аднавіў Мінскую ўсходнекаталіцкую епархію. Аднак у сувязі з ганеннямі на рэлігію яна не была адкрыта [38. С. 66].

На агульным фоне актывізацыі каталіцкага жыцця разгортвалася кампанія рэпрэсій супраць духавенства. Арышты, забойствы, здзекі працягваліся некалькі дзесяцігоддзяў. Пачатак гэтаму паклаў арышт у ноч з 16 на 17 красавіка 1919 г. магілёўскага мітрапаліта Эдварда дэ Ропа. Вернікі выступілі ў яго абарону. Актыўнасцю вызначаліся католікі Пецярбурга. 27 красавіка некалькі тысяч чалавек пасля службы ў касцёле св.Кацярыны з крыжам наперадзе і рэлігійнымі спевамі накіраваліся да будынка ДПУ, каб выказаць просьбу выпусціць на волю архібіскупа. У адказ былі выкліканы войскі, якія пачалі пагражаць расстрэлам. Але пагрозы не выклікалі панікі ў дэманстрантаў і ніхто не рушыўся з месца. У сувязі з гэтым быў аддадзены загад прыкладамі заганяць людзей у двор ДПУ, дзе іх і арыштоўвалі. Праз некалькі тыдняў мітрапаліта адправілі ў Маскву, а ў кастрычніку таго ж года ў форме абмену вывезлі ў Польшчу [40. С. 5]. Мітрапалітальны пасад заняў Я.Цепляк, якога ў хуткім часе напаткаў такі ж лёс.

Улады таксама рыхтавалі арышт мінскага біскупа Ж.Лазінскага. Папярэджаны дасведчанымі асобамі аб плануемым акце, пераапрануўшыся ў вопратку селяніна, ён змог выехаць у Навагрудак. Гэта была вялікая няўдача чэкістаў. Не ведаючы, дзе знаходзіцца Лазінскі, улады аб'явілі вышук. Таму, хто выдасць святарнаслужыцеля, абяцалася ўзнагарода ў суме 100 тыс. руб. Аднак біскупу ўдалося выратавацца ад арышту і ў далейшым прадоўжыць рэлігійную дзейнасць у Заходняй Беларусі.

Канфрантацыя рымска-каталіцкай царквы з уладамі ўзмацнілася пасля таго, як яе духавенства і вернікі адмовіліся выконваць дэкрэт УЦВК СССР аб канфіскацыі каштоўнасцяў, якія захоўваліся ў касцёлах, у фонд галадаючых Павол-

жа. Каталіцкае духавенства разглядала гэты акт як парушэнне Рыжскага дагавора, самавольства і гвалт у адносінах да касцёла. Непахісную пазіцыю занялі ў гэтым пытанні ксяндзы Мінска, запрошаныя 8 сакавіка 1922 г. на пасяджэнне камісіі разам з прадстаўнікамі іншых канфесій. Прапаноўвалася прадставіць вопісы і інвентарныя кнігі маёмасці, а таксама выказаць свае адносіны да дэкрэта аб канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў. Ксёндз Васілеўскі адзначыў, што каталіцкае духавенства і парафіяне будуць глядзець на гэтыя дзеянні як на насілле, бо касцёл як у дагматычных, так і ў маёмасных адносінах цалкам падпарадкоўваецца Папе рымскаму. І калі прадстаўнікі камісіі загадалі перадаць ключы ад Мінскага кафедральнага касцёла і прысутнічаць пры экспрапрыяцыі каштоўнасцяў, яны рашуча адмовіліся. Ксяндзы Васілеўскі, Лісоўскі і Тамашэўскі, а таксама 10 грамадзян, прадстаўнікоў групы веруючых каталікоў, былі арыштаваны і аддадзены пад суд. Толькі шляхам насілля ўдалося зламаць супраціўленне каталіцкага духавенства і вернікаў у Мінску.

Вялікі рэзананс у краіне і свеце выклікаў судовы працэс над магілёўскім архібіскупам Янам Цэплякам і 14 актыўнымі каталіцкімі свяшчэннаслужыцелямі з Расіі, які адбыўся 21 — 26 сакавіка 1923 г. у Маскве. Арыштаваўшы ў ноч з 12 на 13 красавіка 1922 г. группу каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў, улады ставілі мэту зламаць супраціўленне каталікоў на месцах, пакінуўшы рымска-каталіцкую царкву без кіраўніцтва. Я. Цэпляку ставілася ў віну тое, што ён яшчэ да абнародавання дэкрэта аб канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў даваў указанне каталіцкаму духавенству "цвёрда стаяць на аснове кананічнага права", не дапускаць стварэння пры касцёлах саветаў ("двццатак") і не падпісваць з уладамі пагадненняў аб касцёльнай уласнасці. Сярод "кампраметуючых" дакументаў, далучаных да судовай справы, фігураваў знойдзены пры вобыску рукапіс "Гістарычныя запіскі аб аддзяленні царквы ад дзяржавы ў бальшавіцкай Расіі". Гэтага было дастаткова для таго, каб абвінаваціць Цэпляка і іншых прадстаўнікоў каталіцкага духавенства ў барацьбе супраць савецкай улады.

Архібіскуп з годнасцю трымаўся на судовым працэсе, аргументавана адказваў на пастаўленыя пытанні, рашуча абараняў інтарэсы вернікаў і касцёла. "Так плаўна і гладка мог гаварыць не раз'юшаны фанатык, дрыжачы над свяшчэннымі

для яго канонамі, — адзначаў журналіст, які асвятляў працэс, — а хітры, пранырлівы інтрыган, добра спакушаны ў разнастайнай дыпламатыі" [41. С. 104]. За вернасць каталіцкай царкве Ян Цэпляк і настаяцель касцёла св.Кацярыны ў Петраградзе К. Буткевіч былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, астатнія — ад трох да дзесяці гадоў зняволення.

Вынікі суда выклікалі абурэнне ў многіх краінах свету, адкуль на імя наркама замежных спраў паступалі тэлеграмы з пратэстамі і просьбай перагледзець прыгавор. У тэлеграме ад імя групы членаў англійскага парламента гаварылася: "Жыццё чалавечае дарагое, не вешайце епіскапа" [41. С. 112]. Голас сусветнай грамадскасці мала хваляваў Маскву. Тым не менш прэзідыум УЦВК разгледзеў хадайніцтва асуджаных. Высокая інстанцыя замяніла Я.Цэпляку смяротны прыгавор на 10 гадоў турэмнага зняволення, а К.Буткевіч 31 сакавіка 1923 г. быў расстраляны.

Узмацніўся кантроль за дзейнасцю ксяндзоў на месцах, вывучаліся іх адносіны да бальшавіцкай улады. 24 снежня 1924 г. намеснік паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ па БССР І.Апанскі (1897 — 1927) паведамляў у ЦК КП(б)Б, што па інфармацыйных крыніцах у рэспубліцы налічвалася 36 служыцеляў рымска-каталіцкай царквы, варожа настроеных супраць улады. Сярод іх 13 ксяндзоў-палякаў, праводзіўшых яўна прапольскую палітыку, 12 антысавецкі настроеных беларусаў, 3 не ўстаноўленых у адносінах іх нацыянальнай прыналежнасці, але варожых савецкай уладзе, 4 літоўцы, 4 беларусы, стаяўшыя на пазіцыях антыкефальнай царквы ў БССР [6. Ф. 4, воп. 21, спр. 29, арк. 6]. У сувязі з тым, што канкрэтных улік у адносінах таго ці іншага ксяндза не знайшлося, шэф АДПУ вымушаны быў зазначыць, што ў Магілёўскай і Слуцкай акругах служыцелі культу збіралі подпісы ад каталікоў аб тым, што Беларусь не жадае быць савецкай, а хоча стаць польскай. Рымска-каталіцкія святарнаслужыцелі абвінавачваліся ў тым, што пад іх уплывам беларускае насельніцтва каталіцкага вераспавядання адмаўляецца пасылаць сваіх дзяцей у беларускія школы і патрабуе адкрываць польскія.

"Ненадзейных" ксяндзоў арыштоўвалі і фактычна без суда накіроўвалі ў месцы зняволення. З некаторымі вялі перамовы аб супрацоўніцтве з чэкісцкімі ўстановамі. Зараз стала вядома, што агентурная і асведамляльная работа сярод духавенства знаходзілася ў цэнтры іх увагі. Так, у дакладзе памочніка ўпаўнаважанага сакрэтнага аддзе-

ла Усерасійскай надзвычайнай камісіі (УНК) аб агентурнай і асведамляльнай рабоце сярод духавенства, зробленым у 1921 г., ставілася задача гэту работу "расшавяліць і скрануць з месца" [42. С. 154]. З гэтай мэтай рэкамендавалася завярбоўваць асведамляльнікаў сярод духавенства пасля некаторага знаёмства з духоўным мірам і высвятлення падрабязных рысаў характару па кожным служыцелі культа паасобку. Рабіўся акцэнт на неабходнасці матэрыяльнай зацікаўленасці асведамляльніка, "пры тым субсідыі грашовыя і натурай, без сумнення, яго будуць звязваць з намі і ў іншых адносінах, а менавіта ў тым, што ён стане вечным рабом НК, які будзе баяцца расканспірыраваць сваю дзейнасць" [42. С. 155]. Прапаноўвалася працягваць вярбоўку асведамляльнікаў і запалохваннем турмой, лагерам за парушэнне правілаў і распараджэнняў улад і г.д. "Праўда, спосаб даволі ненадзейны і можа быць карысным толькі ў тым выпадку, калі аб'ект для вярбоўкі слабахарактарны і бязвольны, — адзначалася ў дакладзе. — Галоўным чынам трэба звяртаць увагу на якасны стан асведамляльніка, а не на колькасць" [42. С. 155].

Да канца не вывучылі чэкісты валявыя якасці пробашча Камена-Губінскага касцёла Я.Барадзюлі (1893 — 1983), арыштаванага 29 снежня 1926 г. З Лепеля яго прывезлі ў Мінск, дзе пачаліся допыты. Ксёндз адвяргаў усялякія абвінавачванні. Праз некаторы час арыштаванага даставілі ў кабінет І.Апанскага. Ён сардэчна і прыветліва сустрэў ксяндза, прапанаваў цыгарэту і ў час гутаркі сказаў: "Мы ведаем, што вы наш чалавек, паходзіце з беднай беларускай сям'і, дзед ваш быў прыгонным... Дапамажыце нам. Вакол нас ворагі. Польская мяжа ад Мінска — за 45 кіламетраў, кожную ноч ловім польскіх шпіёнаў. Вы будзеце ксяндзом у Мінску, можа, нават біскупам. Дадзім вам машыну, забяспечым матэрыяльна" [43. С. 15]. Ксёндз адказаўся ад прапановы быць сакрэтным супрацоўнікам спецслужбаў. У адказ калегія АДПУ прыгаварыла Барадзюлю да 5 гадоў канцлагераў. Летам 1933 г. ксёндз прыехаў у Віцебск і атрымаў прызначэнне пробашча касцёлаў св.Антонія і св.Барбары. Але служба працягвалася ўсяго два тыдні па прычыне нязгоды супрацоўнічаць з органамі ДПУ. Зноў да жніўня 1946 г. былі высылкі, лагеры. 7 лістапада 1949 г. адбыўся чарговы арышт. Толькі ў кастрычніку 1954 г. Барадзюля вярнуўся са зняволення. Але займацца душпастырскай дзейнасцю яму дазволілі

толькі 13 сакавіка 1978 г., калі ксяндзу споўнілася 85 гадоў. Так цяжка склаўся лёс чалавека, які з-за адданасці сваім перакананням касцёлу чвэрць стагоддзя правёў у няволі.

Пасля асуджэння біскупа Цэпляка абедзве каталіцкія дыяцэзіі ў БССР пуставалі. Кіраўніцтва справамі ажыццяўлялі часовыя адміністрацыі. Адміністратарам у Мінску з'яўляўся ксёндз Э.Вайцяховіч, у Магілёве з 1923 па 1925 г. — ксёндз С.Пржырэмбэль. Потым яго месца заняў прэлат А.Малецкі. 13 жніўня 1926 г. ён тайна быў хіратанізаваны біскупам для кіравання Ленінградскай Апостальскай адміністрацыяй. Гэтую пасаду заняў Б.Слоскан. Адначасова ён з'яўляўся і адміністратарам Мінскай дыяцэзіі. Латыш па нацыянальнасці, Слоскан шмат увагі ўдзяляў беларускай мове. Ён вывучыў яе раней, працуючы ў касцёле Св.Барбары ў Віцебску, пасля заканчэння Пецярбургскай каталіцкай духоўнай семінарыі. Таму свой першы пастырскі ліст ён апублікаваў на дзвюх мовах — беларускай і польскай, чым адразу звярнуў на сябе ўвагу ДПУ. На беларускай мове біскуп праводзіў і казанні, асабліва ў час наведвання парафій. Звяртаючыся на польскай мове да інтэлігенцыі Гомеля, ён адзначыў: "Казанне мае на мэце высвятліць усім вернікам, без розніцы ступені іхняе асветы, найважнейшую справу іх жыцця, справу збаўлення душы. Дык гаварыць аб гэтым на мове, якую добра не разумеюць шырокія масы, было б дарэмнай гаворкаю, а казаць два казанні на розных мовах я не маю часу. Дзеля гэтага прашу інтэлігенцыю прыстасавацца да мовы шырокіх кругоў вернікаў і выслухаць казанне на беларускай мове" [40. С. 9]. Прысутныя з вялікай увагай слухалі біскупа. Гэта было не даспадобы ўладам, таму ўсе яго казанні ў далейшым праслухоўваліся агентамі ДПУ.

За кароткі тэрмін Слоскан наведаў Мінск, Оршу, Віцебск, Барысаў, Полацк, Рагачоў, Мсціслаўль, Гомель, Лепель, Чавусы, Талочын, іншыя парафіі. Мясцовыя ўлады катэгарычна забаранялі біскупу сустракацца з вернікамі, якія пражывалі ў пагранічнай зоне. Напрыклад, яму не дазволілі прыехаць з Полацка ў Росіцкую парафію Дрысенскага раёна, якая налічвала каля 10 тыс. католікаў.

Такая актыўная дзейнасць прывяла да таго, што 17 верасня 1927 г. улады арыштавалі Слоскана і даставілі на допыт да старшыні мінскага ДПУ, які пачаў размову на рускай мове. Але біскуп адказваў па-беларуску і нават зрабіў заўвагу, што яны знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі і таму ён

будзе адказваць на пытанні толькі на дзяржаўнай мове [40. С. 11]. Пераведзены хутка ў Маскву, уладыка атрымаў тры гады катаржных работ на Салавецкіх астравах.

Пасля заканчэння тэрміну ссылкі восенню 1930 г. Слоскан вярнуўся ў Магілёў, каб зноў заняцца пастырскай працай. Але праз тыдзень яго зноў арыштавалі і выслалі ў Туруханскі край. У пачатку 1933 г. біскупа нечакана перавезлі ў Маскву. 20 студзеня пасол Латвіі паведаміў яму аб тым, што ўлады пагадзіліся абмяняць яго на камуніста і на наступны дзень ён можа выехаць у Рыгу. У сталіцы Латвіі Б.Слоскан знаходзіўся да 1941 г., узначальваючы духоўную семінарыю. У 1941 г. фашысцкае гестапа вывезла яго ў канцлагер у Германію. Усё астатняе жыццё ён правёў за мяжой.

Пасля таго як у ліпені 1927 г. мітрапаліт Сергій апублікаваў пасланне аб змене рэлігійнай палітыкі і прызнанні савецкай улады, палітычнае кіраўніцтва прыкладала нямала намаганняў, каб падобную дэкларацыю "аб лаяльнасці" падпісалі і каталіцкія іерархі. Улады дамагаліся ад іх таксама адмовіцца ад адносін з апостальскім пасадам. Але ні адзін каталіцкі святчэннаслужыцель такой дэкларацыі не падпісаў. На гэта бальшавікі адказалі новымі арыштамі.

Чарговая хваля рэпрэсій супраць ксяндзоў пачалася пасля таго як 8 лютага 1930 г. быў надрукаваны ліст галавы рымска-каталіцкай царквы Папы Пія XI да генеральнага вікарыя Рыма кардынала Базіліо Пампілі. Папа выступіў у абарону рэлігіі, "патаптанай саветамі", заклікаў увесь свет маліцца за ахвяр і захаванне веры ў СССР. 19 сакавіка, у дзень св. Юзэфа, ва ўсіх касцёлах Еўропы, іншых частак свету адбыліся набажэнствы па прыгнечаных хрысціянах у СССР. На папскае пасланне адгукнуліся ўсе іншыя канфесіі. Гэтая акцыя была расцэнена як паклёп на савецкую ўладу, як "крыжовы паход" імперыялістычных сіл, сусветнага капіталу супраць Савецкага Саюза.

У абарону дзеянняў ваяўнічых атэістаў выступілі часопісы, газеты, радыё Беларусі. У шырока разгорнутай прапагандысцкай кампаніі "даказвалася", што рэлігія ў рэспубліцы прыходзіць у заняпад з прычыны таго, што свядомыя рабочыя і сяляне больш не вераць у рэлігійныя "байкі", а храмы зачыняюцца таму, што ніхто туды не ходзіць. З гэтай мэтай друк змясціў інтэрв'ю з адміністратарам Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі ксяндзом П.Аўгло, якое ён даў 15 сакавіка 1930 г. На запыт, ці вядомы яму факты праследавання каталіцкага духавенства за выкананне рэлігійных абрадаў, ксёндз адказаў: "Я павінен заявіць, што ніводнага такога выпадку не

ведаю. Мне вядомы выпадкі арыштаў ксяндзоў, якія займаліся, на мой вялікі жаль, не адпавядаючай іх сану супрацьурадавай дзейнасцю або нават работай на карысць замежных дзяржаў" [44. С. 98]. Не маглі не быць задаволены ўлады і адказам ксяндза на пытанне аб выпадках праследавання каталікоў за іх веру. "Выконваючы абавязкі як духоўнік у розных частках Савецкага Саюза і зараз як адміністратар Магілёўска-Мінскай дыяцэзіі, — адзначыў Аўгло, — не магу нагадаць ніводнага выпадку, які мог бы быць вытлумачаны як довад таго, што гарантаваная канстытуцыяй свабода веравызнання парушаецца савецкаю ўладаю" [44. С. 99]. На яго думку, у БССР не было выпадкаў прымусовага зачынення касцёлаў, акрамя тых, калі працоўныя па ўласнай ініцыятыве перадавалі іх пад культурныя ўстановы.

Прэса рабіла заклікі да рабочых, сялян і моладзі, "якія ўпэўніліся ў жульніцтве рэлігіі і царквы", уступаць у антырэлігійныя грамадскія арганізацыі, яшчэ больш напружваць сілы ў змаганні за сацыялістычную пяцігодку, за новы ўздым працоўнай дысцыпліны і прадукцыйнасці працы. Адказам "цёмным" сілам павінны былі стаць "сотні днепрабудаў, сотні новых калгасаў-гігантаў, сотні клубаў і тэатраў на месцы былых гнёздаў контррэвалюцыі і цемрашальства — цэркваў, сінагог, касцёлаў і мячэцяў" [45. С. 59 — 60].

Выказваннем абурэння працоўных дзеяннямі Папы лічыліся прымусовыя мітынгі і дэманстрацыі, якія па прыкладзе Масквы праводзіліся на Беларусі. Падаўляючая колькасць дэманстрантаў былі атэістамі. Удзел у дэманстрацыях прадстаўнікоў фабрычных калектываў лічыўся нявыхадам на работу. Абавязковым атрыбутам шэсцяў з'яўляліся патрабаванні аб закрыцці святынь. Па такім сцэнарыі праходзіла дэманстрацыя на вул. Захар'еўскай у Мінску. З антырэлігійнымі песнямі, плакатамі яе ўдзельнікі падышлі да Чырвонага касцёла. Тут адбыўся мітынг, удзельнікі якога, не з'яўляючыся каталікамі, запатрабавалі закрыць святыню. Народная "воля" з'явілася для Мінскага гарсавета падставай для аддачы загаду аб закрыцці ў 1932 г. касцёла. У будынку была размешчана вытворчая база Польскага дзяржаўнага вандроўнага тэатра БССР [46. С. 41].

У той час, калі друк распавядаў аб "свабодзе" веравызнання, цярпімасці да каталіцкага духавенства, адпаведныя органы працягвалі арышты найбольш стойкіх ксяндзоў. У 1930 — 1931 гг. было арыштавана каля 10 свяшчэннаслужыцеляў.

Пільнае вока чэкістаў сачыла не толькі за жыццём ксяндзоў, але і за паводзінамі людзей, якія, нягледзячы на актыў-

ную прапаганду, добра ставіліся да рымска-каталіцкай канфесіі. Асабліва гэта тычылася мясцовых партыйных актывістаў. У спецыяльным лісце ад 22 жніўня 1932 г. паведамлялася аб тым, што памочнік начальніка палітаддзела па жаночай рабоце Боркавіцкай МТС Дрысенскага раёна Галубовіч праяўляе "рэлігійныя наклоннасці". Яны заключаліся ў тым, што ў доме палітычнага работніка вісела "маленькая польская ікона". Галубовіч адказалася яе зняць і пасля таго, як начальнік палітаддзела правёў з падначаленай грунтоўную гутарку [6. Ф. 4, воп. 21, спр. 690, арк. 385]. Прыведзены і многія іншыя факты сведчаць аб тым, што органы ДПУ вялі татальны нагляд за вернікамі і людзьмі, якія не таптапі хрысціянскіх каштоўнасцяў, а затым прымалі да іх розныя меры ўздзеяння.

Між тым працягваліся масавыя арышты каталіцкага духавенства. Каб прыдаць бачнасць барацьбы выступленням ксяндзоў супраць генеральнай лініі партыі, органы ДПУ "выкрываюць" дзейнасць неіснаваўшых падпольных арганізацый. У 1933 г. арыштам падвяргалася вялікая група ксяндзоў, якія абвінавачваліся ў стварэнні контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі "ПАВ" — польскай ваеннай арганізацыі. Яе мэтай быццам з'яўляўся шпіянаж на карысць Польшчы, нелегальны пераход мяжы, агітацыя супраць савецкай улады. 5 жінўня 1933 г. быў арыштаваны пробашч касцёла г.Барысава А.Кржывіцкі. Яго прыгаварылі да 10 гадоў зняволення. Пасля арышта ксяндза касцёл быў закрыты. У тым жа годзе па групавой справе каталіцкага духавенства ўлады арыштавалі Я.Мацеўскага, быўшага пробашча касцёла м.Блонь Пухавіцкага раёна. Яшчэ ў 1929 г. ксёндз быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Але затым расстрэл замянілі трыма гадамі канцлагераў. Пакаранне ён адбываў на Салаўках, адкуль у 1932 г. быў вызвалены. Пасля вяртання ў Беларусь зноў трапіў у кіпцюры ДПУ. Па "справе" былі таксама арыштаваны Ф. Вылежынскі, пробашч касцёла ў Бабруйску, І. Пяткевіч, пробашч касцёла ў Слуцку, А. Пучкар-Хмялеўскі, пробашч мінскага кафедральнага касцёла і інш.

Рэпрэсіі ксяндзоў працягваліся і ў наступныя гады. 28 чэрвеня 1934 г. быў арыштаваны пробашч касцёла м.Росіца Дрысенскага раёна Э.Вайцяховіч. 3 лютага 1935 г. пастановай ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі яго прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. У 1936 г. да 5 гадоў зняволення былі асуджаны ксёндз з Рагачова У.Кунда, пробашч лагойскага касцёла А.Прытула і інш.

Трагічным для беларускага народа з'явіўся 1937 г., які азнаменаваўся новай хваляй рэпрэсій. Яны праводзіліся пад лозунгам знішчэння на тэрыторыі БССР разгалінаванага і добра заканспіраванага антысавецкага падполля, якое, на думку аўтараў гэтага сцэнарыя, мела цесныя кантакты з суседняй Польшчай. У ліпені 1937 г. адбыўся пленум ЦК КП(б)Б, на якім верхаводзілі прыехаўшыя з Масквы загадчыкі арганізацыйнага і сельскагаспадарчага аддзелаў ЦК УКП(б) Г.Маленкоў і Я.Якаўлеў-Эпштэйн. Выступаючы на пленуме, апошні заявіў, што "работа па генеральнай чыстцы Беларусі ад усялякага гною, польскага бруду, ад розных шпіёнаў і дыверсантаў яшчэ не распачата належным чынам, яе давядзецца правесці па-сапраўднаму, як таго патрабуе ЦК партыі, як таго патрабуе т.Сталін" [6. Ф. 4, воп. 20, спр. 155, арк. 7]. І яна пачалася шырокавядомай аперацыяй па ліквідацыі польскай агентуры. Па загадзе камісара ўнутраных спраў СССР М.Яжова ў рэспубліцы прадугледжвалася арыштаваць не менш 7 — 8 тыс. польскіх "шпіёнаў".

Канчатковаму фізічнаму знішчэнню былі падвергнуты ксяндзы. Аб гэтым красамоўна гаварылася ў лісце, накіраваным у ЦК УКП(б) на імя таго ж Якаўлева і падпісаным 7 жніўня 1937 г. загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Л.Готфрыдам: "Што тычыцца ксяндзоў, — дакладвалі з Мінска, — абсалютная большасць іх за апошні час арыштавана, так як яны выкрыты ў вядзенні шпіёнскай работы" [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 443, арк. 81].

Лічачы, што "гнёздамі" шпіянажу з'яўляюцца касцёлы, 18 жніўня 1937 г. бюро ЦК КП(б)Б разгледзела пытанне "Аб мерах па закрыцці польскіх касцёлаў" [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 440, арк. 29]. Бюро даручыла старшыні ЦВК БССР М.Стакуну, наркаму ўнутраных спраў Б.Берману і загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Л. Готфрыду перагледзець сетку дзеючых касцёлаў. Высокім афіцыйным асобам даручалася закрыць храмы, якія не дзейнічалі, з тым разлікам, каб выключыць магчымасць нелегальнай "контррэвалюцыйнай" работы вакол іх. Толькі з 8 па 24 жніўня 1937 г. ЦВК БССР аформіў закрыццё васьмі касцёлаў. Была задаволена, напрыклад, просьба Асвейскага выканкама аб зносе касцёла ў раённым цэнтры і выкарыстанні цэглы для пабудовы школы.

27 жніўня 1937 г. камісія накіравала ў ЦК КП(б)Б інфармацыю, у якой паведамлялася, што ніводная дзяр-

жаўная ўстанова, акрамя НКУС, не мела нават прыблізных даных "як аб саміх касцёлах, суполках, верніках, якія арганізоўваліся вакол гэтых касцёлаў, так і аб антысавецкай контррэвалюцыйнай дзейнасці клерыкалаў" [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 443, арк. 66]. Толькі органы дзяржаўнай бяспекі з'яўляліся "куратарамі" рымска-каталіцкай царквы і цалкам вызначалі яе лёс. З пачатку 30-х гг. яны ажыццяўлялі закрыццё касцёлаў і рэлігійных абшчын па прычыне "контррэвалюцыйнай" дзейнасці ксяндзоў і кіруючай вярхушкі каталіцкіх арганізацый. Нкусаўцы "выкрылі" столькі ворагаў, што на 20 жніўня 1937 г. ва Усходняй Беларусі працавалі толькі 11 касцёлаў, у тым ліку пяць з ксяндзамі ў Барысаве, Віцебску, Оршы, Чавусах і Мсціслаўі. Шэсць касцёлаў без ксяндзоў дзейнічалі ў Мінску, Магілёве, Гомелі, у в. Хвашчоўка Шклоўскага, Шацілкі Парычскага, м. Свіслач Асіповіцкага раёнаў [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 443, арк, 61, 69].

Прыведзеныя даныя аб колькасці касцёлаў ні ў якім разе не задавальнялі партыйнае кіраўніцтва Беларусі. Таму 7 кастрычніка 1937 г. бюро ЦК КП(б)Б зноў разгледзела пытанне "Аб польскіх касцёлах". З дакладам выступіў старшыня ЦВК БССР М.Стакун. Ва ўмовах раздзьмухвання псіхозу па выкрыцці "польскіх шпікаў, шкоднікаў і дыверсантаў" ставілася задача канчатковага закрыцця касцёлаў. На гэтым настойваў і Стакун, якога самога ў той час абвінавачвалі ў адказе весці рашучую барацьбу з ворагамі народа, асабістых сувязях з Польшчай. Падводзячы вынікі абмеркавання, толькі што прысланы з Масквы выконваючы абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б А.Волкаў адзначыў, што "наша задача — закрыць польскія касцёлы ў БССР", "работу трэба праводзіць і намечаныя мерапрыемствы ажыццявіць" [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 443, арк. 73].

У пастанове бюро ЦК КП(б)Б "Аб становішчы антырэлігійнай прапаганды ў Беларусі", прынятай у той жа дзень, мясцовым партыйным органам давалася ўстаноўка на далейшы наступ на каталіцкую канфесію. "Польскія шпіёны, дыверсанты, шкоднікі, сядзеўшыя на чале кіраўніцтва шэрага савецкіх і гаспадарчых арганізацый Беларусі і пралезшыя на кіруючыя пасты партыйнай работы, — адзначалася ў пастанове, — шырока выкарыстоўвалі каталіцкія рэлігійныя суполкі і духавенства для арганізацыі падполля, шпіянажу і дыверсій і ўвесь час імкнуліся захаваць гэтыя рэлігійныя арганізацыі як базу для сваіх шпіёнскіх, контррэвалюцыйных, шкодніцкіх арганізацыйных фарміраванняў". У паста-

нове падркэслівалася неабходнасць улічваць пагранічнасць БССР і той факт, што “духавенства, асабліва каталіцкае, з’яўляецца адной з ячэек арганізацыі польскай разведкі” [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 443, арк. 99, 100].

Такія ўстаноўкі садзейнічалі татальным арыштам прадстаўнікоў духавенства, вернікаў усіх канфесій, якія яшчэ засталіся ў жывых. Аб гэтым сведчыла падрыхтаваная Упраўленнем дзяржаўнай бяспекі НКУС у сярэдзіне 1938 г. даведка “Вынікі разгрома антысавецкага падполля ў БССР (па матэрыялах следства 1937 — 1938 гг.)”. З яе вынікала, што з другой паловы 1937 г. па 1 чэрвеня 1938 г. было раскрыта і арыштавана 2570 удзельнікаў “аб’яднанага антысавецкага падполля”, сярод іх 1015 свяшчэннаслужыцеляў і сектантаў і 57 клерыкалаў [6. Ф. 4, воп. 21, спр. 1410, арк. 23]. Акрамя таго, на 12 снежня 1938 г. у працэсе “аперацыі па польскай агентуры” было выкрыта і арыштавана 21 407 польскіх шпіёнаў і дыверсантаў. Усе яны нібыта ўваходзілі ў 11 разгалінаваных паўстанцкіх арганізацый, разбітых на 522 групы [6. Ф. 4, воп. 21, спр. 1397, арк. 19, 21].

Прыведзеныя даныя паказваюць, які шквал рэпрэсій абрушыўся на прадстаўнікоў рымска-каталіцкай канфесіі. Да канца 30-х гг. яе дзейнасць на ўсходніх абшарах фактычна была спынена. Рэлігійнае жыццё каталікоў працягвалася ва ўмовах глыбокага падполля.

Першыя паслякастрычніцкія гады характарызаваліся актывізацыяй працэсу стварэння на тэрыторыі Беларусі пратэстанцкіх суполак розных плыняў: евангельскіх хрысціян і баптыстаў, хрысціян веры евангельскай, пяцідзесятнікаў і інш. У немалой ступені гэтаму садзейнічала імперыялістычная вайна, якая пракацілася па беларускіх землях. Ідэі евангелізма ў родныя мясціны прыносілі з сабой палонныя, якія вярталіся з Германіі, учарашнія сяляне, якія былі прызваны на службу ў царскую армію. Новая вера падкупляла людзей адказам ад складанай царкоўнай іерархіі, адсутнасцю манаштва, цэлібата, тым, што самі яе прапаведнікі не ўжывалі алкагольных напояў, не курылі, усіх аднаверцаў лічылі сваімі братамі і сёстрамі.

Асноўнай формай уцягнення людзей у пратэстанцкія суполкі з’яўлялася індывідуальная работа. Добра выкарыстоўваў асабістыя сустрэчы з людзьмі Даніла Шынкарэнка, які вярнуўся ў в.Чарамісы на Брагіншчыне з нямецкага палону, дзе прыняў воднае хрышчэнне. Евангельскае вучэнне добра ўспрымалася аднавяскоўцамі, сялянамі з суседніх вё-

сак і хутароў. Ужо ў 1922 г. дзякуючы арганізацыйным і прапагандысцкім намаганням воднае хрышчэнне прынялі 12 чалавек. Так узнікла евангельская суполка, якую Д.Шынкарэнка ўзначальваў доўгія гады. У 1930 г. яна налічвала 60 чал. [6. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 106, 108].

Некалькі раней, у 1914 г., узнікла суполка евангельскіх хрысціян і баптыстаў у Віцебску, якую узначаліў Г.Шэнгард. Латыш па нацыянальнасці, ён быў пераведзены ў 1908 г. з Рыгі ў Віцебск, дзе заняў пасаду загадчыка сігнальнай службы чыгуначнай станцыі. У гэты час у горадзе дзейнічала рэлігійная суполка цвярозасці "Сіні крыж", у якую ўваходзілі праваслаўныя, лютэране і каталікі. Шэнгард пазнаёміўся з яе дзейнасцю, а пазней стаў актыўным членам. Тут ён арганізаваў хор і нядзельную рэлігійную школу для дзяцей. У 1910 г. улады дазволілі правядзенне малітоўных сходаў у яго доме, а ў 1914 г. — дзейнасць суполкі евангельскіх хрысціян-баптыстаў. У 1919 г. яна налічвала каля 100 чал. Але ў гэты час узмацніліся рознагалоссі паміж баптыстамі і евангелістамі і ў 1920 г. суполка распалася на дзве: ЕХБ і ЕХ. Гэтаму садзейнічала і тое, што за палітычную неблаганадзейнасць Шэнгард быў высланы ў Архангельскую губерню. Суполку ЕХБ узначаліў М. Еўдакімаў, прысланы ў Віцебск Маскоўскім саюзам, а на чале евангелістаў стаў І.Тарасюк, які яшчэ ў 1913 г. быў накіраваны ў Германію на двухгадовыя курсы евангелістаў, але вярнуўся назад толькі ў 1921 г. 20-я гг. на Віцебшчыне з'явіліся гадамі евангелізацыі. У 1922 г. адбыўся губернскі з'езд абшчын, які стварыў губернскі саюз. У 1924 г. былі праведзены курсы рэгентаў [6. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 101].

Пратэстанцкія суполкі хутка распаўсюджваліся і на Магілёўшчыне. Яшчэ ў 1917 г. у ваенным шпіталі Магілёва ўзнікла евангеліцкая суполка, у якую ўваходзілі некалькі санітараў. У інтэрнаце, што знаходзіўся ў падвальным памяшканні шпіталя, яны праводзілі малітоўныя сходы, куды ўцягвалі супрацоўнікаў, хворых і іншых асоб. Праз год у горадзе афіцыйна была зарэгістравана суполка ЕХБ.

З мэтай распаўсюджвання евангельскай веры магілёўскія прасвітары і найбольш актыўныя члены абшчыны выязджалі ў сельскую мясцовасць, дзе знаходзілі прыхільнікаў. Прасвітар магілёўскай суполкі С.Баранаў у святочныя дні рэгулярна наведваў в.Трылесіна Бялыніцкага раёна. У той час тут налічвалася шэсць чалавек, якія прапаведавалі евангельскую веру. Сярод іх былі К.Палуда, тры браты Конанавы, якія прынялі яе, знаходзячыся ў палоне ў Германіі. У



7 Зак. 899

суполку вернікі ўцягнулі сваіх жонак, родзічаў, знаёмых і ў 1925 г. яна налічвала 37 членаў.

Пратэстанцкія арганізацыі пачыналі жыццё і ў іншых месцах. У 1919 г. суполка ЕХБ узнікла ў в. Ельня Краснапольскага, у 1922 — у в. Клеткі Касцюковіцкага раёна і м.Краснаполле. У 1922 — 1923 гг. шэсць суполак пачалі дзейнічаць у Мсціслаўскім, Шклоўскім, Асіповіцкім і іншых раёнах. 1924 г. стаў годам нараджэння бабруйскіх ЕХБ, колькасць якіх дасягнула 30 вернікаў [6. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 116, 117].

Знайшлі сваіх прыхільнікаў евангельскія хрысціяне і ў Мінску. Спачатку тут дзейнічала адна суполка, якую ўзначальваў Б.Чаберук. Ён арганізаваў хор, з'яўляўся яго рэгентам. У 1924 г. у сталіцы ўзнікла другая царква евангельскіх хрысціян, дзе прасвітарам быў В.Чэчнеў. Ён быў накіраваны Саюзам евангельскіх хрысціян з Днепрапятроўскай вобласці. Старэйшым прасвітарам на Беларусі да 1944 г. з'яўляўся Ц.Голубеў, якога потым замяніў В.Чэчнеў [47. С. 385].

Распаўсюджванне пратэстантызму не магло застацца па-за ўвагай праваслаўнага духавенства. Яно прымала шэраг мер для таго, каб не дапусціць пераход праваслаўных у евангельскую веру. З гэтай мэтай у цэрквах праводзіліся спецыяльныя богаслужэнні, на якіх абмяркоўваліся асобы, якія здрадзілі праваслаўнай веры. Мелі месца выпадкі, калі ля дамоў, дзе праходзілі службы евангелістаў, праваслаўныя, у асноўным жанчыны, ладзілі "пікеты", якія ў асобных выпадках пераходзілі ў мелкія патасоўкі. Але прыпыніць пераход у евангельскую веру не ўдавалася.

Рост і актывізацыя дзейнасці евангельскіх аб'яднанняў не засталіся без увагі Масквы. У жніўні 1925 г. ЦК РКП(б) выдаў дырэктыву мясцовым партыйным арганізацыям вывучыць стан сектанцкага руху ў рэгіёнах, а Сакратарыят ЦК КП(б)Б зацвердзіў спецыяльную памятку і разаслаў у акругі. Высветлілася, што, па няпоўных даных, у рэспубліцы на канец 1925 г. дзейнічала 46 абшчын розных сектаў, у якіх налічвалася 2584 чалавекі. Па сацыяльным становішчы 55 % вернікаў складалі сяляне-бедлякі і 45 % — серадлякі. Каля 80 % сектантаў з'яўляліся беларусамі. За 1923 — 1925 гг. сетка суполак павялічылася на 40 % [6. Ф. 4, воп. 10, спр. 45, арк 5].

Даныя, якія сведчылі аб росце пратэстанцкіх суполак, паступалі не толькі з Беларусі, але і з іншых рэгіёнаў. Гэта не магло не хваляваць Маскву. Палітычную ацэнку набіраўшаму моц пратэстанцкаму руху дало Аргбюро ЦК УКП(б), якое 27 верасня 1926 г. заслухала пытанне "Аб стане сектанцтва ў

СССР — яго палітычнай і эканамічнай ролі". У пастанове па гэтым пытанні была пастаўлена задача канчатковай ліквідацыі сектанцтва [48. С. 212].

Тым не менш у сярэдзіне 20-х гг. колькасць пратэстанцкіх цэркваў працягвала павялічвацца. У 1925 г. пачала дзейнічаць арганізацыя евангельскіх хрысціян на тэрыторыі Навасадскага сельсавета Койданаўскага раёна. Калі ў год заснавання яна налічвала аднаго члена ў асобе кіраўніка, то ў 1929 г. — 30, а ў 1930 — 43 чал. [49. С. 25]. Такі рост назіраўся на ўсёй тэрыторыі БССР. Калі ў 1925 г. тут налічвалася 45 абшчын, то на пачатак 30-х гг. іх колькасць дасягнула 89 [6. Ф. 4, воп. 21, спр. 1900, арк. 15].

Але працаваць з кожным годам станавілася ўсё складаней. Таму ў канцы 20-х гг. суполкі перайшлі на нелегальнае становішча. Напрыклад, з трылесінскай суполкі евангельскіх хрысціян і баптыстаў Бялыніцкага раёна ўтварылася пяць нелегальных — трылесінская, прыборская, міхайлаўская, харачанская і ланькаўская. У кожнай з іх быў свой прасвітар [47. С. 387]. Ідэалагічны ўціск прывёў да таго, што ў 1937 г. у БССР былі закрыты ўсе цэрквы евангельскіх хрысціян і баптыстаў, а большасць прасвітараў рэпрэсіравана. Трагічны лёс напаткаў мінскіх свяшчэннаслужыцеляў. Так, яшчэ ў 1929 г. на тры гады быў асуджаны Б.Чаберук. Пасля таго як ён вярнуўся ў Мінск, яго зноў арыштавалі і асудзілі на такі ж тэрмін, а ў 1937 г. пасадзілі за краты ў трэці раз. Так абарвалася жыццё першага прасвітара мінскай царквы. Месца Б.Чаберука заняў Р.Дубко. У 1935 г. ён быў арыштаваны і загінуў у месцах высылкі. Пасля гэтага кіраўніцтва царквой ажыццяўляў С.Рэмізевіч. Але ў 1937 г. і ён быў арыштаваны і вярнуўся дамоў толькі ў 1945 г. Былі рэпрэсіраваны Д.Палякоў, арганізатар і прасвітар Падарoскай царквы Старадарожскага раёна, Р.Смічанка, прасвітар Кашалёўскай царквы Буда-Кашалёўскага раёна, і многія іншыя [6. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 111]. Але, нягледзячы на такое складанае становішча, вернікі збіраліся па дамах. Рэлігійнае жыццё працягвалася.

Да пачатку Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь была пакрыта густой сеткай храмаў іудзейскай канфесіі. Тут дзейнічалі 704 сінагогі, у якіх працаваў 271 равін [6. Ф. 4, воп. 3, спр. 482, арк. 78]. Напрыклад, у 1917 г. яўрэйскае насельніцтва Мінска складала 67 тыс. чал., на якіх прыходзілася 83 сінагогі. Радавала мінчан і гасцей харальная сінагога (цяпер Дзяржаўны рускі тэатр), пабудаваная ў 1906 г. па ініцыятыве вядомага ўрача І.Лунца на сродкі яўрэяў горада. Тут спявалі буйней-

ныя кантары свету, дастаўляючы эстэтычную асалоду слухачам красатой голасу і глыбінёй пранікнення ў змест малітваў. Не адставалі ад сталіцы і іншыя гарады. У Магілёве налічвалася 50 сінагог, у Бабруйску — 42, у Віцебску — 30, у Гомелі — 26. Большасць з іх стваралася па прафесійнай адзнацы (сінагогі муляроў, музыкантаў, цесляроў, шаўцоў, абутнікаў, закройшчыкаў і г.д.) [50. С. 39].

Атрыбутам іудзейскага жыцця заставалася дзейнасць хедэраў і іешываў. З вызваленнем рэспублікі ад палякаў хедэры сталі сілком закрывацца. Толькі ў Віцебску ў 1922 — 1923 гг. было закрыта 39 такіх школ з 1358 вучнямі. Але большасць яўрэйскага насельніцтва, некаторыя настаўнікі не жадалі мірыцца з гэтым. Да непакорных пачалі прымяняць меры адміністрацыйнага характару. У канцы 1921 г. у Полацку, Мазыры, іншых гарадах адбыліся суды над настаўнікамі хедэраў. Дзеячы яўрэйскай культуры, радавыя жыхары вялі барацьбу ў абарону і падтрымку тых, каго праследавалі ўлады. Асноўнай формай такой барацьбы з'яўляліся пратэсты, якія пасылаліся ў ЦВК БССР, але яны не дапамагалі спыніць растучую хвалю вандалізму супраць іудзейскай канфесіі. Таму пачынаючы з 1924 г. яўрэйская рэлігійная адукацыя на пачатковым і вышэйшым узроўнях уступіла ў новую стадыю — падпольнай дзейнасці. Правядзенню гэтай работы ў складаных умовах падполля садзейнічаў Камітэт рабінаў СССР, які з 1922 па 1930 г. знаходзіўся ў Ленінградзе. Галоўнай функцыяй Камітэта з'яўлялася размеркаванне сродкаў, якія ён атрымліваў ад "Джойнта" — яўрэйскай дабрачыннай арганізацыі, заснаванай у лістападзе 1914 г. у ЗША. Дзякуючы гэтым сродкам і арганізацыйным намаганням у 1924 г. на Беларусі пачала адраджацца яўрэйская рэлігійная адукацыя. У 1926 г. у Мінску больш за 270 дзяцей наведвалі сакрэтныя хедэры. У наступныя гады Камітэт забяспечваў рэгулярную падтрымку хедэраў у чатырох беларускіх супольнасцях (каля 500 дзяцей) і нерэгулярную — невялікіх школ прыблізна ў 20 супольнасцях [51. С. 114].

Пад асаблівай увагай Камітэт рабінаў трымаў падпольныя іешывы. Па традыцыі і ў савецкі час Беларусь заставалася важным цэнтрам іх распаўсюджвання. У 1928 г. у Мінску дзейнічалі дзве іешывы са 115 студэнтамі, якія былі рассеяны ў шасці розных "нябачных" сінагогах. Дзве ўстановы з агульнай колькасцю студэнтаў 100 чал. працавалі ў Віцебску. Навучальныя групы існавалі ў Слуцку, Полацку, іншых

беларускіх гарадах. Ні ў адным горадзе Расіі ці Украіны не было такіх вялікіх іешываў. Пасля спынення дзейнасці Камітэта рабінаў падпольная сетка яўрэйскіх рэлігійных школ у БССР распалася [51. С. 115].

Савецкая ўлада, якая старанна знішчала ўсю сістэму рэлігійнай адукацыі, асаблівыя намаганні прыкладала да руйнавання сінагог, пераўтварэння іх у клубы, тэатры склады. Наступ на іудзейскую канфесію добра бачны на прыкладзе г.Лепеля, дзе ў 1917 г. налічвалася 11 храмаў, а к 1933 г. заставалася адна невялічкая сінагога, якую ў 1929 г. на асабістыя ахвяраванні пабудавалі вернікі. Але і яна не давала спакою мясцовым уладам, і 8 верасня 1933 г. прэзідыум гарадскога Савета прыняў спецыяльную пастанову, першым пунктам якой задавальнялася "патрабаванне працоўных мас г.Лепеля і далучыўшыхся да іх Лепельскага і Стайскага сельскіх Саветаў аб перадачы яўрэйскай сінагогі пад культурныя патрэбы для абслугоўвання працоўных мас". Далей канстатавалася, што, прымаючы пад увагу надзвычай напружанае становішча са складскімі памяшканнямі, лічыць як часовую меру выкарыстанне сінагогі пад зернесховішча. Гэта быў тыпічны змест пастаноў мясцовых органаў, якія ў "выключных" абставінах гвалтоўна пераўтваралі храмы ў розныя сховішчы.

Пасля прыняцця пастановы быў складзены акт аб "перадачы" маёмасці сінагогі. На справе гэта быў сапраўдны захоп нажытага яўрэйскай абшчынай. Інвентар, сталы, стулы і іншае абсталяванне захапілі ўлады. Не пакінулі нават дровы, якія былі нарыхтаваны для ацяплення ў зімовы час. З рэлігійнымі кнігамі, світкамі абышліся яшчэ горш, зусім па-варварску — іх выкінулі на вуліцу, адарваўшы вокладкі [6. Ф. 12, воп. 1, спр. 6, арк. 259]. Такая "перадача" выклікала ў насельніцтва страх, недавер да ўлад. Але справа была зроблена, яўрэі-вернікі горада засталіся без храма.

Да сярэдзіны 30-х гг. атэістычны паток змёў з беларускай зямлі многія культавыя будынкі іудзейскай канфесіі. На 20 снежня 1936 г. застаўся дзейнічаць толькі 71 храм. Да пачатку вайны іудзейскія храмы на Беларусі перасталі існаваць наогул.

З першых дзён усталявання бальшавіцкай улады рэпрэсіі адчулі на сабе і равіны. У 1921 г. у Гомелі быў арыштаваны рабін М.Барышанскі, які ў сваіх казаннях самаахвярна абараняў хедэры. На судзе яго абвінавацілі ў супраціўленні рэжыму, а таксама ў ажыццяўленні антысавецкай прапаганды.

У 1923 г. равін атрымаў дазвол эмігрыраваць у ЗША. У далейшыя гады ўціск на іудзейскіх святароў узрастаў. Вялікім цяжарам на суполкі лажыўся падатковы прэсінг. Яны абкладаліся такімі астранамічнымі сумамі, што рабіны былі вымушаны прадаваць нават свае асабістыя рэчы, каб пазбегнуць арыштаў і высылкі. Карыстаючыся цяжкімі эканамічнымі абставінамі, улады рабілі прапановы адмовіцца ад рэлігійнай дзейнасці, высокай місіі быць іудзейскім прапаведнікам. Пад моцным уціскам не кожны быў здольны ўстаяць. Меліся выпадкі, калі равіны адмаўляліся ад сваіх пасад пад прымусам.

Паступова набірала моц палітыка масавых рэпрэсій рабінаў. Першай "ластаўкай" з'явілася аперацыя ДПУ, якая завяршылася арыштам у сакавіку 1930 г. у Мінску 14 прадстаўнікоў духавенства. Сярод іх быў і галоўны рабін Беларусі М.Глускін, сябра праўлення Камітэта рабінаў СССР. Ён і яго калегі абвінавачваліся ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Як доказ прыводзіліся звесткі аб канфіскацыі ў іх замежнай карэспандэнцыі, гектографа і дакументаў, якія быццам бы даказвалі, што арыштаваныя займаліся "контррэвалюцыйнай" дзейнасцю, перадавалі інфармацыю замежным яўрэйскім асацыяцыям. Пасля двух тыдняў зняволення, дзякуючы грамадскаму пратэсту, які ўзняўся на Захадзе, Глускін і яго калегі былі вызвалены. Перад гэтым іх прымусілі падпісаць заяву аб тым, што ў Савецкім Саюзе адсутнічаюць антырэлігійныя праследаванні, а таксама выказаць пратэст супраць антысавецкай прапаганды [51. С. 116].

У далейшым колькасць рэпрэсіраваных прадстаўнікоў іудзейскага духавенства павялічвалася. Свайго апагея кампанія па іх знішчэнні дасягнула ў выніку разгрома антысавецкага падполля, "выкрытага" ў 1937 — 1938 гг. "Яўрэйскія клерыкалы" былі выяўлены сярод неіснаваўшай бундаўска-сіяніцкай арганізацыі, царкоўна-сектанцкага падполля. Так была разгромлена іудзейская канфесія.

Трагічныя падзеі не абмінулі і мусульманскую канфесію. У віхуры атэістычнай барацьбы на Беларусі ў 1936 г. была зачынена мячэць у Мінску, пабудаваная на Вялікай Татарскай вуліцы ў 1902 г. Да пачатку вайны ў будынку размяшчалася прадуктовая база. Былі закрыты мячэці ў Смілавічах, іншых месцах кампактнага пражывання татар. Лёс усіх канфесій склаўся аднолькава трагічна.

Такім чынам, з прыходам бальшавіцкай улады карэнным чынам змяніліся адносіны дзяржавы да рэлігіі, пачаліся ганенні супраць усіх канфесій. Разбураліся праваслаўныя,

каталіцкія, пратэстанцкія, іудзейскія, мусульманскія храмы. Нябачных памераў дасягнулі рэпрэсіі духавенства ўсіх канфесій. Ідэалагічны ўціск, атэістычная прапаганда прывялі да стварэння бачнасці бязбожнага грамадства. Але знішчэнне рэлігійных арганізацый не азначала выкаранення веры з душ людзей. І ва ўмовах манаполіі ваяўнічага атэізму ва ўсіх канфесіях заставалася многа вернікаў.

## 5.2. КАНФЕСІЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

У выніку польска-савецкай вайны 1919 — 1920 гг. Беларусь была падзелена на дзве часткі: усходнюю і заходнюю. Паводле Рыжскага мірнага дагавору ад 20 сакавіка 1921 г. да Польшчы адышлі: Гродзенская губерня, Навагрудскі, Пінскі, частка Мінскага, Слуцкага і Мазырскага ўездаў Мінскай, Віленскі, Дзісненскі, Лідскі ўезды Віленскай губерняў. Агульная плошча адышоўшай тэрыторыі склала 107 тыс. км$^2$ з насельніцтвам 3,5 млн чал., сярод іх 2,5 млн беларусаў. Яны шчыльна засялялі Навагрудскі, Гродзенскі, Беластоцкі, Слонімскі, Пінскі, Баранавіцкі, часткова Віленскі (разам з літоўцамі), Брэсцкі і Кобрынскі (з украінцамі) паветы. Тут беларускае насельніцтва складала пераважную большасць [52. С. 110 — 111].

Перад урадам II Рэчы Паспалітай паўстала праблема распрацоўкі канцэпцыі рэлігійнай палітыкі. На яе фарміраванне значны ўплыў аказвалі палітычныя колы, блізкія да польскіх каталіцкіх вярхоў: хрысціянскія і нацыянальныя дэмакраты, кансерватары. У палітычнай сістэме Польшчы гэтыя партыі складалі права-цэнтрысцкі блок, дзе дамінуючай была дактрына нацыянальнай асіміляцыі славянскіх меншасцяў. Таму з першых дзён асноўным зместам польскай рэлігійнай палітыкі на "ўсходніх крэсах" з'яўлялася ўцягванне беларускага насельніцтва ў сферу ўплыву каталіцкай царквы і польскай дзяржавы. Гэта стварала напружанасць у міжнацыянальных адносінах.

Беларусы-каталікі, якія апынуліся ў межах Польшчы, былі падзелены паміж трыма дыяцэзіямі — Віленскай, Пінскай і Ломжынскай. Найбольшая частка вернікаў пражывала ў першых дзвюх. Згодна з канкардатам паміж Польшчай і Святым прастолам аб каталіках непаляках у Польшчы, заклю-

чаным 10 лютага 1925 г., Віленскай дыяцэзіі надаваўся статус метраполіі.

Узмацненню пазіцый каталіцкай канфесіі на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якія значна пахіснуліся пасля таго як гэтыя землі ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі, служыла рэвендыкцыя. Аснову гэтай палітыкі складаў зварот культавых будынкаў, зямель, якія раней належалі каталікам, але былі перададзены праваслаўнай царкве. Барацьба паміж каталіцкім і праваслаўным духавенствам за карыстанне культавымі будынкамі праходзіла на працягу ўсяго міжваеннага перыяду. У 1930 г. ксяндзы ўзбудзілі судовую справу аб рэвендыкцыі 500 праваслаўных цэркваў. Па рашэнні суда 300 з іх былі пераўтвораны ў каталіцкія храмы [53. С. 68]. Але акрамя цывілізаванага шляху вырашэння праблемы нярэдка назіраліся выпадкі гвалтоўнага захопу храмаў, як, напрыклад, Мазельскай царквы ў Ваўкавыскім павеце. Ксёндз-пробашч рымска-каталіцкай парафіі Кардэль папрасіў царкоўнага старасту адчыніць храм на прадмет яе агляду. Як толькі гэта было зроблена, душпастар абвясціў, што царква становіцца ўласнасцю каталіцкага касцёла. Ён загадаў групе парафіян, якія загадзя сабраліся каля царквы, прыступіць да разбурэння іканастасу. Скаргі праваслаўных асоб і вернікаў, накіраваныя мясцовым паліцэйскім уладам, затым старасце, нарэшце, у Міністэрства веравызнанняў, аказаліся безвыніковымі [54. С. 49].

Адабранне праваслаўных храмаў не насіла характару дзяржаўнай неабходнасці ці задавальнення рэлігійных патрэб насельніцтва іншага веравызнання. Факты паказваюць, што большасць з адабраных цэркваў заставалася амаль без выкарыстання альбо абслугоўвала невялікую колькасць веруючых рымска-каталіцкага веравызнання. У той жа час сотні і тысячы праваслаўных былі пазбаўлены малітоўных дамоў. Да чэрвеня 1936 г. у беларускіх паветах Польшчы ў касцёлы было пераўтворана больш за 1300 праваслаўных храмаў [52. С. 116].

Такая палітыка садзейнічала хуткаму павелічэнню колькасці касцёлаў. Гэту тэндэнцыю пацвярджаюць даныя Пінскай дыяцэзіі. Калі ў 1915 г. тут налічвалася 55 парафіяльных касцёлаў, то ў 1925 іх колькасць дасягнула 97, а ў 1935 г. — 130. Колькасць капліц складала адпаведна 97, 111 і 136. Па архіўных даных, на 1 студзеня 1937 г. усяго на заходнебеларускіх абшарах дзейнічалі 5480 парафій, аб'яднаных у 48 дэканатаў. У Віленскі гарадскі дэканат уваходзілі 46 касцёлаў, якія налічвалі 147 990 вернікаў, у Брэсцкі —

адпаведна 11 і 21 316, у Берастовіцкі — 10 і 18 420, у Драгічынскі — 12 і 23 302, у Гродзенскі — 19 і 42 973, у Кобрынскі — 7 і 10 110, у Лідскі — 21 і 78 478, у Ашмянскі — 19 і 63 933, у Пружанскі — 7 і 12 394.

Рымска-каталіцкая царква мела вялікія штаты. Напрыклад, у Віленскай дыяцэзіі ў 1931 г. налічвалася 725 чал., у тым ліку 2 архіепіскапы, 12 членаў капітула, 8 служачых курыі, 9 выкладчыкаў рэлігійных вучэбных устаноў, 331 служыцель культа, 88 рэктараў філіяльных касцёлаў, 97 вікарыяў, 158 навучэнцаў рэлігійных вучэбных устаноў, 20 манашак. Штаты Пінскай дыяцэзіі складалі 345 чал. [55. С. 107]. Такая колькасць каталіцкага духавенства патрабавала вялікіх сродкаў. Таму з агульнай сумы грошай, якія адпускаліся на ўтрыманне канфесій, большая частка ішла на фінансаванне касцёла. Напрыклад, у 1937/38 фінансавым годзе з агульнай сумы ў 22 351 тыс. злотых на ўтрыманне рымска-каталіцкай царквы адпускалася 19 908.

З першых дзён жыцця ў новых умовах у беларускіх каталіцкіх парафіях пачалася работа па выцясненні беларускай мовы. Многія прадстаўнікі польскага касцёла вельмі варожа адносіліся да ўсяго беларускага, у тым ліку і да ўжывання насельніцтвам роднай мовы. Напрыклад, ксёндз С.Мацяевіч, інспектуючы беларускую сярэднюю школу ў Барунах, настаўляў вучняў: "Кулька ў лоб кожнаму, хто будзе чытаць беларускія кніжкі" [38. С. 32]. Нават не верыцца, што гэта гаварылася вуснамі свяшчэннаслужыцеля.

Наступленне на беларускі каталіцкі рух узмацнілася пасля заключэння 10 сакавіка 1925 г. канкардата паміж Польшчай і Ватыканам аб каталіках непаляках у Польшчы. Параграфы 12 і 19 гэтага пагаднення прадугледжвалі ўжыванне беларускай мовы ў набажэнствах і катэхізацыі дзяцей з дазволу польскага епіскапату. З пратэстам супраць названых параграфаў выступілі ксёндз Ф.Абрантовіч, прафесар Віленскай семінарыі Я.Рэшаць, пробашч з Жодзішак В.Гадлеўскі, пасол у польскім Сойме А.Станкевіч. Супраць такой палітыкі выступіў і ўрад БНР на чале з В.Ластоўскім. На жаль, ён не меў дыпламатычных зносін з Ватыканам і пратэст застаўся без адказу. Хаця ў тагачасных абставінах гэтая акцыя не магла даць пазітыўных вынікаў, але яна заставалася прыкладам разумення беларускімі каталіцкімі свяшчэннаслужыцелямі вялікай небяспекі паланізацыі насельніцтва ў далейшым [56. С. 60].

Згодна з распараджэннем міністра грамадскай асветы ад 2 лістапада 1926 г. рымска-каталіцкая рэлігія аб'яўлялася

абавязковай для вывучэння ва ўсіх школах. Яе выкладанню надавалася вялікая ўвага як з боку ўлад, так і з боку польскага каталіцкага епіскапата. Першы польскі Сінод запісаў у сваёй пастанове: "Ксяндзы, выкладаючы рэлігію ў школах, павінны памятаць аб тым, што даверанную ім моладзь павінны вучыць не толькі ісцінам веры, але перш за ўсё выхоўваць у каталіцкім духу" [55. С. 108]. У 1938 г. ва ўсіх школах Заходняй Беларусі на вывучэнне рэлігіі адводзілася па дзве гадзіны ў тыдзень.

Бадай у кожным горадзе Заходняй Беларусі выдаваліся каталіцкія газета, часопіс альбо рэлігійны лісток. У 1935 г. выходзіла 262 перыядычныя выданні, праз якія беларускае каталіцкае духавенства несла да вернікаў свае ідэі. Шэраг гэтых газет і часопісаў выходзіў на беларускай мове. З кожным годам заваёўвала чытачоў газета "Беларуская крыніца", друкаваны орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД). Першы яе нумар убачыў свет 8 кастрычніка 1917 г. у Петраградзе, а з верасня 1919 г. па ліпень 1940 г. газета выходзіла ў Вільні. Яна настойліва вяла работу па кансалідацыі беларусаў-каталікоў і беларусаў-праваслаўных як членаў адной нацыі, народа ў процівагу ўстарэлай канцэпцыі, паводле якой лічылася, што ўсе праваслаўныя — рускія, а каталікі — палякі, выступала за шырокае выкарыстанне беларускай мовы ў грамадскім жыцці, выкананне на ёй набажэнстваў у цэрквах і касцёлах. Патрыятычная накіраванасць газеты і крытычная ацэнка дзейнасці польскіх улад часта выклікалі незадаволенасць апошніх. Толькі ў першай палове 20-х гг. газета 9 разоў канфіскоўвалася і 17 разоў прыцягвалася да судовай адказнасці, а за ўвесь перыяд выдання ў Вільні яе 3 разы закрывалі і 58 нумароў было канфіскавана [32. С. 375 — 376].

Асіміляцыйныя памкненні польскія ўлады ажыццяўлялі шляхам падбору ксяндзоў, якія праводзілі іх у жыццё. З гэтай мэтай практыкаваўся перавод беларускіх ксяндзоў у польскія парафіі. Найбольш актыўным не давалі магчымасці працаваць наогул і нават арыштоўвалі. Так паступілі з адным з прыхільнікаў беларусізацыі касцёла Вінцэнтам Гадлеўскім. Пасля прызначэння ў жніўні 1924 г. пробашчам касцёла ў Жодзішках Свянцянскага павета малады ксёндз уключыўся ў работу па абуджэнні нацыянальнай самасвядомасці ў парафіян. Казанні гаварыў толькі на роднай мове, загучалі ў храме і беларускія песні. У Жодзішкі пацягнуліся вернікі з іншых парафій, каб пачуць захапляючыя казанні ксяндза беларуса. Супраць Гадлеўскага з боку

польскіх улад пачаліся ганенні. 25 чэрвеня 1925 г. ён быў арыштаваны і пасаджаны ў Лукішскую турму ў Вільні. Суд апраўдаў пробашча, і ён зноў вярнуўся ў парафію. Тысячы вернікаў ад Смаргоні да Жодзішак выйшлі сустракаць свайго пастыра. Але папрацаваць доўга не ўдалося. 30 верасня 1925 г. яго арыштавалі ў другі раз, абвінаваціўшы ў "распаўсюджванні бунтарскай дактрыны, якая мела на мэце адарваць ад Польшчы беларускія землі" [56. С. 61, 62]. 1 сакавіка 1926 г. ён быў асуджаны на два гады крэпасці (зняволенне замянілі штрафам). У сакавіку 1927 г. ксяндза арыштавалі ў чарговы раз і асудзілі на два гады зняволення. Пасля выхаду з турмы ў 1929 г. ён наведаў Жодзішкі. Аднак паліцыя і новы ксёндз Дроніч нават не пусцілі Гадлеўскага ў касцёл.

Уціск на беларускіх каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў з боку ўлад узмацніўся ў сувязі з дзейнасцю Корпуса ахароны прыгранічча, які ў другой палове 30-х гг. пачаў "чыстку" прыгранічных тэрыторый. Любога непажаданага ксяндза ці каталіцкага актывіста маглі высяліць з пагранічнай паласы, што выклікала незадавальненне грамадскасці. Нягледзячы на абурэнне людзей, Міністэрства ўнутраных спраў вырашыла ўзмацніць гэтую кампанію. Загадам ад 25 чэрвеня 1938 г. прыгранічную паласу пашырылі да 150 кіламетраў. У выніку большая частка беларускай тэрыторыі аказалася ў становішчы, калі мясцовыя ўлады маглі высяляць кожнага, каму адказвалі ў даверы. 8 ліпеня з Друі былі выселены пяць марыянскіх клерыкалаў, з іх чатыры беларусы: А.Падзява, Ч.Сіповіч, К. і Б.Сарулі. Праз дзень з Вільняй развітаўся айцец Я.Германовіч, а 28 лістапада — ксяндзы А.Станкевіч, У.Талочка, інжынер А.Клімовіч [38. С. 40].

Улады пільна сачылі за тым, каб уплывовыя царкоўныя пасады займалі іх прыхільнікі. З улікам гэтай акалічнасці ў сярэдзіне 20-х гг. быў перагледжаны склад біскупаў. У 1925 г. пад прымусам пайшоў у адстаўку віленскі біскуп Ю.Матулевіч. Некаторыя польскія колы ён не задавальняў па прычыне адстойвання беларусізацыі. 24 чэрвеня 1926 г. на вакантную пасаду быў прызначаны архібіскуп Р.Ялбжыкоўскі. Яго дзейнасць адзначалася наступленнем на ўсё беларускае ў рэлігійным жыцці. Па гэтай прычыне мітрапаліта хутка сталі называць "беларусажэрам". Пасля прыходу Ялбжыкоўскага да ўлады прадстаўнікі БХД паставілі перад ім шэраг пытанняў, накіраваных на паляпшэнне нацыянальных запатрабаванняў вернікаў. У прыватнасці, адзначалася неабходнасць неадкладнага ўвядзення выкладання беларускай мовы, гісторыі і літаратуры ў Віленскай каталіцкай духоўнай

семінарыі, выдзялення беларускім каталікам аднаго з віленскіх касцёлаў, правядзення ў парафіях з беларускім насельніцтвам казанняў і дадатковых богаслужэнняў на беларускай мове, прызначэння беларускіх святчэннаслужыцеляў не ў польскія, а ў беларускія парафіі. Мітрапаліт адказаўся выконваць гэтыя просьбы. Больш таго, выдадзены 12 снежня 1928 г. пастырскі ліст забараняў беларусам-каталікам не толькі належаць да партыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, але і ўдзельнічаць у працы друкаванага органа гэтай арганізацыі — газеце "Беларуская крыніца" [52. С. 116].

У гэтых дзеяннях мітрапаліта падтрымліваў біскуп Пінскай епархіі К. Букраба, які заняў гэтую пасаду ў 1932 г. пасля смерці Ж.Лазінскага. Вядома, што нябожчык стаяў на абароне інтарэсаў беларускага каталіцкага руху. Ён нават не пабаяўся выказаць свае думкі ў абарону беларусаў-каталікоў самому маршалу Пілсудскаму. Пад уціскам улад і Лазінскі не заўсёды да канца заставаўся стаяць на сваіх пазіцыях. Некаторыя яго ўчынкі не садзейнічалі паляпшэнню спраў у жыцці беларускіх парафій.

Нягледзячы на складанасці міжканфесіянальнага жыцця, асіміляцыйныя памкненні ўлад, рымска-каталіцкая царква ў Заходняй Беларусі знаходзілася ў іншых умовах, чым ва Усходняй. Тут адкрыта не руйнаваліся касцёлы, не падвяргаліся масавым рэпрэсіям прадстаўнікі каталіцкага духавенства і вернікі. Кожны беларус меў магчымасць спавядаць рэлігію альбо быць атэістам.

Дэнацыяналізатарская палітыка II Рэчы Паспалітай была характэрная і ў адносінах да праваслаўнай царквы. Пасля заключэння Рыжскага дагавору для абслугоўвання духоўных запатрабаванняў праваслаўнага насельніцтва Заходняй Беларусі былі створаны тры епархіі: Віленская, Гродзенская і Палеская. Кожную епархію ўзначальваў епархіяльны архірэй: Віленскую — архіепіскап віленскі і лідскі, Гродзенскую — епіскап гродзенскі і навагрудскі, Палескую — архіепіскап палескі і пінскі. Ва ўсіх трох епархіях налічвалася каля 500 прыходскіх цэркваў, 5 мужчынскіх і жаночых манастыроў.

Неабходна адзначыць, што польскі ўрад падтрымаў рух, накіраваны на незалежнасць праваслаўнай царквы ад Маскоўскага патрыярхату. Супраць гэтага ў першую чаргу выступіў сам патрыярх Ціхан, які на звароце дазволіць здзейсніць такі акт наложыў наступную рэзалюцыю: "Па канонах аўтакефалія даецца асобным народам; калі б палякі

былі праваслаўнымі і прасілі б для сябе аўтакефаліі, то, канешне, атрымалі б, але прыгнечаным меншасцям беларусаў, рускіх і ўкраінцаў аўтакефальнымі быць нельга" [41. С. 47].

Супраць аўтакефаліі выступілі і некаторыя іерархі, у тым ліку ўсе тры епіскапы беларускіх епархій. Нягледзячы на гэта, у чэрвені 1922 г. у Варшаве пад старшынствам мітрапаліта Георгія адбыўся Сабор праваслаўных епіскапаў. 14 чэрвеня трыма галасамі супраць двух была аб'яўлена аўтакефалія праваслаўнай царквы. Маскоўская патрыярхія не прызнавала законным гэты акт. Ён выклікаў рэзка адмоўную рэакцыю і ў рускага духавенства. 8 лютага 1923 г. архімандрыт Смарагд (Латышэнка) у мітрапалітным палацы ў Варшаве застрэліў Георгія. На чале праваслаўнай царквы стаў мітрапаліт Дзіянісій.

Нягледзячы на складаную рэлігійную сітуацыю, польскі ўрад дамогся ад візантыйскага патрыярха прызнання аўтакефаліі праваслаўнай царквы ў Польшчы. Пасля яе абвяшчэння была праведзена масавая акцыя па праверцы лаяльнасці духавенства. Міністэрства веравызнанняў і публічнай асветы (МВ і ПА) выдала спецыяльны цыркуляр, які абавязваў ваявод дасылаць спісы святароў, якія не падтрымалі аўтакефалію. Супраць іх ажыццяўляліся рэпрэсіі, непажаданых пераводзілі ў іншыя прыходы. Некаторыя вымушаны былі выехаць за мяжу. Гэтая акцыя ўнесла ў рады святароў хваляванне за сваё далейшае існаванне, зламала апазіцыю да аўтакефаліі.

Юрыдычнае становішча праваслаўнай царквы не было нарміравана дзяржаўным законам. Адзіным дакументам юрыдычнага зместу з'яўляліся "Часовыя правілы аб адносінах урада да Праваслаўнае Царквы ў Польшчы", падпісаныя міністрам веравызнанняў і публічнай асветы 30 студзеня 1922 г. Гэты дакумент даваў уладам шматлікія магчымасці ўмяшання ва ўнутраныя справы царквы. Толькі 18 лістапада 1938 г. прэзідэнт Польскай рэспублікі і іншыя дзяржаўныя асобы падпісалі "Унутраны статут Святой Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы" [19. С. 264 — 265]. Але гэты дакумент толькі санкцыяніраваў поўнае падпарадкаванне царквы дзяржаве, якое ўжо раней стала фактам. У снежні 1938 г. міністр веравызнанняў і публічнай асветы Свентаўлоўскі падпісаў сакрэтную інструкцыю да дэкрэта прэзідэнта. Апрача агульных палажэнняў рэлігійнай палітыкі інструкцыя дакладна разглядала найбольш істотныя з пункту гледжання ўлад артыкулы дэкрэта і давала тлумачэнні адносна іх інтэрпрэтацыі [57. С. 84].

Аб ступені паланізацыі праваслаўнай царквы сведчыў той факт, што ў сярэдзіне 30-х гг. пачалі праводзіцца службы на польскай мове. Такога да гэтага часу не здаралася на беларускіх землях. Асабліва ўзмацнілася дзейнасць у гэтым кірунку пасля таго, як 7 сакавіка 1935 г. была створана камісія па справах праваслаўнага веравызнання, якая дзейнічала ў рамках Камітэта па нацыянальных справах. Яна выпрацавала спецыяльныя "Тэзісы", якія ўяўлялі сабой праграму далейшай паланізацыі царквы. Улады ўсё больш катэгарычна патрабавалі ўвядзення польскай мовы ў час набажэнстваў. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся не толькі дзяржаўныя святы, але і імяніны маршала Пілсудскага, а пасля яго смерці ў 1935 г. і кожную гадавіну смерці.

Першыя набажэнствы на польскай мове адбыліся 11 лістапада 1935 г. у кафедральным саборы ў Беластоку і ў гарнізоннай царкве ў Гродна. Паспешліва скліканы надзвычайны Сінод зацвердзіў пераклады літургічных тэкстаў і дазволіў весці набажэнствы на польскай мове. Услед за пастановай Сінода шэф вайсковага праваслаўнага душпастырства выдаў цыркуляр з загадам весці набажэнствы і гаварыць пропаведзі ў арміі толькі па-польску.

На паланізацыю дзяржаўных служачых накіроўвалася дзейнасць Аб'яднання праваслаўных палякаў, узнікшага ў першай палове 1935 г. у Беластоку. Яго арганізатарам з'яўляўся сам ваявода. На спецыяльны сход былі запрошаны праваслаўныя, што працавалі на дзяржаўных пасадах. Не ўступіўшыя ў аб'яднанне звальняліся з работы. Павятовыя праўленні пачалі дзейнічаць у Нясвіжы, Валожыне, Навагрудку, Слоніме, Стаўбцах, Баранавічах. Хутка ў Гродна стаў працаваць Праваслаўны навукова-выдавецкі інстытут. Нягледзячы на тое, што ініцыятарам яго стварэння былі вайсковыя колы, галоўны цяжар па яго ўтрыманні ўзяло на сябе МВ і ПА. Інстытут вёў выдавецкую дзейнасць выключна на польскай мове [57. С. 80, 83].

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР пачаўся новы этап у жыцці праваслаўнай царквы. Па тых ці іншых прычынах адбыліся змены ў кіраўніцтве епархіямі. Віленскі архіепіскап Феадосій і пінскі Аляксандр засталіся на сваіх месцах. Да прыхода савецкіх войскаў пакінуў кафедру гродзенскі епіскап Савва. Некаторы час кіраўніцтва епархіяй ажыццяўляў протаіерэй Георгій (Барышэўскі). У сувязі з адсутнасцю епіскапа ў кастрычніку кафедру ўзначаліў Панцеляймон. 17 кастрычніка ён быў прызначаны экзархам Заходняй Беларусі і Украіны і выконваў гэтыя абавязкі да 19

ліпеня 1940 г., калі на гэту пасаду быў прызначаны мітрапаліт Мікалай (Б.Д. Ярушэвіч, 1892 — 1961). Ён пасяліўся ў Луцку. Панцеляймон узначаліў новастворaную Гродзенска-Віленскую епархію, куды ўвайшлі 307 прыходаў Баранавіцкай, Беластоцкай і Вілейскай абласцей. 73-гадоваму архіепіскапу цяжка было кіраваць справамі епархіі. Па яго просьбе 30 сакавіка 1941 г. у Маскве быў пасвечаны ў сан епіскапа настаяцель Жыровіцкага манастыра архімандрыт Бенедыкт (Бабкоўскі), вікарый Гродзенска-Вілейскай епархіі. Разам з архіепіскапам ён застаўся жыць у Жыровіцкім манастыры.

Архіепіскап палескі і пінскі Аляксандр не адазваўся на прапанову прыехаць у Маскву, чым фактычна ўхіліўся ад фармальнага ўз'яднання з Маскоўскай патрыярхіяй. Гэты ўчынак азначаў звальненне на пакой. У першай палове чэрвеня 1941 г. на кафедру ў Пінск быў пасвечаны архімандрыт Пачаеўскай лаўры В.Навіцкі [19. С. 269, 270].

З першых дзён усталявання савецкай улады ў Заходняй Беларусі пачаліся рэпрэсіі духавенства. Разам з дэпартацыяй асаднікаў у лагеры накіроўваліся праваслаўныя святары [58]. У асобных месцах рабіліся заклікі да насельніцтва расправіцца з імі. "Калі ваш поп быў супраць народа, то забіце яго" [20. С. 73]. Ужо ў першыя дні ўсталявання савецкай улады былі забіты некалькі дзесяткаў праваслаўных святароў і значная колькасць вернікаў. Мясцовыя ўлады накладвалі на духавенства максімальныя нормы выпрацоўкі пры лесанарыхтоўках, пабудове дарог і іншых работах. Святары абкладваліся падаткам, які ў некалькі разоў перавышаў іх даходы. Зазначым, што нявыплата падаткаў у вызначаны тэрмін з'яўлялася падставай для абвінавачвання ў варожасці ў адносінах да савецкай улады. А гэта азначала арышт або расстрэл. Амаль ва ўсіх прыходах вернікі пачалі збіраць грошы на аплату непасільных падаткаў святароў. Органы НКУС арыштоўвалі збіральшчыкаў, загадвалі вяртаць ахвяраванні.

На заходнебеларускіх абшарах разгортваўся уніяцкі рух. Калі ў пачатку 20-х гг. у БССР яго адраджэнне было падаўлена, то ў заходніх абласцях умовы для развіцця з'яўляліся больш спрыяльнымі. Польскія ўлады не без падстаў лічылі, што пашырэнне уніяцтва ў рэгіёне паспрыяе росту нацыянальнай свядомасці сярод беларусаў і ўкраінцаў. Ускладняла разгортванне гэтай справы няўдалая спроба львоўскага мітрапаліта А.Шаптыцкага адкрыць у 1917 г. Луцкую усходнекаталіцкую епархію. На кафедру ў Луцку быў прызначаны І.Боцян, якому прадпісвалася ўкараняць уніяцтва ва

Украіне і на Беларусі. З-за нежадання ўлад епіскап не прыступаў да працы. Але ў 1921 г. І.Боцян памёр і епархія была ліквідавана.

Найбольш спрыяльныя ўмовы для стварэння уніяцкіх парафій існавалі да 1932 г. Немалую ролю ў гэтым адыграла прыхільнасць да уніяцтва пінскага каталіцкага біскупа Ж.Лазінскага. Пінск пераўтварыўся ў буйны місіянерскі цэнтр. Менавіта тут рэгулярна наладжваліся уніяцкія канферэнцыі. Асаблівае значэнне мела II канферэнцыя (1 — 3 верасня 1931 г.), у пастановах якой настойліва рэкамендавалася ва уніяцкіх храмах выкарыстоўваць у набажэнствах родную мову вернікаў [59. С. 23].

Адной з першых уніяцкая парафія ўзнікла ў в.Гола Слонімскага павета, якая стала цэнтрам беларускасці ў краі. У 1926 г. пачала дзейнічаць суполка ў в.Алпень на Століншчыне. Яе арганізатар айцец В.Аношка выклікаў незадавальненне польскіх улад правядзеннем казанняў на беларускай мове. Пад яго кіраўніцтвам быў пабудаваны клуб, дзе збіралася моладзь. Тут ставіліся п'есы беларускіх пісьменнікаў, працаваў духавы аркестр. У школе заняткі па вывучэнні Закона Божага таксама праводзіліся на беларускай мове. Па рэкамендацыі В.Аношкі больш дзесяці вучняў паступілі на вучобу ў духоўныя семінарыі. Такая руплівая праца на ніве беларусізацыі рэлігійнага жыцця не задавальняла як мясцовыя ўлады, так і праваслаўных святароў (палова в.Алпень і яе ваколіц з'яўляліся праваслаўнымі). Таму ў 1935 г. В.Аношка быў пераведзены на працу ў іншае месца [61. С. 21, 24]. Традыцыі, закладзеныя В.Аношкай, былі прадоўжаны П. Татарыновічам, які з 1932 г. амаль да пачатку другой сусветнай вайны праводзіў набажэнствы на Століншчыне: у Алпені, Гародні, Мерлінскіх Хутарах.

За перыяд з 1923 па 1939 г. у Заходняй Беларусі было ўтворана каля 30 парафій, якія аб'ядноўвалі каля 17 тыс. вернікаў, заснавана больш за 10 мужчынскіх і жаночых кляштараў. Усходнекаталіцкі клір налічваў больш за 50 святароў. З 1930 г. уніяты мелі свайго Апостальскага візітатара тытулярнага біскупа М.Чарнецкага. У 1928 г. была заснавана ўсходняя семінарыя ў г. Дубна [61. С. 3 — 4].

Цэнтрам уніяцкага руху становіцца Альберцінскі манастыр каля Слоніма, заснаваны 26 верасня 1924 г. 40 айцоў-езуітаў, прыняўшых усходні абрад, сталі яго гаспадарамі. Нягледзячы на тое, што сярод іх знаходзіліся прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў — беларусы, рускія, украінцы, палякі, славакі, балгары, французы, румыны, — набажэнствы

праводзіліся на беларускай мове. У сувязі з гэтым айцы прыкладвалі намаганні для таго, каб добра яе вывучыць. Вось як аб гэтым пісаў тагачасны друк: "Некаторыя (езуіты), што не зналі або зналі кепска нашу мову, прыняліся са шчырым парываннем за грунтоўнае яе пазнанне, каб лепей і цэлай душой аддацца таму народу, над якім працуюць...".

Вялікі ўклад у дзейнасць манастыра ўнёс А. Неманцэвіч, які 13 верасня 1929 г. уступіў у езуіцкі навіцыянт і прыняў усходні абрад. Затым ён з'яўляўся пробашчам усходнекаталіцкай парафіі ў Альберціне. Да гэтага Неманцэвіч пасля заканчэння ў 1915 г. каталіцкай духоўнай семінарыі працаваў у касцёле Пятра і Паўла ў Маскве. Калі да ўлады прыйшлі бальшавікі, малады свяшчэннаслужыцель трапіў пад нагляд органаў ДПУ. Адукаванасць, эрудыцыя дазволілі Неманцэвічу з бляскам выступіць на дыскусійным вечары, які ладзіў тагачасны наркам асветы А.Луначарскі. Маскву не задавальняў ксёндз з такім шырокім кругаглядам і ўзрастаючым аўтарытэтам. Таму ў працэсе абмену вязняў з Польшчай ён быў выселены ў Заходнюю Беларусь, дзе і ўключыўся ва уніяцкі рух.

У студзені 1932 г. А.Неманцэвіч стварыў і стаў рэдактарам беларускага часопіса "Да злучэння". Польскія ўлады не садзейнічалі развіццю уніяцкага руху, у тым ліку і дзейнасці часопіса. У 1938 г. яго закрылі па прычыне таго, што ён выдаваўся на беларускай мове. Неманцэвіч прыкладае намаганні, каб у 1939 г. у Варшаве стварыць новы часопіс "Злучэнне". Вакол яго гуртуецца свядомае каталіцкае духавенства, каб супольнымі намаганнямі супрацьстаяць польскаму наступу. Выданне часопіса спыніла другая сусветная вайна [62. С. 50, 51].

Важную ролю ў адраджэнні уніяцкага жыцця адыграла адкрыццё 10 жніўня 1923 г. беларускага кляштара айцоў Марыянаў у Друі. Першым адміністратарам быў назначаны ксёндз А.Цікота. Ужо ў 1924 г. там было 9 юнакоў — беларусаў па нацыянальнасці, якіх рыхтавалі для душпастырскай дзейнасці. Наладжванне жыцця кляштара праходзіла ў складаных умовах. Трэба было адбудаваць памяшканне, адкрыць гімназію. Гэта патрабавала грошай, якіх не хапала. 2 жніўня 1926 г. у Друю прыязджае ксёндз доктар філасофіі, былы рэктар Мінскай каталіцкай духоўнай семінарыі Ф.Абрантовіч. Ён прывозіць з сабой шмат літаратуры на беларускай мове, а таксама немалыя грошы. Справа ў тым, што ў руках Абрантовіча аказаўся падарунак княгіні Магдалены Радзівіл — дыямантавы нашыйнік, які яна ахвяравала ў

1916 г. на развіццё уніяцкай царквы. Падарунак княгіні ў 1925 г. каштаваў 15 200 долараў. Гэтыя сродкі былі ўкладзены ў будаўніцтва кляштара. Княгіню задаволіла такое іх выкарыстанне. Паспяховае вядзенне спраў з'явілася падставай для абвінавачвання друйскіх марыянаў у тым, што яны атрымліваюць грошы ад бальшавікоў з БССР.

З 1923 г. пры кляштары працавала гімназія, якую ўзначальваў А.Цікота. Ф.Абрантовіч праводзіў заняткі па рэлігіі і гісторыі, а таксама займаўся навуковай працай, выступаў з казаннямі ў касцёле перад моладдзю і вернікамі. Лёс у другі раз звёў гэтых людзей на ніве адраджэння беларускасці. Раней яны разам працавалі ў Мінскай духоўнай семінарыі. Але супрацоўнічаць давялося толькі два гады. У чэрвені 1928 г. Ф.Абрантовіч назаўсёды пакінуў Друю і накіраваўся ў Харбін, дзе ўзначаліў створаную епархію для рускіх каталікоў, раскіданых на кітайскіх абшарах. Там Абрантовіч прапрацаваў 10 гадоў. Прыехаўшы ў 1939 г. у Еўропу, ён наведаў бацькоўскі дом у Навагрудку. Гэта адбылося ў верасні 1939 г., калі Чырвоная Армія ўступіла на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Наведванне родных мясцін абярнулася трагедыяй. Ён быў арыштаваны і ў студзені 1946 г. памёр у Бутырскай турме.

Уніяцкія парафіі з'яўляліся асяродкам беларускасці, важным фактарам фарміравання нацыянальнай самасвядомасці заходнебеларускага насельніцтва, выступалі супраць афіцыйнай палітыкі паланізацыі. Нягледзячы на забарону, усходнекаталіцкія святары-наслужыцелі збіралі дзяцей у храмах ці капліцах, праводзілі навучанне на беларускай мове. Невыпадкова начальнік грамадска-палітычнага ўпраўлення ваяводскай управы ў Навагрудку ў студзені 1939 г. пісаў: "Дзейнасць каталіцкага духавенства візантыйска-славянскага абраду не магу лічыць пазітыўнай, паколькі яно не толькі прапагандуе сярод вернікаў беларускую мову, але і пашырае выразныя беларускія нацыяналістычныя тэндэнцыі" [64. С. 75].

З боку польскіх улад узмацняўся ўціск на уніяцкі рух. Аб гэтым сведчыць той факт, што з 1932 г. на заходнебеларускіх землях не была адкрыта ні адна парафія. Больш таго, мелі месца выпадкі закрыцця храмаў. У 1936 г. загадам улад у в.Угрынічы (Пінская дыяцэзія) была зачынена парафіяльная ўсходнекаталіцкая царква. Айцы з Любашава, якія яе абслугоўвалі, вырашылі адкрыць капліцу ў прыватным доме. Але як толькі гаспадар згаджаўся на гэта, на яго накладваліся розныя спагнанні. Тады вернікі вымушаны былі купіць дом

і наладзіць капліцу там. Але і гэта не супыніла ўлады. У ліпені 1939 г. яны пайшлі на крайнюю меру — апячаталі дом. Гэта быў настолькі абуральны факт, што пра яго не маглі маўчаць нават некаторыя польскія каталіцкія часопісы. Яны адзначалі, што ва "Угрынічах Хрыстос апынуўся ў арыштце" [63. С. 9].

Уніяцкія святарнаслужыцелі падвяргаліся ўціску і ў сувязі з правядзеннем чысткі прыгранічнай паласы. Напрыклад, 15 мая 1939 г. са Стоўбцаў быў выселены айцец Л. Гарошка, пачынаючы свядомы святар-уніят, які пасля заканчэння ў 1939 г. Львоўскай грэка-каталіцкай акадэміі знаходзіўся каля года на вучобе ў Інсбруку.

Вызваленне Заходняй Беларусі не спрыяла паляпшэнню умоў працы на ніве адраджэння уніяцтва. Уніяцкая царква пазнала жорсткія рэпрэсіі НКУС. Частка ўсходнекаталіцкіх парафій была закрыта, некаторыя перайшлі на нелегальнае становішча. Да моманту прыходу нямецкіх акупацыйных улад там дзейнічалі толькі тры грэка-каталіцкія суполкі. У такіх умовах львоўскі мітрапаліт А.Шаптыцкі прымае захады па арганізацыйным умацаванні уніяцкіх абшчын. Выкарыстоўваючы свае паўнамоцтвы, у маі 1940 г. ён стварае чатыры экзархаты грэка-каталіцкай царквы, у тым ліку і экзархат Беларусі. Экзархам назначаецца А. Неманцэвіч [65. С. 63]. У Раду экзархата ўвайшлі В.Аношка, Л. Гарошка (намеснік экзарха) і І. Гермацюк. Праца экзархату праводзілася ва ўмовах глыбокай канспірацыі. Кожны крок на шляху адраджэння рабіўся ў складаных умовах грамадскага жыцця, асабістай небяспекі і мог стаць апошнім. У такіх неспрыяльных умовах 20 чэрвеня 1940 г. экзархі правялі саборную службу і першую супольную нараду, на якой вызначылі план работы. Важнейшыя пытанні рэлігійнага жыцця экзархі абмяркоўвалі на тайных нарадах — з'ездах. Да пачатку вайны такіх мерапрыемстваў адбылося тры. У апошнім, які праходзіў 10 — 12 чэрвеня 1941 г. у Львове, прынялі ўдзел А. Неманцэвіч і яго намеснік Л.Гарошка.

На абшарах Заходняй Беларусі распаўсюджваліся суполкі евангельскіх хрысціян і баптыстаў, хрысціян веры евангельскай і інш. Гэтаму садзейнічала тое, што ў гады імперыялістычнай вайны тэрыторыя была акупіравана нямецкай арміяй і насельніцтва мела магчымасць пазнаёміцца з "новай верай". Адносна хуткаму нараджэнню пратэстанцкіх цэркваў садзейнічала місіянерская дзейнасць замежных арганізацый, асобных прапаведнікаў, якія падтрымлівалі іх

матэрыяльна і духоўна. Праўда, з 1924 г. дзейнасць місіянераў афіцыйна была забаронена. Тым не менш яны працягвалі дзейнічаць у многіх месцах. Вялікую дапамогу ў наладжванні работы евангельскай абшчыны ў Скідалі аказалі амерыканскія місіянеры. За кароткі тэрмін яна стала адной з самых буйных на Гродзеншчыне, мела нядрэнную матэрыяльную базу. У 1924 г. пачала дзейнічаць царква евангельскіх хрысціян у Кобрыне. Яе стварылі прыбыўшыя з Амерыкі члены абшчыны евангелістаў на спецыяльныя сродкі, атрыманыя ад цэнтра гэтай арганізацыі ў ЗША. Узначальваў секту К.Ярашэвіч, які ў 1912 і 1924 гг. выязджаў за акіян.

Цэнтрам пратэстанцкага руху на Гродзеншчыне стала Зэльва, куды ў 1922 г. з Омска вярнуўся А.Кірцун. Настаўнік па адукацыі, у гады першай сусветнай вайны ён вымушаны быў пакінуць родныя мясціны і выехаць у Сібір, дзе стаў членам мясцовай царквы баптыстаў. Пасля прыезду ў 1923 г. на Беларусь стварыў у м.Зэльва абшчыну і стаў яе прасвітарам. Выдатны прапаведнік, таленавіты музыкант, Кірцун хутка заваяваў павагу і любоў вернікаў, шырокую вядомасць у грамадстве. Праз некаторы час утварыліся цэрквы хрысціян-баптыстаў у навакольных гарадах — Лідзе, Ваўкавыску і інш. Пашыраўся гэты рух і ў Гродна, дзе ў 1922 г. адкрыўся малітоўны дом баптыстаў. Да 1930 г. гарадская царква з яе наваколлем налічвала каля 300 вернікаў [47. С. 391].

Актыўную работу па евангелізацыі насельніцтва заходніх абшараў праводзіў ураджэнец Слонімшчыны Л.Дзекуць-Малей. Закончыўшы настаўніцкую семінарыю, ён працаваў настаўнікам і інспектарам школы. Але яго кар'ера хутка змянілася. Будучы на службе ў царскай арміі, у 1912 г. у Беластоку ён прыняў воднае хрышчэнне ў баптысцкай царкве. Пасля гэтага Л.Дзекуць-Малей прайшоў духоўную падрыхтоўку на біблейскіх курсах у Пецярбургу. У 1920 г. ён прыехаў у Брэст і цалкам аддаўся рэлігійнай дзейнасці. Пасля першых хрышчэнняў яго выбіраюць прасвітарам новаўтворанай абшчыны, якая хутка расла. Дзякуючы актыўнай прапаведніцкай і арганізацыйнай дзейнасці Л.Дзекуць-Малея Брэст становіцца цэнтрам евангелісцкага руху ў рэгіёне. Тут працавалі біблейскія і рэгенцкія курсы, дзе праходзілі падрыхтоўку служыцелі пратэстанцкіх цэркваў Заходняй Беларусі [47. С. 389].

На пачатку 20-х гг. узнікаюць абшчыны евангельскіх хрысціян. Месцам распаўсюджвання руху пяцідзесятнікаў становяцца Пружаны. У 30-я гг. колькасць вернікаў тут складала больш за 500 чал. Павялічвалася колькасць пяцідзесятнікаў

на Палессі, дзе першыя суполкі з'явіліся ў 1924 г. Праз дзесяць гадоў прыхільнікі гэтай секты тут склалі 3794 чал., у тым ліку ў Пінскім павеце — 894, у Столінскім — 409. У сярэдзіне 30-х гг. пяцідзесятнікі пачалі дзейнічаць у Маладзечна і яго заходніх ваколіцах, іншых населеных пунктах.

На Палессі з'явілася некалькі абшчын адвентыстаў сёмага дня (АСД). Яны дзейнічалі ў в.Паршэвічы, Кнубава, Марозавічы, Жолкіна Пінскага, Фядоры і Калодна Столінскага паветаў. На 1 студзеня 1935 г. у Палескім ваяводстве налічвалася больш за 250 вернікаў-адвентыстаў. Існавала таксама рэлігійная арганізацыя "Даследнікі свяшчэннапісання" (іегавісты), колькасць паслядоўнікаў якой дасягнула на тую ж дату 147 чал. [31. С. 133, 135]. Аб распаўсюджванні пратэстантызму ў рэгіёне сведчаць даныя Палескага ваяводскага ўпраўлення. Калі ў 1922 г. было зарэгістравана 610 пратэстантаў, у 1924 г. — 2614, у 1926 г. — 4102, то ў 1935 г. іх колькасць перавысіла 10 тыс. Баптысты і хрысціяне веры евангельскай у 1926 г. складалі 0,38 % ад агульнай колькасці насельніцтва ваяводства, а ў 1938 г. — 0,97 % [66. С. 31].

Пасля распаду ў 1925 г. Саюза евангельскіх хрысціян і баптыстаў Польшчы ў Заходняй Беларусі пачалі паасобку дзейнічаць Саюз баптыстаў, Саюз евангельскіх хрысціян і Саюз цэркваў Хрыстовых, якія стварылі для сябе нядрэнную матэрыяльную базу. У 1937 г., напрыклад, Саюз баптыстаў налічваў 85 цэркваў і 275 філіялаў з колькасцю вернікаў 13 800. Для выпуску духоўнай літаратуры ён адкрыў друкарню "Компас", арганізаваў біблейскія курсы і багаслоўскую школу.

Актыўную работу праводзіў Саюз цэркваў Хрыстовых, які знаходзіўся ў Кобрыне. Ён выдаваў часопіс "Хрысціянскі саюз", рэлігійную літаратуру. Толькі ў 1936 г. было распаўсюджана 5845 экземпляраў Бібліі і яе асобных раздзелаў, дзесяткі тысяч экземпляраў іншай літаратуры. Асаблівая ўвага надавалася рабоце сярод моладзі. За год былі праведзены 1183 сходы і 82 раённыя з'езды моладзі, арганізавана 7 маладзёжных гурткоў і 7 бібліятэк. У саюз уваходзілі 75 абшчын, якія аб'ядноўвалі 5 тыс. вернікаў. Як бачна, за кароткі тэрмін пратэстанцкі рух на заходнебеларускіх землях дасягнуў значнага распаўсюджвання, уцягваючы ў свае рады ўсё большую колькасць вернікаў.

Значнае месца ў рэлігійным жыцці Заходняй Беларусі належала іудзейскай канфесіі, тэрыторыя якой была пакрыта густой сеткай сінагог. Гэта бачна на прыкладзе Брэста. У 1936 г. у горадзе, дзе пражывала 21 518 яўрэяў (41,3 % ад

агульнай колькасці насельніцтва), налічвалася 22 сінагогі. Вялікая ўвага надавалася рэлігійнаму выхаванню дзяцей праз хедэры. Адзін з папулярных хедэраў знаходзіўся ў будынку народнай рэлігійнай школы "Талмуд-Торы". Тут вучылася каля 1 тыс. дзяцей з Брэста і навакольных мястэчак. [67. С. 18, 19]. Такая карціна была характэрна і для іншых гарадоў, многіх мястэчак. Становішча рэзка змянілася пасля верасня 1939 г. Тым не менш на пачатак 1941 г. у заходніх абласцях БССР дзейнічала 387 сінагог.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Польшчы на яе тэрыторыі засталося пражываць 6 тыс. татар. Як сведчыць Я.Станкевіч, у 1931 г. з гэтай колькасці толькі некалькі дзесяткаў чалавек жылі ў Варшаве, а для астатніх месцам жыхарства з'яўляліся беларускія землі [68. С. 12]. Тут дзейнічалі 19 рэлігійных абшчын. У невялічкай этнічнай групе яны падтрымлівалі пачуццё духоўнасці, сумлення, выхоўвалі павагу ў адносінах да людзей іншых нацыянальнасцяў. На канец 30-х гг. у Навагрудку налічвалася 766, у Докшыцах — 460, у Слоніме — 413 мусульман.

Важную ролю ў актывізацыі дзейнасці мусульманскай канфесіі адыграў Усяпольскі з'езд мусульманскіх джаміятаў, які адбыўся ў Вільні ў снежні 1925 г. Выбар месца правядзення падкрэсліваў значэнне горада як цэнтра татарскага асадніцтва ў XIV — XV стст. Адкрываючы з'езд, віленскі ваявода А.Маліноўскі ад імя польскага ўрада сказаў дэлегатам: "Звяртаючыся да вас як нашчадкаў старадаўніх татар, якія зберaглі веру сваіх продкаў, а праз гэта і сваю расавую самабытнасць, — маю ўсе падставы сцвярджаць, што адносіны Рэчы Паспалітай да грамадзян мусульманскай веры будуць напоўнены такой жа добразычлівасцю і добрай воляй, якой вызначаліся ў гістарычным мінулым у ходзе нашай агульнай гісторыі" [69. С. 52]. З'езд утварыў муфцыят, абвясціў аўтаномію ісламскіх джаміятаў. Да гэтага духоўным жыццём мусульман Беларусі кіраваў Таўрычаскі муфцыят з Сімферопаля. Муфцыем быў абраны доктар арыенталістыкі Я. Шынкевіч, а яго намеснікам — Я.Рамановіч. У той час 19 мусульманскіх абшчын дзейнічалі ў Вільні, Немежы, Сорак — Татарах, Даўбуцішках, Іўі, Відзах, Докшыцах, Мядзелі, Навагрудку, Лоўчыцах, Слоніме, Ляхавічах, Некрашунцах, Клецку, Асмолаве, Міры, Багоніках, Крушанянах і Варшаве [70. С. 143].

Добра служыла справе наладжвання адукацыі падрастаючага пакалення, развіццю нацыянальнай культуры мусульманская абшчына Слоніма, 2 % жыхароў якога з'яўляліся мусульманамі. Вялікая ўвага надавалася рэлігійнай адукацыі

дзяцей. Работу з імі праводзіў муэдзін мячэці С.Шчэняновіч. Пасля заканчэння курса навук у годжага дазвалялася хадзіць у мячэць. Вялікай падзеяй у сям'і з'яўлялася яе першае наведванне дарослымі сынам ці дачкой. Традыцыяй мусульман горада з'яўляліся балі з нагоды Байрамаў. Іх заўсёды праводзілі на другі ці трэці дзень свята ў самай вялікай зале Слоніма — Доме людовым [71. С. 23, 25].

Калі ва ўсходняй частцы Беларусі мячэці руйнаваліся, то ў заходняй яны адбудоўваліся. Трэба зазначыць, што ў гады імперыялістычнай вайны многія мусульманскія храмы пацярпелі ад пажараў. Таму ў 1928 г. была пабудавана мячэць у Ляхавічах, у 1930 — у Мядзелі, у 1932 — у Відзах.

З'явіліся ў татар і ўласныя перыядычныя выданні. У 1930 г. у Варшаве мусульманская абшчына пачала выпускаць часопіс "Пшэглёнд ісламскі" ("Ісламскі агляд"), які шмат увагі ўдзяляў становішчу іслама за мяжой. З 1934 г. віленскім аддзелам культурна-асветніцкага саюза стаў выдавацца штомесячнік "Жычэ татарскае" ("Татарске жыццё"), прызначаны для бяднейшых груп супольнасці, у якім друкаваліся шматлікія хранікальныя нататкі: пра вяселлі, пахаванні, эпізоды рэлігійнага жыцця. Выдаваўся таксама часопіс "Рочнік татарскі" ("Штогоднік татарскі"), які ўбачыў свет у 1932, 1935 і 1939 гг.

Выхаванню павагі да сваіх продкаў, каранёў служыла традыцыя штогод вясной і ў пачатку лета наведваць мізары (могілкі). У 1938 г. толькі на тэрыторыі трох ваяводстваў — Віленскага, Навагрудскага і Беластоцкага — знаходзілася 68 мізараў. Напярэдадні праводзілася добраўпарадкаванне магіл. Пры наведванні мізараў чыталіся малітвы — адна за родзічаў і адна альбо дзве за душы ўсіх пахаваных.

Аднак рэлігійнае адраджэнне татар-мусульман Заходняй Беларусі прыпынілі падзеі 17 верасня 1939 г. Рэпрэсіі не абышлі і маленькую мусульманскую канфесію. Яе вернікі і свяшчэннаслужыцелі сталі ахвярамі рэпрэсіўнай машыны. Толькі ў Слонімскай абшчыне за 1939 — 1940 гг. былі арыштаваны 24 чал.

Новы перыяд у жыцці ўсіх канфесій пачаўся пасля верасня 1939 г. Народны сход, які праходзіў 28 — 30 кастрычніка, аб'явіў савецкую ўладу ў Заходняй Беларусі. Ён дэклараваў распаўсюджванне на данай тэрыторыі ўсіх законаў СССР, у тым ліку і аб рэлігійных культах, канфіскацыі і нацыяналізацыі манастырскіх зямель. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР з 20 красавіка 1940 г. рэгістрацыя актаў грамадзянскага стану (нараджэнні, смерці, шлюбы, раз-

воды і г.д.) перадаваліся выключна органам ЗАГСа. Грамадзянскія акты, зарэгістраваныя пасля гэтага тэрміну служыцелямі культаў, аб'яўляліся несапраўднымі.

Рэпрэсіі духавенства, вернікаў суправаджаліся разгортваннем атэістычнай прапаганды. Толькі з сакавіка па жнівень 1940 г. лектарамі Цэнтральнага савета СВБ БССР было прачытана 342 лекцыі на атэістычныя тэмы. Перад насельніцтвам выступалі лепшыя прапагандысцкія сілы: 72 прафесары, дацэнты і навуковыя работнікі АН БССР, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Мінскага медінстытута. Спецыяльна для заходніх абласцей пачалося выданне масавай антырэлігійнай літаратуры, арганізоўваліся атэістычныя радыёперадачы.

Як бачна, рэлігійнае жыццё насельніцтва Заходняй Беларусі праходзіла ва ўмовах прыярытэтнага развіцця польскага касцёла, хаця ўлады II Рэчы Паспалітай стваралі бачнасць роўнасці ўсіх канфесій. Нягледзячы на спецыфіку, такіх грубых парушэнняў правоў вернікаў, якія назіраліся ва ўсходняй частцы, не было. Да верасня 1939 г. усе канфесіі знаходзіліся ў добрым арганізацыйным стане, кожны чалавек меў магчымасць спавядаць любую рэлігію альбо быць атэістам. Пасля ўстанаўлення савецкай улады пачалася палітыка вынішчэння рэлігійнай свядомасці з жыцця народа. Яна суправаджалася рэпрэсіямі духавенства і вернікаў, узмацненнем атэістычнай прапаганды. Але за кароткі тэрмін, да пачатку нямецкай акупацыі, уладам не ўдалося дабіцца значных зрухаў у атэізацыі грамадства. Сярод насельніцтва працягвалі захоўвацца рэлігійныя традыцыі, а разам з імі ў складаных умовах ідэалагічнага наступства працягвалі жыццё канфесіі.

## 5.3. РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Складаным і супярэчлівым перыядам у жыцці ўсіх канфесій з'явіліся гады Вялікай Айчыннай вайны. Праводзячы генацыд і рабаванне беларускага народа, нямецкія акупацыйныя ўлады распрацавалі сваю палітыку ў адносінах да канфесій. Яна заключалася ў тым, каб цалкам адрадзіць дарэвалюцыйную ролю царквы ў жыцці насельніцтва. З гэтай мэтай забаранялася працаваць па нядзельных днях. Парушальнікі дадзенага загаду падвяргаліся штрафам і нават расстрэльваліся. Насельніцтву прадпісвалася ўсе

рэлігійныя святы адзначаць па старым стылі, у кожным доме мець іконы, насіць на шыі крыжы, хрысціцца перад і пасля прыняцця ежы. Усе раней здзейсненыя грамадзянскія акты аб'яўляліся несапраўднымі. Гэта ў першую чаргу тычылася рэгістрацыі дзяцей, вянчанняў, смерці. Насельніцтва абавязвалася праводзіць іх па рэлігійных абрадах. Такая тактыка мела на мэце заваяваць сімпатыі насельніцтва, выкарыстаць царкву ў антысавецкай прапагандзе.

Нямецкія акупацыйныя ўлады не перашкаджалі адкрыццю храмаў, у першую чаргу праваслаўных, якія былі закрыты ў перадваенныя часы. Больш таго, калі-нікалі іх прадстаўнікі нават прысутнічалі пры адкрыцці цэркваў, аб чым паведамляў калабарацыяніскі друк. Пасля доўгіх гадоў руйнавання святыняў самі вернікі ініцыіравалі іх аднаўленне. У некаторых месцах для каардынацыі дзеянняў ствараліся спецыяльныя будаўнічыя камітэты. Рэлігійнае жыццё абуджалася з кожным днём, што добра бачна на прыкладзе Мінска. У дзень уступлення немцаў у сталіцу, 28 чэрвеня 1941 г., вернікі знеслі замок і ўвайшлі ў Свята-Аляксандра-Неўскую царкву на ваенных могілках, якая была закрыта ў лютым 1938 г. Шостага ліпеня тут адбылася першая літургія. Праз месяц, 4 жніўня 1941 г., пачалася служба ў царкве св.Марыі Магдаліны на Старажоўскіх могілках. 17 жніўня адкрыўся Спаса-Праабражэнскі манастыр і ў яго галоўным храме адбылася першая служба. 2 лістапада аднавіліся набажэнствы ў драўлянай Свята-Казанскай царкве, дзе да гэтага знаходзіўся клуб глуханямых. У снежні пачала дзейнасць Свята-Екацярынінская царква [22. С. 25]. Такая з'ява назіралася ва многіх месцах Беларусі, дзе пасля рэстаўрацыі і асвячэння пачыналі дзейнасць раней закрытыя храмы. Яны збіралі мноства людзей, якія маліліся за сваё жыццё і жыццё сваіх блізкіх, успаміналі продкаў. Вярталіся да душпастырскай дзейнасці ўцалелыя ад бальшавіцкіх рэпрэсій святарнаслужыцелі. У малітвах і пропаведзях яны неслі суцяшэнне ў душы вернікаў. За першы год акупацыі ў Мінскай епархіі адкрыліся 120 прыходаў [72. С. 211].

Нямецкія ўлады рабілі стаўку на стварэнне аўтакефаліі, незалежнай ад Маскоўскай патрыярхіі. Абавязковай умовай рэлігійнага жыцця з'яўлялася беларуская мова. Свяшчэннаслужыцелі павінны былі быць беларусамі.

Стварэнне ў другі раз беларускай аўтакефальнай царквы ў складаных умовах вайны лажылася на плечы 74-гадовага архіепіскапа Панцеляймона і епіскапа Бенедыкта, якія на пачатак вайны заставаліся пражываць у

Жыровічах. Экзарх заходніх абласцей Украіны і Беларусі Мікалай у той час знаходзіўся ў Маскве і з ім сувязь не падтрымлівалася.

Яшчэ ў 20-я гг. Панцеляймон не падтрымаў ідэю стварэння праваслаўнай аўтакефальнай царквы ў Польшчы, за што доўгія гады знаходзіўся на пакоі ў Жыровічах. Ён і зараз не жадаў самастойнасці, аддзялення беларускай царквы ад Маскоўскай патрыярхіі. Аб гэтым сведчаць далейшыя дзеянні архіепіскапа. На такіх пазіцыях знаходзіўся і Бенедыкт, які быў абавязаны сваёй кар'ерай Панцеляймону. У другой палове верасня 1941 г. епіскап прыехаў з Жыровіч у Мінск, дзе адбылася яго сустрэча з кіраўніком Мінскай акруговай управы Р.Астроўскім, на якой абмяркоўваліся пытанні арганізацыі рэлігійнага жыцця. 6 кастрычніка Панцеляймон у сане мітрапаліта Мінскага і ўсея Беларусі ўзначаліў БПЦ. 23 лістапада 1941 г. у Жыровіцкім манастыры адбылася епіскапальная хіратонія архімандрыта Філафея (Нарко), які праходзіў царкоўную службу ў Варшаве. Ён атрымаў тытул епіскапа Слуцкага, вікарыя Мінскай епархіі. 30 лістапада мітрапаліт Панцеляймон і епіскап Філафей пераехалі з Жыровіч на пастаяннае месцажыхарства ў Мінск.

Для вырашэння неадкладных спраў у сакавіку 1942 г. адбыўся скліканы мітрапалітам Сабор епіскапаў, які разгледзеў і зацвердзіў праект статута Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы. Статутам прадугледжвалася адкрыццё шасці епархій: Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай, Навагрудскай і Смаленскай. На кожную з іх былі прызначаны епіскапы. Мінскую епархію ўзначаліў мітрапаліт Панцеляймон, якому быў нададзены тытул "Мітрапаліт Мінскі і ўсея Беларусі, свяшчэнна-архімандрыт Жыровіцкай Свята-Успенскай абіцелі". Заступнікам мітрапаліта быў абраны епіскап Філафей, які жыў у Мінску [19. С. 274].

Тым не менш Сабор не абвясціў аўтакефалію Беларускай царквы. Прычына была ў тым, што Панцеляймон заставаўся стаяць на пазіцыях падтрымкі Рускай Праваслаўнай Царквы, праводзіў службы на рускай мове, дэманструючы гэтым адданасць Маскве. Правядзенне набажэнстваў не па-беларуску мітрапаліт тлумачыў тым, што мовай гарадскога насельніцтва з'яўляецца руская. Таму 2 чэрвеня 1942 г. нямецкія ўлады адхілілі Панцеляймона ад кіравання царкоўнымі справамі і адправілі ў былы манастыр у Лядах Смалявіцкага раёна. На зіму немцы перавезлі яго ў Вілейку, дзе мітрапаліт жыў пад наглядам нямецкай ваеннай паліцыі. Толькі 16 красавіка 1943 г. Панцеляймону дазволілі

вярнуцца ў Мінск. Адбылося гэта пасля таго, як у Мінску 30 жніўня — 2 верасня 1942 г. прайшоў Усебеларускі царкоўны Сабор, які абвясціў аб утварэнні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ). Падрыхтоўчая работа па яго скліканні праводзілася пад кіраўніцтвам заступніка мітрапаліта епіскапа Магілёўскага і Мсціслаўскага Філафея. Ён таксама не быў прыхільнікам аўтакефаліі і пастаянна спасылаўся на неправамочнасць прымаць рашэнні без ведама Панцеляймона. І толькі калі 29 жніўня мітрапаліт пісьмова даручыў старшынстваваць на Саборы, пытанне аб зрыве яго правядзення адпала.

На абмеркаванне Сабора было вынесена два пытанні: аб'яўленне аўтакефаліі і зацвярджэнне статута БАПЦ. Сярод заслуханых рэфератаў цікавасць прадстаўляў даклад протаіерэя Я. Балая "Царкоўна-кананічныя асновы аўтакефаліі". У ім аўтар раскрыў формы аўтакефальнага царкоўнага жыцця, паказаў наяўнасць у Беларусі неабходных умоў для ўвядзення аўтакефаліі. У зацверджаным статуце адзначалася, што "кананічнае аб'яўленне аўтакефаліі паследуе пасля прызнання яе ўсімі аўтакефальнымі праваслаўнымі цэрквамі" [19. С. 280].

Пакуль працягвалася барацьба па вызначэнні далейшага шляху развіцця праваслаўнай царквы Беларусі, на месцах наладжвалася работа новых прыходаў, цэркваў. Вялікай падзеяй для вернікаў акупіраванага Полацка з'явілася аднаўленне набажэнстваў у Сафійскім Саборы, якія працягваліся да лета 1944 г. [73. С. 73]. У 1943 г. у Мінску распачаў дзейнасць Свята-Духаў мужчынскі манастыр. Адкрываліся не толькі раней працаваўшыя цэрквы. У некаторых мясцінах удавалася ўзвесці новыя храмы. Дзякуючы намаганням протаіерэя І.Голуба ў 1943 г. была пабудавана новая царква ў Козарава.

На пачатак 1945 г. колькасць цэркваў на Беларусі дасягнула 1044, па іншых звестках — 1093 [74. С. 38]. Яны збіралі вялікую колькасць вернікаў, сярод якіх налічвалася шмат падлеткаў. Вельмі часта адразу пасля царкоўнай службы акупацыйныя ўлады праводзілі сходы, на якіх абмяркоўваліся бягучыя пытанні.

Фашысцкія захопнікі не толькі дазвалялі адкрываць цэрквы, але і спальвалі іх, як толькі даведваліся аб сувязях вернікаў прыхода з партызанамі. Такая трагедыя адбылася ў кастрычніку 1943 г. у в.Доры Валожынскага раёна. Нялюдскія карнікі забілі 106 чал., з іх 26 загналі ў царкву і спалілі разам з храмам.

Адраджэнне рэлігійнага жыцця паставіла задачу разгортвання работы па падрыхтоўцы царкоўных кадраў. З пачатку вайны ў Мінску, Гродна, Жыровічах, Навагрудку пачалі дзейнічаць курсы па падрыхтоўцы кандыдатаў на заняцце царкоўных пасад. У 1943 г. у Мінску адкрыліся шасцімесячныя багаслоўска-пастырскія і псаломшчыцка-пеўчыя курсы. З 1942 г. праваслаўных святароў пачала рыхтаваць Варшаўская духоўная семінарыя. За перыяд з 1941 па 1945 г. на Беларусі ў сан свяшчэннаслужыцеля было пасвечана 213 чал. Па сацыяльным складзе 17 з іх з'яўляліся настаўнікамі, 16 — рабочымі, 27 — сялянамі-аднаасобнікамі [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 593, арк. 51, 52]. Тым не менш святароў не хапала. Таму вернікі вымушаны былі звяртацца да так званых "самасвятаў". Большая частка з іх не мела духоўнага звання. Ідучы ад вёскі да вёскі, яны па просьбе вернікаў выконвалі рэлігійныя абрады, адмаўляючыся ад рэгістрацыі і ўплаты падаткаў.

Пачаўшаяся беларусізацыя праваслаўнага жыцця ўскладнялася тым, што тэрыторыя рэспублікі была падзелена на некалькі зон нямецкіх уладанняў. Беластоцкая, паўночныя раёны Брэсцкай, частка раёнаў Баранавіцкай абласцей увайшлі ў склад Усходняй Прусіі і кіраваліся агульнагерманскімі законамі. У зону пад назвай Генеральны камісарыят Беларусі з цэнтрам у Мінску ўваходзілі Навагрудчына, Віленшчына, Міншчына — усяго 68 раёнаў. Кіраўніцтва ёю ажыццяўляў генеральны камісар са штатам чыноўнікаў. Віцебшчына, Магілёўшчына і Гомельшчына знаходзіліся ў ваеннай паласе, дзе кіраванне ажыццяўляла ваеннае камандаванне. Палессе з Пінскам, Мазыром і Брэстам было далучана да рэйхскамісарыяту Украіны. Паміж зонамі былі ўстаноўлены межы, якія мясцовыя жыхары не маглі пераходзіць без дазволу нямецкіх улад.

У кожнай зоне былі свае асаблівасці царкоўнага жыцця, як, напрыклад, на Палессі, дзе дзейнічалі 152 праваслаўныя царквы, у якіх працавала 250 служыцеляў культу. З першых дзён нямецкай акупацыі Украінская праваслаўная царква раскалолася на дзве плыні: аўтакефалістаў і аўтанамістаў. Ведучы паміж сабой барацьбу, яны не маглі не ўцягнуць у саперніцтва і Брэсцкую епархію. Але афіцыйна беларускія свяшчэннаслужыцелі падтрымлівалі аўтакефалістаў праз створаны ў Брэсце ўкраінскі камітэт дапамогі, які з'яўляўся кіруючым цэнтрам украінскіх аўтакефалістаў.

Можна прывесці прыклады, калі царкоўнаслужыцелі актыўна працавалі на немцаў. Псаломшчык царквы в. Церабунь Брэсцкага раёна А. Яўтуховіч стаў намеснікам нямецкага

камісара, сістэматычна займаўся падборам і адпраўкай савецкіх людзей на работы ў Германію. У канцы 1941 г. ён асабіста склаў такі спіс. Развітваючыся з прыхаджанамі, Яўтуховіч гаварыў: "Я, камісар і арганізатар нямецкай улады ў сяле Дзмітровічы, загадваю ўсім залічаным мною ў спіс тэрмінова выехаць у Германію, а хто не паедзе, будзе расстраляны, гаспадарка спалена, а сям'я саслана альбо расстраляна" [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 20 — 21]. Благачынны Антопальскага сабора протаіерэй А.Мацкевіч выдаваў немцам партызан, за што апошнія спалілі яго хату і царкву. Святар Пружанскага сабора У.Піпінкевіч у 1943 г. наведаў Берлін, узначальваючы брэсцкую царкоўную дэлегацыю на мерапрыемствы ў сувязі з 50-годдзем Герынга. Пасля вяртання дамоў ён у публічных выступленнях заклікаў прыхаджан да барацьбы з партызанамі [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 18].

8 верасня 1943 г. Сабор епіскапаў РПЦ у Маскве прыняў пастанову, у якой асудзіў здраду Радзіме з боку як святароў, так і вернікаў. "Усякі вінаваты ў здрадзе агульнацаркоўнай справе і перайшоўшы на бок фашызму як праціўнік Крыжа Гасподняга, — адзначалася ў пастанове, — мае лічыцца адлучаным, а епіскап або клірык — пазбаўленым сана" [75. С. 45].

Але большасць святароў у перыяд нямецкай акупацыі станавілася на шлях актыўнай барацьбы з фашыстамі, нярэдка ахвяруючы сваім жыццём. Так, святар І.Каляда з Мажэрыцкай царквы Зэльвенскага раёна неаднаразова выратоўваў грамадзян ад выгнання ў Германію. Дзякуючы актыўным дзеянням святара пазбегнуў расстрэлу былы дэпутат мясцовага сельскага Савета А.Кручанок [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 7]. Застаючыся вернымі асноўным прынцыпам і запаведзям хрысціянства, многія святары ратоўвалі людзей ад гібелі незалежна ад веравызнання і нацыянальнасці. За сувязь з яўрэямі немцы арыштавалі святара П.Бацяна. Брат Навагрудскага архіепіскапа Афанасія Б.Кірык з в.Ятра Карэліцкага раёна пад падлогай царкоўнага дома выкапаў вялікі склеп і арганізаваў падпольны шпіталь для лячэння раненых партызан. Акрамя духоўнай святар меў яшчэ і медыцынскую адукацыю. Праз некаторы час яго дзейнасць была раскрыта і Б. Кірыка расстралялі [76. С. 14]. Аб маштабах удзелу праваслаўных святароў ў барацьбе з ворагам сведчыць той факт, што толькі па даных спісаў, якія захоўваюцца ў Мінскім епархіяльным упраўленні, непасрэднымі ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны з'яўляліся 43 чал.

Важную ролю ў далейшым жыцці РПЦ адыграла сустрэча І.Сталіна з намеснікам патрыярхавага месцаахоўніка Сергіем (Старагародскім), мітрапалітам Ленінградскім Алексіем (Сіманскім) і мітрапалітам Кіеўскім і Галіцкім Мікалаем (Ярушэвічам), якая адбылася ў Крамлі ў ноч з 4 на 5 верасня 1943 г. Гутарка ішла аб намеры склікаць Сабор епіскапаў праваслаўнай царквы для выбрання Патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі. З гэтай нагоды ў Маскву з лагераў прывезлі лаяльных епіскапаў, тэрмінова правялі некалькі хіратоній. У выніку праз два дні, 8 верасня, Сабор абраў Сергія (Старагародскага) Патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі [75. С. 44].

Для наладжвання кантактаў дзяржавы з праваслаўнай царквой 14 верасня 1943 г. быў створаны Савет па справах Рускай Праваслаўнай Царквы пры СНК СССР. Яго кіраўніцтва ўзяў на сябе начальнік III аддзела КДБ палкоўнік дзяржбяспекі Г.Карпаў (1898 — 1967). Гэту пасаду ён займаў да 1960 г. Пастановай СНК СССР ад 7 кастрычніка 1943 г. было зацверджана палажэнне аб Савеце. У яго задачу ўваходзіла ажыццяўленне сувязі паміж урадам СССР і Патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі па пытаннях, якія патрабавалі вырашэння ці садзейнічання ўладных структур. На гэты орган ускладаліся функцыі назірання за правільным і своечасовым правядзеннем у жыццё законаў і пастаноў урада СССР, якія адносіліся да РПЦ на ўсёй тэрыторыі краіны. Савет меў інстытут упаўнаважаных на месцах. Пастановай СНК СССР ад 18 снежня 1943 г., рашэннем Дзяржаўнай штатнай камісіі пры СНК былі зацверджаны штаты апарату Упаўнаважанага савета па справах РПЦ пры СНК СССР па БССР і ўпанаважаных саветаў пры аблвыканкамах. Апарат упаўнаважанага савета РПЦ па БССР быў зацверджаны ў складзе ўпаўнаважанага, яго намесніка, сакратара і машыністкі. Узначаліў гэтую структуру Лабанаў, які праз некаторы час за распусту і хабарніцтва быў зняты з работы [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 592, арк. 67, 68].

У абласцях апарат упаўнаважанага складаўся з аднаго чалавека. Тым не менш гэтай пасадзе надавалася вялікае значэнне. Сведчаннем гэтаму з'яўлялася тое, што яна па "заработнай плаце і іншых відах забеспячэння прыраўноўвалася да загадчыкаў аддзелаў аблвыканкамаў" [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 592, арк. 67].

Дзейнасць упаўнаважаных насіла палітычны характар. Яны вывучалі працэсы, якія адбываліся ў рэлігійных колах, ла-

яльнасць кадраў духавенства, строга выконвалі інструкцыі і даручэнні, атрыманыя ад Савета. Іх работа вялася ў цесным кантакце з органамі дзяржаўнай бяспекі.

Летам 1944 г. у выніку наступлення Савецкай Арміі БАПЦ перастала існаваць як самастойная царкоўная адзінка. Усе створаныя ёю епархіі ўвайшлі ў склад Маскоўскай патрыярхіі як яе непадзельныя часткі. 7 ліпеня 1944 г. кіраўніцтва праваслаўнай царквы на чале з мітрапалітам Панцеляймонам эмігрыравала ў Германію. Ва ўмовах эміграцыі вышэйшыя іерархі адмовіліся ад ідэі незалежнай беларускай праваслаўнай царквы. У красавіку 1946 г. Сабор беларускіх епіскапаў далучыўся да Расійскай замежнай праваслаўнай царквы (РЗПЦ), якую ўзначальваў мітрапаліт Анастасій. Адмовіўшыся ад незалежнасці сваёй царквы, беларускія епіскапы нічога не зрабілі і для таго, каб яе прызналі іншыя аўтакефальныя цэрквы [77. С. 282].

Праваслаўная царква Беларусі паплацілася за сваю адданасць ідэі аўтакефаліі. Пасля выгнання нямецкіх акупантаў Маскоўская патрыярхія не дазволіла ёй мець нават метраполію, як гэта было ва Украіне, у іншых месцах. У Беларусі было створана звычайнае епіскапства з цэнтрам у Мінску. У жніўні 1944 г. кафедру ўзначаліў архіепіскап Васіль (Ратміраў).

З вызваленнем тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў улады пачалі праводзіць праверку "паводзін" святароў. Многіх арыштоўвалі і высылалі ва "ўстановы" ГУЛАГа. Аб памерах гэтай хвалі рэпрэсій можна меркаваць па колькасці арыштаў сярод праваслаўнага духавенства Мінска. Пяццю гадамі лагераў была "адзначана" дзейнасць па адраджэнні Козыраўскай царквы протаіерэя І. Голуба. 10 гадоў турэмнага зняволення атрымаў настаяцель царквы св.Марыі Магдаліны протаіерэй К.Шашко. Былі асуджаны настаяцель Свята-Духава манастыра архімандрыт С.Шахмудзь і настаяцель Свята-Александра-Неўскай царквы протаіерэй М. Цісельскі. Па даных святара Ф.Крываноса, за першыя пасляваенныя гады ўлады падверглі рэпрэсіям больш за 12 свяшчэннаслужыцеляў Мінска [22. С. 25 — 26].

Пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў праваслаўныя абшчыны актывізавалі работу па зборы сродкаў у Фонд абароны краіны. Ва ўсіх цэрквах рабіліся ахвяраванні на пабудову танкавай калоны імя Дзмітрыя Данскога. Гэтую работу праводзілі настаяцелі храмаў і царкоўныя старасты. Нягледзячы на тое, што вернікі знаходзіліся ў найцяжалейшых матэрыяльных умовах, яны ахвяравалі апошняе, што ў

іх было. У той жа час згодна з інструктыўным пісьмом Савета па справах РПЦ кіраўнікам царкоўных абшчын забаранялася ажыццяўляць шэфства над шпіталямі і дзіцячымі дамамі, размяркоўваць на свой погляд сродкі сярод сем'яў красна-армейцаў, інвалідаў вайны, асобных грамадзян. Гэта рабілася з "прафілактычнай" мэтай, каб зменшыць уплыў рэлігійных арганізацый на насельніцтва. А ён значна вырас за гады вайны. Таму 25 верасня 1944 г. ЦК УКП(б) прымае пастанову "Аб арганізацыі навукова-асветнай прапаганды" [78. С. 521 — 523]. "У краіне ажывілася дзейнасць царквы, рэлігійныя перажыткі распаўсюдзіліся сярод часткі насельніцтва, — канстатавалася ў пастанове, — асабліва ў раёнах, якія падверглiся акупацыі" [78. С. 521]. З мэтай нейтралізацыі прапаведніцкай і дабрачыннай дзейнасці царкоўных арганізацый прапаноўвалася шырока разгарнуць прапаганду прыродазнаўчанавуковых ведаў антырэлігійнай накіраванасці.

Пастанова не адыграла прыкметнага ўздзеяння на дзейнасць РПЦ, далейшае абвастрэнне царкоўна-дзяржаўных адносін. Прычына гэтага бачыцца ў тым, што адносіны Сталіна да праваслаўнай царквы ў той час сталі больш цярпімымі. Гэты "паварот" звязваўся з вялікім матэрыяльным і духоўна-патрыятычным укладам РПЦ у набліжэнне перамогі над фашысцкай Германіяй. Яшчэ 5 студзеня 1943 г. мітрапаліт Сергій паслаў Сталіну тэлеграму, у якой прасіў дазволіць адкрыццё банкаўскага рахунку на збор сродкаў у абарону краіны. Сталін даў згоду і ад імя Чырвонай Арміі падзякаваў царкву за яе намаганні. Да кастрычніка 1944 г. ахвяраванні ў гэты фонд дасягнулі 150 млн руб.

Пасля смерці Сергія ў кастрычніку 1944 г. намеснікам патрыярхавага месцаахоўніка стаў мітрапаліт Алексій І (С.У. Сіманскі, 1877 — 1970). Уступіўшы на гэту пасаду, ён паслаў Сталіну тэлеграму, у якой абяцаў прадоўжыць царкоўную палітыку Сергія, завяраў яго ў сваёй любві і адданасці. Памесны Сабор, які праходзіў з 31 студзеня па 2 лютага 1945 г., аднагалосна абраў Алексія Патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі.

10 красавіка 1945 г. адбылася сустрэча "бацькі народаў" з Алексіем І і мітрапалітам Мікалаем (Ярушэвічам), які ў той час узначальваў Аддзел замежных зносін РПЦ. На сустрэчы прысутнічаў міністр замежных спраў СССР В.Молатаў. Вось як апісваў уражанні ад сустрэчы з І.Сталіным мітрапаліт Мікалай: "Поўныя шчасця бачыць вочы таго, адно імя якога з любасцю гаворыцца не толькі ва ўсіх кутках нашай краіны, але і ва ўсіх свабодалюбівых

і міралюбівых краінах, мы выказалі Іосіфу Вісарыёнавічу нашу падзяку... Гутарка была зусім нязмушанай гутаркай бацькі з дзецьмі" [79. С. 191].

З першых дзён дзейнасці знайшоў паразуменне з патрыярхам старшыня Савета па справах РПЦ пры СНК СССР Г.Карпаў. Паводле прызнання самога першаіерарха, у іх "назаўжды" ўстанавіліся "найлепшыя дачыненні", якія перараслі пазней у "прывязанасць" і "глыбокую любасць". У парыве любві Алексій І пісаў Карпаву: "Дарагі Георгій Грыгор'евіч! Пасылаю Вам: 1) ад Дз. С. Солада з Дамаску скрыначку з усходнімі прысмакамі; 2) ад мяне для Вашага кабінета дыван — ва ўсякім разе чыста персідскі; 3) падушку з зычаннем, каб яна служыла Вам верай і праўдай. Я думаю, можна зрабіць, каб яна была мякчэйшаю. Яна таксама ўсходняга паходжання — з Каіру. Сардэчна Вам адданы П.Алексій. 28.VI.1945 г." [80. С. 130].

Патрыярх таксама не заставаўся без увагі. У адказ Карпаў пасылаў яму парчу, малахітавыя скрынкі, "цудоўныя" вазы.

На акупіраванай тэрыторыі Беларусі разгортвалася і каталіцкае жыццё. Аднак гэты працэс працякаў больш складана па прычыне стрыманасці акупацыйных улад да рымска-каталіцкай канфесіі, парафіі якой да пачатку вайны дзейнічалі толькі на тэрыторыі заходняга рэгіёна. Пасля акупацыі Гродзеншчына адышла ў склад Усходняй Прусіі, Брэстчына — у рэйхскамісарыят Украіны, што звужала магчымасці каталікоў. Немцы разглядалі іх як пятую калону польскага нацыянальнага руху на гэтай тэрыторыі. Акупацыйныя ўлады былі не вельмі зацікаўлены ў распаўсюджванні каталіцкай місіянерскай дзейнасці на ўсходнія тэрыторыі.

Адраджэнне каталіцкага жыцця стрымлівалася адсутнасцю цэнтра кіравання касцёлам. Гэту місію мог узяць на сябе біскуп Магілёўскі і Мінскі Б.Слоскан, які знаходзіўся ў Дзвінску. Але нямецкія ўлады забаранілі яму займацца адміністрацыйнай дзейнасцю на тэрыторыі Беларусі [81. С. 130]. Ініцыятыву ўзяў на сябе прыехаўшы з Вільні вядомы каталіцкі дзеяч, доктар тэалогіі С.Глякоўскі. У выніку перамоў улады дазволілі адчыніць для набажэнстваў касцёл св.Сымона і св.Алены, дзе перад вайной размяшчалася кінастудыя. Тут хутка сталі праводзіцца набажэнствы.

Многа зрабіў для актывізацыі каталіцкага жыцця прыбыўшы ў верасні 1941 г. у Мінск вядомы прыхільнік беларусізацыі касцёла ксёндз В.Гадлеўскі. Працуючы галоў-



8 Зак. 899

ным школьным інспектарам пры генеральным камісарыяце Беларусі, ён многа ўвагі надаваў наладжванню работы парафій. Дзякуючы яго актыўнай дзейнасці ўжо ў канцы 1941 г. пачаліся набажэнствы ў кафедральным касцёле. Многа вернікаў збіралася на набажэнствы В.Гадлеўскага, таму са жніўня 1942 г. ён займаўся толькі душпастырскай дзейнасцю. У двух касцёлах Мінска гучалі беларускія казанні, песні. Ксяндзы прывезлі з Вільні беларускія кніжкі для набажэнстваў, якімі карысталіся вернікі.

Такім чынам, з першых дзён адкрыцця касцёлаў закладваўся трывалы падмурак для арганізацыі каталіцкага руху на Беларусі. Гэта выклікала незадавальненне рускіх праваслаўных элементаў, якія бачылі ў дзейнасці ксяндзоў пашырэнне "езуіцкай" хвалі на ўсход, спробы паланізацыі насельніцтва. Пачала разыгрывацца карта ўдзелу беларускіх ксяндзоў у польскім нацыянальным руху. Ад праваслаўнага духавенства акупацыйным уладам паступалі даносы, у якіх ксяндзы абвінавачваліся ў "дзейнасці на карысць Польшчы". Гэта садзейнічала выкрыванню польскіх "агентаў" сярод беларускіх ксяндзоў, якіх у выніку расстрэльвалі. У лістападзе 1941 г. абарвалася жыццё некалькіх польскіх ксяндзоў, у тым ліку Г.Глябовіча, які распачаў на Міншчыне місіянерскую дзейнасць, а крыху пазней былі арыштаваны і закатаваны беларускія каталіцкія ксяндзы С.Глякоўскі і Д.Малец [82. С. 83]. Трагічна склаўся лёс В.Гадлеўскага. 24 снежня 1942 г. акупацыйныя ўлады арыштавалі яго ў Мінску. Тут у хуткім часе ён і быў закатаваны. Аб гэтым сведчыць той факт, што гаспадыня ксяндза ў студзені 1943 г. атрымала з мінскай турмы яго верхнюю вопратку. Так закончыўся зямны шлях аднаго з актыўных удзельнікаў беларускага каталіцкага руху.

У Мінску застаўся працаваць ксёндз З.Ігнатавічус. Немцы далі дазвол прыехаць да яго В.Шутовічу. Пасля вызвалення горада, 19 кастрычніка 1944 г., у сталіцу прыязджае А.Барысевіч. Улады лічылі, што ён меў місію "ўпаўнаважанага ўсіх касцёлаў" на Беларусі. У 1945 г. В.Шутовіч і А.Барысевіч былі рэпрэсіраваны "за антысавецкую" дзейнасць. У сувязі з арыштам ксяндзоў улады закрылі касцёлы. Так на доўгія гады абарвалася каталіцкае жыццё ў сталіцы рэспублікі, дзе пражывала нямала беларусаў-каталікоў. Такія крокі ў пасляваенны час павінны былі паслужыць "прыкладам" для іншых гарадоў і вёсак Беларусі.

У час вайны пачалі адкрывацца і працаваць новыя парафіі і касцёлы ў многіх усходніх раёнах, там, дзе яны былі закрыты ў час вялікага атэістычнага "наступу". У лістападзе 1941 г. ў м.Росіца Дрысенскага раёна для прывядзення ў парадак касцёла прыехала з Друі група ксяндзоў на чале з А.Ляшэвічам. Гэта быў вядомы ў каталіцкім асяродку свяшчэннаслужыцель, які пасля заканчэння Пецярбургскай семінарыі працаваў у Іркуцку, Чыце, польскай калоніі ў Кітаі. Вайна застала ксяндза ў Друі, адкуль ён і накіраваўся ў Росіцу. У снежні быў адрамантаваны касцёл і пачало наладжвацца каталіцкае жыццё. Жадаючых наведаць храм было так многа, што з Друі на падмогу прыехаў ксёндз Ю.Кашуба.

Але з кожным днём працаваць станавілася ўсё цяжэй па прычыне таго, што немцы рабілі набегі ў навакольныя вёскі і вынішчалі ўсё насельніцтва. Такі лёс не абмінуў і Росіцу. У адзін з лютаўскіх дзён 1943 г. прадстаўнікі жандармерыі папярэдзілі ксяндзоў аб планах фашыстаў па вынішчэнні мястэчка і прапанавалі ім пакінуць яго. Параіўшыся, ксяндзы вырашылі застацца са сваімі парафіянамі. Хутка ў Росіцу прыехала шмат фашыстаў. Яны расстрэльвалі людзей, некаторых заганялі ў дамы і падпальвалі. Такой пакутніцкай смерцю загінулі і ксяндзы [83. С. 25]. Фашысты не пашкадавалі іх жыцця, каб не засталося сведак.

Некаторыя прадстаўнікі рымска-каталіцкага духавенства супрацоўнічалі з партызанамі, напрыклад ксёндз І.Завістоўскі з Гродзеншчыны. Пасля "рассякрэчвання" яго арыштавалі і на працягу двух месяцаў трымалі пад аховай. Зусім іншыя адносіны да фашысцкіх захопнікаў праяўляў ксёндз Сарока з м.Ізабеліна Ваўкавыскага раёна. Ён падтрымліваў сувязь з нямецкімі карнымі органамі, разам з паліцаямі прыняў прысягу. У сваіх пропаведзях і прамовах ксёндз заклікаў верна служыць немцам, змагацца з камунізмам і выкрываць асоб, звязаных з партызанамі [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 3].

Некаторыя ксяндзы падтрымлівалі сувязь з арганізацыямі Арміі Краёвай (АК). У 1944 г. Упраўленне Міністэрства дзяржаўнай бяспекі па Маладзечанскай вобласці арыштавала 17 акаўцаў на чале з ксяндзом Я.Рамейка. У гады акупацыі ён прымаў актыўны ўдзел у камплектаванні паліцыі м.Лучай. У лютым 1944 г. уступіў у АК ксёндз В.Нуркоўскі з м.Забалаць Радуньскага раёна Гродзенскай вобласці. Летам таго ж года ён выступіў у якасці суддзі над 14 захопленымі акаўцамі актывістамі. Усе яны вуснамі ксяндза былі прыгавораны да расстрэлу [84. С. 92, 93].

У гады вайны касцёлы адрадзіліся на многіх усходнебеларускіх абшарах. Акрамя Мінска каталіцкае жыццё віравала ў Магілёве, Барысаве, Дзяржынску, Беразіно, Уздзе, Лагойску, Заслаўі, в.Равенічы Чэрвенскага раёна, іншых мясцінах [6. Ф. 952, воп. 2, спр. 6, арк. 242]. Пасля вызвалення пачалася новая хваля закрыцця касцёлаў, арыштаў ксяндзоў, якія працавалі на акупіраванай тэрыторыі. Цяпер ужо савецкія ўлады праводзілі татальныя "дазнанні" паводзін каталіцкіх святчэннаслужыцеляў. Іх вельмі лёгка было абвінаваціць у падтрымцы акупацыйнага рэжыму, супрацоўніцтве з фашыстамі. Толькі ў 1945 г. у сувязі з арыштамі ксяндзоў было закрыта 15 касцёлаў [6. Ф. 952, воп. 2, спр. 4, арк. 275]. Такім складаным аказаўся лёс рымска-каталіцкай канфесіі, яе свяшчэннаслужыцеляў у гады вайны.

Пасля акупацыі Беларусі фашысцкімі захопнікамі прымаюцца крокі па актывізацыі дзейнасці уніяцкіх абшчын. У пачатку 1942 г. экзархат уніяцкай царквы на чале з А.Неманцэвічам выходзіць з падполля і дабіваецца ад акупацыйных улад яго афіцыйнага прызнання. 16 сакавіка 1942 г. Генеральны камісарыят выдаў дазвол экзархату на легальную дзейнасць. Робяцца захады па пераводу уніяцкіх абшчын пад яго юрысдыкцыю. Першым такую спробу зрабіў Віленскі мітрапаліт Р.Ялбжыкоўскі. У ліпені 1942 г. прадстаўнікі экзархата наведалі пінскага біскупа К.Букрабу, які пераехаў у Львоў, і станоўча вырашылі гэтае пытанне. 5 красавіка 1942 г., на Вялікдзень, экзарх выдаў сваё пасланне да беларускага народа. 2 мая была ўтворана Рада экзархату, а на наступны дзень — Духоўны суд. Гэта спрыяла часоваму ажыўленню уніяцкага жыцця.

Прызнанне экзархату грэка-каталіцкай царквы было не даспадобы некаторым колам, у тым ліку і мітрапаліту Панцеляймону. Яны выношвалі планы знішчэння уніяцкага экзарха. У жнівеньскую ноч 1942 г. у Альберцінскім манастыры "для высвятлення некаторых важных спраў" гестапа арыштоўвае А.Неманцэвіча. Яго пераводзяць спачатку ў Слонім, а затым у Мінск. Далей след гэтага таленавітага чалавека, змагара за адраджэнне старой беларускай царквы, губляецца. У 1944 г. на неаднаразовыя афіцыйныя запыты ўлады Германіі паведамлялі, што айцец памёр ад тыфу ў адным з канцлагераў. Улічваючы, што Неманцэвіч перанёс гэтую заразную хваробу ў маладыя гады, больш праўдзівай застаецца версія аб тым, што яго закатавалі ў падзямеллі мінскага гестапа [62. С. 54].

Пасля арышту А.Неманцэвіча Альберцінскі манастыр быў разагнаны, парафія ліквідавана, а намеснік экзарха айцец Л.Гарошка вымушаны быў заняцца педагагічнай працай у медыцынскай школе ў Баранавічах. У 1944 г. разам з хваляй эміграцыі ён пападае ў Рым, а ў канцы кастрычніка таго ж года прызначаецца рэктарам Беларускай каталіцкай місіі спачатку ў Францыі, а потым у Вялікабрытаніі. З 1970 па 1977 г. працаваў кіраўніком беларускай секцыі Ватыканскага радыё. Акрамя рэлігійнай займаўся грамадскай і выдавецкай дзейнасцю. Л.Гарошка заснаваў часопіс "Божым шляхам" і быў яго рэдактарам да канца 1957 г. Яго пяру належаць такія філасофска-тэалагічныя і гістарычныя працы, як "Душа" (1948), "Сьвятая Еўфрасіньня — Прадслава Полацкая. Патронка Беларусі" (1950), "Беларусь у датах, лічбах, фактах" (1953), "Пад знакам "рускае і польскае веры" (1955), "Рэлігія і навука" (1977) і інш. [85].

Пасля вайны саюзныя ўлады павялі наступленне на уніяцкую царкву. Гэта асабліва тычылася Заходняй Украіны, дзе яна мела вялікі ўплыў на насельніцтва. Грэка-каталіцкая царква абвінавачвалася ў тым, што з'яўлялася "агентам Ватыкана", саюзнікам украінскіх "буржуазных" нацыяналістаў. Хутка структуры дзяржаўнай бяспекі арганізавалі ініцыятыўную групу, якая выступіла за закрыццё уніяцкай царквы. У яе склад увайшлі настаяцель Праабражэнскай царквы ў Львове Г.Касцельнік, генеральны вікарый Перамышлянскай епархіі Драгобычскай вобласці М.Мельнік, дэкан Станіслаўскай епархіі А.Пяльвецкі. У гэты час былі арыштаваны мітрапаліт І.Сліпы, чатыры епіскапы уніяцкай царквы М.Чарнецкі, М.Будка, Г.Хамішын, І.Лятышэўскі. Ініцыятыўная група выступіла з прапановай аб правядзенні Сабора, які адбыўся 8 — 10 сакавіка 1946 г. у Львове. Напярэдадні, 22 лютага, у Кіеве 13 грэка-каталіцкіх святчэннаслужыцеляў перайшлі ў праваслаўе. 24 і 25 лютага былі высвечаны ў епіскапы М.Мельнік і А.Пяльвецкі. Удзельнікі Сабора пад кантролем і аховай органаў бяспекі прынялі рашэнне "ліквідаваць унію, адарваць ад Ватыкана і павярнуць да нашай святой праваслаўнай веры і рускай праваслаўнай царквы" [86. С. 141]. 7 красавіка 1946 г. Патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі Алексій І аформіў прыём уніяцкай царквы ў склад рускай праваслаўнай.

Такія трагічныя абставіны ў чарговы раз напаткалі грэка-каталіцкую царкву. Ва Украіне уніяты дзейнічалі ў падполлі. На Беларусі таксама засталіся вернікі, якія захавалі

сваю уніяцкую самасвядомасць да новай хвалі адраджэння, якая наступіла толькі ў 90-я гг.

Складаныя працэсы адбываліся сярод пратэстанцкіх суполак. Адраджаючыся, некаторыя з іх падтрымлівалі нямецкія ўлады, як, напрыклад, секта ЕХБ у Ваўкавыску. Яна распаўсюджвала літаратуру антысавецкага кірунку, выдадзеную ў Берліне, Лодзі і іншых гарадах, падтрымлівала сувязь з прапаведнікамі, якія прыязджалі з Германіі. Былі і адваротныя выпадкі. У в.Шаломі Другія Слаўгарадскага раёна ўсе вернікі адмовіліся карыстацца нямецкімі пашпартамі. Тады да іх прымянілі рэпрэсіі, па чарзе выводзілі са строю і прапаноўвалі ўзяць гэты дакумент. За адказ расплачваліся жыццём. Немцы расстралялі 32 чалавекі і толькі 17-гадовая дзяўчына, з дазволу бацькоў, узяла пашпарт і засталася ў жывых [6. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 33].

Трэба адзначыць, што ў гады вайны жыццё пратэстанцкіх абшчын актывізавалася, асабліва ва ўсходніх рэгіёнах. Ужо восенню 1941 г. з дазволу нямецкіх улад пачала дзейнічаць групоўка ў Віцебску, якую ўзначальваў мясцовы жыхар С.Філімонаў. Вернікаў налічвалася каля 40 чал. Для правядзення набажэнстваў быў атрыманы дазвол на перааб-сталяванне пад малітоўны дом будынка былой школы. Працягвала расці абшчына евангельскіх хрысціян і баптыстаў у Оршы. Калі ў 1920 — 1929 гг. воднае хрышчэнне тут прынялі 18, у 1930 — 1940-х гг. — 13, то ў 1941 — 1944 гг. — 10 чал. Да заканчэння вайны абшчына налічвала 45 чал. Прасвітарам з'яўляўся А.Аляксееў. Яе вернікам не ўдалося прыдбаць пастаянны малітоўны дом, таму на службы яны збіраліся ў прыватных дамах [6. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 94 — 96].

Яшчэ больш колькасна павялічваліся многія пратэстанцкія арганізацыі ў сельскай мясцовасці. Актыўна расла абшчына ў в. Юркевічы Жыткавіцкага раёна, спыніўшая сваю дзейнасць у 1937 г. Тут у 1941 г. воднае хрышчэнне прынялі 3, у 1942 г. — 30, у 1943 г. — 8, у 1944 г. — 4 чал. За гады вайны да 109 чал. вырасла абшчына ЕХБ у в. Кошалева Буда-Кашалёўскага раёна [6. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 108, 111].

У 1944 г. акрамя Савета па справах РПЦ быў створаны Савет па справах рэлігійных культаў. Яго ўзначаліў І.Палянскі (1899 — 1956 гг.), які знаходзіўся на гэтай пасадзе да 1956 г. Адразу пачаў работу рэспубліканскі савет, наладжвалася дзейнасць упаўнаважаных у абласцях, якія вызваляліся ад фашысцкіх захопнікаў. Ля вытокаў дзейнасці рэспубліканскага савета стаяў К.Уласевіч. З першых гадоў

сваёй дзейнасці створаныя саветы практычна былі пазбаўлены самастойнасці ў вырашэнні праблем рэлігійнага жыцця. Яны рабілі тое, што ад іх патрабавала УКП(б) — КПСС, узяўшая на сябе абавязак вызначаць змест і накіраванасць дзяржаўнай рэлігійнай палітыкі.

Як бачна, канфесіянальнае жыццё ў гады вайны насіла складаны і супярэчлівы характар, што было звязана з катаклізмамі ваеннага часу. Праводзячы палітыку вынішчэння беларускага народа, нямецкія акупацыйныя ўлады ў той жа час не перашкаджалі наладжванню дзейнасці праваслаўных, рымска-каталіцкіх, пратэстанцкіх арганізацый. Таму адраджаліся новыя рэлігійныя абшчыны, адчыняліся храмы, збіраўшыя мноства людзей. Большасць прадстаўнікоў духавенства разам з вернікамі ўсё рабілі для таго, каб хутчэй вызваліць Бацькаўшчыну ад нямецкіх захопнікаў. Але былі і тыя, хто па тых ці іншых прычынах супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Да нядаўняга часу імёны патрыётаў з ліку прадстаўнікоў усіх канфесій замоўчваліся па прычыне таго, што яны не ўкладваліся ў рамкі тагачаснай ідэалогіі. Прадстаўнікі "рэакцыйнага" духавенства ў вачах насельніцтва не павінны былі заставацца патрыётамі. Але ўчынкі людзей залежаць не ад таго, з'яўляюцца яны вернікамі альбо атэістамі, а ад іх маральных, чалавечых высноў, жыццёвай пазіцыі. Гэтыя якасці добра высвеціла ваеннае ліхалецце.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. 2-е изд.

2. *Ленин В.И.* Полн. собр. соч.

3. КПСС в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. М., 1983. Т. 2. 1917 — 1922.

4. Известия ЦИК Белоруссии. 1922. 11 янв.

5. Коммунистическая партия и Советское правительство о религии и церкви. М., 1961.

6. Матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

7. Голас Радзімы. 1995. 15 чэрв.

8. Известия ЦК КПСС. 1990. № 4.

9. Известия. 1922. 26 февр.

10. Русская православная церковь и коммунистическое государство. 1917 — 1941. Документы и фотоматериалы. М., 1996.

11. Віцебскі сшытак. 1995. № 1.

12. Чырв. змена. 1994. 18 верас.

13. Меры вагі да ўвядзення метрычнай сістэмы: 1 пуд=40 фунтаў = = 16,38 кілаграма; 1 фунт = 409,5 грама; 1 залатнік = 1/96 фунта = 4,27 грама; 1 доля = 1/96 залатніка = 0,0444 грама.

14. Беларус. мінуўшчына. 1993. № 5 — 6.

15. Божым шляхам. 1952. № 50.

16. Русское православие: вехи истории. М., 1989.

17. Спадчына. 1997. № 2.

18. Праваслаў'е ў Беларусі і свеце. 1994. № 1.

19. *Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Буэнос-Айрес. 1966. Репринт Белорусский Экзархат Русской Православной Церкви. Мн., 1990.

20. *Касяк І.* З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Йорк, 1956.

21. *Сталин И.* Соч: В 11 т. М., 1949. Т. 10.

22. Церкви и приходы Минска. История и современность. Мн., 1996.

23. Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта. 1996. № 1.

24. Голас Радзімы. 1995. 13 ліп.

25. Нар. газ. 1997. 10 чэрв.

26. В борьбе и труде. Мн., 1970.

27. *Ярославский Е.* О религии. М., 1957.

28. Вопросы истории КПСС. Некоторые вопросы организаторской и идеологической деятельности КПСС// Межвед. сб. VII. Мн., 1976.

29. 50-летие декрета "Об отделении церкви от государства и школы от церкви"// Труды респуб. науч. конференции. Мн., 1964.

30. *Жиромская В.Б., Киселев И.Н., Поляков Ю.А.* Полвека под грифом "секретно": Всесоюзная перепись населения 1937 года. М., 1996.

31. Научный атеизм и атеистическое воспитание//Республ. межвед. сб. науч. работ. Мн., 1983. Вып. 1.

32. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993.

33. Веснік Беларускага Экзархата. Мн., 1995.

34. *Короткая Т., Прокошина Е., Чудникова А.* Старообрядчество в Белоруссии. Мн., 1992.

35. *Шейнман М.М.* Ватикан между двумя мировыми войнами. М., 1948.

36. Материалы Генуэзской конференции. М., 1922.

37. Безбожник. 1923. 3 апр.

38. *Гарошка Л.* Пад знакам "рускае і польскае веры". Мн., 1990.

39. Религия и права человека. На пути к свободе совести. М., 1996.
40. Божым шляхам. 1953. № 56.
41. Революция и церковь. 1923. № 1 — 3.
42. *Одинцов М.И.* Государство и церковь в России: XX в. М., 1994.
43. Наша вера. 1995. № 1.
44. Папа Пій XI і крыжовы паход. Мн., 1930.
45. Вайсборд XI. Духоўніцтва ў контррэвалюцыі. Мн., 1930.
46. *Дзянісаў У.* Касьцёл Сьв.Сымона і Сьв. Алены. Мн., 1996.
47. История евангельских христиан-баптистов в СССР. М., 1989.
48. Религия и демократия. М., 1990.
49. Савецкая краіна. 1931. № 11.
50. *Скир А.* Еврейская духовная культура в Беларуси. Историко-литературный очерк. Мн., 1995.
51. Беларусіка. Матэрыялы міжнар. навук. канф. "Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі". Мн., 1995. Кн.4.
52. Беларус. гіст. часопіс. 1995. № 2.
53. *Курносов А.П.* Католическая церковь — идеологический защитник господства помещиков и буржуазии в Западной Белоруссии (1919 — 1930) / Дис. ... канд. истор. наук. Мн., 1969.
54. *Кандидов Б.* Религиозная травля в Польше. М., 1930.
55. Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. Мн., 1968. № 3.
56. Спадчына. 1993. № 3.
57. Беларускі каляндар на 1990. Беласток, 1990.
58. Гродненские епархиальные ведомости. 1997. № 9.
59. Брэсцкая унія 1596 г.: гісторыя і культура. Брэст, 1996.
60. *Мараш Я.Н.* Политика Ватикана и католической церкви в Западной Белоруссии (1918 — 1939). Мн., 1983.
61. Царква. 1996. № 3 — 4.
62. Божым шляхам. 1956. № 70 — 75.
63. Божым шляхам. 1949. № 11 — 12.
64. Спадчына. 1992. № 5.
65. *Гапановіч В.Ф., Царанкоў Л.А.* Учарашні і сённяшні дзень уніяцкай царквы. Мн., 1985.
66. Баптизм и баптисты. Мн., 1969.
67. *Розенблат Е.* "Жизнь и судьба" Брестской еврейской общины. XIV — XX вв. Брест, 1993.

68. *Станкевіч Я.* Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом. Вільня, 1933.

69. Байрам. 1992. № 3.

70. *Думін С., Канапацкі І.* Беларускія татары: мінулае і сучаснасць. Мн., 1993.

71. Ал-Ислам. 1994. № 4.

72. *Поспеловский Д.В.* Русская православная церковь в XX веке. М., 1995.

73. *Шейкин Г.* Полоцкая епархия. Историко-статистическое обозрение. Мн., 1996.

74. Беларус. гіст. часопіс. 1993. № 4.

75. Патриарх Сергий и его духовное наследие. М., 1947.

76. Гродненские епархиальные ведомости. 1997. № 5.

77. Беларусіка. Матэрыялы міжнар. навук. канф. "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў". Мн., 1992. Кн. 2.

78. КПСС в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. М., 1985. Т. 7. 1938 — 1945.

79. На пути к свободе совести. М., 1989.

80. Спадчына. 1996. № 6.

81. Спадчына. 1994. № 4.

82. *Туронак Ю.* Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., 1993.

83. Meczewnicy z Rosicy. Ks Iezzy Koszyra i ks. Antoni Leszczewicz N 50 rocznice smierci. Warszawa. 1993.

84. *Ермолович В.И., Жумарь С.В.* Огнем и мечом. Хроника польского националистического подполья в Белоруссии (1939 — 1953 гг.). Мн., 1994.

85. Голас Радзімы. 1994. 19 мая.

86. Віче. 1995. № 12.

# ГЛАВА 6

# ДЗЯРЖАЎНА-КАНФЕСІЯНАЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ Ў 40 — 90-я гг.

## 1. ПАРТЫЙНА-ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЛІТЫКА ДА РЭЛІГІІ Ў ПАСЛЯВАЕННЫ ЧАС

Пасляваенныя гады заставаліся складанымі ў жыцці канфесій. Зноў пачалося згортванне рэлігійнага жыцця, якое

адрадзілася ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ў ваенны час. Большай лаяльнасцю вызначаліся адносіны партыйна-дзяржаўных структур да праваслаўнай царквы, чаму садзейнічала пашырэнне кантактаў І. Сталіна і яго акружэння с Патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі Алексіем І.

У пачатку 1946 г. адбыліся змены ў кіраўніцтве праваслаўнай царквой на Беларусі. Быў пераведзены на пакой Васіль (Ратміраў). На Мінска-Беларускую кафедру атрымаў прызначэнне архіепіскап Піцірым (П.П.Свірыдаў, 1887 — 1963). Ён з'яўляўся старэйшым іерархам, хіратанізіраваным у сан епіскапа ў 1941 г., адным з 19 удзельнікаў Сабора 1943 г. У Беларусь яго перавялі з пасады епіскапа Курскага і Белгародскага. У 1946 г. Піцірым быў узнагароджаны медалём "За доблестный труд во время Великой Отечественной войны 1941 — 1945 гг.". Гэта сведчыла аб добрым стаўленні да яго партыйна-дзяржаўных структур. На сустрэчу Піцірыма ў Мінск з'ехалася вышэйшае духавенства, былі праведзены ўсяночная і літургія.

Пасля вайны працягвалася практыка сумяшчэння адным епіскапам служэння на Мінскай кафедры і кіравання ўсёй царквой Беларусі, тым больш што з боку ўлад рабіліся крокі па закрыцці епіскапскіх кафедраў, якія былі адчынены ў ваенныя часы. У пачатку 50-х гг. засталася дзейнічаць толькі Мінская кафедра. У 1949 г. за вялікую і плённую работу архіепіскап Піцірым быў удастоены права нашэння крыжа на клабуке, а 2 лютага 1955 г. атрымаў сан мітрапаліта [1. С. 84].

Вайна нанесла царкве вялікія матэрыяльныя страты. Некаторыя храмы былі цалкам разбураны, многія моцна пашкоджаны. Таму з першых мірных дзён сіламі вернікаў пачалося правядзенне рамонтных работ. Ва ўмовах "пацяплення" адносін да праваслаўнай царквы назіраліся нават выпадкі аказання дапамогі ў правядзенні складаных на той час рамонтна-будаўнічых работ з боку мясцовых улад. Гэта тычылася, як правіла, заходніх рэгіёнаў. Напрыклад, Зэльвенскі райвыканкам адпусціў 40 м$^3$ матэрыялаў на пабудову калакольні мясцовай царквы, сістэматычна выдаваў дровы на ацяпленне храмаў. Такая лаяльнасць садзейнічала актывізацыі ў многіх месцах рэлігійнага жыцця. У пачатку 1946 г. работнікі аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б азнаёміліся з дзейнасцю пратэстанцкай, рымска-каталіцкай і праваслаўнай цэркваў у Гродзенскай, Брэсцкай і Магілёўскай абласцях. 26 студзеня 1946 г. кіраўнік лектарскай групы ЦК КП(б)Б І.Кожар у дакладной запісцы на імя першага

сакратара П.Панамарэнкі адзначаў актывізацыю рэлігійнага жыцця ў названых абласцях [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 13, 36].

Аб такой актывізацыі сведчыла і кампанія па рэгістрацыі праваслаўных прыходаў, свяшчэннаслужыцеляў, якая разгарнулася пасля ўтварэння інстытута ўпаўнаважаных Савета РПЦ у Беларусі. Калі на 1 ліпеня 1945 г. было ўзята на ўлік 705 дзеючых цэркваў, то на 1 красавіка 1947 г. — 906. На 1 студзеня 1948 г. — час заканчэння рэгістрацыі — налічвалася 1050 цэркваў і малітоўных дамоў, 749 (17,3 %) з іх размяшчаліся ў заходніх і 301 (30,7 %) — ва ўсходніх абласцях. Апошнія амаль цалкам былі адноўлены ў гады вайны [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 217, арк. 137].

Калі партыйна-дзяржаўныя структуры ішлі на рэгістрацыю праваслаўных прыходаў, то яны катэгарычна не дазвалялі будаваць у іх малітоўныя дамы, не гаворачы аб храмах. Многа непрыемнасцяў мясцовым уладам прынёс выключны для савецкага часу выпадак збудавання малітоўнага дома ў в.Шарпілаўка Лоеўскага раёна. Ні атэістычная прапаганда, ні закрыццё ў 1936 г. мясцовай царквы, з матэрыялаў якой затым пабудавалі калгасны клуб, не маглі адцягнуць ад веры сельскіх жыхароў. На працягу амаль 15 гадоў яны збіраліся на малітоўныя сходы на прыватных кватэрах. У 1950 г. вернікі прыступілі да пабудовы малітоўнага дома, праводзячы гэту работу паўлегальна. Шляхам ахвяраванняў сабралі грошы, на якія ў суседняй вёсцы купілі будынак. Перавезены і абсталяваны на месцы старой царквы, ён у лютым 1951 г. адчыніў дзверы для вернікаў. Толькі пасля гэтага мясцовыя ўлады схамянуліся і хутка прынялі пастанову аб закрыцці малітоўнага дома. Выехаўшы на месца намеснік старшыні райвыканкама асабіста апячатаў будынак і забараніў вяскоўцам наведваць яго.

Пачалася барацьба вернікаў за адстойванне свайго права на свабоду веравызнання. Двойчы звярталіся яны "да бацькі нашага і кіраўніка ўсяго свету І.Сталіна", у іншыя інстанцыі. Але нічога не дапамагло. Улады не маглі дапусціць такога прэцэдэнту. 9 кастрычніка 1951 г. выканаўчы камітэт Гомельскага абласнога Савета разгледзеў пытанне "Аб незаконным будаўніцтве царквы ў в. Шарпілаўка Лоеўскага раёна". Было прынята рашэнне аб яе ліквідацыі і прыцягненні вінаватых да адказнасці [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 217, арк. 265]. У далейшым пільнасць мясцовых улад не "прытуплялася". Таму і выявіць у архівах іншых прыкладаў пабудовы цэркваў не ўдалося.

Актыўна працавалі праваслаўныя прыходы ў заходніх абласцях. У час вайны многія назапасілі для сябе лепшыя землі. У Гродзенскай вобласці, напрыклад, зямельныя надзелы дасягалі памераў ад 6 да 15 гектараў, якія, па словах мясцовых чыноўнікаў, "апрацоўваліся сялянамі за дзякуй альбо чарку гарэлкі" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 217, арк. 140]. Зямля з'яўлялася крыніцай фінансавання, садзейнічала разгортванню рамонтна-будаўнічых работ, у якіх мелі вялікую патрэбу храмы, стварала добрыя эканамічныя ўмовы для дзейнасці. Таму з пачаткам калектывізацыі ўлады нанеслі вялікую эканамічную шкоду цэрквам, забраўшы ў іх зямельныя надзелы. Гэта паставіла прыходы ў цяжкае фінансавае становішча. Як паведамляў упаўнаважаны Савета РПЦ па Баранавіцкай вобласці, "царква ў цяперашні час знаходзіцца ў стане матэрыяльнага заняпаду, частка прыходаў не можа заплаціць выдаткі епархіяльнаму ўпраўленню" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 217, арк. 140]. Заставаўся толькі адзін выхад — актывізацыя дзейнасці свяшчэннаслужыцеляў сярод прыхаджан, каб разлічыцца з падаткам альбо падпісацца на чарговы заём. Але і тут мясцовыя ўлады прымалі актыўныя меры супрацьдзеяння. У многіх месцах у нядзельныя дні і рэлігійныя святы яны арганізавана выводзілі калгаснікаў на працу, чым зрывалі наведванне храмаў. Гэта была новая форма парушэння правоў чалавека, якая ўзнікла пасля калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў заходнім рэгіёне. Да 1949 г. — пачатку масавага стварэння калгасаў — сяляне-адзінalічнікі рэгулярна наведвалі царкву ва ўсе рэлігійныя святы.

Ідэалагічныя структуры ЦК КП(б)Б хвалявала становішча, якое склалася ў першыя пасляваенныя гады, калі прадстаўнікі царквы прымалі актыўны ўдзел у мясцовым грамадскім жыцці. Тлумачылася гэта адсутнасцю кадраў спецыялістаў, якія ва ўмовах бандытызму не жадалі ехаць на працу далей раённых цэнтраў. Назіраліся частыя выпадкі "сумяшчэння" прадстаўнікамі духавенства работы ў школах, іншых установах. Так, у п.Страдзіч Брэсцкага раёна псаломшчык Грудовік працаваў загадчыкам вучэбнай часткі мясцовай сямігодкі. Псаломшчык Волчынскай царквы Высокаўскага раёна Арцымюк адначасова быў і выкладчыкам вячэрняй школы. Паспяхова выконвалі абавязкі бухгалтараў Чэрвеньскага сельпо Брэсцкага раёна святар Анатоль Гутарэвіч, Павітскага Дзівінскага — Аляксандр Мароз [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 28].

Адкрыццё цэркваў востра паставіла праблему падрыхтоўкі кадраў свяшчэннаслужыцеляў. У 1948 г. на 1050 цэркваў і

малітоўных дамоў прыходзілася 778 святароў, 72 з іх мелі вышэйшую, 425 — сярэднюю багаслоўскую адукацыю. З агульнай колькасці духавенства беларусы складалі 79,8 %, рускія — 13,5, украінцы — 7 %. 4232 чалавекі ўваходзілі ў склад царкоўных саветаў і рэвізійных камісій, з іх 4100 — беларусы, 52 — рускія, 80 — украінцы [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 693, арк. 33, 96, 229].

Многія з прадстаўнікоў духавенства, ў гады вайны паспешліва пасвечаныя ў сан святароў, мелі нізкі агульнаадукацыйны ўзровень. Для павышэння багаслоўскага ўзроўню свяшчэннаслужыцеляў улады дазволілі ў 1946 г. арганізаваць на базе Жыровіцкага манастыра пастырскія курсы, якія працавалі на працягу некалькіх гадоў.

Для папаўнення кадраў духавенства Піцірым праводзіў актыўную работу па пасвячэнні ў святарскі сан асоб, якія не мелі багаслоўскай адукацыі, але былі звязаны з той ці іншай формай царкоўнай дзейнасці, альбо выхадцаў з сем'яў свяшчэннаслужыцеляў. З пасвечаных за 1945 — 1953 гг. у сан святара 255 асоб 113 былі псаломшчыкамі. У свой час яны закончылі двухгадовыя пастырскія курсы і па 15 — 20 гадоў служылі ў храмах. У сан святара былі пасвечаны таксама 21 чал. з ліку работнікаў савецкіх устаноў, прадпрыемстваў прамысловасці, сельскай гаспадаркі. Сярод іх І.Лапацін, артыст Беларускага тэатра оперы і балета, І.Кагайкін, загадчык раённай амбулаторыі ў г.Ляхавічы і інш.

За гэты час сан святара атрымалі 72 выпускнікі Жыровіцкай семінарыі, якая адчынілася ў 1947 г., калі была дасягнута дамоўленасць са Сталіным аб налажванні сістэмы духоўнай адукацыі ў краіне. Тут былі створаны добрыя ўмовы для падрыхтоўкі новых кадраў служыцеляў культу. Вучоба з'яўлялася бясплатнай, семінарысты атрымлівалі стыпендыю ў памеры 200 руб. [3. С. 19]. Кожная прыходская царква на ўтрыманне вучэбнай установы рабіла ўзнос у памеры 200 руб. у квартал. Гэта дазволіла ў 1954 г. пачаць будаўніцтва новага корпуса для правядзення заняткаў і пражывання семінарыстаў.

Прымаемыя меры не задавальнялі попыт на кадры. Па гэтай прычыне з 1948 па 1953 г. было закрыта 87 цэркваў, галоўным чынам прыпісных. З іх 53 знаходзіліся ва ўсходніх і 34 — у заходніх раёнах. У 1953 г. у БССР прайшлі рэгістрацыю 737 святароў. З іх 526 (71,3 %) служылі ў заходніх абласцях і 211 (28,7 %) — ва ўсходніх. Назіралася вялікая цякучасць свяшчэннаслужыцеляў. З 1948 па 1953 г. у 262 цэрквах адбылася змена 675 настаяцеляў. Па асобных прыходах

за гэты перыяд святары змяняліся па 8 — 10 разоў [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 392, арк. 40].

Асабліва цяжкае становішча склалася з кадрамі ва ўсходніх абласцях, дзе ў даваенны час вопытныя, добра падрыхтаваныя свяшчэннаслужыцелі былі расстраляны, высланы за межы рэспублікі. Новая генерацыя духавенства не магла замяніць даваенную "гвардыю". Па гэтай прычыне некаторыя прыходы былі запусцелыя, як, напрыклад, у в.Капцёўка Магілёўскага раёна. Праабражэнская царква знаходзілася ў бядотным стане, вернікі вельмі рэдка наведвалі яе. Святар Касянкоў не прымаў мер па актывізацыі рэлігійнага жыцця. З пачатку 50-х гг. узмацнілася практыка накіравання ў такія прыходы святароў з заходніх рэгіёнаў. Калі за 1946 — 1949 гг. ва ўсходнія раёны былі пераведзены 22 чал., то ў 1950 г. — 12, у 1951 г. — 18, у 1952 г. — 13 чал. Такую палітыку епархіяльнае ўпраўленне тлумачыла неабходнасцю мець там "аўтарытэтных і культурных святароў" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 348, арк. 112]. І сапраўды, з іх прыездам у амаль не дзеючыя прыходы на вачах мянялася царкоўнае жыццё. На мяжы распаду знаходзілася Жодзінская праваслаўная абшчына (Смалявіцкі раён). Нават у нядзельныя дні царкву наведвала не больш дзесятка вернікаў. З прызначэннем у пачатку 1950 г. у гэты прыход новага святара — "заходніка" Зубовіча становішча спраў рэзка змянілася да лепшага. Настаяцель стварыў хор пеўчых і сам кіраваў ім, арганізаваў капітальны рамонт будынка царквы, пабудову жылога дома для царкоўнага актыву. Для выканання адпраў святару даводзілася пешшу праходзіць да 15 — 20 кіламетраў да месца жыхарства вернікаў. Адразу палепшыліся паказчыкі дзейнасці прыхода: павялічылася колькасць наведвальнікаў царквы, здзейсненых абрадаў. У 1952 г. прыбытак склаў 18 тыс. руб., у той час як да назначэння Зубовіча ён не перавышаў 2 тыс. [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 348, арк. 114].

Святары-"заходнікі" ў пропаведзях заклікалі насельніцтва да актыўнага наведвання храмаў, праводзілі царкоўныя службы, наладжвалі работу хораў. Гэта прыцягвала ўсё большую колькасць вернікаў, якія за гады савецкай улады пад уплывам атэістычнай прапаганды станавіліся бязбожнікамі. Гэта не магло не хваляваць ідэалагічныя службы ЦК КП(б)Б, мясцовыя органы. 24 лютага 1953 г. 5-е ўпраўленне МДБ БССР, якое "курыравала" дзейнасць канфесій, накіравала даведку "Аб перамяшчэнні святароў-"заходнікаў" у раёны ўсходніх абласцей БССР". У ёй адзначалася, што гэты працэс непажаданы, але "магчымы і ў далейшым для заняцця вакан-

тных месцаў". У сувязі з такой перспектывай упаўнаважанаму па справах РПЦ па БССР прапаноўвалася пры перамяшчэнні святароў "выкарыстоўваць дадзеныя яму правы пры рэгістрацыі прызначаных на прыходы" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 348, арк. 110].

Такая палітыка ў далейшым прывяла да скарачэння праваслаўных храмаў ва ўсходніх раёнах па прычыне нерэгістрацыі святароў. Калі ў сярэдзіне 50-х гг. у шэрагу раёнаў заходняга рэгіёна дзейнічала ад 10 да 18 і больш цэркваў, то ў большасці ўсходніх — ад 1 да 2. У некаторых раёнах адсутнічалі зарэгістраваныя абшчыны. Суадносіны размяшчэння цэркваў добра прасочваюцца на прыкладзе Брэсцкай і Віцебскай абласцей, дзе на 1 ліпеня 1954 г. працавала адпаведна 331 і 26 цэркваў.

На "пацяпленне" адносін з боку дзяржаўна-партыйных структур праваслаўнае духавенства адказвала падтрымкай таталітарнага рэжыму. Гэта пацвердзіла святкаванне ў снежні 1949 г. 70-годдзя з дня нараджэння І.Сталіна. У сваіх пропаведзях яно праслаўляла былога семінарыста за ажыццяўленне "мудрай" палітыкі ў адносінах да царквы. У сувязі з надыходзячай падзеяй гродзенскі епіскап Паісій даслаў усім благачынным тэлеграму наступнага зместу: "З нагоды 70-годдзя Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна прапаную ўрачыста здзейсніць 21 снежня 1949 г. літургію і малебны з патрыятычным зваротам і шматгоддзем Дзяржаве і Правадыру ва ўсіх храмах благачыній" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 162, арк. 13].

У Мінскім кафедральным саборы адбылася спецыяльная служба, якую праводзілі 8 святароў на чале з архіепіскапам Піцірымам. На ўрачыстым набажэнстве ў Пінскай царкве архіепіскап Даніла сказаў: "За гады дзейнай працы і кіраўніцтва тав.Сталін прывёў нашу краіну да вялікай перамогі над фашызмам гітлераўскай Германіі, а ў бягучы момант вядзе барацьбу за мір ва ўсім свеце. Дык памолімся за дабрабыт нашай Радзімы, за здароўе ўсяго савецкага народа і за доўгія гады радаснага жыцця Генералісімуса Сталіна" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 162, арк. 14]. Такія службы прайшлі ў многіх цэрквах Беларусі. Ад імя прыхаджан дасылаліся прывітальныя тэлеграмы Сталіну.

На тэрыторыі Беларусі ў пачатку 50-х гг. яшчэ дзейнічалі 3 манастыры: мужчынскі ў Жыровічах, які налічваў 28 насельнікаў, і жаночыя ў Полацку і Гродна, у якіх пражывалі адпаведна 53 і 65 манашак. Галоўным даходам усіх манастыроў з'яўлялася агароднiцтва. З кожным годам паляпшалася становішча полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага ма-

настыра. Дазвол на яго адкрыццё далі яшчэ ў 1941 г. нямецкія акупацыйныя ўлады. У 1945 г. у ім пражывала 50 манашак. Гэта былі сталага ўзросту жанчыны, у асноўным з ліку тых, што знаходзіліся ў манастыры яшчэ да яго закрыцця ў 1925 г. Напрыклад, у 1950 г. 48 манашак з 54-х былі старэй за 55 гадоў. Манастыр меў двухпавярховы дом, царкву — адну з трох, належаўшых манастыру, тры гектары агародаў, якія сваімі рукамі старанна апрацоўвалі манашкі. Акрамя працы на зямлі яны займаліся рукадзеллем, шылі коўдры для гараджан. Добрасумленнасць, здольнасць умела весці гаспадарку садзейнічалі росту даходаў манастыра. За свае грошы ён здолеў адрамантаваць Спаса-Еўфрасіннеўскую царкву і шмат разоў прасіў дазволу пабудаваць новы дом ці адрамантаваць былую цёплую царкву і прыстасаваць яе пад жылое памяшканне. Але гэта не ўваходзіла ў планы гарадскіх улад. Яны ўсё рабілі для таго, каб не павялічваць колькасць манашак і паслушніц. Нягледзячы на ўціск, неспрыяльныя ўмовы, якія стваралі ўлады, манастыр адраджаўся, раслі яго вядомасць, уклад у фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва [4. С. 28].

Адносная лібералізацыя дзяржаўных адносін да праваслаўнай царквы не азначала прыпынення ідэалагічнага наступлення. Асабліва гэта стала адчувальным пасля таго як на змену СВБ у 1947 г. прыйшла новая арганізацыя — таварыства "Веды". Акрамя папулярызацыі сярод насельніцтва навуковых і палітычных ведаў вялікае месца ў яе дзейнасці займалі пытанні атэістычнай прапаганды. На месцах працягваліся парушэнне правоў чалавека на свабоду веравызнання, праследаванне асоб, якія хоць у нейкай меры мелі дачыненне да рэлігіі. Больш таго, абвінавачванне ў выкананні тых ці іншых рэлігійных абрадаў з'яўлялася высновай для выказвання недавераў, зняцця з работы. У кастрычніку 1947 г. быў адхілены ад працы выкладчык матэматыкі і фізікі Слуцкага педвучылішча К.Корбут. Прычынай з'явілася тое, што яго жонка быццам бы правяла абрад хрышчэння маленькай дачкі. Застаўшыся без працы, спецыяліст з вышэйшай адукацыяй пісаў на імя сакратара ЦК КП(б)Б: "Абвінавачванне гэта з'явілася адказным мерапрыемствам на беспрынцыпныя спрэчкі паміж жонкамі. Гэта абвінавачванне, якое прад'яўлена мне, я катэгарычна адмаўляю як несправядлівае і не адпавядаючае сапраўднасці. Я з'яўляюся атэістам, разумею, што рэлігійнае вучэнне з'яўляецца антынавуковым і з ім настаўнік павінен весці ба-

рацьбу навуковымі метадамі" [2. Ф. 4, воп. 17, спр. 60, арк. 241].

Уціск на ўсе канфесіі рэзка ўзмацніўся з прыходам у верасні 1953 г. на "першую" пасаду ў краіне М.С.Хрушчова (1894 — 1971). Гэты палітычны дзеяч нямала зрабіў дзеля лібералізацыі жыцця грамадства. Але ў пытаннях царкоўна-дзяржаўных адносін, барацьбы з рэлігіяй ён аказаўся верным прадаўжальнікам справы Сталіна, большым сталіністам, чым сам "бацька народаў". Будучы па сваіх перакананнях ваяўнічым атэістам, новы палітычны лідэр многа сіл прыклаў для знішчэння культавых будынкаў у Маскве, праводзячы "пралетарскую" рэканструкцыю сталіцы. Узначальваючы партыйныя арганізацыі Масквы і Украіны, ён заўсёды трымаў у цэнтры ўвагі пытанні барацьбы з рэлігіяй. Таму невыпадкова адной з вызначальных пастаноў ЦК КПСС па ідэалагічных пытаннях, якая была прынята пасля прыходу М. С. Хрушчова да ўлады, з'явілася пастанова ад 7 ліпеня 1954 г. "Аб буйных недахопах у навукова-атэістычнай прапагандзе і мерах яе паляпшэння" [5. С. 428 — 432]. У ёй адзначаўся запушчаны стан атэістычнай работы, яе недаацэнка як сродка камуністычнага выхавання працоўных. Перад партыйнымі і грамадскімі арганізацыямі ставілася задача "рашуча пакончыць з пасіўнасцю ў адносінах да рэлігіі, выкрываючы рэакцыйны змест рэлігіі і тую шкоду, якую яна прыносіць, адцягваючы частку грамадзян нашай краіны ад сумленнага і актыўнага ўдзелу ў камуністычным будаўніцтве" [5. С. 430].

Гэта была ўстаноўка на правядзенне новай "кавалерыйскай" атакі на рэлігійныя арганізацыі, якая працягвалася на працягу ўсяго перыяду знаходжання М.С.Хрушчова на чале кіраўніцтва КПСС і дзяржавай. У адказ 28 ліпеня 1954 г. ЦК КПБ прыняў пастанову "Аб стане і мерах паляпшэння навукова-атэістычнай прапаганды ў рэспубліцы" [6. С. 567 — 570]. Партыйныя структуры рэспублікі абавязваліся "рашуча пакончыць з пасіўнасцю ў адносінах да рэлігіі, разаблачаць рэакцыйную сутнасць рэлігіі і тую шкоду, якую яна прыносіць" [6. С. 568].

Гэтыя пастановы выклікалі новую хвалю вандалізму. З боку мясцовых і савецкіх улад актывізаваліся выпадкі знявагі пачуццяў вернікаў, грубых адносін да святароў. Напрыклад, калі ў сакавіку 1954 г. у в.Валасовічы, што ўваходзіла ў знакаміты калгас "Рассвет" Кіраўскага раёна, адбыўся пажар у царкве, абшчына заключыла дагавор з жыхаром гэтай вёскі М.Дамарадам, які здаў свой дом

для правядзення малітваў. Даведаўшыся аб гэтым, старшыня калгаса К.Арлоўскі выклікаў да сябе калгасніка і той пад страхам выключэння з гаспадаркі і пазбаўлення прысядзібнага ўчастка вымушаны быў адказаць абшчыне ў арэндзе памяшкання [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 392, арк. 443 — 445].

Гвалтаванне рэлігійных суполак, вернікаў выклікала глыбокае незадавальненне прадстаўнікоў усіх канфесій. У ЦК КПСС паступалі скаргі ад насельніцтва. Ва ўмовах унутрыпалітычнай барацьбы і для падтрымання свайго аўтарытэту М.Хрушчоў ініцыіраваў прыняцце новай пастановы "Аб памылках у правядзенні навукова-атэістычнай прапаганды сярод насельніцтва" (10 лістапада 1954 г.) [5. С. 446 — 450]. У хуткім часе адпаведную пастанову прыняў ЦК КПБ [6. С. 571 — 573]. Зваліўшы ўсе памылкі на несумленных прадстаўнікоў з ліку атэістычнага актыву, журналістаў, асобных газет, КПСС і КПБ не адступалі ад намечанай палітыкі далейшага разгортвання "вайны з рэлігіяй". Выпраўленне "памылак" не азначала паслаблення навукова-атэістычнай прапаганды. Як адзначалася ў пастанове ЦК КПБ, "партыйныя арганізацыі павінны ўзмацніць ідэалагічную барацьбу супраць рэлігіі, забяспечыць вызваленне вернікаў ад уплыву рэлігійных забабонаў" [6. С. 571].

Пасля выхаду гэтай пастановы вернікі спадзяваліся на тое, што ўлады больш уважліва будуць адносіцца да іх запатрабаванняў, выканання права на свабоду веравызнання. У многія партыйна-дзяржаўныя інстанцыі пайшлі лісты з просьбамі зрабіць больш дэмакратычным канфесіянальнае жыццё, зарэгістраваць рэлігійныя абшчыны і г.д. Але неспакушаных у вялікай палітыцы вернікаў чакалі расчараванні, калі на свае просьбы яны зноў сталі атрымліваць адмоўныя адказы.

Да сярэдзіны 50-х гг. тэндэнцыя закрыцця праваслаўных храмаў набірала моц. З 1020 цэркваў і малітоўных дамоў, якія налічваліся на 1 студзеня 1950 г., засталося 967. З агульнай колькасці праваслаўных храмаў 824 знаходзіліся ў сельскай мясцовасці [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 392, арк. 35]. Такім быў стан праваслаўнай царквы напярэдадні новых выпрабаванняў.

Пасляваенныя гады характарызаваліся актывізацыяй дзейнасці стараверскіх абшчын. У час акупацыі былі аднаўлены іх малітоўныя будынкі, абраны духоўныя настаўнікі. Аднавілі дзейнасць цэрквы ў Віцебску, в.Ваўкавыск Халопеніцкага раёна, іншых месцах. На 1 кастрычніка 1946 г. у БССР налічвалася 71 стараверская абшчына, у тым ліку ў

Бабруйскай і Віцебскай абласцях — 16, Полацкай — 20, Маладзечанскай — 7, Мінскай — 8. Толькі адна з іх мела папоўскі кірунак, астатнія — беспапоўскі. Больш за 50 абшчын з'яўляліся беспапоўскімі паморскага толку. Яны размяшчаліся ў паўночна-заходнім рэгіёне Беларусі, галоўным чынам у Браслаўскім і Міёрскім раёнах Полацкай, Бабруйскім Бабруйскай абласцей. Налічвалася таксама 17 суполак белакрыніцкага кірунку. Колькасць вернікаў ва ўсіх суполках складала больш за 12 тыс. чал. [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 2, арк. 290; Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 104].

Першыя пасляваенныя гады характарызаваліся некаторым паляпшэннем адносін партыйна-дзяржаўных структур да праваслаўнай канфесіі, чаго нельга сказаць пра рымска-каталіцкую царкву. Паміж прадстаўнікамі гэтай канфесіі і дзяржавай распачалася новая хваля канфрантацыі. Масква абвінавачвала Ватыкан у тым, што ў пасляваенны час ён узяў курс на ЗША і Англію, "арыентуецца не на перадавыя, а на рэакцыйныя элементы гэтых краін — на тых, хто ненавідзіць дэмакратыю і марыць аб новай вайне супраць дэмакратыі і СССР" [7. С. 176].

Афіцыйная прапаганда ў Беларусі, падтрымліваючы курс Масквы, лічыла, што ксяндзы з'яўляюцца лютымі ворагамі савецкай улады. Іх абвінавачвалі ў зрыве планаў паставак сельскагаспадарчай прадукцыі, займаў, супраціўленні калектывізацыі, апалячванні насельніцтва, іншых варожых дзеяннях. Гэта быў аднабаковы, класавы падыход, які ўлічваў дзеянні той ці іншай духоўнай асобы. Адносіны ксяндзоў да тагачаснай палітыкі, як і ўсё жыццё пасляваеннага грамадства, не з'яўляліся аднамернымі. Можна прывесці супрацьлеглыя прыклады адносін прадстаўнікоў канфесіі і да правядзення займаў, і да калектывізацыі, і да розных палітычных кампаній. Улады заўважалі толькі тое, што ўпісвалася ў афіцыйную "класавую" палітыку, і не жадалі бачыць усяго спектра жыцця каталіцкага духавенства. А ён меў шмат розных адценняў, аб чым сведчыць наступны прыклад: 13 сакавіка 1948 г. у памяшканне сельскага Савета в.Тракелі Лідскага раёна, дзе знаходзілася фінансавы агент І.Чарноцкая, уварвалася банда грабежнікаў і запатрабавала выдачы сабраных ёю грошай. Паколькі апошняя па дамоўленасці з мясцовым ксяндзом М.Шалкевічам і з дазволу райфінаддзела трымала іх у свяшчэннаслужыцеля, яна павяла бандытаў на яго кватэру. Прышоўшы ў хату, грабежнікі запатрабавалі грошы, але ксёндз адказаўся іх аддаць. І калі бандыты

вырашылі расправіцца з Чарноцкай, ён стаў паміж грабежнікамі і фінагентам са словамі: "Забіце яе толькі пасля маёй смерці". У час сутычкі прыбеглі суседзі і сталі на іх абарону. Бандытам прыйшлося пайсці ні з чым. Чыноўнікам з Мінска гэта здарэнне здавалася няпраўдзівым. Кампетэнтнай камісіі было загадана расследаваць гэту справу. Яна пацвердзіла самаахвярны ўчынак ксяндза [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 693, арк. 77].

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў партыйна-дзяржаўныя структуры лічылі сваёй першапачатковай задачай у сферы барацьбы з рэлігіяй згортванне рымска-каталіцкіх абшчын ва ўсходніх абласцях. У вайну на гэтай тэрыторыі пачалі дзейнічаць многія парафіі, якія ў часы "вялікага" атэістычнага наступлення 20 — 30-х гг. былі закрыты. Зараз зноў разгарнулася кампанія закрыцця храмаў для "патрэб" народнай гаспадаркі. Напрыклад, у Мінскай вобласці службы адпраўляліся ў двух храмах Мінска, у касцёлах Барысава, Дзяржынска, Беразіно, Узды, іншых населеных пунктаў, якія аднавілі дзейнасць у гады вайны. 19 верасня 1945 г. выканкам Барысаўскага гарсавета вынес пастанову аб часовай перадачы будынка касцёла базе "Нарыхтзерне". Трэба адзначыць, што гэта было ўжо другое закрыццё храма. Першы раз ён перастаў працаваць у 1936 г. і быў аддадзены пад мясцовы музей, але ў гады вайны аднавіў работу.

Вернікі, якія не маглі спакойна глядзець на закрыццё касцёла і спадзяваліся, што гэта самаўпраўства мясцовых улад, звярнуліся з лістом-просьбай да І. Сталіна і першага сакратара Мінскага абкама КП(б)Б В.Казлова. Але аднавіць работу касцёла не ўдалося, як не ўдалося гэта зрабіць у іншых мясцовасцях. У касцёлах Мінска, Заслаўя і в.Равенічы Чэрвеньскага раёна размясцілі склады, касцёлы Узды, Лагойска прыстасавалі пад кінатэатры, Беразіно — пад раённую бібліятэку і г.д. [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 6, арк. 42]. Да сярэдзіны 1946 г. ва ўсходніх рэгіёнах БССР усе каталіцкія храмы былі закрыты. Частка з іх выкарыстоўвалася пад зернесховішчы, культурна-асветныя ўстановы. Як адзначаў упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР па БССР К.Уласевіч, "у выніку антырэлігійнай прапаганды, абгрунтаванай савецкай эканомікай і палітыкай, былі ліквідаваны ўсе 84 апорныя пункты Ватыкана — касцёлы і ўсе іх кіраўнікі — 107 ксяндзоў" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 70, арк. 2 — 3].

У той час ва ўсходніх рэгіёнах пуставалі 33 касцёлы, з іх 18 знаходзіліся ў Мінскай, па 6 — у Віцебскай і Бабруйскай, 2 — у Магілёўскай і 1 — у Гомельскай абласцях. Вялікую работу сярод вернікаў-каталікоў, скіраваную на адкрыццё пуставаўшых храмаў, праводзіў ксёндз М.Малыніч. Ён пакінуў сваю парафію ў Берастовіцы і прыехаў ва ўсходнія раёны. Тут Малыніч арганізоўваў разрозненых каталікоў, дапамагаў ім пісаць заявы ў органы савецкай улады з просьбай аб адкрыцці касцёлаў, праводзіў набажэнствы пад адкрытым небам. З вялікім абурэннем даведаліся ўлады аб тым, што ў жніўні 1946 г. у Мсціслаўі Магілёўскай вобласці ксёндз сабраў вернікаў ля касцёла, занятага пад зернесховішча, і правёў групавую службу. Такія службы адбыліся ў Асіповічах, іншых гарадах і населеных пунктах усходніх рэгіёнаў. Натуральна, што за актыўную місіянерскую дзейнасць у канцы 1946 г. Малыніча арыштавалі.

Складаным было жыццё рымска-каталіцкай канфесіі і ў заходніх рэгіёнах БССР. За 1939 — 1946 гг. колькасць дзеючых касцёлаў зменшылася, што звязвалася галоўным чынам з вынікамі вайны. Калі ў 1939 г. тут налічвалася 416 касцёлаў з 501 ксяндзом, то на 1 студзеня 1946 г. іх колькасць скарацілася да 387, дзе працавалі 225 ксяндзоў [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 392, арк. 363]. Прычыны гэтага былі самыя розныя. Так, каля 60 чал. згодна з пагадненнем паміж урадамі СССР і Польшчы ад 9 верасня 1944 г. выехалі ў Польшчу. Але галоўнай прычынай скарачэння колькасці ксяндзоў заставаліся рэпрэсіі, якія пачаліся з першых дзён уз'яднання заходніх раёнаў з БССР.

Адразу пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў па заходніх абласцях пракацілася новая хваля рэпрэсій ксяндзоў. У сувязі з гэтым многія касцёлы працавалі без служыцеляў культу. На 15 снежня 1946 г. у Баранавіцкай вобласці такіх храмаў налічвалася 28, у Гродзенскай — 10, у Брэсцкай і Пінскай — па 6 і г.д. У такіх умовах улады дазвалялі некаторым ксяндзам працаваць у некалькіх парафіях. У 1946 г., напрыклад, ксёндз А.Буёк з Навагрудка акрамя асноўнай парафіі абслугоўваў яшчэ шэсць — Малькевічы, Карэлічы, Нягневічы, Воронца, Уселюб і Быцень. Нясвіжскі ксёндз Р.Каласоўскі ўзяў пад сваё апякунства парафіі ў Пласковічах, Свіловічах, Снове і Гарадзеі [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 4, арк. 64]. Гэта было цяжкае сумяшчальніцтва для ксяндзоў, на якое яны ішлі ў інтарэсах вернікаў. Але ўлады гэтыя дзеянні падносілі як магчымасць палепшыць сваё фінансавае становішча.

Каб зменшыць сферу ўплыву на вернікаў, з 1948 г. ксяндзам было забаронена абслугоўваць больш адной парафіі. У выніку адразу 98 абшчын засталіся без служыцеляў культу. Вернікам, якія звярталіся да ўлад за дапамогай, гаварылі, што як толькі яны знойдуць свабоднага ксяндза, адразу могуць хадайнічаць аб рэгістрацыі храма. Але вырашэнне гэтага пытання было практычна немагчымым, таму што ў БССР адсутнічалі навучальныя ўстановы, якія рыхтавалі ксяндзоў, а іх прыезд з іншых рэспублік забараняўся ўладамі. Напрыклад, 14 ксяндзоў, якія ў лютым 1949 г. прыехалі з Літвы, каб уладкавацца на службу ў касцёлы Гродзенскай і Полацкай абласцей, вымушаны былі вярнуцца назад па прычыне таго, што мясцовыя органы ўнутраных спраў забаранілі ім прапіску. Адсутнасць ксяндзоў у парафіях прыводзіла да таго, што вернікі не маглі выконваць такія важнейшыя абрады, як споведзь, прычашчэнне, пасты.

У першыя пасляваенныя гады ксяндзы накіроўвалі вялікія намаганні на ажыццяўленне рэлігійнага навучання дзяцей. У летнія месяцы дазвалялася затрачваць ад 2 да 5 гадзін у тыдзень на падрыхтоўку іх да прычашчэння. У в.Удзел Глыбокскага раёна, дзе пробашчам з'яўляўся Ю.Грабоўскі, збіралася каля 100 дзяўчынак і хлопчыкаў. У в.Дзераўная Івянецкага раёна была нават створана рэлігійная школа. 25 дзяцей, якія не былі ахоплены мясцовай школай, пад кіраўніцтвам старшыні касцёльнага савета І.Дзям'янкі вывучалі Закон Божы і малітвы. Аб гэтым ведалі сельскі савет, мясцовая тэрытарыяльная партыйная арганізацыя, але нічога не маглі зрабіць, таму што агульнаадукацыйная школа не мела магчымасцяў ахапіць усіх дзяцей.

Такое становішча хвалявала ўлады рэспублікі, якія бачылі ў гэтых дзеяннях прывіццё дзецям "нацыяналістычных, антысавецкіх поглядаў". 10 мая 1947 г. упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры СМ СССР па БССР К.Уласевіч інфармаваў старшыню саюзнага Савета І.Палянскага аб тым, што беларускія ўладныя структуры збіраюцца "забараніць ксяндзам усялякія заняткі з дзецьмі". У адказ маскоўскі кіраўнік паведамляў, што пытанне аб падрыхтоўцы перад першым прычашчэннем у рымска-каталіцкай царкве ставіцца перад урадам і неўзабаве атрымае канчатковае вырашэнне. "Да прыняцця рашэння ўрада па пытанні аб першым прычашчэнні, — папярэджвалі з Масквы, — не трэба станавіцца на шлях забароны падрыхтоўкі" [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 592, арк. 205, 206].

У канцы 1947 г. ксяндзам было забаронена праводзіць любыя заняткі з дзецьмі. За парушэнне гэтага загаду яны прыцягваліся да судовай адказнасці. Справа дайшла да таго, што з кожнага ксяндза бралі спецыяльную падпіску. Не ўсе згаджаліся з такім становішчам. Адказаўся даваць такую падпіску ксёндз-дэкан У.Курп-Гарбоўскі з Астравецкага раёна. Пры гэтым ён заявіў: "У Савецкім Саюзе манапольнае права на навучанне і выхаванне моладзі належыць камуністам, якія прывіваюць ім толькі матэрыялістычны погляд. Я павінен буду выканаць ваш загад, спыню навучанне дзяцей катэхізісу, не стану прыпадносіць ім наша разуменне крыніц і сіл прыроды, але лічу, што гэта не ёсць свабода сумлення" [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 693, арк. 10] .

З 1947 г. у БССР пачалася кампанія па рэгістрацыі касцёлаў і ксяндзоў з заключэннем тыпавых дагавораў на перадачу касцёлаў як нацыяналізаванай маёмасці рэлігійным суполкам. За рэдкім выключэннем служыцелі культу выступілі супраць гэтага мерапрыемства, адкрыта заяўляючы аб тым, што касцёлы ў СССР належаць не савецкай дзяржаве, а Папе рымскаму [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 70, арк. 12]. Тым, хто не жадаў рэгістравацца, улады забаранялі выконваць службу. Але пад моцным уціскам супраціўленне было зломлена. З 272 парафій, дзейнічаўшых у БССР на 1 студзеня 1948 г., былі зарэгістраваны 234. Па даных, на 24 верасня 1949 г. працягваў супраціўленне толькі ксёндз Хмелявец, пробашч касцёла ў в.Канстанцінава Свірскага раёна Маладзечанскай вобласці. У адказ яму так і не дазволілі правядзенне службаў, нягледзячы на многія асабістыя звароты да вышэйшых органаў улады, у тым ліку і да самога Сталіна.

У пасляваенныя часы працягвалі існаванне рымска-каталіцкія манастыры, хаця з кожным годам іх станавілася ўсё менш і менш. Калі ў 1939 г. у заходніх абласцях БССР налічвалася 65 мужчынскіх і жаночых манастыроў, то на канец 1945 г. засталося толькі два мужчынскія і пяць жаночых, дзе пражывалі дзевяць манахаў і 103 манашкі. Мужчынскія манастыры знаходзіліся ў Гродна і Кобрыне, жаночыя — у Гродна, в.Грыбаўшчына Нясвіжскага, м.Гарадзец Антопальскага раёнаў, г.п.Друя. 20 лістапада 1945 г. Нясвіжскі жаночы манастыр выехаў у Польшчу, а яго памяшканне і інвентар былі перададзены мясцоваму педвучылішчу [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 4, арк. 10, 11].

З кожным годам узмацнялася палітыка, скіраваная на закрыццё гэтых рэлігійных установ шляхам недапуш-

чэння новых насельнікаў. На 1 ліпеня 1949 г. яшчэ заставаліся чатыры манастыры, у тым ліку адзін мужчынскі, які налічваў тры чалавекі, і тры жаночыя, дзе пражывала 35 манашак. Але ў пачатку 1950 г. улады закрылі і іх. Так, у красавіку дзевяць манахаў Гродзенскага манастыра былі перасялены ў жылы дом, дзе яны пачалі новае жыццё без прытрымлівання манастырскіх правіл і палажэнняў. Будынак рэлігійнай установы пераабсталявалі пад шпіталь.

З кожным годам канфрантацыя ўлад з каталіцкай царквой на Беларусі ўзрастала. 23 ліпеня 1947 г. ЦК КП(б)Б паслаў на імя І.Сталіна і галоўнага партыйнага ідэолага А.Жданава дакладную запіску аб фактах рэакцыйнай антысавецкай дзейнасці каталіцкага духавенства ў заходніх абласцях БССР. У ёй адзначалася, што за апошнія 1 — 1,5 года ксяндзы асабліва актывізавалі сваю антысавецкую дзейнасць. Гэта "актывізацыя" заключалася ў тым, што "яны хочуць узяць пад свой уплыў дзяцей і моладзь як непасрэдна, так і праз бацькоў і тых настаўнікаў, якія выхаваны ў духу польскага нацыяналізму і рэлігійнай ідэалогіі" [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 544, арк. 41]. ЦК КП(б)Б крытыкаваў "няправільную" палітыку Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР, які дазволіў ксяндзам праводзіць падрыхтоўку дзяцей да першага прычашчэння і абучэнне іх катэхізісу.

Рымска-каталіцкай канфесіі ставілася ў віну тое, што яна ўзмацняла свой уплыў ва ўсходніх абласцях Беларусі. Партыйнае кіраўніцтва рэспублікі самай страшэннай крамолай лічыла тое, што ў гэтым ксяндзы сустракалі падтрымку Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР, яго кіраўніка І.Палянскага. Апошні паставіў перад урадам БССР пытанне аб аднаўленні дзейнасці касцёла ў Магілёве, падкрэсліваючы пры гэтым, што горад з'яўляецца "адным з гістарычных цэнтраў рымска-каталіцкай царквы ў Расіі".

Каталіцкае духавенства абвінавачвалі ў актывізацыі дзейнасці па "апалячванні і акаталічванні дарослага беларускага насельніцтва". У пацвярджэнне прыводзіліся даныя перапісаў, прыведзеных у Вярбілавіцкім сельскім Савеце Шчучынскага раёна ў 1941, 1945, 1947 гг., якія паказвалі змяншэнне беларускага насельніцтва. Згодна з перапісам 1941 г., у сельсавеце налічвалася 2263 беларусы і 95 палякаў, у 1945 г. гэтыя паказчыкі складалі адпаведна 1603 і 479, у 1947 — 111 і 2072 [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 544, арк. 42].

Таму, на думку ЦК КП(б)Б, палітычная абстаноўка ў раёнах заходніх абласцей БССР, дзе пераважала насельніцтва рымска-каталіцкага веравызнання, патрабавала правядзення шэрагу мерапрыемстваў, якія б змаглі паралізаваць "падрыўную" дзейнасць каталіцкага духавенства, аслабіць яго ўплыў на насельніцтва, "палітычна ізаляваць ксяндзоў ад сумленных грамадзян-католікоў".

У сувязі з гэтым ЦК КП(б)Б прасіў у Сталіна і Жданава дазволу на высяленне з БССР ксяндзоў, якія не з'яўляліся савецкімі падданымі. Але самая галоўная просьба беларускага кіраўніцтва заключалася ў тым, каб Масква "дазволіла органам МДБ узмацніць рэпрэсіўныя меры ў адносінах да той часткі рымска-каталіцкага духавенства, якая вядзе актыўную работу супраць савецкай улады" [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 544, арк. 43].

Як адрэагавала вышэйшае палітычнае кіраўніцтва СССР на просьбу ЦК КП(б)Б, можна здагадацца па масавых рэпрэсіях, якія пачаліся сярод ксяндзоў. Толькі за ліпень — верасень 1947 г. было арыштавана чатыры чалавекі [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 11, арк. 155]. З 1 ліпеня 1948 г. па 1 ліпеня 1949 г. такі лёс напаткаў яшчэ 21 ксяндза, а чатыры былі вымушаны скрывацца ад арышту. Калі на 1 студзеня 1946 г. налічвалася 225 ксяндзоў, то на 1 студзеня 1947 г. іх было ўжо 182, на 1 студзеня 1948 г. — 167, на 1 студзеня 1949 г. — 144, на 1 студзеня 1950 г. — толькі 111. Такім чынам, за непрацяглы час колькасць ксяндзоў у заходніх абласцях скарацілася на 114 чал., гэта значыць больш чым напалову, а ў параўнанні з 1939 г. — на 390 чал. [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 162, арк. 51].

Мясцовыя ўлады тлумачылі арышты ксяндзоў тым, што апошнія выступалі супраць афіцыйнай палітыкі і ў першую чаргу калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Гэта быў прапагандысцкі штамп, які пад выглядам супраціўлення і нежадання ўступаць у калгасы заможнай часткі сялянства апраўдваў палітычныя рэпрэсіі. Сярод праціўнікаў калектывізацыі не магло не знайсціся месца і прадстаўнікам рымска-каталіцкай канфесіі. Але архіўныя крыніцы сведчаць, што большасць каталіцкага духавенства актыўна не выступала супраць партыйнага курсу. Аб гэтым гавораць і заявы тагачасных кіраўнікоў, якія займаліся пытаннямі рэлігійнага жыцця. 27 чэрвеня 1949 г. упаўнаважаны па справах рэлігійных культаў пры Гродзенскім аблвыканкаме П.Чыж дакладваў кіраўніцтву ў Мінск: "Амаль усе служыцелі культу — ксяндзы нелаяльна сустрэлі паведамленне ўрада аб дзяржаўнай пазыцы, хаця фактаў адкрытага

выступлення перад вернікамі аб гэтым я ў сябе не маю" [8. Ф. 1385. воп. 1а, спр. 14, арк. 19].

Адсутнасць фактаў аб удзеле прадстаўнікоў рымска-каталіцкага духавенства ў тых ці іншых дзеяннях, накіраваных супраць калектывізацыі, не задавальняла вышэйшыя палітычныя структуры. Таму ў справаздачы за I квартал 1950 г., накіраванай у Маскву ЦК КП(б)Б, упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў БССР К.Уласевіч гэту з'яву тлумачыў наступным чынам: "Калі мы не назіралі адкрытых выпадкаў выступленняў на сходах вернікаў каталіцкіх ксяндзоў і іх актыву супраць калгаснай перабудовы вёскі, то гэта толькі таму, што яны баяцца за сваё жыццё" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 162, арк. 123]. Больш таго, у справаздачы прыводзіліся прыклады, калі ксёндз Ч.Кударэўскі з в.Слабодка Браслаўскага раёна заклікаў парафіян акуратна выконваць свой грамадскі абавязак, а ксёндз Коўза з г.п.Воранава пры звароце да яго грамадзян спачатку высвятляў, як выконваюцца разлікі з дзяржавай па падатку. Калі была запазычанасць, назначаўся тэрмін разліку і толькі пасля гэтага вырашаліся асабістыя справы [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 162, арк. 124].

Вельмі прыстойна паводзіў сябе пробашч касцёла ў в. Мядзведзічы Ляхавіцкага раёна В.Піянткоўскі. Адразу пасля арышту ў пачатку 1950 г. улады зрабілі яго "нахабным выкармышам Ватыкана", "выхаванцам ордэна езуітаў". Ксёндз абвінавачваўся ў тым, што ў парафіі, якую ён абслугоўваў, у калгас уступіла невялікая колькасць вернікаў-каталікоў, нягледзячы на тое, што ў споведзях ён гаварыў "аб перавагах калгасаў перад аднаасобнымі гаспадаркамі" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 162, арк. 183].

Масавыя арышты ксяндзоў не ўносілі разгубленасці ў іх рады, яны працягвалі займацца душпастырскай справай, не ішлі на кампрамісы са сваім сумленнем. Гэта выклікала здзіўленне мясцовых улад. "Здавалася, што асуджэнне павінна было прымусіць каталіцкае духавенства да перагляду сваёй лініі паводзін, — адзначаў упаўнаважаны Савета па справах рэлігій К.Уласевіч. — Але выхаваныя школай езуітаў ксяндзы ні на крок не адступаюць ад дадзенай Папе прысягі — выкарыстоўваць усе сродкі барацьбы з камунізмам" [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 217, арк. 170].

З арыштам каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў спынялася жыццё многіх парафій. Пасля арышту ксяндза 24 красавіка 1948 г. перастаў дзейнічаць касцёл у Ашмянах, улады забаранілі вернікам, а іх налічвалася каля 8 тыс., збірацца на

малітоўныя сходы. Адразу пасля арышта загадчык райфо Кашко прыехаў на фурманцы да касцёла, пагрузіў і вывез усю маёмасць. Праз некаторы час вернікі даведаліся, што частка яе была перададзена ў раённы Дом культуры, а частка прысвоена самім раённым фінансістам [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 51, арк. 48].

У 1948 г. быў закрыты касцёл у г.п. Шарашова Брэсцкай вобласці. З 1950 па 1952 г. яго будынак выкарыстоўваўся пад склад "Нарыхтзерне", а з 1953 г. — пад калгасны амбар. Вернікі не маглі мірыцца з такім становішчам. Толькі ў 1954 г. яны тры разы дарэмна звярталіся ў Савет па справах рэлігійных культаў аб вяртанні ім касцёльнага памяшкання, і таму вымушаны былі для правядзення абрадаў збірацца на прыватных кватэрах.

Сярод партыйных і савецкіх кіраўнікоў раёнаў лічылася добрым "тонам" закрыццё касцёлаў па асабістым загадзе. У жніўні 1952 г. па загадзе старшыні райвыканкама быў адабраны і перададзены мясцоваму саўгасу пад зернесховішча касцёл у в.Вярэйкі Ваўкавыскага раёна. Вернікам нічога не заставалася, яб абсталяваць на могілках капліцу і праводзіць там малітоўныя сходы па святочных днях. Такі ж лёс напаткаў вернікаў Вавюрскай парафіі Лідскага раёна пасля наведвання яе ў кастрычніку 1952 г. сакратаром райкама КПБ, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР Артамонавым. Па яго даручэнні старшыня сельсавета апячатаў касцёл і забараніў праводзіць службы [8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 24, арк. 45].

З кожным годам павялічвалася колькасць закрытых касцёлаў. Калі ў 1945 г. налічвалася 387 касцёльных будынкаў, дзе праводзіліся службы, то на 1 красавіка 1951 г. службы адпраўляліся толькі ў 154. 75 касцёлаў выкарыстоўваліся пад склады, 28 — пад культурна-асветныя ўстановы, 18 былі заняты пад праваслаўныя храмы, 43 пуставалі і г.д.

Нягледзячы на зняцце з рэгістрацыі парафій, закрыццё храмаў, узровень рэлігійнасці насельніцтва заставаўся вялікім. Хвалявала ўлады тая акалічнасць, што рады вернікаў папаўняліся за кошт інтэлігенцыі, прадстаўнікоў мясцовай улады. Некаторыя з іх прымалі ўдзел у дзейнасці выканаўчых органаў рэлігійных арганізацый, што магло прывесці да звальнення з работы, выключэння з партыі ці камсамола. У 1953 г. у склад касцёльнага савета ў в.Мяжэрычы Зэльвенскага раёна ўваходзіў старшыня сельсавета І.Нячыпар, у в.Азёры Скідзельскага раёна — старшыня калгаса І.Косцюц.

Зусім абуральным, на думку ўлад, быў факт, калі касцёльны савет у в.Паперня Лідскага раёна ўзначальваў старшыня мясцовага калгаса А.Серафімовіч.

Працаваўшыя касцёлы збіралі немалую колькасць вернікаў і з парафій, знятых з рэгістрацыі. Напрыклад, парафія Гродзенскага фарнага касцёла налічвала каля 3000 вернікаў. За першую палову 1953 г. на гадавых святах у храме прысутнічала 3500 чал., адбылося 35 хрышчэнняў, 10 вянчанняў, 6000 споведзяў. Яшчэ больш унушальнымі былі паказчыкі ў сельскіх парафіях. Напрыклад, у в.Баруны Ашмянскага раёна налічвалася каля 1800 вернікаў, а колькасць наведвальнікаў касцёла ў вялікодныя дні даходзіла да 3500 чал. Для параўнання: за студзень — красавік 1953 г. у 12 населеных пунктах сельсавета на дэманстрацыю 12 кінафільмаў прыйшло ўсяго 357 чал. Устойлівымі заставаліся духоўныя адправы. Па звестках ксяндза С.Казлоўскага, у 1950 г. ён здзейсніў абрад хрышчэння над 144 нованароджанымі, абвянчаў 33 пары маладых людзей і адправіў 36 паніхід па памерлых. У 1951 г. ксёндз здзейсніў 184 хрышчэнні, 39 вянчанняў, 33 паніхіды, у 1952 г. — 171 хрышчэнне, 48 вянчанняў і 37 паніхід [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 348, арк. 182].

Некаторая лібералізацыя ў адносінах да ксяндзоў пачала назірацца пасля смерці І.Сталіна. Гэтую вестку каталіцкае духавенства ўспрыняла вельмі стрымана. Упаўнаважаны па справах рэлігійных культаў пры Гродзенскім аблвыканкаме М.Саласенкаў паведамляў, што ў сувязі са смерцю "бацькі народаў" рымска-каталіцкае духавенства нават "не праявіла сваёй ініцыятывы вывесіць жалобныя сцягі на малітоўных будынках" [8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 24, арк. 10]. І толькі пасля ўмяшання ўпаўнаважанага гэта было зроблена. У партыйна-дзяржаўныя органы ад ксяндзоў сталі паступаць нават пісьмы, тэлеграмы, у якіх "выказваліся спачуванні" ў сувязі з канчынай правадыра.

Сярэдзіна 50-х гг. азнаменавалася новай з'явай у каталіцкім жыцці — вяртаннем са зняволення рэпрэсіраваных ксяндзоў. Мясцовыя партыйныя і савецкія органы вельмі неахвотна давалі дазвол на іх рэгістрацыю, матывуя свае дзеянні непажаданай актывізацыяй дзейнасці рэлігійных арганізацый. Але абставіны былі не на карысць улад. Пад націскам патрабаванняў вернікаў з'яўлялася ўсё больш і больш парафій, куды прыязджалі зарэгістраваныя ксяндзы.

10 чэрвеня 1955 г. на вакантнае месца пробашча касцёла в.Адэльск Сапоцкінскага раёна пашчаслівілася зарэгістравацца 40-гадоваму П.Барташэвічу. Да арышту

ў 1949 г. ён плённа працаваў у касцёле м.Парплішча. З першых дзён сваёй душпастырскай дзейнасці пробашч праводзіў мэтанакіраваную работу сярод парафіян-каталікоў. За кароткі тэрмін Барташэвіч зрабіў абыход большасці населеных пунктаў парафіі, пазнаёміўся з духоўным жыццём дарослых, веданнем дзецьмі малітваў. Мясцовыя ўлады былі вельмі перапалоханыя з прычыны праведзенага 2 лістапада 1955 г. забароненага свята "Дзяды". Больш тысячы чалавек з харугвамі ў руках прайшлі ад касцёла да вясковых могілак, каб ушанаваць памяць сваіх продкаў.

Барташэвіч праводзіў актыўную работу па падняцці рэлігійнай свядомасці сярод дзяцей і моладзі. Кожную нядзелю многія вучні мясцовай школы прымалі ўдзел у шэсці вакол касцёла. Большасць з іх пасля заняткаў, як правіла, накіроўвалася ў храм. Працэнт наведвання школы вучнямі ў час рэлігійных свят складаў не больш 15. Ксёндз набыў спартыўны інвентар і разам з мясцовай моладдзю займаўся спортам да таго часу, пакуль улады катэгарычна не забаранілі гэта рабіць. Аўтарытэт святарнаслужыцеля дасягнуў такіх памераў, што, калі ён ішоў па вуліцы, многія вучні станавіліся на калені і цалавалі сутану. Да Барташэвіча звярталіся людзі за дапамогай па многіх пытаннях, і ён стараўся нікому не адказаць. Як сведчанне павагі парафіян да свайго пробашча з'явілася захоўванне ў некаторых жыхароў невялікіх партрэтаў ксяндза. Аб гэтым дакладваў у спецыяльным лісце ўчастковы інспектар міліцыі пасля "праверкі" пашпартнага рэжыму [8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 32, арк. 24; спр. 29, арк. 16; воп. 1, спр. 47, арк. 27]. Дзейнасці Барташэвіча не маглі нічога супрацьпаставіць ні педагагічны калектыў мясцовай школы, ні сельскі Савет. Было заменена іх кіраўніцтва, але колькасць вернікаў не змяншалася. Рэлігійнае жыццё Адэльскай парафіі працягвала віраваць.

29 мая 1955 г. на знаёмства з новым зарэгістраваным ксяндзом прыйшлі ў касцёл вернікі Начскай парафіі Радуньскага раёна. Іх налічвалася не менш 2,5 тыс. Усім не хапіла месца ў храме, таму многія слухалі хвалюючыя словы пробашча, стоячы на вуліцы. Закранулі яны сэрцы парафіян, пацягнуліся людзі ў храм. Таму толькі на працягу першага месяца работы адбылося 16 хрышчэнняў, 5 вянчанняў, каля 3 тыс. споведзяў. Падтрымалі вернікі і касцёльную касу. Гэта дазволіла абшчыне заплаціць дзяржаве падатак, набыць частку будаўнічых матэрыялаў для правядзення рамонту касцёла.

Улады ўсё рабілі для таго, каб не дапусціць ксяндзоў — былых вязняў да працы. 27 студзеня 1955 г. упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры Маладзечанскім аблвыканкаме І.Кліманскі дакладваў у Мінск аб тым, што пры наяўнасці ў вобласці 40 дзеючых касцёлаў са служыцелямі культу і 12 без ксяндзоў немэтазгодна больш рэгістраваць ксяндзоў і адчыняць касцёлы, якія значны час не дзейнічалі. Адначасова паведамлялася, што ў вобласці знаходзяцца пяць ксяндзоў, якія вярнуліся з месцаў заключэння і якім па розных прычынах адмоўлена ў рэгістрацыі [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 44, арк. 111].

Нягледзячы на пастанову ЦК КПСС "Аб памылках у правядзенні навукова-атэістычнай прапаганды сярод насельніцтва", з боку мясцовых партыйных работнікаў працягваліся парушэнні заканадаўства аб культах. Праз два з паловай месяцы пасля прыняцця ўказанай пастановы, 2 лютага 1955 г., калі закончылася служба ў Рагозніцкім касцёле Мастоўскага раёна, страхавы інспектар Гольцаў і інспектар райфо Семянюк зайшлі на кватэру ксяндза І.Мяноўскага. Яны запатрабавалі ў іх прысутнасці падлічыць увесь збор грошай, якія паступілі. Пасля гэтага Семянюк ад імя выканаўчага органа раёна склаў акт. Гэта не магло не выклікаць абурэння з боку членаў выканаўчага органа абшчыны, ксяндза, які толькі што пачаў працаваць. Яго афіцыйная рэгістрацыя адбылася 1 лютага пасля вызвалення з няволі [8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 26, арк. 39, 56].

Рэпрэсіі ксяндзоў, палітыка закрыцця касцёлаў, якая праводзілася ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, садзейнічалі згортванню жыцця многіх парафій. На канец 1955 г. у БССР налічвалася 152 касцёлы, якія дзейнічалі ў заходніх абласцях. Так, у Гродзенскай вобласці іх колькасць складала 80, у Маладзечанскай — 54, у Брэсцкай — 16. З такой палітыкай не пагаджаліся вернікі. Яны не мірыліся з тым, што храмы былі заняты пад склады, майстэрні, спартыўныя залы альбо пуставалі. У самыя высокія інстанцыі Мінска і Масквы паступалі лісты, у якіх ставілася пытанне аб спыненні закрыцця храмаў, рэгістрацыі вярнуўшыхся з лагераў ксяндзоў. Актыўнасцю вылучаліся вернікі тых мясцін, дзе на працягу дзесяцігоддзяў віравала рэлігійнае жыццё. Гэта тычылася такіх населеных пунктаў, як Опса, Плюсы Браслаўскага, Друя Міёрскага, Германовічы Шаркоўшчынскага, Пяршаі Валожынскага, Белагруда Лідскага, Вярэйкі Ваўкавыскага, Раготна Дзятлаўскага, Жалудок Жалудокскага раёнаў і інш. Справа набыла такую вастрыню, што стар-

шыня Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР І.Палянскі накіраваў у ЦК КПСС ліст аб неабходнасці пашырэння колькасці касцёлаў на Беларусі. Яго падтрымаў упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў БССР К.Уласевіч. Работнікі, якія неслі адказнасць за свабоду веравызнання, паставілі перад партыйнымі органамі рэспублікі пытанне аб мэтазгоднасці адкрыцця касцёлаў ва ўсходніх абласцях рэспублікі — Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай — там, дзе яны былі закрыты 30 гадоў назад, стварэнні ў Мінску каталіцкага цэнтра з біскупам.

Па традыцыі тых часоў ліст быў накіраваны на разгляд у ЦК КПБ. Яго абмеркаванне адбылося 12 лістапада 1955 г. на бюро ЦК. Трэба адзначыць, што ідэалагічныя партыйныя службы не адышлі ад панаваўшых стэрэатыпаў мыслення, лічылі, што ніякага парушэння правоў вернікаў не адбываецца. Больш таго, І.Палянскаму рабіліся папрокі ў няведанні рэчаіснасці. Працуючы ў Маскве, ён, на думку беларускіх ідэолагаў, нават сфальсіфікаваў некаторыя факты. Калі такія прэтэнзіі прад'яўляліся да высокага маскоўскага кіраўніка, то да мясцовага знайшліся больш жорсткія. На бюро ЦК КПБ была зроблена заява аб тым, што ўпаўнаважаны Савета К. Уласевіч палітычна адсталы чалавек, стаіць на яўна памылковых пазіцыях. У выніку бюро вызваліла яго ад займаемай пасады. Пасля абмеркавання на бюро ЦК КПБ накіраваў у Маскву ліст, у якім не пагадзіўся з прапановай Палянскага "весці лінію на расшырэнне сеткі касцёлаў" [2. Ф. 4, воп. 81, спр. 1051, арк. 31]. Было заяўлена аб тым, што партыйныя камітэты рэспублікі прымаюць усе меры па ўзмацненні навукова-атэістычнай прапаганды сярод насельніцтва заходніх абласцей Беларусі.

Як бачна, пасляваеннае дзесяцігоддзе было адзначана канфрантацыяй дзяржавы і касцёла. Гэта прывяло да таго, што многія ксяндзы былі рэпрэсіраваны. Вялікія страты панеслі культавыя збудаванні, многія з якіх з'яўляліся помнікамі гісторыі і культуры. Але ўсе гэтыя парушэнні свабоды веравызнання не дапамаглі ўладам адцягнуць людзей ад каталіцызма.

Сярэдзіна 40-х гг. характарызавалася ростам актыўнасці пратэстанцкіх цэркваў. У кастрычніку 1944 г. адбылося аб'яднанне баптыстаў з евангельскімі хрысціянамі [9. С. 8]. Аб'яднанне царквы ўзначаліў Усесаюзны савет евангельскіх хрысціян-баптыстаў (УСЕХБ), які знаходзіўся ў Маскве. У

1945 г. кіраўнічы цэнтр баптыстаў стаў выдаваць часопіс “Братский вестник”.

У жніўні 1945 г. кіраўнікі хрысціян веры евангельскай з Беларусі І.Панько і С.Вашкевіч, а таксама ўкраінскіх пяцідзесятнікаў звярнуліся ва УСЕХБ з просьбай абмеркаваць магчымасці і ўмовы ўваходжання ў Саюз хрысціян веры евангельскай. 29 жніўня быў прыняты дакумент, які стаў вядомы як Жнівеньскае пагадненне [10. С. 233]. Пасля яго падпісання ў верасні — лістападзе 1945 г. пачалася кампанія аб'яднання. Незадаволеныя былі як з аднаго, так і з другога боку. Супраць выступілі прасвітары евангельскіх хрысціян-баптыстаў в.Глудня Бярозаўскага раёна Р.Барушка, в.Голкава Антопальскага І.Саковіч, в.Матвеевічы Жабінкаўскага І.Кірылюк і інш. Яны былі адхілены ад выканання сваіх абавязкаў [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 2, арк. 286].Нямала было праціўнікаў і з боку пяцідзесятнікаў. Па даных упаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў пры СМ СССР па БССР да пачатку 1946 г. незарэгістраванымі з'яўляліся 28 абшчын. Яны не прызнавалі кіраўніцтва УСЕХБ, якое, па іх заявах, “прадалося антыхрысту” (савецкай уладзе). Тым не менш да новага саюза былі далучаны 83 арганізацыі евангельскіх хрысціян. Назіраліся выпадкі, калі сярод пяцідзесятнікаў, якія ўвайшлі ў склад ЕХБ, абраднасць праводзілася па-старому. За падтрымку “пяцідзесятніцкіх” поглядаў у 1949 г. з членаў ЕХБ было выключана 23 чал., а ў лістападзе-снежні 1949 г. былі арыштаваны былыя кіраўнікі пяцідзесятнікаў, у тым ліку І.Панько. “Арышт і асуджэнне гэтых асоб, аб чым я неаднаразова ставіў пытанне перад органамі, — адзначаў упаўнаважаны па справах культаў К.Уласевіч, — несумненна прывядзе да змянення тактыкі паводзін пяцідзесятнікаў, можа прымусіць некаторых з іх пайсці ў падполле, але ў рэшце прывядзе да станоўчых вынікаў у сэнсе падрыва сектанцкага руху БССР” [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 162, арк. 99].

Але стан спраў на месцах не пацвярджаў аптымістычную заяву кіраўніка “рэлігійнага ведамства”. Па далёка няпоўных даных, у 1946 г. колькасць членаў ЕХБ вырасла на 495, у 1947 г. — на 570, у 1948 г. — на 640 чал. Такой была афіцыйная статыстыка, якая, як правіла, давала інфармацыю ў паменшаным выглядзе. Некаторыя рэлігійныя арганізацыі выраслі да некалькіх соцень вернікаў. У Зэльвенскім раёне царква ЕХБ налічвала каля 260 чал., яе цэнтрам з'яўлялася в.Бародзічы, дзе прасвітарам плённа працаваў М.Лазута. У Лідзе суполка дасягнула 60 вернікаў. Апошнюю ўзначаль-



9 Зак 899

ваў наладчык кандуктарскіх брыгад мясцовай чыгуначнай станцыі М. Жаўтко. Па даных партыйных органаў суполка падтрымлівала сувязі з Польшчай і ЗША, адкуль прыходзіла рэлігійная літаратура, у тым ліку баптысцкі часопіс "Маяк".

Мясцовыя ўлады накіроўвалі намаганні на тое, каб пасля рэгістрацыі абшчын па магчымасці тармазіць іх дзейнасць. Гэта рабілася пад выглядам прапановы зліцця з суседнімі арганізацыямі ЕХБ. У 1947 г. была знята з рэгістрацыі 21 абшчына, у тым ліку Расонская (Полацкай вобласці), Клічаўская (Бабруйскай) і інш. Калі на 1 кастрычніка 1946 г. у БССР на ўліку знаходзілася 277 абшчын, то на 1 студзеня 1948 г. іх колькасць зменшылася да 235.

Шмат суполак працягвала знаходзіцца ў нелегальным становішчы. Напрыклад, у Бабруйскай вобласці ў зарэгістраваных абшчынах налічвалася 913 вернікаў, столькі ж было і ў незарэгістраваных. Некаторыя з іх па колькасці членаў пераўзыходзілі многія зарэгістраваныя таварыствы. Падарэская групоўка Старадарожскага раёна аб'ядноўвала да 250 членаў, Прэсмакоўская Грэскага — звыш 100 [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 693, арк. 16]. Усяго ў зарэгістраваных таварыствах стаяла на ўліку 15 880 вернікаў, з іх 4653 ва ўсходніх раёнах і 11 247 — у заходніх. Па сацыяльным складзе 2020 чал. з'яўляліся рабочымі і служачымі, 6673 — калгаснікамі, 7187 — сялянамі-аднаасобнікамі. У складзе рабочых значная частка прыпадала на чыгуначнікаў, асабліва Аршанскага, Баранавіцкага і Брэсцкага вузлоў.

Абшчыны ЕХБ папаўняліся галоўным чынам за кошт жанчын. З 507 асоб, прыняўшых воднае хрышчэнне ў 1949 г., мужчыны складалі 92 чал. (17,7 %), жанчыны — 415 (82,3 %). Сярод вернікаў было шмат моладзі, якая стварала базу для росту абшчын, іх актыўнай дзейнасці.

Адным з фактараў негатыўнага ўздзеяння на развіццё пратэстанцкага руху з'явіліся арышты прасвітараў абшчын ЕХБ. Напрыклад, прапаведнік з Краснапольскага раёна З.Кацапаў быў асуджаны на 15 гадоў. Улады нагадалі яго выказванне ў час нямецкай акупацыі аб тым, што "бальшавікі праследавалі рэлігію, а зараз немцы нам далі поўную свабоду" [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 67]. Хваля рэпрэсій узмацнілася ў сувязі з калектывізацыяй у заходніх раёнах. У в.Хвоева Нясвіжскага раёна дзейнічала абшчына, якая налічвала 168 членаў. Вясной 1949 г. тут быў арганізаваны калгас, але ні адзін з членаў суполкі не ўступіў у яго. Прычыну гэтага ўлады бачылі ва ўплыве на

сялян прасвітара С.Новіка. У сакавіку 1950 г. ён быў арыштаваны, але і пасля гэтага ніхто з вернікаў не ўступіў у калгас. Спачатку яны спасылаліся на дрэннае кіраўніцтва з боку старшыні, які сістэматычна займаўся п'янствам. І пасля таго, як на гэту пасаду прыйшоў новы чалавек, ні адзін з гаспадароў у калгас не ўступіў [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 162, арк. 120].

Нягледзячы на тое, што афіцыйная статыстыка гаварыла аб скарачэнні пратэстанцкіх арганізацый, колькасці вернікаў, жыццё канфесіі працягвалася ва ўмовах сакрэтнасці, паўлегальнай, а ў некаторых выпадках і падпольнай дзейнасці. У пачатку 50-х гг. у развіцці ЕХБ акрэсліліся дзве тэндэнцыі. Па-першае, актывізавалася дзейнасць рэлігійных аб'яднанняў ва ўсходніх раёнах. Раней ці пазней гэта павінна было адбыцца па прычыне таго, што адразу пасля вайны там закрыліся ўсе каталіцкія парафіі, пастаянна скарачаліся праваслаўныя прыходы. Цяга людзей да рэлігіі прыводзіла іх у рады ЕХБ. У 1952 г. ва ўсходнебеларускім рэгіёне дзейнічалі 43 царквы, у якіх налічвалася 4817 вернікаў. За гэты год праз воднае хрышчэнне было прынята 154 новыя члены, што складала 3,2 % ад агульнай колькасці. У заходніх абласцях, дзе налічвалася 139 цэркваў з 9270 членамі, гэты паказчык склаў толькі 99 чал. (1 % ад агульнай колькасці вернікаў). У Гродзенскай вобласці, напрыклад, дзе налічвалася нямала касцёлаў і цэркваў, за 1951 — 1952 гг. ні ў адной з 11 абшчын не праводзілася воднае хрышчэнне і прыём новых членаў.

Па-другое, пачатак 50-х гг. азнаменаваўся хуткім ростам гарадскіх цэркваў ЕХБ. У 1952 г. толькі гарадскія абшчыны Віцебска і Оршы прынялі праз воднае хрышчэнне 38 чал., што ў 3 разы больш, чым усе 40 груповак Пінскай вобласці. Як вынік у 1952 г. аршанская царква налічвала 172 вернікі супраць 87 у 1948 г., мінская абшчына вырасла з 148 да 270 чал., а маладзечанская павялічылася ў 10 разоў [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 348, арк. 15]. Такім чынам, нягледзячы на складанасці развіцця і ідэалагічны ўціск, у пасляваенны перыяд працягвалася папаўненне радоў евангельскіх хрысціян-баптыстаў. На 1 студзеня 1955 г. у БССР дзейнічалі 155 абшчын ЕХБ, у якіх налічвалася 55 308 членаў.

У першыя пасляваенныя гады разгортвалі дзейнасць абшчыны адвентыстаў сёмага дня. На 1 кастрычніка 1946 г. у БССР прайшлі рэгістрацыю

шэсць арганізацый – тры ў Пінскай, па адной у Брэсцкай, Гродзенскай і Віцебскай абласцях. Яны адразу выклікалі неспакой у партыйных структур тым, што па суботах дзеці вернікаў не наведвалі школу, многія з іх прымалі ўдзел у малітоўных сходах з дэкламацыяй рэлігійных вершаў, спяваннем песень. 30 кастрычніка 1946 г. К. Уласевіч дакладаў у ЦК КП(б)Б: "Я патрабаваў ад упаўнаважанага АСД па БССР аддаць распараджэнне і арганізаваць правядзенне адпаведнай падрыхтоўкі членаў абшчын да спынення такой з'явы і абавязковай пасылкі дзяцей у школу ў дні заняткаў. Сваім упаўнаважаным даручыў праверыць выкананне данага распараджэння і далажыць" [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 104].

Але гэта распараджэнне не дапамагло. І ў далейшым у дакладах з месцаў паведамлялася аб масавым ненаведванні дзецьмі адвентыстаў заняткаў у школах у суботнія дні. Нягледзячы на строгія меры, якія прымаліся ўладамі да вернікаў, карэнным чынам палепшыць сітуацыю не ўдавалася. Партыйна-дзяржаўныя структуры бачылі выхад толькі ў закрыцці абшчын АСД.

У складаных умовах разгортвалася дзейнасць іудзейскай канфесіі. За гады вайны з 990 тыс. яўрэяў, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі, загінулі 810 тыс., што складала амаль 82 %. Доктар гістарычных навук, прафесар Э.Іофэ назваў гэта "катастрофай беларускага яўрэйства" [11. С. 162].

Фашысты руйнавалі помнікі яўрэйскай культуры, сінагогі, якія перад вайной засталіся дзейнічаць толькі ў заходнебеларускім рэгіёне. У Брэсце, напрыклад, у гады фашысцкай акупацыі ўсе сінагогі і малітоўныя дамы выкарыстоўваліся пад канюшні і гаражы. Усяго былі разбураны 23 драўляныя сінагогі [12. С. 59].

Антысеміцкая накіраванасць палітыкі Сталіна, праводзімай у пасляваенныя гады, не дазваляла ўраду БССР пайсці на шырокую рэгістрацыю іудзейскіх абшчын, адкрыццё сінагог, патрэба ў якіх у вернікаў-яўрэяў была вельмі вялікай. Таму вернікі сталіцы з радасцю сустрэлі вестку аб рэгістрацыі ў чэрвені 1946 г. абшчыны і перадачы ёй часткі будынка сінагогі. Абавязкі равіна выконваў Я.Бергер. У горадзе прайшоў збор сродкаў на рамонт і абсталяванне памяшкання, правядзенне розных рэлігійных мерапрыемстваў.

У жніўні 1946 г. па ініцыятыве веруючых яўрэяў быў устаноўлены помнік на магіле расстраляных фашысцкімі захопнікамі ў сакавіку 1942 г. жыхароў Мінска. Ініцыятыўная група паставіла перад уладамі пытанне аб правядзенні

паніхіды пры яго адкрыцці. Улады не далі дазвол, спасылаючыся на тое, што сярод расстраляных былі атэісты, а таксама прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. Але, нягледзячы на забарону, адкрыццё помніка суправаджалася правядзеннем паніхіды [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 2, арк. 4].

Дзякуючы намаганням вернікаў адбылася рэгістрацыя іудзейскай абшчыны ў Калінкавічах. У наступным годзе на іх сродкі была пабудавана сінагога. Калі на дзень рэгістрацыі абшчына налічвала 56 чал., то на 1 студзеня 1954 г. іх колькасць дасягнула 160. Аднак, па даных кампетэнтных органаў, гэтая лічба не адпавядала сапраўднасці. Веруючых у горадзе налічвалася значна больш.

Іудзеі Бабруйска ў красавіку 1946 г. таксама атрымалі дазвол на аднаўленне пад сінагогу разбуранага дома. Мабілізаваўшы сродкі і рабочую сілу, абшчына да канца мая амаль завяршыла аднаўленне памяшкання, уклаўшы ў будаўнічыя работы каля 100 тыс. руб. Аднак у чэрвені гарвыканкам адмяніў сваю ранейшую пастанову і перадаў амаль адрамантаванае памяшканне пад саўпартшколу. Члены абшчыны не жадалі здавацца. Яны перанеслі туды культавыя рэліквіі і пачалі набажэнствы, але памяшканне ўсё роўна перадалі пад майстэрні таварыства інвалідаў вайны [2. Ф. 4, воп. 29, спр. 146, арк. 107]. У рэшце рэшт у жніўні 1948 г. вернікі-яўрэі Бабруйска атрымалі дазвол на адкрыццё сінагогі, якая праз некалькі месяцаў была зачынена. Настойліва дабіваліся рэгістрацыі абшчыны Гомеля, Рэчыцы, Жлобіна, Рагачова, Магілёва, Лепеля, Оршы, Радашковіч, Барысава, іншых гарадоў, але па тых ці іншых прычынах атрымлівалі адказ.

У выніку таго, што ўлады не ішлі на рэгістрацыю абшчын і адкрыццё сінагог для правядзення малітоўных сходаў, вернікі збіраліся ў прыватных дамах і кватэрах, дзе арганізоўвалі так званыя міньяны. Мясцовыя ўлады, як правіла, не дазвалялі вернікам здаваць у арэнду свае кватэры, таму яны збіраліся падпольна. Па даных упаўнаважанага па справах культаў пры Савеце Міністраў СССР па БССР, у 1952 г. у Гомелі дзейнічалі 7 “міньянаў-сінагог”, у Бабруйску — 9, у Пінску — 4, у Мазыры — 3, у Рэчыцы і ў Жлобіне — па 2 [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 348, арк. 102, 103]. Колькасць наведвальнікаў асобных міньянаў даходзіла да 70 — 80 чал. Іх дзейнасць характарызавалася вялікай мабільнасцю: не паспявалі ўлады закрыць іх у адным месцы, як яны адчыняліся ў другім. Таму цяжка было ўстанавіць колькасць вернікаў сярод яўрэйскага насельніцтва.

Палітыка “выкрывання” бязродных касмапалітаў, затым урачоў-шкоднікаў адбівалася на адносінах да іудзейскай канфесіі на працягу ўсяго пасляваеннага дзесяцігоддзя. Усяляк улады стрымлівалі рэгістрацыю новых абшчын, не гаворачы аб пабудове сінагог. Таму на 1 студзеня 1955 г. у Беларусі так і засталіся дзейнічаць дзве іудзейскія абшчыны.

У першыя пасляваенныя месяцы ў населеных пунктах, дзе пражывалі беларускія татары, было выяўлена 13 мусульманскіх абшчын, чатыры з якіх у далейшым прайшлі рэгістрацыю. Але мясцовыя ўлады накіроўвалі намаганні на тое, каб згарнуць дзейнасць гэтай невялічкай канфесіі.

Пасля выезду ў Польшчу мулы Л.Мухлі ў 1946 г. была закрыта мячэць у в.Некрашунцы Радуньскага раёна. Так спынілася дзейнасць адной са старэйшых мусульманскіх абшчын, у якую акрамя жыхароў беларускіх вёсак Сандыкаўшчызна, Пескі, Васілішкі, Некрашунцы ўваходзілі некалькі населеных пунктаў Літоўскай ССР. Гэта быў адчувальны ўдар па абшчыне, у якой кожная сям'я чытала Каран, прытрымлівалася “ўразу”, святкавала чатыры Байрамы ў год, па пятніцах не працавала [8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 24, арк. 50].

Спасылаючыся на тое, што яшчэ ў 1945 г. многія члены мусульманскай абшчыны Навагрудка выехалі на пастаяннае жыхарства ў Польшчу, раённыя ўлады сталі выказваць думку аб непатрэбнасці мячэці, ліквідацыі абшчыны. З прапановай аб гэтым яны звярнуліся ў вышэйшыя інстанцыі. У выніку рашэннем Баранавіцкага аблвыканкама ад 25 сакавіка 1948 г. абшчына была закрыта. Мячэць вырашылі пераабсталяваць пад Дом піянераў [8. Ф. 1385, воп. 1, спр. 39, арк. 1]. Так гвалтоўна была спынена дзейнасць яшчэ адной мусульманскай абшчыны.

Амаль 50 гадоў цэнтрам культурнага і рэлігійнага жыцця беларускіх татар у Мінску з'яўлялася мячэць, пабудаваная на ахвяраванні вернікаў. Але партыйна-дзяржаўныя структуры горада не маглі мірыцца з тым, каб татарская нацыянальная меншасць мела свой канфесійны прытулак. 28 ліпеня 1949 г. Мінгарвыканкам прыняў рашэнне аб ліквідацыі мусульманскай абшчыны і перадачы будынка мячэці пад вучэбны цэнтр. Савет па справах рэлігійных культаў 30 жніўня 1949 г. зацвердзіў гэту пастанову гарадскіх улад і 13 — 14 верасня па акту мячэць была перададзена Рэспубліканскаму добраахвотнаму таварыству садзейнічання флоту (ДТС ФЛОТ). У адказ на гэту

акцыю 163 вернікі горада звярнуліся да Сталіна з просьбай вярнуць ім святыню. З Масквы ліст пераслалі ў Савет Міністраў БССР. Тагачасны старшыня ўрада А.Кляшчоў даў распараджэнне аб'явіць заявіцелям аб адмове ў вяртанні мячэці. Так у восеньскія дні 1949 г. было зруйнавана рэлігійнае жыццё татар сталіцы.

Але ў гэты час у невялічкай в.Даўбуцішкі Смаргонскага раёна працягвала дзейнічаць мусульманская абшчына, на чале якой стаяў мула А.Рафаловіч. Атрымалася так, што ўлады далі яму дазвол праводзіць толькі разавыя службы. Райфінаддзел палічыў, што Рафаловіч прайшоў рэгістрацыю, і абклаў падаткам як "законнага" служыцеля культу. У сваю чаргу на падставе гэтага мула лічыў абшчыну зарэгістраванай. Такім чынам, у 98-мі татарскіх сем'ях Даўбуцішкаў і вёсак навакольных раёнаў стала магчыма наведваць мячэць [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 348, арк. 205, 206]. У пачатку 50-х гг. мячэць закрылі. Палітыка згортвання дзейнасці мусульманскай канфесіі прывяла да таго, што ў 1955 г. у БССР засталіся функцыяніраваць толькі дзве зарэгістраваныя абшчыны ў в.Мураўшчызна Іўеўскага і Асмолава Нясвіжскага раёнаў.

Такім чынам, пасляваеннае дзесяцігоддзе не ўнесла прынцыповых змен у адносіны дзяржавы да канфесій. Калі адчувалася некаторая лібералізацыя да праваслаўнай царквы, то вельмі жорсткімі, непрымірымымі заставаліся адносіны да іншых канфесій, у першую чаргу да каталікоў і іудзеяў. У цэлым партыйна-дзяржаўная палітыка скіроўвалася на далейшае скарачэнне рэлігійных арганізацый, храмаў, уціск вернікаў. Звыклыя за гады савецкай улады з ганеннямі, яны не маглі прадбачыць, што ў бліжэйшы час іх чакаюць новыя выпрабаванні.

## 6.2. НОВАЯ ХВАЛЯ ЎЦІСКУ КАНФЕСІЙ У ГАДЫ ПАЛІТЫЧНАЙ "АДЛІГІ"

Сярэдзіна 50-х гг. азнаменавалася паступовым разгортваннем чарговага наступлення на рэлігію, яе інстытуты. Калі ў 20 — 30-я гг. царква разглядалася як "класавы вораг" і барацьба з ёй з'яўлялася складанай часткай барацьбы за сацыялізм, то ў 50-я гг. на змену прыйшло бачанне рэлігіі як рэакцыйнай, "ідэалагічна чужой" сацыялізму з'явы. Рэлігія разглядалася ў якасці галоўнага ворага навуковага светапогляду, а вернікі залічваліся ў разрад свядомых ці несвядо-

мых носьбітаў чужых поглядаў і нораваў. Такія адносіны абумоўліваліся новай палітычнай сітуацыяй у дзяржаве. Яна заключалася ў абвяшчэнні курсу на камуністычнае будаўніцтва, дзе не было месца для рэлігіі. Зноў дамінуючай станавілася ідэя пабудовы безрэлігійнага грамадства. Галоўным рычагом фарміравання навукова-матэрыялістычнага светапогляду працоўных прызнавалася атэістычнае выхаванне. Таму раслі яго месца і роля ў сістэме ідэйна-выхаваўчай работы КПСС.

Змяншалася роля дзяржавы ў ажыццяўленні самастойнай рэлігійнай палітыкі. Яна вызначалася пастановамі ЦК КПСС, якія часта насілі закрыты характар. Прававы падыход да праблем свабоды веравызнання падмяняўся ідэалагічным. Роля выканаўцаў партыйных рашэнняў належала Савету па справах РПЦ і Савету па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР, іх упаўнаважаным у рэспубліках і абласцях. Гэтыя структуры ў асноўным клапаціліся аб выкананні партыйных установак і даручэнняў, а не аб захаванні інтарэсаў вернікаў, рэлігійных абшчын. Узмацнялася атэістычная работа, якая суправаджалася разгортваннем пагоні за колькаснымі паказчыкамі.

Пачатак такой палітыкі паклаў XX з'езд КПСС, які адбыўся ў лютым 1956 г. У справаздачным дакладзе ЦК КПСС з'езду ставілася задача "весці рашучую барацьбу супраць рэцыдываў буржуазнай ідэалогіі, узмацніць наступленне на перажыткі капіталізму ў свядомасці людзей, выкрыццё іх носьбітаў" [13. С. 116]. Гэтымі "перажыткамі", на думку М.С.Хрушчова і яго атачэння, з'яўлялася рэлігійнасць насельніцтва. Таму ў краіне ўзмацнілася атэістычная прапаганда, работа па згортванні рэлігійных абшчын усіх канфесій, і ў першую чаргу РПЦ. І гэта адбывалася ў той час, калі ў грамадстве назіраліся пэўныя зрухі да дэмакратызацыі жыцця, набіраў моц працэс развянчання культу асобы Сталіна. Праваслаўныя абшчыны, вернікі іншых канфесій з большай упартасцю, чым раней, ставілі пытанні аб паляпшэнні ўмоў сваёй дзейнасці, з большай непрымірымасцю рэагавалі на факты парушэнняў правоў чалавека ў галіне свабоды веравызнання. Але новыя палітычныя павевы не прыносілі змен у паўсядзённае жыццё прыходаў РПЦ. Яно жорстка кантралявалася мясцовымі партыйна-дзяржаўнымі структурамі.

Кіраўніцтва некаторых раёнаў ініцыіравала правядзенне кампаніі па зняцці крыжоў, якія былі ўстаноўлены на

ўскраінах вёсак, перакрыжаваннях дарог, у саміх населеных пунктах. 9 жніўня 1957 г., напрыклад, настаяцель Хойніцкага прыхода ў рапарце на імя мітрапаліта Мінскага і Беларускага Піцірыма паведамляў, што ў раёне "старшыні сельскіх Саветаў асабіста знеслі ўсе крыжы, якія стаялі ў вёсках". Гэтыя дзеянні, на думку святара, з'яўляліся знявагай пачуццяў веруючых грамадзян і ўціскам царквы дзяржавай. Высветлілася, што такі загад мясцовыя органы савецкай улады атрымалі ад Хойніцкага райкама КПБ. "Распраўляліся" з крыжамі і ў іншых раёнах. Каб не дапусціць падобнага ў далейшым і прыняць меры да віноўнікаў, 7 верасня 1957 г. упаўнаважаны Савета па справах РПЦ пры Савеце Міністраў СССР па БССР Г.Сямёнаў праінфармаваў галоўнага ідэолага ЦК КПБ Ц.Гарбунова. Аб адносінах да пачуццяў вернікаў сакратара па прапагандзе сведчыла яго кароткая рэзалюцыя на прысланым лісце: "У справу" [2. Ф. 4, воп. 47, спр. 437, арк. 227]. На партыйнай мове гэта азначала зняць дакумент з кантролю і адправіць у архіў.

Ідэалагічныя службы ЦК КПБ не маглі не ўлічваць, што цэнтральнай задачай партыі станавілася камуністычнае выхаванне, барацьба за "пераадольванне перажыткаў у свядомасці мас". Таму на месцах набірала моц тэндэнцыя ігнаравання просьбаў вернікаў, уціску рэлігійных абшчын. Адначасова ўзмацнялася атэістычная прапаганда сярод розных катэгорый насельніцтва. З 1957/58 навучальнага года на гістарычных факультэтах ВНУ рэспублікі пачаў выкладацца курс атэізму. У канцы 1957 — пачатку 1958 г. былі арганізаваны двухтыднёвыя курсы лектараў-атэістаў пры ўсіх абкамах і шасцімесячныя курсы па падрыхтоўцы лектараў-атэістаў пры дваццаці райкамах КПБ. На іх прайшлі навучанне больш за 800 чал. З мэтай аказання дапамогі лектарам-атэістам абкамы партыі сумесна з абласнымі аддзяленнямі таварыства "Веды" 3 — 4 разы ў год праводзілі семінары. У 1957 — 1958 гг. праўленне рэспубліканскага таварыства ў дапамогу лектарам выдала 76 брашур і лекцый на атэістычныя тэмы.

Абласныя аддзяленні таварыства "Веды" знайшлі новую форму атэістычнай прапаганды — перасоўныя кіналекторыі. З гэтай мэтай Савет Міністраў БССР выдзеліў 7 аўтамашын. У гарадах, раённых цэнтрах ствараліся кабінеты атэізму як метадычныя цэнтры арганізацыі навукова-атэістычнай прапаганды. Усе гэтыя меры садзейнічалі павелічэнню колькасці лекцый. Калі ў 1957 г. іх было арганізавана 28 тыс., то за



10 Зак. 899

10 месяцаў 1958 г. — больш за 30 [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 479, арк. 195].

Далейшаму нагнятанню антырэлігійных настрояў, наступленню на царкву садзейнічала сакрэтная пастанова ЦК КПСС "Аб дакладнай запісцы Аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС па саюзных рэспубліках "Аб недахопах навукова-атэістычнай прапаганды", прынятая 4 кастрычніка 1958 г. Яна канстатавала памылковасць папярэдняй палітыкі ў адносінах да рэлігіі, якая прывяла да ўзмацнення "рэакцыйнай" ідэалогіі. Адказнасць ускладвалася на Саветы па справах РПЦ і рэлігійных культаў пры СМ СССР, іх упаўнаважаных на месцах, якія "дрэнна ажыццяўляюць свае функцыі, часам ідуць на паваду ў духавенства, падтрымліваюць іх неабгрунтаваныя патрабаванні, своечасова не інфарміруюць партыйныя . савецкія органы аб дзейнасці служыцеляў царквы, рэлігійных сектаў і абшчын" [14. С. 118]. Па сутнасці, гэта быў заклік да канфрантацыі дзяржавы з рэлігійнымі аб'яднаннямі, пазбаўлення іх элементарных, агульнапрынятых умоў дзейнасці.

Пытанні ўзмацнення атэістычнага выхавання ўсё больш перамяшчаліся ў цэнтр дзейнасці ідэалагічных службаў КПБ. Аб гэтым сведчыў той факт, што на працягу аднаго тыдня адбыўся шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных узмацненню атэістычнай работы. Пленум ЦК КПБ, абмеркаваўшы пытанне "Аб стане і мерах паляпшэння культурна-асветнай работы ў рэспубліцы" (28 кастрычніка 1958 г.), абавязаў установы культуры ўзмацніць прапаганду навукова-атэістычных ведаў. Гэтай праблеме была прысвечана нарада сакратароў абкамаў і загадчыкаў прапаганды і агітацыі, якая адбылася 30 кастрычніка. Вянчала ідэалагічныя мерапрыемствы спецыяльная, вельмі прадстаўнічая нарада, праведзеная 4 лістапада 1958 г., з удзелам кіраўнікоў шэрага міністэрстваў, ЦК ЛКСМБ, Белсаўпрафа, рэспубліканскіх газет і часопісаў. Кожнай ідэалагічнай установе і службе былі акрэслены задачы па карэнным паляпшэнні атэістычнай работы.

Ідэалагічны ўціск на рэлігійныя абшчыны і вернікаў суправаджаўся ажыццяўленнем шэрага адміністратыўных мер, накіраваных на абмежаванне правоў рэлігійных арганізацый, падарванне іх матэрыяльнай базы. Адной з крыніц даходу царквы з'яўляўся прыбытак ад продажу свечак. У сярэдзіне 50-х гг. продаж кілаграма гэтай прадукцыі прыносіў прыбытак больш за 500 руб. У 1955 г. епархіяльнае ўпраўленне ад продажу 22 649 кілаграмаў

свечак атрымала больш за 11 млн руб. прыбытку [2. Ф. 4, воп. 47, спр. 437, арк. 240]. Гэта давала магчымасць накіроўваць значныя фінансы на рамонтна-будаўнічыя работы. Толькі за 1954 — 1958 гг. на гэтыя мэты было зрасходавана каля 10 млн руб. [2. Ф. 4, воп. 81, спр. 1464, арк. 100].

Каб падарваць фінансавыя магчымасці царквы, 16 кастрычніка 1958 г. Савет Міністраў СССР прыняў пастанову "Аб свечным падатку". Яна забараняла майстэрням па вытворчасці свечак адпускаць прадукцыю за вышэй чым 200 руб. за кілаграм. Адначасова з "гуманнай" мэтай — "каб не выклікаць незадавальнення ў вернікаў" — не дазвалялася павялічваць цэны на свечы ў храмах. Такія адміністрацыйныя крокі вымушалі цэрквы набываць свечы сабе ва ўбытак, што наносіла ўдар па іх матэрыяльным становішчы. У многіх храмах для пакрыцця расходаў пачалі распускаць платныя хоры, зніжаць даходы свяшчэннаслужыцеляў і псаломшчыкаў. У выніку скарачэння попыту на свечы пацярпелі і майстэрні, некаторыя з якіх вымушаны былі закрыцца.

Павялічвалася падаткаабкладанне духавенства, памеры якога і дагэтуль былі вельмі вялікімі. Да свяшчэннаслужыцеляў прымяняўся артыкул 19 Палажэння аб падатку ад 30 красавіка 1943 г., па якім яны абкладваліся як прыватныя прадпрымальнікі. Гэта азначала, што мінімальны падатак складаў 81 % пры даходзе звыш 7000 руб. у год. Тая ж сума, але атрымліваемая савецкім служачым, абкладвалася падаткам у памеры 13 % [15. С. 306]. Да таго ж фінансавыя органы сістэматычна пераглядалі ў бок павелічэння памеры грашовых падаткаў з прыбыткаў духавенства. У 1959 г. гэта было зроблена двойчы, у 1960 г. — тройчы, у 1961 г. — чатыры разы.

Найвялікшай праблемай для рэлігійных аб'яднанняў з'яўлялася пабудова альбо расшырэнне памяшканняў, набыццё транспартных сродкаў. Але і ва ўмовах жорсткага кантролю зрэдку ўдавалася зрабіць гэта. Таму ў 1961 г. Савет па справах РПЦ даў даручэнне сваім паўнаважаным праводзіць работу па выяўленні і забіранні жылых і іншых пабудоў, а таксама транспартных сродкаў, набытых рэлігійнымі арганізацыямі без адпаведнага дазволу мясцовых органаў улады.

Нягледзячы на атэістычны наступ, на пачатку 1956 г. у БССР дзейнічалі тры манастыры: Жыровіцкі мужчынскі, Гродзенскі і Полацкі жаночыя, у якіх налічвалася 133

манашкі. Дзякуючы зямельным надзелам яны маглі падтрымліваць сваё фінансавае і гаспадарчае становішча і нават прыносілі манастырам значныя прыбыткі. Напрыклад, з 157 476 руб., паступіўшых у касу Жыровіцкага манастыра ў 1955 г., 31 178 руб. склалі прыбыткі ад сельскагаспадарчай дзейнасці [2. Ф. 951, воп. 4, спр. 3, арк. 185]. Гэта не лічачы таго, што было назапашана бульбы, агародніны для харчавання на ўсю зіму. Такая карціна назіралася і па іншых манастырах.

Манастыры заставаліся месцамі зберажэння царкоўных традыцый, духоўнасці народа, садзейнічалі захаванню рэлігійнасці ў навакольных абшарах. Больш таго, было нямала жадаючых стаць членамі манастырскіх суполак, прысвяціць сябе малітве, працы і набожнасці. Многа паломнікаў збіралі святы ў Жыровіцкім і Полацкім манастырах, якія штогод адбываліся 20 мая і 5 чэрвеня. У гэтыя дні асабліва ўрачыста праходзілі шматлікія службы, вернікам прадастаўлялася магчымасць мець непасрэдныя кантакты з праваслаўнымі іерархамі, святчэннаслужыцелямі, манахамі.

У канцы 50-х гг. вырашана было нанесці ўдар па гэтых рэлігійных установах. Пастановай Савета Міністраў СССР "Аб манастырах у СССР", прынятай 16 кастрычніка 1959 г., адпаведным органам даручалася ў 6-месячны тэрмін вывучыць пытанне аб колькасці скасаваных манастыроў. Адначасова прымаліся захады па пагаршэнні матэрыяльнага становішча шляхам скарачэння зямельных участкаў.

Гэту пастанову з задавальненнем сустрэлі мясцовыя партыйныя і савецкія органы Беларусі, якія на працягу ўсяго пасляваеннага часу рабілі спробы закрыць манастыры. Палітычным структурам не давала спакою актыўная дзейнасць Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра ў Полацку, які праводзіў вялікую работу па захоўванні культуры, гісторыі, духоўнасці народа. Асаблівай папулярнасцю карысталася свята памяці святой Еўфрасінні, якое па традыцыі праводзілася 5 чэрвеня. На святочныя набажэнствы прыязджаў архіепіскап Піцірым, святары з іншых гарадоў. Вернікі знаёміліся з жыццём і асветніцкай дзейнасцю Еўфрасінні, гісторыяй Бацькаўшчыны. З кожным годам нарастала супрацьстаянне манастыра і мясцовых органаў. У друку з'яўляліся "выкрывальныя" артыкулы аб спекуляцыі егуменні царкоўнай маёмасцю. Манашкі абвінавачваліся ў адпраўцы на лячэнне хворых дзяцей у Загорск да крыніцы Сергія Раданежскага. Але закрыць самы вядомы не толькі ў БССР

манастыр улады не адважваліся. І вось як падарунак з'явілася такая доўгачаканая і патрэбная пастанова. У 1960 г. здзейснілася жад ·нне полацкіх улад. Афіцыйнай прычынай для забароны дзейнасці манастыра з'явілася яго антысанітарнае становішча. Ён быў зняты з рэгістрацыі і ў чарговы раз перастаў існаваць [4. С. 159]. Адначасова быў закрыты і Гродзенскі манастыр. Калі на 1 студзеня 1958 г. у СССР налічвалася 63 манастыры, то на 1 студзеня 1961 г. іх засталося 33.

У рэспубліцы працягваў існаванне толькі Жыровіцкі мужчынскі манастыр, прыцягальная сіла якога хвалявала партыйна-дзяржаўныя структуры. Напрыклад, на традыцыйнае свята Жыровіцкай іконы Божай Маці 20 мая 1960 г. ён сабраў каля 5000 чал. Тут былі паломнікі з Ляхавіцкага, Баранавіцкага, Пружанскага і Бярозаўскага раёнаў Брэсцкай, Слонімскага, Карэліцкага, Навагрудскага, Мастоўскага раёнаў Гродзенскай абласцей і інш. Па традыцыі многія дабіралися да Жыровіч пехатой. Былі на свяце нават вернікі з Кіева і Свярдлоўска [2. Ф. 4, воп. 47, спр. 476, арк. 165].

Магутнай хваляй атэістычнай прапаганды азнаменаваўся пачатак 60-х гг. Гэтаму садзейнічала разгорнутая пастанова ЦК КПСС "Аб задачах партыйнай прапаганды ў сучасных умовах", прынятая 9 студзеня 1960 г. У ёй адзначалася, што жыццё кожны дзень прыносіць новыя перамогі камуністычнай ідэалогіі, якая авалодала розумам соцень мільёнаў чалавек, і асуджалася такое становішча, калі не звярталася ўвага на "аднаўленне і штучнае ўкараненне пад маркай "нацыянальных традыцый" адсталых, рэакцыйных звычаяў і нораваў" [16. С. 495], а кіраўнікі некаторых партыйных арганізацый займалі "пасіўную, абарончую пазіцыю ў адносінах да варожай марксізму-ленінізму рэлігійнай ідэалогіі" [16. С. 497]. Каб пазбавіць рэлігійныя абшчыны магчымасці нармальна дзейнічаць, праз тры дні, 12 студзеня ЦК КПСС, прыняў сакрэтную пастанову "Аб мерах па ліквідацыі парушэнняў духавенствам савецкага заканадаўства аб культах". 3 лютага адпаведную пастанову прыняў ЦК КПБ [2. Ф. 4, воп. 81, спр. 1464, арк. 98 – 104]. У ёй адзначалася, што "парушэнні" заканадаўства аб культах з'яўляюцца вынікам таго, што ўпаўнаважаныя па справах РПЦ і па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў БССР і аблвыканкамах дрэнна ажыццяўлялі кантроль за выкананнем законаў і пастаноў урада аб рэлігійных культах. ЦК КПБ абязаў іх "строга кіравацца

інтарэсамі партыі і дзяржавы, стаяць на абароне гэтых інтарэсаў [2. Ф. 4, воп. 81, спр. 1464, арк. 101].

Такія ўстаноўкі "развязвалі" рукі мясцовым бязбожнікам, садзейнічалі павелічэнню парушэнняў з боку партыйных і савецкіх работнікаў элементарных нормаў рэлігійнага жыцця. У практыку ўпаўнаважаных па справах РПЦ усё больш укаранялася зняцце з рэгістрацыі таго ці іншага святара на некалькі месяцаў альбо бестэрмінова. Напрыклад, упаўнаважаны па Мінскай вобласці А.Лагвіненка адзначаў у справаздачы за 1960 г.: "Мною знята з рэгістрацыі ў парадку пакарання 6 свяшчэннікаў, у іх ліку: благачынны Клецкай благачыннай акругі Хрышчановіч Пятро і настаяцель царквы вёскі Зубкі Клецкага раёна Дзяшкоўскі Іван за недазволеную прапаведніцкую дзейнасць, настаяцель царквы в.Грыцэвічы Клецкага раёна Карповіч Якаў — за падбухторванне вернікаў да збору подпісаў і абскарджанне рашэнняў аб зняцці з ліку прыпісных цэркваў у вёсках Рагмачоўка і Зяельня..." [17. С. 13].

Пачалася кампанія масавага закрыцця цэркваў. Аб складаным лёсе храмаў сведчыць прыклад царквы сяла Глазаўка Уваравіцкага раёна. Закрытая ў гады "вялікага" атэістычнага паходу 20 — 30-х гг., яна выкарыстоўвалася як культурна-асветная ўстанова. У гады вайны будынак быў пераабсталяваны і зноў стаў служыць вернікам. 19 лістапада 1960 г. Савет па справах РПЦ пры Савеце Міністраў СССР зняў царкву з уліку дзеючых, а 3 студзеня 1961 г. яе закрылі мясцовыя ўлады. Будынак перадалі Глазаўскай сямігадовай школе пад вучэбную майстэрню. У адказ на хадайніцтвы вернікаў Гомельскі абкам КПБ палічыў правільным "зняцце з уліку малітоўнага дома ў с.Глазаўка на карысць школы". Але сяльчане вырашылі дабіцца справядлівасці ў ЦК КПСС. З Масквы ў ЦК КПБ прыйшло даручэнне разабрацца са скаргай. Мінск пацвердзіў правільнасць дзеянняў гомельскіх партыйных структур [2. Ф. 4, воп. 47, спр. 497, арк. 231]. Кола замкнулася.

Добра папрацавалі адпаведныя службы і ў іншых месцах рэспублікі. І, як вынік, па колькасці закрытых храмаў на аднаго жыхара БССР знаходзілася на першым месцы сярод саюзных рэспублік. За 1960 г. перасталі дзейнічаць 219 цэркваў, у тым ліку ў Мінскай вобласці — 88, у Брэсцкай — 56, у Гродзенскай — 53 [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 45, арк. 79]. У РСФСР за гэты час было ліквідавана толькі 258 храмаў. А ўсяго па краіне за 1960 г. агульная колькасць праваслаўных храмаў скарацілася на 1392 (з 12 963 да 11 571) [15. С. 283].

Кампанія па масавым закрыцці храмаў не прыносіла поўнага задавальнення кіруючым структурам краіны. Таму 16 сакавіка 1961 г. Савет Міністраў СССР прыняў пастанову "Аб узмацненні кантролю за выкананнем заканадаўства аб культах". 16 красавіка яе прадубліраваў і Савет Міністраў БССР [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 25, арк. 26 — 27]. Новым у рэлігійнай палітыцы з'яўлялася тое, што пастаноўка і зняцце з рэгістрацыі рэлігійных супалак, адкрыццё і закрыццё малітоўных дамоў усіх канфесій пераходзіла ў кампетэнцыю аблвыканкамаў і Мінскага гарадскога Савета, але ўзгаднялася з Саветам па справах РПЦ і Саветам па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР. Мясцовым органам дазвалялася прымаць рашэнні аб абмежаванні звону, калі гэта выклікалася неабходнасцю і падтрымлівалася насельніцтвам. Гэта хутка прывяло да таго, што, як і ў 30-я гг., на некалькі дзесяцігоддзяў змоўклі званы ў большасці храмаў рэспублікі.

Такая пастаноўка справы аблягчала дзейнасць мясцовых органаў улады супраць рэлігійных інстытутаў. Нельга не пагадзіцца з думкай некаторых даследчыкаў аб тым, што даныя змяненні мелі на мэце аслабіць узрастаўшае незадавальненне вернікаў дзеяннямі цэнтральных кіруючых органаў і перакласці віну за чынімыя ганенні на мясцовыя, якіх у любым выпадку можна было абвінаваціць у "перагібах" [17. С. 18]. У далейшым так і атрымалася.

У адзін дзень з пастановай Савета Міністраў СССР "Аб узмацненні кантролю за выкананнем заканадаўства аб культах" была прынята "Інструкцыя па прымяненні заканадаўства аб культах" [2. Ф. 4, воп. 47, спр. 476, арк. 287 — 300]. Усе дакументы, звязаныя з дзейнасцю канфесій, былі прыняты з улікам іх абмеркавання на Прэзідыуме ЦК КПСС. Падзаконны акт станавіўся абавязковым для выканання ўсімі органамі ўлады, аб чым сведчыла заява Старшыні па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР А.Пузіна на нарадзе ідэалагічных работнікаў рэспублік Сярэдняй Азіі. "Інструкцыя папярэдне разглядалася і была адобрана Прэзідыумам ЦК КПСС, — адзначаў ён. — Гэта пераўтварае інструкцыю ў дакумент, абавязковы для выканання ўсімі цэнтральнымі і мясцовымі савецкімі органамі, усімі партыйнымі, камсамольскімі, прафсаюзнымі і іншымі арганізацыямі, усімі кіруючымі асобамі і грамадзянамі СССР" [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 42, арк. 6].

Прадстаўнікі афіцыйных органаў сцвярджалі, што інструкцыя "аднаўляла ленінскія прынцыпы адносін да рэлігіі і царквы, устараняла сталінскую спадчыну". У

сапраўднасці яе мэтай з'яўлялася расшырэнне магчымасцяў барацьбы з рэлігійнай ідэалогіяй. Яна прадугледжвала яшчэ больш жорсткія меры рэгулявання адносін рэлігійных арганізацый на месцах, у тым ліку падбор і ўвядзенне ў царкоўныя саветы людзей, пры якіх магчыма было ажыццяўляць "сваю" палітыку. Інструкцыя парушала правы чалавека і таму насіла сакрэтны характар. Пасылаючы гэты дакумент сакратару Мінскага гаркама КПБ А.Насілоўскаму, упаўнаважаныя Савета па справах рэлігійных культаў пры Мінскім аблвыканкаме А.Панамароў і Савета па справах РПЦ А.Лагвіненка пісалі: "Інструкцыю просім захоўваць на правах сакрэтных дакументаў з тым, каб яе змест не стаў вядомы служыцелям рэлігійных культаў" [2. Ф. 69, воп. 1, спр. 1513, арк. 3].

Пасля прыняцця ўказаных актаў на працягу 1961 г. на Беларусі, як і ў цэлым па краіне, быў праведзены аднаразовы ўлік канфесіянальных аб'яднанняў, малітоўных будынкаў і маёмасці, якія знаходзіліся ў карыстанні рэлігійных арганізацый. Усё рабілася для таго, каб пад усялякімі зачэпкамі скарачаць колькасць абшчын РПЦ. Гэта была нялёгкая справа, калі мецъ на ўвазе разбуральны царкоўны "смерч", які пранёсся па Беларусі ў папярэднім годзе. Тым не менш кампанія зняцця з рэгістрацыі прыходаў працягвалася. Адносіны ўлад да царквы заставаліся вельмі жорсткімі. Дайшло да таго, што яны звярнуліся ў саюзныя органы з прапановай пераўтварыць БССР у першую "бязбожную" рэспубліку СССР. Гэта ініцыятыва атрымала падтрымку ўсёй атэістычнай вярхушкі дзяржавы [15. С. 363], і на сярэдзіну 1962 г. у рэспубліцы засталося дзейнічаць 525 храмаў. Прыклад глумлення над царквой па-ранейшаму паказвалі партыйна-дзяржаўныя органы Мінскай вобласці. Калі ў 1960 г. на яе тэрыторыі налічвалася 211 храмаў, то на сярэдзіну 1962 г. засталося 67, у Валожынскім раёне з 39 цэркваў дзейнічалі 7, у Маладзечанскім з 33 — толькі 5 [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 93, арк. 49].

У ходзе правядзення аднаразовага ўліку выяўляліся паўлегальныя абшчыны, дзейнасць якіх адразу забаранялася. Гэта быў вынік папярэдніх гадоў, калі ўлады не давалі магчымасці зарэгістраваць абшчыну і яна вымушана была працаваць ва ўмовах "падполля". Такая палітыка з'яўлялася нормай тых часоў. Яна дазваляла рапартаваць аб "поспехах" атэістычнай работы, скарачэнні колькасці вернікаў і рэлігійных арганізацый, утойваць сапраўднае становішча спраў.

Як і ў 30-я гг., пачала адраджацца практыка знішчэння закрытых храмаў з дапамогай дынаміту. Многія з іх стагоддзямі ўпрыгожвалі беларускую зямлю, з'яўляліся шэдэўрамі архітэктуры. 12 красавіка 1957 г. быў узарваны Мікалаеўскі сабор у Віцебску. Правядзенню гэтай акцыі вандалізму надавалася такая ўвага, што на наступны дзень старшыня Віцебскага гарвыканкама М.Сабельнікаў даў распараджэнне гаркамгасу прэміраваць работнікаў, якія вызначыліся пры выкананні падрыўных работ [18. С. 22]. У 1961 г. па асабістым даручэнні таго ж кіраўніка ў горадзе была ўзарвана Благавешчанская царква, адзін са старэйшых храмаў усёй Русі, пабудаваная, як сведчаць летапісныя крыніцы, самой княгіняй Вольгай у X ст. Наогул, у выніку праводзімай палітыкі з 33 праваслаўных храмаў, якія налічваліся ў Віцебску напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., у 1985 г. засталіся дзейнічаць толькі тры. Астатнія былі па-варварску знішчаны [19. С. 3].

Такі ж лёс напаткаў будынак Свята-Вазнясенскай царквы ў Лёзна, узведзены ў 1786 г. Яшчэ ў 30-я гг. з храма знялі званіцу і размясцілі ў ім Дом культуры, які дзейнічаў да 60-х гг. У час новага вандалізму мясцовыя ўлады вырашылі канчаткова знішчыць архітэктурны помнік. Спецыяльнае сапёрнае падраздзяленне два тыдні рыхтавалася да "аперацыі": узважвалі, рабілі падлікі, закладвалі дынаміт. Першы выбух царква вытрымала. Праз некаторы час яшчэ больш моцны выбух разбудзіў жыхароў пасёлка. Прыбыўшыя людзі ўбачылі на месцы храма развалiны, труны з астанкамі пахаваных людзей. Перапахаванняў не адбылося. Прадпрымальныя жыхары выкарыстоўвалі маналітныя пліты на свае патрэбы, усё астатняе накіроўвалася на звалку, руйнавалася з зямлёй. На месцы храма быў разбіты парк з танцавальнай пляцоўкай, рознымі атракцыёнамі. Моладзь весялілася і танцавала, не думаючы аб тым, што пад яе нагамі ляжалі астанкі святароў і руіны царквы. А яшчэ праз дзесяць гадоў на месцы парка пачалі будаваць кінатэатр. Моцныя экскаватары выварочвалі чалавечыя астанкі, крыжы, абломкі трун. Усё гэта як лішняе і непатрэбнае вывозілася на звалку [20].

Назіраліся рэдкія выпадкі, калі вернікі выступалі ў абарону святынь, над якімі навісала пагроза разбурэння. Напрыклад, у Шаркоўшчынскім раёне ўлады вырашылі разабраць царкву ў в.Юдзіцыне і выкарыстаць цэглу для будаўніцтва школы. З гэтай мэтай у адзін з ліпеньскіх дзён 1957 г. з раённага цэнтра ў вёску накіравалася некалькі аўтамашын з людзьмі. Як толькі прыезджыя прыступілі да

разборкі храма, вернікі забілі ў набат. Хутка з навакольных вёсак да святыні сабралося звыш 100 чал. Узброеныя палкамі, камянямі, віламі, косамі, яны запатрабавалі спынення разборкі царквы. Пад пагрозай нарастаўшага канфлікту кіраўніцтва раёна спыніла работы [21. С. 47].

Нягледзячы на зняцце з рэгістрацыі прыходаў, закрыццё храмаў, сярод насельніцтва захоўвалася вялікая прыхільнасць да абраднасці. Напрыклад, за першае паўгоддзе 1963 г. у Пінску з агульнай колькасці нованароджаных было ахрышчана 43 %, а па раёне гэты паказчык дасягаў 65 % [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 11, арк. 61]. Такое становішча было характэрна для многіх рэгіёнаў рэспублікі і краіны. На думку Савета па справах РПЦ пры СМ СССР, распаўсюджванню рэлігійных абрадаў садзейнічала сістэма прыбыткаў, якія атрымлівала духавенства ад выканання адпраў. Таму ў кастрычніку 1962 г. праваслаўнае духавенства было пераведзена на цвёрдыя аклады. Грошы за правядзенне адпраў пачалі паступаць не да святароў, а ў касу выканаўчых органаў цэркваў. Навізной з'яўлялася ўвядзенне квітанцыйных кніжак, з дапамогай якіх вёўся падлік адпраў. Служыцелям культу строга забаранялася прымаць дадатковыя матэрыяльныя ўзнагароджванні ад правядзення адпраў, у адваротным выпадку яны падлягалі строгім пакаранням аж да зняцця з рэгістрацыі.

18 ліпеня 1961 г. пад уціскам уладных структур Архірэйскі Сабор разглядзеў пытанне "Аб зменах у "Палажэнні аб кіраванні Рускай Праваслаўнай Царквой, якое тычылася IV раздзела"Аб прыходах". Было прынята рашэнне размежаваць абавязкі кліра і выканаўчых органаў. Настаяцелі храмаў адхіляліся ад удзелу ў гаспадарча-фінансавай дзейнасці абшчын, якая ўскладвалася на іх выканаўчыя органы. Святарам перадаваліся абавязкі духоўнага кіраўніцтва прыходам і богаслужэбнай дзейнасці. Памесны Сабор 1971 г. адобрыў гэта рашэнне [22. С. 15 – 17; 23. С. 126]. Прынятыя папраўкі прывялі да таго, што духавенства фактычна аказалася адхіленым ад кіраўніцтва прыходамі. Такое становішча праіснавала больш за 20 гадоў і было адменена толькі ў чэрвені 1988 г. з прыняццем новага статута аб кіраванні Рускай Праваслаўнай Царквой.

Намаганні ўлад накіроўваліся і на скарачэнне сеткі духоўных навучальных устаноў, якія да сярэдзіны 50-х гг. арганізацыйна ўзмацніліся, значна актывізавалі дзейнасць па падрыхтоўцы маладых кадраў духавенства. Гэта тычылася і Мінскай духоўнай семінарыі, якую ў 1956 г. узначаліў

архімандрыт Антоній (А.С.Мельнікаў, 1924 — 1986), будучы мітрапаліт Беларусі. З кожным годам павялічвалася колькасць жадаючых паступіць у семінарыю. У 1954/55 навучальным годзе яна налічвала 77 слухачоў, у 1955/56 — 130, у 1956/57 — 143. Сярод семінарыстаў расла колькасць выпускнікоў сярэдніх школ, многія з якіх з'яўляліся камсамольцамі, выдатнікамі вучобы [2. Ф. 4, воп. 47, спр. 437, арк. 231]. Каб аслабіць наплыў у духоўныя вучэбныя ўстановы ў 1959/60 навучальным годзе Савет па справах РПЦ распачаў шэраг мер па абмежаванні набора. Адмянялася практыка прыёму на працягу навучальнага года, не дапускаліся да вучобы асобы з вышэйшай і сярэдняй тэхнічнай адукацыяй, не прайшоўшыя абавязковую ваенную службу. Але галоўным з'яўлялася ўзмацненне "растлумачальнай" работы мясцовых органаў сярод асоб, якія падавалі заявы аб паступленні. У выніку ў 1959/60 навучальным годзе ў параўнанні з мінулымі семінарыя была ўкамплектавана на 30 %.

У барацьбу за "адрыў моладзі ад семінарыі" ўключаліся абласныя ўпаўнаважаныя Савета па справах РПЦ, партыйныя і камсамольскія работнікі, работнікі КДБ і ваенкаматаў. Аказваўся ўціск на прыходскіх святароў, якія давалі паступаючым рэкамендацыі. Гэта работа давала жадаемыя вынікі. Калі ў 1957 г. у навучальную ўстанову было пададзена 160 заяў, то ў 1958 г . — толькі 53, у 1959 г. — 25, у 1960 г. — 13, а ў 1961 г. набор на першы курс быў зусім сарваны. У рапарце Вучэбнага камітэта пры Св.Сінодзе, складзеным у чэрвені 1963 г., аб становішчы ў Мінскай семінарыі гаварылася: "Штучна створаная затрымка ў прыёме выхаванцаў у Мінскую духоўную семінарыю пакінула яе без апошніх... Вучэбны камітэт пачціва хадайнічае перад Вашым Свяцейшыствам аб узбуджэнні хадайніцтва перад Саветам па справах Рускай Праваслаўнай Царквы, каб пакінуць Мінскую Духоўную семінарыю на ранейшым становішчы і садзейнічаць у прапісцы паступаючым у семінарыю" [17. С. 21].

Гэтая просьба не ўпісвалася ў планы Савета па справах РПЦ. У чэрвені 1963 г. яго старшыня У.Кураедаў на ўсесаюзным семінары-нарадзе ўпаўнаважаных падкрэсліваў неабходнасць закрыцця Мінскай семінарыі шляхам недапушчэння жадаючых да вучобы. У гэтым жа годзе пасля выпуску апошніх пяці выхаванцаў семінарыя перастала функцыяніраваць, не будучы фармальна скасаванай. За гады існавання навучальную ўстанову закончылі 165 чал.

Гады хрушчоўскай "адлігі" характарызаваліся грубым умяшаннем у адміністрацыйна-ўпраўленчую дзейнасць царквы з боку Савета па справах РПЦ, яго ўпаўнаважаных на месцах. Назначэнні і перамяшчэнні ў вышэйшым царкоўным кіраўніцтве ажыццяўляліся Сінодам толькі пасля ўзгаднення з Саветам. Па такім жа сцэнарыі адбываліся назначэнні і на мясцовых узроўнях. Характэрным для дзяржаўнай палітыкі стала частае перамяшчэнне архірэяў з адной кафедры на другую. Гэта рабілася з мэтай парушэння жывой сувязі архіпастыраў са сваімі клірам і паствай. У 1959 г. быў пераведзены на кафедру ў Ленінград мітрапаліт Мінскі і Беларусі Піцірым. Яго пераемнікам становіцца Гурый, які ўзначальваў Днепрапятроўскую кафедру. У 1960 г. яго зноў пераводзяць на месца Піцірыма, які прызначаецца мітрапалітам Круціцкім і Каломенскім. З гэтага часу Беларускую кафедру ўзначальвалі некалькі архірэяў. Літаральна два месяцы, з 5 жніўня па 9 кастрычніка 1963 г., працаваў вядомы дзеяч праваслаўнай царквы Нікадзім (Б.Г.Ротаў, 1929 — 1978). З 1960 па 1972 г. ён з'яўляўся старшынёй Аддзела знешніх царкоўных зносін Маскоўскага патрыярхату і ўнёс значны ўклад у развіццё міратворчай дзейнасці РПЦ і яе кантактаў з цэрквамі замежных краін. Нікадзім садзейнічаў устанаўленню цесных кантактаў з Ватыканам. Атрымалася так, што 5 верасня 1978 г., у час наведвання Папы Паўла VI, ён памёр ад сардэчнага прыступу.

Хваля ўціску супраць канфесій, якую праводзілі ідэалагічныя аддзелы партыйных камітэтаў Беларусі, узмацнілася пасля чэрвеньскага (1963 г.) пленума ЦК, які разгледзеў пытанне "Чарговыя задачы ідэалагічнай работы партыі". Выступаючы з дакладам, сакратар ЦК КПСС Л.Ільічоў паставіў пытанне барацьбы з рэлігіяй, ад якой, па яго словах, не аслабаніліся яшчэ значныя пласты насельніцтва. Гэта была аб'ектыўная заява аб стане рэлігійнасці насельніцтва, што ўсяляк замоўчвалася афіцыйнай партыйнай прапагандай. Л.Ільічоў заклікаў "супрацьпаставіць рэлігіі баявую, наступальную навукова-атэістычную прапаганду" [24. С. 46].

У лістападзе 1963 г. адбылося пашыранае пасяджэнне ідэалагічнай камісіі пры ЦК КПСС, на якім былі разгледжаны мерапрыемствы па ўзмацненні атэістычнай работы. 2 студзеня 1964 г. іх зацвердзіў ЦК КПСС, прыдаўшы статус пастановы [25. С. 213]. Галоўным у мерапрыемствах з'яўлялася стварэнне ў Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС

(АГН) Інстытута навуковага атэізму. На яго ўскладваліся функцыі кіраўніцтва і кардынацыі ўсёй навуковай работы ў галіне атэізму. Прадугледжвалася ўвядзенне з 1964/65 навучальнага года ва універсітэтах, медыцынскіх, сельскагаспадарчых і педагагічных інстытутах выкладанне курса "Асновы навуковага атэізму" са здачай экзамена, у астатніх ВНУ ўводзіўся факультатыўны курс. На гістарычных і філасофскіх факультэтах універсітэтаў, гістарычных і гісторыка-філалагічных факультэтах педагагічных ВНУ для часткі студэнтаў уводзілася спецыялізацыя па атэізму, у шэрагу універсітэтаў і педагагічных інстытутаў прадугледжвалася стварэнне кафедраў навуковага атэізму. Як бачна, у духу праграмы КПСС ставілася задача татальнага ўкаранення ў грамадстве атэізму, што падаўляла рэлігійныя свабоды людзей, ставіла ў цяжкае становішча вернікаў.

Вялікая ўвага ў рэспубліцы надавалася пытанням падрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў. Пры пяці універсітэтах марксізму-ленінізму пачалі дзейнічаць факультэты навуковага атэізму. У 1964/65 навучальным годзе ў сістэме палітычнай асветы былі створаны спецыяльныя гурткі, дзе 14 тыс. слухачоў вывучалі асновы антырэлігійнай прапаганды. Значна пашырылася кола ідэалагічнага актыву, які ўдзельнічаў у прапагандзе атэізму. На пачатак 1965 г. у БССР антырэлігійную работу праводзілі каля 5,5 тыс. лектараў, 1379 прапагандыстаў, звыш 23 тыс. агітатараў. Як і раней, метадычнае забеспячэнне атэістычнай прапаганды ажыццяўляла рэспубліканскае таварыства "Веды" [2. Ф. 4, воп. 62, Спр. 648, арк. 254].

Палітыка наступлення на РПЦ мела сумныя вынікі. Толькі за 1960 — 1964 гг. у БССР спынілі дзейнасць 508 храмаў, што складала 53,6 % ад агульнай колькасці цэркваў, якія дзейнічалі на пачатак 1960 г. На 1 студзеня 1965 г. налічвалася 420 храмаў. Падаўляючая большасць з іх прыпадала на заходнія вобласці. У 38 раёнах знаходзілася 312 цэркваў, што складала 74,3 % ад агульнай колькасці. Ва ўсходніх раёнах налічвалася 108 цэркваў. З 38 заходніх раёнаў толькі ў адным — Воранаўскім — не было праваслаўных храмаў, у той час як з 61 усходняга такіх было 10 [26. С. 284; 2. Ф. 952, воп. 4, спр. 45, арк. 15].

Колькасць свяшчэннаслужыцеляў на 1 студзеня 1965 г. скарацілася з 742 да 431. У гэты перыяд сярод праваслаўнага духавенства налічвалася нямала маладых святароў. Гэта гаварыла аб тым, што і ва ўмовах ганення на царкву знаходзіліся людзі, мэтай жыцця якіх з'яўлялася душпастырская дзей-

насць. З 431 свяшчэннаслужыцеля 81 знаходзіўся ва ўзросце да 40 гадоў, 45 чал. мелі вышэйшую духоўную адукацыю, у тым ліку 34 з'яўляліся выпускнікамі багаслоўскага факультэта Варшаўскага універсітэта. Сярэднюю духоўную адукацыю мелі 109 чал., з іх закончылі польскія семінарыі 66, 277 чал. не атрымалі духоўнай адукацыі. З агульнай колькасці праваслаўных свяшчэннаслужыцеляў 351 з'яўляўся ўраджэнцам заходніх і 80 — усходніх абласцей [26. С. 43; 2. Ф. 4, воп. 47, спр. 437, арк. 230].

Разбуральная палітыка ўлад у гады хрушчоўскай "адлігі" амаль не кранула старавераў. Лічылася, што абшчыны выміраюць, таму патрэбна займацца іншымі канфесіямі. Аб адносна спакойным жыцці старавераў сведчыць той факт, што за перыяд 1955 — 1965 гг. колькасць зарэгістраваных і незарэгістраваных стараверчаскіх абшчын зменшылася з 29 да 27 [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 17, арк. 3]. Амаль усе яны належалі да беспапоўскага толку. 27 абшчын мелі культавыя будынкі, дзе карысталіся арэдаванымі ў прыватных асоб дамамі.

Супрацьлеглай з'яўлялася палітыка ў адносінах да рымска-каталіцкай царквы. Сярэдзіна 50-х гг. азнаменавалася новым віткам канфрантацыі паміж урадам і каталікамі, што звязвалася з ажыўленнем рэлігійнага жыцця ў парафіях. У многіх з іх пачалі праводзіць службы ксяндзы, якія вярнуліся па амністыі з лагераў, некаторыя дабіваліся права на аднаўленне душпастырскай дзейнасці.

Савецкія органы ўсё рабілі для таго, каб як мага менш зарэгістраваць ксяндзоў. Каб заручыцца падтрымкай ЦК КПСС, пераканацца ў правільнасці сваёй палітыкі, 22 снежня 1956 г. ЦК КПБ накіраваў сакрэтную запіску ў Маскву. Як і ў ранейшыя часы, у ёй адзначалася негатыўнае стаўленне да рымска-каталіцкай царквы. Падкрэслівалася, што многія рэабілітаваныя ксяндзы паводзяць сябе "асабліва вызываюча". Так, напрыклад, ксёндз Ю.Гарадзенскі, які пражываў у Кобрыне, у споведзях да вернікаў адкрыта заклікаў не чытаць камуністычную літаратуру, не ўступаць у партыю, вучыць дзяцей толькі польскай мове. Ксёндз М.Вандалоўскі, які пасяліўся ў в.Правыя Масты Мастоўскага раёна, заклікаў вернікаў "шкодзіць усюды і паўсюдна ўсімі спосабамі", устанаўліваць сувязі з пражываючымі ў ЗША сваякамі, а таксама з ксяндзамі Польшчы. У гэтай сувязі ЦК КПБ палічыў неабходным прасіць Маскву разгледзець пытанні аб мэтазгоднасці датэрміновага вызвалення асоб, асуджаных за антысавецкую дзейнасць, і аб забароне асобам, асуджаным за антысавецкую дзейнасць і адбыўшым наказанне, пражы-

ваць у прыгранічных абласцях рэспублікі [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 444, арк. 514].

Вядома, што каталіцкія святары пападалі ў гулагаўскія лагеры з самым страшэнным абвінавачваннем — антысавецкая дзейнасць. Улічваючы, што большасць касцёлаў знаходзілася ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, становіцца зразумелым, чаго выпрошвалі ў Масквы беларускія ўлады. Цэнтр не пайшоў на гэта, але працэс рэгістравання ксяндзоў заставаўся вельмі складаным. Больш лаяльных рэгістравалі, непажаданым адмаўлялі. На гэтай глебе ў некаторых месцах стваралася канфліктная сітуацыя. Таму ў лісце ў ЦК КПБ упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры СМ БССР К.Уласевіч прапаноўваў: “З практыкі працы вядома, што калі мы адмовім аднаму таварыству, то ксёндз пераедзе ў іншае месца. У такіх умовах патрэбна ізаляцыя альбо рэгістрацыя, таму што каталіцкі ксёндз не складзе з сябе сан і не пойдзе ў калгас” [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 392, арк. 340].

Для непажаданых асоб ізаляцыя брала верх. Усё пачыналася з прапіскі, якую ўлады прадастаўлялі найбольш лаяльным. Вось як апісвае свае мытарствы ксёндз С.Багаткевіч: “Тады, калі я звярнуўся ў сельсавет, каб прапісалі мяне ў Пеліканах, а было гэта ў ліпені 1956 г., пачалі нагрувашчвацца разнастайныя цяжкасці. Адно ведамства адсылае да другога, тое да іншага, і так утварылася зачараванае кола. Міліцыя не прапісвае, бо не маю таксама ўмоў для работы, а ведамства па рэлігійных справах не выдае працоўнай кніжкі, бо я не маю прапіскі... Маё становішча станавілася небяспечным. Без прапіскі, нелегальна жыву, а значыць, істотна парушаю дзяржаўны закон, а за гэта пагражае цяжкае пакаранне. Але і ў такіх умовах я дацягнуў аж да жніўня 1958 г.” [27. С. 21 — 22]. КДБ у другі раз арыштаваў ксяндза і паставіў яму ўмову: альбо вяртанне ў лагеры Сібіры, альбо выезд у Польшчу. Так Багаткевіч быў вымушаны пакінуць БССР.

“Прапіскай” для ксяндзоў В.Язевіча і А.Зомбека сталі месцы зняволення. На лаву падсудных яны папалі як рэцыдывісты. У 1959 г. іх дэпартавалі ў Польшчу. Лёс арыштанта напаткаў і Ю.Гарадзенскага. Пасля следства ў Брэсце як рэцыдывіст ён атрымаў прысуд — пяць гадоў лагераў. Год правёў у Явасе Мардоўскай АССР, а затым, дзякуючы намаганням родных, быў пераведзены ў польскую турму ў Ленчыцы, адкуль праз некалькі дзён і быў вызвалены [28. С. 36].

Шматгадовыя намаганні не прынеслі поспеху ў справе рэгістрацыі ксяндзу В.Варшу, які да арышту працаваў у в.Празарокі Докшыцкага раёна. У пачатку 1955 г. ксёндз зрабіў спробу зарэгістравацца ў Адэльскую парафію, але ўлады не далі дазвол на прапіску і ён быў вымушаны выехаць у Львоўскую вобласць, дзе яму пашчаслівілася ўладкавацца на службу. Але за "парушэнне савецкага заканадаўства" ўлады хутка здымаюць яго з рэгістрацыі. Варш зноў вяртаецца на Гродзеншчыну. На працягу 1958 г. Стара-Васілішкаўская абшчына вядзе барацьбу за яго рэгістрацыю, але дарэмна. У 1959 г. кампанію па рэгістрацыі разгарнулі абшчыны в.Ляцка, Забалаці, Ражанкі і інш. Але ўлады застаюцца няўмольныя — няма прапіскі. Беспрацоўны Варш накіроўваецца ў Друскенінкай Літоўскай ССР, але і там нічога не атрымліваецца. У студзені 1960 г. ён наведаў Мінск, дзе каталікі вялі актыўную работу па адкрыцці касцёла. Яго сустрэлі супрацоўнікі міліцыі і ўзялі падпіску аб неабходнасці ў 72 гадзіны пакінуць сталіцу [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 461,арк. 88]. Пасля такога "візіту" Варш зразумеў бесперспектыўнасць атрымання парафіі ў Беларусі.

Непажаданым для рэгістрацыі не дапамагала і прапіска, якую ўдавалася атрымаць. Прыкладам можа служыць лёс ксяндза М.Малыніча, які пасля вяртання з лагераў у 1954 г. купіў дом у Слуцку. Але ўлады так і не дазволілі яму рэгістрацыю. Таму ўсё жыццё ён займаўся місіянерскай дзейнасцю, часамі праводзіў набажэнствы ў адным з пакояў свaёй кватэры [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 392, арк. 430].

У той час, калі ўлады прыкладалі вялікія намаганні па змяншэнні колькасці зарэгістраваных ксяндзоў, у рэспубліцы заставалася нямала парафій, працаваўшых без служыцеля культу. У 1957 г. у БССР налічвалася больш за 40 такіх абшчын, з іх 31 знаходзілася ў Гродзенскай вобласці. Прычым былі такія буйныя, як Беняконьская Воранаўскага, Астрынская Васілішкаўскага раёнаў і інш. з ахопам адпаведна 4500 і 1800 вернікаў.

Павелічэнню колькасці парафій, працаваўшых без служыцеляў культу, садзейнічаў ад'езд ксяндзоў у ПНР, які пачаўся ў 1955 г. За 1957 — 1959 гг. толькі з Гродзенскай вобласці выехала 9 чал. Гэта былі людзі рознага лёсу. Вярнуўшыся са сталінскіх лагераў, прайшоўшы рэгістрацыю, плённа папрацавалі І.Мяноўскі ў Рагозніцы Мастоўскага, І.Чарнецкі ў Шылавічах Ваўкавыскага, С.Яноўскі ў Вавюрцы Лідскага, М.Шалкевіч у Тракелях Радуньскага раёнаў. Па-іншаму склаліся адносіны з уладамі ў А.Кунявы. 1 снежня 1956 г.

ксяндза зарэгістравалі ў Воранаўскай парафіі. Але хутка яму быў выказаны недавер. Больш года ксёндз заставаўся без работы. Усведамляючы сваю незапатрабаванасць, ён пакінуў Беларусь. І зусім драматычным склаўся ад'езд у І.Славінскага з Поразава. 5 снежня 1958 г. у Брэсце па дарозе ў ПНР ён памёр. Аддадзеныя парафіяне пахавалі нябожчыка на поразаўскай зямлі [8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 32, арк. 6]. Усяго ў 1955 — 1959 гг. з Беларусі выехала каля 30 ксяндзоў. Гэта была вялікая страта для касцёлаў на Беларусі.

Ад'езд быў выкарыстаны для закрыцця касцёлаў, зняцця з рэгістрацыі парафій. Толькі ў Гродзенскай вобласці ў 1959 г. улады знялі з рэгістрацыі шэсць парафій: у в.Вярэйкі і на станцыі Ваўкавыск-Цэнтральны Ваўкавыскага, в.Бердаўка Лідскага, Валдацішкі Радуньскага і Падароск Поразаўскага раёнаў, п.Альберцін Слонімскага раёнаў. З будынкамі касцёлаў абышліся па-варварску. У в.Бердаўка касцёл разабралі, а матэрыялы выкарысталі на будаўніцтва спартыўнай залы мясцовай сярэдняй школы. На чыгуначнай станцыі Ваўкавыск-Цэнтральны святыню пераабсталявалі пад жылы двухпавярховы дом. У Вярэйках і Падароску будынкі храмаў выкарыстоўваліся пад склады. У знакамітым Альберцінскім касцёле размясцілі майстэрні школы-інтэрната. Будынак, дзе маліліся вернікі і знаходзіліся культавыя прылады, абсталявалі пад вучэбны корпус Валдацішскай сямігадовай школы [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 17, арк. 90; 8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 32, арк 46].

Сярэдзіна 50-х гг. азнаменавалася актыўнымі дзеяннямі вернікаў-католікоў Мінска, якія дабіваліся адкрыцця Кальварыйскага касцёла. На працягу шэрага гадоў групу ўзначальвалі Э.Рэгіна, С.Юркевіч, І.Каспяровіч, С.Сычова і інш. Неаднаразовыя звароты ў розныя органы ўлады не давалі вынікаў. У 1957 г. вернікі зрабілі спробу масавага выхаду да Дома ўрада, але зноў безвынікова. 25 студзеня 1959 г. католікі горада праводзяць на Кальварыйскіх могілках сход, на якім абмяркоўваюць далейшыя шляхі дасягнення сваёй мэты. Мерапрыемства не засталося па-за ўвагай органаў КДБ. Намеснік начальніка ўпраўлення КДБ пры Савеце Міністраў БССР па Мінскай вобласці Стахоўскі ў сакрэтным лісце праінфармаваў сакратара Мінскага гаркама партыі А.Рудака аб гэтым сходзе. Ён прапанаваў выклікаць ініцыятараў у Мінгарвыканкам і растлумачыць, "што ў наш час у г.Мінску не можа быць адчынены касцёл і іх хадайніцтвы не патрэбны і не будуць задаволены" [2. Ф. 69, воп. 1, спр. 1344, арк. 1, 2]. Усё вельмі проста і зразумела для чэкіста, але не для веруючага



11 Зак. 899

чалавека. Так і атрымалася на справе. Яшчэ на працягу 20-ці гадоў вернікі-каталікі сталіцы вялі безвыніковую барацьбу. І толькі ў 1980 г. улады пайшлі на адкрыццё Кальварыйскага касцёла.

Ідэалагічныя аддзелы ЦК КПБ вялікую ўвагу надавалі правядзенню прапагандысцкай работы, накіраванай на выкрыццё "рэакцыйнай" ролі рымска-каталіцкай царквы. З гэтай мэтай у лютым 1960 г. ЦК КПБ прыняў рашэнне ў першай палове года выдаць спецыяльны выпуск часопіса "Блакнот агітатара" [2. Ф. 4, воп. 81, спр. 1464, арк. 104]. Праз два месяцы пад назвай "Каталіцызм без маскі" ён быў выдадзены тыражом 50 тыс. экземпляраў. У якіх толькі "грахах" не абвінавачвалі РКЦ. "На працягу ўсёй сваёй гісторыі каталіцкая царква была вернай апорай самай чорнай рэакцыі, выступала супраць усяго прагрэсіўнага, што падрывала сляпую веру людзей у Бога, — гаварылася ў прадмове зборніка. — Служыцелі каталіцкай царквы абаранялі прыгонніцтва, адстойваюць капіталізм, дапамагаюць пануючым класам прыгнятаць і эксплуатаваць працоўных, цягнуць чалавецтва назад, да адсталасці і дзікасці" [29. С. 10]. Такі палітызаваны, ваяўнічы матэрыял зборніка павінен быў служыць падмогай для агітатараў, лектараў, прапагандыстаў, якія праводзілі антырэлігійную работу.

Пад акампанемент агрэсіўнай прапаганды яшчэ больш ваяўніча паводзілі сябе мясцовыя ўлады, якія адміністрацыйнымі мерамі ўшчамлялі парафіян, ксяндзоў. Апошніх без усялякай прычыны здымалі з рэгістрацыі на некалькі месяцаў альбо бестэрмінова. Такая мера цягнула за сабой і зняцце з рэгістрацыі рэлігійнага аб'яднання. Гэта бачна на прыкладзе дзейнасці абшчыны і Фарнага касцёла ў Гродна. 17 сакавіка 1960 г. бестэрмінова быў зняты з рэгістрацыі пробашч касцёла К.Шаняўскі. Прычына заключалася ў тым, што ён, на думку ўлад, паведамляў выканаўчым органам рэлігійных абшчын вобласці адрасы беспрацоўных ксяндзоў, якія потым ставілі пытанне аб іх рэгістрацыі. Таму зняцце Шаняўскага з рэгістрацыі аргументавалі тым, што "яго дзейнасць выходзіла за рамкі служыцеля культу" [8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 34, арк. 56].

Праз некалькі месяцаў на доўгія гады была знята з рэгістрацыі і рэлігійная абшчына, ксёндз больш за год заставаўся без працы. Толькі ў сакавіку 1961 г. яго зарэгістравалі настаяцелем касцёла ён быў выдадзены ў в.Белагруда Лідскага раёна. Акрамя Гродна былі зняты з рэгістрацыі парафіі ў в.Уселюб Навагрудскага, Скрыбаўцы (Мураван-

ка) Жалудокскага, Дзярэчын Зэльвенскага, Раготна і г.п.Новаельня Дзятлаўскага, п.Першамайскі Радуньскага раёнаў. Пастановай Гродзенскага аблвыканкама ў 1959 — 1960 гг. у распараджэнне мясцовых органаў перададзены яшчэ пяць незарэгістраваных касцёлаў, лёсам якіх хутка распарадзіліся на месцах. Так, будынак касцёла ў в.Кіранаўцы Лідскага раёна быў разабраны і выкарыстаны для дабудовы другога паверха музычнай школы ў Лідзе, матэрыялы разбуранага касцёла ў в. Залейка Іўеўскага раёна пайшлі на будаўніцтва раённай бальніцы. Касцёл у Слоніме выкарыстоўваўся як склад гарпрамгандлю, а ў в.Беліца Лідскага раёна — як спартыўная зала мясцовай сярэдняй школы. Будынак касцёла ў в. Крэва Смаргонскага раёна перадалі райвыканкаму для выкарыстання па сваім жаданні.

Актыўную работу па закрыцці касцёлаў праводзілі партыйна-дзяржаўныя органы Віцебскай вобласці. Калі ў 1959 г. тут знялі з рэгістрацыі адну парафію, то ў 1960 — адразу шэсць. Яны знаходзіліся на тэрыторыі заходніх раёнаў. Усяго ў 1960 г. на Беларусі было знята з рэгістрацыі каля 20 парафій. Масавае закрыццё касцёлаў адбывалася ў сувязі з правядзеннем у 1961 г. аднаразавага ўліку рэлігійных аб'яднанняў, малітоўных будынкаў і маёмасці. На месцах была праведзена вялікая падрыхтоўчая і арганізацыйная работа. Мэтанакіраванасцю адзначалася яна ў Гродзенскай вобласці. 24 мая 1961 г. абкам КПБ правёў спецыяльную нараду з сакратарамі РК КПБ і ЛКСМБ, рэдактарамі раённых газет. 30 мая такая ж нарада была праведзена з намеснікамі старшынь райвыканкамаў. У кожным раёне прайшлі семінары атэістычнага актыву. Уся гэтая работа мела на мэце зрабіць так, каб як мага менш зарэгістраваць рэлігійных абшчын. Штучна змяншалася колькасць вернікаў, пад любымі зручнымі прычынамі адмаўляліся рэгістраваць ксяндзоў у "пустуючых" абшчынах. У 1961 г. 37 разоў звяртаўся ў розныя інстанцыі член касцёльнага камітэта Фарнага касцёла ў Гродна Красоўскі і 87 разоў вернікі аб рэгістрацыі ў іх парафію ксяндза. За гэты час далі згоду на службу ў абшчыне сем свяшчэннаслужыцеляў. Нягледзячы на такі шквал зваротаў і просьбаў, вернікам было адказана ў іх законным праве мець зарэгістраванага ксяндза.

Больш таго, на працягу 1961 г. у вобласці ўдалося зняць з рэгістрацыі яшчэ сем парафій, а па рашэнні аблвыканкама чатыры незарэгістраваныя будынкі былых касцёлаў і капліц

былі перададзены мясцовым органам улады для выкарыстання па сваім меркаванні.

Праведзеная работа па ўліку касцёльнай гаспадаркі вобласці паказала высокі прафесійны ўзровень служыцеляў культу. Аб гэтым сведчаць наступныя факты: з 61 зарэгістраванага ксяндза 16 пачалі працаваць да 1917 г., 43 — з 1918 па 1940 г., 2 — пасля 1941 г. Вопыт і высокакваліфікаваныя служыцелі культу значна ўплывалі на вернікаў вобласці. Асабліва высокай заставалася рэлігійная актыўнасць у Гродзенскім, Іўеўскім, Ашмянскім, Воранаўскім, Ваўкавыскім і іншых раёнах. Па даных аднаразавага ўліку, праведзенага ў 1961 г. у Ваўкавыскім раёне, з 61 965 чал., якія пражывалі тут, каля 6600 наведвалі касцёлы ў дні вялікіх свят. У Іўеўскім раёне гэтыя паказчыкі складалі адпаведна 62 366 і 10 500, у Ашмянскім — 52 274 і 10 100 чал. Усяго з 1 077 365 жыхароў Гродзенскай вобласці каля 104 100 чалавек, што складала 9,6 % ад агульнай колькасці, наведвалі касцёлы. Вядома, гэтыя паказчыкі былі заніжаныя. Тым не менш і яны сведчылі аб сіле ўплыву на насельніцтва каталіцкага культу.

Заклапочанае высокай рэлігійнай актыўнасцю жыхароў вобласці, 6 чэрвеня 1962 г. бюро Гродзенскага АК КПБ прыняло пастанову "Аб мерах па далейшым паляпшэнні навукова-атэістычнай прапаганды". Гэтай пастановай прадугледжвалася стварэнне пры абласным камітэце КПБ савета атэістаў, у склад якога павінны былі ўвайсці 28 чал. пад кіраўніцтвам загадчыка аддзела прапаганды абкама А.Гаеўскага. Такія ж саветы пачалі разгортвацца пры ўсіх гарадскіх і раённых партыйных камітэтах. Практыка стварэння новых атэістычных фарміраванняў распаўсюдзілася на ўсёй Беларусі. Яны праводзілі пасяджэнні, абагульнялі і распаўсюджвалі лепшы вопыт атэістычнай прапаганды, але колькасць вернікаў ад гэтага не змяншалася.

"Дзякуючы" намаганням мясцовых партыйных і савецкіх органаў у 1960 — 1964 гг. у Гродзенскай вобласці па той ці іншай прычыне пазбавіліся рэгістрацыі 26 каталіцкіх аб'яднанняў. Амаль усе культавыя будынкі былі ачышчаны ад царкоўнага ўбрання і перададзены на культурныя і гаспадарчыя патрэбы [8. Ф. 1385, воп. 1, спр. 79, арк. 2]. 17 абшчын перасталі функцыяніраваць у Віцебскай вобласці. На 1 студзеня 1965 г. у БССР са служыцелямі культу дзейнічалі 90 парафій, з іх у Гродзенскай вобласці — 58, у Брэсцкай і Мінскай — па 11, у Віцебскай — 10. Акрамя таго, 39 каталіцкіх аб'яднанняў працавалі без ксяндзоў.

Агульная колькасць служыцеляў культу складала 84 чалавекі, 53 з іх прыпадалі на Гродзенскую вобласць [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 38, арк. 84].

Вынікі наступстваў на каталіцкую царкву добра бачныя на прыкладзе Гродзеншчыны, рэгіёна з багатымі рэлігійнымі традыцыямі. Але і тут вернікі не змаглі прыпыніць разбурэння храмаў. Па даных на 1 студзеня 1965 г., за пасляваенны час у вобласці былі зняты з уліку, зачынены і прыпынілі дзейнасць 225 культавых будынкаў. З іх 54 былі разбураны, 62 пераабсталяваны для культурна-бытавых і гаспадарчых мэт, 35 выкарыстоўваліся як складскія памяшканні калгасаў і саўгасаў, 23 знаходзіліся ў аварыйным становішчы, 35 размяшчаліся на могілках і не прадстаўлялі небяспекі для ўлад [8. Ф. 1385, воп.1, спр. 78, арк. 33]. Як бачна, страты былі вялікія. У сувязі са скарачэннем колькасці храмаў пачалі праводзіцца па дзве службы ў дзень, што вельмі негатыўна ўспрымалася мясцовымі ўладамі.

Сярэдзіна 50 — 60-х гг. азнаменавалася жорсткай канфрантацыяй улад з пратэстанцкімі абшчынамі, якія выступалі за дэмакратызацыю рэлігійнага жыцця, супраць жорсткага кантролю дзяржаўных структур за іх дзейнасцю. З кожным годам з боку некаторых абшчын ЕХБ расло незадавальненне такой палітыкай. У пачатку 1960 г. на гэтай глебе адбыўся раскол. Непасрэднай падставай з'явіліся высланыя Усесаюзным саветам у мясцовыя абшчыны дакументы: "Інструктыўнае пісьмо старэйшым прасвітарам" і новае "Палажэнне аб абшчынах ЕХБ". У іх падкрэслівалася неабходнасць прывесці "дзейнасць нашу ў згоду здзеючым заканадаўствам нашай краіны" [9. С. 10]. Некаторыя абшчыны палічылі, што Савет "прадаўся" ўладам, не стаў на абарону вернікаў ад праследаванняў з боку мясцовых органаў. Летам 1960 г. з ліку незадаволеных кіруючым цэнтрам сфарміравалася група, якая выступіла з ініцыятывай склікання Усесаюзнага з'езда евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Абшчыны, якія падтрымлівалі яе, атрымалі назву "раскольнікі" альбо "ініцыятыўнікі".

У лютым 1962 г. ініцыятыўная група пераўтварылася ў аргкамітэт па скліканні з'езда. Ён наладзіў выданне нелегальнага рукапіснага часопіса "Вестник спасения" і іншых друкаваных выданняў, інфармацыйнага бюлетэня "Братский листок". Аргкамітэт выступіў за адмену закону "Аб рэлігійных аб'яднаннях" ад 8 сакавіка 1929 г., аб'явіў артыкул 124 Канстытуцыі СССР аб свабодзе сумлення "абманам народа" [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 36, арк. 42].

Многія абшчыны ЕХБ падтрымалі патрабаванні аргкамітэта, у сувязі з чым улады павялі з імі жорсткую барацьбу. 15 мая 1961 г. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыняў указ "Аб узмацненні барацьбы з асобамі, якія ўхіляюцца ад грамадска-карыснай працы і вядуць паразітычны лад жыцця", які прадугледжваў меры судовай адказнасці да гэтай катэгорыі грамадзян. У той жа дзень у прынятай пастанове Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР аб парадку прымянення першага артыкула ўказа адзначалася, што пад яго дзеянне "падлягалі асобы, якія ўхіляліся ад грамадска-карыснай працы і вялі антыграмадскі, паразітычны лад жыцця, у тым ліку і асобы, якія займаліся прастытуцыяй, скуплялі рэчы ў іншаземцаў з мэтай перапродажу, а таксама тыя, хто ўзначальваў нелегальныя рэлігійныя секты" [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 29, арк. 40]. Як нядзіўна, але па новым заканадаўстве лепшыя працаўнікі прыраўноўваліся да дармаедаў толькі за тое, што з'яўляліся вернікамі. Імі "станавіліся" не толькі кіраўнікі, але і радавыя члены абшчын і рэлігійных груп.

Адным з цэнтраў дзейнасці раскольнікаў стаў Брэст. Гэта быў выклік мясцовай абшчыны ЕХБ дзеянням гарадскіх улад, якія ў маі 1960 г. зруйнавалі малітоўны дом баптыстаў і на яго месцы пабудавалі 32-кватэрны жылы дом. У сувязі з тым, што ў трох кіламетрах ад горада ў в.Вулька-Падгародская знаходзілася другая абшчына, было прапанавана аб'яднацца з ёй. На гэтай выснове 5 лістапада 1960 г. Савет па справах рэлігійных культаў зняў брэсцкую абшчыну з рэгістрацыі. Ідучы на такі крок, улады парушылі тагачаснае заканадаўства аб культах. Яны не мелі права зносіць малітоўны дом да зняцця з рэгістрацыі рэлігійнай абшчыны. Брэсцкія вернікі падтрымалі аргкамітэт і актыўна сталі выступаць з патрабаваннем рэгістрацыі абшчыны [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 23, арк. 2].

Мясцовыя ўлады павялі жорсткую палітыку супраць брэсцкіх вернікаў, актыўна выступіўшых у абарону сваіх правоў. Пасля прафілактычных размоў, прапагандысцкіх акцый да вернікаў пачалі прымяняць адміністрацыйныя меры. Восенню 1962 г. на кватэрах кіраўнікоў абшчыны быў праведзены вобыск, але акрамя рэлігійнай літаратуры нічога знайсці не ўдалося. Тым не менш у наступным годзе была сфабрыкавана крымінальная справа супраць чатырох членаў абшчыны — Г.Шапятунькі, С.Мацвеюка, І.Катовіча і Я.Федарчука. Усе яны абвінавачваліся ў

правядзенні нелегальных малітоўных сходаў на прыватных кватэрах, распаўсюджванні лістоў аргкамітэта аб правядзенні з'езда. Усяго ў горадзе адбылося пяць судовых працэсаў [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 696, арк. 331, 332; Ф. 952, воп. 4. спр. 39, арк. 10].

Была сфабрыкавана справа і супраць кіраўнікоў раскольнікаў Мінскай вобласці. 4 лютага 1963 г. судовая калегія па крымінальных справах Мінскага абласнога суда пазбавіла волі на пяць гадоў В.Антоненку, на тры — Г.Макарэнку і на два — А.Піліпенку. 1 сакавіка 1963 г. Вярхоўны суд БССР пакінуў без змянення прыгавор, прызнаўшы асуджаных вінаватымі ў тым, што яны з'яўляліся актыўнымі прыхільнікамі аргкамітэта, стварылі ў Мінску ініцыятыўную групу па скліканні з'езда, праводзілі нелегальныя сходы ў яго падтрымку на прыватных кватэрах, дзе прысутнічала моладзь. Між іншым, гэта не з'яўлялася парушэннем заканадаўства, таму што дзейнасць такіх рэлігійных аб'яднанняў законам не забаранялася і ўдзел у ёй не даваў высноў для прымянення да іх артыкула 222 Крымінальнага кодэкса [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 11, арк. 70], які прадугледжваў адказнасць за арганізацыю, кіраўніцтва альбо актыўны ўдзел у дзейнасці групы, якая пад выглядам прапаведавання рэлігійных веравучэнняў і выканання рэлігійных абрадаў наносіць шкоду здароўю грамадзян, а таксама дапускае іншыя замахі на асобу ці права грамадзян, у тым ліку схіляе іх да адказу ад грамадскай дзейнасці ці выканання грамадзянскіх абавязкаў.

Прымаліся меры па арышце членаў арганізацыйнага камітэта, якія падтрымлівалі цесныя сувязі з мясцовымі абшчынамі. У лютым і красавіку 1962 г. Гомель, Віцебск, Магілёў, іншыя месцы Беларусі нелегальна наведаў член арганізацыйнага камітэта А. Пракоф'еў. 27 красавіка 1961 г. упаўнаважаны савета па справах рэлігійных культаў П.Лабус дакараў у лісце абласных упаўнаважаных: "Вам патрэбна павысіць пільнасць, забраць у абшчынах дакументы, прад'явіць патрабаванні да прасвітараў, каб апошнія Вас неадкладна інфармавалі ў сувязі са з'яўленнем невядомых асоб, якія будуць распаўсюджваць любыя дакументы сярод вернікаў" [8. Ф. 1385, воп. 1, спр. 53, арк. 17]. Меры па павышэнні пільнасці прымаліся і ў іншых месцах краіны. Уладам удалося арыштаваць А.Пракоф'ева. 28 жніўня 1962 г. у г. Жданаве Данецкай вобласці УССР адбыўся суд. Яго прыгаварылі да пяці гадоў пазбаўлення

волі з высылкай пасля заканчэння пакарання на такі ж тэрмін.

Нягледзячы на падпольныя ўмовы дзейнасці, жорсткі кантроль з боку органаў КДБ, восенню 1965 г. адбыўся з'езд раскольнікаў. Ён стварыў самастойную, асобна дзеючую ад кіруючага цэнтра "Раду цэркваў евангельскіх хрысціян-баптыстаў" (РЦ ЕХБ). Быў прыняты статут новай рэлігійнай арганізацыі. У тым жа годзе ў БССР пачалі дзейнічаць 18 абшчын прыхільнікаў РЦ ЕХБ, у якіх налічвалася 1148 чал. На Брэсцкую вобласць прыпадала 6 арганізацый з колькасцю 461 вернік, на Мінскую — адпаведна 7 і 350, на Гомельскую — 2 і 177, Магілёўскую — 2 і 130. На Гродзеншчыне была адна абшчына, куды ўваходзіла 30 чал. У Віцебскай вобласці такія арганізацыі адсутнічалі наогул. На 1 студзеня 1965 г. у БССР дзейнічалі 147 зарэгістраваных абшчын ЕХБ, якія налічвалі 11 904 вернікаў [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 17, арк. 3, 4].

Сярэдзіна 50-х гг. азнаменавалася актывізацыяй дзейнасці суполак евангельскіх хрысціян. Многія з іх выйшлі з падполля. Перад мясцовымі органамі ўлады яны ставілі пытанні аб рэгістрацыі, стварэнні самастойнага кіруючага цэнтра. З гэтай нагоды 31 мая 1957 г. Савет па справах рэлігійных культаў пры СМ СССР разаслаў упаўнаважаным спецыяльны ліст "Аб дзейнасці рэлігійных груп пяцідзесятнікаў" [8. Ф. 1385, воп. 1, спр. 53, арк. 20], у якім паставіў задачу праводзіць работу па вывучэнні стану іх дзейнасці, яе нейтралізацыі.

Але нейтралізаваць дзейнасць пяцідзесятнікаў не ўдавалася па прычыне таго, што яны пакідалі абшчыны ЕХБ. Гэта бачна на прыкладзе групоўкі хрысціян веры евангельскай у в. Рэчкі Пінскага раёна. У першы дзень Вялікадня, які выпаў на 18 красавіка 1960 г., старшыні сельскага Савета і мясцовага калгаса разам з сакратаром партыйнай арганізацыі прыйшлі ў малітоўны дом ЕХБ і разагналі прысутных. Каб і надалей пазбавіць вернікаў месца збору, ваяўнічыя атэісты разбурылі крышу і дымаход малітоўнага дома. Але і гэтага кіраўнікам паказалася мала. Яны пачалі хадзіць па хатах і "ачышчаць" іх ад рэлігійнай літаратуры, якая затым была спалена на плошчы. Пасля такіх "выхаваўчых" дзеянняў значная частка вернікаў перайшла ў групоўку пяцідзесятнікаў, якая таксама дзейнічала ў вёсцы. У 1961 г. абшчыну ЕХБ знялі з рэгістрацыі. Каб зламаць пяцідзесятнікаў, у 1962 г. былі асуджаны два яе кіраўнікі, але і пасля гэтага абшчына працягвала працаваць. У 1963 г. чарговы судовы працэс вырваў з яе

радоў новага кіраўніка М. Ката і актывістаў А.Мяліка, І.Казлоўскага, Ц.Ката. Ім інкрымінавалі тое, што "на сваіх зборышчах яны чыталі Біблію і Евангелля", у некаторых былі выяўлены "псалмы, у якіх маюцца заклікі ўступлення ў секту", падсудныя не прымалі ўдзелу ў культурна-масавым жыцці" [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 11, арк. 56]. Але, нягледзячы на парушэнне правоў чалавека на свабоду веравызнання, абшчына дзейнічала і пашырала рады сваіх прыхільнікаў. У 1963 г. яна налічвала 225 чалавек, у тым ліку 68 юнакоў і дзяўчат.

У 1961 г. толькі ў Брэсцкай вобласці налічвалася 37 груп евангельскіх хрысціян колькасцю 1330 чал. Каб спыніць іх рост, пачаліся судовыя працэсы над кіраўнікамі гэтых суполак. У 1962 г. па ўказу Вярхоўнага Савета БССР ад 15 мая 1961 г. быў асуджаны кіраўнік групы пяцідзесятнікаў з г.п.Лагішын Л.Лагвіненка. Яму інкрымінавалі дармаедства нягледзячы на тое, што падсудны працаваў у прамкамбінаце і сумленна адносіўся да працы [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 131]. 7 жніўня 1961 г. народны суд Пінскага раёна выселіў на спецыяльна адведзеныя месцы тэрмінам на пяць гадоў пуцявога рабочага станцыі Пінск І.Калесніка, у якога мелася сямёра дзяцей ва ўзросце ад 1 да 14 гадоў. Ён абвінавачваўся ў тым, што з'яўляўся кіраўніком секты пяцідзесятнікаў, не займаўся грамадска-карысннай працай, а на работу ўладкаваўся "для бачнасці". У 1962 г. судовыя працэсы прайшлі ў Столінскім, Бярозаўскім і іншых раёнах. У выніку адбылося часовае закрыццё некаторых абшчын і груп, як, напрыклад, у в.Вікаравічы Столінскага раёна. Пасля асуджэння кіраўніка абшчыны Р.Шылы вернікі спынілі правядзенне малітоўных сходаў. Але на наступны год дзейнасць абшчыны аднавілася. Тым не менш у Брэсцкай вобласці, нягледзячы на рэальную пагрозу быць асуджанымі, працягвалі дзейнасць 22 групы і абшчыны евангельскіх хрысціян [2. Ф. 952, воп. 2, спр. 11, арк. 20].

На пачатку 60-х гг. групоўкі пяцідзесятнікаў актывізавалі дзейнасць у Мінску. 31 снежня 1960 г. пад выглядам сустрэчы Новага года яны вырашылі правесці вялікі рэлігійны сход у доме слесара цэха задніх мастоў Мінскага трактарнага завода Я. Ката. Меркавалася наладзіць выступленне струннага аркестра, які стварылі вернікі, праслухоўванне магнітафонных запісаў з пропаведзямі, псалмамі, вершамі рэлігійнага характару, іншыя мерапрыемствы. Аб намечаным мерапрыемстве стала вядома ўпраўленню КДБ пры Савеце Міністраў БССР па Мінскай вобласці. Разам з

Мінскім гаркамам КПБ былі прыняты меры “па зрыве сектанцкага зборышча”, “разлажэнні секты пяцідзесятнікаў і кампраментацыі яе кіраўнікоў” [2. Ф. 69, воп. 1, спр. 1513, арк. 2]. Як паведамляў начальнік упраўлення КДБ па Мінскай вобласці Нордман першаму сакратару Мінскага гаркама партыі А.Насілоўскаму, “аперацыя” была праведзена наступным чынам. Увечары 31 снежня Я.Кот быў выкліканы ў райаддзел міліцыі, дзе з ім правялі “прафілактычную” гутарку. У гэты час дом наведалі дружыннікі, якія паведамілі жонцы аб выніках, якія могуць быць у сувязі з прадастаўленнем хаты для правядзення сустрэч.

Але скампраментаваць, а тым больш “разлажыць” абшчыну не ўдалося. Яна арганізацыйна ўзмацнялася, павялічвала свае рады ў асноўным за кошт моладзі. Гэтаму садзейнічаў створаны юнацкі гурток, які ўзначаліў Л.Ганчарэнка, рэгулярна праводзіліся спецыяльныя сходы. Іх удзельнікамі з'яўляліся юнакі і дзяўчаты не толькі Беларусі, але і іншых рэгіёнаў краіны. Напрыклад, 30 красавіка 1961 г. гасцямі маладых мінскіх пяцідзесятнікаў былі прадстаўнікі Жытоміра, Рыгі, Малдавіі. Гэтаму садзейнічала выбранне прасвітарам добрага арганізатара М. Кібалкі [2. Ф. 69, воп. 1, спр. 1513, арк. 22, 24].

На пачатак 1965 г. у БССР дзейнічалі 43 незарэгістраваныя групоўкі пяцідзесятнікаў, у якіх налічвалася 1938 чал. Палова з іх — 21 абшчына — функцыяніравала ў Брэсцкай вобласці, у Віцебскай і Мінскай — па 7, у Магілёўскай — 6, у Гомельскай — 2. У Гродзенскай вобласці групоўкі евангельскіх хрысціян адсутнічалі [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 40, арк. 4].

Гэтыя гады выдаліся неспакойнымі і для абшчын адвентыстаў сёмага дня, нягледзячы на тое, што іх колькасны склад не змяніўся. На 1 студзеня 1965 г. у БССР дзейнічалі 5 абшчын, 4 — у Брэсцкай і 1 — у Гродзенскай вобласці, у якіх налічвалася 355 вернікаў. Незарэгістраваныя абшчыны меліся ў Віцебску і Мінску. Пачатак дзейнасці групоўкі АСД у сталіцы быў звязаны і пераездам сюды ў 1964 г. з Латвіі на сталае жыхарства актыўнага адвентыста А.Бараноўскага. Ён аб'яднаў асобных вернікаў і стварыў рэлігійную абшчыну ў складзе 23 чал. Далейшы рост быў звязаны з прыбыццём з г.Аксакава Растоўскай вобласці яшчэ аднаго актыўнага дзеяча адвентыстаў М. Лебедзева. Ён меў зносіны з АСД у Кіеве і праводзіў актыўную рэлігійную работу ў БССР [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 711, арк. 69, 70].

Нагадаем, што яшчэ ў снежні 1960 г. улады забаранілі дзейнасць Усесаюзнага Савета адвентыстаў сёмага дня. Па афіцыйным растлумачэнні, пайсці на такія меры іх прымусілі нелегальныя сувязі адвентыстаў з замежнымі цэнтрамі АСД. Было заяўлена, што многія кіраўнікі абшчын і груповак груба парушалі савецкае заканадаўства, распаўсюджвалі сярод вернікаў антысавецкую літаратуру. У якасці доказу прыводзіўся артыкул з амерыканскага часопіса "Духавенства", у якім гаварылася: "Сёння самым жорсткім праціўнікам нашай веры з'яўляецца бальшавізм. Бальшавізм адракаецца і вядзе барацьбу супраць усялякай веры ў Бога і асабліва супраць усялякага віду хрысціянскай веры" [8. Ф. 1385, воп. 1а, спр. 33, арк. 22]. Такая "вясомая" аргументацыя прыводзілася з мэтай апраўдання закрыцця Усесаюзнага Савета АСД. У той час на тэрыторыі СССР дзейнічала каля 750 абшчын і груп АСД, якія налічвалі больш за 50 тыс. чал.

Палітыка ганенняў на вернікаў пратэстанцкіх абшчын не давала плёну. На месца арыштаваных кіраўнікоў і членаў абшчын станавіліся новыя. Абшчыны яшчэ больш актыўна працавалі, раслі за кошт моладзі.

Масавыя арышты выклікалі неспакой у міжнароднай супольнасці. Каб не даць магчымасці гэтай з'яве распаўсюджвацца далей, у ліпені 1964 г. Савет па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР разглядзеў пытанне аб ліквідацыі адміністратыўных перагібаў у адносінах да вернікаў, якія дапускаліся мясцовымі органамі ўлады. Адзначалася, што за апошнія 3,5 года да крымінальнай адказнасці было прыцягнута больш за 700 пратэстантаў. 12 снежня 1964 г. Савет накіраваў у ЦК КПСС ліст, у якім адзначалася, што "многа вернікаў прыцягнута да адказнасці па ўказу Прэзідыума Вярхоўнага Савета РСФСР аб дармаедстве і аналагічных указах саюзных рэспублік. Судзяць як дармаедаў старых, якія атрымліваюць пенсію, рабочых і калгаснікаў, добрасумленна працуючых на прадпрыемствах і ў калгасах. Судзяць часта за прыналежнасць да баптысцкай абшчыны, якая дзейнічае без рэгістрацыі ў органах улады, тады як канкрэтныя дзеянні гэтых асоб не ўтрымліваюць складу злачыннасці" [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 42, арк. 64].

ЦК КПСС адрэагаваў хутка і вельмі рэзка. Спрыяла гэтаму перш за ўсё тое, што каманда Л.Брэжнева, якая прыйшла да ўлады, хацела як мага больш знайсці кампрамату ў дзейнасці М.Хрушчова, які ў кастрычніку быў ад-

праўлены на пенсію. 27 студзеня 1965 г. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР заслухаў даклад Генеральнага пракурора СССР Р.Рудэнкі і старшыні Вярхоўнага Суда СССР А. Горкіна "Аб некаторых фактах парушэння сацыялістычнай законнасці ў адносінах да вернікаў". 23 ліпеня 1965 г. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР таксама разгледзеў пытанне "Аб практыцы расследавання і судовага разгляду спраў у адносінах да удзельнікаў рэлігійных абшчын". У прынятай пастанове падкрэслівалася, што "органамі пракуратуры і суда былі дапушчаны асобныя факты парушэння законнасці, якія прывялі да асуджэння грамадзян фактычна толькі за рэлігійныя перакананні. Мелі месца выпадкі правядзення незаконных вобыскаў на кватэрах вернікаў і канфіскацыі ў іх рэлігійнай літаратуры" [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 40, арк. 142]. Паводле судовай статыстыкі за 1962 — 1964 гг. у БССР па артыкуле 222 Крымінальнага кодэкса за замах на асобу і правы грамадзян пад выглядам выканання рэлігійных абрадаў было асуджана 89 чал., з іх у 1962 г. — 32, у 1963 г. — 44, у 1964 г. — 13 чал.

У гады хрушчоўскай "адлігі" працягвалася наступленне на іудзейскую канфесію. Была знята з рэгістрацыі Калінкавіцкая абшчына. Два дзесяткі гадоў дзейнічала толькі абшчына ў Мінску. Сінагога не мела равіна, таму набажэнствы праводзілі асобныя вернікі, якія ведалі старажытнаяўрэйскую мову. У 1965 г. у БССР дзейнічалі яшчэ 30 незарэгістраваных іудзейскіх абшчын. Пінская, напрыклад, мела сінагогу і служыцеля культу, але ўлады гадамі не давалі дазвол на яе рэгістрацыю.

Да сярэдзіны 60-х гг. у рэспубліцы засталася дзейнічаць толькі адна зарэгістраваная мусульманская абшчына ў в.Мураўшчызна Іўеўскага раёна з колькасцю вернікаў каля 250 чал. З 1948 г. абавязкі мулы выконваў М.Шабановіч. Актыўнасць вернікаў была даволі высокай. Па пятніцах у набажэнствах прымалі ўдзел да 50 чал., а на вялікія святы — да 150 [2. Ф.4, воп. 62, спр. 696, арк. 59].

Без перабольшвання можна сказаць, што чарговыя ганенні на царкву не прынеслі пажаданых вынікаў. Пазбаўленне вернікаў храмаў, узмацненне атэістычнай прапаганды, ідэалагічныя праследаванні не спрыялі ўсталяванню атэізму. Рэлігійнае жыццё праходзіла тайна, а гэта для партыйных органаў прадстаўляла яшчэ большую небяспеку. Больш таго, праследаванні, уціск з'яўляліся прыцягальнай сілай для людзей, якія знаходзіліся па-за рэлігійнай сферай.

## 6.3. ДАЛЕЙШАЕ НАСТУПЛЕННЕ НА РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

З прыходам да ўлады Л.Брэжнева ўціск на канфесіі на некаторы час крыху аслаб. Новаму лідэру неабходна было рабіць захады, каб заваяваць аўтарытэт. Ды і грамадства больш не ўспрымала авантурную рэлігійную палітыку, праводзімую яго папярэднікам.

Адбывалася рэарганізацыя кіруючых структур, якія ажыццяўлялі кантроль за дзейнасцю канфесій. У снежні 1965 г. саветы па справах РПЦ і рэлігійных культаў пераўтварылі ў адзіны орган — Савет па справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР (СПР). У БССР, як і ў іншых саюзных рэспубліках, быў утвораны інстытут упаўнаважаных Савета па справах рэлігій. 10 мая 1966 г. Савет Міністраў СССР зацвердзіў Палажэнне аб Савеце па справах рэлігій. Гэтай жа пастановай былі вызначаны задачы і правы ўпаўнаважаных.

Палітыка КПСС — КПБ да рэлігіі вызначалася новымі тэарэтычнымі палажэннямі, выказанымі Л.Брэжневым у лістападзе 1967 г. у дакладзе “50 гадоў вялікіх перамог сацыялізму”. Было заяўлена аб тым, што ў СССР пабудавана “развітое сацыялістычнае грамадства” [30. С. 92], якому ўласцівы непарушная ідэйна-палітычная згуртаванасць працоўных, іх самаахвярная адданасць ідэалам партыі, вернасць прынцыпам марксізму-ленінізму, высокая ступень сталасці ўсёй сістэмы грамадскіх адносін. Развіццё рэлігійнага жыцця ў такім грамадстве прадстаўлялася толькі як прагрэсіруючы працэс “згасання”. Быў высунуты неабгрунтаваны тэзіс аб “крызісе рэлігіі”. У такіх умовах атэістычная работа працягвала заставацца прыярытэтнай у дзейнасці КПСС — КПБ. Яна будавалася на выпрацаваных яшчэ ў 30 — 50-я гг. стэрэатыпах у ацэнцы ролі рэлігіі і царквы ў грамадстве. Абсалютызаваліся формы і метады атэістычнай прапаганды і выхавання, якія склаліся зусім у іншай рэлігійнай сітуацыі. Таму для іх былі характэрныя застой і кансерватызм, а часта і элементы непавагі да рэлігійных пачуццяў і перакананняў вернікаў.

У адносінах паміж рэлігійнымі абшчынамі і дзяржаўнымі органамі прыярытэтнымі заставаліся камандна-адміністрацыйныя меры. Лічылася, што колькасць зарэгістраваных абшчын адэкватна адлюстроўвае стан рэлігійнасці насельніцтва. Таму працягвалася палітыка закрыцця цэркваў, зняцця з рэгістрацыі праваслаўных абшчын.

Гэтым самым ігнараваліся законныя правы і інтарэсы вернікаў. Пад уціскам усялякіх "улік" у 1966 г. спынілі дзейнасць шэсць прыходаў [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 696, арк. 59, 62]. У 1967 г. былі зняты з рэгістрацыі яшчэ сем абшчын РПЦ. Калі на 1 студзеня 1966 г. у БССР функцыяніравала 415 праваслаўных прыходаў, то на 1 студзеня 1970 г. іх колькасць зменшылася да 382. Як і ў папярэднія гады, значная іх частка прыпадала на Брэсцкую вобласць, дзе налічвалася 157 прыходаў. У выніку палітыкі руйнавання храмаў, зняцця з рэгістрацыі праваслаўных абшчын стваралася бачнасць усё большай секулярызацыі насельніцтва. Гордасцю улад Беларусі з'яўлялася тое, што ў 1970 г. 14 адміністрацыйных раёнаў не мелі ніводнай зарэгістраванай рэлігійнай абшчыны. У Віцебскай вобласці такіх раёнаў налічвалася пяць, у Магілёўскай — чатыры [31. С. 96].

На ахове інтарэсаў дзяржавы стаяла заканадаўства, якое ўсё больш абмяжоўвала магчымасці вернікаў весці актыўную рэлігійную дзейнасць. Гэтаму садзейнічаў і указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР "Аб адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне заканадаўства аб рэлігійных культах" [32. С. 137], прыняты 1 красавіка 1966 г. Такія дзеянні, як ухіленне ад рэгістрацыі аб'яднання ў органах улады, арганізацыя і правядзенне служыцелямі культу, членамі аб'яднання спецыяльных дзіцячых і юнацкіх сходаў, а таксама арганізацыя літаратурных і іншых гурткоў і груп, якія не маюць адносін да выканання культу, парушэнне ўстаноўленых заканадаўствам правіл арганізацыі і правядзення рэлігійных сходаў, шэсцяў і іншых цырымоній выклікалі штраф у памеры 50 руб., які накладваўся адміністрацыйнымі камісіямі пры камітэтах раённых і гарадскіх Саветаў працоўных.

Для ўтаймавання найбольш актыўных вернікаў штрафных санкцый лічылася недастаткова. Таму адначасова быў прыняты ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР "Аб унясенні дапаўненняў у артыкул 139 Крымінальнага кодэкса". Ён прадугледжваў пакаранне пазбаўленнем волі тэрмінам да трох гадоў асоб, "якія раней судзіліся за парушэнне законаў аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, а таксама арганізацыйную дзейнасць, накіраваную на ўчыненне гэтых дзеянняў" [32. С. 137]. Па сцэнарыі папярэдніх гадоў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыняў спецыяльную пастанову аб парадку прымянення ўказа. Яна ўяўляла сабой інструкцыю, якая тлумачыла, як найлепш абыйсці заканадаўства, каб пакараць прадстаўнікоў канфесій —

барацьбітоў супраць парушэння правоў чалавека ў сферы веравызнання. Такая практыка з'яўлялася нормай у часы каманднa-адміністрацыйнай сістэмы.

У рэспубліцы была праведзена работа, накіраваная на ўзмацненне кантролю за правільнасцю заканадаўства з боку адміністрацыйных органаў. 5 ліпеня 1966 г. у Мінску адбылася спецыяльная нарада, у якой прынялі ўдзел работнікі суда і пракуратуры, Камітэта дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў БССР, Міністэрства аховы грамадскага парадку, рэдакцый усіх рэспубліканскіх выдавецтваў, газет і часопісаў, вучоных Інстытутаў філасофіі і права, мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 696, арк. 57]. Усё гэта давала магчымасць уладам прадоўжыць рашучую барацьбу з асобамі, якія выступалі ў абарону сваіх правоў, прыцягваць іх да крымінальнай адказнасці.

Важным кірункам аховы насельніцтва, і ў першую чаргу моладзі, ад рэлігійнага ўплыву з'яўлялася ўкараненне новай сацыялістычнай абраднасці. 4 мая 1966 г. Савет Міністраў БССР прыняў спецыяльную пастанову "Аб рабоце савецкіх органаў па ўкараненні грамадзянскіх абрадаў" [2. Ф. 952, воп. 3, спр. 37, арк. 19 — 20]. У мэтах аказання дапамогі выканкамам мясцовых Саветаў і каардынацыі работы міністэрстаў, ведамстваў і творчых саюзаў пры Юрыдычнай камісіі пры ўрадзе рэспублікі быў створаны Савет па распрацоўцы і ўкараненні ў побыт новых грамадзянскіх абрадаў. Пры гарадскіх, раённых, сельскіх і пасялковых Саветах пачалі дзейнічаць грамадскія камісіі па абрадах. Асноўную ўвагу яны ўдзялялі правядзенню урачыстай рэгістрацыі шлюбаў і нараджэнняў. З'явіліся таксама камсамольскія вяселлі і хрышчэнні. Там, дзе ў гэтых мерапрыемствах прымалі ўдзел мясцовыя савецкія органы, партыйныя, камсамольскія арганізацыі, яны былі займальныя, вясёлыя і таму ў першыя гады выклікалі зацікаўленасць у моладзі. У 1967 г., напрыклад, з дапамогай камісій па ўкараненні новых абрадаў у рэспубліцы было зарэгістравана 40 % усіх шлюбаў і 21,5 % нованароджаных [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 711, арк. 15].

Тым не менш значная колькасць моладзі папаўняла абшчыны РПЦ, вялікай заставалася і абраднасць. Упаўнаважаныя Саветаў па справах рэлігій пры аблвыканкамах інфармавалі партыйныя інстанцыі аб перапоўненых храмах у рэлігійныя святы, вялікай абраднасці, асабліва сярод моладзі. Рэакцыяй на гэта з'явілася чарговая пастанова ЦК КПСС "Аб узмацненні атэістычнага выхавання насельніцтва", прынятая 16 ліпеня 1971 г. [33. С. 309 — 310]. Яе асаблівасцю

з'яўлялася тое, што гаворка ішла ўжо не толькі аб выхаванні атэістычных перакананняў у камуністаў і камсамольцаў, якія калі-некалі самі прымалі ўдзел у адпраўленні рэлігійных абрадаў, але і аб неабходнасці ўзмацнення барацьбы з рэлігійнымі забабонамі ўсяго насельніцтва краіны. Гэта, як вядома, ішло насуперак прынцыпам свабоды сумлення грамадзян, фармальна замацаваным у Канстытуцыі СССР і саюзных рэспублік.

10 верасня 1971 г. бюро ЦК КПБ разгледзела пытанне "Аб мерах па ўзмацненні атэістычнага выхвання насельніцтва" і зацвердзіла мерапрыемствы па выкананні пастановы ЦК КПСС [21. Ф.4, воп. 81, спр. 2362, арк. 6 — 7, 39 — 43]. Прадугледжвалася правесці ў гарадах і раёнах, дзе заставалася высокай рэлігійнасць насельніцтва, пленумы гаркамаў, райкамаў КПБ, прысвечаныя атэістычнаму выхаванню працоўных. Асаблівая ўвага засяроджвалася на неабходнасці вывучаць "метады царкоўнікаў і сектантаў". Гэтыя арганізацыйныя меры спрыялі чарговаму наступу на канфесіі.

Важнай падзеяй у жыцці РПЦ з'явілася змена яе кіраўніцтва. У 1970 г. ва ўзросце 92 гадоў памёр Патрыярх Алексій I . Памесны Сабор, які праходзіў ▪ 30 мая па 2 чэрвеня 1971 г., абраў патрыярхам мітрапаліта Круціцкага і Каломенскага Пімена (Сяргей Міхайлавіч Ізвекаў, 1910 — 1990). Гэта была адзіная кандыдатура, вынесеная на адкрытае галасаванне. Улады не маглі дапусціць дэмакратыю на царкоўным Саборы, калі яна адсутнічала ў дзяржаўных і партыйных структурах. Таму Сабор прайшоў у традыцыйнай для брэжнеўскіх гадоў абстаноўцы паказнога адзінадушша.

З прыходам Л.Брэжнева да ўлады больш стабільнай стала палітыка прызначэння іерархаў. 25 мая 1965 г. епіскапам Мінскім и Беларускім быў прызначаны Антоній (Мельнікаў).

У кастрычніку таго ж года яго ўзвялі ў сан архіепіскапа. 8 верасня 1975 г. указам патрыярха Пімена за руплівую працу "ў галіне царкоўнай, экуменічнай і міратворчай дзейнасці" Антоній удастоіўся сана мітрапаліта. На Мінскай кафедры ўладыка праслужыў больш за 13 гадоў. З кастрычніка 1978 г. і да смерці, 29 мая 1986 г., ён узначальваў Ленінградскую і Наўгародскую епархію. Як успамінае тагачасны ўпаўнаважаны па справах рэлігій пры Мінскім аблвыканкаме І.Плахатнюк, Антоній "вёў даволі замкнуты лад жыцця, рэдка наведваў прыходы і амаль не кантактаваў з органамі ўлады" [34. С. 92].

Процілеглую палітыку праводзіў прызначаны 10 кастрычніка 1978 г. на Беларускую кафедру Філарэт (Кірыл Варфаламеевіч Вахрамееў). Нарадзіўся ён у 1935 г. у сям'і маскоўскіх інтэлігентаў-музыкантаў, атрымаў спецыяльную музыкальную адукацыю. Закончыў маскоўскія духоўную семінарыю і акадэмію. На другім курсе акадэміі прыняў манашскі пострыг з імем Філарэт, у гонар Святога праведнага Філарэта Міласцівага (VIII ст.). Да прызначэння ў Мінск ён займаў высокія пасады рэктара Маскоўскай духоўнай акадэміі, Патрыяршага Экзарха Сярэдняй Еўропы і інш. [35. 36]. Прыняўшы кафедру, Філарэт з галавой акунуўся ў справы, выкарыстоўваючы любую магчымасць для выезда ў самыя аддаленыя прыходы, праводзіў набажэнствы, што садзейнічала актывізацыі рэлігійнасці праваслаўнага насельніцтва рэспублікі. "Не скажу, што мясцовыя ўлады былі ў захапленні ад такіх наведванняў, — успамінае І.Плахатнюк. — Пайшлі званкі: "Нельга неяк агранічыць раз'езды?" Але чыніць якія-небудзь перашкоды ніхто не пасмеў" [34. С. 184].

З 1981 па 1989 г. Філарэт адначасова выконваў абавязкі кіраўніка Аддзела знешнецаркоўных зносін РПЦ. Ён часта прывозіў замежных гасцей у епархію, Жыровіцкі манастыр, чым садзейнічаў выжыванню гэтай рэлігійнай установы, епархіі ў цэлым. Пад падставай рамонта многія цэрквы былі расшыраны, што дазваляла выконваць некалькі літургій у дзень.

У адказ на далейшы ўціск рэлігійныя арганізацыі накіроўвалі намаганні на ўзмацненне свайго ўплыву ў грамадстве, сувязяў з вернікамі, сярод якіх расло незадавальненне савецкім заканадаўствам аб культах. Некаторыя свяшчэннаслужыцелі, вернікі ўсіх канфесій адкрыта выступалі за адмену заканадаўства аб рэлігійных культах, якое не забяспечвала сапраўднай свабоды сумлення ў СССР. Гэты феномен у грамадска-палітычным жыцці атрымаў назву "рэлігійны экстрэмізм". Дзеянні "экстрэмістаў" мелі месца ў праваслаўнай, каталіцкай цэрквах, але больш за ўсё яны распаўсюдзіліся ў сектанцкіх арганізацыях. Фактычна гэта з'яўлялася праяўленнем апазіцыі вернікаў да ўлад, бо яны знаходзіліся ў няроўным становішчы з атэістамі, падвяргаліся ганенням. Афіцыйная прапаганда ігнаравала гэтыя факты, таму што яны не ўпісваліся ў тэзіс "духоўнага" адзінства савецкага народа. Усё тлумачылася крызісам рэлігіі і працэсам секулярызацыі, абвастрэннем ідэалагічнай барацьбы паміж дзвюма сістэмамі, узрастаннем ролі рэлігіі і царквы ў гэтай барацьбе. "Экстрэмістаў" з ліку рэлігійных актывістаў

прадстаўлялі як асоб, якія "спрабуюць абыйсці закон, абудзіць у вернікаў незадавальненне палітыкай Савецкай дзяржавы ў адносінах да рэлігіі, праследуючы звычайна кар'ерысцкія, карыслівыя мэты і прыкрываючыся пры гэтым рэлігіяй" [37. С. 59].

Выступленне вернікаў у абарону сваіх правоў вымусіла кіруючыя структуры рэспублікі прыняць адпаведныя заканадаўчыя акты. 27 лютага 1977 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР было зацвердждана "Палажэнне аб рэлігійных аб'яднаннях". Да таго часу рэспубліканскія органы карысталіся адпаведнымі дакументамі РСФСР. Напярэдадні зацвярджэння Палажэнне было разгледжана на бюро ЦК КПБ. Акцэнт зноў рабіўся на добра вядомых вернікам і служыцелям культу рэчах. Без рэгістрацыі дзейнасць рэлігійнага аб'яднання забаранялася. Яе па інстанцыі ажыццяўляў Савет па справах рэлігій у Маскве. Кіраўніцтва абшчынай ажыццяўляў выканаўчы орган (царкоўны савет), які выбіраўся заснавальнікамі або сходам вернікаў. Ён праводзіўся толькі з дазволу ўлад. Апошнія мелі права адводу асоб са складу царкоўнага савета. Святчэннаслужыцелі прыступалі да работы пасля атрымання рэгістрацыйнай даведкі ад упаўнаважанага. Прапаганда рэлігіі ажыццяўлялася толькі ў культавых будынках. Правядзенне рэлігійных шэсцяў пад адкрытым небам дазвалялася з дазволу ўлад. Забаранялася арганізаванае навучанне рэлігіі ў хорах, абрадах, прыслужванні ў час набажэнстваў.

Палітыка ўціску вернікаў-"экстрэмістаў" знайшла адлюстраванне ў Канстытуцыі БССР, прынятай у 1978 г. У артыкул 50 было ўнесена дапаўненне, якое раней не прадугледжвалася савецкім заканадаўствам, — "выкліканне варожасці і нянавісці ў сувязі з рэлігійнымі вераваннямі забараняецца" [38. С. 6]. Варожасцю лічылася выказванне сваіх думак вернікамі ў адносінах да парадкаў і законаў, звязаных з рэлігійным жыццём. Зусім па-іншаму трактавала гэта афіцыйная прапаганда. "Дадзенае палажэнне Канстытуцыі накіравана супраць раз'яднoўвання савецкіх людзей па рэлігійным прынцыпе. Яно агароджвае заканадаўча няверуючых і атэістаў ад варожых адносін да іх прадстаўнікоў рэлігійнага экстрэмізму" [39. С. 33].

Нягледзячы на ўціск, усё большая частка насельніцтва праяўляла прыхільнасць да рэлігійных каштоўнасцяў. Такое становішча не ўпісвалася ў тэарэтычныя навацыі аб "развітым сацыялізме" як грамадстве суцэльнага атэізму. Каб змяніць сітуацыю, 22 верасня 1981 г. ЦК КПСС прымае

сакрэтную пастанову "Аб узмацненні атэістычнага выхавання". 30 кастрычніка 1981 г. бюро ЦК зацвердзіла мерапрыемствы па яе выкананні [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 219, арк. 15]. Тое ж самае прадубліравалі абкамы, гаркамы, райкамы КПБ. Пытаннямі аб атэістычным выхаванні застракацелі пасяджэнні бюро партыйных камітэтаў, партыйныя сходы, семінары ідэалагічнага актыву. У працоўных калектывах былі перагледжаны спісы грамадскіх саветаў атэістаў, зацверджаны арганізатары атэістычнага выхавання. Але колькасць вернікаў ад гэтага не змяншалася. Аднойчы даўшы слова быць верным Богу, яны не жадалі мяняць свой светапогляд. Таму колькасць наведвальнікаў цэркваў не скарачалася.

Нягледзячы на жорсткі кантроль з боку партыйных і камсамольскіх арганізацый, да праваслаўнага жыцця цягнулася і падрастаючае пакаленне. Падлеткі прыслужвалі ў алтары, спявалі ў хорах, дэкламавалі вершы рэлігійнага зместу, прымалі ўдзел у шэсцях. Сярод моладзі заставалася высокай рэлігійная абраднасць. У 1982 г. у рэспубліцы абвянчалася 1700 пар маладажонаў. У Астравецкім раёне вянчалася 27 % юнакоў і дзяўчат, якія ўступілі ў сумеснае жыццё. У Брэсцкім, Браслаўскім, Ваўкавыскім, Воранаўскім, Гродзенскім і Ашмянскім раёнах гэты паказчык складаў ад 10,7 да 17,6 %.

Мясцовым партыйна-савецкім структурам не ўдавалася знізіць і такі паказчык абраднасці, як хрышчэнне. У 1982 г. іх удзельная вага засталася на ўзроўні 1981 г. — 19,8 %. У абсалютных лічбах гэта на 1652 хрышчэнні больш, чым у 1981 г., і на 8590 больш, чым у 1980 г. У Кобрынскім, Камянецкім, Іванаўскім, Ляхавіцкім, Маладзечанскім раёнах гэты абрад прынялі 45 — 47 % дзяцей, ад 30 да 44 % нованароджаных было ахрышчана ў Глыбоцкім, Баранавіцкім, Брэсцкім, Ваўкавыскім, Гродзенскім і некаторых іншых раёнах.

Аб вернасці насельніцтва хрысціянскім традыцыям сведчыла абмеркаванне 7 студзеня 1983 г. на бюро ЦК КПБ пытання "Аб рабоце партыйных арганізацый Воранаўскага, Астравецкага і Столінскага раёнаў па выкананні пастановы ЦК КПСС ад 22 верасня 1981 г. "Аб узмацненні атэістычнага выхавання" [2. Ф. 4, воп. 150, спр. 17, арк. 14 — 15]. Канстатавалася, што ў гэтых раёнах не ўдалося знізіць узровень рэлігійнай абраднасці. Калі, напрыклад, у Астравецкім раёне за 1980 — 1982 гг. колькасць хрышчэнняў знізілася з 50,9 да 38,4 %, то вянчанняў павялічылася з 27 да 27,4, а пахаванняў па рэлігійным абрадзе — з 36,4 да 44,3 %. Адзначыўшы неза-

давальняючую дзейнасць указаных партыйных камітэтаў па правядзенні атэістычнага выхавання, бюро ЦК КПБ у чарговы раз намеціла меры па далейшым узмацненні работы па атэізацыі насельніцтва [2. Ф. 4, воп. 150, спр. 17, арк. 15].

З прыходам на пасаду Генеральнага сакратара ЦК КПСС Ю.Андропава (1914 – 1984) канфрантацыя партыйна-дзяржаўных структур з рэлігійнымі арганізацыямі ўзмацнілася. Гэта тлумачылася тым, што, узначальваючы на працягу шэрага гадоў КДБ СССР, ён ведаў рэлігійную сітуацыю ў краіне. Таму невыпадкова ў цэнтр сваёй дзейнасці Ю.Андропаў паклаў праблемы ўдасканальвання ідэйна-выхаваўчай работы. У чэрвені 1983 г. пленум ЦК КПСС абмеркаваў даклад "Актуальныя пытанні ідэалагічнай, масава-палітычнай работы партыі", з якім выступіў К. Чарненка (1911 – 1985), які курыраваў у той час ідэалагічную сферу. Перад партыйнымі арганізацыямі па-бальшавіцку востра была пастаўлена задача вядзення рашучай барацьбы з "рэакцыйнай" роллю рэлігіі. "Нельга паслабляць работу і з такой спецыфічнай групай насельніцтва, як веруючыя, — адзначалася ў дакладзе. — Пад уплывам рэлігіі яшчэ застаецца частка людзей, і частка, прама скажам, не такая і малая. Шматлікія ідэалагічныя цэнтры імперыялізму імкнуцца не толькі падтрымліваць, але і насаджаць рэлігійнасць, прыдаць ёй антысавецкую, нацыяналістычную накіраванасць. Асаблівая стаўка робіцца на рэлігійных экстрэмістаў. Адначасова распаўсюджваюцца вымыслы аб "парушэннях свабоды сумлення ў СССР" [40. С. 60].

Рашэнні пленума выклікалі далейшы ўсплёск атэістычнай прапаганды. Гэтаму садзейнічала кампанія, разгорнутая ў сувязі з падрыхтоўкай да святкавання 1000-годдзя Хрышчэння Русі, якое адзначалася ў 1988 г. Яшчэ ў сакавіку 1985 г. ЦК КПБ накіраваў у мясцовыя партыйныя камітэты спецыяльную запіску "Некаторыя пытанні ўзмацнення атэістычнай работы ў сувязі з 1000-годдзем Хрышчэння Русі". Гэты дакумент фальсіфікаваў гісторыю праваслаўнай царквы, усяляк прыніжаў і скажаў яе ролю ў жыцці Расіі. Не вызначаліся навізной выказванні аб тым, што "царква актыўна ўдзельнічала ў сацыяльным і нацыянальным прыгнечанні працоўных, у падаўленні антыфеадальных выступленняў сялян, вызваленчага і рэвалюцыйнага руху рабочага класа". А пасля перамогі Вялікага Кастрычніка многія яе прадстаўнікі "самкнуліся з контррэвалюцыйнымі сіламі і выступілі супраць Савецкай улады". Галоўная мэтавая ўста-

ноўка ідэалагічных службаў ЦК КПБ заключалася ў тым, каб прынізіць тысячагадовы шлях РПЦ, яе юбілей.

ЦК КПБ рабіў акцэнт на тым, што ў грамадства працягвалася думка аб станоўчай ролі праваслаўнай царквы. У літаратуры з'яўляліся "богашукальніцкія" матывы, ідэалізавалася патрыярхальнасць. Здараліся выпадкі, калі царква паказвалася носьбітам высокіх прынцыпаў маральнасці, папулярызаваліся рэлігійныя традыцыі і абрады. Ідэалагічныя аддзелы ЦК КПБ непакоіла тое, што царква імкнулася выняць маральны капітал са сваёй міратворчай і экуменічнай дзейнасці. Гэта дзейнасць, на іх думку, стварала небяспечныя ілюзіі ў некаторай часткі няверуючых, якія лічылі, што праваслаўе ўжо страціла адзнакі рэлігіі як опіум для народа і амаль інтэгравалася ў сацыялістычную мараль.

У гэтай сувязі партыйным камітэтам рэкамендавалася сарыентаваць ідэалагічны актыў на забеспячэнне навукова абгрунтаванага і аргументаванага падыходу да пытанняў супрацьдзеяння рэлігійнай прапагандзе ў сувязі з 1000-годдзем Хрышчэння Русі. Падкрэслівалася неабходнасць засяродзіць увагу на атэістычным выхаванні інтэлігенцыі, творчых работнікаў, сярод якіх узмацніліся выпадкі прапаганды культавай атрыбутыкі, царкоўнай музыкі пад выглядам народнай, назіраліся прымірэнчыя адносіны да рэлігіі. Ставілася задача шляхам узмацнення атэістычнага выхавання да мінімуму звесці ўплыў рэлігійнага святкавання і яго вынікаў на шырокія колы грамадскасці.

Прыведзеныя ў дакуменце рэаліі праваслаўнага жыцця ўваходзілі ў пярэчанне з абвешчаным тэзісам аб "крызісе рэлігіі". У 70-я — пачатку 80-х гг. арганізацыі РПЦ умацоўваліся, актывізавалі сваю дзейнасць. Рамантаваліся дзеючыя цэрквы. Улады канстатавалі, што, як правіла, дапускалася неабгрунтаванае пашырэнне памяшканняў, фактычны кошт рамонту часта ў некалькі разоў перавышаў сметны. Выкарыстоўваліся дэфіцытныя, дарагія матэрыялы, упрыгажэнні. У той жа час матэрыяльная база многіх органаў ЗАГСаў, у тым ліку і пакояў для ўрачыстай рэгістрацыі шлюбаў, была вельмі слабай. Асабліва гэта тычылася сельскіх Саветаў, дзе ўрачыстая рэгістрацыя актаў адбывалася ў мясцовых клубах. Таму 4 студзеня 1985 г. Савет Міністраў БССР быў вымушаны прыняць пастанову "Аб мерах па далейшым развіцці і ўкараненні сацыялістычных традыцый, свят і абрадаў". Большасць яе мерапрыемстваў так і засталіся на паперы, нягледзячы на тое, што ідэалагічныя аддзелы ЦК КПБ трымалі іх выкананне пад кантролем.

Між тым рост рэлігійнасці насельніцтва павялічваўся, аб чым у афіцыйнай прапагандысцкай літаратуры не было прынята гаварыць. Працягваў эксплуатавацца тэзіс аб тым, што веравызнанне — гэта невуцтва, цемната, а таму асноўным кантынгентам наведвальнікаў царквы з'яўляюцца непісьменныя бабулі. Іншую карціну давалі ў кіруючыя інстанцыі адпаведныя органы. Упаўнаважаны па справах рэлігій А.Залескі ў інфармацыі ў ЦК КПБ аб святкаванні Вялікадня ў 1985 г. дакладаў, што ў той дзень паўсюды пуставалі гарадскія рынкі, крамы. Нягледзячы на небяспеку праследаванняў па месцы вучобы альбо работы, у святочных мерапрыемствах прымала ўдзел моладзь. Паведамлялася аб тым, што каля 200 маладых людзей удзельнічалі ў хросным ходзе ў Петрыкаве. Каля тысячы чалавек, у тым ліку больш за 400 юнакоў і дзяўчат, знаходзіліся ў царкве ў в.Яроміна Гомельскага раёна. На Усяночную ў царкву в.Пагост Загародскі Пінскага раёна сабралася 500 вернікаў, сярод якіх налічвалася каля 200 чалавек моладзі і 25 школьнікаў [2. Ф. 4, воп. 156, спр. 160, арк. 70, 72].

Прыведзеныя факты сведчылі аб глыбокіх зрухах у грамадстве. Але яны не сталі прадметам вывучэння і аналізу з боку партыйна-дзяржаўных структур. Больш таго, лічылася, што ў краіне "развітога сацыялізму" адсутнічалі аб'ектыўныя ўмовы для ажыўлення рэлігійных пачуццяў. Сцвярджалася, што ўзровень рэлігійнасці адпавядаў колькасці зарэгістраваных прыходаў. У 1985 г. у БССР засталося 369 праваслаўных цэркваў. Па даных Савета па справах рэлігій, да гэтага часу ў рэспубліцы было закрыта 637 храмаў, у тым ліку ў Гродзенскай вобласці — 156, засталіся дзейнічаць 73, у Віцебскай адпаведна 52 і 41, у Гомельскай — 57 і 42, у Магілёўскай — 49 і 22, у Брэсцкай — 225 і 143, у Мінскай — 198 і 49 [41]. Такія сумныя вынікі палітыкі масавага беспадстаўнага закрыцця культавых будынкаў РПЦ, якая праводзілася на працягу 50 — 80-х гг.

Неадназначныя працэсы адбываліся і сярод стараверскіх аб'яднанняў. Сельскія абшчыны працавалі ва ўмовах значнай страты вернікаў, у некаторых населеных пунктах па гэтай прычыне абшчыны наогул спынялі сваю дзейнасць. У сувязі з гэтым іх агульная колькасць памяншалася. Калі ў 1965 г. налічвалася 27 абшчын, то ў 1985 г. — 23 [2. Ф. 952, воп.3, спр. 17, арк. 3; 41]. Іншая карціна назіралася ў гарадах. У разглядаемы перыяд ажывілася дзейнасць старавераў у Гомелі, Віцебску, Барысаве, Бабруйску, Полацку і іншых гарадах, чаму садзейнічалі міграцыйныя працэсы.

Партыйна-дзяржаўныя структуры па-ранейшаму накіроўвалі намаганні на змяншэнне ўплыву касцёла на вернікаў. Пад усялякімі зачэпкамі працягвалася палітыка зняцця з рэгістрацыі парафій, закрыцця касцёлаў. Вернікі як маглі абаранялі свае правы, але безвынікова. У 1969 г. жыхары в. Зарачанка Гродзенскага раёна ў адказ на закрыццё касцёла, пабудаванага на сродкі парафіян у 1936 г., звярнуліся да рэдкай формы пратэсту савецкіх часоў — забастоўкі. Але і яна не дапамагла, касцёл быў закрыты. Адзінай уцехай заставалася тое, што, баючыся агалоскі, улады не пайшлі на рэпрэсіі жыхароў [42. С. 17].

Як і раней, выступаць у абарону права на свабоду веравызнання заставалася небяспечным. З прыняццем у красавіку 1966 г. указа Вярхоўнага Савета БССР "Аб унясенні дапаўненняў у артыкул 139 Крымінальнага кодэкса" такія дзеянні нярэдка заканчваліся пазбаўленнем волі. Такі лёс напаткаў жыхарку Гродна М.Гратулевіч, якая праводзіла актыўную работу сярод парафіян па адкрыцці Фарнага касцёла. За кароткі тэрмін у розныя інстанцыі было накіравана каля 30 калектыўных заяў. Але ўлады не давалі дазволу на адкрыццё касцёла, спасылаючыся на тое, што ў горадзе ўжо працуюць два. Спыніць актыўную дзейнасць вернікаў удалося з дапамогай Крымінальнага кодэкса. М.Гратулевіч абвінавацілі ў тым, што яе актыўныя дзеянні дыктаваліся матэрыяльнымі выгадамі і насілі падстракальны характар. Справа закончылася тым, што "за злачынства" яна была асуджана на тры гады пазбаўлення волі [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 711, арк. 114].

З першых дзён закрыцця Фарнага касцёла вернікі неслі шматгадовую варту па яго ахове, збіралі грошы на падаткі, нягледзячы на тое, што храм знялі з рэгістрацыі. А яны былі немалыя — каля 6 тыс. руб. у год. Такія самаахвярныя дзеянні парафій трохі змяншалі страты рымска-каталіцкай царквы, але ўсё роўна яны былі значнымі. З кожным годам скарачалася колькасць парафій, павялічваўся лік закрытых касцёлаў, якія пуставалі альбо выкарыстоўваліся ў "народнагаспадарчых" мэтах. Калі на 1 студзеня 1965 г. у БССР дзейнічалі 130 касцёлаў, то ў 1970 г. іх колькасць скарацілася да 107 [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 711, арк. 15].

Паўсядзённая дзейнасць парафій у гэты час праходзіла пад знакам ажыццяўлення пастаноў Другога Ватыканскага Сабора, які сесійна засядаў на працягу чатырох гадоў — з 11 кастрычніка 1962 г. па 7 снежня 1965 г. Ён разгледзеў шэраг пытанняў, якія выспелі за час, які прайшоў пасля правядзення папярэдняга Сабора, і складаў амаль сто гадоў (пер-

шы Сабор праходзіў у 1869 — 1870 гг.). Усяго было разгледжана больш за 70 пытанняў. Для іх падрыхтоўкі, выпрацоўкі праектаў пастаноў ствараліся спецыяльныя камісіі, якія працавалі на працягу больш трох гадоў.

Напярэдадні адкрыцця першай сесіі на адной з цэнтральных плошчаў Рыма пачала працаваць выстава "Царква-мучаніца ў краінах камунізму". Затым яна экспанавалася па ўсёй Італіі і за яе межамі. Адным з першых пытанняў, разгледжаных сесіяй, з'яўлялася пытанне "Аб літургіі". Многія яе ўдзельнікі выказвалі думку аб неабходнасці зрабіць літургію больш зразумелай для вернікаў, прыстасаваць абрады да мясцовых традыцый і звычак насельніцтва. "Патрэбна пайсці насустрач часу і зрабіць літургію больш даступнай для шырокіх мас вернікаў, якія не павінны быць толькі гледачамі, а павінны быць удзельнікамі літургіі" [2. Ф. 925, воп. 4, спр. 42, арк. 36], такой была думка выступаючых.

Дыскусія разгарнулася па пытанні мовы літургіі. Большасць выступаўшых прапаноўвалі адказацца ад латыні і перайсці на нацыянальныя мовы, аргументуючы гэта тым, што "лацінская мова — даўно мёртвая мова, а царква жыве і павінна жыць" [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 42, арк. 35]. Былі і процілеглыя меркаванні. Тым не менш Сабор выказаўся за дапушчэнне нацыянальных моў у набажэнствах. Права вырашэння гэтага пытання прадастаўлялася нацыянальным канферэнцыям епіскапаў [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 42, арк. 37].

У той час у рэспубліцы склалася становішча, калі беларуская мова выціскалася з грамадска-палітычнага жыцця і быту. Таму зразумела, што яна не магла стаць мовай касцёла. У парафіях Беларусі адзінай мовай становіцца польская. Гэта стварала цяжкасці ў сувязі з тым, што не ўсе вернікі добра валодалі ёю, асабліва моладзь. Таму асобныя ксяндзы сталі праводзіць набажэнствы на беларускай мове. З 60-х гг. плённа працуе на ніве беларусізацыі касцёла пробашч парафіі Вішнева Валожынскага раёна У.Чарняўскі. Дазвол на правядзенне набажэнстваў на беларускай мове ён атрымаў ад Папы Паўла VI, які знаходзіўся на прастоле з чэрвеня 1963 г. па жнівень 1978 г. 22 студзеня 1968 г. адбылася асабістая сустрэча У.Чарняўскага з Папай у яго рэзідэнцыі ў Ватыкане [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 711, арк. 90]. З таго часу ў вішнеўскім касцёле загучала беларуская мова. Для некалькіх пакаленняў парафіян касцёл стаў адукацыйным, культурным цэнтрам. Многа намаганняў прыклаў У.Чарняўскі для перакладу на беларускую мову богаслужэбных кніг. У Рыме

ён выдаў катэхізіс на беларускай мове [43. С. 4; 2. Ф. 4, воп. 62, спр. 711, арк. 91]. На вялікі жаль, ва ўмовах, калі беларуская мова выганялася з культурна-бытавога ўжытку, пачын У.Чарняўскага не быў падхоплены іншымі пробашчамі. Тым не менш і ў тыя часы некаторыя ксяндзы праводзілі набажэнствы на беларускай мове. Прадстаўнік партыйных органаў, які прысутнічаў на свяце Вялікадня ў касцёле г.п.Міёры, адзначаў, што ксёндз І.Грабоўскі "споведзь пачаў на польскай мове, затым перайшоў на беларускую" [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 21]. Гэта з'яўлялася нечаканасцю для "назіральніка", і ён вырашыў праінфарміраваць партыйныя органы.

Пасля заканчэння Сабора, нягледзячы на забарону, пачала праводзіцца канфірмацыя падрастаючага пакалення. У 1966 г., упершыню за пасляваенныя часы, гэты абрад быў праведзены ў Віцебскай і Гродзенскай абласцях на Тройцу, 29 мая. У васьмі касцёлах Віцебшчыны было канфірмавана каля 2 тыс. чалавек. Сярод іх былі дзеці, падлеткі, моладзь. У Гродзенскай вобласці канфірмацыя прайшла значна шырэй — у 12 храмах. Толькі ў Міхалішскім касцёле Астравецкага раёна было канфармавана каля 500 чал. [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 696, арк. 3].

Актыўную работу з моладдзю праводзіў ксёндз Красненскага касцёла Маладзечанскага раёна Ю.Мансангер. Гэта быў адзін са старэйшых і адукаваных душпастыраў, якія засталіся працаваць. Таму да яго цягнуліся не толькі дарослыя, але і моладзь. Садзейнічала гэтаму размяшчэнне храма. Сюды ехалі па чыгунцы з Мінска, Маладзечна, Барысава, іншых гарадоў і пасёлкаў рэспублікі. Сапраўднае паломніцтва вернікаў адбывалася ў Краснае ў кожнае рэлігійнае свята. Вось якая інфармацыя паступала ў ЦК КПБ ад людзей, якія вялі назіранні за правядзеннем службаў у Красным. У першы дзень Вялікадня, 17 красавіка 1965 г., "у касцёле было да 2000 чалавек, з іх 15 — 20 % складалі асобы ва ўзросце ад 20 да 30 гадоў". На свяце Тройцы таго ж года ў касцёле "прысутнічалі дзеці школьнага і дашкольнага ўзросту" [2. Ф. 952, воп. 4, спр. 47, арк. 36, 73]. Такая папулярнасць пробашча турбавала не толькі мясцовыя партыйныя ўлады, але і ідэалагічныя аддзелы ЦК КПБ. Ксёндз быў адхілены ад службы і прыцягнуты да адказнасці. Пасля хадайніцтва вернікаў, якія дайшлі да Масквы, Мансангера пасля больш чым дваццацігадовай службы перавялі ў парафію Солы Смаргонскага раёна, дзе ён і заставаўся да апошніх дзён свайго жыцця.

Далейшым згортваннем парафій азнаменаваліся 70-я гг. Гэтаму садзейнічаў недахоп ксяндзоў, які штучна стваўся ўладамі. Да таго ж многія з душпастыраў дасягнулі сталага ўзросту. У 1970 г., напрыклад, сярэдні ўзрост 64 беларускіх ксяндзоў складаў 63,4 гады. Такое становішча склалася па прычыне таго, што афіцыйныя ўлады накіроўвалі немалыя намаганні на тое, каб ізаляваць семінарыі ў Каўнасе і Рызе ад маладых людзей з Беларусі, якія жадалі прысвяціць сваё жыццё душпастырскай дзейнасці. А такіх было нямала. Абласныя ўпаўнаважаныя па справах рэлігій, якія займаліся пытаннямі накіравання жадаючых на вучобу, усё рабілі для таго, каб зрабіць набор як мага меншым. Справа была пастаўлена на такі ўзровень, што дазволу на ажыццяўленне сваёй мары прыходзілася чакаць да дзесяці гадоў.

У такіх складаных абставінах заставалася адно выйсце — рыхтаваць новую генерацыю ксяндзоў у нелегальных умовах. За правядзенне рызыкоўнай, але вельмі неабходнай справы ўзяўся пробашч з в. Мядзведзічы Ляхавіцкага раёна В.Піянткоўскі. Маленькая хата ксяндза фактычна ператварылася ў падпольную семінарыю. Заняткі былі арганізаваны на належным узроўні. Тут выкладаліся гісторыя касцёла, кананічнае права, літургія, этыка, замежная мова і нават марксісцка-ленінская філасофія. Адзін з вучняў Піянткоўскага ксёндз з Навагрудка А.Дзям'янка ўспамінае: "Разам са мной вучыліся яшчэ тры чалавекі. Жылі ў адным пакоі. Узрост у нас быў розны: мне — 17, таварышу — за 30. Рана ўставалі, маліліся, ішлі на заняткі" [44].

Улады здагадваліся, што ў маленькім доміку мядзведзіцкага ксяндза рабілася важная для жыцця рымска-каталіцкай царквы справа. Але добрая канспірацыя не давала магчымасці за што-небудзь зачапіцца, прыпыніць вучобу. Нават у дармаедстве нельга было абвінаваціць слухачоў, якія ў раённым цэнтры ўладкаваліся на працу качагарамі. Так праходзіла падрыхтоўка будучых святчэннаслужыцеляў. Выпускнікамі "семінарыі" Піянткоўскага сталі каля 10 чалавек.

У канцы 70-х гг. адбылася змена кіраўніцтва РКЦ. Пасля смерці 6 жніўня 1978 г. Папы Паўла VI яе новым галавой быў абраны кардынал Альбіно Лучыані, які прыняў імя Яна Паўла I.

Праз некалькі тыдняў пасля абрання, у ноч з 28 на 29 верасня 1978 г., Папа Ян Павел I раптоўна памёр. 16 кастрычніка каталіцкую царкву ўзначаліў кардынал Кароль Вайтыла, які

прыняў імя Ян Павел II. Ён нарадзіўся ў сакавіку 1920 г. у г.Вадовіцы Кракаўскага ваяводства ў Польшчы. Гэта першы славянін, за ўсю гісторыю каталіцкай царквы абраны Папай. Ян Павел II з'яўляецца доктарам тэалогіі, аўтарам некалькіх п'ес і паэтычных зборнікаў.

Абранне на апостальскі пасад прадстаўніка ПНР разглядалася ідэалагічнымі службамі ЦК КПСС як узмацненне ўплыву Ватыкана на сацыялістычныя краіны. Сведчаннем гэтага з'явілася пастанова ЦК КПСС "Аб мерах процідзеяння палітыцы Ватыкана ў адносінах сацыялістычных краін", прынятая ў красавіку 1979 г. У разасланай на месцы сакрэтнай запісцы гаварылася аб узмацненні дзейнасці "Радыё Ватыкана", якое шырока выкарыстоўвала матэрыялы аб жыцці вернікаў у СССР. Гэта лічылася адкрытым антысаветызмам, ідэалагічнымі падкопамі імперыялізму. Таму ставілася задача аргументаванага іх выкрыцця. Змест "падкопаў" раскрывае А.Ратоўскі ў выдадзенай у 1987 г. у Кіеве кнізе "Клерыкальнае радыёвяшчанне ў "псіхалагічнай вайне". "Сярод мноства праграм заходніх радыёстанцый значнае месца займаюць рэлігійныя, — адзначае аўтар. — У іх няма нападак на марксізм-ленінізм, рэальны сацыялізм. Але рэлігія, якая імкнецца ўзбуджаць у вернікаў рэлігійны фанатызм, негатывізм у адносінах да тэорыі навуковага атэізму, штучна выклікаць павышаную цікавасць няверуючых да рэлігіі праследуе і палітычныя рэакцыйныя мэты" [45. С. 5].

Актывізавалася антыкаталіцкая кампанія і ў БССР. Пытанням выканання вышэйназванай пастановы быў прысвечаны рэспубліканскі семінар, які адбыўся ў студзені 1980 г. у Гродна. Пачалося чарговае наступленне на дзейнасць каталіцкіх парафій, узмацненне атэістычнай прапаганды. З 5693 лекцый, прачытаных у 1980 г. у Гродзенскай вобласці, каля 50 % прысвячалася праблеме каталіцызму. Перавага аддавалася цыклам лекцый. У шасці раёнах яны праходзілі пад назвай "Каталіцызм і сучаснасць". Каб зменшыць абраднасць хрышчэння, асаблівая ўвага была звернута на работу з цяжарнымі жанчынамі. За 1979 — 1980 гг. у школах будучай маці прайшлі падрыхтоўку 39 973 жанчын. Гэта садзейнічала невялікаму зніжэнню абраднасці. Калі за першае паўгоддзе 1981 г. было ахрышчана 23,2 % нарадзіўшыхся, то за такі ж прамежак 1982 г. — 21,5 % [46. Ф. 1, воп. 86, спр. 45, арк. 7; воп. 77, спр. 88, арк. 376]. Насуперак прымаемым мерам у рэспубліцы назіралася актывізацыя дзейнасці вернікаў-каталікоў, якія патрабавалі рэгістрацыі раней зачыненых рэлігійных аб'яднанняў. Нягледзячы на шматгадовыя

намаганні, не ўдавалася станоўча вырашыць пытанне рэгістрацыі абшчыны ў Мінску, дзе захаваліся будынкі чатырох касцёлаў. Акрамя таго, каталікі дабіваліся адкрыцця касцёла на Кальварыйскіх могілках. Не давяраючы мясцовым уладам, вернікі "пікетавалі" Савет па справах рэлігій у Маскве. Некаторым нават удавалася трапіць на прыём у ЦК КПСС. Але атрымаць дазвол на рэгістрацыю абшчыны так і не ўдалося, нягледзячы на тое, што вакол Кальварыйскага касцёла пад адкрытым небам адбываліся шматлюдныя набажэнствы. Прыезджыя з Польшчы ксяндзы пачалі праводзіць службы на кватэрах.

Цяжка меркаваць, як доўга яшчэ працягвалася б супрацьстаянне вернікаў-каталікоў Мінска з вышэйшымі палітычнымі ўладамі, калі б не вестка аб абранні сталіцы Беларусі месцам правядзення аднаго з групавых футбольных турніраў Алімпіяды-80. Пачалася напружаная работа па падрыхтоўцы спартыўных збудаванняў, гасцініц да прыёму футбалістаў, турыстаў. Каб не ўдарыць перад замежжам "тварам у гразь", пралічвалі ўсё. Было добра вядома, што сярод спартсменаў знаходзілася нямала вернікаў і перад адказнымі спаборніцтвамі яны наведвалі храмы. Лягчэй вырашалася праблема з праваслаўнымі. На той час у горадзе налічваліся дзве царквы. Але якое будзе ўражанне ад сталіцы рэспублікі, якая не мае каталіцкага храма? Склаўшаяся сітуацыя сапраўды не рабіла гонару Беларусі. Трэба было тэрмінова паправіць становішча. Першы сакратар ЦК КПБ, кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС П.Машэраў павёў тэлефонныя перамовы са старшынёй Савета па справах рэлігій пры СМ СССР У.Кураедавым. Праз некаторы час, праігнараваўшы нават праходжанне дакументаў па інстанцыях, Масква зарэгістравала каталіцкае аб'яднанне ў Мінску. У красавіку 1980 г. пачаліся набажэнствы ў Кальварыйскім касцёле [34. С. 185].

Напружанае становішча складвалася і ў іншых месцах рэспублікі, дзе вернікі-каталікі ўсё больш настойліва выступалі з патрабаваннямі рэгістрацыі абшчын. Толькі за 1980 — 1982 гг. у кіруючыя органы паступіла больш за 180 заяў, пад якімі падпісалася 5700 чал. Але ўлады адкрыта парушалі правы чалавека, ігнаравалі патрабаванні вернікаў, хаця ў гэты час у БССР налічвалася 135 пуставаўшых культавых будынкаў, у тым ліку ў Брэсцкай вобласці — 45, у Гродзенскай — 52 і ў Мінскай — 26 [2. Ф. 4, воп. 156, спр. 160, арк. 55 — 68]. Каб надалей не было панадна нікому дабівацца адкрыцця храмаў, ЦК КПБ даручыў

Міністэрству культуры БССР сумесна з аблвыканкамамі правесці абследаванне культавых будынкаў на прадмет іх выкарыстання ў народнагаспадарчых мэтах. Было ўстаноўлена, што 74 будынкі з'яўляюцца прыгоднымі для эксплуатацыі. Пачалося іх "пераабсталяванне" і засяленне. За 1982 — 1983 гг. было занята і адноўлена 28 будынкаў. У в. Вараняны Астравецкага раёна быўшы касцёл пераабсталявалі пад Дварэц культуры, на што затрацілі вялікія для таго часу грошы — 400 тыс. руб. Як і ў ранейшыя часы, у пустуючых культавых будынках размяшчаліся школьныя майстэрні, склады і г.д. У Крывічах частку памяшкання перадалі пад склад спажывецкай кааперацыі, у Свіры — філіялу завода, у Івянецкім "чырвоным" касцёле размясцілі сховішча перыядычных выданняў Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна.

Але не ва ўсіх мясцінах насельніцтва мірылася з чарговай акцыяй улад. Каб не дапусціць "пераабсталявання" закрытых касцёлаў, вернікам не заставалася нічога іншага, як самім адчыняць знятыя з рэгістрацыі храмы. Дваццаць гадоў абаранялі касцёл жыхары в.Тракелі Воранаўскага раёна, пасля таго як у 1968 г. парафія была знята з рэгістрацыі, а касцёл прапанавалі знесці. Аднак будынак застаўся ў руках мясцовых вернікаў. Больш таго, з іх дапамогай касцёл быў адрамантаваны і там рэгулярна праводзіліся набажэнствы. Канфрантацыя працягвалася да жніўня 1988 г., пакуль афіцыйна не было зарэгістравана рэлігійнае аб'яднанне каталікоў у Тракелях [47].

Такая ж сітуацыя склалася з касцёламі в.Германішкі Воранаўскага, Дуды Іўеўскага, Рагозніца Мастоўскага, Старыя Васілішкі Шчучынскага раёнаў і інш. Ва ўмовах напружанай рэлігійнай сітуацыі мясцовыя ўлады адкладвалі пераабсталяванне пустуючых касцёлаў, і яны дзейнічалі без рэгістрацыі [2. Ф. 4, воп. 156, спр. 160, арк. 73]. У такіх дзеяннях мясцовыя ўлады бачылі ўплыў Ватыкана, замежных клерыкальных цэнтраў, якія жадалі "распаліць сярод вернікаў нацыянальныя настроі, фанатызм". Зашораныя ідэалагічныя структуры ЦК КПСС не жадалі бачыць у пратэсце вернікаў барацьбу супраць парушэння права чалавека верыць у хрысціянскія каштоўнасці, нягледзячы на мэтанакіраваную палітыку іх знішчэння. Таму натуральна з актывізацыяй вернікаў-каталікоў з боку Масквы прымаліся адэкватныя прапагандысцкія меры. 2 ліпеня 1984 г. ЦК КПСС накіроўвае на месцы пастанову "Аб мерах па ўзмацненні супрацьдзеяння замежнай антысавецкай каталіцкай прапаганды", а ў

лістападзе — "Аб супрацьдзеянні антыкамуністычным акцыям Ватыкана, яго падрыўной рабоце супраць сацыялістычных дзяржаў, нацыянальна-вызваленчага і антываеннага руху". Мерапрыемствы па іх выкананні праводзілі ЦК, абкамы, гаркамы, райкамы КПБ, на тэрыторыі якіх знаходзіліся касцёлы. Ставілася задача "прааналізаваць уплыў каталіцкіх аб'яднанняў і духавенства на грамадска-палітычнае становішча ў рэгіёнах", "ажыццявіць дадатковыя меры па разаблачэнні спроб зарубежных клерыкальных цэнтраў выкарыстоўваць каталіцызм у антысавецкіх мэтах" і г.д. [4. Ф. 1, воп. 97, спр. 42, арк. 14].

У ходзе прапагандысцкай кампаніі была прапанавана новая спецыялізацыя палітінфарматараў — па пытаннях палітычнага аблічэння імперыялізму. У 1985 г. у БССР іх налічвалася больш 10 тыс. чалавек. Праз універсітэты марксізму-ленінізму пачалася падрыхтоўка рэзерва гэтай катэгорыі ідэалагічных кадраў. Узмацнілася ўвага партыйных арганізацый да пастаноўкі індывідуальнай выхаваўча-прафілактычнай работы. У працоўных калектывах і па месцы жыхарства насельніцтва яе праводзілі 60 % усіх агітатараў.

Наступленне на "клерыкалаў" разгарнулі партыйныя камітэты заходніх абласцей. На Гродзеншчыне ў 1985 г. выкрыванне "падкопаў" Ватыкана, іншых заходніх "клерыкальных" цэнтраў вялі 17 універсітэтаў навуковага атэізму, 161 школа сучасных ведаў аб прыродзе, грамадстве і чалавеку, навукова-атэістычныя лекторыі, клубы чытачоў часопіса "Наука и религия". Тым не менш у той час у вобласці прайшлі спавяданне каля 203 тыс. чал., з іх 6 тыс. непаўналетніх. 10 чэрвеня 1986 г. адбылася абласная нарада, якая разгледзела пытанне контрпрапаганды і палітычнай пільнасці. З дакладам выступіў першы сакратар абкама КПБ Л.Кляцкоў. Галоўны вывад прамоўцы заключаўся ў тым, што "рэлігія прыстасоўваецца хутчэй да сучасных умоў жыцця, чым мы вядзем барацьбу з яе выкрываннем" [4. Ф. 1, воп. 97, спр. 42, арк. 14]. Канстатавалася пасіўнасць мясцовых савецкіх органаў, ідэалагічных работнікаў у адносінах да свяшчэннаслужыцеляў, якія вялі падрыўную прапаведніцкую работу сярод насельніцтва. А "падрыўныя" дзеянні ксяндзоў заключаліся ў тым, што ў сваіх пропаведзях яны выказвалі думку аб тым, што атэізм насільна навязаны насельніцтву, а амаральныя ўчынкі людзей народжаны бязбожжам. У віну мясцовым партыйным арганізацыям ставілася запушчанасць выхаваўча-прафілактычнай работы з асобамі і сем'ямі

вернікаў, якія падтрымлівалі кантакты з родзічамі ў Польшчы.

На 1 студзеня 1986 г. у Беларусі налічвалася 86 зарэгістраваных парафій. Многія знятыя з уліку працягвалі працаваць без ксяндзоў. Гэтаму садзейнічалі дзеянні соцень актывістаў, якія смела выступалі ў абарону сваіх правоў на свабоду веравызнання, трымалі ключы ад храмаў, не давалі магчымасці ўладам выкарыстоўваць іх у якасці складскіх памяшканняў, культурна-асветных устаноў. На гэтай глебе ў некаторых месцах склалася напружанае становішча, але ўлады баяліся перайсці небяспечную мяжу. Усё гэта сведчыла аб бесперспектыўнасці палітыкі згортвання рымска-каталіцкіх парафій, якая на працягу многіх гадоў не давала плёну і зайшла ў тупік. Ідэалагічным службам КПСС — КПБ заставалася прыкрываць свае промахі прапагандысцкімі размовамі аб падбухторваючых дзеяннях Ватыкана. "Вінаватыя" былі не падбухторшчыкі, а глыбокая адданасць насельніцтва хрысціянскім каштоўнасцям.

"Застойны" перыяд вызначаўся складанасцямі ў жыцці пратэстанцкіх аб'яднанняў. Частка з іх працягвала выступаць супраць савецкага заканадаўства аб рэлігійных культах, вяла нелегальны лад жыцця. З гэтай катэгорыяй вернікаў, іх кіраўнікамі мясцовыя ўлады, абласныя ўпаўнаважаныя па справах рэлігіі вялі карпатлівую работу. Акрамя прафілактычных мер праводзіўся жорсткі кантроль, скіраваны на зрыў іх дзейнасці. Вернікам не дазвалялі збірацца на малітоўныя сходы, аб іх паведамлялі па месцы працы, арганізатараў прыцягвалі да адказнасці. Разам з работнікамі Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў БССР, іх упаўнаважанымі ў абласцях барацьбу з нелегальнымі арганізацыямі праводзілі органы КДБ. Па прызнанні ўпаўнаважанага па справах рэлігій Мінскага аблвыканкама І.Плахатнюка, Камітэт і яго супрацоўнікі атрымалі мянушку "суседзі". "Не стану абагульняць, але магу цвёрда заявіць, што супрацоўнікі абласнога ўпраўлення, якія курыравалі пытанні рэлігіі, дарма хлеб не елі, — канстатуе былы ўпаўнаважаны. — Яны ведалі, што адбываецца ў кожнай канфесіі, маглі папярэдзіць любыя неспадзяванасці, адначасова вялі прафілактыку, выклікалі, папярэджвалі. Калі-нікалі прасілі нас нешта вывучаць, з некім пагутарыць" [34. С. 196].

На 1 студзеня 1966 г. у БССР налічвалася 149 зарэгістраваных абшчын ЕХБ з колькасцю вернікаў 11 960 чал. Без рэгістрацыі працавалі 128 рэлігійных аб'яднанняў з 4990 вернікамі. Ся-

род іх было 19 прыхільнікаў РЦ ЕХБ, у якую ўваходзіла 1600 чал. [2. Ф. 4, воп. 62, спр. 696, арк. 59].

Адразу пасля прыняцця Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР "Аб адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці за парушэнні заканадаўства аб культах" узмацнілася праследаванне прыхільнікаў РЦ ЕХБ. Ужо ў 1967 г. у рэспубліцы да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута 76 чалавек, да крымінальнай — 4. Гэта палітыка вызначалася заклікам, які прагучаў у дакладзе на спецыяльна праведзенай нарадзе Гродзенскага абкама КПБ: "Папіранню савецкіх законаў з боку сектантаў-раскольнікаў, іх антызаконным дзеянням павінен быць дадзены рашучы адпор з выкарыстаннем усіх прадастаўленых нам заканадаўчых правоў і магчымасцяў. Ніякага патурання з боку адміністрацыйных органаў парушальнікам заканадаўства не павінна быць" [46. Ф. 1, воп. 97, спр. 42, арк. 15].

Аднавіліся судовыя працэсы над больш актыўнымі кіраўнікамі абшчын. Былі асуджаны важакі ваўкавыскіх прыхільнікаў РЦ ЕХБ браты Арцюхі, а таксама М.Шлык. У 1969 г. у Зэльве адбыўся гучны судовы працэс над кіраўнікамі абшчыны в.Бародзічы М.Шугала і М.Лазута. У ходзе дазнання ў іх была забрана літаратура, якая распаўсюджвалася нелегальным цэнтрам РЦ, а таксама амерыканскі часопіс з антысавецкімі артыкуламі і вершамі. Падсудныя атрымалі па пяць гадоў пазбаўлення волі. Судовыя працэсы праводзіліся і ў іншых раёнах і гарадах рэспублікі.

Разгарнулася кампанія паклёпу на прасвітараў, якія падтрымлівалі РЦ ЕХБ. З гэтай мэтай шырока выкарыстоўваліся магчымасці мясцовага друку. На яго старонках з'яўляліся карэспандэнцыі, якія выкрывалі "крывадушнасць" сектанцкіх важакоў, іх мінулую дзейнасць і г.д. Але ні адміністрацыйны ўціск, ні шалёная прапаганда не маглі змяніць становішча спраў. Колькасць аб'яднанняў, якія падтрымлівалі нелегальны цэнтр, павялічвалася. У 1979 г. на яго платформе знаходзіліся 26 абшчын і груп, якія аб'ядноўвалі больш за 1600 чалк. Як і раней, яны выступалі з крытыкай многіх канстытуцыйных палажэнняў, дабіваліся адмены існаваўшага заканадаўства аб культах. Пазіцыю гэтых кіраўнікоў адлюстравала выказванне прасвітара абшчыны в. Лапуты Докшыцкага раёна В. Гаўрыловіча: "Мы жывем па божых законах, а заканадаўства аб культах супярэчыць гэтым законам, таму мы яго не прызнаем. Наша заслуга ў тым, што мы адрадзілі дух царквы, не сталі баяцца

праследаванняў і ганенняў... Вы жадаеце адарваць нас ад Рады цэркваў, але мы не будзем здраджваць ёй" [48. С. 30].

Да пачатку 70-х гг. у асяроддзі евангельскіх хрысціян адбываліся складаныя працэсы. Частка абшчын ХВЕ была зарэгістравана і працавала ў Саюзе ЕХБ, іншыя не ішлі на рэгістрацыю, адкрыта выступалі супраць палітыкі ўлад. У гэтых аб'яднаннях стала традыцыяй прысутнасць на службах дзяцей, дзе яны спявалі рэлігійныя песні, чыталі вершы, удзельнічалі ў тэатральных інсцэніроўках. Таму акрамя мер адміністрацыйнага ўздзеяння ўлады прыкладалі намаганні, каб правесці сярод іх так званую аўтаномную рэгістрацыю. За 1975 — 1979 гг. было зарэгістравана 16 рэлігійных аб'яднанняў. Але заставаліся абшчыны і групы, якія цвёрда стаялі на пазіцыях нелегальнага жыцця.

Нягледзячы на складаныя ўмовы дзейнасці, з кожным годам станавілася ўсё больш выразнай тэндэнцыя папаўнення радоў ЕХБ за кошт моладзі. Калі ў 1975 г. у гэтыя суполкі ўлілося 296 чал., то ў 1978 г. воднае хрышчэнне прайшлі 485 вернікаў. Асабліва вялікі прыём назіраўся ў абшчынах ЕХБ Брэсцкай (280 чал.) і Мінскай (117 чал.к) абласцей. У ліку прынятых было 170 юнакоў і дзяўчат. Упаўнаважаны па справах рэлігіі А. Залескі прычыну такога становішча бачыў у дзеяннях новага пакалення служыцеляў культу і прапаведнікаў. "Зараз у многіх абшчынах, асабліва ў гарадскіх і буйных сельскіх, тон задае моладзь з сярэдняй адукацыяй, — адзначаў ён. — Маладыя людзі, закончыўшыя музычныя школы, іграюць на музычных інструментах, спяваюць, сачыняюць рэлігійныя вершы, нават паэмы, некаторыя з іх валодаюць артыстычнымі дадзенымі. Усё гэта прыўносіцца ў набажэнствы, у дзейнасць баптысцкіх абшчын" [48. С. 27].

Такая практыка садзейнічала далейшаму росту арганізацый ЕХБ. З 1965 па 1985 г. яны прынялі ў свае рады 7527 вернікаў. Папаўненне, якое склала 62 % ад агульнай колькасці прынятых, ішло галоўным чынам за кошт сектанцкіх сем'яў. З іх 31,4 % з'яўляліся праваслаўнымі, 6 % — атэістамі і вернікамі іншых канфесій, 0,6 % — каталікамі. Патрэбна адзначыць, што колькасць праваслаўных, прыняўшых пратэстантызм, мела тэндэнцыю да скарачэння. Калі ў 1975 — 1979 гг. доля праваслаўных, уступаючых у абшчыны евангельскіх хрысціян-баптыстаў, складала 40,3 %, то ў 1981 — 1985 гг. гэты паказчык скараціўся да 33 %. Абнадзейвала тое, што 44 % нанава прынятых складала моладзь. Павялічвалася колькасць

зарэгістраваных абшчын — ад 143 у 1970 г. да 217 у 1985 г. [41].

Абшчыны ЕХБ праводзілі вялікую работу па пабудове цэркваў, усё часцей адмаўляючыся ад арэндуемых памяшканняў. Улады як маглі забаранялі правядзенне будаўнічых работ. Тым не менш і сярод мясцовых кіраўнікоў знаходзіліся людзі, якія, ахвяруючы сваім службовым становішчам, не "заўважалі" вядзення будоўлі. У цяжкіх умовах знаходзіліся вернікі абшчыны ЕХБ у Мінску. Малітоўны дом, разлічаны на 250 чал., ніяк не мог умясціць 700. Месца дазваляла рэканструяваць і пашырыць памяшканне. Кіраўнікі абшчыны падрыхтавалі дакументацыю, знайшлі падрадчыка, узгаднілі пытанне з райвыканкамам і архітэктурным упраўленнем гарвыканкама. Патрабавалася яшчэ віза і вышэйстаячай арганізацыі. Але дзе знойдзеш савецкую арганізацыю, якая завізавала б рэканструкцыю малітоўнага дома сектантаў? Як успамінае І.Плахатнюк, ён адважыўся на такі крок, паставіўшы на дакуменце свой подпіс і пячатку. Будаўніцтва разгарнулася. Калі будынак быў узведзены, пачаліся разборкі. Некалькіх чалавек знялі з работы, панізілі на пасадзе, некаторым аб'явілі вымову [34. С. 189]. Тым не менш вернікі атрымалі добрае культавае збудаванне.

У 1984 г. быў пабудаваны малітоўны дом на 1200 месцаў у Брэсце. У свой час ён з'явіўся самым буйным у Еўропе. Пасля гэтага нязменны на працягу 16 гадоў першы сакратар гаркама КПБ У. Самовіч, які "ведаў сітуацыю", але не адмяніў будаўніцтва, застаўся без пасады. Усяго за 1980 — 1986 гг. у БССР былі ўзведзены 33 новыя малітоўныя дамы і 27 рэканструяваны, у тым ліку ў Гомелі, Магілёве, Бабруйску, Лідзе, Валожыне, Маладзечна, іншых гарадах рэспублікі [10. С. 394].

Неабходна адзначыць і складаныя ідэалагічныя ўмовы, у якіх працавала зарэгістраваная іудзейская абшчына ў Мінску. Палітыка дзяржаўнага антысемітызму, якая разгарнулася з канца 60-х гг., перашкаджала адкрыццю ў БССР новых іудзейскіх абшчын. Але і ў такіх абставінах працягвалі дзейнічаць нелегальныя рэлігійныя арганізацыі.

У больш спакойных умовах працавала мусульманская суполка ў Іўі. Мясцовыя ўлады ўскладвалі вялікія спадзяванні на яе хуткі развал.

Як бачна, гады кіравання Л.Брэжнева і яго паслядоўнікаў азнаменаваліся далейшым наступленнем на рэлігійнае жыццё. Да сярэдзіны 80-х гг. ахоўна-забаронная палітыка цалкам сябе вычарпала. Больш таго, праблемы ў галіне дзяржаўна-

царкоўных адносін, якія не вырашаліся дзесяцігоддзямі, стваралі сацыяльную напружанасць у грамадстве. Усё большая колькасць вернікаў выступала ў абарону свайго права на свабоду веравызнання. Іх дзеянні кваліфікаваліся як антыграмадскія, якія ішлі насуперак савецкаму заканадаўству аб культах. Праявы рэлігійнага экстрэмізму мелі месца ў праваслаўнай і каталіцкай цэрквах, але больш за ўсё яны знайшлі распаўсюджванне сярод членаў сектанцкіх абшчын. Ідэалогія і практыка рэлігійнага экстрэмізму тлумачылася "крызісам" рэлігіі ва ўмовах сацыялістычнага грамадства. Але, нягледзячы на масіраваную атэістычную работу, ідэалагічны ўціск, колькасць вернікаў узрастала. Рэлігійныя абшчыны папаўняліся інтэлігенцыяй і моладдзю, якая заканчвала сярэднія агульнаадукацыйныя школы. Такая тэндэнцыя сведчыла аб тым, што рэлігійная свядомасць усё глыбей укаранялася сярод насельніцтва. Гэта быў вынік не толькі мэтанакіраваных намаганняў саміх рэлігійных арганізацый, але і глыбінных працэсаў, якія адбываліся ў грамадстве. Ідэалагічныя службы КПСС — КПБ знаходзіліся перад неабходнасцю карэннага пераасэнсавання нарастаўшых праблем, перагляду дзяржаўна-канфесіянальных адносін.

## 6.4. РЭЛІГІЯ Ў СУЧАСНЫМ БЕЛАРУСКІМ ГРАМАДСТВЕ

Абранне ў сакавіку 1985 г. на пасаду Генеральнага сакратара ЦК КПСС М.Гарбачова не прынесла радыкальных змяненняў у адносіны дзяржавы да канфесій. Першы пленум ЦК, які адбыўся пад яго кіраўніцтвам у красавіку таго ж года, паставіў пытанне не толькі аб скліканні XXVII з'езда партыі, неабходнасці распрацоўкі і прыняцця новай праграмы КПСС, але і аб узмацненні ідэалагічнай работы. "Увага да гэтага ўчастка зразумела, ёсць і рух наперад, — заявіў М.Гарбачоў. — Але, думаю, зроблена яшчэ далёка не ўсё, каб ідэалагічная работа была цяснейшым чынам звязана з жыццём" [49. Т. 2. С. 166]. Партыйныя камітэты ўспрынялі гэта як патрабаванне актывізацыі атэістычнай прапаганды. Шырокае кола ўстановак на "выжыванне" рэлігійнасці са свядомасці людзей утрымлівала праграма КПСС, прынятая на XXVII з'ездзе партыі (1986 г.). У спецыяльным падраздзеле "Атэістычнае выхаванне" ставілася задача ўсімі сродкамі ідэйнага ўплыву дабівацца пераадолення рэлігійных забабонаў, шырокага распаўсюджвання новых савецкіх аб-

радаў і звычаяў. Як і ў сталінскія часы, у прынятым статуце ў абавязак члена партыі ставілася неабходнасць весці рашучую барацьбу "з рэлігійнымі забабонамі і іншымі чужымі сацыялістычнаму ладу жыцця поглядамі і норавамі" [50. С. 190].

Па традыцыі савецкіх часоў пасля абмеркавання вынікаў з'езду на месцах узмацніліся атэістычная прапаганда, уціск правоў вернікаў. Канфрантацыя партыйна-дзяржаўных структур з рэлігіяй працягвалася.

Нягледзячы на шматгадовыя атэістычныя намаганні, у грамадстве пашыралася кола веруючых людзей. Даныя сацыялагічных даследаванняў паказалі, што ў сярэдзіне 80-х гг. колькасць вернікаў у Мінску складала каля 10 % ад агульнай колькасці насельніцтва, у іншых гарадах гэты паказчык вагаўся ад 5 да 15 %. У рэспубліцы заставаўся вялікім узровень рэлігійнай абраднасці. З 166 520 нованароджаных, якія нарадзіліся ў 1985 г., было ахрышчана 24 595, што складала 14,7 % ад іх агульнай колькасці. Не змяншалася і такая абраднасць, як вянчанне. У 1984 г. з 93 304 зарэгістраваных шлюбаў 1434 былі замацаваны рэлігійным шляхам. Гэта складала 1,7 % ад агульнай колькасці заключаных саюзаў [52].

Аварыя на Чарнобыльскай АЭС, замоўчванне з боку КПСС — КПБ яе вынікаў, складанае становішча, у якім апынуліся многія людзі, садзейнічалі павелічэнню колькасці наведвальнікаў храмаў, масаваму хрышчэнню не толькі дзяцей, але і дарослых. У дні вялікіх рэлігійных свят усе цэрквы, касцёлы, малітоўныя дамы запаўняліся да адказу, што сведчыла аб захаванні ў народзе рэлігійных традыцый. Ва ўмовах набіраўшай сілу галоснасці прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі, партыйныя камітэты ўжо не маглі прыпыніць гэты працэс. Пачалося пераасэнсаванне месца і ролі рэлігіі ў жыцці грамадства. Многае ў гэтым кірунку рабілі сродкі масавай інфармацыі. Яны выступалі з патрабаваннямі свабоды веравызнанняў, адкрыцця храмаў. У гэты час з'явіліся першыя публікацыі, якія раскрывалі трагічныя старонкі з жыцця духавенства, вернікаў у гады барацьбы з царквой.

Новыя падыходы да становішча вернікаў і іх арганізацый у грамадстве, узаемаадносін дзяржавы і царквы намеціліся пасля сустрэчы М.Гарбачова з Патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі Піменам, членамі Сінода Рускай праваслаўнай царквы, якая адбылася 29 красавіка 1988 г., напярэдадні святкавання 1000-годдзя Хрышчэння Русі. Многім яна нагадвала сустрэчу Сталіна ў верасні 1943 г. з кіраўніцтвам РПЦ. Розніца

заключалася ў тым, што тады "бацька народаў" сустракаўся з Сергіем па сваёй ініцыятыве. Зараз жа сустрэча адбылася па пісьмовай просьбе Сінода, які прадставіў Генеральнаму сакратару мемарандум аб праследаванні царквы ў СССР. Вышэйшыя іерархі прасілі перагледзець адносіны дзяржавы да рэлігійных арганізацый, устанавіць роўныя грамадзянскія і палітычныя правы вернікаў і атэістаў. Гэта была нялёгкая задача для М.Гарбачова. Тым не менш ідэя перагляду дзяржаўна-царкоўных адносін дамінавала ў афіцыйнай частцы сустрэчы. "Веруючыя — гэта савецкія людзі, працоўныя, патрыёты, — заявіў у выступленні М.Гарбачоў, — і яны маюць поўнае права з годнасцю выражаць свае перакананні" [49. Т. 6. С. 203].

Праблема свабоды веравызнання знайшла адлюстраванне ў рабоце XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, якая адбылася ў чэрвені — ліпені 1988 г. У дакладзе Генеральнага сакратара было заяўлена, што адносіны КПСС да рэлігійнага светапогляду як нематэрыялістычнага, ненавуковага не даюць высноў "для непаважлівых адносін да духоўнага свету веруючых людзей і тым больш — прымянення якога б то ні было адміністрацыйнага ўціску для ўсталявання матэрыялістычнага погляду " [52. С. 42]. Гэта была ўстаноўка на дэмакратызацыю рэлігійнага жыцця, пазбаўленне ідэалагічных ланцугоў.

Аб змене палітыкі да рэлігійных арганізацый сведчылі не толькі вынікі работы партыйнай канферэнцыі, але і святкаванне 1000-годдзя Хрышчэння Русі. У БССР, як і ў цэлым па краіне, упершыню за гады савецкай улады юбілей прайшоў без ідэалагічнага ўціску, выліўся ў свята як вернікаў, так і атэістаў. Ідэалагічная машына пачала збаўляць абароты.

Пераасэнсаванне многіх стэрэатыпаў карэнным чынам мяняла становішча канфесій у грамадстве, узаемаадносіны дзяржавы і царквы. Новыя ўмовы развіцця рэлігійных арганізацый садзейнічалі таму, што многія вернікі перасталі скрываць свае перакананні, актыўна ўключыліся ў жыццё тых ці іншых рэлігійных арганізацый. Этнасацыялагічныя даследаванні, праведзеныя ў БССР, паказалі, што за 1988 — 1989 гг. удзельная вага веруючых павялічылася амаль у 2 разы. Кожны чацвёрты апытаны беларус у 1989 г. быў веруючым.

Актывізацыі рэлігійнага жыцця спрыялі сыход з палітычнай арэны КПСС — КПБ, абвяшчэнне палітычнай і эканамічнай незалежнасці новай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь, якая канстытуцыйна гарантавала ўсім грамадзянам

свабоду сумлення і веравызнання. Гэта стварыла шырокую прававую аснову для дэідэалагізацыі і плюралізму духоўнага жыцця, светапогляду і жыццёвых ўстановак кожнай асобы.

Грунтуючыся на гістарычных нацыянальных традыцыях народа Беларусі, зыходзячы з прынцыпаў дэмакратызму, гуманізму, пераемнасці і святасці духоўнай культуры, 19 снежня 1991 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Закон "Аб святочных днях у Рэспубліцы Беларусь". Былі прызнаны нерабочымі (святочнымі) дні вялікіх рэлігійных свят па календары праваслаўнай і каталіцкай канфесій: Вялікдзень (Пасха) — дзень першы: Вялікдзень (Пасха) — дзень другі; па календары праваслаўнай канфесіі — Радаўніца; 2 лістапада — Дзень памяці; 25 снежня і 7 студзеня — Нараджэнне Хрыстова (каталіцкія і праваслаўныя каляды) [53. С. 7].

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб парадку вызначэння нерабочых дзён для вернікаў нехрысціянскіх рэлігій у сувязі з іх святамі" (студзень 1992 г.) нерабочыя дні рабочым і служачым прадастаўляюцца па ўзгадненні з адміністрацыяй прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый для святкавання рэлігійных свят па іудзейскім (Вялікдзень — першы і апошні дні; Рош-Ашана; Іош Кіпур і мусульманскім каляндарах (Рамазан, Ураза-Байрам, Курбан-Байрам і Маўлід).

Прававым адлюстраваннем новай палітыкі суверэннай дзяржавы да царквы з'явіўся Закон "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях", прыняты ў снежні 1992 г. [54]. Гэта сукупнасць нарматыўных актаў, якія даюць кожнаму грамадзяніну права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, асабіста або сумесна з іншымі спавядаць любую рэлігію ці не спавядаць ніякай, выказваць і распаўсюджваць перакананні, звязаныя з адносінамі да рэлігіі.

Закон вызначае новыя прынцыпы адносін дзяржавы да рэлігіі. Яны заключаюцца ў тым, што дзяржава бярэ на сябе шэраг абавязкаў, звязаных з прызнаннем існавання і дзейнасці рэлігійных арганізацый, садзейнічае ўстанаўленню адносін цярпімасці і павагі паміж грамадзянамі, якія вызнаюць рэлігію ці не вызнаюць яе, рэлігійнымі арганізацыямі розных веравызнанняў, а таксама паміж іх паслядоўнікамі. Абвяшчаючы аддзяленне царквы ад дзяржавы, закон надае царкве сапраўдную самастойнасць, прызнае за ёй надзейнае месца ў жыцці грамадства, а таксама падкрэслівае, што дзяржава не ўскладае на рэлігійныя арганізацыі выкананне

якіх-небудзь дзяржаўных функцый, не ўмешваецца ў дзейнасць рэлігійных арганізацый, калі яна не супярэчыць заканадаўству.

Новае заканадаўства карэнным чынам змяніла палітыку і пытанні рэгістрацыі рэлігійных абшчын. Калі раней ні адна з іх не магла распачаць рэлігійную дзейнасць без рэгістрацыі самой абшчыны, што праводзілася з вялікімі цяжкасцямі і правапарушэннямі, то ў цяперашні час рэгіструюцца толькі статуты гэтых арганізацый дзеля атрымання правоў юрыдычнай асобы. Сёння абшчына можа ствараццa, дзейнічаць і без рэгістрацыі статута, але не мае права адкрываць рахунак у банку, атрымліваць альбо арандаваць будынак і г.д.

Прынцыпова новым падыходам да дзейнасці рэлігійных арганізацый з'явілася прадастаўленне ім правоў уласнасці і юрыдычнай асобы, разгортвання вытворчай і гаспадарчай дзейнасці.

Прыняты закон гарантуе аддзяленне школы ад царквы і абвяшчае свецкі характар сістэмы дзяржаўнай адукацыі. У той жа час, зыходзячы з дэмакратычных прынцыпаў, ён прадастаўляе бацькам альбо асобам, якія іх замяняюць, выхоўваць сваіх дзяцей у адпаведнасці з уласнымі адносінамі да рэлігіі. Гэта адна з важнейшых заваёў у пытаннях свабоды веравызнання. У савецкі час грамадзяне, якія выхоўвалі дзяцей на аснове сваіх рэлігійных перакананняў, маглі быць пазбаўлены бацькоўскіх правоў.

Прыняцце дэмакратычнага заканадаўства аб свабодзе сумлення і веравызнання садзейнічала выхаду канфесій з паднявольнага становішча, актывізацыі ўсіх цэркваў у рэлігійнай, адукацыйнай, культурнай, благачыннай сферах. Такія ўмовы садзейнічаюць далейшаму павышэнню рэлігійнасці насельніцтва і разбурэнню атэізму. У значнай меры гэты працэс супараўнальны з паслярэвалюцыйным перыядам, калі адбываўся адыход насельніцтва "ад рэлігіі да атэізму". Зараз назіраецца другі ўдар "духоўнага маятніка", які хіснуўся ў адваротны бок. Аб актыўным звароце насельніцтва да рэлігіі сведчыць супастаўленне даных сацыялагічных даследаванняў, праведзеных у Гомельскай вобласці з інтэрвалам у пяць гадоў. Калі ў лістападзе 1989 г. да ліку атэістаў адносілі сябе 65 %, то ў верасні 1994 г. іх было ўжо толькі 35,2 %, альбо на 30 % менш. Сярод рэспандэнтаў значна павялічылася колькасць вернікаў — з 22 % у 1989 г. да 43,4 % у 1994 г. Пры гэтым рэлігійнасць сярод жанчын была вышэйшай, чым сярод мужчын (54,6 супраць 33,3 %). Адзначым, што калі ў ста-

рэйшых узроставых групах доля вернікаў сярод жанчын была прыкладна ў 1,5 — 2 разы вышэй, чым сярод мужчын, то сярод моладзі прыхільнасць да рэлігіі размеркавана паміж поламі фактычна раўнамерна [55. С. 9 — 10].

"Рэлігійнаму рэнесансу" садзейнічае не толькі перагляд царкоўна-дзяржаўных адносін. У сучасных умовах для значнай часткі грамадства прываблівым фактарам з'яўляецца тое, што рэлігія ставіць у цэнтр увагі маральны абсалют, агульначалавечыя каштоўнасці, а не класавую мараль "рэвалюцыйнай мэтазгоднасці". Таму сярод людзей расце пераканание, што апору маральных паводзін, культурных традыцый, адраджэння грамадства трэба шукаць сярод рэлігійных каштоўнасцяў. Узмацненне гэтага працэсу выклікана негатыўнай рэакцыяй на дагматычны, вульгарны атэізм, які на працягу доўгіх гадоў з'яўляўся састаўляючай ідэйна-выхаваўчай работы КПСС. Вера ў Бога ўспрымаецца сёння як свабода мышлення чалавека, незалежнага ад афіцыйных ідэалагічных догмаў.

Павышэнне цікавасці да рэлігіі звязана і з цяжкасцямі сучаснага сацыяльнага жыцця. Крызіс эканомікі, пачуццё разгубленасці і няўпэўненасці ў заўтрашнім дні, матэрыяльныя цяжкасці актуалізуюць рэлігійныя ўяўленні ў свядомасці людзей, прыводзяць іх у суполкі канфесій. Адбываецца складаная пераарыентацыя атэістычнага светапогляду на рэлігійны. У гэтым працэсе назіраюцца і моманты моды, эклектызму, калі "новыя веруючыя" спалучаюць у сабе элементы веры і бязвер'я. Для іх важныя не глыбокія веды рэлігійных вучэнняў, а вонкавыя, нярэдка паказныя рэлігійныя атрыбуты, такія як нашэнне нацельных крыжыкаў, набыццё рэлігійных кніг, ікон, наведванне набажэнстваў, правядзенне абрадаў хрышчэння і г.д.

Дэмакратызацыя грамадскага жыцця садзейнічала росту рэлігійных аб'яднанняў. На пачатак 1997 г. налічвалася 2120 абшчын розных рэлігійных кірункаў супраць 842 у 1988 г. Колькасць канфесій за гэты час вырасла з 8 да 26. Гэта прывяло да стварэння поліканфесіянальнай структуры ў беларускім грамадстве, чаго не назіралася раней. Інтэнсіўнасць роста не аднолькавая для ўсіх канфесійных кірункаў. Вызначаюцца ў гэтым плане праваслаўная і каталіцкая цэрквы і пратэстанты. Характэрным для іх з'яўляецца тое, што каля трэці афіцыйна зарэгістраваных абшчын знаходзіцца ў заходнебеларускай вёсцы. Таму з усталяваннем свабоды веравызнання яны перайшлі да місіянерскай дзейнасці на ўсходнебеларускіх тэрыторыях. Гэта садзейнічае таму, што ў

структуры названых канфесій доля заходнебеларускіх абшчын хоць і павольна, але змяншаецца.

Склаўшаяся поліканфесіянальнасць узмацняе канкрэтную барацьбу за сферы ўплыву, паству, лідэрства ў нацыянальным адраджэнні. На гэта прэтэндуюць Беларуская праваслаўная, рымска-каталіцкая і уніяцкая цэрквы. Некаторымі рэлігійнымі і палітычнымі арганізацыямі высоўваецца ідэя аб'яднання ўсіх хрысціянскіх цэркваў на Беларусі ў Федэратыўную царкву на чале з адзіным кіраўніком.

Сярод канфесій па колькасці вернікаў і прыходаў першае месца займае Беларуская праваслаўная царква. За 1986 — 1996 гг. лік яе рэлігійных аб'яднанняў павялічыўся з 369 да 964, альбо ў 2,5 раза. Толькі ў 1995 г. пачалі дзейнічаць 36 новых прыходаў, у 1996 г. — 26. Многія зарэгістраваныя абшчыны, асабліва ва ўсходніх рэгіёнах, сутыкнуліся з цяжкасцямі, звязанымі з адсутнасцю храмаў. У 1995 г. у Віцебскай епархіі, напрыклад, з 50 прыходаў дзейнічалі толькі 35. Большасць з іх не мела культавых будынкаў, а праводзіла набажэнствы ў арэндаваных ці прыстасаваных для гэтых мэт памяшканнях, а 15 абшчын не мелі нават і такіх умоў. Таму іх дзейнасць з'яўлялася фармальнай.

Нягледзячы на значныя колькасныя змяненні ў БПЦ, у канцы 90-х гг. нават па фармальных прыкметах Беларусь згубіла свой пераважна праваслаўны характар. Упершыню з 1838 г. колькасць афіцыйна зарэгістраваных прыходаў РПЦ стала меншай, чым колькасць зарэгістраваных абшчын двух другіх вядучых канфесій — рымска-каталіцкай і пратэстанцкай. На 1 студзеня 1997 г. іх налічвалася адпаведна 389 і 664 [56. С. 14; 57. С. 104]. За 1996 г. былі зарэгістраваны 62 пратэстанцкія абшчыны, больш, чым ва ўсіх астатніх канфесіях разам узятых. Пры захаванні такой тэндэнцыі ў бліжэйшыя гады пратэстанты абыйдуць БПЦ па колькасці афіцыйна зарэгістраваных абшчын.

Важным у жыцці праваслаўнай царквы на Беларусі быў перыяд канца 80-х гг., калі ў масавым парадку сталі адчыняцца прыходы. Гэта адбывалася ва ўмовах барацьбы з многімі партыйнымі і савецкімі работнікамі, якія па інерцыі бачылі ў праваслаўных абшчынах заклятага ворага. У гэты час саюзнікам вернікаў выступілі Саветы па справах рэлігій у Мінску і Маскве, якія ішлі насуперак патрабаванням партыйных і савецкіх органаў не рэгістраваць тыя ці іншыя прыходы. На працягу больш 20 гадоў змагаліся за адкрыццё храма вернікі в. Беражное Столінскага раёна. Закрытая ў пачатку 60-х гг. царква,

драўляны будынак які з'яўляўся помнікам архітэктуры абласнога значэння, перадалі ў распараджэнне Столінскага райвыканкама. Першапачаткова планавалася пераабсталяваць яе пад клуб. Але амаль на працягу 20 гадоў ніякіх мер у гэтым кірунку не прадпрымалася. У 1986 г. нарадзілася новая ідэя — размясціць у царкоўным будынку філіял Столінскага краязнаўчага музея. Пачаліся рамонтныя і рэстаўрацыйныя работы. Вось чаму Столінскі раённы і Брэсцкі абласны выканаўчыя Саветы рэзка адмоўна аднесліся да просьбы вернікаў. У адказ мясцовыя жыхары выказалі жаданне цалкам аплаціць затраты, панесеныя органамі культуры вобласці на рамонтныя і рэстаўрацыйныя работы. Нягледзячы на нязгоду мясцовых органаў, 20 верасня 1988 г. Савет па справах рэлігій вярнуў вернікам царкву і зарэгістраваў абшчыну [47].

З 1986 г. па 1996 г. дзяржава перадала праваслаўным абшчынам 334 культавыя будынкі. У 1996 г., напрыклад, была задаволена просьба Віцебскай епархіі аб перадачы ёй будынка былога духоўнага вучылішча ў Віцебску. Гродзенскі жаночы манастыр атрымаў шэраг памяшканняў Рэспубліканскага музея рэлігіі, культавыя будынкі былі вернуты прыходам в.Бараўцы і Суднікі Вілейскага, Плебань Маладзечанскага раёнаў, а ў Талочыне — будынак былога жылога корпуса базільянскага манастыра. На пачатак 1997 г. дзейнічалі 804 праваслаўныя царквы, 60 знаходзіліся ў стадыі будаўніцтва.

Ва ўмовах канкурэнцыі за паству праваслаўныя святары не ўпускаюць магчымасці працаваць у шпіталях, ва ўстановах Міністэрства ўнутраных спраў.

У кастрычніку 1989 г. былі адроджаны Полацкая, Магілёўская і Пінская епархіі, у студзені 1990 г. — аднаўлена Гомельская і заснавана Брэсцкая кафедры, у кастрычніку 1991 г. заснавана Навагрудская і Гродзенская, а ў маі 1992 г. — Тураўская і Віцебская кафедры. Усе дзесяць епархій уваходзяць ў склад заснаванага ў 1990 г. Беларускага экзархата Рускай Праваслаўнай царквы. Другое афіцыйнае найменне Беларускага экзархата — Беларуская праваслаўная царква (БПЦ). Кіраўніцтва ажыццяўляе Сінод на чале з Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усея Беларусі Філарэтам.

Працягваецца працэс адраджэння манастыроў. 30 гадоў пуставаў закрыты Спаса-Еўфрасіннеўскі жаночы манастыр у Полацку. Трэцяга ліпеня 1992 г. з Жыровіч у абіцель вярнулася першая група манашак. Зноў ён становіцца ачагом

асветы, міласэрнасці, такім, якім яго стварыла Еўфрасіння — ігуменя Полацкая, якая шмат зрабіла для духоўнай асветы роднага краю. На пачатак 1997 г. у Беларусі налічвалася пяць мужчынскіх і шэсць жаночых манастыроў, дзе неслі паслушанне 81 манах і 135 манашак. Сем праваслаўных брацтваў праводзяць работу па будаўніцтве і рамонце храмаў, аказанні дабрачыннай дапамогі адзінокім састарэлым людзям, уходу за хворымі па месцы жыхарства, арганізацыі брацкіх хароў, садзейнічанні паломнікам, стварэнні нядзельных школ, арганізацыі брацкіх бібліятэк, ажыццяўленні выдавецкай дзейнасці.

Значную работу праводзяць два сястрыцтвы, створаныя ў Мінску, грамадствы міласэрнасці ў імя святой праведнай Сафіі Слуцкай і ў імя святых Марфы і Марыі. Іх члены не толькі даглядаюць за хворымі, адзінокімі састарэлымі, цяжкахворымі дзецьмі, але і праводзяць вялікую місіянерскую дзейнасць. Сёстры працуюць у Інстытуце траўматалогіі і артапедыі, дзіцячым адзяленні Першай клінічнай бальніцы. Іх сіламі ўстроена капліца, дзе кожны дзень праводзяцца малебны і кожны месяц літургія.

У арганізацыях Беларускай праваслаўнай царквы працуе каля 1000 святароў, у тым ліку 29 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Але, нягледзячы на гэта, адчуваецца іх недахоп. У 1997 г. больш за 100 прыходаў не мелі свайго настаяцеля і абслугоўваліся па сумяшчальніцтве. Таму з боку кіраўніцтва БПЦ вялікая ўвага надаецца падрыхтоўцы кадраў. У 1989 г. на базе Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра аднавіла дзейнасць Мінская духоўная семінарыя. Зараз гэта вышэйшая навучальная ўстанова, куды маюць права паступаць асобы з усіх былых рэспублік СССР. На 1 студзеня 1997 г. на стацыянары займалася 185 чал., а на аддзяленні завочнага навучання — 180 святарнаслужыцеляў. Студэнты стацыянара знаходзяцца па поўным інтэрнаце, забяспечваюцца формай і атрымліваюць стыпендыю. Пяцікурснікі пішуць дыпломныя работы, пасля паспяховай абароны якіх атрымліваюць ступень бакалаўра багаслоўя. Пры семінарыі адкрыты нядзельная школа і рэгенцкі клас. У чэрвені 1997 г. адбыўся чацвёрты выпуск адроджанай семінарыі, а з улікам вымушанага перапынку (з 1962 па 1989 г.) — васемнаццаты. Прафесію рэгента і псаломшчыка юнакі і дзяўчаты атрымліваюць у Мінскім духоўным вучылішчы. У 1995 г. першых слухачоў прыняла Мінская духоўная акадэмія.

У 1993 г. пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Мінску адчынены багаслоўскі факультэт. Яго дэканам з'яўляецца мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Асноўным прадметам з'яўляецца багаслоўе. Акрамя таго, у праграму ўключаны гісторыя цэркваў і хрысціянскіх канфесій. Выкладаецца таксама цыкл педагагічных і філасофскіх прадметаў (педагогіка, псіхалогія, літаратура, мастацтва і інш.). Студэнты вывучаюць дзве замежныя і чатыры старажытныя мовы. Вядзецца падрыхтоўка па дзвюх спецыяльнасцях — багаслоў і выкладчык багаслоўя. Выпускнікі змогуць працаваць у царкоўных структурах: нядзельных школах, духоўных семінарыях, катэхізатарскіх курсах, дамах міласэрнасці, а таксама ў дзяржаўных адукацыйных установах — настаўнікамі школ, ліцэяў, каледжаў, інстытутаў. Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў факультэта ў 1995 г. спецыяльнасць "Тэалогія" атрымала кваліфікацыю дзяржаўнай [22. 1996. № 4 — 5. С. 25].

Беларуская праваслаўная царква з кожным годам пашырае выдавецкую дзейнасць. Толькі ў 1996 г. пачалі выходзіць чатыры новыя газеты. У цяперашні час выдаюцца 4 часопісы, 10 газет, царкоўныя календары і іншая рэлігійная літаратура. Рэгулярна выходзяць у свет царкоўныя "Веснікі" у Мінскай, Магілёўскай, Гродзенскай і Полацкай епархіях. Найбольш буйныя выданні — часопіс "Веснік беларускага Экзархата", газеты "Царкоўнае слова" і "Преображение". Праваслаўны перыядычны друк своечасова асвятляе асноўныя падзеі царкоўнага жыцця э кзархата, наладжвае адкрыты дыялог паміж свяшчэннаслужыцелямі і вернікамі. Актыўна друкуюцца ў царкоўнай перыёдыцы духавенства, навуковая і творчая інтэлігенцыя, вучнёўская моладзь. Умацаванню супрацоўніцтва царквы з навуковай інтэлігенцыяй садзейнічаюць "Мінскія епархіяльныя чытанні", якія праводзяцца кожны год.

Беларуская праваслаўная царква знаходзіцца пад патранажам дзяржавы, Прэзідэнта А.Лукашэнкі. Адносіны да БПЦ кіраўнік дзяржавы праілюстраваў у выступленні на сустрэчы з Патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі Алексіем II 22 ліпеня 1995 г. у час яго прыезду ў краіну. "Зусім нядаўна дзяржавай аказана дапамога царкве ў памеры 1 млрд рублёў, — сказаў Прэзідэнт. — Хаця гэтага, канешне, яўна недастаткова, але мы такую палітыку будзем працягваць" [58. С. 12].

Апошняе дзесяцігоддзе з'явілася спрыяльным для развіцця абшчын рымска-каталіцкай царквы, якія на пра-

цягу ўсіх гадоў савецкай улады былі залічаны ў стан галоўных ідэалагічных праціўнікаў, лічыліся гнёздамі цемрашальства і рэакцыі. Гэта канфрантацыя пачалася з далёкага 1918 г., калі Папа Бенедыкт XV выказаў У. Леніну свае негатыўныя адносіны да Кастрычніцкай рэвалюцыі, назваўшы яе пераваротам. Такая палітыка прывяла да масавага знішчэння ксяндзоў, вернікаў. Каталіцкае жыццё ледзь-ледзь цеплілася ў заходніх рэгіёнах Беларусі, галоўным чынам на Гродзеншчыне. І як бы прабачэннем за здзекі, уніжэнні, нанесеныя РКЦ за гады камуністычнага праўлення, з'явілася сустрэча апошняга генеральнага сакратара кіруючай партыі, Прэзідэнта СССР М.Гарбачова з Папай Янам Паўлам II, якая адбылася 1 снежня 1989 г. Як успамінае М.Гарбачоў, у гутарцы асобае месца заняла тэма свабоды сумлення як аднаго з фундаментальных правоў чалавека, а таксама выцякаючае адсюль права на рэлігійную свабоду. Разам з тым Папа "прыпыніўся на некаторых праблемах, звязаных са становішчам каталікоў у нашай краіне" [59. С. 230].

Ведаючы аб тым, што глава РКЦ абавязкова падыме гэтую складаную для Прэзідэнта СССР праблему, напярэдадні сустрэчы, 20 лістапада, была легалізавана дзейнасць грэка-каталіцкіх абшчын ва Украіне. Гэта быў добры знак, скіраваны на далейшае адраджэнне рэлігійнага жыцця ў былым СССР, у тым ліку і на Беларусі. А яно хутка набірала сілу. Вызначальным для РКЦ, як і для іншых канфесій, з'явіўся 1988 г. — год пачатку рэгістрацыі закрытых парафій. Першапачаткова на "законных" высновах разгортвалі дзейнасць парафіі, якія былі зняты з уліку, але працавалі ў нелегальных умовах. Адначасова рэгістраваліся парафіі, якія былі закрыты ў пасляваенныя і гады хрушчоўскага наступлення на царкву. Сорак гадоў вялі барацьбу за адстойванне свайго права на свабоду веравызнання вернікі-каталікі г.п.Шарашова. Яшчэ ў 1948 г. касцёл быў закрыты і выкарыстоўваўся як складское памяшканне Пружанскага райспажыўсаюза. Каб наведаць бліжэйшую святыню, трэба было ехаць за 63 кіламетры ў г.п.Ружаны. І вось пасля ўсіх мытарстваў яны святкавалі перамогу. У жніўні 1988 г. была зарэгістравана парафія ў г.п.Відзы, у храме якой размяшчалася спартыўная зала Браслаўскага вучылішча сельскай гаспадаркі. У тым жа месяцы аднавіла дзейнасць рэлігійнае аб'яднанне ў в.Германовічы Шаркоўшчынскага раёна. 16 лістапада 1988 г. была зарэгістравана абшчына Парафіянава Пастаўскага,

28 лістапада — Старыя Васілішкі Шчучынскага раёнаў і інш. [47].

Новай з'явай у каталіцкім жыцці з'явілася рэгістрацыя парафій ва ўсходніх абласцях. Фактычна пачалося станаўленне спецыфічнага беларускага касцёла на тэрыторыі, дзе яны былі зачынены ў канцы 30-х гг. Адноўленыя ў гады вайны, яны зноў спынілі сваё існаванне ў першыя ж месяцы пасля вызвалення БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. За гэты час выраслі новыя пакаленні, якія згубілі традыцыі вернікаў-каталікоў.

У многіх усходніх рэгіёнах улады не спяшаліся ісці насустрач пажаданням вернікаў. Прыкладам служаць мытарствы з рэгістрацыяй другой каталіцкай абшчыны ў Мінску. Яшчэ ў 1986 г. узнікла ініцыятыўная група па рэгістрацыі гэтага аб'яднання, і толькі 16 сакавіка 1989 г. пад уціскам вернікаў, шырокай грамадскасці ўдалося здзейсніць такі акт. Але калі справа дайшла да вяртання будынка касцёла, які ў той час належаў Саюзу кінематаграфістаў, высветлілася, што ў Беларусі яшчэ маюць законную сілу дэкрэты аб адносінах да царквы 1918 г., падпісаныя Леніным, згодна з якімі ўся царкоўная маёмасць належыць мясцовым Саветам. І толькі дзякуючы настойлівасці вернікаў 16 мая 1990 г. Мінгарвыканкам прыняў рашэнне аб перадачы будынка касцёла каталіцкаму аб'яднанню. А 21 лістапада 1990 г. біскуп Т.Кандрусевіч адслужыў святую імшу, благаслаўляючы вернікаў у іх духоўнай і фізічнай працы па аднаўленні дзейнасці касцёла [60. С. 45, 46].

Нягледзячы на цяжкасці з рэгістрацыяй, у 1992 г. у Гомельскай вобласці ўжо працавалі дзевяць касцёлаў, у Магілёўскай — чатыры. Многа парафій прайшлі рэгістрацыю ва ўсходняй частцы Віцебскай вобласці.

Дзейнасць усходнебеларускіх парафій разгортвалася ў іншых умовах, чым заходніх. Калі ў апошніх касцёл сарыентаваны на задавальненне сфарміраваўшыхся патрэбнасцяў каталіцкага насельніцтва, то ва ўсходніх яму даводзіцца працаваць у сацыяльным асяродку рускамоўнага гарадскога насельніцтва. Таму станаўленне ўсходніх парафій праходзіць ва ўмовах усё ўзрастаючай беларусізацыі касцёла. Гэта, з аднаго боку, дазваляе пашырыць уплыў на ўсё больш шырокія сацыяльныя колы беларускага насельніцтва, а з другога — узмацняе ўнутраную напружанасць у беларускім касцёле паміж яго польскай і нацыянальнай плынямі.

Калі ў 1988 г. налічвалася 124 парафіі, то ў 1996 г. — 389. Толькі ў 1996 г. пачалі дзейнічаць 17 новых фарміраванняў і іх колькасць дасягнула ўзроўню 1940 г. У Гродна, Навагрудку і Браславе створаны і працуюць манаскія жаночыя суполкі. У Гродна і Баранавічах функцыяніруюць курсы па падрыхтоўцы выкладчыкаў катэхізіса. Праводзіцца работа па вяртанні культавых будынкаў, адабраных дзяржавай. За 1988 — 1997 гг. рымска-каталіцкай царкве іх вернута 192. За апошнія пяць гадоў 55 будынкаў рэстаўрыраваны і ўступілі ў строй.

Важнай падзеяй у жыцці рымска-каталіцкай царквы з'явілася рэкансэкрацыя кафедральнага касцёла найсвяцейшай Марыі Панны ў Мінску, якая адбылася 21 кастрычніка 1997 г. Каталіцкая святыня была ўзведзена ў 1700 — 1709 гг. на месцы драўлянай езуіцкай капліцы. З заснаваннем у 1798 г. Мінскай дыяцэзіі касцёл стаў кафедральным. У 1934 г. яго зачынілі. У пасляваенныя гады галоўны фасад з вежамі быў разбураны, памяшканні перапланаваны. Пасля гэтага будынак ужо нічым не нагадваў касцёл. Некалькі дзесяцігоддзяў тут размяшчаўся Дом фізкультуры і савет спартыўнага таварыства "Спартак".

Дзякуючы доўгім стараням вернікаў у канцы 1993 г. будынак вярнулі каталіцкай абшчыне. 6 жніўня 1994 г. пачалася архітэктурная рэканструкцыя касцёла. Яе рабілі польскія спецыялісты па праекце беларускіх навукоўцаў. Дзяржава не ахвяравала на аднаўленне разбуранага ёю храма ніводнага рубля. Ва ўрачыстым асвячэнні абноўленага храма прымалі ўдзел кардынал К. Свёнтэк, спецыяльны пасланнік Папы Яна Паўла II кардынал Э.Шока, прымас Польшчы Ю.Глемп, мітрапаліты — рыжскі Я.Пуятс і львоўскі М.Яворскі, апостальскі адміністратар для каталікоў еўрапейскай часткі Расіі Т.Кандрусевіч, іншыя прадстаўнікі каталіцкай царквы. Пасля ўрачыстага набажэнства іерархі былі прыняты Прэзідэнтам краіны А. Лукашэнка. Упершыню за многія гады прадстаўнікі кіраўніцтва рымска-каталіцкай царквы змаглі наведаць Беларусь і сустрэцца на такім высокім узроўні. Кардынал Э.Шока перадаў ад Папы прывітанне і благаславенне Прэзідэнту Беларусі, а таксама ўручыў яму памятны медаль, прысвечаны 19-му году знаходжання Папы Яна Паўла II на прастоле Ватыкана. На сустрэчы А. Лукашэнка самакрытычна заўважыў, што раней недастаткова ўдзяляў увагі праблемам рымска-каталіцкай царквы і паабяцаў у далейшым ліквідаваць гэты недахоп.

У 1996 г. у рэспубліцы дзейнічалі 296 касцёлаў, яшчэ 14 будаваліся. Між іншым вернікі працягваюць дабівацца звароту былых касцёлаў — у г.п.Узда, пераабсталяваным пад клуб, у в.Раўбічы Мінскага раёна, дзе размясціўся музей, у Рэчыцы, дзе знаходзіцца “Вітамінны бар”.

Рост колькасці ўстаноў рымска-каталіцкай царквы паставіў пытанне аб стварэнні арганізацыйнай структуры кіравання. У 1989 г. была ўтворана Беларуская каталіцкая дыяцэзія, якую з 20 кастрычніка ўзначаліў біскуп Т. Кандрусевіч. Гэта структура праіснавала да 1991 г., калі 13 красавіка Папа Ян Павел II утварыў на Беларусі тры дыяцэзіі, а Т.Кандрусевіч быў прызначаны біскупам упершыню адкрытай Маскоўскай дыяцэзіі.

Стварэнне Маскоўскай дыяцэзіі Руская праваслаўная царква расцаніла як спробу актыўнага празелітызму. У выніку РПЦ вымушана была адмовіцца ад удзелу ў каталіцкай асамблеі ў Рыме па прычыне таго, што па яе “кананічнай тэорыі рымска-каталіцкая царква... стварае паралельныя місіянерскія структуры” [15. С. 436].

Зараз на тэрыторыі Беларусі ўтвораны і працуюць тры дыяцэзіі: Гродзенская, Пінская і Мінска-Магілёўская. Гродзенская ахоплівае практычна ўсе заходнія раёны, за выключэннем Палесся. Тут пануе польскі традыцыйны касцёл. На задавальненне патрабаванняў сельскіх парафій накіроўваюцца намаганні біскупства. Узначальвае дыяцэзію біскуп А.Кашкевіч.

На чале Пінскай дыяцэзіі і Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі стаіць кардынал К.Свёнтэк. У Пінскай дыяцэзіі каталікі складаюць невялікую этнаканфесіянальную меншасць. Гэта рэгіён праваслаўнага і пратэстанцкага масіваў. Мінска-Магілёўскае біскупства ахоплівае ўсходнія раёны Беларусі. Тут касцёл сутыкаецца са значным уплывам нацыянальна арыентаваных сіл і таму ў меншай ступені, чым у заходнім рэгіёне, выступае носьбітам польскай культуры і ідэалогіі.

30 кастрычніка 1994 г. Папа Ян Павел II абвясціў імёны 30 новых кардыналаў, сярод якіх значыўся і К.Свёнтэк. “З вялікаю радасцю і ўзрушэннем вітаю Вашу Эмінэнцыю з нагоды паднясення Вас да кардынальскае годнасці. Таксама ад усяго сэрца вітаю умілаваны Касцёл на Беларусі. Як жа блізкі мне Касцёл, які так шмат у апошнія дзесяцігоддзі выпакутаваў дзеля Хрыстова імя. Сваёю думкаю ахопліваю ў гэтай хвіліне ўсіх святароў і ўсіх свецкіх асоб, якія за вернае трыванне пры Хрыстовым Евангеліі былі прыгаво-

раны таталітарным рэжымам на вялікія цярпенні, пакаранні і праследаванні. Многія з іх страцілі жыццё ў канцэнтрацыйных лагерах у Сібіры, асуджаны на працу ў нечалавечых умовах; колькі ж ёсць такіх, пра чый лёс ведае толькі Бог. Ваша Эмінэнцыя належыць менавіта да гэтых нястомных абаронцаў хрысціянскае веры" [61. С. 4]. Так высока ацаніў дзейнасць касцёла на Беларусі Папа Ян Павел II.

З мэтай актывізацыі дзейнасці парафій 29 верасня 1996 г. адбылося адкрыццё першага Сінода рымска-каталіцкай царквы на Беларусі, работа якога будзе працягвацца некалькі гадоў. Зазначым, што пасяджэнні апошняга Сінода адбыліся ў 1929 г. у Пінску. Актуальныя праблемы жыцця касцёла на Беларусі разгледзела сесія, якая праходзіла 29 — 30 верасня 1997 г. у Мінску ў касцёле св.Сымона і св.Алены.

З першых дзён дзейнасці зарэгістраваныя парафіі сутыкнуліся з праблемай кадравага забеспячэння. У сярэдзіне 80-х гг. у рэспубліцы працавала ўсяго 40 ксяндзоў [62. С. 59]. У пэўнай ступені праблема на некаторы час была знята пасля візіту ў лістападзе 1989 г. у ПНР урадавай дэлегацыі СССР. Пасля абмеркавання гэтага пытання 9 студзеня 1990 г. Савет па справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР прыняў пастанову аб дазволе на запрашэнне з Польшчы 50 ксяндзоў дзеля працы ў парафіях Беларусі [63. С. 72].

Гэта акцыя ўзмацніла напружанасць касцёла Беларусі паміж польскай і няпольскай плынямі. Асобныя ксяндзы, грамадзяне Польшчы, дапускалі парушэнні заканадаўства дзяржавы знаходжання. Мелі месца факты, калі ў касцёлах вывешваліся польскія дзяржаўныя флагі, ксяндзы няўважліва адносіліся да прадстаўнікоў мясцовых органаў улады, вялі набажэнствы выключна на польскай мове.

У мэтах падрыхтоўкі ўласных кадраў у 1990 г. у Гродна адкрылася Вышэйшая духоўная каталіцкая семінарыя [64. С. 483]. Навучанне і справаводства ў ёй ажыццяўляюцца на польскай мове. У 1996 г. семінарыю закончылі першыя 25 свяшчэннаслужыцеляў. На пачатак 1997 г. на пяці курсах навучаліся 144 клірыкі. Пры такіх тэмпах падрыхтоўкі асабістых кадраў касцёл у Рэспубліцы Беларусь яшчэ доўгі час будзе вымушаны запрашаць ксяндзоў з іншых дзяржаў, як гэта робіцца зараз. Так, з 206 свяшчэннаслужыцеляў, якія працавалі на пачатак 1997 г., толькі 62 з'яўляліся грамадзянамі Беларусі. Улічваючы вастрыню праблемы кадраў, права на рэлігійную дзейнасць у краіне атрымалі 134 замежныя ксяндзы, у тым ліку 126 грамадзян Польшчы (59 з іх працуюць у

Гродзенскай вобласці), тры — Літвы, два — Германіі і па аднаму ЗША, Аўстрыі і Украіны. У касцёлах працуе больш за 100 польскіх манашак, якія прыязджаюць у Беларусь па прыватных запрашэннях.

Многія ксяндзы праводзяць вялікую асветніцкую і духоўную работу сярод парафіян, вучаць іх дабрыні, міласэрнасці. Гэта ў першую чаргу тычыцца пробашча Кальварыйскага касцёла ў Мінску А.Масальскага. Ён карыстаецца вялікай павагай і аўтарытэтам сярод парафіян, таму што жыве клопатамі кожнага, хто звяртаецца да яго, пабацькоўску вучыць маладое пакаленне, якое становіцца на шлях вернасці хрысціянскім запаведзям. Вернікаў у храм кліча патрэба не толькі памаліцца, пабыць у касцёльнай цішы сам-насам з Богам, але і паслухаць змястоўныя пропаведзі ксяндза. Чалавек высокай эрудыцыі і культуры, глыбокай духоўнасці, ён сваім пранікнёным словам закранае сэрцы і пачуцці кожнага. Удаецца гэта дзякуючы добрым аратарскім здольнасцям, вялікаму вопыту душпастырскай дзейнасці. Але галоўным з'яўляецца штодзённая праца, падрыхтоўка да кожнай пропаведзі. Таму яны і зачароўваюць сваёй змястоўнасцю, глыбінёй думак, даходлівасцю. Словы з Бібліі чаргуюцца з вершамі вядомых паэтаў, цытатамі з баек, апошнімі часопіснымі і газетнымі публікацыямі, асабістымі думкамі і разважаннямі. А расказаць вернікам ксяндзу Масальскаму ёсць аб чым. У яго асабістым лёсе, як у кроплі вады, адлюстроўваюцца складанасці жыцця касцёла ў савецкі час. Цяжка было ажыццявіць запаведную мару стаць ксяндзом, таму што ўлады рабілі ўсё для таго, каб як мага менш беларускіх юнакоў паступала ў Рыжскую альбо Каўнаскую каталіцкія семінарыі. Настойліва ідучы да пастаўленай мэты, Масальскаму ўдаецца закончыць Вышэйшую семінарыю Папы Рымскага, адзін курс Люблінскага універсітэта. І нарэшце тайна ў Польшчы ён быў высвечаны на ксяндза.

Працуючы дыспетчарам Мінскага электрамеханічнага завода, інкогніта пачаў праводзіць службы. Але хутка яго "рассакрэцілі". Упаўнаважаны па справах рэлігіі пры Савеце Міністраў БССР Г.Кавалёў паведамляў у студзені 1969 г. у ЦК КПБ аб "непрыстойных" паводзінах Масальскага, якія заключаліся ў выкананні абавязкаў прыслужніка ксяндза Ю. Мансангера ў касцёле в. Краснае Маладзечанскага раёна. Зразумела, што пасля такога "абураючага" факта ён быў звольнены з завода. Пачалася барацьба за выжыванне. "Скрытага ксяндза" праследавалі ўсюды, куды б ён ні ўлад-

коўваўся на работу. Даўжэй за ўсё пратрымаўся кіяскёрам "Саюздруку". У выхадныя дні за плату прасіў знаёмую бабульку папрацаваць за яго. А сам выязджаў на службу ў касцёлы. Так працягвалася больш дзесяці гадоў. Толькі ў 1981 г. Альберт Масальскі стаў пробашчам касцёла ў Солах, а яшчэ праз 10 гадоў вярнуўся ў Кальварыйскі касцёл [65; 66].

Многія храмы адраджаюць былую славу рэлігійных цэнтраў. З сярэдзіны XVI ст. месцам паломніцтва стаў касцёл у Будславе Мядзельскага раёна, дзе некалькі віленскіх манахаў-бернардынцаў заснавалі свой кляштар, а затым касцёл, змясцілі ў ім ікону Божай Маці. На працягу чатырох стагоддзяў штогод, 2 ліпеня, да Будслаўскага касцёла прыходзяць тысячы паломнікаў, каб ушанаваць святую ікону. Пасля далучэння Рэчы Паспалітай да Расійскай імперыі ўлады забаранілі каталікам публічна дэманстраваць сваю веру і паломніцтва да святыні сталі таемнымі. Другі раз паломніцтвы былі забаронены ў 1939 г. з прыходам Чырвонай Арміі. Але насуперак усялякім праследаванням і перашкодам людзі збіраліся тут пастаянна, нават калі ўлады забаранялі адкрыць храм. Усяночнае пакланенне вернікі праводзілі са спевамі і малітвамі перад замкнёным касцёлам.

Упершыню за доўгія гады легальнае паломніцтва адбылося 2 ліпеня 1992 г. У ім прымалі ўдзел тысячы людзей, для якіх ажыццявілася мара пакланяцца і Будслаўскай іконе. Урачыстую святую імшу правёў арцыбіскуп К. Свёнтэк. На набажэнстве прысутнічалі пасол Польшчы ў Беларусі А.Смулкова і старшыня Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь А.Жыльскі [62. С. 67, 68]. 7 чэрвеня 1995 г. Папа Ян Павел II выдаў Дэкрэт аб каранацыі Будслаўскай іконы Божай Маці, якая адбудзецца 2 ліпеня 1998 г.

Тым жа дэкрэтам было прынята рашэнне аб каранацыі Брэсцкай і Лагішанскай ікон Божай Маці. Яна адбылася 10 мая ў касцёле г. п. Лагішын Пінскага раёна, 30 чэрвеня 1996 г. — у касцёле Брэста. У горад над Бугам прыбыло 4 тыс. вернікаў з Беларусі і каля 2 тыс. з Польшчы.

Цэнтрам не толькі рэлігійнага, але і культурна-асветніцкага жыцця сталіцы стаў касцёл св.Сымона і св.Алены. За кароткі тэрмін тут былі праведзены рэстаўрацыйныя работы, адноўлены дзве залы, дзе праходзяць культурна-масавыя мерапрыемствы. Пры святыні працуюць нядзельная школа для дзяцей і дарослых, суполка моладзі "Святло жыцця",

дзейнічаюць дзіцячы хор "Голас душы", тэатры аднаго акцёра "Зьніч" і "Анёл". У касцёле заснаваны каталіцкі часопіс "Вера і жыццё". Выдавецкім цэнтрам друкуецца шматлікая хрысціянская літаратура ў перакладзе на беларускую мову. 25 мая 1995 г. было зарэгістравана "Хрысціянскае таварыства міласэрнасці". Людзям, якія жывуць у нястачы, аказваецца гуманітарная дапамога, дзейнічаюць бясплатныя сталовыя [60. С. 47].

Па ініцыятыве Беларускай каталіцкай грамады і рымска-каталіцкай парафіі Магілёва з 1993 г. у абласным цэнтры праводзіцца міжнародны фестываль духоўнай (хрысціянскай) музыкі "Магутны Божа". Яго мэта — адраджэнне і ўзбагачэнне музычнай культуры народаў Еўропы, яднанне хрысціян розных канфесій. У 1997 г. у фестывалі ўдзельнічала 50 калектываў і выканаўцаў з Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі, Грузіі, госці з Германіі, Францыі і нават з Афрыканскай Анголы.

Новай з'явай у канфесіянальнай палітыцы Беларусі з'явілася адраджэнне уніяцкіх абшчын. Невялікія групы вернікаў узніклі ў 1989 г. У іх уваходзяць моладзь, інтэлігенцыя, якія бачаць ва уніяцтве састаўную частку нацыянальна-культурнай спадчыны, адзін з фактараў, які фарміруе нацыянальна-этнічную самасвядомасць. У верасні 1990 г. у Мінску была зарэгістравана першая уніяцкая парафія. На пачатак 1997 г. у Беларусі дзейнічалі 11 абшчын: дзве ў Мінску, па адной у Брэсце, Гродна, Гомелі, Віцебску, Магілёве, Маладзечна, Лідзе, Полацку, Стаўбцах, якія абслугоўваліся толькі пяццю свяшчэннаслужыцелямі. Таму пытанні пыдрыхтоўкі кадраў святароў знаходзяцца ў цэнтры ўвагі канфесіі. Зараз кандыдаты ў святары праходзяць навучанне ў духоўных навучальных установах Англіі (Лондан), Чэхіі (Аламоўц), Польшчы (Люблін), Украіны (Львоў, Івана-Франкоўск).

Уніяцкія абшчыны сутыкнуліся і з такой цяжкасцю, як адсутнасць храмаў, прыгодных для службаў. Дзяржаўныя структуры не ідуць на тое, каб вярнуць культавыя будынкі, якія раней належалі уніятам. Толькі 15 жніўня 1996 г. у Магілёве была асвечана невялічкая капліца, вернутая грэка-католікам, а ў Мінску капліца дзейнічае ў памяшканні, дзе раней размяшчаўся "чырвоны куток" домакіраўніцтва.

Дэканам беларускіх грэка-каталікоў з'яўляецца Я.Матусевіч, які прайшоў складаны шлях да уніяцтва. У сувязі з тым, што на Беларусі было цяжка паступіць у каталіцкую семінарыю, ён пасля заканчэння ў 1968 г. Бела-

рускага тэатральна-мастацкага інстытута выязджае ў Расію, дзе паступае на завочнае аддзяленне праваслаўнай семінарыі і прымае сан святчэннаслужыцеля. Пасля пяці гадоў работы ў праваслаўных абшчынах Матусевіч далучаецца да рымска-каталіцкай царквы і на працягу 12 гадоў працуе ў каталіцкай парафіі ў Ашмянскім раёне. Тут да яго пачалі звяртацца людзі з просьбай правесці па-уніяцку хрышчэнне, іншыя абрады. Так ён усё больш пачынае цікавіцца грэка-каталіцкай царквой і становіцца грэка-каталіцкім святчэннаслужыцелем [67. С. 8 — 9].

Як бачна, адраджэнне уніяцкай царквы на Беларусі адбываецца ў складаных умовах. Не хапае святароў, адсутнічаюць храмы. Але грэка-каталікі з аптымізмам глядзяць у будучыню. Падставай для гэтага з'яўляецца павелічэнне, хоць і павольнае, вернікаў, якія ад дзядоў і прадзедаў зберагл і уніяцкую веру і гатовы адраджаць яе далей.

З кожным годам новыя пазіцыі заваёўваюць пратэстанцкія абшчыны. У Палессі з захаду на ўсход пашыраецца зона іх устойлівага ўплыву. Усё новыя сацыяльныя пласты беларускага насельніцтва папаўняюць іх рады. За 1988 — 1996 гг. колькасць пратэстанцкіх плыняў павялічылася з 5 да 15, альбо ў 3 разы. Сетка абшчын усіх кірункаў вырасла з 217 у 1985 г. да 640 у 1996 г. На пачатак 1997 г. больш усяго арганізацый (332) налічваў Саюз хрысціян веры евангельскай. Ён утварыўся ў 1988 г. пасля выхаду з УСЕХБ. Евангельскія хрысціяне-баптысты налічвалі 192 абшчыны, адвентысты — 36, хрысціяне поўнага евангелля — 25, новаапостальцы — 17, іегавісты — 14. Астатнія плыні мелі ў сваім складзе ад 1 да 8 абшчын.

Характэрнай рысай усіх пратэстанцкіх аб'яднанняў з'яўляецца наданне вялікай увагі духоўнай рабоце з падлеткамі і моладдзю. Пры абшчынах працуюць нядзельныя школы, праводзяцца маладзёжныя канферэнцыі, семінары, фестывалі духоўнай музыкі, ствараюцца летнія лагеры адпачынку і г.д. Суполка адвентыстаў Мінска кожны год праводзіць у Італіі аздараўленне каля 700 дзяцей мінчан. Хрысціянская дабрачынная місія "Эманцыя" СЕХБ у Кобрыне на базе перададзенага ёй у 1994 г. былога ваеннага гарадка пабудавала аздараўленчы цэнтр для дзяцей Чарнобыльскай зоны. Апрача гэтага абшчына аказвае пастаянную дапамогу 90 многадзетным сем'ям, састарэлым і адзінокім людзям.

Умацоўваецца матэрыяльная база пратэстанцкіх аб'яднанняў. За апошнія гады буйныя малітоўныя цэнтры ўмяшчальнасцю звыш тысячы чалавек пабудаваны ў Кобрыне,

Баранавічах, Драгічыне, в. Альшаны Столінскага раёна. Вакол іх грунтуюцца дзесяткі невялікіх абшчын. Зараз дзейнічае 307 культавых будынкаў. Узводзяцца яшчэ 23. Кадры служыцеляў культу рыхтуюць дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы. Тры факультэты мае створаны Біблейскі інстытут ЕХБ: пастырскі рыхтуе прасвітараў, рэгентскі — кіраўнікоў царкоўных хораў, педагагічны — выкладчыкаў для нядзельных школ. Пачаў работу і місіянерскі факультэт [56. С. 14].

Такім чынам, у рэлігійным жыцці Беларусі ўсё больш значным становіцца ўплыў пратэстанцкіх аб'яднанняў. Яны паспяхова канкурыруюць за паству з праваслаўнай і рымска-каталіцкай царквой. Прыпыніць рост пратэстантызму ў Беларусі не можа ні адна з "традыцыйных" канфесій.

Ажывіла дзейнасць стараверская царква. Калі ў 1991 г. на Беларусі налічваліся 22 суполкі, то на пачатак 1997 г. — 32. Большасць з іх размяшчаецца на тэрыторыі Віцебскай вобласці. Новыя рэлігійныя аб'яднанні ўзніклі ў Мінску, Віцебскай і Гомельскай абласцях.

Не так актыўна адраджаецца іудзейская канфесія, дзе адбыўся раскол. На пачатак 1997 г. дзейнічалі дзесяць абшчын артадаксальнага і шэсць прагрэсіўнага іудаізму. Рады апошніх папаўняюцца ў асноўным моладдзю і інтэлігенцыяй. У 1993 г. створана Беларускае іудзейскае рэлігійнае аб'яднанне, дзейнічае духоўнае вучылішча ў Мінску, больш за 15 нядзельных школ, яўрэйскія класы ў сярэдніх школах.

Мясцовых служыцеляў культу ў канфесіі няма. У Мінску, Віцебску, Гродна і Пінску суполкі абслугоўваюць равіны з ЗША і з Ізраіля. Абавязкі галоўнага равіна Беларусі выконвае 30-гадовы Йанатан Ротман, які нарадзіўся і вырас у ЗША. Іўдзейскія абшчыны падтрымліваюць цесныя сувязі з Ізраілем, атрымліваюць матэрыяльную дапамогу ад яўрэйскіх арганізацый ЗША, Францыі, Германіі і іншых краін.

Пашыраецца геаграфія і колькасць мусульманскіх абшчын. На 1 студзеня 1997 г. у Беларусі іх дзейнічала 23. Пераважная большасць (19) зарэгістравана ў заходніх абласцях, астатнія ў Мінску, Смілавічах, Магілёве і Віцебску. У пачатку 1994 г. адбыўся першы Усебеларускі з'езд мусульман, які ўтварыў Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне Рэспублікі Беларусь. Яго ўзначальвае І. Александровіч.

Бядой і засмучэннем мясцовых мусульман з'яўляецца адсутнасць мячэцяў. Але ў апошнія гады тут адбываюцца зме-

ны да лепшага. У 1994 г. пачаў дзейнічаць храм у Слоніме, у 1996 г. узведзена мячэць у Смілавічах. У рамках святкавання 600-годдзя пасялення татар на Беларусі ў ліпені 1997 г. ва ўрачыстай абстаноўцы была адкрыта мячэць у Навагрудку. Адведзена месца для будаўніцтва храма ў Мінску. Зроблены праект разбуранай мячэці, узвядзенне якой абыйдзецца ў 1 млн дол. Зараз ідзе збор сродкаў [68. С. 6, 7].

На хвалі рэлігійнага адраджэння ўзніклі новыя рухі і групоўкі. Сярод іх Багародзічны цэнтр, сям'я Любві, царква Муна, царква Апошняга запавету (Вісарыёна), Сайенталагічная царква, Белае брацтва, АУМ Санрыкё, сатаністы. Некаторыя з іх перайшлі на нелегальнае становішча. Асабліва абуральна вядуць сябе сатаністы, якія ў апошнія гады далі аб сабе знаць у Мінску, Брэсце, Гомелі, г.п.Заслаўе і іншых месцах.

У рэспубліцы праводзіцца значная работа па ліквідацыі ўплываў дэструктыўных сектаў на насельніцтва. 3 ліпеня 1995 г. Кабінет Міністраў зацвердзіў Палажэнне аб парадку запрашэння і дзейнасці замежных свяшчэннаслужыцеляў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Тым не менш некаторыя місіянеры робяць спробы разгарнуць сваю дзейнасць без рэгістрацыі. У 1996 г. толькі ў Мінску за парушэнне правіл знаходжання замежных місіянераў былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці 18 чалавек, а таксама 7 жыхароў сталіцы за прадастаўленне ім жылля. За распаўсюджванне друкаваных выданняў дэструктыўнага зместу да адміністрацыйнай адказнасці былі прыцягнуты два грамадзяніна Казахстана і тры — Расіі.

У плане мерапрыемстваў па абароне насельніцтва ад уздзеяння дэструктыўных сектаў пры Савеце па справах рэлігій у 1996 г. была створана міжведамасная камісія, куды ўвайшлі навукоўцы-рэлігіязнаўцы, філосафы, гісторыкі, юрысты. Яе задачай з'яўляецца правядзенне экспертызы веравучэння, статута і дзейнасці новых рэлігійных плыняў [69. С. 3].

Як бачна, постсавецкія гады абагацілі рэлігійнае жыццё ў Беларусі. Кожнаму грамадзяніну прадастаўлена права спавядаць любую рэлігію альбо быць атэістам. Вырасла колькасць канфесій, рэлігійных абшчын, якія карыстаюцца вялікім аўтарытэтам у насельніцтва. Грамадства зацікаўлена ў дыялогу прадстаўнікоў розных канфесій, зацвярджэнні прынцыпаў талерантнасці і супрацоўніцтва. Паважлівыя ўзаемаадносіны з'яўляюцца гарантам сацыяльнага міру і спакою на беларускай зямлі.

## ЛІТАРАТУРА


1. Минские епархиальные ведомости: В 2 ч. 1993. № 1 — 6.

2. Матэрыялы нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

3. *Гарошка Л.* Савецкая рэлігійная палітыка пасля 1942 г.//Беларус. зб. Мюнхен, 1955. Кн. 3.

4. *Пішчулёнак М., Старкова Н.* Ціхі прытулак, або Чацвёртае адраджэнне//Беларус. мінуўшчына, 1995. № 6.

5. КПСС ■ резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. М., 1985. Т. 8. 1946 — 1955.

6. КПБ в резолюциях... Мн., Т. 4. 1945 — 1955.

7. *Шейнман М.М.* Ватикан между двумя мировыми войнами. М., 1948.

8. Матэрыялы дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці.

9. *Ленсу М.* Кто такие "инициативники?" Мн., 1967.

10. История евангельских христиан-баптистов в СССР. М., 1989.

11. *Иоффе Э.Г.* Страницы истории евреев Беларуси. Краткий научно-популярный очерк. Мн., 1996.

12. *Розенблат Е.* "Жизнь и судьба" Брестской еврейской общины. Брест, 1993.

13. XX съезд Коммунистической партии Советского Союза. Стеногр. отчет. М., 1956. Т. 1.

14. *Одинцов М.И.* Государство и церковь в России: XX век. М., 1994.

15. *Поспеловский Д.В.* Русская православная церковь в XX веке. М., 1995.

16. КПСС в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. 1956 — 1960. М., 1986. Т. 9.

17. *Гордун С.* Русская Православная Церковь в период с 1943 по 1970 год //Журн. Моск. Патриархии. 1992. № 2.

18. *Трусава А.* Гісторыя знішчэння Мікалаеўскага сабора ў Віцебску/ Віцебскі сшытак. 1995. № 1.

19. *Федоров В.* На руинах разрушенных храмов//Витеб.новости. 1995. 4 нояб.

20. Рэспубліка. 1996. 21 лют.

21. Беларус. мінуўшчына. 1996. № 1.

22. Журнал Московской Патриархии. 1961. № 8.

23. Поместный Собор Русской Православной Церкви. 30 мая — 2 июня 1971 года: Документы, материалы, хроника. М., 1972.

24. *Ильичев Л.Ф.* Очередные задачи идеологической работы партии. М., 1963.

25. Деятельность партийных организаций Белоруссии по идейно-политическому воспитанию трудящихся (1959 — 1972 гг.). Мн., 1973.

26. *Мерзлова Г.К.* Православие в Белоруссии на современном этапе: Дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1966.

27. *Hlebowicr A.* Kosciol w niewoli. Kosciol Rzymsklicki na Bialorusi i Ukraini po II Wonie Swiafowez. Warszawa, 1991.

28. *Глябовіч А.* Адроджаны касцёл. Рэлігійнае жыццё ў савецкіх лагерах, турмах і ссылках//Спадчына. 1995. № 3.

29. Католицизм без маски. Мн., 1960.

30. *Брежнев Л.И.* Ленинским курсом. Речи и статьи. М., 1970. Т. 2.

31. Тэзісы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю Полацкай епархіі і праваслаўнай Царквы на Беларусі. 25 верасня 1992 г. Мн., 1992.

32. Збор законаў, указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР. 1966. № 11.

33. Об идеологической работе КПСС. М., 1970.

34. Нёман. 1995. № 9.

35. Чырв. змена. 1995. 21 сак.

36. Звязда. 1995. 21 сак.

37. *Куроедов В.А.* Советское государство и церковь. М., 1976.

38. Канстытуцыя (Асноўны Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі). Мн., 1984.

39. Свабода совести (Советская Белоруссия). Мн., 1969.

40. Материалы Пленума Центрального Комитета КПСС, 14 — 15 июня 1983 года. М., 1983.

41. Матэрыялы архіва Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь. 1986 г.

42. Католицизм в Беларуси: организация, вероучение, история. Гродно, 1992.

43. ЛіМ. 1994. 30 верас.

44. Сов.Белоруссия. 1992. 11 февр.

45. *Ротовский А.А.* Клерикальное радиовещание в "психологической войне". Киев, 1987.

46. Матэрыялы дзяржаўнага архіва грамадскіх аб'яднанняў Гродзенскай вобласці.

47. Матэрыялы архіва Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь. 1988 г.

48. Проблемы преодоления религиозного экстремизма. М., 1982.

49. *Горбачев М.С.* Избр. речи и статьи. Т. 2. М., 1987; Т. 6. М., 1989.

50. Материалы XXVII съезда КПСС. М., 1986.

51. Материалы XIX Всесоюзной конференции Коммунистической партии Советского Союза. М., 1988.

52. Матэрыялы архіва камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь. Калекцыя дакументаў за 1985 г.

53. Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Мн., 1992. № 1.

54. Нар. газ. 1993. 13 студз.

55. *Бабосов Е.М.* Динамика религиозности в независимой Беларуси. Мн., 1995.

56. Семь дней. 1997. № 9.

57. Свобод. мысль. 1996. № 8.

58. Веснік Беларус. Экзархата. 1995. № 2.

59. *Горбачев М.* Жизнь и реформы. М., 1985. Кн. 2.

60. *Дзянісаў Ул.* Касцёл сьв.Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996.

61. Ave Maria. 1995. № 2.

62. *Завальнюк У.* Будслаўскі касцёл — святыня Беларусі. Мн., 1997.

63. Беларус. думка. 1993. № 7.

64. *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1997.

65. Добры вечар. 1995. 4 жн.

66. Свободные новости — плюс. 1995. № 30.

67. Беларусь. 1996. № 7. С. 8 — 9.

68. Байрам. 1997. № 1.

69. Наша слова. 1996. № 23.

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**Грыгор'ева** Валянціна Васільеўна
**Завальнюк** Уладзіслаў Мацвеевіч
**Навіцкі** Уладзімір Іосіфавіч
**Філатава** Алена Мікалаеўна

Канфесіі на Беларусі
(XVIII – XX ст.)

Рэдактар *Н. Б. Гуліш, Р. В. Міхнавец*
Мастацкі рэдактар *І. М. Дзівіна*
Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*

Падпісана ў друк 7. 04. 98. Фармат 84x108/32.
Друк афсетны. Гарнітура Кудрашоўская. Папера афсетная.
Умоўн. друк. арк. 17,7. Ул.-выд. арк. 21,0. Тыраж 5000 экз.
Заказ 899.

Выдавецкае прадпрыемства "Экаперспектыва".
Ліцэнзія № 65 ад 5.11.97 г.
220072, г. Мінск-70, пр. Партызанскі, 12а.

Выданне выпушчана пры садзейнічанні МП «Леракс».
Ліцэнзія ЛВ № 178
220013, г. Мінск, вул. Усходняя, 64.

Надрукавана з арыгінал-макета ВП "Экаперспектыва" ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

